БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя I. Мастацкая літаратура*

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*

## ГАСПАДАР ПАЭТЫЧНАЙ СЯЛІБЫ

Працяглае (ужо больш за сорак год), багатае на знаходкі і адкрыцці падарожжа ў свет Паэзіі для Васіля Зуёнка пачалося з бацькоўскай сялібы. Менавіта там вясковы хлапчук, пазнаючы навакольны свет, упершыню зарыфмаваў свае ўражанні і адчуванні: пэўна, сярод іншых забаў «гаварэнне ў рыфму» найбольш адпавядала яго дапытлівай натуры. Крыніцай натхнення для малога Васіля былі звычайныя, штодзённыя справы, дзіцячыя клопаты, мясцовыя краявіды. Вядома, ад гэтых першых спробаў у складанні вершаў да нараджэння Паэта было яшчэ вельмі далёка, аднак, магчыма, ужо тады акрэсліліся і пачалі замацоўвацца ў свядомасці В. Зуёнка галоўныя каардынаты быцця яго будучай творчасці: рачулка Нача, вёска Мачулішча, Халопенічы — тыя самыя, дзе «яблык упаў дасвеццем» і «шар зямны здрыгануўся»…

Значна пазней гэты геаграфічна лакалізаваны прыродна-сялянскі мікракосмас у мастацкім бачанні пісьменніка непарыўна знітуецца з Сусветам, з вялікім космасам, але духоўна-эмацыйнай калыскай яго паэтычных думак, каштоўнаснай дамінантай літаратурнага набытку назаўсёды застанецца трыкутнік «Мачулішча — Узнацк — Халопенічы». Тапаніміка мясцін маленства неўзабаве пяройдзе на старонкі шматлікіх кніг, гісторыі жыцця родных і землякоў увасобяцца ў вершах, паэмах, прозе, а разам з імі пранікне ў тканіну творчасці генетычная памяць продкаў — сейбітаў і аратых. «Я жыву ў гэтых людзях <…> і яны жывуць ува мне, яны глядзяць на свет, дыхаюць, думаюць, хвалююцца (нават праз стагоддзі) праз мяне, праз мае пачуцці і перажыванні, як і я праз іхнія», — прызнаецца вопытны майстра на пачатку 2000-х гадоў. Гэтым ён пацвердзіць агучанае яшчэ ў сярэдзіне 1960-х, у вершы, што адкрываў першую кнігу, прадчуванне-ўсведамленне сваёй літаратурнай місіі — злучаць мінулае з будучым у Слове: «Бо ўсіх пачаткаў я — працяг / І ўсіх працягаў я — пачатак».

* * *

Днём нараджэння пісьменніка лічыцца 3 чэрвеня 1935 года. Аднак на самай справе сялянская сям'я Васіля Захаравіча і Куліны Канстанцінаўны з вёскі Мачулішча Халопеніцкага (па тым часе) раёна Мінскай вобласці парадавалася свайму працягу — сыну — 3 ліпеня. Іншая дата — вынік звычайнай для пасляваенных год блытаніны з аднаўленнем дакументаў, знішчаных у нямецкую акупацыю. Пасля вызвалення, у 1944 годзе, Васіль ідзе ў Мачулінскую пачатковую школу.

Грамату асвойвае паспяхова і хутка: з першага класа пераходзіць адразу ў трэці і неўзабаве становіцца вучнем Узнацкай сямігодкі.

Сталая цяга да вершаскладання абудзілася менавіта ў час школьнага юнацтва — да 1949 года назбіраўся першы «збор твораў», два сшыткі вершаў. Некаторыя з іх былі дасланы ў газету «Літаратура і мастацтва», адкуль прыйшоў ліст з парадай «яшчэ шмат павучыцца». Можа, гэтыя словы і вызначылі лёс В. Зуёнка: прачытаўшы пісьмо з рэдакцыі, бацька выправіў сына ў Барысаўскае педагагічнае вучылішча. «Барысаўскі перыяд» (1950–1954) змяніўся вучобай на аддзяленні журналістыкі філфака БДУ, куды, маючы дыплом выдатніка, В. Зуёнак быў залічаны без іспытаў.

Студэнцкія гады праходзілі ва унікальнай атмасферы, у таленавітым асяродку: у другой палове 1950-х гуманітарныя навукі побач з Васілём Зуёнкам штудзіравалі Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Міхась Стральцоў, Янка Сіпакоў, Іван Чыгрынаў, Вячаслаў Адамчык, Кастусь Цвірка, Барыс Сачанка… Потым іх, амаль равеснікаў-аднагодкаў, даследчыкі назавуць філалагічным пакаленнем. Пры пэўным падабенстве біяграфій (вясковае паходжанне, абпаленае вайной маленства) кожнаму быў наканаваны свой мастакоўскі лёс. В. Зуёнак, надзвычай строгі і патрабавальны да сябе, не спяшаўся выносіць на суд чытачоў плён уласных творчых пошукаў: ад паэтычнага дэбюту ў «Чырвонай змене» ў 1954 годзе (яшчэ раней вершы друкаваліся ў барысаўскай раённай газеце) да першай кнігі пройдзе больш за дзесяцігоддзе.

Выпускнік аддзялення журналістыкі (1959), В. Зуёнак назапашвае жыццёвы вопыт, збірае духоўна-эмацыйны багаж — без чаго не магчыма сапраўдная паэзія, — працуючы ў перыядычных выданнях Мінска: у шматтыражнай газеце «Рабочае юнацтва», у «Піянеры Беларусі». Журналісцкае судакрананне са светам дзяцінства і юнацтва, відавочна, паспрыяла станаўленню В. Зуёнка як дзіцячага пісьменніка. Выдадзены ў 1965 годзе зборнік вершаў для дзяцей «Вясёлы калаўрот» стаў прадвесцем прыходу ў «дарослую» літаратуру яркага, самабытнага аўтара. (Варта падкрэсліць, што і дасягнуўшы вяршыняў паэтычнага Алімпа, творца не пакіне па-за ўвагай маленькіх чытачоў.) Дарэшты ж разбурыла сцяну пакутлівага маўчання і адразу вывела В. Зуёнка на авансцэну тагачаснай беларускай паэзіі кніга лірыкі «Крэсіва» (1966). Яе прыхільна сустрэлі і крытыкі, і літаратурныя паплечнікі, прынамсі, шчыра парадаваўся за аўтара зборніка У. Караткевіч: «Перад намі паэт. Паэт адметны, свежы, паэт са сваім зрокам, са сваім адкрытым гукам жыцця слыхам і адкрытым болю і любві сэрцам». Нягледзячы на невялікі аб’ём, кніга атрымалася канцэптуальна завершанай, цэласнай. Сёння яе можна разглядаць як разгорнуты паэтычны анонс усёй далейшай творчасці В. Зуёнка. «Крэсіва» беспамылкова «высвеціла»,

падказала праблемна-тэматычныя абсягі мастакоўскага шляху: ад вясковай хаты — да касмічных вышыняў, ад побыту звычайнага чалавека — да лёсу нацыі, ад маленькай былінкі — да «галактычных» філасофскіх праблем, ад гістарычных глыбіняў — да праекцый у будучыню. Контурна абазначаныя ў першай кнізе пытанні жыцця і смерці, маральнай чысціні асобы, узаемаадносін чалавека з прыродай, захавання нацыянальнай самабытнасці народа надалей будуць паспяхова даследавацца пісьменнікам, атрымаюць ідэйна-сэнсавую аб'ёмнасць, шматграннасць і глыбіню.

Пераж ытая па-за кніжкай «пара літаратурнай маладосці, пара вучнёўства» (Г. Бураўкін) прадвызначыла высокі мастацкі ўзровень наступных зборнікаў: «Крутаяр» (1969), «Сяліба» (1973), «Качан на п'едэстале» (1973), «Нача» (1975), «Маўчанне травы» (1980), «Світальныя птушкі» (1982), «Лукам'е» (1984), «Вызначэнне» (1987), «Лета трывожных дажджоў» (1990), «Чорная лесвіца» (1992), «Пісьмы з гэтага свету» (1995). Не дзіўна, што многія творы аднаго з лідэраў літаратурнага працэсу перавыдаваліся: так, пабачылі свет кнігі выбраных вершаў «Час вяртання» (1981), вершаў і паэм «Жніўны дзень» (1985), двухтомнік выбранага, першы том якога — «Гронка цішыні» (1996) — склала лірыка, другі — «Пяцірэчча» (1998) — аднайменная ліра-эпічная пенталогія.

Па аб'ектыўных, далёкіх ад сфер мастацтва прычынах з 1995 года не выходзіла новых арыгінальных кніг лірыкі В. Зуёнка. Тым не менш ёсць падставы ў пераліку паэтычных зборнікаў згадаць яшчэ адзін, пакуль «віртуальны». Гэта электронная версія кнігі, куды ўвайшло каля тысячы твораў 1993–2006 гадоў. Некаторыя з іх друкаваліся ў перыёдыцы, але шматлікія «вершы сутоку тысячагоддзяў» невядомыя чытачу. Вялізны том паэзіі «з камп'ютэрнага небыцця» хаця і не матэрыялізаваўся ў звычайным, папяровым выглядзе, аднак існуе і ўяўляе сабой значную і па аб'ёме і, найперш, у ідэйна-эстэтычных адносінах частку мастацкага наробку пісьменніка. У 2009 годзе доўгі выдавецкі «застой» нарэшце парушыла кніга «Паміж небам і зямлёю», якую склалі празаічныя тэксты — літаратурна-лінгвістычныя эсэ, эцюды, падарожныя нататкі.

…Паралельна з няспыннай творчасцю В. Зуёнак працуе ў літаратурна-мастацкіх выданнях — намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» (1966–1972), галоўным рэдактарам часопісаў «Бярозка» (1972–1978) і «Маладосць» (1978–1982), — займаецца навуковай і грамадскай дзейнасцю. У 1973 годзе ён паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю, з 1982 года пачаў выконваць абавязкі сакратара Саюза пісьменнікаў Беларусі, а пасля ўзначаліў гэтую мастакоўскую супольнасць (1990–1998). В. Зуёнку давялося прыняць удзел і ў пра-

цы міжнародных арганізацый — у 1985 годзе ў складзе беларускай дэлегацыі пабываць на 40-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

Аматар і знаўца паэзіі розных народаў, В. Зуёнак імкнецца падзяліцца яе хараством з суайчыннікамі. Дзякуючы яго перакладам, лепшыя ўзоры рускай, польскай, украінскай, балгарскай, латышскай, літоўскай і іншых літаратур сталі даступнымі і зразумелымі беларускаму чытачу.

У таленавітай асобе В. Зуёнка арганічна сумяшчаюцца розныя іпастасі: грамадскі дзеяч, перакладчык, даследчык літаратуры, пісьменнік. Прычым пісьменнік, які не замыкаецца ў межах адной, шчасліва знойдзенай літаратурнай дзялянкі. Аднак у якім бы амплуа ні выступаў В. Зуёнак, ён перадусім застаецца Паэтам. І ў вершах, і ў паэмах, і ў прозе аўтар выяўляе сябе як паэт-лірык, але лірык з эпічным светабачаннем — трывогі свету ён прапускае праз сябе, нібыта асабіста іх перажывае. Прыродай таленту «эпічнага лірыка» прадвызначаны зуёнкаўскі метад мастацкага даследавання рэчаіснасці, які заключаецца ў аднолькавай увазе да самых простых з'яў і да глабальных сусветных праблем.

Незаўважнае для іншых выклікае ў душы паэта вялікі эмацыйны рэзананс:

Ніхто не пачуў:
Яблык упаў дасвеццем —
Ля Халопеніч, на Беларусі.
Ніхто не пачуў —
Ні людзі, ні травы, ні вецер…
Ніхто.
А шар зямны
Здрыгануўся…

Вытокі такой выключнай пільнасці і вялікай «умяшчальнасці» сэрца — у нялёгкім маленстве. «Хто-хто, а я ўжо ж (ды, пэўна, і не толькі я), — разважае В. Зуёнак, — ведаю: бывае, прахопішся ў будане пад яблыняй, калі раптам гупне па даху ці нават па доле яблык, які гэта землятрусны выбух, асабліва калі ўспомніць назапашаную нашым пакаленнем крытычную масу падчас ваеннага дзяцінства». Выяўленая ў вершы «Ніхто не пачуў…» надзвычайная чуйнасць вызначае адметную, зуёнкаўскую, рэцэпцыю быцця, якая рэалізуецца ў вершах рознай праблематыкі.

У многіх творах В. Зуёнка ўвасобілася памяць пра вайну, пра маленства, азмрочанае вялікай агульнай бядой. Паказальна, што яго літаратурныя равеснікі — паэты і празаікі — узнаўляюць вайну праз прызму непасрэднага дзіцячага ўспрымання. Характэрнай адзнакай іх

твораў, у тым ліку і эпічных, з'яўляецца лірызм — узрушанасць, усхваляванасць як вынік асабістай далучанасці да падзей. Гэта ўласцівасць выяўляецца і ў вершах В. Зуёнка, аднак у асэнсаванні ім ваеннай тэмы ёсць свае нюансы. У яго лірыцы вайна — не толькі ўспамін пра мінулае; паэт падкрэслівае, што для многіх мір так і не настаў. Пачынаючы ўжо з першай кнігі, В. Зуёнак звяртаецца да праблемы няскончанай вайны. Пры яе раскрыцці аўтар даследуе душэўны стан — бязногага ветэрана, які і праз шмат гадоў ніяк не можа прывыкнуць да «нагі са скрыпам хромавым»; маці, удоў і нявест, што доўгія дні і ночы чакаюць салдат дадому. Для іх вайна працягваецца і праз шмат год пасля перамогі («У прымыльніку — мыліцы…», «З вайны…», «Дзень і ноч»). З часам тэма няскончанай вайны яшчэ больш драматызуецца, узбуйняецца і «эпізуецца», як, напрыклад, у вершы «Удовы (Сюжэт для сучаснага рамана)». У полі зроку аўтара — простая беларуская сялянка, у якой Вялікая Айчынная вайна забрала мужа, афганская — сына, у мірны для Беларусі час у гарах Каўказа забіты яе ўнук. Паэт зводзіць разам народжаныя рознымі войнамі праблемы, кожная з іх складаная і глыбокая сама па сабе: драма салдацкіх удоў і вечных нявест, «асірацелых» маці і бабуль. Верш сведчыць пра маштабнае мысленне аўтара, яго здольнасць лаканічна, лірычнымі сродкамі перадаць шырокі раманны змест.

Паэтычны свет В. Зуёнка цесна знітаваны са светам жывой, зменлівай прыроды, мастака захапляе стан наваколля ў розныя поры года. Яго пейзажная лірыка — гэта сапраўдны слоўны жывапіс, створаны сакавітымі фарбамі, пластычна-зрокавымі вобразамі. Нават будзённае, убачанае вачамі паэта, здзіўляе сваёй навізной, нечаканасцю: «сонцам атачонае прырэчча плавае ў сп'янеласці малін»; «горы спелых навальніц» «агністымі хвастамі хвошчуць сонца наўздагон»; «чырвоныя ветры гуляюць па лесе», «дрыготкая бярозка пад акном, як адзінца, калыша ліст змарнелы»… В. Зуёнак занатоўвае ў слоўных вобразах не толькі ўбачанае, але і пачутае і адчутае: «над полем спелым хлебны водар бушуе, быццам у дзяжы» («Змярканне»), «гром — аблачыннакалматы — марудна сплывае за лес» («Першы гром»). Гукавая «карціна» лірыкі ствараецца музыкай птушынага аркестра, шапаценнем аўсоў і шэптам жыта, «чмялёў басамі і восаў звонню» і не саступае ў багацці і разнастайнасці «тонаў» зрокавай; у мастака нават цішыня не маўклівая — яна звініць ніццю далёкай песні («Цішыня»).

Прыкладна з другой паловы 1970-х — пачатку 80-х гадоў анімістычны першасна-пачуццёвы, амаль што паганскі погляд узбагачаецца элементамі навуковага пазнання. Пазней вершы набываюць усё большую філасафічнасць і медытацыйнасць і ўрэшце — рэлігійнае асвятленне. Пра гэта асабліва яскрава сведчыць натурфіласофская лірыка «сутоку тысячагоддзяў». Паганскі і хрысціянскі пачаткі не супярэчаць адзін аднаму, а зусім арганічна спалучаюцца («Прыхо-

джу да свяцілішча ляснога…», «Калі маўчаць дрэвы…»). Па словах пісьменніка, «увага да біблійна-хрысціянскай вобразнасці — з’ява той прыроды, што і схільнасць да анімізму: гэта творчае набліжэнне да сутнасных каранёў, да асноў быцця, да яго вытокаў. Прырода — калыска чалавека фізічная, Біблія — духоўная». У натурфіласофскіх творах раскрываецца асаблівы дар В. Зуёнка — мысленне ва унісон са светам прыроды, — які, увасобіўшыся ў слове, стаў характэрнай рысай і адметнасцю яго паэтычнага стылю.

Апошнім часам мастацка-вобразная палітра творчасці значна ўзбагацілася за кошт вершаў-роздумаў над «вечнымі» пытаннямі. В. Зуёнак спрабуе прыўзняць заслону невядомага: «Божа, адкрый мне сакрэт: / А што далей — за Сусветам?» («Я разумею: Сусвет…»). Ключавымі ў разуменні светапогляднай пазіцыі аўтара паўстаюць антыноміі «жыццё — смерць», «быццё — небыццё», «час — вечнасць», «святасць — грэх». Філасофскія вершы маюць выразную рэлігійную падсветку: часта гэта вельмі асабістыя звароты да Усявышняга, маленні-просьбы даць духоўнай моцы, дапамагчы захаваць веру, не заблытацца ў падмане і несправядлівасці. Простыя па форме вершы ўражваюць сваёй зместавай глыбінёй і ўспрымаюцца як адкрыццё — адкрыццё не толькі для аўтара, але і для чытача. Многія паэтычныя радкі прэтэндуюць на тое, каб стаць афарызмамі:

Ці самы грэшнік, ці самы святы —
З душой, як жаўрук на праталінцы,
Да Бога спрадвеку толькі на «ты» —
Ніхто на «вы» не звяртаецца.

*«Я знаю: малітвы такія ёсць…»*

В. Зуёнак належыць да пісьменнікаў экстравертнага тыпу, таму, натуральна, побач з філасофскімі і пейзажнымі вершамі ў яго творчасці шырока прадстаўлены водгукі на балючыя сацыяльныя тэндэнцыі. З самага пачатку ў цэнтр увагі паэта трапляе праблема парушэння прыродна-касмічнага суладдзя, разбурэння гармоніі ў сістэме «чалавек — навакольны свет». Экалагічная тэма выступае скразной у творчасці і раскрываецца ў сувязі з тэмай экалогіі душы. Праблема зберажэння прыродных багаццяў і прыгажосці ў В. Зуёнка заўсёды неадлучная ад праблемы захавання лепшых маральных якасцяў чалавека. Асабліва востра яна ставіцца ў вершах, напісаных пасля красавіка 1986 года: чарнобыльская трагедыя заўважна паглыбіла драматызм светаадчування паэта: «Бо зараз не сэрца ў грудзях у мяне — / Чарнобыля зона» («Касмічная вестка», «Дождж ык, дождж ык, сыпані…», «Урок паўтарэння»).

Шчырым клопатам за будучыню народа, што апынуўся на гістарычным раздарожжы, азмрочаным вялікай нацыянальнай бядой — Чарнобылем, прасякнуты шматлікія творы грамадзянскай лірыкі. Праз эмацыйную ацэнку, даследаванне сутнасці асобных фактаў паэт асэнсоўвае змены ў грамадскай свядомасці краіны, якія адбываюцца пад уплывам сацыяльна-палітычных пераўтварэнняў. Па В. Зуёнку, вялікая праблема сучаснай Беларусі — адсутнасць нацыянальнага прарока, чаканне яго становіцца адным з лейтматываў лірыкі на мяжы стагоддзяў. У лірыцы з'яўляюцца творы-звароты да Бога з пакутнай просьбай падараваць Беларусі сапраўднага Месію («Маленне», «Дай нам, Божа, прарока…»).

Вялікі пласт паэзіі В. Зуёнка складаюць вершы, прысвечаныя «сялянскай Атлантыдзе» (А. Адамовіч). Праз усю творчасць праходзіць матыў вяртання на малую радзіму, развіццё якога ў паэзіі розных дзесяцігоддзяў мае значныя адрозненні: сталеў аўтар, паглыбляўся яго светапогляд, знаёмыя рэчы і з'явы пачыналі бачыцца па-іншаму, змянялася і сама вёска. Лірычны герой ранніх вершаў «Добры прыезд», «Вясновая казка» — малады чалавек, які прыязджае ў родныя мясціны як жаданы госць. Ён яшчэ не зазнаў таго душэўнага надлому, стану неўладкаванасці, настальгічнага суму, што будуць суправаджаць яго ў больш сталыя гады («Прыпар», «Пахаванне»).

У сувязі з матывам вяртання ў паэзіі В. Зуёнка сімвалічнае значэнне набывае вобраз дарогі: пакуль пульсуюць жыццём дарогі ў вёску, перспектыва з'яўлення вясковага могільніку з чорнымі крыжамі вокан не стане рэальнасцю. Дарогі дадому В. Зуёнак вылучае сярод усіх шляхоў свету і на іх ускладае спадзяванні — вярнуцца да першаасноў чалавечага быцця, духоўна ўзвялічыцца («Стыхія і розум дарог…», «Калі дадому вяртаешся…»). Семантыка гэтага вобраза пашыраецца да сімвала жыццёвага шляху, набывае філасофскае напаўненне…

Паэт настойліва праводзіць думку, што вяртанне да вёскі — як да асяродку духоўнасці і маральнасці — неабходнае: «Пасля стрэсаў і рэвалюцый / Мы да хат яшчэ мусім вярнуцца…» У лірыцы апошніх дзесяцігоддзяў атрымлівае развіццё апазіцыя «вёска — горад» («Мы з табою браты вяртанняў…», «Ці жывы, ці памёр я?..», «Вы прабачце, гарадскія хаты…»). Вясковае і гарадское суадносяцца як духоўнае і прагматычнае, шчырае і штучнае, спакойнае і мітуслівае. В. Зуёнак з пазіцый вяскоўца глядзіць на праявы гарадскога жыцця і параўноўвае, асацыятыўна суадносіць іх са светам вёскі. Шырокая, змалку звыклая да прастору душа вяскоўца (хай ён і стаў гараджанінам) не можа адчуваць сябе камфортна ў вузкай гарадской «клетцы». Узмацняе апазіцыю настальгічная падсветка, мінорныя ноткі шкадавання па дзяцінству дадаюць «ідэальнасці», «ружовасці» вобразу вёскі. У вёсцы В. Зуёнак адчувае паўнату быцця, захопленасць сялянскай стыхіяй

абумоўлівае актуалізацыю ў яго творчасці элементаў фальклорнай паэтыкі — у лірыцы ўзнікаюць вобразы жытнёвага поля, перапёлкі, жаўранка, васілька. Усё гэта надзвычай дарагое мастаку, на поле ён марыць вярнуцца ў іншабыцці: «…Памру — сюды хоць аднойчы / Жаўранкам прылячу».

* * *

Гімнам прыродна-вясковаму свету, роднаму краю і беларускаму народу ўвогуле стала ліра-эпічная пенталогія В. Зуёнка «Пяцірэчча», творы якой дапамагаюць зазірнуць у душу беларуса, зведаць тое, што турбавала, засмучала, радавала, абнадзейвала яго на далёкіх і блізкіх гістарычных шляхах. Паэма «Сяліба» — першы ўнёсак у кнігу «Пяцірэчча», яе «генетычны код». Слаба абазначаная падзейная аснова твора стала фонам для перадачы «падзей» у душы лірычнага героя, які «вандруе» па дарогах уласнай памяці і памяці гістарычнай, праз яго вобраз ажыццяўляецца сувязь розных часоў. «Сяліба» — паэма-ўспамін, паэма-вяртанне: вяртанне дарослага ў мясціны маленства і юнацтва, гараджаніна — у свет прыроды, да вясковых каранёў. У В. Зуёнка гэта не ўцёкі ад актуальных, надзённых праблем часу, а ўзмацненне, акцэнтаванне іх шляхам кантраснага супрацьпастаўлення «прыроднага» «ўчора» і «цывілізаванага» «сёння».

Лірычны герой з настальгічным сумам праходзіць па сцежках свайго юнацкага няспраўджанага кахання. Інтымная лінія твора ўвесь час перасякаецца з сацыяльнай. Яна падсвечвае чалавечай асабовасцю грамадзянскую праблематыку: любоў да прыроды, роднай Сялібы ставіцца побач з інтымным пачуццём да жанчыны. Гэта розныя грані адной вялікай стваральнай Любові, што ачышчае душу ад прагматычнага спажывецкага «бруду», узвышае яе:

Скажы, прырода, ці не гэтак,
Як сэрца вечнае жаночае,
І ты на ростанях сусвету
З усіх шляхоў — адзін высочваеш?..

У В. Зуёнка ў адрозненне ад іншых слынных паэтаў няшмат знойдзецца вершаў пра каханне. «Сяліба», як ні адзін іншы твор, яскрава выяўляе гэтую грань таленту пісьменніка і ў пэўнай ступені кампенсуе падобны «прагал». Лірычны герой складае ўласную «Песню Песняў» каханай, у яго пранікнёных, кранальных прызнаннях яднаюцца замілаванне любай і захапленне прыгажосцю зямлі: «Узмах крыла і ў цёплы лівень / Усплеск гуллівых ручаёў — / Імя тваё, як лівень, — Лія, / Я ціха лашчыў зноў і зноў…» Любая дзяўчына ўздымаецца на недасягальную вышыню («Мая і чужая, як неба»), абагаўляецца, ад-

нак пачуццё юнака не ўзаемнае — Лія кахае іншага, самаўпэўненага прагматыка-меліяратара.

Сапернік лірычнага героя ўвасабляе тып «новага» чалавека, які не ведае сумненняў, кіруецца распрацаванымі вышэй пастановамі, жыве «ў адпаведнасці» з дырэктыўнымі планамі. Кожная ідэалагічная сістэма выхоўвае зручнага для сябе новага «гаспадара», а па сутнасці, шрубку ў вялікай машыне — чалавека без мінулага, слепа перакананага ў «светлай» будучыні. У «Сялібе» крокам да набліжэння падобнай будучыні выступае асушэнне балот, спрамленне рэк, што з вялікім энтузіязмам імкнецца ажыццявіць меліяратар.

У паэме паўстае экзістэнцыйная праблема выбару, яна, аднак, не зводзіцца да вырашэння «меліярацыйнай» дылемы (асушаць балоты ці не). Аўтар выходзіць на значна больш шырокія сферы сусветнага быцця: быць ці не быць прыроднай раўнавазе, гарманічнаму суіснаванню чалавека і навакольнага асяроддзя, быць ці не быць увогуле жыццю на планеце — да такой вострай пастаноўкі пытання падводзяць створаныя ў паэме апакаліпсічныя карціны «чорных гоняў», «чорных ніў», «чорных вятроў» над імі.

Наватарскай бачыцца фармальная арганізацыя «Сялібы»: падкрэсленая ў падзагалоўку форма дыялога захоўваецца на працягу ўсяго твора. Да размовы паміж лірычным героем і яго каханай, не прамой, а ўзноўленай у памяці лірычнага героя, увесь час падключаюцца іншыя персанажы: меліяратар, святар, стары мясцовы жыхар — дыялог, такім чынам, ператвараецца ў складаны палілог. У гэтым шматгалоссі ўдзельнічаюць таксама анімістычныя вобразы дарогі, Пагулянкі, Вялікага Каменя, што паўстаюць жывымі разумнымі істотамі, увасабляюць памяць пра мінулае. Яны расказваюць пра этнаграфічны побыт продкаў, раскрываюць таямніцы мясцовых назваў (Узнацк некалі «сувязь — «узы» з Начаю трымаў», а сама Нача азначае «плодная зямля»), робяць своеасаблівы гістарычны экскурс ад хрысціянства да язычніцтва. Праз аповед гэтых «персанажаў» аб сваім даўнім быцці ствараецца аб'ёмная, дэталізаваная карціна жыцця беларуса ў гістарычнай рэтраспектыве. У творы розныя часавыя пласты знаходзяцца ў апазіцыі: мінулае ў параўнанні з сённяшнім днём малюецца пераважна «залатым векам», перыядам дабрабыту, братэрскай еднасці чалавека і прыроды.

Разам з тым ідэалізацыі мінулага ў паэме няма, у чым пераконвае гісторыя пана Заброцкага, які загадвае мастаку намаляваць незвычайную ікону «Святое паляванне». Працэс палявання алегарычна, вачамі сабак, перадаецца ў раздзеле «Гон». Карціна гону азвярэлых ад голаду сабак увасабляе «жорсткасць у адносінах да ўсяго жывога» (У. Гніламёдаў). Варта звярнуць увагу на такую дэталь: карціна задумвалася панам як ікона, але ўзвядзенне ў ранг святыні забойства

жывым жывога — святатацтва, маральнае злачынства. Паўсюднае асушэнне балот, высяканне пушчаў, прыхаванае за «святымі» словамі (для пэўным чынам ідэалагічна выхаванага чалавека) «паляпшэнне ўмоў», «развіццё народнай гаспадаркі», — таксама не толькі «фізічнае», але і духоўнае злачынства. Магнат мінулага зневажае святыні, увекавечваючы забойства, «магнат» сучаснасці робіць тое ж самае, але па-свойму: з паляўнічым азартам адпраўляючы «ў рай» цэрквы («Трасамі <…> ды за макаўку!..»), паводле новых «біблій» (планаў меліярацыйных работ) заганяючы ў труны рэкі… І ўчора, і сёння падобныя фізічныя дзеянні раскрываюць духоўнае аблічча чалавека.

Праблема экалогіі душы, захавання маральнай чысціні востра паўстае ў творы. Прырода жывіць душу хараством, не дае ачарсцвець сэрцу; зберагчы натуральную прыгажосць наваколля — значыць зберагчы прыгажосць душэўную. У раскрыцці гэтай маральна-этычнай праблемы, акрамя лірычнага героя, важную ролю выконваюць айцец Лявонцій і стары мясцовы жыхар, што выступаюць носьбітамі духоўнагістарычнай памяці народа. «Струмені цудадзейныя слабеюць, — / І чым цяпер душы спатоліць смагу?» — пытаецца святар і гаворыць пра вытокі «духоўнай засухі»: «Парушана гармонія ў прыродзе. / Сябе царом над ёй смяротны мысліць… / У велічы і гонары забыўся, / Што ён часцінка тут, не заваёўнік». Усведамленне сябе часцінкай вялікага цэлага, пазбаўленне ад заваёўніцкіх амбіцый, вынікае з паэмы, павінна быць асноўным рэгулятарам у сістэме «чалавек — прырода».

«Гістарычная памяць» лірычнага героя ўваскрашае даўнюю, яшчэ не кранутую цывілізацыяй Сялібу:

Той край — мая радзіма… Між лясоў
Асеў бягляк-язычнік днём асеннім.
Дуброву спляжыў вогненнай касой
І кінуў на гарэлле жменю семя.
Затым на ўсход схіліўся — Сонцу слава!
На захад — пакланіўся Перуну.
Жытло зляпіў. З ліцвінкаю бялявай
Абжыў за ноч глухую старану.
Той край — мая радзіма. Дзве ракі,
Як дзве рукі, Сялібу абдымалі.
З лукі — тугія стрэлы — шчупакі
Ў гаршчок, на юшку, самі залятали…

Успамінаючы «край, імшарны, з сумам верасоў», лірычны герой побач з пяшчотай адчувае дакоры сумлення, бо ён «з’ехаў ад зямлі», стаў гараджанінам. У палілог уключаецца голас вёскі (ён гучыць у сэрцы героя) — такая размова сэрцамі сведчыць пра непарыўнасць крэўнай сувязі лірычнага героя з роднымі мясцінамі; вёска ўспрымаецца ім

як пакінутая пасталелымі дзецьмі маці, што заўсёды цярпліва чакае і ніколі не папракне.

Важная рыса твора — сцвярджэнне ў ім нацыянальнай ідэі. У яе рэалізацыі выключнае значэнне мае любімы паэтам вобраз агню, у якім увасабляецца вера ў будучае народа. Карцінай агню, сімвалічнага ачышчэння ад бездухоўнасці, маральнага здранцвення, «Сяліба» пачынаецца, карціна ачышчальнага агню ўзнікае і напрыканцы паэмы: «Агонь не згасне, полымя ўзгарыцца, / І рухне ап’янела-крыважэрны / Іканастас насільніцтва і цемры». «Вогненны» фінал усяляе аптымізм, спадзяванне на тое, што полымя свабоды не затухне на беларускай зямлі, не паглынецца цемрай чужароднасці. Пры гэтым геаграфія паэмных праблем не зводзіцца да вузка мясцовых ці нацыянальна абмежаваных, а пашыраецца да планетарнага ўзроўню. Паэтава любоў да родных Начы і Крутаяра вырастае ў любоў да ўсёй планеты. Публіцыстычна завострана аўтар засцерагае ад забыцця чалавекам свайго месца і ролі на Зямлі, яго словы поўныя надзеі:

Мы раны й выдмы ўсе зямлі сваёй загоім,
Перададзім — блакітную — нашчадкам:
Пільнуйцеся ж, каб штосьці дарагое
Не згінула пад варварскім запяткам… <…>
Над лёсам пакаленняў і стагоддзяў
Мы дні ўзнімаем — сонечныя глыбы.
Надзея над планетай не заходзіць.
Квітней, мая Зямля —
                                        мая Сяліба.

Ад Сялібы-Зямлі да касмічных прастораў скіроўваецца аўтарская думка ў наступнай паэме — «Прыцягненне», лірыка-публіцыстычнай паводле агульнай інтанацыйнай афарбоўкі. Прысвечаная беларускаму касманаўту Уладзіміру Кавалёнку, земляку аўтара, яна ўяўляе сабой лірычны роздум аб чалавеку і яго месцы ў Сусвеце.

Матыў «узаемапрыцягнення» Зямлі і Неба — адзін з асноўных у творы: з Зямлёю звязваецца ўсё самае дарагое, роднае, з Небам — вера ў мару, імкненне да нязведанага, прычым супрацьлеглыя стыхіі аднолькава неабходныя чалавеку. Полюсамі прывязанасці для У. Кавалёнка, героя паэмы, выступаюць начное неба, адкуль «загадкава кліча ў палёт Арыён», і знаёмыя мясціны з гаваркімі назвамі — Белае, Падбярэззе, Клён, Зялёная Пушча, што вяртаюць на Зямлю.

Зямля ў творчасці В. Зуёнка, «вечнага аратага» на паэтычнай ніве, — найвялікшая каштоўнасць. Разам з тым, па назіранні І. Шпакоўскага, гэты аўтар, бадай, ці не самы паслядоўны «культавік» сонца сярод беларускіх пісьменнікаў. У «Прыцягненні» адбываецца пэўнае размежаванне свету паэтычных прывязанасцяў В. Зуёнка: зям-

ное ён «пакідае» сабе, нябеснае «аддае» свайму герою, пры гэтым дзве іпастасі не супрацьстаяць, а ўзаемадапаўняюцца, выяўляюць розныя грані чалавечай сутнасці. Паэт і касманаўт — два крылы незвычайнай, фантастычнай птушкі — птушкі памкненняў Чалавека, сувязнога звяна паміж зямлёй і небам.

Нягледзячы на неабходнасць чалавеку Неба, галоўная для яго ўсё ж Зямля. Вядома, што на касмічную арбіту У. Кавалёнак узяў томік вершаў В. Зуёнка «Нача» — «кавалачкам Радзімы», «лістком Зялёнай Пушчы» разам з ім па бяскрайніх галактычных прасторах ляцеў і паэт:

Я ляцеў, каб з роднаю зямлёю
Нітаваўся вырай твой высокі.
«Вось яна — не расставайся з ёю», —
І крылом я расхінаў аблокі. <…>
Чуеш — вецер у дубах зашастаў,
Чуеш — хваляй б’ецца ў бераг Нача,
Чуеш — камень уздыхнуў мышасты:
Метэорны сон, відаць, пабачыў…

Ключавым, канцэптуальна значным у паэме паўстае сімвалічнае зямное прыцягненне, што разумеецца не проста як фізічны закон, а становіцца духоўным абавязкам кожнага. Аўтарская думка найперш накіравана на сцвярджэнне «духоўнага прыцягнення». Прывязанасць да крэўнага, роднага, знаходжанне «сэнсу галактык» у любові да Радзімы робяць чалавека сапраўды чалавекам, не дазваляюць яму стаць пылінкай у бязмежжы «духоўнай бязважкасці»:

Зямля мая,
Не дай нам адарвацца,
Ляці за намі
Ў тысячу пагонь <…>
І, можа, сэнс галактыкі —
Смаргонь
Ці Лукам’е
Ў світанні сітнягоў,
І крылы мы ствараем,
Каб вяртацца.

Паэт непакоіцца аб захаванні натуральнай раўнавагі ў сістэме Зямля — Космас. Планета людзей з касмічнай арбіты і з вышыні думак бачыцца маленькай слязінкай: «Яна слязінкаю дрыжыць, / А на слязінцы — людзям жыць…» Глабальны клопат чалавецтва заключаецца ў тым, каб не дазволіць слязінцы-планеце растварыцца ў

агромністым акіяне Галактыкі: думаючы пра Зямлю, чалавецтва думае пра сваю будучыню.

Клопат пра будучыню, пра заўтрашні дзень для В. Зуёнка неадлучны ад памяці пра мінулае. Паэма «Лукам’е» — разам з двума папярэднімі творамі яна стала першай часткай трылогіі «Агонь і сонца» — прысвечана гістарычнай тэме. Сюжэт засноўваецца на апісанні лёсу ўладара старажытнага Лукомскага княства: нават пераносячыся ў далёкія часы, В. Зуёнак застаецца верны сваёй малой радзіме, паэтызуе, міфалагізуе яе мінулае.

Сувязь часоў знайшла ўвасабленне ў папярэдніх паэмах, аднак «Лукам’е» — адзіны ліра-эпічны твор, дзе далёкая гісторыя народа выходзіць на першы план, поўнасцю авалодвае ўвагай мастака. У паэме апавядаецца пра падзеі беларускага Сярэднявечча, разам з тым яна вельмі сучасная. Надзённасць, сучаснасць твора заключаецца найперш у яго праблематыцы: цэнтральнай з’яўляецца праблема нацыянальна-дзяржаўнай ідэнтыфікацыі беларускага народа. Пытанні, якія турбавалі князя Івана Лукомскага на схіле XV стагоддзя, не страцілі сваёй вастрыні і актуальнасці і на пачатку стагоддзя XXI. Спецыфічныя культурныя і геаграфічныя варункі прадвызначылі Беларусі незайздросны лёс, краіна заўсёды трапляла ў поле геапалітычных амбіцый заходняй і ўсходняй суседак: «Белая Русь… Нібы яблык разладу: / Вабіць пры сонцы і сніцца ўначы».

Думаецца, ёсць падставы сцвярджаць, што вобраз Івана Лукомскага працягвае галерэю нацыянальных вобразаў змагароў за Беларускі Шлях, а лёс такіх людзей, бадай, заўсёды трагічны. Іван дбае аб вяртанні былой сілы свайму княству, ён памятае слаўныя часы, калі на абароне беларуска-ліцвінскіх зямель стаялі «воля Міндоўга і Вітаўта меч». На старонках паэмы аўтару кароткімі, але ёмістымі штрыхамі-дэталямі ўдалося намаляваць шырокую карціну жыцця Вялікага княства Літоўскага, калі яно было магутнай дзяржавай, гаварыла са светам сваёй мовай. Слаўнае, свабоднае мінулае, чытаецца ў падтэксце паэмы, павінна падказаць адзіны прымальны для Белай Русі шлях — менавіта такой з’яўляецца ідэйная скіраванасць «Лукам’я».

Звяртае на сябе ўвагу цікавая архітэктоніка твора: сем раздзелаў, у кожны з якіх уключаюцца значныя ў ідэйна-сэнсавым плане Іванавы мроі-ўспаміны (толькі апошняя пераносіць у будучыню). Мроі князя, яго перадсмяротная споведзь самому сабе, рэтраспектыўна ўзнаўляюць найбольш важныя моманты жыцця Лукомскага. Успаміны арганічна нанізваюцца на асноўны кампазіцыйны стрыжань: рэаліі апошняга дня жыцця героя і яго адчуванні. Аўтар карыстаецца кінематаграфічным прыёмам «наплыву»: так, вербы маскоўскай вуліцы ўваскрашаюць у памяці князя сялянскі вербны бунт, «шэры тыранік» верабей — шэрых жаўранкаў з вясны кахання… Увядзенне галасоў летапісца, бацькі,

сялян і інш. — яшчэ адзін удалы спосаб структурна-фармальнага ўвасаблення творчай задумы. Голас летапісца ўводзіць гісторыка-паэтычную даведку пра «белых русічаў», распавядае пра светлыя і трагічныя старонкі іх жыцця. Напамінам пра Радзіму, запаветам не толькі для Івана, а і для кожнага беларуса гучыць Голас бацькі:

І на паклон адзінае
Мушу сказаць сынам:
Здраджваем мы Радзіме,
Радзіма — не здрадзіць нам. <…>
Страшней, чым зямля без неба,
Страшней, чым пятля на суку,
Здрадзіўшы, бачыць з хлебам
Працягнутую руку…

Голас часу апавядае аб накіраванасці прагрэсу: чалавецтва развіваецца «ад камня да стралы» і «ад стралы да кулі». Цень Івана Лукомскага выступае супраць крывавага прагрэсу і ў той жа час спяшаецца туды, дзе яго сыны рыхтуюцца да бітвы з чужынцамі. Тым самым В. Зуёнак прызнае справядлівасць і нават неабходнасць змагання за ўласную годнасць, за волю і самастойнасць сваёй Радзімы.

Адстойваць сваё права на свабоду ўжо ў іншых гістарычных варунках прыходзіцца і героям паэмы «Маўчанне травы», адзначанай Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Янкі Купалы (1982). Па ахопу матэрыялу, значнасці ўзнятых пісьменнікам праблем «Маўчанне травы» блізкае да класічнага эпасу — яе не без падстаў называюць хронікай (К. Цвірка), раманам у навелах (В. Ярац). Падзейную аснову твора складае жыццёвы шлях простага селяніна, суаднесены з трагічнымі перыядамі гісторыі, калі ставіліся пад сумненне выпрацаваныя стагоддзямі крытэрыі справядлівасці, ламаўся спрадвечны ўклад жыцця. Твор мае падзагаловак «Паэма лёсу»: «За кожным канкрэтным чалавекам, — тлумачыць сам В. Зуёнак такое вызначэнне, — стаіць лёс яго народа. Гэтыя іпастасі і катэгорыі неразлучныя, падзяляць іх нельга. І вось тут, якраз у гэтай паэме, мой дзіцячы лёс, убачаны з вышыні сённяшняга часу, з вышыні пражытага пасля. Тыя падзеі, якія ляглі ў аснову гэтага твора, і тое, што бачылася мне ў маленстве, узбагачаецца маім наступным жыццёвым вопытам».

Першасна-пачуццёвае дзіцячае ўспрыманне і аналітычна-ацэначны погляд дарослага паяднноўваюцца ў вобразе лірычнага героя. Побач з дарослым у паэме прысутнічае хлопчык Васіль — пісьменнік у маленстве. Аўтар, ці лірычны герой, не проста складае летапіс падзей, сведкам якіх быў у дзяцінстве, а перажывае ўсё наноў, перадумвае, прапускае праз сэрца. Лірычны герой адначасова належыць да дзвюх эпох: узнаўляючы мінулае, ён глядзіць назад, праз гады, вачамі сучаснасці.

На сцвярджэнні выпрабаванай часам «праўды зерня» — стваральнай сілы духоўна багатага народа — засноўваецца гуманістычная канцэпцыя паэмы. Носьбітам гэтай праўды ў творы з'яўляецца перш за ўсё Васіль, прататыпам якога паслужыў бацька паэта. Цэласнасць характару героя праяўляецца ў разнастайных сітуацыях, на ўсіх жыццёвых дарогах Васіль не траціць галоўных сваіх якасцяў: сумленнасці, дабрыні, душэўнай прыгажосці, маральнай чысціні, разважлівасці, працавітасці, уласцівых нацыянальнаму этнатыпу. Беларускі селянін заўсёды ведаў адзіны, нязменны клопат — працаваць на зямлі.

Дзякуючы моцнаму духоўнаму стрыжню, веры ў справядлівасць, Васіль не здраджвае ні жывым, ні мёртвым, не страчвае «веры ў зямлю наўсцяж вякоў» нават у самы складаны час — ваенны. Герою, мірнаму працаўніку, цяжка зразумець страшны сэнс вайны:

І той, хто народжаны сеяць і жаць  
Ды плугам аблогу дзерці,  
Крывавую ношу павінен узяць:  
Забіваць у імя бяссмерця…

Чулая Васілёва душа не можа апраўдаць нават такую кроў. Герою В. Зуёнка, як і ўсяму беларускаму сялянству, блізкія пацыфісцкія погляды на быццё, і ўсё ж ён вымушаны ўрэшце прызнаць, «што не ў жыце / Вырастае праўда ў гэткі час», — «праўда зерня» часова (!) саступае месца «праўдзе барацьбы». Васіль гэта разумее, але доўгі час не прымае душой («Навошта ж і неба і гэта зямля, / Як вечна такое будзе?..»), і толькі смерцю паядноўвае ён дзве праўды.

«Маўчанне травы» можна адначасова лічыць паэмай памяці і паэмай перасцеражэння, што нагадвае пра вялікую трагедыю мінулага і разам з тым перасцерагае ад паўтарэння яе ў будучым. Праз памяць, што вядзе апавядальніка па дарогах успамінаў, ажыццяўляецца сувязь мінулага з будучым. Згадкі пра асабіста перажытае напаўняюць паэму тонкім лірызмам, асабліва адчувальным у лірычных адступленнях…

Заклапочанасць лёсам сваіх землякоў і роднай краіны стала лейтматывам заключнай паэмы пенталогіі — «Падарожжа вакол двара», названай аўтарам «паэмай смутку і надзеі». В. Зуёнак засяроджваецца на самых вострых праблемах сучаснасці, шукае іх карані, рэаліі сённяшняга дня ставіць у шырокі гісторыка-культурны кантэкст. Роздум аб лёсе народа выкліканы асабістым горам — смерцю маці. Трагедыя сына абвастрае пачуцці паэта, грамадзяніна, пачуццё непапраўнай страты выходзіць далёка за межы сыноўняй, пашыраецца да страты «наогул чалавечай, жыццёвай» (А. Станюта).

Дзень пахавання маці ў паэме В. Зуёнка парушае спрадвечна наладжаны парадак: «І агонь, як душу, з печы холадна вырвалі…» Лірычны герой не можа прымірыцца з гэтым, ён бачыць маці жывою каля цёплай

печы, дзе гатуецца ежа, пячэцца хлеб… Вобразы маці — агонь — печ — хлеб звязваюцца ў адзін семантычны ланцужок, які замяняецца канцэптам «жыццё». Кожны з гэтых вобразаў тым самым надзяляецца дадатковым сэнсам, набывае большую значнасць; і маці, і агонь, і печ, і хлеб паасобку і разам здзяйсняюць святую справу: прадаўжаюць і падтрымліваюць жыццё.

Пры дапамозе вобраза печы, а дакладней коміна, адлюстравана ў творы хада гісторыі, рэтраспектыўна паказана існаванне беларуса — ад курнай хаціны да святліцы. Каміны зведалі разам з чалавекам і добрае, і ліхое, прычым апошняга было нямала: каміны пасляваенных папялішчаў і каміны — птушыныя гнёзды на дахах «рассяляненых» вёсак, пагрозныя каміны — сталінскія люлькі і смертаносныя каміны — трубы рэактараў… Па горкай іроніі лёсу печ — міфапаэтычны сімвал жыцця — стала «маленькім хатнім Чарнобылем», «дзякуючы» псеўдапрагрэсіўнаму развіццю чалавецтва, перайшла на службу смерці — у паэме, такім чынам, надзвычай моцны матыў самавынішчэння.

У звязцы з тэмай Чарнобыля востра паўстае ў паэме шматаб'ёмная праблема самабежанства са свайго двара (выраз «самабежанцы» ў дачыненні да твора ўжыў Р. Барадулін). Роспачны плач перасяленцаў-бежанцаў чуўся лірычнаму герою ў гады ваеннага дзяцінства, яшчэ больш балюча ўспрымаецца ім гора вымушаных перасяленцаў-«чарнобыльцаў» у мірны час. Іншая, не менш важная і трагічная грань праблемы — добраахвотнае адмаўленне ад свайго двара вяскоўцаў, зваблены марамі аб гарадскім эдэме. У выніку маштабнай па размаху акцыі — перасялення моладзі ў гарады — многія вёскі аказаліся пакінутымі, а разам з гэтым стала забывацца народна-сялянская мараль. Яшчэ адной гранню праблемы з'явілася ледзь не татальнае «самабежанства» ад мовы, культуры. Усё гэта прывяло да страты гістарычных каранёў, занядбання культурнай памяці, беларус перастаў адчуваць сябе гаспадаром на ўласнай, бацькоўскай зямлі: «Мы як прышэльцы на сваім двары, / Мы бежанцы ў сваёй уласнай хаце…»

Лірычны герой паэмы не жадае быць чужым на родным двары, які становіцца для яго «цэнтрам сусвету» і духоўным апірышчам у «сумбурным, няўстойлівым» сучасным жыцці. Любоў да малой радзімы — канстанта творчасці В. Зуёнка — у апошняй паэме яшчэ больш лакалізуецца, звужаецца да вобраза роднага двара. «Вялікае» пачуццё нацыянальнага патрыятызму нараджаецца менавіта з «малой» любові. Паэт не галаслоўны ў выяўленні патрыятызму, не кідаецца гучнымі словамі, ён персаніфікуе грамадзянскае пачуццё ў знаёмых з дзяцінства рэаліях (родны двор), у канкрэтным чалавеку (маці), чым пераводзіць яго ў сферу асабіста-інтымную. В. Зуёнак ставіць у адзін

рад паняцці «мама, мова, Радзіма, народ»: яны раўназначныя, аднолькава дарагія для паэта.

Мастацкая светабудова ўсіх паэм «Пяцірэчча» грунтуецца на супрацьстаянні апазіцый дабро — зло, жыццё — смерць, зямля — неба, «праўда зерня» — «праўда барацьбы», памяць продкаў — нацыянальнае бяспамяцтва, вера — бязвер'е, гармонія — хаос і інш. Пакідаючы перамогу за светлымі сіламі, пісьменнік пастулюе канцэпцыю свету, заснаваную на пераадоленні хаосу і сцвярджэнні прыроднай гармоніі, спрадвечных маральна-духоўных каштоўнасцяў народа, высокіх гуманістычных ідэалаў. Вера ў будучыню, надзея на адраджэнне нацыі ўвасабляецца ў метафары агню: сімвалічны вобраз агню (ці не самы «знакавы» паэтычны вобраз В. Зуёнка), які ўзнікае ў фінале паэм «Сяліба», «Прыцягненне», «Лукам'е», «Падарожжа вакол двара», з'яўляецца ключавым для раскрыцця эстэтычнай і светапогляднай пазіцыі пісьменніка.

* * *

Напрыканцы ХХ стагоддзя В. Зуёнак выступіў у якасці пісьменніка-празаіка: у друку пачалі з'яўляцца яго творы з не зусім, аднак, звычайным для прозы жанравым вызначэннем — «элегія». Традыцыйна ў літаратуразнаўстве гэтым тэрмінам называюць лірычныя вершы, у якіх выяўляецца смутак, туга, меланхолія, выкліканыя асабістым няшчасцем ці сацыяльнай неўладкаванасцю. Тым не менш В. Зуёнак невыпадкова так назваў сваю прозу, на яго думку, гэта вызначэнне «найбольш поўна ахоплівае створаную аўтарам рэальнасць — ланцужок жыцця чалавечага, дзе пераважае смех праз слёзы, і фінал — шчымліва-сумны (прынамсі, для гэтага, канкрэтнага чалавека), а то і трагічны… Элегія жыцця».

Асабліва моцна трагізм жыцця выяўляецца ў творах, прысвечаных лёсу сучаснага «маленькага» чалавека: «Супоня», «Штаны», «Чаравікі для баўэра», «Электрашокер», «Гіпноз», «На парукі…» Іх дзеянне развіваецца на шырокім «эпічным» фоне: трывожныя сталінскія гады і вайна, гарбачоўская перабудова, водгукі Чарнобыля, сённяшняе жыццё беларускай вёскі з яе п'янствам, экалагічнымі праблемамі, неперспектыўнасцю. Аднак аўтара цікавіць не столькі стан знешняй рэчаіснасці, колькі ўнутраны свет героя. Пісьменнік пранікае ў яго душу і бачыць там разгубленасць, абыякавасць, бязвер'е — менавіта таму яго элегіі трывожныя, тужлівыя, напоўнены болем за чалавека, якога аўтар узводзіць у звышкаштоўнасць. (Дарэчы, ці не ўсе элегіі маюць канкрэтную геаграфічную прывязку да радзімы В. Зуёнка — Узбор'я, Веснагоркі, Начы. Узнікае ўражанне, быццам аўтар занатоўвае

рэальныя здарэнні, у мастацкай форме пераказвае сапраўдныя гісторыі жыцця сваіх землякоў, стварае свой, узборскі, летапіс.)

Не паспяшаемся, аднак, сцвярджаць, што да прозы пісьменнік звярнуўся ўжо будучы сталым майстрам. Гэта не зусім так: празаічныя творы былі «абнародаваны» напрыканцы мінулага стагоддзя, пісаць жа іх аўтар пачаў яшчэ ў пяцідзесятыя гады. Для В. Зуёнка проза тады была своеасаблівымі ўцёкамі ад нарматыўнасці і апісальнасці, якіх пакуль што не пазбавілася паэзія. «“Практыкавацца ў прозе”, — зазначае пісьменнік, — я пачаў быў даволі-такі даўно — гадоў сорак з гакам таму… А падштурхнулі мяне да гэтага кроку тагачасныя патрабаванні да вершаванай “прадукцыі”: ніяк не мог я патрапіць у тон, якога вымагалі газетныя кансультанты… Вось тады і намерыўся “закапаць свае таленты” і паставіць крыж над магілаю рыфмаў…» Жыццё ўсё расставіла па сваіх месцах: В. Зуёнак стаў адным з самых цікавых і яркіх паэтаў нашага часу, але і проза не адпусціла яго.

Прынамсі, «родам» з пяцідзесятых элегіі «Аднойчы на схіле неба…», «Дзяцей шкада…». Гэтым жа часам датуюцца першыя «подступы» пісьменніка да твора «Паўстанак з літарай “Л”», завершанага ў 1999 годзе. Эмацыйную атмасферу элегіі вызначае пачуццё настальгіі па юнацтву. Тут, як і ў паэме «Маўчанне травы» і многіх лірычных вершах, адбываецца сумяшчэнне двух часоў, спрацоўвае прынцып двайнога бачання. На пачатку твора дзейнічае лірычны герой, студэнт педагагічнага вучылішча (а гэта сам аўтар у юнацтве): ён «пракручвае» ў памяці ўрок, прысвечаны вывучэнню літары «Л», які прынёс яму радасць і задавальненне, успамінае вучаніцу Лену… І не здагадваецца, што «“замацаваная” літара ўжо займела сваё, асабістае і таемнае, жыццё…» Літара напомніла пра сябе пісьмом, атрыманым студэнтам напрыканцы навучальнага года: «“Мы сумуем па вас…” І подпіс “Лена”…» — шчырым дзіцячым прызнаннем, прыхаваным за выратоўнае «мы». У фінале твора маналог юнака працягвае ўжо сталы чалавек — пісьменнік, усё сказанае раней і ўспрынятае як «цяперашнасць» пераводзіцца ў разрад успамінаў. Праз шмат год, калі аўтар зрэдку праязджае праз знаёмы паўстанак, у яго душы ўваскрашаюцца пачуцці таго дня — два часавыя адрэзкі, дзве часткі твора зніто ўваюцца адзіным матывам: пачуццём радасці. Аднак радасць азмрочваецца настальгічным сумам ад разумення таго, што нічога і ніколі не вернецца, не паўторыцца: «Толькі ведаю — пісем адтуль мне ніхто не напіша… Не бывае пісем з юнацтва…» Па ўсім відаць, колішняе імгненне жыцця засталося ў памяці і сагравае душу.

Вялікую ўвагу пісьменнік надае музыкальнай арганізацыі тэксту, выразнасці рытмічнага малюнка. У прозе В. Зуёнак віртуозна абыходзіцца з багатым лірычным інструментарыем, выкарыстоўвае

ўласна паэтычныя сродкі — паўторы пэўных спалучэнняў слоў, інверсію, недагаворанасць, — дзякуючы чаму ствараецца ўзрушаная інтанацыя, прачула-пяшчотная лірычная атмасфера.

Лірычная танальнасць уласціва іншым узорам празаічнага плёну В. Зуёнка — эцюдам і эсэ. Многія з іх невялікія па аб'ёму (гэта датычыць у першую чаргу эцюдаў), маюць вольную кампазіцыю, устаноўку на размоўную інтанацыю, падкрэслены суб'ектывізм у думках і ацэнках, іх мова вобразная і афарыстычная, а ўсё гэта з'яўляецца характарыстычнымі рысамі эсэ як жанру. Па форме празаічныя творы В. Зуёнка нярэдка нагадваюць асабістыя занатоўкі, запісы «для сябе». Зместавы дыяпазон іх надзвычай шырокі: пейзажныя замалёўкі («На хвалях лясной дарогі…», «Ляцела зярнятка…»), лірыка-філасофскія мініяцюры («На чоўне месяца…», «Далёка — блізка…»), этымолага-лінгвістычныя нататкі («Цівалі», «Прывезенае і згубленае»), развагі над тэкстамі класікаў і сучаснікаў…

«Малая» проза В. Зуёнка мае вельмі трывалы лірычны грунт. Калі, напрыклад, мініяцюры А. Разанава носяць пераважна філасофскі характар, творы С. Дубаўца вызначаюцца публіцыстычнай завостранасцю, то В. Зуёнак у эсэістыцы ідзе шляхам Я. Брыля, прызнанага майстра менавіта лірычнай мініяцюры. Брылёўская школа адчувальная ў многіх Зуёнкавых творах. Эцюды пісьменніка, як і творы яго старэйшага калегі, — гэта «сонечныя промні», што надаюць звычайным рэчам і з'явам нечаканае асвятленне.

Прасочваючы тэндэнцыі развіцця «малой» прозы, даследчыца Г. Кісліцына звяртае ўвагу на адну з дамінантных рыс сучаснай эсэістыкі — збліжэнне з крытыкай, літаратуразнаўствам. У дачыненні да мініяцюр В. Зуёнка гэтая заўвага надзвычай актуальная. Многія творы з'яўляюцца своеасаблівымі літаратурна-крытычнымі нататкамі, якія ўтрымліваюць каштоўныя ўспаміны пра сустрэчы з пісьменнікамі і вынікам іх працы. В. Зуёнак разважае над тэкстамі айчынных і рускіх пісьменнікаў, пранікае ў таямніцы іх творчай лабараторыі, спрачаецца з некаторымі момантамі… Паэтыка лірызму актыўна паўплывала на літаратурна-лінгвістычныя мініяцюры В. Зуёнка, мастацкі, «нябесны» погляд у іх спалучаецца з навуковым, «зямным». Заўважаецца іх стылістычная роднасць з эсэістыкай М. Стральцова: абодва аўтары выступаюць у першую чаргу як творцы, паэты, а толькі потым — як літаратуразнаўцы і крытыкі. Эсэ і эцюды В. Зуёнка самі ўспрымаюцца як Паэзія, сведчаць пра шырокі кругагляд і багаты жыццёвы вопыт пісьменніка, выяўляюць глыбіню яго думкі і літаратурную дасведчанасць, раскрываюць перажыванні мастакоўскай душы.

* * *

За ўжо амаль паўвека працы ў літаратуры В. Зуёнак стварыў свой непаўторны мастацкі свет, па-гаспадарску, рупліва збіраючы словы, узвёў уласную — паэтычную — Сялібу. Эмацыйны эпіцэнтр яе жыцця, напэўна, знаходзіцца недзе побач з Мачулішчам, на малой радзіме пісьменніка: адтуль сілкуецца яго шматфарбная, разнастайная ў праблемна-тэматычных і жанравых адносінах творчасць. Каб судакрануцца з багатым набыткам гэтай Сялібы, з нязменна глыбокімі, таленавітымі, па-майстэрску дасканалымі лірычнымі вершамі, паэмамі, празаічнымі творамі, варта ўсяго толькі адгарнуць кнігу, дзе на вокладцы пазначана: «Васіль Зуёнак».

*Наталля Заяц*

# ВЕРШЫ

## З ВАЙНЫ…

Суседкі дачакаліся сыноў
І выглядалі-радзілі нявестак.
А сын яе дадому не прыйшоў.
Прыйшло кароткае:
«Прапаў без вестак…»

Сябры пасмуткавалі, землякі,
Слязу змахнула ўпотайкі дзяўчына:
Не вернецца… Знаць, лёс яе такі…
Ды толькі сын для маці не загінуў.

Знаходзіць маці тысячы прычын,
Чаму так доўга сын яе ў дарозе,
Чаму не йдзе разгладзіць ёй маршчын
І высушыць на родным твары слёзы.

Яна між рэчаў самых дарагіх
Кашулі сына беражна хавае,
Святочным днём падоўгу каля іх
Стаіць,
гамоніць з імі,
плача і ўздыхае…

І ёй успамінаецца тады,
Як сын казаў: «Вярнуся, не загіну,
Чакай мяне… Чакай!..»
Ідуць гады,
І кожны дзень чакае маці сына.

*1955*

## ПАЧАТАК

Яго лічу не з той пары, калі
Я ад калыскі да стала праклыбаў,
Калі ўсе сцюжы для мяне былі
Малюнкам хітрым — шэранню на шыбах…
Мой шлях, напэўна, ў той пачаўся дзень,
Як маці мне сабрала хлеба-квасу
І, агуркоў ашчадзіўшы ў кішэнь, —
Каб не ўпадаў у грады самапасам —
Сказала перад гуртам малышоў:
«Шануйся, — працаўнік цяпер ты ў хаце…»
І з гонарам нязвыклым я пайшоў
За статкам зброддлівым галёкаць і ганяцца…
Ну і паганы ж бог гусей стварыў!..
Во папасці б яму сваю «жывёлу»!
На неба сёмае махнуў бы без пары,
Падпаскаў прыхапіўшы ўсіх — анёлаў…
Так думаў я… А восень неўпрыкмет
На покуць сядзе, весела даводзіць:
«І ўсё ж твой Бог памазгаваў як след:
Чаму не жыць са скwáрынкай у згодзе?..»
Даўно было ўсё…
Сталасць настае…
Я знаю Бога!
Я — малюся
Ўсясільнай працы, хлебу на стале,
Рукам мазолістым —
Малюся!

*1956–1962*

## УСПАМІН

Мачулішча…
Відаць, і пры Ярыле
Ільны ў нас сеялі,
Вымочвалі ў Мачыле.
Бель-кужаль пралі, ткалі, вышывалі,
Кашулі ў кайстры
Напамінкам клалі.

…Спадаюць ручаінкі —
Дзве дарожкі:
Блакітны лён і васількі-валошкі —
Узор няхітры,
Вышыты табою,
Што дзень і ноч не ведала спакою…
Завіхалася ды шчыравала,
Абдымала ды мілавала…
О рукі,
Рукі ў ільняной старонцы, —
Духмянасць поля і гарачнасць сонца.
Мачулішча — блакіт палёў —
Нябёс —
Блакіт вачэй — блакіт туманны
Слёз.

*1962*

* * *

Ніхто не пачуў:
Яблык упаў дасвеццем —
Ля Халопеніч,
                    на Беларусі.
Ніхто не пачуў —
Ні людзі,
            ні травы,
                        ні вецер…
Ніхто.
А шар зямны
Здрыгануўся…

*1963*

## ПОМНІК

— Што ж ты, бярозка, сокам гаючым
Не акрапіла іх раны?..
— Позна я,
                позна ўзрасла па-над кручай:
Хлопцы даўно пахаваны…

— Што ж ты, матуля, слязьмі не размыла
Жвір гэты, смутак чорны?..
— Доўга я,
доўга ішла да магілы —
Слёз не данесла,
Слёз не хапіла,
Слёзы ссушыла мне гора…

— Што ж ты, матуля, гневам пякельным
Жвір тады не спапяліла?..
— Гнеў скамяніўся мой…
З гневам каменным
Так і стаю над магілай…

*1963*

* * *

Прыбой ліловы — цвет-прываба:
Чмялёў басы і восаў звонь,
І ад узятку пчол аслаблых
Апошні джалісты агонь.

Мёд верасовы
заварыўся!
Датлелі смолкія карчы,
На кадзях поўных раздаліся
Арэхавыя абручы.

І загуло ў бары вяселле!..
Я госцем быў там. Верасы
Падносілі ў карцах мне зелле —
Трапляла ў рот і на вусы.

Па барадзе цякло таксама, —
Усё, як водзіцца здаўна!..
Звон!
Звон стаіць над верасамі,
Льюць верасы пітво спаўна —

Усім, усім…
А мне — тры меры:

Тых частаваць,
                    хто не паверыць.

*1963*

## ЧЫРВОНЫЯ ВЕТРЫ

Бывай,
          маё лета,
Бывай,
          мая песня!
Чырвоныя ветры
Гуляюць па лесе.

Сядлаюць пры зорах
Стаеннікаў-коней.
Галёкнуць,
               прышпораць —
Мароз не дагоніць!

І я не трымаю:
Нясіце па свеце
Надзею —
               аб маі
І песню —
               аб леце…

*1963*

## КНІГАЎКІ

Вы чайкамі ўзляталі з рыжых купін —
Мой карабель праводзілі ў дарогу…
Вярталіся — і свой жа клопат рупіў, —
«Кі-гі» тужлівае гайдаючы над логам.
Я разумеў вас, кнігаўкі:
                                        начамі —
Праз нетры, праз вякоў напластаванні —
Вы морам трызнілі.
                              Аб купіны з адчаем

Вы біліся, прачнуўшыся ўранні.
Над чортавымі вокнамі, стаўкамі,
Як перад штормам, голасна крычалі
І, нібы ў мора,
кідаліся каменем —
Трыццатае калена белых чаек…
Я разумеў вас, кнігаўкі…
І вы мне
Ключы далі да ўсіх сваіх сакрэтаў.
І толькі аднаго я ў вас не выменяў,
І аднаго я не спасціг дагэтуль:
Ад сілы вашай і ад вашай веры,
Ад памяці — глыбокай і бяскрайняй —
Дзе ключ хаваецца? Дзе тыя дзверы?..
Скажыце… Я не выдам тайны…

*1964*

## ІДУЦЬ ДАЖДЖЫ

В последний раз —
опомнись, старый мир!

*А. Блок*

Ідуць дажджы.
А травы жухнуць,
Грыбы хаваюцца ў зямлю.
Ідуць дажджы злавесна, глуха,
Рунь заганяюць у раллю.
Ідуць дажджы.
А птушкі млеюць
І нема падаюць на дол.
Ідуць дажджы…
І ліст лілеі
Над смерцю рыб — хаўтурны стол.
Ідуць… І стронцыю удары
Цвікі ў дамоўкі б'юць і б'юць…
А ў небе хмары,
хмары,
хмары…

Ідуць дажджы…
Дажджы ідуць…

*1964*

## СТАРЫ ЦЕЦЯРУК

Нотным кавалерам
Ходзіць па чысціку,
Ля малодкі шэрай
Сцелецца лісцікам:
— О з цяцер цяцера,
Перад боем
Прысягаю пер’ем:
Станеш маёю!
Быў і буду Богам я
На такавішчы.
За цябе — любога
Спляжу,
знішчу.
А яна, шэрая, —
З цяцер цяцера:
«Квох» ды «квох» —
не веру я.
«Квох» — не веру…
«Квох» ды «квох», —
смяялася —
Нарабіла сораму…
Сэрца ўзбушавалася
Пад крылом чорным!
І сышлася сіла —
Грозныя сапернікі.
Захвасталі крылы,
Як у лазні венікі.
За адзін золак
Перамог
такі ўсе,
Урачыста-голы
Перад Ёй з’явіўся…
Ні штаноў, ні фрака…
Дзе краса былая?..

— Хто ты, небарака?
Знаць цябе не знаю!
— Гэта ж я!..
З бойкі!.. —
Цецярук клянецца.
А яна
як войкне,
Як засмяецца,
А яна,
шэрая, —
З цяцер цяцера:
«Квох» ды «квох» —
не веру я.
«Квох» — не веру.

*1964*

* * *

Тры вышыні,
тры сілы знаю ў лесе:
З камлёў — сталёвая,
дзе мох бароды звесіў;
Другая —
песняй звонкай —
пасярэдзіне,
Дзе сонца захлынаецца ад медзі;
А ля аблок —
у гойданцы зялёнай —
Жыцця пачаткі
правяць цуд штодзённы…
З камлёў тугіх
спрадвек вянцы вязалі,
З балоняў
звонкія цымбалы выразалі,
Ўзляталі думкай да вяршынь
паэты —
Пазнаць
імгнення і жыцця
сакрэты…

Такім я знаў цябе…
                    А тут жахнуўся:
Не ўцяміў — дзе я…
                    І не ўцямлю, мусіць:
Рабрыстыя — ў падсочках,
                    нібы здані, —
О сосны,
        хто прыдумаў вам Майданак?!
Хто цвёрдаю рукой падрэзаў жылы,
Жывіцу цягне з вас —
                    жывую сілу?..
Знайду!
        І перад вашым, сосны, вечам,
На тым судзе —
                лясным і чалавечым —
Спытаю гнеўна —
                хай адказ трымае:
Чаму
    дух смольны з нашых хат знікае
І гніль вянцы бярэ?
                    І гэтак вяла
І глуха так
            чаму пяюць цымбалы?
Чаму ў паэтаў паніжэлі думы,
Не вырвуцца ніяк з пустога тлуму?..
І калі ён змаўчыць,
                    дык вы — крычыце!
Крычыце, сосны,
                сосны, не маўчыце…

***1965***

* * *

У прымыльніку — мыліцы
                    і пратэз,
Нага са скрыпам хромавым…
Не пусціў гаспадар, без яе палез
На палок дубовы, стагромавы.

Сячэ гаспадар — то па левай, то па…
І раптам венік зрываецца…
Дваццаць год,
                    як на дзве гаспадар не ступаў,
Дваццаць год — памыляецца.

Паслухай, пратэз, не крыўдуйся, брат:
Хоць ты служака і верны —
Не лезь у вочы, калі на палку салдат:
І без цябе душу пераверне.

***1965***

## ПОЎДЗЕНЬ

Аднойчы здарыцца такая
Хвіліна
          ў год, а можа, ў пяць:
Ніхто цябе не пагукае
І не падумае гукаць.

Усюды поўдзень — кубак поўны,
Гарушка ліпеньскага дня.
Яшчэ Ілля — прарок галоўны —
Не кінуў у ваду лядня.

Тэлеантэна, як трызубец,
Ліня цікуе,
               а дубы,
Зялёнага пастаўшы дуба,
Халодзяць у стаўку чубы.

Радар сланечніку адключан:
Абрыдла галавой круціць…
Прыжмурыш вочы — рып уключын
Так і карціць, так і карціць…

Гарбуз, размораны спякотай,
Кульнуўся нема пад пляцень,
У бусла перасохлі боты —
Марнуй цяпер на змазку дзень…

Лятак б’е духам, як чалеснік,
Басіць мядовы унісон,
І кот ад ластаўчынай песні
Нервова ўздрыгвае праз сон.

*1968*

## ПЕРШЫ ГРОМ

Як бухне той бубен вясновы,
Напне навальніца гужы,
Пакінуўшы хованак сховы,
На выган маленства бяжыць —
У сто перакрутаў куляцца,
Дзе спее рамонкавы дым,
Каб грозных грамоў не баяцца
Ні сёлета, ні праз гады.
А неба спагадна вуркоча:
Забудзь на пасаду і чын,
Хоць поступ паважна-прарочы —
Кульнуцца ёсць многа прычын!
Вы толькі — нікому нічога
(А скажаце — пеpажыву):
Як некалі, зноў басаногі
Качуся клубком у траву!
Куляюцца дрэвы і хаты,
То неба сінее, то бэз.
А гром — аблачынна-калматы —
Марудна сплывае за лес.
Па гулкіх ярах і лагчынах
Узахліпкі мчацца руччы,
І неба з вясёлай ляшчыны
Вясёлыя гне абручы.

*1971*

* * *

Сплывае гук, а думка застаецца —
Як дрэва ў шалясценні залатым.

Вось так і мой аднойчы ліст сарвецца
На рубяжы маўклівай цемнаты.

Не трэба слёз. І слоў не трэба плоскіх…
Над пылам прыдарожнае травы,
Над росстанню хай прагучыць Чайкоўскі.
Не ўчую, можа, я — дык чуйце вы!

Праз небыццё ўсплывуць акорды Шостай
І вынесуць на тую быстрыню,
Дзе адзвініць блішчастай медзі поступ,
Каб зноў вярнуць бяздушна ў цішыню.

Пяском шархоткім сыпанецца скерца
На вечка, нібы лівень малады.
І ўспыхнуць, як вясёлкавыя шкельцы,
Пакінутыя мной мае гады.

Над галавой нявысненая песня
Кружыцца будзе ціха… Так парой
Лунае птах, садзіцца ў паднябессі
На крону, што ўжо знішчана пілой…

Разыдуцца сябры хадой няцвёрдай.
А мне — адвечны хлеб, на кожны дзень:
І цені, як застылыя акорды,
І музыка, халодная, як цень…

Ды часам адзінокая жанчына,
Дзе ўзносіць камень шэрае плячо,
Панікне на далонях успамінаў
Бяссоннаю тугою — снегам шчок.

*1971*

## ПЕСНЯ

Вы чулі салаўёў надрэчных?..
Без песні той і я
аглух…
І трызніць даўнім-даўнім нечым
Пласцінкі грамафоннай круг.
І хісткім ноевым каўчэгам

Плыве
          зялёны гай адзін,
Што салаўя прыгрэў начлегам
І на пласцінку пасадзіў.
Круціся, шэры летуценнік,
Іголкай прама ў сэрца бі!
Забытай песні дзіўным ценем
Трывогу ў сем кален трубі:
«Аб чым ты, круг, раскажаш сыну?
І што — калі не адвяду
Ад той апошняй, салаўінай,
Ад песні — тапароў бяду?..»

*1971*

* * *

Здзіўленне —
                    подых абнаўлення,
Пункціры —
                    абяцанне адкрыцця…
Хвала табе, бунтоўны дух сумнення,
Хвала табе, вандроўніцкі прасцяг!
Не знаю сам —
                    зацяты дамасед —
Які мне вецер развінае крылы
І цягне цягам у няблізкі свет
Якая ненатоленая сіла?

Насустрач дням, што з небыцця ірвуцца,
Імчыце, самалёты, караблі!
Не дайце з тымі днямі размінуцца —
Іх трасцу потым купіш за рублі.
Паклон мой небу і паклон багам,
Якіх за бараду яшчэ не ўзяў я,
Паклон мой акіянскім берагам
І завадзям рачулкі плыткай Гайны.

Што ў днях мне тых!
                              Ніхто не абяцае
Удачы і багатага жніва.
Адно на развітанне — крыкі чаіц:

«Куды ты зноў, перакаці-трава?»
А я іду. Не свет здзівіць.
Я сам
Іду здзіўляцца гэтым дзіўным светам.
Мне краю роднага і подзвіг і краса
Выразней бачны з далячынь планеты.

Хай песняю сяброўская бяседа
Чаруе: «Заставайся назусім».
Спявайма, хлопцы:
я — за песняй следам!
Дамоў, дамоў — даволі калясіў.
З дарог якіх бы пыл ні атрасаў —
Я сэрцам ад цябе не адарвуся,
Узлётнае сцяжынкі паласа
Паміж палёў жытнёвых Беларусі.

Хвала здзіўленню!
І перад квяцінкай
Я на калені моўчкі упаду…
Глыток вады, апошняя скарынка, —
Абы вось тут, пад гэтай аблачынкай, —
У родных траў і птушак на віду.

*1973*

## ЛІВЕНЬ

Вы не бачылі часамі,
Як, напіўшыся з крыніц,
Вырастаюць за лясамі
Горы спелых навальніц?

Вырастаюць і хістаюць
Над сабой блакітны звон
І агністымі хвастамі
Хвошчуць сонца наўздагон.

Іхнія — зямля і неба!
Прэч з дарогі, прэч усе!..
Вецер спуджана і нема
Страпянецца на страсе.

Ліст вусцішна залапоча,
Пыльны выскачыць віхор,
Певень, быццам супраць ночы,
Пракрычыць апошні збор.

Блісне ў твар халоднай крэскай,
Свет закрые дацямна —
І з грымотамі і трэскам
Рухне чорная сцяна.

Б’юць руччы па каляінах —
Ці дарога, ці рака?
І азон з душком палынным
У пакоях заблукаў…

Перамые, прапалошча,
Нібы ў новай лазні дзед,
Свет запыленыя мошчы, —
Як народзіцца на свет!

Цішынёю ахінуцца
І нябёсы, і зямля.
Ні травінкі не шапнуцца,
Ні жыцінкі — у палях…

Ані спрэчак, ані звады
У птушынае гурмы,
І за мройным даляглядам
Спяць натомлена грамы.

*1974*

* * *

Узнацкі шлях —
Чатыры кіламетры —
Мае сябры,
Мае дажджы і ветры.

Чатыры знакі
Над маім сусветам…
Шляхі, шляхі, —
Пазначаны вы ўсе тут.

Вось гэты —
Самы юны і кароткі —
Да веснічак драўляных
Сямігодкі.

А ля яго —
Як чорны шнур:
Па гэтым
Вайну прынёс
Дзяжурны з сельсавета.

Яшчэ адзін…
Маўклівы і зацяты —
Бясконцы шлях
Да развітання з татам.

А ўпобачкі —
Вясёлкаю іскрыцца:
Унук да бабкі
Едзе са сталіцы…

Узнацкі шлях:
Мой шлях да маладосці
І новы шлях —
Да маладосці ў госці.

Узнацкі шлях:
Вязьмо маіх дарог,
Вязьмо надзей,
Чаканняў і трывог…

Іх сотні сот
На гэтых каляінах:
Удосталь мне
І ўдосталь будзе сыну.

Іх круцяць крута
Часу лемяхі,
Каб прарасталі
Новыя шляхі.

*1974*

* * *

Пакуль у неба б’юць пад’ёмы
І час пружыніць павады,
Не ведай радасці і стомы,
У мітульзе не траць гады.
Хай радасць слабага пацешыць,
Піжона стома падсячэ,
А нам не варта носа вешаць:
Усё наперадзе яшчэ!
Твары спрадвечны круг мазольны:
Ары і сей, гадуй і жні.
У пустамоўнасці застольнай
Засекі дум не спаражні.
У працы — сэнс, і плён, і праўда,
І запавет, стары, як свет:
Каб ніва ўладжвалася спраўна
І не буяніў пустацвет.
І з іншай радасцю не знацца —
На ўсё жыццё — адзін урок:
Хлеб не расце пад гром авацый.
І ў гэтым — тайна. І зарок.

*1975*

## З ГАЗЕТНЫХ АБ’ЯЎ

Дзе яна, дзе ў нашым Мінску?
Дзе хоць бы след яе?! —
Валам коцяцца ловы:
Шукаецца машыністка,
Якая ведае
Беларускую мову.

Як снежнага чалавека —
Ау-у-у! —
Як дапатопнага мамanta,
Яе — над бурлівым векам —
Схапіўшыся за галаву,
Аб’явы гукаюць з лямантам.

Крычыць газетны абрус.
А я за ўсімі бедамі
Чакаю аб’явы новай:
Шукаецца беларус,
Які ведае
Беларускую мову.

***1976***

* * *

«Гыля, гыля, гусанькі,
Да ракі…»
Дзе мае хаўруснікі-
Дружбакі?

Кульба часу топчацца
Па спіне.
Ці гукаць вас, хлопчыкі,
А ці не?

Пэўна, не пачуеце
Ля кастроў
Пастушка-мачулінца
З-за муроў…

Як прыйду — без імені —
Я здалёк,
Ці пазнаеш ты мяне,
Васілёк?

«Гыля, гыля, гусанькі…
Дзе вы, дзе?..»
Ціха, нікагусенькі…
Хутка дзень.

Белы снег кружыцца —
З-пад крыла пух,
Што ў маёй падушачцы —
Нам, на двух.

***1976***

* * *

Жывеш, пакуль жывыя,
Хто нарадзіў цябе,
Хто на кругі зямныя
Праводзіў у журбе.

А пойдуць — і абдыме,
Прашэпча пустата:
«Ты — напалову з імі,
Ты напалову — там».

Жывеш — як часу даннік,
Надзея і працяг,
Нясеш цану пазнання
І смерці, і жыцця.

І з імі паяднаны
Той страшнаю цаной.
І дні ідуць за днямі,
А памяць — за труной.

*1978*

* * *

На скрыжаваннях Сусвету
Хто мы і колькі нас?
Пылінка. Малая пры гэтым.
Драбок галактычных мас.
А песня свая і мова
Нам дадзены недарма:
Народа няма напалову —
Ён ёсць ці яго няма.
І нельга забыцца, пазбыцца —
Яны не даруюць нам:
Мы з іх — як рэчка з крыніцы —
Выходзім насустрач сынам.
Выходзім насустрач нашчадкам
І на скрыжалі вякоў
Нясём не пагрозы і звадкі,
А мудрую памяць бацькоў…

Чыя ж гэта песня і мова
І хто гэткі знае народ —
Жывы, калі мёртвае слова
І голас пайшоў на зблот?

*1978*

* * *

Чаму гэтак цягне да зор?
Ці толькі адна невядомасць?
А можа, бязмоўны дакор,
Што мы адцураліся дома?

Зялёнай галінкай ляцім
Далёкага зорнага дрэва
І ў неба глядзім і глядзім,
Дзе крэўныя спеюць пасевы.

*1979*

## АГОНЬ

З прыродаю бязмежнай і адвечнай
Я крэўнасць адчуваю праз агонь.
У еднасці — ні меж, ні берагоў,
А ён — як абяцанне на сустрэчу.

Я — космас і пылінка. І між намі —
Адзін агонь. Як вечнасці уток.
Агонь узносіць — за вітком віток —
І ў памяць б'е хатынскімі званамі.

Агонь стварае і агонь руйнуе.
У кропельцы малой — стыхія спіць.
Пытае розум: быць альбо не быць? —
А над усім — адзін агонь пануе.

Згарае атам, і згарае дрэва,
Каб нарадзіцца зноў упершыню.

Натура вечная, а формы — ад агню,
Жыццё расце на сонечных сугрэвах.

Агонь узносіць і агонь звяргае,
То ён вядзе, то спальвае шляхі.
Ды ў выбуховым полымі стыхій
Жыццё расце, жыццё перамагае.

Згарае ўсё. І мы згарым таксама,
З прыродаю зліёмся, каб ізноў
Вярнуцца да вытокаў, да асноў
І пачынаць ад Евы і Адама.

Мы выраслі багамі на планеце,
Нясём у вечнасць розуму сяўню.
І ўсё ж… І ўсё ж — памолімся агню,
Каб ён людзьмі пакінуў нас на свеце.

*1981*

## ТАПОР

*Балада прагрэсу*

Як пачынаўся прагрэс?

Рос на зямлі лес.
Лес непрабудны,
                    лес непраходны,
Лес першабытна-свабодны.

Потым з'явіўся тапор,
Каменны абломак гор.
З'явіўся не сам —
                    хтосьці мудры прынёс —
І павярнуў чалавецтва лёс.
Бо вялікая сіла — камень,
Калі ён у час пад рукамі!

Шмат зрабіў каменны тапор
Для прагрэсу апор і падпор.
Заадно і людзям з-за вуха
Абухом па галовах бухаў.
Бухаў так,

не дзеля прагрэсу —
Дзеля маральнага інтарэсу.

І хаваліся людзі ў лес.

Гэта быў першабытны стрэс.

Потым стрэс прахапіўся новы:
З-пад ляза ляцелі галовы —
Панаваў жалезны тапор
З плоймай вострых братоў і сясцёр —
Алебардаў, сякір, бердышоў…

А прагрэс наперад ішоў:
Для галоў прыдумалі кулю.

Потым спраўна ў боты абулі —
У вайсковыя — грозны атам.

Тут ужо не схаваешся ў лес…
Прачынаўся атамны стрэс.

А тапор, наш стары памагаты?

Анічога. «Згарнуў» інтарэс:
Наваліўся тапор на лес.

З ім пайшла ў падручных піла —
Па ствалах, па камлях загула…

Уразаецца ў нетры прагрэс —
Расступаецца дзікі лес,
Лес непраходны, лес непрабудны, —

Блізка, блізка дзень яго судны…

І калі ўжо не стане лесу —
Значыць, будзе вяршыня прагрэсу.

*1981*

## КАЛІ ДАДОМУ ВЯРТАЕШСЯ…

Калі дадому вяртаешся
Жаўруковым, празвоненым полем, —
Капялюш пачціва здымаеш
Перад кожным кустом прыдарожным.

Калі дадому вяртаешся
Лугавою сцяжынкай,
Пратаптанай драчамі і кнігаўкамі, —
Расчулена шэпчашся
З травінкаю кожнай.

Калі дадому вяртаешся,
Руку пацiскаеш, як сябру,
Слупу тэлеграфнаму,
І падпяваць пачынаеш яму,
І пахваліш:
— Які басавіты!..

Калі дадому вяртаешся
І вуліцай роднай ідзеш, —
Кожным веснічкам,
Кожнаму ганку:
— Дзень добры! — гукаеш.

Калі дадому вяртаешся, —
Заімшэламу каменю,
Аб які збіваў у дзяцінстве
Босыя ногі,
Ветліва кажаш:
— Прабачце…

*1982*

* * *

Будзь заўсёды, як Радзіма, добры,
Будзь ласкавы, як яе трава,
Будзь высокі, без памкненняў дробных,
Як над полем неба сінява,

Прсты будзь, як калыханка маці,
Дбайны будзь, як сейбіт і ратай.
Нават калі ўсё на свеце страціў —
Заклінаю: гэта — не аддай!

*1982*

* * *

Як ад лёсу, ад хат не ўцячы:
Хоць крыж-накрыж на вокнах дошкі,
Хоць здзічэла брыдзе па начы
Да астылае печы кошка,

Хоць заплёў над дзвярыма павук
Свае сеці для мух няцямкіх,
Хоць без цёплых дзіцячых рук
Іржавеюць астылыя клямкі,

Хоць Адамамі ў гарады —
Нібы ў райскі сад — з пяцісценак
Мы бяжым — прагрэсу плады
Атрасаць па спакуслівых цэнах,

Хоць па клетках глухіх камяніц
Ладзім новага лёсу пачатак,
Нібы пальцы, што з рукавіц
Паразбегліся ў норы пальчатак,

Хоць часамі носім раба
У душы і як сябру верым,
Хоць і знаем: эпохі сяўба
Зерне кідае толькі наперад,

І хоць будучыню за грош
Не збываем нікому, —
ды ўсё ж —

Пасля стрэсаў і рэвалюцый
Мы да хат яшчэ мусім вярнуцца…

*1983*

## РАЗВІТАННЕ КАЛІНОЎСКАГА

Хто адгадае і хто адкажа, —
Пакуль маўчыць народ,
Якая праўда на сэрца ляжа
Мне праз тысячу год?

Адно толькі знаю: Бог нас пакінуў.
Страшней пятлі і турмы,
Калі мы ўсё яшчэ не краіна:
То край, то ўскраіна мы.

Адно толькі знаю: паўстаць за волю —
Сваю — павінен народ.
Іначай вольным не быць ніколі.
Рэкі ўзрываюць лёд.

Шляхі не купляюць за пяць капеек —
Бяруць іх жыццём сваім.
Бунт не на плошчы — у сэрцы спее
І памірае ў ім.

Пакуль застаецца з нашага стану
Хоць бы адзін жывы,
То не лічыце справу прайгранай.
Народ прад'явіць правы.

*1983*

## ЖАЎРАНКІ

*Амаль балада*

Той шнур у полі быў як на пацеху:
Па ярыне — агрэх каля агрэха.
Смяяліся з Данілы нават дзеці:
То плеш, то грыва на зялёнай шчэці.
Як быццам не саха ішла загонам,
А вепрукі ўзаралі шнур ягоны.
Ды не зважаў на кепікі Даніла:
А што — калі з ім неба гаманіла?
І што — хіба не любіць ён парадак?
Зусім, брат, не, — тут проста быў выпадак…

Выпадак, — хоць зусім не выпадковы:
Нарог жытло аб’ехаў жаўрукова.
Гняздзечка з яйкамі пашкадаваў Даніла.
А цераз год такое прываліла,
Што хоць на поле не выходзь з сахою:
Ад жаўранкаў аж не было адбою.
Усе Данілаў шнур аблюбавалі
І гнёзды — ад праталін зладзьбавалі.
«Агрэх — не грэх, — зноў разважаў араты. —
Няхай смяюцца — я не вінаваты…»
І зерне ў глебу кідаў ля наседак…
А песня — напярэймы, песня — следам,
А песня — побач, з-пад мяжы і з неба…
«Ат, і было б там з гэтых латак хлеба…» —
І пасміхаўся: слухаюць суседзі,
Хоць кожны з кпінамі агрэхі ўжо агледзеў…
Стаяў пад небам прадзед мой Даніла —
І за спіною прарасталі крылы.
І цешыўся: «Не пад’ясі ніколі, —
А песня во для ўсіх, над цэлым полем!»

*1984*

## ДЗЯЦІНСТВА БОР

Дзяцінства бор шуміць мне днём асеннім,
Вясной — смалістай песняю гудзе,
Адтуль, дзе мліва Дзед Мароз прасейваў,
Заснежанымі соснамі ідзе.

І на спатканне кліча безупынку.
На голас той і еду, і лячу…
Дзяцінства бор, прысядзем на хвілінку,
З табою на дарогу памаўчу —

Аб тым, што ўжо не вернецца ніколі:
Дзяцінства бор — прыходзіць толькі ў сне…
Бяскрыла спачувае наваколле
Апошняй старадрэвіне-сасне.

Лясіна не даклічацца лясіны,
І воды адышлі ад каранёў,

На салаўя сарока вучыць сына,
І шастае па гнёздах вараннё…

*1985*

## КУПАЛА

Раздарыла сыноў сваіх…
Дастаеўскі, Міцкевіч, Біруля…
З імі голас, і зрок, і слых
Аддавала ў людзі матуля…

Раскідала зярняты свае…
Слыў чылійцам вучоным Дамейка…
Дзе, якая гнёзды віе
Аж за трыдзевяць мораў зямелька?..

Нібы крык — авансцэны абрыў…
І каб маці ўтрапёна маўчала —
Гэтак голасна ў свет гаварыў
Шверубовіч з Вільні — Качалаў…

Хтосьці зблізку забыў… Хто здалёк…
І аднойчы маці сказала:
— Ты збяры, прысаром іх, сынок, —
І тады ў людзі выйшаў Купала.

*1985*

## ПОЛЕ

Поле — не толькі зямля,
Гэта і неба, і ветрык,
І васілёк, што здаля
Свеціць душою прыветнай.

Гэта і жаўранка спеў —
Першынца хмаркі вясёлай,
Гэта надзеі пасеў,
Мудрасці жніўная школа.

Гэта і дождж, што ідзе,
Каб з ярыной паяднацца,
Гэта бяссонне людзей
І хлебадайная праца.

Поле — не поле без нас.
І перапёлкаю ў жыце
Кліча:
— У першы свой клас, —
Дзеці, у поле бяжыце!

*1985*

* * *

Два ўзгоркі вёсачка мая
Галоўнейшымі лічыць:
Пагост магільны і маяк —
Прыцэл картаграфічны.

Стаяць упоручкі яны:
Адзін — прагрэсу база,
Другі — як сведка даўніны,
Загадка без адказу.

Як запытальнікі стаяць:
Парогаў невядомых
І адкрыцця… Не раз'яднаць,
Не зблізіць іх нікому…

Дзве кропкі побач. З вышыні
Іх сціплай — на паўсвету
Відно. Адно не праміні
Сцяжынку ў жыце светлым.

Яна выводзіць, нібы лёс
Ці як жыццё, — на грэбень,
Адкуль зямлі пакутны плёс
Цячэ-ліецца ў неба…

І бачыш сэнс усіх дарог,
Усіх удач нязбытных:

Яго данёс, яго збярог
Вось гэты колас жытні…

Стаіш у поля на віду,
А ўзбоч — крыжы, як люстры:
Ці не пускаюць, ці ідуць
З абдымкамі насустрач?..

*1986*

## АБ’ЯВА

Перакупшчыкі-старызнікі,
Аддаю свае гады —
Задарма, з адзінай рызыкай:
Зноў бы вырвацца туды,

Дзе ні рыфмаў, ні паседжанняў,
Дзе ні рыфаў, ні віроў,
Ні вымоў, ні папярэджанняў,
Ні прамоў на «будзь здароў!»,

Дзе суседкаю-сквалыгаю
Не спайманы ў агурках,
Па аблоках, як па выгане,
Ходзіць хлопчык на руках…

*1986*

## ЛЕТА ТРЫВОЖНЫХ ДАЖДЖОЎ

Ліпнёвую ноч бліскавіц паясы
Святлом абпраменьваюць рэдкім.
Ігліцай нейтроннай іскрацца лясы,
Чарнобылем пахнуць кветкі.

Сухое чаканне трывожных дажджоў
Стаіць на покуці ў лета.
Распяты на ценях касмічных крыжоў,
Бяздомна лячу над планетай.

«Што я нарабіў, — праклінаю сябе, —
Якія бяздонныя сілы
Я выпусціў, покуль бяздумна гарбеў
Над тайнаю, як над магілай…

Вазьміце, вазьміце ўсю тайну маю
За той васілёчак у жыце…
Я сам сябе — сам сябе! — не пазнаю:
Я д’ябал ці Бог — адкажыце…»

Ды глуха глытаючы вечнасці шум,
Нямко з электронным блокам,
Як смерць, адзінокі, глядзіць у душу
Гадзіннік трынаццатым вокам…

*1986*

## ХАТА

На шляхах апошніх сустрэч
Ідзе — за плячыма з ношкаю:

Свет пусты, не топлена печ,
І вочы забіты дошкамі.

*1986*

* * *

*Генадзю Бураўкіну*

Адкуль прыводзіць сонечны заход
Шчымлівых дум нястройныя чароды?..
Як быццам свет над прорвай стаў на дрот:
Ці пройдзе, ці сарвецца назаўсёды?

Ніхто не знае — ні чарот сівы,
Ні плёс з адбіткам аблачын чырвоных, —
Адкуль у неба гэткія правы,
Каб наш пагляд палоніць заімглёны?

Куды ляціш, маўклівы чалавек,
За чым імкнешся? Сонца зноў узыдзе.
— Я не за ім — я сам шляхі адсек
І толькі на сябе за гэта ў крыўдзе.

Яшчэ крыўдую, можа, на зямлю:
Што так яна мяне прываражыла,
Што так яе пакутна я люблю,
Што так намёртва мне звязала крылы…

Як гэтай рэчцы не спазнаць намер,
З якім яна плыве да акіяна, —
Так з берагоў яе імкне цяпер
Мой думны позірк, мной не разгаданы,

Да рысы той, дзе неба і зямля
У полымі сыходзяцца вячэрнім…
І смутак мой — бо гэта знаю я —
Што ад зямлі не будзе адрачэння…

Гляджу на развітальную зару,
Што лёс мой даляглядам перасекла,
І не малюся — з небам гавару.
А гэты міг — дастойны чалавека.

*1986*

* * *

У эпіцэнтры восені,
У беразняку,
Ліст з настылай просіні
Злятае на руку.

Зялёныя пражылкі,
Жаўтлявае крыло, —
Адбіўся, пакружыўся,
Ды ветрам не змяло…

Як свойская сініца,
На цёплую далонь
Даверліва садзіцца,
А з вачанят — агонь, —

Халоднага пажару
Трымценне і спалох,
Бярозавых стажараў
Прадснежаньскі парог…

*1986*

* * *

Храмы падаюць не раптоўна,
Не ад выбухаў дынаміту.
Мы найперш учыняем катоўні
Ім — каб сэрцам былі забыты.

Праклінаем, плюём, зневажаем,
Грунт падводзім з вучонаю пыхай,
І вытручваем кропелькі жалю
Мы ў сабе — незваротна, паціху.

І паўзуць забыцця метастазы
Па скляпеннях святых учарашніх…
Выбух будзе, але не адразу:
Храмы ў душах руйнуюцца нашых.

*1987*

* * *

У вераснёўскім лесе
Ветрык лісцём церусіў,
Як летуценнем імпрэсій
Музыка Дэбюсі.

Ціха было і ўтульна…
Ды раптам — той голас гусей…
Аб чым ён? Якую адтуль нам —
З-пад неба — вестку нясе?

Той голас, — ты чуў яго быццам,
Калі і цябе не было.

Ты чуў, бо не можаш забыцца.
Хоць год — мільёны сплыло…

Адкуль расстайная памяць
З усім храствам зямным?..
І холад касмічны паліць
Здагадкай, што мы не згарым…

Што мы ўсяго толькі ў выраі
І ў прадчуванні бяды
З зямлі карані свае вырвалі,
Ляцім — і не знаем куды…

*1987*

## ЖАНЧЫНА

Табе — пракляцце, і табе — хвала,
Табе — вар'яцтва і цвярозы розум,
А ты ўсё тая ж — як вякоў імгла,
Як летуценнай будучыні роздым.

Жыццё і смерць — і паміж імі ты:
Імгненне шчасця і сусветны холад.
Яшчэ ніхто — ні грэшнік, ні святы —
Не разарваў твайго сакрэту кола.

Шпурнеш у пекла ці адкрыеш рай —
Тваё каханне таямніцай будзе,
Як той, нікім не разгаданы, край,
Куды навечна адыходзяць людзі.

*1987*

* * *

Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!

*Ф. Багушэвіч*

Не дай мне бог духоўным стаць бадзягам,
Без памяці жывой, без каранёў,
Ісці бязмэтна за ілжывым сцягам
І верыць, што вяшчуе вараннё.

Народзе мой, не дай мне абмыліцца,
Маўчаць, як ты маўчаў цераз вякі,
І рабскаю рахманасцю хваліцца,
І падстаўляць для ўдару дзве шчакі —

Гісторыю, распятую на «крэсах»
І на заходніх-з-поўначчу краях,
І мову, што спрадвеку лёс накрэсліў,
Каб ты Купалы словам акрыяў.

Няўжо забыта ўсё, перазабыта —
Сыноў найлепшых светлы запавет?..
Не веру, што аднойчы з тварам сытым,
З духоўнай торбаю ты выладзішся ў свет…

Ці быў калі народ-самазабойца? —
Скажыце мне, вучоныя мужы…
Дык што ж цябе, не мота, не прапойцу,
Штурхае да апошняе мяжы?

Я ведаю: народы паміраюць…
Але такі — з Хатынямі ў душы,
Якому пекла можа здацца раем, —
Такі, як свет, павінен вечна жыць!

Не дай жа ў сэрцы зруйнаваць краіну,
Што на шляхах крывавых збудаваў,
Пайсці перараджэнца каляінай,
Што мову забываў ці забіваў…

Народзе мой, прабач дакор палынны, —
Ці мне сароміць і ці мне вучыць?..

Ты знаеш лепш, ты не падсудны сыну.
Але ці лепш, як здрадна сын маўчыць?

*1987*

* * *

Я думаў: жыць далей не стане сілы,
А вось жа — дыхаю, хаджу, тапчу траву,
Схіляюся над свежаю магілай
І, як праклён, шапчу: «А я жыву…»

Якім парадкам і якім законам
Смерць забірае нашых мацярок?
Куды яны, пакінуўшы да скону
Нам адчуванне пра апошні крок?..

Той крок, што абрывае нашу сувязь
З мінулым… І над вечнасцю нямой
Расстанне кіпцюрамі паласуе,
Нязбытнасць свой раскручвае сувой.

І роспачная памяць напярэймы
Выходзіць — як цяжкі дакор сынам.
Ды мы ляцім у розных вымярэннях,
І ўжо ніколі не сустрэцца нам.

І толькі голас… як варыла кашу
Сарока дзецям… будзе прылятаць.
А мамы — там, у будучыні нашай,
Якую нам не дадзена пазнаць…

*1989*

* * *

Апранулі ў апошняе маму,
Збераженае, з пахам крамным…
Свечкі след за аконнаю рамай:
На той свет пайшла тэлеграма.

І ляцяць мае думы няспынна:
Што табе тая прышласць тоіць?
І з дзяцінства — чародка ўспамінаў…
Як далёка было ўсё тое…

Я прытупваю на тапчане —
Скача радасць мая чапурная:
Мама лёлю пашыла мне,
Мама лёлю мне апранае…

Самы першы мой успамін:
Мне пашыла мама кашулю…
І сядзіць пасівелы сын:
Маму ў новае апранулі…

І агеньчык свечкі ў акне
Памнажаецца шыбай падвойнай…
І цяпер я памерці вольны:
Ты не ўбачыш сына ў труне.

Мне цяпер памерці не страшна:
Ты не ўбачыш смерці маёй.
І блукае мінулае наша
Над пустой, бязмэтнай зямлёй…

І ўжо свечка гарыць, ды не свеціць, —
Ноч мінае, збіраюцца людзі…
Пройдзе ўсё і паўторыцца ў свеце,
Толькі, мама, без нас тое будзе…

*1989*

## БЕЗ ЖАЎРАНКА…

Вось і вясна праходзіць,
А дзе яе першы званок?
Хто песню тую пашкодзіў —
Вырак які ці ўрок?..

Дзе першы вястун праталін
З сям’ёй у шэрым быллі?
Які там птушыны Сталін
Іх выселіў з роднай зямлі?..

Дзе тая радасць дзіцячая,
Якую мы ўсю зіму
Чакалі з краёў гарачых,
Печ маючы за турму?

Дзе вырай, што наперагонкі
Мы беглі вітаць басанож?
Хто горла нябесна-звонкае
Зацята пусціў пад нож?..

Я знаю, хто вінаваты, —
Мне ў полі вецер сказаў:
Гудуць у крыві хімікаты
І рэжуць вастрэй ад ляза…

На жаўранках і на дзецях
Зрываецца вышыня…
І не чуваць у леце
Шчэбету птушанят…

Пад гербіцыднай «мухаю»
Таксікаманы-палі
Ужо і не помняць, аглухлыя,
Дзе ўчора гнёзды былі…

Даўжэюць, цяжэюць ночы,
А песні я так і не чуў…
…Памру — сюды хоць аднойчы
Жаўранкам прылячу.

*1989*

* * *

Сцежка ласёў капытная,
Трубных рыканняў гукі.
З захаду ноч першабытная
Небу працягвае рукі.
        А на рагах ласіных,
        Як на антэнах сучаснасці —
        Ажно трасуцца асіны! —
        Цэзій чарнобыльскі шастае.

Агонь у целе бушуе
Атамнаю агоніяй
І ў белакроўным шуме
Гоніць лася пагоняю.
І ўжо не бачыць дарогі,
Прэ напралом сахаты —
Рэактар чатырохногі,
Энергаблок рагаты…
Зляканыя крышыць дрэвы,
Паветра ўдыхае прагна,
І свеціцца падчарэвак
Радыяцыйнаю багнай.
Нарэшце знямогла асядзе,
Крутыя асунуцца рогі.
І толькі пагоня ў паглядзе,
Ды тванню спутаны ногі…
І зоркі ў небе вячэрнім
На Млечным Шляху раяцца,
Як нашы бясконцыя чэргі —
Стаячыя дэманстрацыі.

*1989*

* * *

Над жытам дамоўку нясём.
Да Бога вузее дарога…
З сабою не возьмеш нічога
І толькі пакінеш — усё.

І мне падрахунак асобы
Не зведаць… Ды маю заклён:
Забраць бы з сабою Чарнобыль
І геназнішчальны фон…

*1989*

* * *

Гісторыі цяжкое памяло
Змятае ў небыццё манархаў прывіды, —
Здаецца, і жыцця ў нас не было,
А толькі пераходныя перыяды.

То эра — то карэнны пералом,
То вера — то бязмэтнасці сіндром,
То чыстка — то абдоймішчы з сатрапамі,
То перагібы — з новымі этапамі…

Шалёныя адлівы і прылівы —
І карабель на люкі ўсе задраены.
І толькі іншы раз даешся дзіву,
Што мы пры ўсім
                                        і жыць яшчэ ўмудраемся…

*1989*

## СПАЛЕННЕ

Патрэскваюць суха дровы —
Бяздымная абалонь.
Прымі мой дар папяровы,
Бяздумны дружа агонь.

Каб заўтра не знаць спакою,
Я песню табе аддаю.
І полымя гладжу рукою,
Як заклінальнік змяю.

*1989*

## ВОГНІШЧА. МЕСЯЦ. ВЕЧАР…

З-за баравой хмурынкі выйшаў месяц,
А ўнізе — мой агеньчык, як двайнік.
І ціхі покліч еднасці узнік,
Каб адзіноту нашу перакрэсліць.

Здароў, нябёс асуджаны вандроўнік,
Па лёсе мой закляты пабрацім, —
Давай неварухліва пасядзім
І вып’ем па самнамбулічнай поўні.

Патрэскваюць паленцы сухастою,
Вярэдзячы язычніцкі мой дух.
Сяджу, замкнуты ў гэты светлы круг,
Дзе памяць грэшная і полымя святое.

Перад якім спыніўся я парогам
Тут, на зямлі, на збітых камянях?
Што там, у небе, сведчыць Млечны Шлях,
Якую абяцае мне дарогу?

Стаіць мой друг,
стаіць — не зварухнецца,
Паглядам жар варушыць у кастры
І, тоячы касмічныя вятры,
Нязбытнай песняй мне насустрач льецца.

Люблю я гэтай музыкі свячэнне,
Я ў гэтых гуках чую цішыню:
Яны ляцяць іскрынкамі агню
І тонуць у адвечнасці вячэрняй.

Мелодыя агортвае шчымліва.
І раптам тайным халадком дыхне,
І нібы перад сконам ці то ў сне
Усё жыццё перабярэш імкліва…

Мне б у цябе вучыцца, дружа Месяц,
Не траціць час у тлумнай мітусні, —
Няўжо я свой прыход вякамі сніў,
Каб так усё бязмэтна перакрэсліць?

Не веру, хоць не ведаю, якая
Мяне планета прыме ў новы круг…
Касец у небе косіць зорны луг,
І хтосьці ў цемры жаласна гукае…

Гарыць касцёр, а музыка знікае…

*1990*

* * *

Хлапчук маленькі нацянькі
Бяжыць праз поплаў ад ракі
І маму радасна гукае.

Ці гэта ты?
Ці гэта я?
Ці гэта смерць бяжыць мая?.. —
Хоць знаю ўсё, але пытаю…

*1991*

## ФАНТАЗІЯ

Стракозы з вачыма касмічнымі,
Вялікімі, як ліхтары,
З надкрыллямі феерычнымі, —
Заглядваюць злёту ў віры.

Што бачыцца ў цёмных завоінах,
Што мроіцца ім з вышыні —
Такой недалёкай ад здвоенай
І страшнай, як ноч, глыбіні?

Садзяцца на лісце гарлачыкаў, —
Гайдаецца касмадром
І студзіць ім лапкі гарачыя
Сусветным зялёным святлом.

І мрояцца ім абяцаныя
Касмічныя гарады,
Падвойным адлюстраваныя
Адбіткам нябёс і вады.

Снуюць чаўнакамі караблікі
У сонечным ззянні арбіт,
І крылцы над станікам зграбненькім
Трапечуцца згадкай планід.

І шэпчуць мне штосьці крэўнае
Наборамі храмасом,

І з глыбіні падкарэннае
Мой лёс выплывае, як сом.

*1991*

* * *

Прыйшла беларусізацыя —
Другая на нашым вяку.
І круціцца на языку:
Што гэта: рэанімацыя,
Ці абуджэнне нацыі,
Ці толькі ўсяго эксгумацыя
На нейкім касмічным вітку?..

*1991*

## ПРАДВЕСНЕ

Вясна ўсё чутней і прыкметней:
Сумёт на сугрэве ажух,
І кот валачэ на штыкетнік
Праветрыць зляжалы кажух.

Развешвае ў садзе сініца
На голлі ільдзінкі-званкі,
І грак-халасцяк ажаніцца
Намерыўся — раз на вякі!

*1992*

## ВЕСТКА

Усё ў заснежаным здранцвенні,
Усё ў закутай цішыні,
Забыліся галінак цені,
Што ёсць на свеце карані.

Сінее інеюігліца,
Імгліцца сонечны скрылёк,

Ды ў зябкім голасе сініцы
Трапеча сіні васілёк.

*1992*

* * *

Перапёлка ў жыце,
Волкая расінка,
Я аддам сто жыццяў
За тваю слязінку.

Я аддам сто жыццяў,
А з табой вярнуся, —
Перапёлка ў жыце,
Знічка Беларусі.

*1992*

## ДАРОГА

Ад парога — сцяжынкай праз двор,
У траве-мураве цераз поле, —
Як устане, дастане да зор,
Ды ні слова не скажа аб долі.

Вы навошта, адкуль і куды, —
Не спытае ніколі ні ў кога.
Хто прайшоў, хто пакінуў сляды, —
Раўнадушна не знае дарога.

Быць удачы ці чорнай бядзе?.. —
Гэта ў нас памаліцца зазвычай…
А яна ўсё вядзе і вядзе
І ўсё некага кліча і кліча…

*1992*

## МЕЛОДЫЯ БУЛЬБЯНАЙ БАРАЗНЫ

Ад золкага ветру пальцы пакрэплі,
Ім бы нырнуць у дупло рукавічкі,
Як гэта робяць праныры-сінічкі,
Калі заснежыцца хмар атрэп’е
І гусі-бежанцы нікнуць, як знічкі.

А бульба зябка бялее ў барознах
На чорным загоне — як вокам акінуць,
І ў нізкім паклоне гнуцца жанчыны —
У шэрых ватоўках ніцыя лозы,
І пырхаюць пальцы, як над піяніна…

Бягуць баразной, як шукаючы песню,
Што весні жаўрук перанёс сюды з неба,
Схаваўшы пад сэрцам у цёплае глебы, —
І колькі ў пошуку launched
Баразнаў трэба — за грэбнем грэбень…

Асеннім эцюдам дзень вечарэе, —
І хто пачуе мелодыю тую,
І хто вас, пальчыкі, пацалуе,
І хто дыханнем сваім абагрэе, —
Хаця б тады, як са свечкай скрыжуюць…

*1992*

* * *

У тое лета чад гарачыні
І лёсы, і нябёсы затуманьваў,
І спусташэнні на зямлі чыніў,
І смажыў карасёў у тлустай твані.

У тое лета я за крокам крок
Сваё жыццё былое перакрэсліў.
У тое лета я даваў зарок
На д’ябальскі кірмаш не лезці з песняй.

Натоўпам, звар’яцелым ад бяды,
Пабанкаваць — ніжэйшая з амбіцый, —

Лепш паднясі сасмягламу вады
І дай травінцы высахлай напіцца.

*1992*

* * *

Дагарае на ветры мая залатая дуброва,
І Паўночная зорка адзіны кірунак дае:
Ён туды, дзе завея насупіла снежныя бровы, —
І ніхто не суцішыць халодную песню яе.

Будзе ўсё, як было, — замятаецца сцежка зямная,
І ніхто не заўважыць, як ты ў гэтай стыні згарыш.
Ды пачуе віну, што камусьці яшчэ замінае,
І драўлянай рукой сам сабе пераксціцца твой крыж…

*1992*

* * *

Дзе жаўранак — песня нагорная,
Дзе ластаўка — птушка саборная, —
Там побач, амаль што надворная,
Варона — прарочыца чорная.

Дзе неба — азёрнаю казкаю,
Дзе травы — зялёнаю ласкаю, —
Там хмара — прыблуда нянаская —
Пакровам смяротным заплятскала.

Дзе поле — як Біблія вечная
Быцця і жыцця чалавечага, —
Там шэпча дарога сустрэчная
Замову апошняга вечара.

Дзе пушчы адорвалі сілаю,
Дзе ветры займаліся крыламі, —
Там сёння над роднай магілаю
Душа мая кружыць астылая.

*1993*

## ВАЛУНЫ

Дзеці жвірыстых выдмаў —
Валуны і каменне, —
Ледавік вас раскідваў
Падталаю жменяй.

Цар над мацерыкамі,
Тут ён гнёт супакоіў,
Бо зямля ў нас такая
І сонца такое.

Там, дзе ляда і поле, —
Гор крамяністы высеў, —
Як нядоля і доля,
Вы з намі зрасліся.

У лясах воі з коп’ямі
Вам таемна маліліся.
Вас клялі і выкопвалі,
Дзе нарогі тупіліся.

Вас кувалдамі сваталі,
Вас цягалі да крушняў,
Вы ў падмурках пад хатамі
Лежыце непарушна.

Клалі вас у аснову
І да злыдняў прылічвалі, —
Валуны — нашай мовы
Зацвярдзелыя зычныя.

Кунакі вы Эльбрусу,
Хоць з паўночнае пашы, —
Вы душой — беларусы,
Вы з характарам нашым!

*1993*

* * *

Калі ўжо апраўдаць сваю прысутнасць
На гэтым свеце не змагу нічым:
Ні песняй, ні каханнем, —
хоць на суткі
Я ў Бога ўкраду ад жыцця ключы.

Ён не пакрыўдзіцца, ён зразумее, пэўна, —
Я не таму, каб ратавацца, — не:
Мне трэба толькі там пабыць — у спеўнай,
Прынацкай — не прымацкай — старане.

Я столькі ўзяў і з той зямлі, і з неба,
Што трэба мне, каб не параніць іх,
Вярнуць усё: аддаць назад ім трэба
Маё дыханне, памяць, зрок і слых…

*1993*

* * *

Якая таемная музыка:
З-пад лёду звонкім струменьчыкам
Крынічка ў спаднічцы вузенькай
Бяжыць па марозных каменьчыках.

Якая шчымліва-гаротная
Былінка трымціць над мелодыяй, —
Якая надзея смяротная,
Што будзе вясна ўзнагародаю.

І, пэўна ж, не размарожу я
Ды і суцешыць не ўмею.
Толькі — сляды мае пожняю,
Толькі — маўкліва нямею…

Схілюся, як перад Айчынаю,
Гляну ў крынічкіны вочы:
Усе гаварыць навучыліся,
Слухаць ніхто не хоча…

*1993*

* * *

Ніхто не чуў і не бачыў, калі —
Світанняў росных куміры —
Вяртаюцца з выраю салаўі
І адлятаюць у вырай.

Ні статкаў, ні вэрхалу, ні мітусні,
Ні лопату шумных крылаў, —
І раптам: песня, якой і не сніў,
Насцеж вясну адкрые!

І не пытаешся, хто і адкуль
У песеннай той арцелі, —
Верыш надрэчнаму лазняку:
Салаўі прыляцелі!..

*1993*

## АПОШНЯЯ МАЛІТВА ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

Я крывінка твая — крывічанка,
Я пылінка твая — палачанка,
Як над пожняй тужлівая чайка, —
Я лячу да цябе, Радзіма,
Са святога Ерусаліма.

Я лячу, ды не маю сілы
Узляцець, бо аслаблі крылы,
А не хочацца ж так у магілу —
На святой хай сабе — ды чужыне:
Смерць, як рай, у сваёй дамавіне…

Мне б тады — і жыццё не віною,
Што не сплачана цяжкай цаною,
І агні б сплывалі Дзвіною,
Як грахі мае, як правіны,
Прад табой, маім сонцам адзіным.

Я крывінка твая — Ефрасіння,
Нада мной неба сіняе-сіняе, —
Ападаюць крылы знясілена…

Забяры мяне, Маці, Сястрыца,
Ці прышлі хоць жменьку зямліцы…

*1993*

## АДЗІН

Кожны дзень страсае сотні стрэсаў,
Сыпле на сівую галаву,
Кожны дзень гняце пытанне прэсам:
«Ці я мёртвы, ці яшчэ жыву?..»

Круціць вечнасць д’ябальскія жорны, —
Толькі сам: ні жонкі, ні дзяцей,
Ды яшчэ застаўся прывід чорны —
Лёс яго, што за жыццё люцей…

Лёс, што ад жыцця не адпускае,
Хоць усё з жыцця даўно забраў.
Ты адкуль, бязлюдная такая,
Пустка між людскіх сусветных спраў?

Што ты, неба, так глядзіш маўкліва, —
Колькі ж трэба плакаць і маліць?..
Любіць Бог, — любімых асабліва.
Нелюбімых некаму любіць…

*1994*

* * *

Былі два ласунчыкі ў мамы,
Два коцікі — Барсік і я,
І вестку без тэлеграмы
Мы ведалі тую штодня.

Мы весела беглі на выган,
Каб з пашы сустрэць чараду
І першымі крыкнуць — не выгук,
А крык пераможны: «Іду-у-ць!»

Стараліся тут жа, як долю,
Угледзець сваю між кароў…
О, час той, калі сырадоем
Звінела і пахла з двароў!..

О, момант — як свята наступіць,
Хоць мама нязлосна ўпікне:
«Ну, так жа вам, коцікі, рупіць!..» —
І першым уважыць мяне…

І п’еш, і смакуеш да схочу,
І донца не бачна ў збанка,
І вечар заплюшчвае вочы
Ад белага малака…

*1994*

* * *

Падцягвае за ноч марозік лужыны,
Азяблы сад галінкамі пазвоньвае,
Гракі ўсчалі перасяленне — з войнамі
Мясцовага значэння: хто адужае?..

Нясмела, басаnож, ступае раніца,
А сакавік-гарэза чаравікі
Схаваў, — яму і клопат невялікі,
Што раніца ільдзінкамі параніцца…

*1994*

## БЛАСЛАВЕННЕ

*Васю*

У дзень Багародзіцы, Боскае Маці,
І ты свой прыход абвясціў —
Не ў роднай, а ў зводнай, радзільнай хаце
З маім блаславеннем:
— Расці!.. —

Галінкай нябеснай прапрашчураў-продкаў —
Як вечны іх позірк і слых,
Праменьчыкам светлым праз век мой кароткі —
У вечнасць нашчадкаў зямных.

У дзень Багародзіцы думы сыходзяцца
Над лёсам маім і тваім:
З грэхам агульным кожны народзіцца,
А пойдзе з жыцця са сваім.

Хай сцежак-дарог тваіх д’ябал не топча,
Не зманьвае шляхам чужым.
Няхай цябе Маці Прачыстая, хлопчык,
Ахінае Пакровам сваім.

Нямала раскідана ў свеце спакусаў —
Не бяжы на салодкі дым:
Нарадзіўся, жыві, будзь беларусам —
Як прадзеды і дзяды…

Табой прарастаючы ў родным народзе,
Буду слухаць з-пад каранёў,
Як на дрэве лістота юна ўзыходзіць,
Небыццё абвяргае маё.

*1994*

## РАНДЭВУ ПА МЕМАРЫЯЛЬНЫМ ВІЦЕБСКУ Ў ДЗЕНЬ АДКРЫЦЦЯ ПОМНІКА УЛАДЗІМІРУ КАРАТКЕВІЧУ

Сваволіць вецер над Дзвіной,
Шпурляе хвалі шэрыя,
Драбнее Пушкін за спіной
У зорнага Машэрава.

На Боскім ці зямным судзе
Парк надвая падзелены? —
І Караткевіч неўспадзеў
Займеў суседства ў Леніна…

Адзін Шагал знайшоў прагал —
Асобна раскашуецца:

Не быў бы той усё ж кагал —
Мудрэц на ўласнай вуліцы!..

Па-гаспадарску ўсе як ёсць
У Віцебску расселены —
У ім ніхто не лішні госць
І славай не абдзелены.

І мы па Віцебску ідзём,
І я ў той гурт дапушчаны:
І Караткевічу відзён,
І ўжо, здаецца, Пушкіну!..

*1994*

## ПРЫЗНАННЕ ВЯСКОВАГА МУДРАЦА

Ёсць мудрацоў кітайскіх абет:
Каб жыцця не зазнаць хворага,
Добра паснедай, выкінь абед,
Вячэру аддай ворагу.

Я гэта ўсё зведаў —
Ды ў іншай манеры:
Снедаў, абедаў
І добра вячэраў.

І злёг ад хваробы?
Наадварот —
Горш не магло быць:
Жыву! Соты год.

*1994*

## ДЗІЦЯЧАЯ ГУЛЬНЯ НА ПЯСКУ

У Мінску маленькім
Высокія горы,
У горах высокіх
Глыбокія норы,
У норах глыбокіх

Людзі жывуць,
Кватэрамі
Гэтыя норы завуць…

*1994*

## АМАЛЬ ТРЫЯЛЕТ, ЗАПІСАНЫ ВЕРЛІБРАМ

У Беларусі
Хадзіць з працягнутай рукой
Сорамна.
Сорамна не беларусу,
А Беларусі,
У якой не сорамна
Хадзіць з працягнутай рукой…

*1994*

## БАЛОТНІК

Дзе б мяне ні насіў мой лёс:
Ці на моры, ці ў пыльнай пустыні,
Ці на горы нябесныя ўзнёс, —
Гэты водар мяне не пакіне.

Водар траў, імхоў, багуну
Мне дзікунскія ноздры вярэдзіць.
Там ён, там, хто мой свет паглынуў, —
Бог балотны — хаваецца недзе…

У надрэччы альшаным не спіць —
Захлынаецца песняй салоўкі,
Носіць з кнігаўкай волатам піць
З ручая да старой валатоўкі.

Ён са мной, ён з дзяцінствам не знік,
Праразаецца асакою.
Мне і сёння стажар'я сяннік
Лугавінай шуміць пад шчакою.

Дзе багністы зыбун плыве,
Я іду першабытным зверам.
Раздзімае грудзі мае
Дух мячэўніку і аеру.

Прадзіраюся праз чараты,
Не турбуючы гнёздаў качыных.
Я дзікун не людской пекнаты,
Хоць і знаюся з воляй ваўчынай.

Я нашчадак мёртвых азёр,
Што пайшлі пад зямлю свядома,
Каб замовіць свой шлях да зор
Самай простай дарогай — дадому.

Я самотным сінім агнём
Па карчах збуцвелых качуся.
Я не бачны сонечным днём,
Але ноччу затое свячуся…

Нас не будзе, ды будзе час,
І прышэльцы з далёкай планеты
У маіх балотных вачах
Прачытаюць паданні Сусвету.

*1994*

* * *

У нетрах лясныя дарогі,
Нібыта рэкі ў пустыні:
Сцякае-ўцякае пад ногі —
І раптам прывідна гіне…

Там, дзе вірылі буруны,
Мора барханаў ляжа,
І адваротны кірунак
З пяскоў рака не пакажа…

Сыдзе на сцежку дарога,
Сцежка на след саб'ецца,
Згубіцца след — і наогул,
Лесавіком адгукнецца…

Таму па лясах не блукайце
І рэкі ў пясках не шукайце, —
Даверцеся толькі жанчыне:
Гэта і лес, і пустыня.

*1994*

* * *

Я знаю: малітвы такія ёсць —
Ад слёз прагарае каменне,
І ціхія просьбы таго, хто тут госць, —
Даць вечнае супакаенне.

Харалы я слухаў, асанну чуў
І сам, як умеў, маліўся.
Але аб іншым сказаць хачу —
Як свет мне ў слове адкрыўся:

Ці самы грэшнік, ці самы святы —
З душой, як жаўрук на праталінцы,
Да Бога спрадвеку толькі на «ты» —
Ніхто на «вы» не звяртаецца.

*1995*

* * *

Я д’ябальскі гэты бачыў прыход,
Чуў д’ябальскае пытанне:
Ці выдасць мову сваю народ
На варварскае растаптанне?

І ён згадзіўся — маўчаць, як сканаць.
А мне — нявер’е расплатай:
Ці недастойны народ праклінаць,
Ці быць самому праклятым?..

Кайданіць думы бяссоння турма,
І ўжо надзея не свеціць:

Другога народа ў мяне няма —
Ні тут, на зямлі, ні ў сусвеце…

*1995*

* * *

Я з Богам па-свойму хачу размаўляць, —
Ну, значыць, па-беларуску,
А мне пярэчаць: Богу ствараць
Не трэба лішняй нагрузкі…

Ці варта яму назаляць драбязой —
Без гэтага клопату хопіць…
А мне той рэзон — як да горла лязо,
А я — незгаворлівы хлопец.

А я — недаверлівы той Фама
З біблейскай гісторыі слыннай —
Калі ўжо доказаў іншых няма,
Спытацца ў цябе павінны:

Магутны Божа, няўжо і ў вас
Усё на зямной аснове:
Змагацца трэба за першы клас
На беларускай мове?..

*1995*

* * *

Бушуе ліпеньская брага,
Гуляе ў сонечнай дзяжы.
Ручай з прыпёку перасмягла
Схавацца ў лазнякі бяжыць.

Мядовы звон гайдаюць пчолы,
І нават трутні ўдосталь п’юць.
Цвіркоча конік — скрыпачовы
Спакою лаўры не даюць.

У сто вясёлак лугавіна
Пераліваецца ўваччу.
Вось зараз рукі лёгка ўскіну —
Чмялём па кветках палячу!..

*1995*

* * *

Канешне, развітвацца цяжка:
Якое ні ёсць, а жыццё.
Ды вось жа такая прамашка:
Збірацца пара ў небыццё…

Ды я перад тым не бядую,
Я так уяўляю: памру —
І з Богам, як з добрым дзядулем,
На прызбе пагавару…

*1995*

* * *

Дуб у тры абхваты,
Крона ў сем ствалоў, —
Вогненна-вусаты
Гром не раз-малоў.

Сыпаліся жорны
Іскрамі з-пад хмар,
І рабіўся чорным —
З белага — млынар…

На мяжы пушчанскай
Зелянее гмах, —
Вечнасці сучаснік,
Мой ахоўны дах.

Моўчкі пагамонім
З існым і былым —

І ляцім пагоняй
Над бясчассем злым.

Мудрыя стагоддзі
Ў снах не адгулі, —
З небам на выгодзе,
З прагай да зямлі…

*1995*

## ШУМЕЛІ СОСНЫ…

Шумелі сосны на вятры,
Шапталі словы, —
Навук лясных прафесары,
Адкрыйце мову…

Хачу з табой пагаварыць,
Мой бор спрадвечны, —
Як гэта немата баліць
Па-чалавечы…

З такой загадкай, як і ты,
Сказаць бяруся
На мове, што завуць «латынь
Ад беларуса»…

Зайздросціў Грыша Ходжар мне,
Нанайскі класік:
«Тебя ещё в твоей стране
Читают, Вася…
А я, — і Грыша загінаў
Па-руску матам, —
Перевожу оригинал
Родному брату…»

Я разумею — згарача
Зайздросціў Грыша:
Мярцвее мова на вачах,
А мы ўсё пішам…

О бор, мой лёс, як і ў цябе,
І з гэткай воляй,

Дзе разумею сам сябе, —
І ўсё. Не болей…

…Шумелі сосны на вятры —
Прастор гайдаўся.
Аб чымсьці думаў бор стары,
Ды не прызнаўся…

*1995*

* * *

Пакроў быў як не на зіму:
Гуляла сонца летняе,
Важак гусіную гурму
Ганяў, як безбілетную.

Відаць, што і яму няўцям
Было: што з тропу збіла іх,
Чаму нястройна так ляцяць
Сяброўкі шэракрылыя.

Чаму крычаць тужліва так,
Самотна азіраюцца, —
Над полем робіць круг важак,
Нібыта з сонцам раіцца:

Ці зноў на поўнач павярнуць,
Ці сесці дзе пад вываргаць
І карту неба разгарнуць —
Маршрут дакладней выверыць?..

*1995*

## ЛАЗНЯ

— Цецярук, цецярук,
Хадзі парыцца!..
— Не пайду, не пайду —
Дзеўкі сварацца…

Покуль пасварыліся,
Покуль памірыліся —
То й вады ні каліўка,
І астыла каменка…

Сталі ў лазні зноў паліць,
Сыраваты корч смыліць…
Певень з нафтабазы
Коціць бочку газы.

Як лінуў,
Як «газануў» —
Печ агонь перавярнуў!

Хто куды! Хто куды! —
Бег апальшчык да вады.

Цецярук цераз пляцень
Плюнуў на блазноту
Ды хутчэй паляцеў
Да свайго балота.

Лазня загарэлася —
Мыцца расхацелася…

*1995*

* * *

Не зварухне асноў
Расстання медзь —
Хай свет адзін
І ў свеце ты адзіны:
Каб ад'язджаць,
Дарогу трэба мець,
А каб вяртацца,
Трэба мець радзіму.

*1996*

## ПЕЙЗАЖ

Як патырчакі, з панелі
Ўзняліся тугой аб лістоце, —
Таполі аслупянелі
Не па сваёй ахвоце.

Таполям абсеклі голле,
Таполям абрэзалі крылы,
Каб тапаліная воля
З небам не гаварыла…

Абараняючы поле
Электра-камунікацый,
Забараняюць таполям
З птушкамі сустракацца.

Піла бензінным напоем
Дыхне і ўразаецца крута…
Ніколі, ніколі таполі
Не зналі такой пакуты…

Крывяняцца сокам засечкі,
Няма катаванню адхлання, —
Прыйшлі, як патухлыя свечкі,
На ўласнае пахаванне…

*1996*

* * *

Грызуць палітыкі
Ўлады арэх:
Ім — харч,
А людзям — патрава…
Ідэйны брэх на ідэйны грэх… —
Сабачая, браце, справа…

*1996*

* * *

Калі схілялася зямля
Над памяццю ўсіх мёртвых,
Анёл-ахоўнік спакваля
Маё дасье разгортваў.

І ўсё над нечым уздыхаў,
Задумліва ўзіраўся,
А я зняверана чакаў:
«Хоць раз бы засмяяўся…»

І вось аднойчы, нараспеў,
Зарагатаў ён звонка.
Ды я заўважыць не паспеў
Ні словы, ні старонку…

*1996*

* * *

Узвіжанне — вужакі і вужы
Віюцца зябка ў парудзелых травах,
Віжуюць, каб без ордэраў лаўжы
Ўзяць пад зімплошчу — са змяіным правам…

Ніхто тым днём — ані нагою ў лес:
Крый божа ў той паток паўзучы трапіць!..
Што чалавек! — ніколі звер не лез
На ўзвіжны шлях ні капытом, ні лапай…

Узвіжанне… Ніводзін варажэй
Той ход спыніць ці адвярнуць не можа.
Ды ёсць сакрэт: чым будзе лес бліжэй
І чым радней, тым лепш табе паможа.

Я знаю кут, што вечна дрыгвянеў
У чадных буяках і журавінах,
І ведаю, што тут супроць мяне
Не выдаваў дэкрэтаў цар змяіны.

Я там хадзіў, нібыта пропуск меў.
Глухія нетры сцераглі вужакі.
І ўзвіжанне, каб мой суняць сумнеў,
Лес ахінаў таемнаю імжакай…

*1996*

* * *

Жыццё — і развітанне, і абман:
Імгла ў былым і ў прышласці туман.

Жыццё — пытанне на крыжах дарог:
Накрэсліў лёс, ды разгадаць не змог.

Жыццё — малітва небу і зямлі,
Што міг бяссмерця і табе далі…

*1996*

## ЗНОЎ БЫ ТАК…

Зноў бы так: апынуцца ў травах,
Нібы жаўранак — з галавою,
І да песні ўзлятаць — не да славы,
Захлынуўшыся сінявою…

Зноў бы так: тую сцежку да раю
Адшукаць, як было напачатку, —
І не знаць: што жыццё адкрывае,
І не мець: што за ім — здагадку…

*1997*

* * *

Ходзіць, ходзіць клён па хаце —
Бесцялесны цень:
З кута ў кут, як нешта страціў, —
Кожны божы дзень.

Ад застолля да парога —
Вершамі Басё, —
Не гаворыць мне нічога,
Бо я знаю ўсё.

Мігатлівы іерогліф
На зыходзе дня… —
Гэта вас, душой знямоглых,
Страшыць цішыня.

Мне ж яна — як дар нябесны,
Боскі напамін,
Што і я — як Уваскрэслы:
На зямлі адзін.

А другі — з табою, маці,
Кожны божы дзень…

…Ходзіць, ходзіць клён па хаце —
Мой касмічны цень.

*1997*

* * *

Да таго, што даўно адшумела, —
Нібы ў змрок, абрываўся крок.
Да таго, што даўно адбалела, —
Год за годам — як горкі зарок:

Не вяртайце, што досвітак знішчыў,
Не гартайце назад каляндар.
Не хадзіце на папялішча:
Гэта страшней, чым пажар.

*1997*

* * *

Вы ў небе што-небудзь бачылі?
Не? То яшчэ паглядзіце,
Калі пад выццё сабачае
Спіць ветах старэнькім дзіцем;

Калі абрываюцца сувязі
Жывых і мёртвых пачаткаў,
І ўсходу і захаду сумессю
Віхураць Аляска з Камчаткай;

Калі аднамоўе чорнае
Сябе за Ўсявышняга лічыць,
І зор галасы незлічоныя
Трымцяць у няволі касмічнай, —

Бачыце: хусткай матулінай
Слёзы ўціраючы ў скрусе,
Ляціць душа беспрытульная
Апошняга беларуса…

***1997***

* * *

Я апошні, хто жніўныя песні
Слухаў тут, над мачулінскім полем, —
Вы куды іх, дзяўчаты, занеслі,
Дзе схавалі? — не ўзнаю ніколі…

Толькі помню: у гуках вячэрніх
Быў і лёс, і каханне, і смутак,
Быў анёл мой жытнёвым свячэннем
На пажарышчы дня ахінуты…

Дагарэў небасхіл на заходзе,
І чарнеюць сутулена стрэхі.
Дзе ты, песня? Маўчыць, не прыходзіць…
Я — той песні апошняе рэха…

***1997***

* * *

Божа мой, які ты літасцівы:
Грэшнаму такую даў красу, —
Сцежку гэту ля жытнёвай нівы
На той свет, як можна, панясу.

Ты дазволіш? Не крыўдуйся, Божа,
І мяне не дакарай дарма:
Сцежак шмат і там — не менш прыгожых,
Але гэткай — анідзе няма.

Гэты васілёк і гэты колас,
Што схіліўся ў перашэпце з ім, —
Дай узяць мне іх таемны голас,
Быць і там хоць трошачкі жывым:

Не душой касмічнаю, бясконцай,
Што з табой блукае праз вякі, —
Божа мой, смяротных абаронца,
Мне сцяжынку жытнюю пакінь…

*1997*

## КАЛЯДНЫ МАТЫЎ

Добра было кабану,
Слаўна жылося:
Яшчэ падсвінкам цягнуў
Пудоў на восем.

А як пажыў ды паеў,
То недзе ўжо на Пакровы
Стаў цеснаватым хлеў —
Хоць сцены рассоўвай!..

На дайку адну — чыгун
Бульбы з мучною гушчай, —
І парсючок-шмыгун
Ад тлушчу вочкі заплюшчыў.

Не завугольны папас —
Цёпла, уежна і ўлежна.
І пад Каляды якраз

Кіўнулі на кормніка:
— Рэжам?..

Смачна было парсюку —
Ды швайка сядзіць у баку…
Хацеў да лета дажыць,
А ўжо на снезе ляжыць…

*1997*

## УСЁ З ДЗЯЦІНСТВА…

Усё з дзяцінства: слёзы і ўсмешкі,
Неба палёт і зямная цвердзь,
Космас нашчадкаў і прашчураў рэшткі,
Велічы лад і душы крутаверць…

У хаце дзяцінства — вокны на сцежкі,
А на руінах дзяцінства — смерць.

*1998*

## ДВА ШЧАСЦІ

Шугаў агонь у печы,
І ўся сям'я з цягла
Гаспадара пад вечар
Чакала да цяпла.

І мама ля загнета,
Увішная, цвіла
І поўняй — не на ветах —
Бліны ў стажок пякла.

А тата дровы з воза,
Рыпучыя, скідаў
І ў кажушок марозны
Мяне на рукі браў.

За пазухай аўчыннай,
Як быццам у гняздзе,

З душою салаўінай
Я ціхенька сядзеў.

І грэўся, покуль з печы
Не йшла на чапяле
Смажонка на сустрэчу
З блінамі на стале.

Мы поўню ў тук макалі —
Пшанічную радню,
Хвалілі, смакавалі
Напоўніцу, — з агню.

І зараз на пытанне,
Як жыў я на зямлі,
Скажу на развітанне:
Дні розныя былі.

Але між светлых самых —
Два шчасці на вяку:
З блінцом гарачым мама
І тата ў кажушку…

*1998*

## ЛЯ ПАКІНУТАЙ СЯДЗІБЫ

Беразняк абжывае гоні,
Спіць над котлішчам дуб стары…
І не кліча ніхто, і не гоніць, —
Хоць кладзіся і сам памры…

Маладзік па іржышчы колкім —
Па нябесным, зорным — ідзе.
Перапёлка вяшчуе золка:
Быць бядзе! Быць бядзе! Быць бядзе!..

*1998*

## ПАДЦЭЛІЎ СТРАЛЕЦ…

Падцэліў стралец крумкача.
А я б гэту птушку не шкодзіў:
Няхай і крумкач — ды стагоддзі
Аселі ў яго́ных вачах…

Што крумкае ён — вам няўзнак,
А можа, прамовіць ён хоча,
Што прашчур нашчадкам прарочыў,
Ды слова не ўспомніць ніяк…

А можа, й застаўся ён жыць,
Пакутаваць і пеклавацца,
Каб нам праз стагоддзі дазнацца:
Куды гэта час наш бяжыць…

*1998*

* * *

Адзінота, самота, згрызота…—
А планета бушуе навокал…
І бяжым статкавацца, каб потым
Уцякаць — далёка-далёка…

Каб забыцца на шумны гармідар,
Засланіўшыся цішынёю…
Я не з тых, каб з такой піраміды
Зноў ляцець у натоўп галавою.

Што бяседы, што вечарынкі —
Я даўно за сабою прыкмеціў:
Мне хапае адной травінкі,
Каб не быць адзінокім у свеце…

*1998*

## З ЛЮДЗЬМІ ПА-ЛЮДСКУ…

З людзьмі па-людску — ні святы, ні грэшны —
Стараўся жыць, за лёс не выбадзяў.
З павагай слухаў мудрацоў, ды, зрэшты,
Быў сам сабе падсудны і суддзя.

Даносаў не пісаў, як і прашэнняў,
І не шукаў адкупнага казла.
Суседу не заглядваў у кішэню
І здрадніку не помніў доўга зла.

Ніколі не зайздросціў жартаўлівым
І шкадаваў жанчын у паранджы.
А не любіў — абманшчыкаў ліслівых
І майскія халодныя дажджы…

*1998*

## ЧЫСЦІНЯ

Караткевіч Валодзя, як жрэц,
У кашулі белай садзіўся
За пісьмовы стол, — знаў мудрэц:
Светлы вобраз — у светлым радзіўся.

Боль збалелай душы і крык
Ахіналіся чысцінёю…

…Дбаў аб той чысціні і мужык,
Як у поле выходзіў з сяўнёю…

*1998*

* * *

Люцікі і смолкі лугавыя
Напіліся ўсмак траецкіх рос.
А ў мяне, як гляну, — сэрца ные:
Гэта ж, людцы, самы сенакос.

А ў мяне — гуляць аргумант важкі,
Быццам усё доўжыцца зіма:
Ні касы ў мяне і ні мянташкі,
Нават сенажаці ўжо няма…

Адцвіло даўно і адшумела
Лета на зялёных паплавах,
Толькі ўсё яшчэ не адбалела —
Чую звон перадсвітальны ў снах.

Ды ў пісьме сусед прыслаў усмешку,
Згадак расцяроб расцерабіў:
«Войстраць косы павукі ў застрэшку,
З касавільна — кульбу дзед зрабіў…»

*1998*

## ТАСТАМЕНТ

Улада — як абутак той, —
І цесны, і не танны:
Ідзі, сядзі, бяжы ці стой, —
А помніш пастаянна.

І ў галаве ўжо буралом,
І вочы ўжо — кругамі,
Бо горка плачаш мазалём,
А думаеш нагамі…

Не лезь жа, браце, у хаўрус
З уладай безнароднай:
Спявай жыццё, ахвярнік муз, —
Галодны, ды свабодны!..

*1998*

* * *

Аб адным, Божа мой,
Малю —
Дай апору ў сусветнай гонцы:

Беларускаму плугу —
Зямлю
І Купалавай хаце —
Сонца!..

*1998*

* * *

Вялікі Сусвет, неабсяжны…
Як два незнаёмцы, стаім:
І ён да цябе безуважны,
І ты — што ты знаеш аб ім?..

Адсутнасць у вочы не гляне,
І жыць быццам будзеш — але ж
Усё, не ўзышоўшы, завяне,
Што словам не назавеш…

*1999*

## ПАХ БАГУННІКУ…

Зноўку памяць ідзе імшарай,
Дзе з маленства, як з даўніх вякоў,
Гаспадыні куп'істых выжарын —
Змеі — сыкаюць з буякоў.

А на кожнай галінцы — навісь
І такі салодкі дурман,
Што па ўзятак паўзеш, хоць наяве
Будзе выць сам Балотны Пан!..

І да сёння блукаеш сп'янелы,
Нібы чмель на гульбе верасоў, —
Хоць даўно галава пасівела,
Адчыняецца казачны схоў:

Пах багунніку неўтаймаваны, —
Быццам чмур ахвяру спаліў
І дурніцы сінім туманам —

Кожную ягадку —
пе-ра-спя-ліў…

*1999*

## З ЦІШЫНЁЙ СУСВЕТНАЙ ВА ЎНІСОН…

Абыдзі Галактыку ці ўдалеч
Хоць далей за Бога зазірні —
А ніхто табе не разгадае
Таямніцу летняй цішыні.

Вось яна — бялявай аблачынкай
Праплыла няведама куды.
І душа — касмічнаю пясчынкай
Ад цябе злятае назаўжды…

Будзеш доўга потым — аж да скону —
Ты яе пакутліва чакаць…
Незваротны міг — і ўжо такому
Больш табе ніколі не бываць…

Будзеш вёсны абмінаць і зімы,
Не аб’едзеш толькі пэўны дзень —
З цішынёю іншай: нелюдзімай,
Незямной, дзе твой пагасне цень…

А пакуль — стаіш ля жытняй нівы,
Загайданы морам каласоў:
Мроіва трапечацца маўкліва
З цішынёй сусветнай ва ўнісон.

Сніцца стогу водар першацветаў,
Косаў звон і гамана касцоў,
Даспяваюць на арбіце лета
Пухкія планеты дзьмухаўцоў…

*1999*

## ТАДЫ…

Такога свет не знаў яшчэ ніколі,
Калі народ не прагне ўласнай волі.

Інакш ён, хоць і людны, але статак —
Ахвяра для прыблудных супастатаў.

Любы свінюк, што чужахлеўна рохне, —
І ўладны «крук», і з голаду не дохне.

І самі, нібы свінні ля карыта:
Не важна што — абы было наліта…

Паеў ды ў хлеў — адна тады дарога,
І лепшай долі не канюч у Бога.

Бо тройчы праўда: Бог таму памог,
Хто хоць аднойчы рабства перамог.

Тады народ становіцца народам,
Калі ўдыхне хоць кропельку свабоды.

*1999*

* * *

Ціха ў асеннім лесе.
Сонца лістоту жне.
З вечнасцю перагукнешся:
Пачуе хто, а ці не?..

Дармо, калі й не пачуе, —
Ты вольны, як вольны сусвет.
І вырай адлётны вяшчуе
Ў нябёсах загадкавы след…

Турботы ўсе ў клопатным леце,
Не пнецца ніхто назаляць.
Грыбы, як дуронікі-дзеці,
У хованкі збеглі гуляць.

Улеглася росная квецень,
Дзе косы хадзілі ўразлёт,

І ў купіне чмель засакрэціў
З духмянымі сотамі мёд.

Мудрасцю суцяшае
Лес, нібы добры дух:
Дыбяцца лёсаў шалі,
Ды ўраўнаважыцца круг…

І ўжо душа на прыкмеце
Ў анёла з песняй зімы.
Якраз, можа, так на тым свеце, —
Чаго ж гэта страшымся мы?..

*1999*

* * *

Быццам бязгрыб'е ў лесе
Па вераснёўскай сушы,
Без вечарынак і песень
Вёска маўклівасцю глушыць.

Ні гаманы, ні смеху
Пад вербалозавым дахам
І ні сабачага брэху —
Не ўсмак, дык хоць бы са страху…

Старэчае ажыўленне
На тыдзень успыхне аднойчы:
Да аўталаўкі — са жменяй
Пенсійнай — на кульбах крочыць…

І да грудзей немаўляткам
Ацеслівы горне бохан…
А потым — усё спачатку:
Сем дзён — і ноч, як эпоха…

Дзед ля сівога экрана
Ўшаноўвае прэзідэнта,
Ды зрэдку галёкне п'яны —
Апазіцыі элементам…

*1999*

* * *

Азірнуўшыся, не скамянею:
Сам пажаў, што — сам жа — пасеяў.
І ні ўдачы сваёй, ні віны
Не ўступлю і за тры цаны.
І ніхто: ні Бог і ні людзі —
Так, як сам, мяне не асудзіць…

*1999*

## ГІМН

Штукуем рыфмы і акорды вяжам —
Збіраем песні, быццам на кірмаш.
А ён ужо гучыць у сэрцы нашым:
«Магутны Божа…» — быццам: «Ойча наш…»

І вечнасць адгукаецца, і прышласць,
І крылы праразаюцца ў жывых…
А мы ўсё гімны конкурсныя пішам
І прагнем абудзіць народны слых…

А мы яшчэ вагаемся,
Нібыта
Не ведаем: на ростанях нягод
Наш гімн
Не песня —
Вечная малітва
За Беларусь
І за яе народ.

*1999*

* * *

Так было і так будзе: плямёны
Адыходзяць, каб не ўваскрэснуць…
Можа, й ты, мой народзе, кляймёны
Знакам тым, што этрускаў закрэсліў?

Бо інакш бы з чаго так бязмэтна
Ты свой лёс пускаў на раструску?

Каб я стаў безнародным паэтам?
І каб вершы пісаў па-эт-руску?..

*1999*

* * *

Сцвярджае нам за векам век:
Ланцуг няволі незагойнай
Ужо не раз мячом рассек
Ваяр Літоўскае Пагоні.

Ды зноў і зноў сусед і брат
Браў у смяротныя абдымкі,
І неба светлы далягляд
Здаваўся шэраю аўчынкай.

Тады гісторыя шляхі
Нам з небыцця, як дар, вяртала:
Крышыла памяць лемяхі,
Ды зерне з цемры прарастала.

І ўспаміналі крэўны час
Мы, каб зняверанасць спатоліць…
Дык блаславі ж і сёння нас,
Літва, на мужнасць і на волю.

Узор красы і хараства,
Урок нязломнай непакоры, —
Ратуй нас, родная Літва,
Пра-маці наша і пра-корань.

*2000*

## УСЕ…

Калі адгрымелі салюты,
Калі налівалі па поўнай,

Кожны піў за свае пакуты,
Кожны сваё штосьці ўспомніў:

Хто паміраў,
Хто на смерць пасылаў,
Каго каралі,
І хто караў,
Каго забівалі,
І хто ратаваў,
А хто ратаваўся
І сам забіваў, —

Усім налівалі…
І ўсе выпівалі.

*2000*

* * *

І слава людская, і ганьба людская
Трымаюць аднолькава, не адпускаюць.
І слава, і ганьба, як сёстры, мяжуюць,
Бязлітасна дух чалавечы крыжуюць.
Адзіны ў іх плён, бо адзіны і корань,
Змыкаюцца ў круг і нішчымнасць, і скорам.
Калі цябе ў небе ўрачыста люляюць,
Зважай на зямлі: ці не ў бездань куляюць…

*2000*

## «ГАЛАСЛІВАЯ ПРЫПЯЦЬ…»

— Галаслівая Прыпяць!.. —
Вася-ўнук захапляўся: —
Воды — мору не выпіць,
Я ж — у песнях купаўся…

Гаварыў без ілюзій,
Пабываўшы ў «турыстах»
Там, дзе ў «Тураўскім лузе»
Птушак рай галасісты…

Аж да Чорнага мора
Разам з прыпяцкай песняй
Ён сваім нараватворам
Плыў пад ветразем веснім…

Называў галаслівай
Галасістую Прыпяць, —
Мне ж на сэрца шчымліва
Попел ядзерны сыпаў…

Слова з гэтакім лёсам,
Пэўна, й знаць ён не знае:
Галаслівы — галосіць,
Галасісты — спявае.

Ды, шануючы радасць,
Юны мой арнітолаг,
Перад светлым паглядам
Не ўзніму чорны полаг…

Прыпяць хай толькі й знае:
Галасістай аздобаю
Рай птушыны спявае,
А галосіць — Чарнобылем…

*2000*

## ЧАКАННЕ

Салавейка-ручаёк —
Слязінка па каменьчыках:
Скок ды скок, а сэрца — ёк
Да ёкавых карэньчыкаў.

Ёк ды ёк… — а будзе клёк
Ці збяжыць, пярэсценькі,
Як вясновы той дзянёк
З той надрэчнай песенькі?..

*2000*

* * *

Дзяўчынка на веласіпедзе
Імчала лясною дарогаю, —
Ну, едзе, дык хай сабе едзе —
Я збочыў, але — з асцярогаю…

Бо рукі былі, быццам крылы —
На розмах, за руль не трымаліся, —
Абдымкі свету раскрыла,
І лета ў вачах гайдалася…

Дзяўчынка гукнула мне: «Здрасьце!» —
Дзяўчынка, зусім не знаёмая, —
І «здрасьце» было як шчасце,
Як вырай на неба сёмае.

Няхай сабе мовай не наскаю
Вітанне тое гукнулася,
А ў сэрцы забытаю краскаю
Вясна на імгненне прачнулася.

Вярнулася юным «здрасьце»
Майму адцвітанню старэчаму…
Ляці — як на сконе прычасце,
Ляці, дзяўчынка сустрэчная!..

*2000*

## ДУША

Нібы Марс пустэльнасці сігналам
У душу зямную зазірне:
То каналы, то лесапавалы
Ў нашай узбалотнай старане.

Чую, як з магільнага пагорка
Жытнім полем шэпчуць галасы, —
А пра што ў дзядоў ідзе гаворка,
Я не знаю, і не знае сын.

А што ўнук, дык той і не пачуе,
Не пабачыць з гарадскіх муроў,

Як над Начай лесавік карчуе
Пень смалісты для распалу дроў.

Бо ніхто не клікне абагрэцца,
Як на ляда хлынуць халады, —
То ў каляды выладзіць цяпельца
І з падвеем узвіхураць дым…

Будзе праўнук зорныя сюжэты
На касмічных выдмішчах шукаць
І не здагадаецца пры гэтым,
Хто яго наважыўся гукаць.

Падкажу — няхай сабе адзначыць:
Гэта голас-абярог імкне
Той хлапчук з душой багоў надначных,
Што падобны крышку на мяне…

*2000*

* * *

Як, Беларусь, скажы, усё ж лацвей:
На покуце — ці ля дзвярэй таптацца?
Ці ў роднай хаце ў маразы цяплей —
Ці пад сцяной суседскага палаца?

Ці на сваёй бяседзе гаманіць —
Ці на чужой чужыя слухаць звягі?
Ці лёс у глебе крэўнай караніць —
Ці мець планіду вечнага бадзягі?

Ці хлеб па-гаспадарску здабываць
Народнай талакою —
Ці на сусветнай паперці стаяць
З працягнутай рукою?..

*2000*

* * *

Ці на полі неўраджай,
Ці паморак у хлявах, —
Тут стыхія ўсё, на жаль,
Творыць чорны свой замах.

Ну а тут як? — з году ў год —
Бунт якіх зламысных сіл? —
І народа — недарод:
Менш калысак, чым магіл…

Мізарнеем пакрысе,
Выміраем спакваля… —
Чый пакутны крыж нясе
Наша бедная зямля?

Адкажы, — чаму ж маўчыш?
Ці ў бязмоўі дух згубіў?.. —
Гэта твой, народзе, крыж,
Што з паходні ты зрабіў…

*2000*

## РОДНАЕ

Роднае слова — народа аснова:
З ім і малы — магутны.
Слова душу ахінае пакровам
На скрыжаваннях пакутных.

Роднае —
Богу ўгоднае
Слова,
Што прамаўляюць прарокі.
Роднае слова — вырак суровы,
Хто ад яго адрокся.

Роднае слова — страла Перунова
Ў чорныя сэрцы выроддзя.
Роднае слова, родная мова —
Голас Радзімы ў стагоддзях.

*2000*

## ТОЛЬКІ ДЗЯЦІНСТВА…

Волка ў тумане пафыркваюць коні,
Нача з крыніцаў збірае дары.
Косы мянташаць драчы за ракою —
Прадсенакоснай пары званары.

Зырка шугае агеньчык начлежны,
Цені спалохана ў цемень бягуць.
Слухай нябёсы: што з тайнаў належыць
Заўтра адкрыць, — зоркі ўсё зберагуць.

Будуць узлёты, будуць падзенні,
Будзе азмрочваць ілжывасці дым, —
Толькі згубіцца не дасць безнадзейна
Светлы праменьчык у лузе начным.

Будуць адрынутыя запаветы, —
Толькі агеньчык гарыць-не згарыць:
Вечную, крэўную сувязь з Сусветам
Толькі дзяцінства можа дарыць.

*2000*

## ПАХАВАННЕ

Мінімальная: мінус пяць,
Максімальная: нуль па Цэльсію…
Палазы марозна рыпяць —
Пахавальная едзе працэсія.

Што да праўды — едзе адна,
А астатнія — зябка тупаюць.
Раскашуюцца ў санках: труна
І бабуля — як смерць — непрыступная.

За вяроўчыну цягнуць дзяды,
Папіхаюць пад горку бабулі:
Каб панесці труну, маладых
Тут не бачылі і не чулі…

Састарэла вёска даўно,
На пенсійную выйшла абслугу.

Ды і вёскі амаль не відно:
Дзесяць хатак на ўсю акругу…

Добра, што не прамерзла зямля,
Добра, што і сняжку падсы́пала:
Лёгка я́му капаць, а пасля —
Во як лёгка санкі парыпваюць…

Во і ўзгорак, нарэшце, відзён,
І падбелены, і прыхарошаны, —
Сустракае маўкліва ён —
Ні апошніх слоў, ні галошанняў…

А з-пад снегу цвітуць васількі —
Як далёкай вясны ўваскрошанне…
Пераселяцца ўсе вазакі —
Хто ж тады пахавае апошняга?..

*2001*

* * *

Паўстань з народа нашага, прарок…

*Янка Купала*

Сыне Божы, Хрыстос Ісусе,
Ці ты нас не пабачыў здалёк,
Што да грэшнай маёй Беларусі
Не дайшоў ні адзін твой прарок?..

З тых, святых, што з табою побач
Боскі вызналі запавет,
Анікога шляхам асобым
Не паслаў ты ў няблізкі наш свет…

Так, былі мудрацы — і не болей,
Што адным і трывалі, відаць,
Каб твайго крыжавання болем
Блаславіць нас і ратаваць.

Самі ж мецілі, боскія сведкі:
Не гарэць — і каб светла гуло…

А з прарокаў — траплялiся рэдка.
Дый магчыма, iх i не было…

Божа светлы, Божа адзiны,
Дай хоць сёння нам ласку сваю:
У iмя пакутнай Радзiмы,
Дай нам, Божа, прарока, —
малю…

*2001*

* * *

…Чалавечы знак…

*А. Вярцінскі*

Нарадзiўся — значыць, у вечнасць прыйшоў.
Без цябе ўсё было б — то, лiчы, не было б нiчога.
Бог цябе надзялiў сваёю душой
I жыццём зямным даў у вечнасць табе дарогу.

То шануй гэты дар, — ты не ўласнiк яго,
Хоць табе ён дастаўся на вечныя векi.
Ён адзiн, назаўжды. I зямных берагоў
Ён не знае. Але — з iм ты стаў чалавекам…

*2001*

## А ЎСЁ ТАМУ…

Прарокi з атэiстаў праваслаўных
Ля носа круцяць пальцамi трыма.
А ўсё таму, што прагнуць руль дзяржаўны
З царкоўным благаславеннем утрымаць.

З папом галоўным лезуць цалавацца —
Аж на амбон — са свечкамi ў руках.
А ўсё таму, што хочуць спадабацца
Народу — днесь i прысна — у вяках…

І толькі без маны гучаць літанні:
«Судзі нас, Бог, па кодэксу свайму…»
А ўсё таму, што знаюць пакаранне:
Бог судзіць, ды не садзіць у турму.

*2001*

## ПЕРАД ВЕЧНЫМ СПАКОЕМ

*Светлай памяці сястры*
*Кацярыны Васілеўны*

*

Кожнай рыскай — ясная, жывая, —
Толькі нерухомая чаму?
Так нязвычна: днём — адпачывае, —
Як сама не верыць сну свайму…

Клопатаў хоць адбаўляй… І людзі
Ўсё ідуць… І слёзы на вачах…
Памагчы? — ніхто ж во не пабудзіць…
А тады й не спіцца па начах…

Гэта ж трэба, толечкі прыляжаш —
Дзень праскочыць — вокам не міргнуць… —
Быццам зараз — з выбачэннем — скажа, —
Толькі мы ці здолеем пачуць?..

*

Сонечнага дня і ночы зорнай —
Гэткіх, пэўна, не было ў жыцці.
Ды нішто не вернецца паўторна:
Сонцу гаснуць, зорам не свяціць…

Ручнікі гайдаюць свет дашчаны, —
І ў тым свеце — толькі ты. Адна…
Бераг абрываецца пясчаны,
Глуха адгукаецца труна.

А жыццё маўчыць, і растлумачыць
Смерць не можа: гэта скон ці шлях?
І чаму не можа Бог іначай?
І няўжо ўсё гэтак: з праху ў прах?..

Над грудком зямлі з касмічным гулам
Будуць зоры вечна дагараць.
І цябе не будзе. І ў мінулым
Будзе прышласць — жыць ці паміраць?..

*2001*

## СУЦЯШЭННЕ

Здагадку маю: бяжыць дзяўчынка —
Чырвоны тварык, нібы ліхтарык, —
Напэўна, тая якраз хвілінка,
Што ўсё рашае,
недзе ўцякае…

Цок-цок! — абцасікі — войстра і звонка,
І рэха ў сэрцы маім не цішэе, —
І што сказаць мне ёй наўздагонку,
Апроч старэчага суцяшэння:

Было з дзядамі — было вякамі,
Было і з намі, як ёсць сягоння:
Калі кахае — то пачакае,
Калі не любіць — то не дагоніш…

*2001*

## ДОЎГАЖЫХАРКА

«Час і манаткі збіраць, —
Казала бабка-прарочыца, —
Ды кепска зімой паміраць,
А летам не хочацца.

То — далакопы ў мароз
Як жа магілку мне вырыюць?..

То — слухаю песню з бяроз:
Шпакі вяртаюцца з выраю…

Нібы на вакзале якім —
Паміж зімою і летам я:
Гляджу, як ідуць цягнікі,
Сяджу, безбілетная…»

*2001*

## НЕ ПЛАЧ…

Калі ляціць асенняя трывога
Наўслед за сумным крыкам жураваў,
Не абяцаю я сабе нічога,
Апроч нябесных плыткіх астравоў.

Плывуць яны — бялюткія аблокі,
І, пэўна, як малююць абразы,
На нейкім з іх — Адзіны і Высокі,
І на вачах — дзве светлыя слязы.

Пабачыў: у людской зямной юдолі
Так гора шмат — і галавой панік…
А тут яшчэ, над гэтым голым полем,
Сіроцкі жураўліны гэты крык…

Стаю на ветравеі і чакаю, —
І сам сабе не веру ўжо, а ўсё ж
Пытаюся: «Якая ж з іх, якая?..»
І думы па іржышчы — басанож…

Мне б толькі ўгледзець аблачынку тую, —
Ні райскай долі, ні зямных удач —
Адзінае, аб чым і папрашу я,
І памалюся: «Божачка, не плач…»

*2001*

## ГАІЧКА-СІНІЧКА

Гаічка-сінічка,
Ты з якіх гаёў
Выпырхнула знічкай?
Хто цябе прывёў —

Да маёй ажыны,
Пад маё акно? —
Быццам падружылі
Мы даўным-даўно…

Гаічка-сінічка —
З крылцамі сакрэт:
Шэрая спаднічка,
Чорненькі берэт.

Не ўзяла ні разу
Ў аздобу галавы —
Хоць бы дзеля назвы —
Пярынку сінявы.

Можа, маеш клічку
Зусім не па цане?..

Гаічка-сінічка
Адказала мне:

— Я за сінім лесам
Весела жыла,
Сіняву за песню
Небу аддала.

*2001*

## ПАЭТ

У сто вятроў падбіта паліто,
Іголкамі прашыта ледзянымі,
І сам — ужо не сам, амаль ніхто:
Настылы цень… Але душа — на ўздыме!..

Душа ляціць над горадам начным,
Над вашым сном у мякаці пярыннай.
І страшна вам задуманае ім:
На свет не гнеў, а весні спеў абрынуць.

*2001*

## КУРАПАТЫ
*Праект помніка*

Каго бараніць
Беларускі люд
Ідзе ў гарадскі прылесак?
Каго бараніць? — няма іх тут… —
Прасуе мазгі
Беларусам прэса.

А следам — бульдозер
Прасуе зямлю,
Цякуць з-пад каткоў
Гудронныя плёсы…
«Няма…» —
І вярнуцца іх не ўмалю —
Пакутныя душы
Пакутнікаў лёсу…
Тут толькі ірвы —
Працягам турмы.
А душы —
Яны адляцелі на волю…
І глушаць памяць
Матораў грамы,
І душыць дарога
Пятлёй кальцавою…

І я зразумеў —
Хоць і грэх на душу,
Можа, бяру, —
Хай, нібыта праз сэрца,
Праз Курапаты
Кладуць шашу, —
А ўсцяж —
Хай лес крыжоў узнясецца!..

Сцяна крыжоў, —
Каб хто ні ішоў
І хто ні ехаў па гэтай дарозе,
Супакаення пасля не знайшоў —
Ні ва ўласнай душы,
Ні ў Бозе…

*2001*

* * *

Буяе трава
На дражджах дажджу —
На лысагорскім лецішчы.
Як раіў мудрэц,
На траву гляджу,
Каб адхрысціцца ад нечысці.

Шапоча трава.
Як замес у дзяжы —
Пеніцца, падыходзіць…
Ты ёй пра напасці свае раскажы, —
Кажуць, адводзіць.

Ты ёй адгукніся.
Але не прасі —
І не вымольвай замнога.
Яна сама
Знае ўсё аб усім, —
Трава, угодная Богу…

*2001*

## ЗАБУДЗЬ, ШТО ЗМРОК…

Мяцеліца пергаментныя звіткі
Разгортвае ў заснежаных палях,
І елкі, як манашкі-кармеліткі —
На цёмных строях белыя накідкі —
Ідуць чытаць наканаваны шлях.

І мне б у іх спытаць, якія знакі
Пергамент той накрэсліў для мяне,
Зямных арбіт якія задыякі
Мой шлях вартуюць з мэтаю дваякай:
Няўдачу й поспех зблытаць у цане.

Пытаюся… Насупіўшы галіны,
Маўчаць… А хор паслушніцаў-бяроз
Мне прашаптаў: «На тое і яліны,
Каб утаіць: шчаслівыя правіны —
Святлейшы дар, што лёс зямны прынёс…

А што далей? І мы таго не знаем,
Куды бязмежнасць вечнасці цячэ.
Але пракляцце змрочнае знімаем:
Прыходзь вясной — мы твой прыход умаім,
Забудзь, што змрок наперадзе яшчэ…»

*2001*

## У КАЛЯДНУЮ НОЧ

Ногі да падлогі,
Зэдлікам — парог.
З твару — казларогі,
А сядзіць, як Бог.

Зыркае на покуць,
Дзе вісіць абраз:
Звабная высокасць!.. —
Гэх! — туды б якраз…

Толькі ад парога
Не падняць хваста:
Хата вокам строгім
Праменіцца з кута.

Там святы Мікола —
Хат сялянскіх бог, —
Д’ябал там ніколі
Панаваць не мог…

А мароз — не лёкай,
Каб чарцям служыць:
Шчэміць — хоць галёкай,
Хоць у свет бяжы…

Дык зрэдчас Міколаў
Дапускаў пагляд
Адагрэцца ў холад
Дробных чарцянят.

І нікшні, басота,
Прышчамі хвасты:
Тут вам не балота,
Не чарот густы!..

Плішчацца малыя,
А між іх — стары:
Пэўна ж, косці ныюць —
Зябка на двары…

Тут не пахітруеш —
Хоць бы на парог…
А ў вачах віруюць
Зайздрасць і спалох…

Ды цішком адводзіць
Вочы ўбок святы:
«Ладна ўжо, адроддзе,
Адагрэйся й ты…»

***2002***

## ЁСЦЬ НА СВЕЦЕ…

Ёсць на свеце казкі бедных
Пра багатую краіну.
Я багаты тым, што следу
Ў той краіне не пакінуў.

Хоць там сонца не заходзіць,
Хоць малочныя там рэкі,
Хоць і чорт не верхаводзіць
Там над бедным чалавекам… —

Не хадзіў туды ніколі —
Не настолькі ж я наіўны!..
Толькі сэрца ные болем,
Што такая ёсць краіна…

*2002*

## ПРОСЬБА

Не абмані мяне, душа,
Не абміні мяне, надзея, —
Хай зоркі шлях тым завяршаць,
З чым у калыску паглядзелі.

Не разгадай мяне, жыццё,
Як крыжаванку на дурніцу,
Не спагадай мне: «Каб знаццё…», —
Хай застаецца таямніца.

Не спакушай мяне здаля,
Міраж, каб небу стаць раўнёю,
Не пакідай мяне, зямля, —
Ратуй дабром і цеплынёю.

Свяціся, памяць, у акне,
Што ўсмешкай мамінай свяціла,
Не адвярніся ад мяне,
Крыж над бацькоўскаю магілай…

*2002*

* * *

Ёсць у бясконцым Сусвеце
Галактыка чорная. Ёсць
Хаосу бяззорнага вецер,
Дзе нават сам Бог — рэдкі госць.

Бяздушша даіснага вочы
Глядзяць адтуль у журбе…

Я там пабываў аднойчы,
Калі не стала цябе.

Ды ты павярнулася светла
І мой перакрэсціла пагляд
Рукою душы сусветнай…
Сказала: «Вяртайся назад…»

*2002*

## ЁСЦЬ ВУЛІЦЫ…

*Анатолю Вялюгіну*

З хацінамі, што мрояцца дамамі,
Знябесненая сінімі дымамі;
Сагрэтая дыханнем і каханнем,
Шторання ў вокнах, быццам на экране,
Глядзелася: суседу ад суседа
Хаваць не собіла ні радасці, ні беды;
Выходзіла, як мацяркі-равесніцы,
Начную змену сустракаць ля веснічак;
То ў мураве, а то ў пясчаных выспачках —
Без грукату: і днём давала выспацца;
Каб месцічы не чуліся сяльчанамі,
У ходнікі абутая дашчаныя,
Зімой рыпела саннымі падрэзамі,
Вясной кіпела палісадам бэзавым;
Свавольна, па-вясковаму, не стрункая,
Дакладны адрас мела: «За чыгункаю», —
Як у казённую дарогу позвамі,
Трывожыла гудкамі паравознымі;
Не гналася за векам наўздагонку,
Але й вачмі не лыпала спрасонку… —
Дык вось — я меў ні мала і ні многа:
Я жыў тады на вуліцы Талстога.
Быў катушок мой Богам беражоны,
Як водзіцца ў сям'і маладажонаў.
У цеснаце — не ў крыўдзе, — гэткім чынам
Я быў шчаслівы — жонкаю і сынам…
І меў яшчэ, як кватарант, заслугу:
Тут жыў калісьці Анатоль Вялюгін.

Паэзіі службовец знакаміты,
Сам, як санет, з радкоў тугіх адліты, —
Быў галубятнік: вышынёй глыбіннаю
Ён з небам гаварыў па-галубінаму —
Выносіста, крылата і натхнёна,
У слова, як у неба, улюбёны…
На вуліцы Талстога я, няйначай,
Тады нашчадкаў галубоў тых бачыў.
Пярынка з галубінага крыла
Мне рыфмаю Вялюгінскай была…
Я ўдзячны майстру: як настаўнік строгі
Маю сцяжыну з вуліцы Талстога
Аднойчы ён прыкмеціў і прывеціў…
Бываюць жа — вось гэткія — на свеце,
Ёсць вуліцы: з наканаваннем Бога…

*2002*

## ЧЫРВОНАЕ БРЫВО…

На ўсю акругу тата быў стралок,
Не варашылаўскі — куды ранейшы: царскі.
І сведчыў тое срэбны ланцужок
І прыз — гадзіннік імянны, швейцарскі.

Ды тата напаказ не выстаўляў
Здабытую стральбой узнагароду
І — як контррэвалюцыю — хаваў
Яе і ад дзяцей, і ад народа.

Ну а пільней яшчэ свой прыз бярог
Ён ад вачэй даносчыка-суседа…
Ды па-ранейшаму страляць па цэлі мог —
Былы салдат саперніцтва не ведаў.

Бывала, паляўнічых сустракаў
І тут жа паспаборнічаць падначваў, —
І ўзводзіў палец цішыню курка,
І з цішыні той — гром ляцеў над Начай.

Ды толькі ў паляўнічыя не лез:
Ні на зайцоў не паляваў у полі,

Ні на ваўкоў не забіраўся ў лес, —
І стрэльбы ў хаце не трымаў ніколі.

І ўсё-ткі швагер, мыслівец Якім,
Падгаварыў яго схадзіць аднойчы
На такавішча, дзе цецерукі
На рулю самі пруць, закрыўшы вочы.

Пайшоў на золку, а дамоў ні з чым
Вярнуўся з дзіваваннем: «Ну і гулі!..» —
І больш у таты не было прычын,
Каб апраўдацца, — толькі і пачулі:

«Страляць не падымаецца рука
У чырвонае брыво цецерука…»

*2002*

## ПАЎСТАНАК

Усё ў руцэ казённых духаў:
Перон, дзяжурны пры сцяжку,
Бітончык з адламаным вухам
І конаўка на ланцужку.

Рамонтны водар таннай фарбы,
Здаецца, сто гадоў жыве,
І колер — быццам тут пажар быў:
Рудою вохраю плыве.

І ў гэтым ачужэлым свеце,
Дзе лёс зняверана прыціх, —
Яны: бяды ці шчасця дзеці —
З адным расстаннем на дваіх…

Дыхнуць гарачай хваляй колы —
Жыццё разрэжуць папалам, —
Што не сустрэцца ім ніколі,
Яшчэ і Бог не знае сам.

Ударыць звон расстайнай меддзю —
Нібы аб’явіць ім прысуд…

Паўстанак… — паўжыцця паедзе,
А паўжыцця пакіне тут…

*2002*

* * *

Знаю: там і пралескі цвітуць,
І на вербах вяснуюцца коцікі,
І дажджы шэры змрок не плятуць,
І асеннія дні не маркоцяцца,
І завея ў паўночнай гульбе
Не аплаквае радасці светлыя, —
А ўсё клічу і клічу цябе
Я адтуль — у гэту золь несусветную…

*2002*

* * *

Што ў старарэччы высахла вада,
Што кнігаўкі без паплавоў звяліся, —
Яшчэ не сама горшая бяда,
І для душы не сама горкі высеў.

Яшчэ душа збягае ва ўспамін,
Знаходзячы прытулак паратоўны…
А што за тым, чаго не ўбачыў сын,
Пабачыць праўнук мой адзінакроўны?

І што раскажа ўнуку ён свайму,
Што прыгадае, мовячы: «Калісьці…»?
І чым я грэх з душы сваёй здыму,
Што даў ім шлях, ды не пакінуў выйсця?..

Якія сны наступству прынясе
Зямля, што стыне мёртваю аблогай?
Аб стратах боль суціхне пакрысе,
Але — як жыць, калі няма былога?..

*2002*

## СЯБРАВЕЙ

Аблятаюць, адлятаюць, абрываюцца, —
Нават тыя, хто жывыя, не ўжываюцца…
З аблыселаю стаім сяброўскай кронай —
Адшумеў сусвет лістотаю зялёнай…

Той сусвет, якім сябрына мацавалася:
Пасля чаркі зорка з зоркай цалавалася,
Хоць не бачылі той зорнасці ўзаемна, —
І паглумна, і бяздумна — і дарэмна…

Разлятаюцца сябры — як ліст за лістам:
Той — пакрыўджаны, а гэты — ганарысты,
Той — з аздобленым чалом амальштогенія,
Гэты — вызнаўшы несумяшчальнасць генную…

Не трымаю вас, сябры, і не ўтрымаю, —
Кожны крыўду на мяне, напэўна, мае.
Я таксама на сябе — ох, як крыўдую…
А сяброў — сяброў растрачаных шкадую…

*2003*

## ВОЗЕРА СВЕЧАННЕ

Возера Свечанне, — свеціцца
Свіцязі кропляй малой,
Ціха стагоддзі сакрэцяцца
Ў тонях бурштыннай смалой.

Возера Свечанне, — вечнае
Веча вячыстых бароў.
Возера Свечанне, — стрэчанне
Звонкіх крыніц і віроў.

Возера Свечанне — свечкаю
Ў лесавіка на стале, —
Водбліскі светла трапечуцца
На ветравейным крыле.

Возера Свечанне — сведчанне,
Подых сусвету жывы, —

Ціха планета аспрэчвае
На першародства правы.

Зоры з глыбіняў вылечваюць
Чыйсьці зняверany лёс.
Возера Свечанне, — вечарам
Песня сыходзіць з нябёс…

*2003*

* * *

І хто намаліўся, і хто награшыў —
Рахунак аднолькавы мае:
Загадку жыцця ніхто не рашыў,
І часу ніхто не стрымае.
За часам не вернешся наўздагон, —
Час — ён двайнік наш сустрэчны.
Час — гэта я, гэта ты, гэта ён,
А ўсё, што без нас, — гэта вечнасць…

*2003*

## ВЫРВІДУШКА

Ах ты, полька-вырвідушка, —
Сэрца захлынаецца…
Вусны — макам,
Бровы — дужкай, —
Ногі не стамляюцца!..

Полька ўлева,
Полька ўправа,
Полька з пераборамі…
Халадаечка-забава
З ціхімі ўгаворамі…

То маўчала,
То спявала
Шчабятухай-птушкаю, —

Не тачка — жыцця замала
З гэтай вырвідушкаю…

Дзе той бубен, дзе гармонік,
Дзе абцасы гулкія?..
З сівізной гады гамоняць,
Спіць падушка мулкая…

І падлога, як падушка,
Спіць — не прачынаецца…
Ці душа, ці вырвідушка —
З цела вырываецца?..

Адгуляла, адгудзела
Полька завірухаю:
Вырвідушка адляцела —
Толькі рэха слухаю…

*2003*

## ГЕРАСТРАТ

Пад родную страху, нібыта галавешку,
Нясу інтэграцыйны свой запал.
Гараць дарогі, і дымяцца сцежкі,
І ў будучыні спаленай — прагал…

І я: на папялішчы Беларусі —
Праз федэрацыю ці нейкі там саюз —
Са славай Герастрата застаюся,
Апошні і нікчэмны беларус…

*2003*

## КРЭЎНАСЦЬ

Не варта пытаць Усходу:
Нас там няма і не будзе, —
Адтуль мы выходзім у людзі
З Усходам «единым народом»…

Загадка вечная — Захад:
Глядзіць — наглядзецца не можа…
Сардэчны пагляд, не варожы, —
Стаіш, як без апранахі…

Чакаеш: а як ацэняць?..
Ды ў гэтым крэўным братанні
Маленькае ёсць пытанне,
Нязначнае ёсць адценне:

Чаму і якім працягам
Гісторыя так вырашала:
Гарнула ў «крэсы» Варшава
І ратавала Прага?..

*2003*

## ЯЧМЕННАЕ ПОЛЕ

То шнуры баразён акучаных,
То ў царах — кукурузны кіях, —
А таго вусача калючага
Ўсё радзей сустракаю ў палях…

З кожным днём мудрэе селекцыя:
Кажуць, ёсць ужо й без асця —
Ёсць бязвусы ячмень, — як праекцыя
На спрадвек талерантны наш сцяг.

А ў дадатак не зерне на крупы —
Словы, словы… — чым не харчы?! —
Нам таўкуць дзяржаўныя ступы
І дзяржаўныя таўкачы…

Бульбянее душа беларуская,
Зарываецца ў глебу глыбей…
О ячменю палоска вузкая,
Ты не зводзься і не гібей…

Пашырайся, ніва шапоткая, —
Вус угору, зерне ў наліў.
Радасць будзе ў нас не кароткая, —
Бога куфлем ніхто не ўгнявіў.

Нораў твой ды ў наш бы характар:
Каб і зерне і добры задзёр, —
Знаюць хай на сусветных трактах:
Белавус — і васцёр, і мудзёр!..

Беларусь, ячменнае поле, —
А на полі і мы ўзрасцём:
Нам у горле твой колас не коле, —
Папярхнецца хай вораг асцём.

Хай шумяць ячмяні вусатыя —
Плён такі даспадобы жыццю:
Нам — на піва, на кашу з затаўкай,
Можна й ворагу — на куццю.

*2003*

* * *

Грамадзяне сусвету:
Ёсць і ўсё, і нічога, —
Без радзімы планета,
Без прыпынку дарога.

Ні надземнага раю,
Ні падземнага пекла…
Не збярэш ураджаю
Там, дзе градам пасекла…

Ні пазычыць, ні ўкрасці, —
Як з бадзяжае долі…
Толькі мінімум шчасця,
Толькі максімум волі…

*2003*

## КАРТА

Гляджу на карту беларускую,
На месца местаў — і бянтэжыць:

Чаму ад іх палоска вузкая
Да гэтак званага замежжа?

Як быццам хто задумаў недзе:
Бярэсце, Віцебск, Гродня, Гомель…—
Далёка Менск, а да суседзяў —
Як ёсць ступіць адной нагою…

Няўжо гародзенцы ці віцьбічы
Сяліліся так аднабока?
Няўжо князі жылі на выдмішчы,
У ворага навідавоку?..

Ці для таго стальцы стаўляліся,
Хадзілі ваяры пагоняю,
Каб жартам мы цяпер пыталіся:
«А нашы людзі е за Гомелем?..»

Ёсць!.. За Бярэсцем і за Гродняю,
За Віцебскам і Магілёвам…
Гісторыя суседскай зводняю
Звяла зямель ад нас палову…

І гарады, калісьці стольныя,
Значком, як зоркаю ці месяцам,
На карце нашай — неадольныя —
Па саменькім краёчку месцяцца.

Нібыта пояс — па перыметру,
Нібыта маякі сігнальныя
Аб тым, што памяць час не выветрыў,
Што і яны былі — цэнтральныя…

*2003*

## ТРЫ ЗНАЁМЫЯ

Адна мая знаёмая, дарога,
У рай вяла, ды ўсё далей ад Бога.

Другая, з ласкай боскаю, жанчына,
Мяне ў свае анёлы залічыла.

А трэцяя знаёмая, асіна,
У Бога даравання мне прасіла…

*2003*

* * *

Смерць апошнія дні адлічвае,
І жыццё ні ў душы ўжо, ні ў целе
Не жыхар… А да ложка бальнічнага
Суцяшальнікі пнуцца арцеллю.

Нахіляюцца, усміхаюцца:
«Ну, мы, брат, яшчэ й чарку возьмем!..»
Як ад мух, ён ад слоў адхіляецца —
Адмахнуцца рука не ўзнімаецца, —
Ён ужо ў недасяжнай дарозе.

І на ўсё толькі й стала трываласці —
Не сказаць — моўчкі ў іх запытацца:
«Ці з жывым развітацца сабраліся,
Ці ўжо з мёртвым прыйшлі павітацца?..»

*2003*

## ПРОСЦЕНЬКАЯ ГІСТОРЫЯ

У бацькоў — тры сыны,
А дачка — адна.
Усе тры — за паўцаны,
А ў дачкі — цана!

У сыноў — дудачкі:
Душы весяліць,
У дачкі —
ву-
дач-
кі:
Жаніхоў лавіць…

Паігралі сыны
Дый пабраліся.
А ў дачкі
Ўсе кручкі
Пазрываліся…

*2003*

* * *

Можна здзяцінець, ды нельга прайсці
Ад старасці шлях да дзяцінства, —
Жыццё адно нам Бог адпусціў
З дзяцінствам — боскім гасцінцам…

Не дадзена й двойчы кахаць у жыцці
І гэтак жа — быць каханым, —
Усё астатняе можа ўзрасці
Толькі ўспамінам ці самаабманам…

*2003*

* * *

Мы — у цэнтры, не на ваколіцы, —
Гэта нас і сагнула, відаць:
За Украйнай — казацкая вольніца,
Нам жа трэба ўсіх прывітаць.

Тут шляхі з Усходу і Захаду,
Поўнач з Поўднем сустрэліся тут…
Сваймy святy пад нашымі дахамі
Замаўляюць чужынцы салют.

Мы жаданых — частуем чаркай.
Набрыдзь — лезе сама штодня…
І няма ў нас крыві янычарскай, —
Першародная чысціня…

А таму і адбіцца не можам, —
І з паклонам, з паклонам усё,

Як Пясняр гаварыў, на свет божы
Сваю вечную крыўду нясём.

І нікому не замінаем,
І сваё гатовы ўступіць, —
Талерантнасць…
І дзе, не знаем,
Талерантнасць тую ўтапіць…

*2003*

* * *

*Купальская згадка —*
*Валі да 6 ліпеня*

Песня з цішыні
Выплывае ў жыцце:
Хай купальскі цвет
Дорыць дзесяць жыццяў.

Хай і ў вышыні
Кветка расцвітае —
Неба да зямлі
Зоркаю злятае.

Хай гараць агні,
Ззяюць іскры ў росах,
Хай плывуць вянкі
І злучаюць лёсы.

Хай гуляюць дні,
Хай хвіліны скачуць, —
Як не будзе нас,
Хай стагоддзі плачуць…

*2003*

* * *

За грэбнем елак завостраным,
Я знаю, — за сіняй смугой,
Паляна сонечным востравам
Чакае прыходу майго.

У квецені святаянніку
(Ён жа і зверабой)
Сонца, прачнуўшыся раненька,
Заварвае зелле-напой.

Усім: і святому, і грэшнаму
Замоўлены тут абярог.
А мне спрыянне найпершае
Нашэптвае траўны бог.

Прымаю святло непагаснае,
Каб вабіў родны абшар, —
І Зверабоя паганскага,
І Яна святога дар.

У вырай птушкі збіраюцца
За тысячны небакрай,
А я спяшаю штораніцы
Сцяжынкай у блізкі рай.

Малюся, што Усявышні
Мне выдзеліў шчасця драбок,
Што на зямлі я не лішні,
Маючы гэты куток…

Перад зімовымі стратамі
У райскім леце стаю.
І птушкі — крыжы крылатыя —
Малітву ўзносяць маю…

*2003*

## ПРА ЎДАЧУ

Грыбы шукаць, як і вершы складаць:
Не знаеш, дзе ўдача прыхіліцца…
І ўсё ж удача з удач, відаць,
Чакае, калі гукальшчыкаў раць
Не дыхае ў твар і ў патыліцу…

*2003*

## АПТЫМІСТ

На цёплы поўдзень прыдбалі квіткі
Суседзі — і шпак, і ластаўка,
А вераб'ю ляцець не з рукі:
Пара ў яго самая ласая.

Капейка ў кішэні, а з'еў на рубель —
Жыццё па-асенняму лёгкае, —
І на таку аптыміст-верабей
Вось-вось салаўём зацёхкае.

*2003*

## «КАРАМБОЛЬ»

Глядзіш: вялік зямны абшар,
Вузей — Еўропы кавал скарбны,
А ў цэнтры — Беларусь, як шар,
Ды не звычайны, а більярдны.

Стаяць навокала гульцы,
І кожны сэнс тлумачыць кіем:
Пацэліць — і гульні канцы,
А як жа йнакш: мы — сваякі ім.

А гэта й значыць: «свой свайго»
(«Народ един» і «wschodne kresy»)
Да ўласных цягне берагоў,
Гвалт называючы прагрэсам.

Більярдны стол ажно трашчыць,
Зялёны покрыў чырванее…
А ў беларуса пот цурчыць:
Ён не гулец — ён жыта сее…

І пільна сочыць: хто які
Сваяк, з якім ідзе саюзам, —
І разумее: гэхне кій —
Ляці ў саюз, як шар у лузу.

Не, не ахвоч ён ад бартоў
Качацца з бітымі бакамі,
Хоць «карамболь» гульцоў-братоў
Вісіць над ім, лічы, вякамі…

Але ж у кія два канцы, —
Не забывайцеся, гульцы!..

*2003*

## ПОМНІ…

Пі радасць вясны,
Пі вусны каханай,
Пі сонечны дар — віно,
Пі водар лясны…
Пі — ды помні і п’яны,
Што ў кожным кубку
Ёсць дно.

*2003*

## КАМЕНЬ

У каменя каменныя сківіцы,
У каменя каменныя зубы.
Ды камень кусацца не кінецца:
Камень — заложнік рахубы.

У каменя — век у запасе, —
Зацята цікуе камень:

Каму б галаву расквасіць,
Але — чужымі рукамі.

У каменя хлеб — чаканне.
Спяшацца не любіць камень.

*2004*

## ПЛАЧ

Плача бясслёзна, плача жанчына,
Горка ў вачах хаваючы плач.
Хто я такі, каб спытацца прычыны? —
Не суцяшальнік, і не глядач,
І не віноўнік — ні яўны, ні ўскосны,
А на душы — сусветная золь.
І каб разгадаць вачэй гэтых космас,
Трэба самому зрабіцца слязой…

*2004*

## ВАЎКІ

Ваўкі дрэсіроўцы не паддаюцца,
Ваўкі з нутром і шкурай здаюцца,
І чалавеку тое ўспадобіцу,
Што ваўкі сабакамі робяцца.

*2004*

## ЧЫСТЫ ЧАЦВЕР

Вагаецца ў небе
Вясёлкі асвер
Па пільнай патрэбе:
Чысты чацвер.

Сем бодняў гайдае
І вочапаў сем.

А вясна маладая
Сем вёдзер нясе.

Начэрпае ўповень
У пойме вады,
Каб вымыцца полю
Ад зімняй нуды.

Каб чыстаю хатай
У чыстым двары
Прывецілі свята
Гаспадары.

Каб чысты не выстыў
Чацвер у красе,
Сем колераў чыстых
Вясёлка нясе.

Азёрам і рэкам
На хваляў сувой —
Нябеснае рэха:
Блакіт з сінявой.

Вірам у цямноты —
Круты фіялет.
А жоўты — на лотаць
І на першацвет.

Зялёны — на кроны
І на сенажаць.
Вялічку — чырвоны —
Дары фарбаваць:

Заранaчкі-яйкі,
Румяны пірог —
Як сонечны зайка —
На кожны парог.

Вялікадню свеціць —
Заўжды і цяпер —
У душах і ў свеце
Чысты чацвер!

*2004*

* * *

А вясна яшчэ ў тонкую столку:
Дзве праталінкі. На адной,
На каменьчыку, як на пяколку,
Сеў жаўрук да сонца спіной.
На другой — яго песенька грэецца.
Свет увесь у чаканні прыціх:
Хутка жаўранак з песняй сустрэнецца, —
Хутка неба з’яднае іх.

*2006*

## АСЕННІ СВЯТАСЛОЎ

У дзён — дажынкі,
У ночак — даўжынкі,
У песень — слязнінкі,
У дум — памінкі…

*2006*

* * *

Не шукай у шакала ільвінай шкалы,
Ідучы з грахамі на споведзь.
Не выпрошвай у ворага пахвалы —
Ён яе над труною прамовіць.

*2007*

* * *

З народам сваім, як з лёсам сваім,
Стаю на вякоў скрыжаванні.
Як ён ува мне, так і я — у ім, —
Над безданню выжывання…

Калі гляджу на прасторы нябёс
З палётам мар-аблачынак,

Ці згадваю Начы разлівісты плёс
З нерастам шчупачыным,

Калі чытаю старонкі палёў,
Ці думаю думы лясныя,
Ці слухаю памяць сівых камянёў, —
Як сэрца балюча ные:

Зямля мая, маці мая, няўжо,
Мы лёс такі заслужылі,
Што будзем думаць на мове чужой
І песні складаць чужыя?..

*2007*

## ДУША

Ні слоў, ні плачаў развітальных,
Жалобу справіла імша, —
І ўжо ў маўклівасці астральнай
Ляціць самотная душа.

Нябёсы з дараваннем Боскім
Яе вітаюць, промні шлюць,
І райскіх песень адгалоскі
На крылах вечнасці нясуць.

Анёлы весела віюцца,
Зіхцяць палацы з хрусталю…
А ёй так хочацца вярнуцца
Туды — на грэшную зямлю…

*2007*

* * *

Калі я выплыў з вады
На бераг, каб стаць земнаводным, —
«Злічы да пясчынкі, тады
Абыдзеш грэх першародны…»

Калі я не стаў лічыць,
Змяняў плаўнікі на крылы, —
«Грэх здымеш, злічыўшы ўначы
Зоры на ўсіх небасхілах…»

Лічу, лічу і лічу —
Па Боскаму запавету, —
І грэшным каханнем плачу,
І дзякую Богу за гэта.

І сам Усявышні знямог,
І з грэхам маім зміры́ўся:
«На тое ж і ёсць я Бог,
На тое ж і ты тварыўся!..»

*2007*

* * *

Сцежкі, сцежкі — усцяж магіл,
Нібы на далоні лініі лёсу.
Як глянеш — то ўзгоркі наўкол, то лагі,
Як ляжаш — з зямлёю зліюцца нябёсы…

І толькі па лініях — крокі жывых:
Яны яшчэ вераць, што гэта сцежкі,
Што можна вярнуцца ці збочыць з іх…
А вечнасці вочы глядзяць з усмешкай…

*2007*

## ТАЙНА

Над магілай забытай рабіна
Чырванее, не знаючы, хто
Пахаваў тут — ці бацьку, ці сына,
Ці прыблуду з нязнаных кутоў…

Нахіляе ўраджайныя гронкі,
І чаму — у каго б ёй спытаць? —

Да яе не злятаюцца звонка
Птушкі — ягад хоць раз паспытаць?..

*2007*

* * *

Балоты, балоты… Балты…
Адно ў адным — як замес…
Тысячагоддзяў гвалты —
А балт — не памёр, не ўваскрэс, —

А балт жывы, неўміручы,
Сам Бог так сказаў: «Жыві!..»
Тым беларус і жывучы —
Кропелька балцкай крыві!..

*2007*

* * *

Ужо птушыная капэла
Замор'е дзесьці весяліць;
Ужо бяроза пашклянела:
Галінкай кожнаю звініць;

Ужо аздоблены пушыста
Заечы шэры кажушок
І з беленькіх парашутыстаў
Сумёт узняўся на вяршок, —

А мне нястомна цешыць вока
Забыты ў полі васілёк:
«А да вясны так недалёка:
Адзін, як і да смерці, крок…»

*2007*

## НЕ ЗНАЦЬ БЫ…

Не знаць бы, якая
Мне з песні надзея,
Як птушка не знае,
Што лётаць умее…

*2009*

## СНІЦЦА СІНІЦА…

Сніцца сініца. Штоночы
Сніцца — зімы сястрыца,
Як быццам сказаць што хоча,
Ды агалоскі баіцца.

А я не магу здагадацца,
Таму й не магу суцешыць.
Колькі ж ты будзеш гайдацца
На ветры, блакітны арэшак?

Як раскусіць тваю тайну,
Як разгадаць таямніцу:
З краіны якой віртуальнай
Ты прылятаеш, сініца?

Дзе ты жывеш, дзе гняздуеш
З песенькай сціплай і шчырай,
Дзе сваіх дзетак гадуеш,
Дзе твой далёкі вырай?

Ці я нагадаў абліччам
Той згублены май далёкі,
І ты душу маю клічаш,
Бо сумна тваёй, адзінокай?..

У свет які на світанні
Ты адлятаеш, сініца, —
Неразгаданаю тайнай,
Каб зноў прыляцець і прысніцца?..

*2009*

## НЕ БЫЎ БЕЛАРУСАМ…

О Божа, Тварэц Усявышні,
Успомні — на момант хаця б, —
Што я ў тваім свеце не лішні
І ў свеце людскім не раб.

Ты даў мне такую зямліцу, —
Што сам не знаходзіш прычын
Супроць, каб на ёй пасяліцца, —
Калі б не сусветны твой чын…

О Божа, твой клопат глабальны:
Каб з тропу не збіўся Сусвет.
А чуў, як са словам пахвальным
Глядзіць на нас кожны сусед?

Такая зямліца! — о Божа,
Ды як жа яе не любіць?!
І хто ў той любві пераможа,
Суседзі не могуць рашыць…

Таму й не зайздросці Айчыне
Маёй, — я здагадку набыў:
Усё гэта, Божа, з прычыны,
Што ты беларусам не быў…

*2009*

* * *

На сямі азёрах,
Што з сямі крыніц,
Сем нябёсаў зорна
Ноччу палі ніц.

Да святых грахоўніц,
Да русалак-дзіў,
Што выходзяць поўняй
Там, дзе я хадзіў.

Я — бо маю права:
Тут я свой ушчэнт:

*Лукам'е, Сялява,*
*Родамля*... яшчэ? —

*Галаўня, Чарэя,*
*Худавец, Палік*... —
Хопіць! — вечарэе, —
Кончым пералік.

Вунь ужо русалкі
Карагод вядуць,
Зорачкі-мігалкі
З імі ў круг ідуць...

*2010*

# МАЎЧАННЕ ТРАВЫ
*Паэма лёсу*

## 1
## ЗАПРОСІНЫ

Палёўкай пры лесе — Узбор’е —
Вёска — сорак двароў:
На захад — жытное горне,
На ўсход — перазовы бароў.
Куды пахінуцца — гадае,
Напэўна, тысячу год:
На захад — дзень хлебадайны,
На ўсходзе — песні ўмалот.
Ледзь певень абудзіць падвор’е —
Не ломіць ніхто караля:
Не ведае стомы Узбор’е,
Спрадвеку жыве з мазаля.
Вяснуецца ў полі з сяўнёю,
П’е жніўнем з ламоткіх крыніц
І боханам — сонцу раўнёю —
Ўзыходзіць на покут святліц.
Ля борцяў узятак цікуе,
Румуе калоды на сплаў,
Цяслярыць і скрыпкі штукуе —
Ніхто не прыліпне да лаў!
Вось так і трывае паціху,
Не звыклая часу лічыць,
З прымоўем: няўродзіца — ліха,
І ліха — як песня маўчыць.
Купалка, вяснянка, калядка,
Талочніца, жніўка, кума,

Скакуха, любоўніца-звадка
І тая — каб сват не драмаў…
Я слухаў вас. Хай пазайздросцяць,
Каму не ўдалося пачуць!..
Ляжаць спевакі на пагосце…
А песні?.. Ды лепш памаўчу.
Бываюць жа цуды зямныя!
І ёсць паміж іх старана:
То баравая заные,
То жніўная ў сэрцы струна.

## 2
## КАРЧМА

Дарог на свеце мноства,
Ды дзве
любы куток
Скрыжоўваюць наўпроста:
Аснова і уток.
Аснова весніх крокаў,
Уток гадоў-надзей:
Ніхто не пройдзе бокам —
І ў шчасці, і ў бядзе…
Усё і ў нас, як трэба:
Узбор'е — на крыжах, —
Цягні свой воз пад небам,
Нібы на двух гужах…
Адна раскашавала
Дарога ўсцяж палёў,
Другая прышывала
Узбор'е да бароў.
На ростані, прагорклай
Ад часу й палыну,
Буяла Веснагорка
Паганствам штовясну:
Спяванкі, жарты, скокі,
Арэлі, карусель,
Пад поўняй аднавокай —
Трава ды жаўтазель…

А ўзбоч — карчма стаяла,
І рэй тут вёў Абром,
Збіваў машну памалу,
Скупляючы дабро.
Жытам, аўсам ды грэчкам
Даваў дарогу ён
І сала не адпрэчваў,
Абы ўзрастала ў плён!
Каб сухавей не яхкаў,
Каб спорыўся ўмалот,
Абром маліўся Яхве,
Хрысту — мужыцкі род.
Дабро на стол заморскі
Сплывала па Дзвіне.
У Рызе пот узборскі
Чырвонцамі звінеў.
Ды там ужо кілзалі
Гешэфт тузы з тузоў…
Абром жа, мы б сказалі,
Вёў працу між нізоў.
А Хана карчмавала —
Не быў манахам стол —
Варыла, шынкавала
Ды брала на засол.
І чарка вам, і закусь,
І драбяза-тавар:
Істужка, булка з макам, —
Так і гусцеў навар.
Усіх вітала Ханка —
Хто зблізку, хто здалёк:
Падкочвала фурманка,
Туліўся хатулёк…
За грошы і ў пазыку —
Ніхто не меў заган:
Вандроўныя музыкі
І канакрад-цыган.
Чаляднікі медзь трэслі,
І ў шклянцы вус мачыў
Ляснік, што ўчора ў лесе
Пні-свежакі злічыў.
Ды вэрхалу найболей
І выручкі было,

Калі ў карчме застолле
Нядзельнае гуло.

Збіралася бяседа
На прыцемку — тады,
Як вечар за абедам
На нюх лавіў сляды.
Ішлі сабе няўзнакі:
Адзін — прадаць авёс,
Другі — стральнуць табакі,
А трэці — байку нёс.
Па кроплі і яшчэ раз
Сагрэтая душа
З ярма нядолі шэрай
Прасілася спярша.
І гойдалася нізка
У дыме гамана,
Пакуль сляпы Аніска
Жалейку не кранаў.
Тады скакала ў пяткі
Вясёлая душа,
Хоць за душой і ў святкі
Не мела ні граша.
Скакала не ад страху,
Скакала не сп’яна,
Скідала апранаху
І гнала ў дол яна
Ударамі абцаса
І гора, і нуду.
І кідала тым часам
Прыпеўку на хаду:

> Авохці мне,
> Злая доля прыгне —
> А я не зламлюся,
> А я разагнуся!

З падкрутам і ўпрысядку
І з грукатам грамніц
Душа скакала ў пятках
Пад гойданне масніц.
Не зналася з мяжою —
Дзе неба, дзе зямля!

Душа была душою
Яўсея-каваля.
А з лаўкі ў лад, з прысвістам
Ішоў на круг Васіль —
То высцілаўся лістам,
То пеўнем калясіў.
І любаваўся ўпотай
(Былі ў арлах, былі!),
Як бліскаўкамі боты
Ў прыдробачку плылі.
Каб на абцас узбіцца,
Каб лапцем не слядзіць,
Прыйшлося да сталіцы
У зарабкі хадзіць.
Сезонілі з Яўсеем
Яны аж тры гады.
А сёлета аселі
Ля жонак маладых.
Абутак зухаваты
Даў Піцер на разлік
І адаслаў дахаты,
А сам — як прывід знік.

Былі ў арлах…
                    Ды годзе —
Адлёталі спаўна!
Арліц не ўкарагодзіш —
Адна ў душы, адна.
Адна чакае ў хаце,
Адна ўначы не спіць,
Адна — яшчэ не маці,
Ды хутка мае быць…

Ах, Васілёва зорка, —
Пад сэрцам стыне лёд:
І побач з ёю горка,
І тут — зусім не мёд.
Глядзіць з кутка зацята,
Пузырыцца Сямён:
Хоць выраклася брата,
Ды брат жа ўсё-ткі ён.
«Жыць буду хлебам-соллю,
І ваша ўся зямля…» —

Супроць сямейнай волі
Пайшла за Васіля.
«Што чмур напаў на дзеўку —
Наскрозь яго віна:
Пад'ехаў неўспадзеўку… —
І п'е Сямён да дна. —
Пагрэць задумаў рукі?..
Не выйдзе, пустазвон!.. —
І гнецца чорным крукам
Над селядцом Сямён. —
І я, — пячэцца ў злосці, —
Страляны верабей.
Не тую грэблю мосціш!
Жаніўся — і гібей.
Зямлі маёй не ўхопіш!..»
Зямля,
          зямля,
                    зямля…
Як ты няшчадна топіш,
Як смокчаш кроў пасля…

Няўжо адкрасавала,
Завяла ўсё, як цвет,
Калі і ёй замалым
Пачаў здавацца свет.
Якраз на той кавалак,
Якраз на той шнурок,
Што моўчкі прыхавала
Пад сэрцам, дзе сынок.
Не знаў бы ён галоты,
Як людзі, меў зямлі,
Калі б не тыя боты:
Яны ў спадман звялі.
Яны, ды стан, ды сіла,
Ды казытлівы чуб…
Усё тады забыла,
Як быў і міл, і люб…
Калі ж ацверазела,
Апаў з вачэй туман —
«І з гэтым булкі б ела,
І той жыве, як пан…».
Зямля, зямля… Ні разу

І думкай пра надзел
Каханне на абразу
Не даў Васіль нідзе.
Таму і цяжка дома,
А на людзях — цяжэй.
І б’е абцас няўтомна —
Барзджэй,
барзджэй,
барзджэй.
А ўжо напітым вокам —
Не бачыць каваля —
Сямён — панура — бокам
Ідзе на Васіля.
Як быццам той на полі
Дзярэ яго мяжу:
— Далоў, — крычыць, — даволі!
Сыдзі з тачка, кажу!
І нож чырвоным бліскам
Ударыў пад крыло.

І лёгкаю калыскай
Усё плыло…
плыло…

## 3
## ПРЭЛЮДЫЯ ЖАЛЕЗНАЙ ПТУШКІ

…І лёгкаю калыскай
Усё… плыло… плыло…
Ляцела птушка нізка —
Жалезнае крыло.
Ляцела да пазіцый,
Як люты змей з-пад хмар,
Каб Хірасіме сніцца
Кашмарамі ахвяр.
Каб праз дзесяцігоддзі
У наш свінцовы лёс
З крутых піке заходзіць
На вогненны пакос.
Каб узнімацца сонцам,

Дзе захад быў заўжды,
Над рыбаком-японцам
Праз вадародны дым.
Каб рэбрамі — будынкі
З-пад чорных крумкачоў,
Каб дзень і ноч — абдымкі
Жалезных абручоў…
Ляцела, як хацела,
Бо роўных не было.
Агнём пыхцела цела
І ў дрыжыках гуло.
На дол усіх здзімала —
Нібыта ў сто вятроў,
Жалезам палівала
Жалезнае нутро.
Усё перад вачыма
Пранеслася ў той міг,
Як пад выццём ваўчыным
Салдат упаў, прыціх.
«Бывай, сям'я і хата…»
А потым — як праклён:
«Хоць сам ты вінаваты,
Але прабач, Сямён…
За ўдар не расквітаўся,
Не ўспеў. І на круку
Твой дзень вісець застаўся
Ў маім драбавіку.
Прабач…»
І бомба з віскам —
Ні флангаў, ні тылоў.
І лёгкаю калыскай
Усё… плыло… плыло.

4

## ВЕСНАГОРКА

Веснагорка… Хто і як звязаў
Тут сцяжын патайных першапуткі?
Хто спыніцца родзічам сказаў
І назаўтра не трубіў пабудкі?

На пагорку, сцішаны, стаяў
І вясну адхукваў у далонях —
Кветку-сон, дзіўнейшую з праяў,
Што з блакітным жаўранкам гамоніць.
Веснагорка. Горка ля дарог.
Выраю стамлёнае гайданне.
Праз тысячагоддзі я збярог
Воблік той, што ўбачыў продак даўні.
Праз тысячагоддзі ў сэрцы нёс
Вёснаў шум на рэках крыгаломных,
Восеньскую тайну чорных лоз
І снягоў суровую бязмоўнасць.
Веснагорка. Сонца і слата,
Смех сустрэч і развітання слёзы.
Веснагорка. Горкая вярста
Пачынала шлях свой ля бярозы.
Шлях бацькоў, мужоў, сыноў, братоў —
Да казённых вестак у канверце.
Веснагорка… Ростань… І ніхто
Не замоўлен ад агню і смерці…
Край мой родны, хата на крыжах,
На распяцці войнаў і разбояў.
У цямнотах курганоў ляжаць
Зерні дум, пасеяных табою.
Веснагорка, маці Беларусь,
І адкуль, скажы, не пёрла намець?..
На крыжах — Скарына і Кастусь,
Лёс народа, сэнс яго і памяць.
На крыжах кружыў з усіх Еўроп
Вецер злы з крывавым чадам Азій.
Ды знаходзіў люд мой чарнатроп
І да сонца зноў і зноў вылазіў.
Скрыжаванне планаў — «ост» і «вест» —
Над табой пятляла праз стагоддзі.
Хто ваўком, а хто гадзюкай лез, —
Як ты выжыў, адкажы, народзе?
На крыжах гісторыі дзяцей
Кідаў кат у студні галавою.
Зерні душ, адвеяных ад цел,
Узыходзяць па вясне травою.
Веснагорка, сэрца на крыжах,
Мова, што спрадвеку мы гаворым,

Нематы неспапялёны жах
На скрыжалях мужнасці і гора.
Беларусь, славян бялявы край,
Край бяскрыўдных самых і рахманых, —
Для дзяцей і ўнукаў каравай
Мроіўся прыблудам з-за туману.
І чаму, чаму рашылі ўсе,
І адкуль пагудка йдзе такая,
Што гурок з цыбуляй на лясе
Іх, узняўшы чарку, сустракае,
Што жыве тут у рацэ шчупак
І ніяк не можа дачакацца,
Каб хутчэй ускочыць у чарпак
І камусьці на абед падацца…
Што народ у нас — дзе ўстаў, там лёг, —
І хапаць не пнецца зорак з неба,
Мяккі і спажыўны, як мурог, —
Толькі, кажа, ласкай не пагрэбуй.
А жанкі — глядзі ды выбірай:
Налюбкі любая — як да густу.
І, між іншым, тут не край, а рай:
І ў кубёлку, і ў засеку густа.

Веснагорка… Горка, дзе вясна
Абуджэнне траў штогод вітае.
Веснагорка… Горкая вясна,
Што надзеі сцішана вяртае…
Так было… Тады Васіль прыйшоў
Да цябе з таго амаль што свету:
За арла з дзюбатым спарышом
Два гады праглухшы ў лазарэтах.
Царскай той апошняе вайны
Датлявалі дымна галавешкі.
Бадыллём буялі палыны
На шнурах узборскіх і на ўзмежках.
Веснагорка… Дні вясны сплылі,
Промня не пакінуўшы на потым.
Веснагорка… У зямлю звялі
Жонку ці сухоты, ці згрызоты…
Адшукаў на могілках грудок,
Пастаяў Васіль, як развітаўся…
Вось яно і ўсё цяпер, браток:

І аджыўся, і адваяваўся.
Дзякуй Сёмку, што на гэты час
Немаўлятка-сірату прыгледзеў…
Дзякуй Сёмку, хоць яшчэ не раз
Шавяльнецца шал пад сэрцам недзе.
Зашчыміць нясплачаны рубец,
Што ў карчме тады адзычыў Сёмка…
Але ўсё. Было — сплыло. Канец.
Не да брыку ў гэтакіх пастронках.
Крыўду з горам чаркай запілі,
Аб жыцці-быцці памужавалі…
Што там Сёмкі, што там Васілі —
Не з такой турботай межавалі!..

Ападала шэрая туга
Дзён зімовых. Бралася на ясень.
І вясны бунтоўная смуга
Ад зямлі да неба разлілася.
Над пазелянелаю страхой
Водгулле акопаў асядала.
З пухіра кантузіі глухой
Вырывацца стаў Васіль памалу.
Жаўранка пачуў — як першы раз!
Заскакаў ад радасці няўтрымнай:
Жаўранак! прабіўся! не завяз!
Жаўранак у небе бомбай грымнуў!
Веснагорка… Дзіўна Васілю
Слухаць гэты свет балюча-звонкі
І зайздросціць моўчкі ручаю,
Што бяжыць з вясной наперагонкі.
Скочваюць завеі свой сувой,
Ды не зыч вясны ўдаўцу, вяснянка:
Між дзядзькоў як быццам ты не свой —
І хлапцом не ўляжаш на гулянку.
Не памкнецца дзеўчына ў твой бок,
Уздыхне надозір маладзіца,
Бабка скажа ўслед: «Не дай жа Бог
Два разы сяліцца і жаніцца…»
Снег мой, снег — і ў скквар не растае…
Пачакай з вясною, Веснагорка.
Сцежкі незваротныя твае
Замятае вецер, вецер горкі…

Кліча поўня
                          зорак драбязу
На папас. Парыпвае калодзезь.
Загуменнем прыцемкі паўзуць.
І Васіль за веснічкі выходзіць.
Не такая ўжо сваты радня,
Хоць заўсёды зваліся — на святы, —
Што ж так цягне Васіля штодня
На гасціны да Якіма ў хату?
Ну каб Змітра бег — малодшы брат, —
Дык яно і звыкла ўсім, і ясна:
Тут, у гэтай хаце акурат,
Жонкай абзавёўся ён уласнай.
А Васіль? Як сябра ці як сват?
Ці прычына іншая якая?..
Ах, Кулінка, што ж ты неўпапад
То смяешся раптам, то змаўкаеш?..

Бяроза, бярэзінка,
Белая сярэдзінка,
Ветрам нахілёная,
Сонцам зелянёная,
Дарога, дарожанька,
Лятуць самі ножанькі,
Лятуць, не спыняюцца,
Нясуць, не стамляюцца.

Водзіць Веснагорка карагод,
Толькі песня сёння як чужая…
«Што ж ён, дзе збіраецца народ,
Што ж мяне зусім не заўважае?..»

Бяроза крылатая
З дарогаю сватала.
Бяроза-патайніца,
Ці станеш вяртальніцай?
Дзяўчына, дзяўчыначка,
Куліна, Кулінaчка,
Хлопцы заглядаюцца,
Сэрца захлынаецца…

«Ці мне людзі, ці мне цэлы свет
Сталіся б зламоўнай перашкодай?..

Страшна як, што з’едлівы твой смех
Абарве надзею назаўсёды…»
На Кулінку пазіраў тайком,
Праклінаў пакутную нясмеласць.
Быццам зноў рабіўся юнаком
І не ўсё згарэла-адбалела.
Веснагорка… Салаўіны чад…
Ці ты знала-ведала, Кулінка,
Як няўзнак адстанеш ад дзяўчат
Усяго на нейкую хвілінку,
На той самы момант, каб Васіль
Да рукі рукою дакрануўся
І знямелы — раптам, назусім,
Назаўсёды — свет перавярнуўся!..

— Аддэхнеш, як здэхнеш! —
Крычаў палячок. —
Не ў келіху грэх наш, —
І ладзіў смычок.

Пан Цяцерскі лад у скоках знаў,
Бо на ўсю акругу быў маэстра.
У маёнтку, пры двары, іграў,
Аж пакуль той двор ушчэнт не трэснуў.
Адгуляў сваё, адсмакаваў
Свет стары пад скрыдлам Маткі Боскай.
Адыходны марш адсмыкаваў
Пан Цяцерскі і пайшоў па вёсках.
Дзе вяселле, хрэсьбіны, кірмаш —
Не з апошніх там яго пасада:
Чарку выстаў ды смычок падмаж —
І скачыце, госцейкі, да ўпаду!
Рэжа, бо стамляцца не прывык,
«Юрачку», «Лявоніху», трасуху.
А ў самога вусы — хоць на смык —
Рыжай шчэццю падпіраюць вуха.
Пан Цяцерскі!.. Так сябе любіў
Велічаць маэстра пры народзе.
І хоць корань прашчурскі згубіў,
А з-пад Вільні, — значыць, пан, і годзе!
Ды не лез вышэй за мужыка
І не дужа тлусты меў кавалак…

…Лётае над струнамі рука,
Каб тры дні вяселле шыкавала.
А з маэстрам побачкі сядзіць —
У жалейку жаліцца Аніска —
І відушча ўпоцемку глядзіць
На прыскокі з гэпаннем і віскам.

Жанішок, вясёлы зух,
Каго садзіш на кажух?
Міла з прыгажэйшаю,
А мілей з дужэйшаю.
Прыгажэйшая збяжыць —
Зух на печы ляжыць,
А з дужэйшай прыпячэ —
Дык і зух уцячэ!

Так вірыла хата і гула,
Быў не скуп Васіль на частаванні:
Пяць разоў сядалі да стала —
Прамачыць задуху ад гуляння.
Пяць разоў па пяць браціна ўкруг
Завітала да гасцей з паклонам.
Хто стараўся — ды яшчэ за двух —
Быў травой пад тынам паланёны.
Хто да донца келіх прыгубляў —
Той і ў скоках быў і ў песнях здараў!
Хто ашчадзіў — той, лічы, губляў,
Хто не піў — той сам сабе быў вораг.
Любаваўся ціхенька Васіль
На Кулінку і не мог паверыць,
Што вясна і шчасце назусім
З ім, вось тут, і не ўцячэ за дзверы.
А вясна хінулася шчакой
Да пляча і позірк не ўзнімала,
Калі ўсё застолле талакой
«Горка!», «горка!» маладым гукала…

Саладзей жа, чара, саладзей!
Налівайся сокам спелых вішняў,
Закрывай туманам ад людзей
Свет, дзе толькі Ён адзін не лішні.

А з вяселля раненька
Заіграла сонейка,
У чыстых росах памылася,
У густых лозах сушылася.
Заіграла весела
Ды над нашай песняю,
Ды над вашай ніваю,
Каб была ўрадлівая,
Ды над вашай доляю,
Каб цвіла шчаслівая!
Ах, сонца, сонца світальнае,
Ах, чарачка развітальная…

Выйшла з хаты песня на сяло:
«А дадому, госцейкі, дадому…»
І хоць ногі не туды вяло —
Галасы яшчэ не зналі стомы.

…Паваліў на мяжу,
А што потым — не скажу…

…За траву, траву
Трымалася,
А трава, трава
Ірвалася…

За лясамі ранак прамянеў,
Залачаў у аблачыннай гронцы…

І было далёка да мяне,
Як далёка мне да зор і сонца…

5
ДЗЯЛЬБА

Усё ва Ўзбор'і з веку ў век
Было не без прычыны.
Вось я: пануры чалавек, —
Чаму? З якога чыну?
А скажам проста: у карчму
Мяне ў той час прынеслі,
Калі ўжо там вясёлы чмур

Не заляцаўся з песняй,
Бо што карчма без карчмара,
Без дудкі і басэтлі?
Як той кажух без каўняра,
Як лапсардак без петляў…
Як без кілішка бубнаў гром
Альбо Абром без пэйсаў…
Які Абром? Ды наш Абром!..
Вось тут, брат, і засмейся…
Была карчма, гула карчма —
Гаротніцкая ўцеха —
Аддаў Абром ледзь не дарма
І ў служачыя з'ехаў.
Такі ўжо наваліўся час —
Штодня з бядой мяжуеш:
«Ці абагульвайся ў калгас,
Ці спішам, як буржуя».
Павохкаў ціхенька Абром,
Пачухаў з тыдзень грыву,
Адсек усё, як тапаром:
«Жыві, Васіль, шчаслівы!»
Дзябёлы дым стаяў стырчма,
Агонь патэльню сватаў.
Была карчма, гула карчма,
А стала нашай хатай…
Вось так: з пялёнак — і ў карчму!
Ды трэба ж — запазніўся…
Відаць, і хмуры я таму,
Таму і занудзіўся…
Яшчэ ж, магчыма, і таму
Характар невясёлы,
Што маці несла, бы ў турму,
І галасіла ўголас:
«І несвянцоная ж яна,
Вядзьмарская харчэўня,
І чэрці жэняцца сп'яна
У ёй да трэціх пеўняў…»
А ў бацькі — смутку ні сляда,
Смяецца: «Дзякуй Богу,
Што блаславення ён не даў
На дальнюю дарогу…»

А хто быў — ён? Відаць, не Бог,
А свой вясковец — Лосік,
Што Васіля перасцярог:
— Глядзі, каб не прыйшлося…
Надзелы — тры, а двор адзін:
Кулацкія размахі.
Яшчэ раз я кажу: «Глядзі!
Тут і Сібірам пахне».
— Дык едакоў жа — тры сям'і,
Дзяцей вунь — печ забіта.
А гэта ж, брат, не салаўі,
Не будуць песняй сыты.
— Ты пра дзяцей нам не талкуй —
Стругаць і мы не жмоты.
Затое ў поле талаку
Выводзіш на работу.
Не-е, тры браты яшчэ не факт.
Зямелькі ж — мнагавата.
Яй-богу, на сібірскі тракт
Глядзіць твая ўжо хата.
— Ну й прычапіўся. Як асцё…
Тры жонкі ж — не падробка.
— Раз з аднаго гаршка ясцё —
Адна сям'я. І кропка.
— Няўжо ж яно, калі дабром,
Кулацтва ў той пасудзе?
— Мяркуй як хочаш. Грымне гром —
Хрысціцца позна будзе.
— Ды што ты мне — надзеў аброць
І цягнеш, нібы гіцаль!
Сам падзялюся. Не супроць,
У шыю не ганіце,
А вось што з раю вы паслы,
Дык дай аб тым разважыць.
Падумаць дай. Няўжо вузлы
Мы самі не развяжам?

А як дзяліцца?.. З братам брат
Даўно вялі гаворку:
Яно як гуртам — дык і лад
І ў добры час, і ў горкі.
Ці то падчэпіць недарод,

Ці град здратуе ніву,
А пуставаць не будзе рот,
Хоць не густое мліва.
Спарней усё-ткі збажына,
Калі ў адным засеку.
І сала брус, і здарына —
Не толькі як на лекі.
І малако: аж з трох кароў
Ды ўсё ў адну дайніцу, —
Не так ужо каб будзь здароў,
А дзецям ёсць напіцца,
І падсмятаніць блін які,
І маслам хлеб памазаць…
«Не-е, — гаманілі і жанкі, —
Усё ж выгодней разам…»
Хоць трое іх было ў двары —
Ніхто грызні не бачыў.
А гэта, як ні гавары,
Таксама нешта значыць!
Жылі наўздзіў — душа ў душу —
Нявесткі маладыя.
Адно ўзнімалі гвалт і шум
Накольнікі малыя.
Ды што паробіш: цесната,
Зімой жа — асабліва,
А хіба ўсадзіш па кутах
Анёлаў дураслівых?
Вось і гарэзуюць яны
І хлопцаў падбіваюць:
«Калі ўжо ты надзеў штаны,
Дык хай і клопат маюць!..»
Гарцуй, бузуй!.. Аднак, глядзі,
І меру знай, мой браце:
Ты ж тут пакуль што не адзін
Пан-распіхан у хаце.
Угрэе цётка трапкачом,
То жаліцца не мерся:
Не стрэне маці калачом —
Тут схопіш і паверсе.
Усё агулам, заадно —
Ні спрэчкі і ні звады.
І слёз ніколі не відно:

Жывуць нявесткі ладам.
А ўдарыць прыпар — заўсягды
Працуецца прыспорней:
Адна прыгледзіць тры гнязды —
Наварыць і накорміць.
І ў полі лад, і ў печы лад:
Серп не гуляў,
                    і віўся
Вясёлы дым — снядання брат…
Васіль і той дзівіўся:
«Звычайна ў сем’ях на дзяльбу
Штурхаюць маладзіцы,
А тут — адно табе дзяўбуць:
«Навошта нам дзяліцца?»

Ды ўсё ж зануда-чарвячок
Штоноч тачыўся ў думкі,
І дзёр, як гэбель пад сучок,
Душу бяссонак тлумкі.
Тады ўжо раніцай Васіль
Братам выводзіў скутак:
— Ці ты прасі, ці не прасі —
Схапіўся Лосік крута…
Само сабой, ішла далей
Развагі ніць тым часам:
— Заяву, кажуць, Сілівей
Назад забраў з калгаса.
— Забраў, а ў Сёмкі не бяруць…
Адзін Арцюх рагоча:
«Лацвей там жыць: там ручку круць —
І еш — што пуза хоча!»
— У рот не ўскоча сам пірог.
— Але і горш не будзе,
Адно пераступіць парог…
— Пабачым, як там людзі!..
— Даўно казаў і кагадзе:
Той запяе іначай,
Хто на чужым гарбе сядзеў
Ці век свой пралайдачыў.
Хай ён калоціцца. А ў нас —
Ды сціхніце вы, бабы! —

Лічы, даўно ўжо ёсць калгас —
Сямейнага маштабу.

Жылі так з год пасля таго —
Ні дома, ні ў замужжы.
А падзяліў братоў агонь,
Хістанні ўсе адужаў.
Пажар успыхнуў пад абед,
Калі былі ўсе ў полі, —
Адлучка не за дальні свет,
Але й таго даволі.
Сухмень да звону давяла
Сасновае бярвенне.
Кіпела ў прожылках смала.
Крышылася каменне.
Салома з пылам парахні
Спрасованая спала.
Тут не падпальвай, а дыхні —
І ўдараць іскры валам.
Ніхто не бачыў, дзе крыло
Чырвоны птах расправіў —
Усё трашчала і гуло
Ў пякельнай той патраве.
Уздоўж Узбор'я акурат
Віхор круціў заломы,
На стрэхах аж праз дзесяць хат
Агонь хапаў салому.
Гуляў пажар, каціў сувой,
На полымі сатканы,
Шалёна гнаў перад сабой
Узборцаў плач зляканы.
Сіпелі ў сквары галасы,
Кашулі лубянелі,
За дзвесце сажняў валасы
На галаве смылелі.
Старыя світкі, армякі,
Гарнушкі, матавілы, —
Няўцям выносілі жанкі
Дзе што рука схапіла.
Пакуль прыбег Васіль у двор,
Дык паўсяла прашастаў
Той ненажэрлівы віхор,

Той вогненна-вушасты.
Уратаваны скарб грудком
Сіроціўся на ўзмежку,
І комін між былых куткоў
Глядзеў на галавешкі…

А звіў гняздо чырвоны птах
У Сёмкавых харомах.
Адтуль і выскачыў на дах
І ўгору бухнуў строма.
Ды ўміг спружыніста прысеў,
Клубком завіўся шызым,
Яшчэ раз гупнуў па страсе
І закуляўся нізам.
Пакінуў ззаду жменьку хат,
Астатнія — на неба…

Не плакаў Сёмка, звёў пагляд
Ад вёскі: «Так і трэба».
Ці хто падпёк, ці сам спаліў —
Усё пайшло да Бога.
Сабраў з сям'ёю хатулі:
Адна ў Сібір дарога.
Той год з апошняю сасной
Расстаўся бор над Начай.
Пажар на памяці лясной
Апошні крыж пазначыў.
Адбудавалася сяло:
Наспе́х і лепшым чынам.
А нам — як шчасце прыплыло:
Карчму Абром падкінуў.
Хоць зналі: хата на крыжах —
Няхай сабе і з хлебам —
Заўжды, як сэрца на нажах,
Ды жыць, брат, неяк трэба…

## 6
## ТРЫ КРЫЖЫ РАЗВІТАННЯ

Жменьку зерня ў засеку
Браў на досвітку ён:
Ці Сібір там, ці пекла —
Будзе сеяць Сямён!
Побач з крыжам на грудзі
Той вузельчык вязаў:
Як праклён, жыта будзе
Прарастаць на слязах.
Вам праклён, камісары,
Галадранцы, — праклён! —
На сібірскім папары
Будзе сеяць Сямён.
Будзе поўнай сяўнёю —
Узыходзь і руней!
На размах — пяцярнёю, —
Налівайся, паўней!
Будзе ў хмар і ў завею,
У спякоту і ў золь,
Як цяжкую надзею,
Як няўтолены боль, —
Хай усохне, знямее —
Але з гэтай рукі
Будзе сеяць і сеяць
Праклён праз вякі.
Як выводзіў гнядога
За вароты Васіль,
Жонцы вымавіў строга:
— Плач, ды не галасі. —
І былому ў падсечку:
— Што я — Сёмку раўня? —
Тузануў за вуздэчку
Злую контру — каня.
Пугай з поцегам выцяў
Па хрыбціне крутой, —
Быў учора карміцель,
А цяпер — як ніхто…
Нават горш таго — сёння
Як спакуснік, як змей:
Гляне вока-прадонне —

Быць тут цвёрдым сумей…
Быць свядомым патужся,
Калі цягне ў той вір,
Калі позірк — удушшам
Запятляў да крыві…
Ды і хто зацугляны —
Ці Васіль, ці гняды?..
Не стрымаў — зноўку глянуў,
Як прывёў да вады, —
Глянуў стоена ў вочы,
Адвярнуўся ў слязах:
«Быццам нешта мне хоча,
Ды баіцца сказаць…
Косю, мілы мой косю,
Толькі ведаеш ты,
Колькі нам адлілося
І дажджоў, і слаты.
Колькі нам адзвінела
Па вясне жаўрукоў,
Колькі нам адбалела
На спіне круглякоў.
Колькі сохлі ды моклі
Ад палынных патоў…
Колькі ўспомнім на покліч
Кірмашовых гуртоў…»

Шыю цяжка рукою
Пагладзіў, абняў—
І павёў з вадапою
Абагульваць каня…
Здаў усё, як адрэзаў, —
Нават пута з пянькі.
Крокам цвёрдым, жалезным
Пайшоў нацянькі.
Па шнурах, дзесяцінах
Аж паўдня калясіў.
А вярнуўшыся, з тыну
Зняў падкову Васіль.
Сыржавелы абносак
Доўга цёр жарсцвяком,
Покуль той, як на досыць,
Бліснуў маладзіком.

І на прыцемку шэрым,
Каб чый зірк не ўгубіў,
Да сцяны заімшэлай
Падкову прыбіў:
«Хай калі што якое,
Дык мой косю ізноў
Хай па гэтай падкове
Шлях успомніць дамоў —
Да свайго прыстаронку,
Да ясляў сваіх…» —
І ўжо тупат нязвонкі
Чуў Васіль у той міг…
Ні замоў, ні прышэптаў —
Толькі дума была:
Як жа выйдзе ён, хлеб той,
Новы хлеб для сяла?
Ці ўзаўецца трубою,
Ці пачэзне ў мятлюк
З той шырокай сяўбою,
Дзе палоскам — каюк.
Як усё яно будзе —
З хлеўчука не відно.
Кажуць рознае людзі,
Але ясна адно:
Як бы доля ні секла,
Ні валіў гарапад —
Над вясною,
                над векам
Будзе праўда зярнят!
У паперах Савелій,
Сілівей між людзей —
Саўка ў дурні не цэліў:
Праляжаў цэлы дзень.
Як зваліўся на печы
Падчарэўкам уніз,
Дык азваўся пад вечар:
«Што я вам — сацаліст?!» —
І на дзверы камусьці
Памахаў кулаком,
Пры нішчымнай капусце
Сеў на покуць крадком.
«Чорт іх знае, прыкмецяць,

Што ва здравіі я —
І пайшло ўсё на вецер:
Гаспадарка, сям'я.
Абагуляць, як бачыш,
І курэй, і дзяцей…
Дзякуй, здохла хоць кляча —
Ёй цяпер там лацвей.
Ад бяссоння і думак
Галава не баліць.
Ні заяў тых, ні тлуму —
Спіць, як пані, ды спіць.
Во дзе жызня! Маліна…
І канца не відаць…»
Зноў на печ вокам кінуў
І пачаў пазяхаць.
Ды якраз тут
                                знячэўку
Шусь Яўсей на парог:
— Ах, ядры тваю дзеўку,
А казалі ж, ты здох!..
— Што «казалі, казалі» —
Дух во ледзьве ліпіць,
Бы трыбух завязалі:
Ані есці, ні піць…
Глянуў Ёха на міску:
— Гэта ўсё ад нуды.
Пэўна, смерць твая блізка
Валачэ невады.
А шкада: не паспееш
Абагуліцца, брат, —
Як сыпнуў Сілівею
Вуголля пад зад…
І падсыпаў яшчэ раз:
— Ты тут з печы не чуў —
Лосік з міліцанерам
Вунь дае кулаччу:
І Сямён — па этапе,
І гняздо ўсё за ім.
Дзіўна: ты як не трапіў
З дэзерцірствам сваім?.. —
От жа гад, нібы шашаль,
Точыць Саўку нутро

І смяецца праз кашаль:
— Мы вас мігам сатром!
Як узвіўся тут з лавы
Саўка ў бой на той суд:
— А ў мяне вось заява!
Я назад аднясу!
За абраз — хапцам-лапцам —
А паперы няма.
Плюнуў Ёха і лапцем
Перакрэсліў: «Турма».
Глянуў са спачуваннем —
І за дзверы гайда,
Нават на развітанне
Рукі не падаў…
Нібы тая папера,
Саўка сам белы стаў:
Зноў за Богам праверыў,
У дзяцей распытаў.
Жонку з прызбы паклікаў:
Шук-ды-пошук — дарма…
Пашумеў для прыліку —
А паперы няма.
Што рабіў бы тут Саўка,
Каб не жончын падказ:
— Ты, нібыта заяўку,
Пеўня здай у калгас.
Скокні ціхенька зараз
Ды ў той хлеў падпусці.
Заўтра Лосік прыжарыць —
З парога хрысці:
«Я таксама ў агуле:
Певень — знаеш — мой дзе?!»
…Збегаў Саўка…
Паснулі,
Як у добрых людзей.

Дзе бярозы світанне —
Між нябёс і зямлі —
Тры крыжы развітання
Над Узбор'ем плылі.
Першы —
значыў для Сёмкі

Шлях далей і далей.
Крыж другі —
сталлю звонкай
Аціхаў між балей.
Ну а трэці —
як грымнуў
У калгасным хляве:
Што там сонцавы гімны,
Калі певень жыве!
Крыллем молада шастаў,
Ладзіў зычны свой бас —
І пад спеў той гарласты
Прачынаўся калгас.

## 7
## КАСЬБА

— Ну, я ж яго, нягодніка, падсмажу! —
Аж холад браў раённага дарадцу. —
Не для таго сюды я ўпаўнаважан,
Каб хлапчуком за старшынёй ганяцца!
Калі ўжо ты кіраўнікам прызначан,
Дык на пасту трымайся, каля пульта.
Тым болей — час цяпер такі гарачы!..
У зводку — знай — куды паставіць нуль той?
Ці ў вас «нуль цэлых»,
ці ў вас «нуль дзесятых»? —
Пад кіпцікам усё ў маленькай коскі:
Пасунь яе направа — і дахаты!
І сто працэнтаў! І спраўляй дакоскі!
А тут яшчэ і гонар, і пашана.
«Вось гэта ўпаўнаважаны!» — сказалі б.
Скакаў дарадца па куп'і імшаным,
Ляцелі скараходамі сандалі.
І ад разваг салодкіх астывала
І бралася мітрэнга на запоры,
Што зводку ўраз не вывернуў з правала,
Бо не застаў віноўніка ў канторы.

А старшыня тым часам, забарсаўшы
Яшчэ з начы адмочаныя лапці,
Замест прамоў на рукі папляваўшы,
Сваю касу мянташкаю крылаціў.
Каб лётала ў руках, нібы пушынка,
І пяткавала, і наском галіла
У кожнага: хто мацаваўся шынкай
І хто нішчымнай бульбай клікаў сілу.
З касой — яно фацэція такая:
Калі не ў лад мянташкаю памажаш,
Дык і касца пад корань падсякае —
За дзень прыб'ешся і ў пракосе ляжаш.
Ты на яе не насядай мядзведзем —
Не дугі гнеш, каб жыліцца ўсім целам:
На касаўі далёка не заедзеш —
Касу тачы, каб брала і хацела!
А перад гэтым адкляпаць на бабцы
Яе прыладзь, каб лопавак на джала —
На валасок ляза —
                                        праз хапцам-лапцам
З-пад малатка твайго не наскакала…

Той надвячорак ходзіць пагалоскай,
Што ў лузе свята будзе на дасвецці:
Сталёвы звон вяселіцца над вёскай
І ластавак лякае з-пад павецяў.
Паслухаеш — і нібы ўсе суседзі
Раскажуць — цераз хаты і парканы,
Хто заўтра з чым на сенажаць паедзе,
З якой абновай у пракосы стануць.
Вунь Сілівею і шасцёркі хопіць,
Якім — заядлы: ён метроўку клепе,
А там — акосак б'е Яўсееў хлопец:
Адзін пруток, а джгае — нельга лепей!
Нібы знаёмцаў даўніх павітанні,
З канца ў канец — над вёскай перазвоны.
І раптам нетутэйшым сакатаннем
Ускочыў нехта ў гутарку з разгону.
Усе, як па камандзе, пазмаўкалі,
У сто пытанняў цішыня трубіла.
І толькі «Хто такая?», «Хто такая?»
Гугнявіў дзесьці малаток-дзяўбіла.

Нібы з сяла далёкага нявестка —
Людзям нязвычна і самой няёмка —
Не ў меру бойка і злякана-рэзка
Наўспешкі гаманіла незнаёмка.
Ды ўжо і тут лавіліся на вуха
Адзнакі чысціні і загартоўкі.
Адкуль жа ты ўзялася, сакатуха?
Па голасу — дык пэўна што літоўка.
Зрэдчас такія з Вільні дападалі —
Каму Абром, а хто і сам прывозіў:
Як быццам не старэлі — і з гадамі
Яшчэ ямчэй рабіліся ў пракосе.
Каса ўжо дык каса!.. Ды годзе слухаць!
Дазнаем заўтра, што там за літоўка:
Пабачым у рабоце маладуху —
Вось там няхай усё і скажа толкам.
І зноўку малаткі загаманілі,
Бо ўжо расой запахла ў агародзе
І ноч паціху развінае крылле, —
А выспацца перад касьбой не шкодзіць!..

Яшчэ і птушкі не прыспалі вока,
І дым начлежны не паспеў асесці,
А ўжо ў чырвоным ложку светлабока
Дзень павярнуўся там, за лесам дзесьці.
І ўжо на хмарцы страпянуўся сонна
Не, не праменьчык — толькі прадчуванне,
І ўскочыў певень: «Не праспаць бы сонца!»
Ды зноў прыціх пад жонак чартыханне.
І ўжо святлеюць зорныя валокны,
І ціха размываецца трымценне,
І ўжо са сцен прабельваюцца вокны,
І з панадворкаў адступае цемень.
Кусты бяруцца просінню на ўзвалах,
Ірвуцца з чарнаты, як з путаў вязні,
А на сырых балоцістых прагалах
Туман таўчэцца, быццам пара ў лазні.
Праз гарлавіны вузкіх расцяробаў
Паціху выпаўзае да выжарын,
Нясе перадсвітальную аздобу —
Расы мільёнасонцую цяжарнасць.
Пластуецца туман і асядае.

Вось-вось зайграе буйна-золкі россып,
І ўперамешку з небам — маладая —
Трава жахнецца зелена пад косы.
Смялей, смялей, крутога дня хаўруснік,
Смялей, праменьчык, сонечная птушка!
Пад дзюбкай шкарлупіна ночы хрусне,
І на разломе ўсход успыхне стужкай.

Плывуць касцоў галовы над туманам
І косы, перапоўненыя звонам.
Ані гамонкі — стоена, ціхмяна,
Ані пасмеху на сцяжынцы соннай.
На сэрцах і трывожна, і ўрачыста,
«Хутчэй, хутчэй» — ірдзяцца дух і мускул.
Сажнёвы крок — у рослых і плячыстых,
Хто карацейшы — коціцца ўпрытруску.
І вось ён — луг, пакатая аблога
Ад сценкі лесу і да самай Начы.
Спыніліся — нібы перад парогам,
І кожны ўсё як першы раз пабачыў:
Зялёную раскрыленасць прылесся
І лукавін завоіны крутыя,
Дзе драч згубіў сем дудак і сто песень, —
Такія травы параслі густыя;
І сухадол, дзе скрыпень ціха скрыпаў,
Дзе лісахвост ірваўся ўверх трубою,
Дзе рабацінкі казялец рассыпаў
На шчэці белазорага падбою;
Збуялае дзядоўнікам стажар'е,
Лажок, дзе пурпурова да крыніцы
Ятрышнік, як раз'ятраны пажарнік,
Без вёдзер па ваду штодня імчыцца;
Блакітнага званца шкляную крохкасць,
Рамонкаў белых бесклапотны россып,
Лісцё капытніку, дзе конь зялёны лёгка —
Расы не збіў — наўскапыта пранёсся…
Траў раўнапраўе — разнатраўе лугу,
Спакойная і мудрая адвечнасць,
Дзе ходзяць косы непатольным кругам,
Як непазбежнасць і як недарэчнасць.
Усё змахнуць, аголяць пад нулёўку —
Сталёвы бог не знаецца з дакорам.

Атава пойдзе — падгаблююць зноўку.
Усё як ёсць. Ды застаецца корань.
Травы маўчанне — у густых пракосах,
У копах, пунях, рэзгінах, кармушках.
Травы дыханне — сытнае і ўдосыць
На скібе масла, малако ў гарнушках.
Травы пакуты — зледзянелы люты,
Снягоў завейных белая магіла.
Хто разарве, хто скрышыць злыя путы —
Ці знойдзецца, ці ёсць у свеце сіла?
Травы надзея — цішыня зямная,
Дзе прагнуць сонца стомленыя сокі,
Дзе кожнае зярнятка ўспамінае
Свой дом пад небам сінім і высокім.
І — выбух — днём вясновым акрылёны!
Выбух травы —
Надзея травы —
Пакуты травы —
Дыханне травы —
Маўчанне травы, —
Жыве,
Жыве,
Жыве народ зялёны!

А косы ходзяць, свішчуць сакавіта,
Вядуць касцы ланцуг да самай Начы.
Навідавоку ўсё, усё адкрыта —
І схібіць тут нягожа, і злайдачыць.
Наперадзе Васіль махае роўна,
За ім Яўсей з кавальскім духам пляжыць,
А потым — з артылерыяй галоўнай —
Якім з метроўкай «заграбае» сажань.
Размах, разгон! Ці тое, як бывала —
На вузенькай палосцы ў два заходы:
Касу ўгамоньвай, каб не спудлавала
І да суседа не залезла ў шкоду.
Як пашырэў ты сёння, луг без межаў!
Бяры пракос, наколькі просіць хватка,
Не замінай адно, а то падрэжуць —
Няхай сабе і старшынёвы — пяткі!
Не, недарма даецца грамадою
Вось гэта права — першага пракоса…

Як слыннасць мудрага: будзь тройчы з барадою —
За так не выпрасіш у пасівелых вёсак.
Цяжкое права і цяжкая слыннасць
Старэйшага — і ў працы, і ў развазе:
Паміж сыноў знаходзіць вёска сына,
Што хват у прыпар і душой не блазен.
Знаходзіць, каб аддаць яму ўсе тайны
І мудрасць земляробскае навукі.
І скажа так: «Паміж палёў расстайных
Мой запавет пакінь сваім унукам».
Знаходзіць — праз яго сябе засведчыць,
Свой дух і воблік выявіць пад сонцам.
І скажа так: «Ты — мой. Мая адвечнасць,
Мая крывінка і мая бясконцасць».
І не адпусціць. Радасці і гора
На ўсё жыццё адмерыць поўнай мерай.
І скажа так: «Бурліць людское мора,
А ты пры мне шукай — і знойдзеш бераг».
І да яго — разважыць і парадзіць —
Усіх пашле трывожнымі часамі.
І скажа так: «Дапамажы. А здрадзяць —
Усё сцярпі, бо гэта — я таксама».
І ноччу будзе над ягонай хатай
Трывожнымі сузор'ямі хіліцца.
І прамаўчыць: «Узносіць вал дзевяты,
Ды не дае да берага прыбіцца».

Стараецца Васіль. Хоць і парадкам
Касу вядзе — размашыста і лёгка,
А ўжо, глядзі, распарыўся ў лапатках,
І ўжо карціць туды, дзе Начы плёхкат.
Ды ранавата песціцца —
апоўдні
Вада ўскіпіць ад перасмяглых целаў,
І залаты карась халоднай поўняй
Праблісне ў твань, ад рогату здзічэлы.
А покуль — толькі косы маюць гонар
І радасць, як да берага даходзяць,
Пад хвалю раз ці два нырнуць з разгону —
Ажно заломіць стан у прахалодзе!

Абмыюцца, каб злей мянташка брала,
Зірнуць крадком, ці блізка да суседа,

Падправяць косы з’едзенае джала —
І на плячы да лесу моўчкі едуць.
А дзе ж літоўка — маладая госця?
Шукайце там, дзе ўжо адным заходам
Знямогся Трыхан, пабялеў у млосці,
Кляне касу — змяіную пароду.
Ну а яна — то хопіць без агляцкі:
Не пацягнуць, бароды застаюцца,
То ў купіну зашыецца да пяткі,
І хоць завый, а з месца не скрануцца…
Тады назад рукою адбівае
Сваю літоўку з чарназёму Трыхан:
«Ды й качаргі ж тупейшай не бывае!
А ўсе хвалілі. На якое ліха?!
Каб падсмяяць і пацвяліцца хорам?
Кулацкія падкопы! Здзекі проста!
Касу ж не так далі, а як селькору.
Сказалі: «Будзь і ты вось гэткім вострым!
Нервуецца касец, каса трасецца…
Ды тут Якім далонь прыклаў да вуха:
— Гукае хто ці, можа, мне здаецца?
— А-у!.. — з-за хмызу вырвалася глуха.
— Ды нехта ж ёсць, — ужо не меркавалі —
Далі адказ. І неўзабаве выйшаў —
Брыль на макушцы, у руцэ сандалі,
І па калені ў брудзе, нават вышай…
«Ды то ж з суда… Папсуеў… Выканаўца…» —
Шапнуў Васіль, падаўся насустрэчу.
І хоць ніхто на той казённай лаўцы
Не быў, ды ўсе падумалі аб нечым.
А госць ішоў, разгневаны і злосны.
Руку не даў, адно прамовіў крыва:
— Прыехаў я па справе сенакоснай.
Дакуль сядзець вы будзеце ў прарыве?
— Ды не сядзім, здаецца вось, а косім…
— А дзе працэнт, пытаю? Не прыкмеціў…
— Ды ў нас, таварыш, так здаўна вялося:
Ісці ў касу, як травы ў самым цвеце.
Што ж дратаваць, калі яны не ў сіле,
Ні сонца шчэ, ні соку не набралі?
Вунь у суседзяў рана пакасілі,
А на вясну — са стрэх салому дралі.

Дзе малако ўжо там — абы жывое
Пры гэткім харчы засталося быдла…
— Ды мне пляваць на стрэхі! Я пра тое,
Што адставанне вашае абрыдла!
Для гэтага сюды і ўпаўнаважан.
А каб усё было ў найлепшым стане —
Націснем, грамадзяне, падналяжам!
— Дык хто б супроць —
а мы супроць не станем… —
Наперабой усе загаманілі. —
Лацвей цяпер касіць — такім агулам.
Адно давайце — не губляць ні хвілі,
Бо сонца ўжо на поўдзень павярнула.

Зацмокаліся з касамі мянташы:
Ад пяткі да сярэдзіны — працяжна,
З наском — між іншым, так сабе, не важна —
Як пасмяюцца там ці перадражняць.
І пацяклі зялёнымі руччамі
Да Начы кветкаломныя пракосы…
І толькі тут убачыў госць з адчаем,
Што ён стаіць перад народам босы.
Вось так, як маеш — у руцэ сандалі,
Штаны аж да каленяў закасаны…
Да рэчкі шмыгнуў, ад вачэй падалей,
Адмыўся, вылез: гладкі, прычасаны.
На старшыню зірнуў — рукамі пляснуў:
Той — у лапцях! Дык што ж гэта за прыклад?!
Дзе новы лад, дзе новы быт калгасны,
Каб ногі зволіць ад лапцей апрыклых?
Не вытрымаў і на заходзе новым
Да Васіля з пытаннем падступіўся:
— Ці вам тут контра точыцца ў галовы,
Ці погляд класавы дарэшты прытупіўся?
Не зразумеў Васіль.
Тады Папсуеў
На ўсю грудзіну — узарваўся быццам —
Гукнуў сярдзіта:
— Лапці галасуюць
Твае за што?! За перажыткі ў быце?
«Ага, дык вось куды начальства хіліць…»
Тады ўжо старшыня пачаў тлумачыць:

— Яшчэ не ўсюды лапці адхадзілі,
Хоць і абутак як бы той жабрачы.
Вазьміце сенакосныя работы:
Тут суха, а ніжэй — вада плюскоча, —
Як без лапцей? Ні басанож, ні ў ботах
Ды і ў валёнках, думаю, не ўскочыш…
А ў гэтых — лыкавых ці хай сабе лазовых —
Нага, як пані важная якая:
Як дзе балота — мокра, ды не золка.
Ступіў на сушу — і вада сцякае.
Цяпер да Начы нітачку прадоўжым
(Душа, між намі, рыбкі запрасіла):
З таптухай у лапцях ідзі, бо зноў жа —
Вада не вісне на нагах грузілам.
Ці ў лес паедзеш… Спрытна і не мулка,
Ні корч, ні чорт табе ў лапцях не страшан…
І засмяяўся: — Пры абцасе гулкім
Ямчэй у скоках. Ці на бруку вашым…
А госць маўчаў. Як бы ў душу сумненне
Наконт варожасці лапцей пранікла.
Нарэшце мовіў — мудра, без адценняў:
— Яно, канечне… Але ўсё-ткі прыклад…
Калі ішлі палуднаваць у засень,
Дзе з-пад карча бруілася крыніца,
Дык мімаволі кожны запыняўся —
На сенажаць маўкліва падзівіцца.
— Яшчэ б такія тэмпы ды пагода
Хоць дзён пяток над Начай пагасцілі —
І сто працэнтаў вам было б як лёду,
А нам — сянцо, што ў самай добрай сіле.
Яно, як мёд, калі скасіў парою
І ў пуню звёз ці ў стог сухое скідаў, —
Казаў Васіль Папсуеву і кроіў
Скрылямі сала, што кубёлак выдаў —
З таго бруска, які нарос ля хіба
І да касьбы ашчадзіўся мужчынам,
Каб пад касой сівец не прогся дыбам,
А палягаў, як пад агнём шчаціна.
Ды бачыў старшыня: мацунак з торбы,
Ружова-белы, даставаў не кожны.
Са злой цыбуляй — ажно носам сёрбаў —
Еў хлеб Макар і ахаў пераможна.

І думаў старшыня: «Касіць — агулам,
А есці — дзе што жонка адшукала…
Сюды б цяпер баранчыка з адгулу», —
І Макару падсунуў сала кавал.
Прытомлена жавалі, мужавалі…
А думка зноў: «Паставім на праўленні…»
…Як шчупакі, узнятыя з-пад хвалі,
Ляжалі косы, зелянелі цені.

8

ЁХА

Балюе снег з макрэчай:
Дзень — лета, дзень — зіма.
Кот ціснецца да печы,
І хата — як турма.
Дым не загнаць у комін —
З чалесніка плыве:
Надвор'е, нібы комік,
Стаіць на галаве.
Усё перавярнула
Асенняя гульба.
І вецер зябкім гулам
Гудзе, што ўсім труба.
У сто дажджоў прабіта
Шпачынае жытло —
Размецена, размыта
Зялёнай песні тло.
Асверыцца над студняй
Абшчыпаны гусак.
Гарбуз на градцы нуднай —
Адзін — нібы гузак.
Ды ўзбоч — галоў цвярозых
Зялёная ірдзень:
Калі качан з марозам —
У дзежцы саладзей!
Аздоба шэрых вулак —
Маркоціцца вярба.
Здаецца, нават шулы
Пагнуліся ў гарбах.

Намоклыя вароты
Абвіслі на круках,
Нібы ў ліхой галоты
Падкрыссе армяка.
На выгане, ля кузні,
Прыладжвае спраўней
Каваль, агню саюзнік,
Падрэзы да саней.
Яўсей, вясёлы Ёха,
Штукарыць не на смех:
Тады не ўхопіш чохам,
Калі паваліць снег.
Крылом цяпла прасветлен
Стары кузнечны двор.
За ім — аджыткаў летніх
Туманіцца дакор:
Над фермай, як апостал,
Тырчыць громаадвод,
І пудзілава постаць
Вартуе агарод.
А што далей, за вёскай,
Нічога не відно:
Усё — без пагалоскі —
Усё пайшло на дно.
Паўсвету аблажыла
Імжыстая нуда,
Плыве ў зямлі па жылах
Свінцовая вада.
І кожны дзень — свінцовы —
Агледзіны снуе.
Свінцовы — не свянцоны:
Не пірагі дае,
Не яйка, што ў лушпайках
Цыбульных чырваняць, —
Сляды казённай пайкі
На даланях смыляць.
Сляды скупой паперы,
Што з пасыльным ляціць
І патрабуе меры
Крутыя закруціць.
За дзень раённай лёхі
Дэпешы той размах

Набіў дыхтоўна Ёху
Аскому на зубах.
Хоць ростам з кукіш гулькін —
Праела, як вухналь,
Вантробы ўсе пісулька
Аб тым, што ён, каваль,
За аргумент бутылі
З кулацкага стала
Капыт скалечыў сіле,
Што цяглавай была.
Нібыта клаў падкову,
А ў мыслях шнырыў дух:
Сарваць сяўбы аснову —
Ударны тэмп і рух.
Разбор вядомы з контрай:
«Згадай, калі забыў!..»
Пашчасціла, што конь той
Непадкаваны быў.

Цану паперам Ёха
Зазнаў з тае пары.
Здаецца, што там — кроха,
Шматок, каб закурыць.
А так табе ўпячэцца,
Прыцісне так пятой,
Што ты і той, здаецца,
І ў той жа час — не той.
«Браточкі, —
хочаш крыкнуць, —
Ды тут жа ўсё — мана!»
А ўжо і крыкнуць прыкра,
Бо ўжо ўваччу — яна.
І так табе даводзіць —
Паверыць сам гатоў,
Што ты і чмут, і злодзей,
І з д’яблавых братоў.
Хоць літары, як блышкі,
Ды не збягуць дабром.
Напісана — і крышка.
Не счэшаш тапаром.

«І гадзяць жа, сабакі…» —
Сеў Ёха на парог,

Дастаў капшук з табакай,
Скруціў казіны рог.
Раздзьмуўшы шчокі, пухнуў,
Нібы кавальскі мех.
Развеяць дымам скруху
Хацеў, ды, як на грэх,
Раённая газетка,
З якой шматок аддзёр,
Зірнула ў твар заметкай:
«Патрэбен пракурор!»
Чытаў хоць скокам-бокам,
Ды складна разабраў:
Прывыкла, значыць, вока
Да гэткага дабра.
Шкада, саму аб'яву
Паспеў ужо скурыць —
Якога ж там разяву
Рашылі абкарыць?
А можа, зноў шпіёна?..
Ды пыл развагі пагас:
Прыехаў госць з раёна —
Да Васіля якраз.
А калі так — цыгарку
Не надта, брат, цягні, —
Раздзьмухвай качагарку
І молатам звіні!

Я помню, дзядзька Ёха,
Вясковы пралетар,
Як новую эпоху
Ты ўзносіў вышай хмар.
Узносіў звонкай песняй
Жалеза і агню —
Насустрач хвалі весняй
І заўтрашняму дню.
Мы бегалі паслухаць
Дзіўнейшую з праяў:
«Баец» кувалдай бухаў,
А ты ўпадзвон спрыяў.
То іскрамі сініцы,
То жарам жаўрука,
То смуткам жураўліцы

Шчадрылася рука.
Твой малаточак лёгкі
У лад хадзіў-гуляў
І шматпудовы вохкат
Уладна акрыляў.
Бывала, чуўся богам,
Хто выспеў у цане:
«Каго б тут на падмогу?..»
Часцей за ўсё — мяне!
Таму што не староннi,
Бо з кузняю — сусед!..
Сняданак праваронiш,
Забудзеш на абед…
Што мамiн клiч — папруга
Тут з месца не скране,
Калi раздзьмухваць вугаль
У горне скажуць мне!
Калi прысом асверыш,
Пампуеш як мага,
Каб кволенькi аперыш
Жар-птахам зашугаў.
Калi струмень гарачы
Вiруе i гудзе
I пругка iскры скачуць
У зыркай барадзе.
Калi глядзiш, як дзюбай
Сцiскаюць ком агню
I ставяць клешчы рубам
Пад молат цiшыню.
Калi расцеш пад неба:
На ўсё — твае правы,
Бо ты ўжо не хто-небудзь,
А Ёхаў гарнавы!

I як бы ўжо ля тайны
Ты не зусiм чужы,
Не лiшнi i не крайнi —
А на адной мяжы.
I ўжо ты мог — хоць збоку,
У Ёхi з-за пляча,
Пакоўку браць на вока,
Раздумлiва маўчаць.

Маўляў, і мы не лыкам
Пашытыя цяпер!..
Хадзіў з паклонам звыклым
Уніз-уверх асвер.
Чарнеў малатабойца,
Са скрыпам дыхаў мех,
І зубы ў нашай тройцы
Свяціліся, як снег!
А ўжо з глыбінь жалезных
Тым часам праступаў
Абрыс кляўца-гарэзы,
Нарога ці сярпа.
І Ёха тонкім звонам
Даваў кувалдзе знак,
І тая ў кут з паклонам
Ішла спачыць усмак.
Бо знала, што і як тут,
Хто на віду ў той міг
І чый вясёлы яхкат
Лагодзіў Ёхаў слых.
І мы таксама знalі:
Хто зараз цар і Бог,
Каму ў тугім метале
Адкрыўся той парог,
Куды ступіць — ды дзе там! —
Куды зірнуць хоць раз
Не дадзена сакрэтаў
Пакуль нікому з нас.
Дзе на правах асобых
Каваль штукуе цуд:
Здаецца, тут ён, побач,
А ўжо зусім не тут.
А ўжо ідзе за плугам
Духмянай баразной,
І птушкі дружным цугам
Бягуць, як за вясной.
А ўжо ён там, дзе постаць
Займае жніўны серп,
Дзе да ракі наўпроста
Каса свой цешыць сверб…

Тады трымайся ціха,
Рот на замок бяры,
Адно што толькі дыхай
Да нейкае пары
Ды стоена дзівіся
З паўзмрочнага кутка,
Як песні звонкі высеў
Ляціць з-пад малатка.
Як водбліск палыхае
У Ёхі на ілбе,
Забыты, патухае
Акурак на губе.
Як, нібы ў тыя клешчы,
Бярэ ён свой запал
І ўжо не махам плешча,
А слухае метал.
Пакруціць, памяркуе —
Цяпер ягоны час!
Як быццам і святкуе,
Але адзін, без нас.
Агульным будзе свята
Для кузні ўсёй тады,
Калі той серп насаты
Паедзе да вады.
Паедзе знакаміта
У стомленых кляшчах
І дасць нырца ў карыта,
Каб шал агню ачах,
Каб гарт сталёвай сілай
Наскрозь яго скрыжаў,
Каб жыта каласіла,
А ён увішна жаў.

…Балюе снег з макрэчай…
Плыве ад кузні звон —
Як сум нечалавечы…
Нарэшце сціх і ён.
Ноч асядае цяжка
На восеньскі прыгон.
За вёскай калымажка
Кіруецца ў раён.
Шматкі абхмаркаў частых,

Як наўздагон, плывуць.
Нацягвае начальства
Башлык на галаву.
Ды пугаю красае
Жарэбчыка з ляўшы:
Рэсурсы вытрасае
З той конскае душы.
Шпурляюць каляіны
То ўперад, то набок:
Вось-вось цераз драбіны,
Глядзі, зляціць яздок.
«Куды ж ён супраць ночы? —
Дзівуецца Яўсей. —
Відаць, мітрэнга точыць
І ў бездараж нясе».
Выпадак незвычайны,
Каб пад вячэры звон
Спяшаўся так начальнік
Паехаць у раён…
І Ёха на хвіліну
Да Васіля забег —
Спытаць, што ж не пакінуў
Ён госця на начлег.
Дый старшыню праведаць
Даўным-даўно пара:
Наколькі ж дамаседам
Прыліп ён да двара?
За трох натужваў жылы,
А тут, сказаць, уміг
Хвароба аблажыла.
Прыціх Васіль, прыціх.
На бульбяным палетку
Угрэўся ля буртоў,
А ветрам неўпрыкметку
Хапіла — і гатоў.
Ды так — ні стаць, ні легчы..

— Здароў!
— Здароў, Яўсей…
— Чаму ж твой госць улегцы
Праз ноч душу трасе? —
Як не з парога Ёха

Загадку ўзяў за хвост.
— Ды, знаць, што напалохаў
Яго вось гэты тост, —
Падаў Васіль газетку,
Дзе нехта «Наш селькор»
Гукаў на ўсю заметку:
«Патрэбен пракурор!»
— Ды бачыў я і думаў:
Каго ж ён так скубе?
І от жа сыч, патлумак, —
Няўжо, брат, пра цябе?
— А пра каго ж іначай —
Хто бульбу пагнаіў?
— Якую?
— Тую, значыць,
Што ён вось аднавіў.
Даўно ўжо свінні з’елі
Дзесятак тых пудоў,
Што нанач не паспелі
Пасцягваць да буртоў.
Назаўтра ж я зваліўся
Ды падаспеў мароз…
Убралі ўсё — хваліўся.
А вось — і тыц пад нос.
Прывезлі пяць фурманак,
А вырасла ў сто тон:
Сыпнуў пяску на раны…
— І хто ж гэта той Ён?
Мяне нядаўна збэсціў,
Узяўся за цябе.
Дазнацца б ды патрэсці —
Засек бы на ілбе.
— Здаецца мне, што Трыхан
Да справы гэтай хват.
Трывае быццам ціха,
Нутром — кіпіць, як гад.
Пакрыўджан, бач, на вёску,
Што не дае партфель.
А ён гатоў: з абноскаў
Прыдбаў вунь галіфэ,
І фрэнч такога ж крою,
І на грудзях значок.

Глядзіш — герой героем,
А ўнікні — чарвячок.
Любой бядзе ён рады:
У сорак ног грабе,
Як быццам і за праўду,
Але — каб для сябе.
Сказаў бы хай з трыбуны —
Дык з-за вугла ўсё ён:
Яшчэ не ўспееш плюнуць,
А знае ўвесь раён.
Вось так і баламуціць,
З дня ў дзень ваду таўчэ…
Ды чорт з ім, з гэтай муццю!..
На ногі б стаць хутчэй.
А госць, што ўцёк, ты кажаш,
Дык той — ні даць ні ўзяць —
А быў упаўнаважан
З мяне дазнанне зняць.
Ну, ясна ж, ён з падследным
За стол не мог сядаць.
Хоць, дзякуй, адпаведна
Давёў, у чым бяда.
«Што ж, — кажа, — тут паробіш —
Сам ушчаміў хваста:
Круць-верць, а на хваробу
Няма ў цябе падстаў».
Ляжы, брат, колькі ўлазіць,
Але на кожны дзень
Патрэбна ў гэткім разе
Мець, кажа, біліцень.
Не гэткі толькі, кажа,
Што ў выбары даюць:
Для розніцы тут важна
Знаць, дзе паставіць «ю».
Калі ён ад хваробы,
Дык трэба «і» пісаць.
А ў тым — закон асобы:
Там «ю» павінна стаць.
Вось тут і раскумекай!
Нагарадзіў пляцень:
Які дзе чалавеку
Паможа «біліцень»?..

А раз ніхто не чомаў
У справе той ладней,
Рашылі: «Ён вучоны,
Яму, як ёсць, відней.
Ды «білі», брат, ці «бюлі» —
Адна ўжо помач тут.
Не выкруцішся… Скулле!..
Відаць, што будзе суд».

## 9
## ДАРОГА

Збірацца выпала вясною,
Як збольшага хваробу змог…
Сустрэў бярэзнік белізною
І лотаццю — зялёны лог.
З палону хатняга збавення,
Дзе дні брылі, як бацяны, —
Палон імглістага трымцення
Наўзбоч дарогі ў дзве сцяны!
Ці павітацца з першым лістам,
Ці замаліць ад наслання —
Перад бярэзнікам прачыстым
Васіль маўчком спыніў каня.
«Здаецца, многае пабачыў,
Але бывае дзіўны час:
На гэты светлы цуд над Начай
Глядзіш заўжды, як першы раз.
Аж захлынае прыгажосцю,
Хоць век жыві, не памірай…
Відаць, такое будзе штосьці,
Калі зямны збудуем рай, —
Падумаў, весела прыкінуў: —
Вось гэта вам аўтарытэт:
Нядаўна елі хлеб з мякінай,
А тут — сусветны райсавет!..»

Плыла дарога, бы ў тумане,
Кружыўся белы карагод —
Бярозы! — на завейным стане

Чарнявых крапінак разлёт.
І зблізку снежна, і здалёку,
Нібы зіма ўладарыць спрэс.
Але, пабач, як прагне соку
Матыль, дзе пеніцца надрэз.
Вясна! Вясна — у цэлым свеце.
Яе не возьмеш на падман.
Дыхне палямі лёгкі вецер —
Спадзе бярозавы туман.
Асмажыць горыччу палыннай
Крушын настоены гусцяш.
І ўжо наперадзе — раўніна
І даль, адкрытая наўсцяж…
Адно ад песні засталося:
Апошні подых, успамін,
Бароў і пушчаў адгалоссе —
Бярозавы купчасты клін.
Нібы пад сэрца клін тужлівы,
Узмах асенніх журавоў:
У вырай залятуць, мажліва,
Але ці вернуцца дамоў?..
Руччамі змытая дарога,
Травы напорыстая шчэць…
Сасняк налева — здань былога —
Там-сям тапырыцца яшчэ.
А праваруч заходзіць поле —
За гай — падковай ярыны.
Няўзнак, няўспех, пачуўшы волю,
Стрыжэ нагамі вараны.
«Спяшацца, брат, няма прычыны», —
Разводзіць думу старшыня…
Гайдаюць ціха каляіны
Зямлю, і неба, і каня.
Пад жаўруковаю дугою
Званок рассыпаў цішыню.
А з-за бярэзніку — другое
Спяванне прыпарнаму дню.
Грыміць палёў абнова — трактар,
На слух вядзе з ім баразну,
Турбуецца Васіль: а як там —
Ці скора ўлашчыць плуг вясну:
Прыкрые цёпла і надзейна,

Каб жніўнем узышла яна.
Каб будні сталіся нядзеляй —
За ўсё аддзякаваць спаўна…
«Калі раскіпяціцца сёння
У падлессі поле ўзняць Іван,
Лічы, што першымі ў раёне
На пасяўной закрыем план»…
І ўжо, нібыта ўвачавідкі,
Нібы ў бязгучным тым кіно,
На палатне, жывым і плыткім,
Пабачыў, як Іван стырно
Спаважна, велічна трымае,
Нібы на стол нясе пірог,
Ці свет — на лейцах — сунімае,
Як, не раўнуючы, сам Бог:
Айцец, і сын, і дух машынны…
Такім Васіль яго сустрэў
І ў першы дзень, калі нахлынуў
Увесь народ — аж пыл курэў!
Як дзеці — кожны лез памацаць,
Пагладзіць дымнага каня.
— Ды ён, кажу вам, не для цацак, —
Іван буркліва адганяў.
Калі ж натоўп глядзець прышпарыў,
Як трактар выйдзе на загон,
Дык тут Івана нават з твару
Было не ўзнаць… Як вырас ён!
І як узвысіўся, узнёсся
Над тым абшарам, над зямлёй!..
Ірваў, змятаў цераспалоссе,
Дзе тупаў басанож раллёй,
Дзе кожны камячок на дотык
Ды і на пах знаёмы быў,
Дзе ласкаю, не толькі потам,
Радніўся з нівай дзень сяўбы…
А тут — разгон жалезных крокаў!
Што там былінка ці грудок,
Калі адразу паўвалокі
Ён плугам ворыва валок.
Нібы пад шнур — баразнаў скібы,
І сама ў меру глыбіні,
І ні агрэхаў, і ні хібаў,
І не стамляецца ані.

Конь добры, кажучы няўрокам.
Але здалося Васілю:
Глядзіць як быццам бы звысоку
Араты на сваю зямлю.
А хіба з ёю гэтак можна?
А не пакрыўдзіцца яна?..
…Нібы ірвалася трывожна
Між сэрцам і зямлёй струна.

Пад успамінаў перамовы
Дарога вывела на лог,
Дзе з ліпы бусел местачковы
Вышыні ўладныя сцярог.
Яшчэ адзін пад'ём — за рэчкай,
І ўжо на ўзвалку з-за прысад
Пагрозна вырасла мястэчка —
Хоць ты варочайся назад.
Ды не спыніўся, не вярнуўся,
Адно не паганяў каня.
Няспешна, ціха азірнуўся,
Як бы душой усё абняў…
Напіцца кнігаўкі прасілі,
Хоць Нача выйшла з берагоў.
Касым крылом касынкі сіняй
Махнула сойка наўздагон.
Адгрукатаў каменным брукам
Пад коламі раённы пляц…
Завулак. Цішыня. Ні гуку…
«І што ён скажа, гэты Сац?..»

Пачнём з таго, што, пэўна, Сацу
Не грэх бы пакланіцца тут:
Паўгода толькі прымуспрацы
Адмерыў Васілю нарсуд,
Бо павярнуў суддзя разборы
І следства на праўдзівы след:
Сказаў адно: «Які ён вораг?..» —
А Васілю адкрыўся свет.
Які ён вораг… Але ж толькі
Матрона сведчыла суду,
Як бульбу ён згнаіў і колькі
Свіных згубіць наймеўся душ.
І расказала, як на ферме,

Дзе быў яго загад прамы,
Жывёле па-шпіёнску перлі
З падсуднай бульбы той кармы.
Адно забылася: з якою
Разведкай звязан быў Васіль,
Назад зірнула з неспакоем:
«І як жа ён сказаць прасіў?» —
Вачыма Трыхана шукала:
«Каб ты з вучонасцю той спрах!..»
Ды позірк Ёхаў напаткала —
І мову з'еў авечы страх.
Хоць потым і падначыў Трыхан
Гукнуць: «Няправільны суддзя!» —
Сац адмахнуўся, як ад ліха,
Сказаў — да ўвагі грамадзян:
«Прашу падтрымліваць парадак!..»
Астатніх сведак распытаў
І прыгавор пасля нарады
Аб прымуспрацы зачытаў…

«Ну што ж — не прывыкаць, адроблю…» —
З развагаю нестаршыня
Задком заводзіў у аглоблі
Нестаршынёўскага каня.
А з ганка люд валіў агулам:
Яўсей трымаўся ля парэнч,
З прыскокам Мотра прашмыгнула,
І Трыханаў прадыбаў фрэнч.
Васіль Яўсея зваў пад'ехаць,
Ды той па крамах клопат меў.
А фрэнч ля Мотры, як бы нехаць,
Ухмылкай сцэджваў люты гнеў.
Смяяўся, пэўна, для прыліку,
А ў пекле цёмнае душы
Гарэла гарам, што артыкул
Не змог аб шкодніцтве падшыць.
Не загрымеў Васіль як вораг,
Хоць старшынёўскі збілі чын…

Грызуць і Мотру смутак з горам.
На гэта многа ёсць прычын…
Усю спектаклю заваліла,
Што сёння па дарозе ў суд

З каханкам назубок зубрыла:
Як што сказаць, каб збыўся цуд.
«Каб у руках мець старшынёўства,
Былі б і мы ў перадавых.
Яно ж і так, сказаць, геройства
З тваёй красой — і ў радавых.
Ды ты б, як ружачка, сядзела
У канцылярыі са мной…»
І вось — сама! — згубіла, з'ела
Ўсё шчасце там, за той сцяной…
Цяпер адвернецца, няйначай,
Ад саракоўкі Трыханок:
Што маладому — парыбачыў
І далей невад павалок.
Хіба не знойдзе заляцанак,
Калі паставяць старшынёй?!.
Ды і пасады абяцанай
Цяпер не дачакацца ёй.
Не пасядзець у сакратарках,
Дзяржавай не пакіраваць…
Зноў тыя ж вёдры, вілы, таркі,
І той жа муж прыпрэцца спаць.
А гэтак марыла, чакала…
Хоць працаднямі не цвіла:
Ледзь-ледзь на мінімум хапала —
На сходах першаю была.
Лікбез канчала, дэлегаткай
Раней хадзіла ў сельсавет,
Між актывістак, пры выпадку,
Глядзеўся і яе партрэт.
Ды раскусілі Мотру людзі:
Грыміць на ходзе халастым.
Таму і кінулася ў суддзі,
Каб зноў павысіць свой актыў.
І трэба ж гэтак — спудлавала…
Дурніца — нават навырост.
Нібыта ў роце кляп, — маўчала.
Усё… Усё кату пад хвост.
З такой прычыны-распрычыны:
«А каб вас там пагнула ў крук!..» —
На суд зірнула, дзе ляйчынай
Васіль вярнуў каня на брук.

«Ат, што ты возьмеш з гэтай бабы…» —
На Мотру ён і не злаваў:
Валоссе доўгае, ды слаба
Капусту варыць галава.
Адно што ў звадах — памялішчам
За пяць кабет заўжды мяце, —
Ну і язык: паганы прышчык
І той уссесці не хацеў!..
І ўсё заўсёды ёй вядома,
Пра ўсіх даложыць неўспадзеў:
І дома што, і што за домам,
І чый задворак чым смярдзеў.
Калі зачэпіцца ля студні
Язык вось гэткі за язык,
Глядзі, што дзень наступіць судны,
Пакуль прамоў аціхне зык.
Да лапця лапаць — вось і пара:
Аж пот курыцца над губой!
Таўкуць, і трэплюць, і сячкарацць
Адна другой наперабой.
І ўжо агонь асядзе ў печы,
І галавешкі дадымяць —
Яны ж — каромыслы на плечы —
Пустымі вёдрамі грымяць.

На луг каня сцяжынай тупкай
Адводзіў поцемкам Васіль,
З раёна выслухаўшы трубку:
«Пячатку Плеўкіну здасі».
А хто быў Плеўкін — добра ведаў
І ў тэлефона не пытаў:
Цыган свядомы і аседлы,
Што так — нясеянае жаў.
Сказаць, які вандроўны вецер
Занёс яго з якіх дарог
На каланчу пры сельсавеце, —
Цыганскі бог і той не мог.
Пачаў з таго брандмайстар бравы,
Што ноччу ў лютаўскі мароз
З прысад — для ацяпляльнай справы —
Беразняку нацюкаў воз.
Калі ж дарожнік неўспадзеўкі

Праз дзень агледзеў той прагал,
Дык сам з сябе дзівіўся Плеўкін:
«Нельзя?! Да как же я не знал!..»
Другое з сельскай гаспадаркай
Знаёмства даў законны шлюб:
Зайшоў у прымы да свінаркі,
Перад касой схіліў свой чуб.
Цяпер на ферме быў не госцем,
Хваліў: «Какой свиной малыш!..»
Ды прытка кідалася штосьці
Наўцёкі парасё-скавыш.
Мажны, высокі, кучаравы.
Грудзіна — хоць абоддзе гні!
Шынель, гармонікам халявы —
Усё як ёсць для старшыні.
Што ж, хай бярэцца, хай кіруе,
Абы не Трыхан уздужэў.
Час пракурацтвы ўсім даруе,
А з подласцю — яно цяжэй.
Не змыеш і не адпрасуеш,
Калі на фрэнчы тым яна,
Як вош, паўзе, і галасуе,
І сведчыць: вось твая цана.
Хоць з Плеўкіна не надта клёку,
Але ж усе не без заган.
Хлеб старшынёўскі — хлеб не лёгкі:
Хай паспытае і цыган!
Калі разважыць тут цвяроза,
Дык Васілю — гара з плячэй.
Як людзі кажуць, баба з воза —
Бяды не шмат — каню лягчэй.
Ішоў Васіль і вольна дыхаў,
Як травы, кветкі і зямля.
І думаў: на якое ж ліха
Жыццё вось гэта азаляць?..

Пранiры, злоснікі, пыхліўцы,
Майстры зняславіць і падбіць,
З чырвонай жычкай нежычліўцы, —
З якіх яны ляцяць арбіт?
Адкуль паганыя стварэнні
Заўжды бяруцца між людзей?

Адкуль іх цягнуцца карэнні
І ў ствол атрутны сок ідзе?
Адкуль яны так хіжа пруцца?
Як выжывае нораў той
У ачышчальных землятрусах
І поплеч з праўдаю святой?
І выжывае, і пладзіцца,
І не марнуецца ў тузе.
То стаяком ідзе, то ніцма,
То на карачках падпаўзе.
Няўжо так свет наш змайстраваны
На ўсе вякі, на ўсе «заўжды»,
Што немагчыма без паганак,
Як без паветра і вады?
Не-е, брат, не верыцца, хоць трэсні.
Дастойны акрыляе шлях!
Не можа быць пад небам цесна,
Калі ты з небам у грудзях.
З такім глыбокім і бязмежным,
Як над Узбор’ем над маім:
Палёт і воля зорных сцежак —
Свяці, хапае месца ўсім.
Няўжо ён толькі там — для неба —
Высокі строй і дружны лад?
І не ўзрасце на чэрствай глебе,
Не прыйдзе і да нашых хат?
Дармо! — вузлы і мы развяжам,
Каб лёс не зарастаў быллём.
Народ сваё па-свойму скажа:
Хто песняю, хто мазалём.
Як Млечны Шлях, і ў нас дарога.
Высока праўду мы нясём.
Дарога… Абяцае многа.
Дарога… Забірае ўсё…

## 10
## НОЧ ЛЕТНЯГА СОНЦАСТАЯННЯ

Сляпенькая чорная лазня —
А колькі людзей абяліла!
Каб чуўся хоць трошкі князем —
Адпарыла і адмыла.
Каб знаў, што прыходзіць субота
І цела, і дух абнядзеліць,
Каб скінуў турботы, згрызоты
З кашуляй, ад поту зрудзелай,
Каб венікам стому спляжыў
І да халадзёнкі лютай
З палка, нібы чорт падсмажыў,
Куляўся ў тры перакруты,
Каб зноў
на свет нарадзіўся,
Каб шчодра вада жывая
Вярнула назад гады ўсе, —
На тое і лазня бывае!
Яна пачынаецца з поўдня…
І нам тут якраз верхаводзіць:
Цабэрак са студні, як поўня,
На вочапе плытка ўзыходзіць.
Напоўняцца вёдры — і зноўку
Асвер галаву апускае,
Як быццам гусак жыроўку
У рэчцы на дне шукае.
Ваду цягаем у кадзі,
Хоць, праўда, я збоку прыпёку:
Цягаць — яно Зіне і Каці,
А мне — дурэць ды галёкаць!
Падкрасціся ды знячэўку
Смяшлівымі пырскамі чохнуць,
Хоць сёстры ў адказ на зачэпку
З вядра апрастаюць — і сохні.
Ды мне гэта сама што ў меру:
Я зараз пачну качагарыць.
Рыпіць смаляк пад сякерай —
Таўстун пакручасты з выжарын.
Яго — на падпал. А на топку —
Бярозавых дроў ды альховых,

Каб дух быў, як бульбіна, сопкі,
Каб сыпаўся з венікаў новых,
Каб мокрым не ліпнуў абквачцам,
А суха качаўся па спінах,
Адскокваў, як мячык гарачы,
З альховай гарчынкай палыннай.

Тапіць — во мужчынская праца!
І я ўжо ад лазні — ні кроку.
Лацвей на мураўцы валяцца, —
Як хочаш: спіною ці бокам!
Адно паглядай, каб не звёўся,
Каб вогненна ў каменцы дыхаў
Той бог і той дух, што сваё ўсё
Пад венікам выкажа з пыхам.
Схапіўшы наводмаш паветра,
Нібы для нырца з абрыву,
Сагнуся і ў дымныя нетры
Ускочу знадворку імкліва.
Шыбаю, шурую паленне,
Дзе полымя б'ецца здзічэла,
Пакуль не падыдзе каменне:
З чырвонага зробіцца белым.
Вось толькі назолаю даўкай
Падсунуцца сёстры заўсёды.
Як быццам без іх тут няўпраўка,
Без гэтай жаночай пароды!
Ну хай сабе маці сказала,
Каб мне давяралі не вельмі,
Дык гэта ж каменне — не сала,
Не ўспыхне агнём на патэльні.
Трымаюся я незалежна,
Хоць знаю: не зводзяць вока,
Мужчынскі гонар у клешні
Бяруць,
            не ўзляціш высока.
Ды мне напляваць! Я дровы
Цягаю маўчком з-пад павеці,
Каб выгукнуць:
                          — Лазня гатова! —
Найлепшая ў сельсавеце.
Сказаць, дык па сёння адгадкі

Я пэўнай не знаў і не знаю,
Калі, пры якіх парадках
Асеў ён у нашым краі —
Той дзень з бярозавым культам,
Што нас на палок узносіць?
І сверб маладзецкі адкуль той,
Што духу тры меркі просіць?
Відаць, тут Купала віноўнік,
Купала, што дзевак выводзіў
І голых, пад голаю поўняй
У росах качаў, ды не шкодзіў.
Купала — ахоўнік Узбор'я —
У рэчках купаў і ў крыніцах.
Таму ледзь не ў кожным падвор'і
Суботняе свята дыміцца.
Не Рым, дзе патрыцыі ў лазнях
Дзяржаўныя справы вяршылі, —
Узборац змагаўся тут з граззю
І ніжай і вышай ад шыі.
Не мылам і маслам заморскім —
Жарствою наводзіў глянец.
З ахвотай-якотай узборскай
Адмыецца — люба глянуць!
І сам — хоць стаўляй на покуць,
І дзеткі звіняць, як арэшкі.
Аднак жа — не ўкусіш за локаць —
Вясёлая ходзіць пасмешка:
«І скуль ты, бялюсь, аб'явіўся, —
Сусед да суседа рагоча, —
Як лут, на Каляды памыўся,
Яшчэ й на Вялікдзень хоча».
Калі хто пагудку такую
Ў фальклорны падсуне зборнік
Ці мудры трактат адштукуе, —
Дык то не пра наша Узбор'е.
Яно ў нас — вясёла спрадвеку —
Вясёлай суботы чакала,
Бо ў нас кум і брат чалавеку
Любому —
                Іван Купала.
Шугай жа, агонь мой, узвейна,
У дыме панурым не вязні!

Ад спін, на палку збранзавелых,
Святлей, мая чорная лазня!..

Тым часам каменне паспела.
І ўтраплена так, калі з працы
Вяртаецца бацька, бо смелых
Няма, каб за клешчы брацца.
Я змог бы, ды сілы не ўдосталь:
Зацiснуць і выхапіць камень
З пякельнага жару не проста.
Таму і сяджу. І чакаю.
Праходзяць дарогай мужчыны,
А бацька звярнуў — праз выган
Прастуе да лазні…
Чын чынам
Я ўсё праясніў яму мігам.
— Ну што ж, калі разам, дык разам, —
Дашчаныя ўзяў дзве лапаткі —
Прымерыўся, каб не прамазаць,
І першую сціснуў хватку.
І нёс — гарэлі кляшчыны,
І трэскаўся суха камень,
І з бочкі вада аблачынна
У столь выбухала клубкамі.
Аж пот халодны ад жаху
Ў мяне выступаў на носе —
Як раптам распарыста жахне,
А клешчы ў бакі так і носіць!
Ды бацька не садзіць таропка
Той вогненны кавал у бочку,
Бо так не збярэш і клёпкі —
Усё разнясе на драбочкі!
Спачатку тройчы макае —
Хай крышку пагасне шаленства,
Затым прытрымае камень:
«Не рвіцеся, ваша каменства!..»
А той аж ламае клешчы,
Гатоў заіржаць — і галопам!
Вада віруе і плешча —
Вось-вось абручы лопнуць.
Калі ўжо буянства ачахне
І дробнаю пойдзе дрыготкай

І ўжо пасвятлее ў вачах мне —
Вынырваюць клешчы, як плоткі.
А камень на дне вуркоча,
Сярдзітымі б’ецца кругамі
І, каб шаравацца было чым,
Жарству расціраe нагамі.

Ну вось і вада нагрэта,
І каменка пухне ад духу,
І венік, прапахлы летам, —
Зганяй на палку галадуху!..
То вухкае, то якоча,
То просіць паддаць яшчэ раз —
Яўсей, заўсёды ахвочы
Збіць з каменкі першы інтэрас.
Каўганку падкінуць з пытаннем:
«Ну як, галава не лысее?»
Другую сустрэнуць маўчаннем:
Тут жарты благія з Яўсеем.
Калі ж пасля трэцяй меры
З грудзей яго вырвецца клёкат —
Слабейшыя пнуцца за дзверы,
А мы — на падлозе ўпокат.
І плечы гараць, і вушы,
Займае і дух, і мову.
А зверху, бы молатам, глушыць
Яўсееў венік дубовы.
Бярозавых ён не прымае:
«Не паранне з ім, а забава.
Бяроза — яна для маю
Ды хату падмесці бабам».

Згаджаўся Васіль, што мускул
Цвярдзее з дубовым лістам,
Ды ўсё ж для душы беларускай
Радней той вязанак бруісты —
Той хвалісты, з шэптам зялёным,
Што ў летняй гуллівай павазе
З пагоркаў бяроз нахілёных
Прыбег ручаінамі ў лазню.
І вось ужо грудзі і плечы
Лясною абкатвае плынню:
То ўспомніць ласкава аб нечым,

То сонцам спякотным нахлыне.
І ўсе тым дыханнем сагрэты,
Лістота шуміць гаманкая —
Каму адзвінела ўжо лета
І тым, каго вёсны гукаюць.
Зялёнага веніка смага,
Зялёнае сонца бярозы!
У цела ўліваецца брага —
П'янее самы цвярозы!
І ўжо халадзёнкаю з дзежкі
Задуху не згоніш тую:
Хто наўскач, а хто ўперабежку —
Усе да рэчкі прастуем.
Тут, праўда, мужчын не багата:
Куляюцца дзеці, як гусі,
Ды пара падлеткаў цыбатых,
Чый сорам хавацца не мусіць.
Ды з полымем за плячамі,
Хоць плаваць вучыўся ў сякеры,
Бяжыць Сілівей і адчайна
Нырае, аж ёкае бераг.

Хвала табе, чорная лазня!
Хвала табе, светлы Купала,
Што быў ты з намі не блазнам:
Гарэзваў, ды клёку хапала.
Хапала разважнасці мудрай
Нам песню ўдыхнуць у грудзі
І выправіць не лахудрай
Душу народную ў людзі,
Каб яснай была і чыстай,
Як белы кужаль абруса,
Каб днём не згасала імглістым
Яна, душа беларуса.

Вось гэтак, ці прыкладна гэтак,
Ці, скажам, у гэтым кірунку
Мой бацька з вяршыні лета
Глядзеў на быцця малюнкі,
Бо ў лазні памыўшыся, кожны
Філосафам робіцца трохі,
Хоць клопат будзённа-абложны
У жменьку сціскае эпохі.

І думка шкрабецца паціху
Аб тым, што вось тут, на парозе,
Казаў той, і ліха не ліха,
Як едзе ў далёкім возе.
Сваё — і журыць, і вяселіць.
І сушыць, і гоніць смагу, —
Сцяжынкамі ўзборскіх аселіц
Ідуць Васілёвы развагі.

Адсеяцца толькі што ўспелі,
А тут сенакос падступае,
І конік турбуецца ў зеллі:
«Касу адкляпаў ці тупая?»
І драч мянташкай сухою
Ўсю ноч за кустамі шаргоча,
І сталь у цяньку пад страхою
Без працы вісець больш не хоча!..
Зграбеш, устагуеш надрэчча —
І колас, глядзі, загукае.
Сярпы маладзіцам на плечы
Пасядуць маладзікамі…

Гайдаецца думак човен,
З палёў у хату вяртае —
Да кніжак вунь тых вучоных,
Што ў прыцемку дочкі чытаюць.
Сказаў: «Пакіньце сляпіцца»,
А сам сабе моўчкі прыкмеціў:
«Ось дня не хапае быццам —
Пайшлі, брат, вучоныя дзеці…»
І хоць на чытанне з павагай
Заўсёды Васіль дзівіўся,
Ды ўсё ж мужыка-бедалагу
Узносіў пры гэтым увысі.
Вучонаму што: не сёння —
Даробіць праз год, праз дзесяць.
А не дачытае спрасоння,
Дык воўк не падохне ў лесе!
Ці халепа ўдарыць, ці спёка —
Ніхто з цябе не спытае:
Хлеб лёгкі ад поля далёка,
Хлеб лёгкі на крыльцах лунае.
Вунь Зіна чытала, як Пушкін

Пару падбіраў да густу:
То гразка, то мошкі ды мушкі —
І ў сэрцы, бачыце, пуста.
З настроем не ладна — і з вершам
Выходзіць штосьці не тое:
Паэт — па Расіі найпершы, —
А вось і ў яго прастоі.
З адным толькі бацька — хоць трэсні —
Не мог пагадзіцца начыста,
Што восенню бралася песня,
А не вясною квяцістай.
Ды з Пушкіна спыт асобы.
Ён Пушкін — і з ім не раўняйся.
А вось жа і іншым собіць
Сядзець на нейкім Парнасе.
Захочаш — пішы там вясною,
Не хочаш — увосень дапісвай —
І ўсё на адной аснове:
Круці галавою лысай.
А ў нас цябе так закруціць
Ды так уссядзе на плечы,
Што будзь ты хоць тройчы труцень —
Не ўлежыш на цёплай печы.
Вясной у пару не пасееш,
Дык трасцу збярэш увосень,
І стань, брат, пракокам Майсеем,
Як есці кішка запросіць!
Пакуль памудрууеш ніцма,
Дык пэўна ўжо там, наверсе,
Пакоціцца сонца лісіцай —
За хвост ухапіць не мерся!
І год — не конік сівенькі,
Прывязаны да агароджы.
І часу былога хоць жменьку
Ніхто табе даць не зможа.
Не купіш вясну на базары
І ў Бога не выпрасіш плачам.
Пасеяць — дык толькі зараз.
Ніяк не выходзіць іначай.

Так думаў мой бацька…
                                        А недзе

За тысячу вёрст ад лазні
Хвіліны заглытваў нелюдзь
І з часу гадзюкай вылазіў.
Над летнім сонцастаяннем
Адзін, неадкладны, шалёны —
Таксама клопат — груганіў:
Мільёны, мільёны, мільёны.
«Пад грэбень — усю Еўропу,
Пад грэбень — аж да Урала.
Яўрэі — найпершы клопат:
Дзесяць мільёнаў.
Мала!
Пад грэбень — спагады ніякай! —
Каб нам прасторы хапала.
Дваццаць мільёнаў — палякі.
Мала!
Мала!
З крыві — ад самых пялёнак
Арда Чынгісхана ўставала.
Рускія — сто мільёнаў.
Мала!
Мала!
Мала!
Германія! Новы бераг
Вялікай, сусветнай дзяржавы!»
Перад вачыма Герынг
Танец чыніў крывавы.
Скакаў на стале,
                    а фюрэр
Прарочыў уладу над светам:
«Яшчэ не такія фігуры
Станцуем, — пад боты, планета!
Пад кулю — любое пытанне,
Пад кулю — позірк няветлы!
На шары зямным — наш танец.
Скачы ў крыві, планета!
Час! Ні хвіліны спазнення!
Германія! Хопіць цясніцца!»
«Дортмунд!» — сігнал наступлення,
«Дортмунд!» — зрывае граніцы.
1 гоніць затвор у патроннік
Германію, дух стагоддзяў…

Адною дарогаю сёння
Забойца і сейбіт ходзяць.
Два клопаты, а планета
Адна, і другой не будзе…
Не зналі той ноччу аб гэтым
Ні бацька, ні ўзборскія людзі.
Не знаў і я, зразумела…
Напіўшыся сырадою,
Я ў сне паміж красак белых
Сцяжынку праз луг адольваў.
Вы бегалі так хоць аднойчы?
Вы зведалі тую праяву?
Ляціш нерухома, а ў вочы —
Сонца, і кветкі, і травы.
Чаму ж яны белыя толькі?!
Ага! Малако збіраюць!
І чуецца: мама з дойкі
Гарлач напаўняе з краем.
«Вось гэта, — кажа, — ад цёткі,
Што Дзятлінкаю завецца», —
І пеніцца кубак салодкі
І мёдам у рот ліецца.
«А гэта ад дзядзькі Рамонка:
Ён трохі гарчынкі дабавіў», —
І ў сне я прыцмокваю звонка
Прыпухлымі ў красках губамі.
Я ўсіх пазнаю, хто жыве тут,
І сваркі няма ў нас ніколі.
Мы — дзеці. І наша планета —
Вось гэты луг пад шчакою.

Кацілася ў сонцастаянне
Ноч мігатліваю знічкай.
Ды дзе ж яно, дзе світанне?
Гадзіннік стаміўся адлічваць.
Гадзіннік задыхана стукаў
Дню летняму ў светлыя дзверы.
Кароткая ноч — прыступкай
Ты стала для чорнага звера.
Прыступкай у ноч другую:
Тры ўкоптур гады — на стагоддзі —
Той звер дзень за днём — адстагуе,

Дзе з чорнай касою пройдзе.
Тры чорных гады вісела
Ноч над сонцам высокім.
Світанне ў агні згарэла,
І дзень быў далёка-далёка…
Чэрвень. Дваццаць другое.
Сэрцы, сейсмографы свету,
Хавальнікі ран незагойных,
Вы помніце ноч гэту?

Вы не забыліся,
Што пачалося?..

## 11
## ДНЁЎКА

Камбат над картай раз і два схіляўся,
Красаў запалкі:
                    — Што за чартаўшчына!
Пазначан лес — а дзе ён падзяваўся?
Адны хмызы з імхамі па лагчынах.
Так і заднюеш на патэльні гэтай.
Ісці ж далей — як ёсць самазабойства:
Прастрочыць самалёт — і песня спета.
Тут і прывал табе, і ўсё геройства.
І слава — што травою прарастае,
Сухменным летам зеляніцца горна —
Адметная — крамяная, густая,
Дзе хтосьці твар зямлёю твой прыгорне…
Рашыў камбат: ці добра там, ці блага,
А днёўку ў вёсцы аб’явіць падворна,
Папоўніць харч, вадой заліць біклагі
І ногі астудзіць ад вёрстаў чорных.
Давёў сігналы, выставіў дазоры
І хату выбраў — першую ад шляху.
А праз гадзіну сном тараніў змору
З прысвістамі пад Васілёвым дахам.
Даўно ўжо так не спалася камбату —
Як быццам у маленстве апынуўся…
Расплюшчыў вочы, азірае хату.

І раптам ад здагадкі страпянуўся.
Ды і Васіль цішком дзівіўся збоку:
«Чупрына тая ж, толькі пасівела,
З гарбінкай нос, і той жа шрам ля вока…»
Нарэшце ўсё-ткі запытаў нясмела:
— Хачу дазнацца, выбачай, таварыш,
У грамадзянскую вы не бывалі ў нас тут?
— Ды я і сам наўкол вачыма шару:
Знаёмая будыніна — і баста!
Карчма, здаецца?
— Ды яна, а як жа.
Перакупіў вясёлыя харомы.
— Яшчэ тут побач, помніцца, кулак жыў…
Ну й рэзаліся ж мы тады ў Аброма!
Васіль не раз прыгадваў тыя спрэчкі:
Танула ў дыме газавая лямпа,
Абром круціў на барадзе калечкі,
А Сёмка па стале далонню ляпаў:
— Ніхто не вольны ў гэтым вольным свеце.
Адна зямля — карміцелька і ўлада.
З якога боку ні падзьмуў бы вецер —
Яна не ўважыць: ёй давай парадак.
Яе ўзары, гнайку трусіць не грэбуй,
Дажджу пад корань выпрасі ў нябёсаў,
Сажні, збяры — і маеш лусту хлеба:
Хай не ад пуза, але ўсё ж удосыць.
Быў камандзір бязвусы і гарачы,
Штораз нервова шморгаў партупею
І Сёмку рэвалюцыю тлумачыў:
— Ты вось пад'еў, а беднякі — гібеюць!
— Якія беднякі?! Зямлі — валока,
Не менш, як і ў мяне, ды і не горшай, —
А вунь ляжыць Арцюх на печы бокам
Ды пасвіць, як на ўбой, пад світкай вошы.
Зямлю дала савецкая улада?
Дала. А ён? А ён — і не ў аглоблі.
Зямля яму, скажу, як чорту ладан.
Ён жджэ, відаць, што клін той я абраблю.
— А ты, Сямён, дарэмна лямантуеш.
На кім араць? — Васіль тады зазначыў.
— На кім, пытаеш? Дай зямлю мне тую,
Дык я ўспушу рукамі, на карачках.

— Ну, скажам, на карачках ты не надта…
— А хто ж зрабіў шнуры, як той каберац? —
Сямён устаў і пальцы, нібы краты,
Нягнутка перад лямпай склаў аберуч. —
А вось яны! — І ўсе туды глядзелі —
На чорны і парэпаны дзесятак,
Што прапусціць — нібы жалеза ў целе —
Не мог ад лямпы ценяў ружаватых.
І меркаваў Васіль сабе паціху:
«Які буржуй з яго, калі спіною
Ён сонца толькі й бачыць: без аддыху
Гарбее, покуль выпраміць труною».
А камандзір здавацца і не думаў:
— Нутро тваё я вось як разумею:
Абы ў трыбух, абы паменей шуму, —
За жменьку гною прадасі ідэю.
А беднякам — пара зграмадзіць сілы,
І шлях цяпер адзіны ёсць — камуна, —
Каб зацвіло ў іх ды закаласіла,
Каб трохі і ў цябе пратросся шлунак.
— Я жыць хачу, і вы жывіце з Богам.
Я чалавек такі: араў ды сеяў.
Карміў людзей. І не забіў нікога.
А ты мне ўсё «ідэя», «за ідэю».
А што яна? З якім заморскім смакам?
І з чым ядуць ідэю, мне скажы ты?..
Бяжы за ёй — а выйдзе кукіш з макам:
Патопчаш лапці,
                                        не пасееш жыта…
Стварыць тады не выпала камуну:
Атрад пайшоў далей высмальваць банды.
Прыціх Сямён, Абром лавіў фартуну,
І пеніўся ў карчме вясёлы гандаль.
Але прабыў тут камандзір не госцем —
Зярнятка ў сэрца кожнае пасеяў:
Каму — пачварнай і зацятай злосці,
Каму — трывогі, а каму — надзеі.
А перад маршам Васіля ўгаворваў
Пад штык ізноў з куросання вярнуцца,
Змахнуць з душы разгубленасць і змору
Сусветным палыханнем рэвалюцый.
Што адказаць? Васіль, як цень, хістаўся:

Аж пяць гадоў — акопы, лазарэты,
А бомба ўсё ляцела і гула ўсё,
І выбух поўз услед яшчэ й дагэтуль.
Кантужаны, да дзедаўскіх падвалін —
Абараніў цара, адваяваўся —
Прыйшоў — даведацца, што жонку пахавалі,
Што з дзіцем на руках ён тут застаўся…
Даводзіў камандзір:
— У нас — праграма.
А ты прыліп тут да палоскі задам.
Сказаў Васіль:
— Зямлю араць таксама
Камусьці ж трэба… І карміць уладу.
— Я знаю ваша племя земляное:
Хто з печы сцягне — рады ці не рады, —
А з тым і пойдзеш, і стаіш сцяною,
Той для цябе і ўлада і парадак.
— Улада? Можа, й праўда. Але прагну
Парадку іншага, што праз вякі — галоўны:
Ну хто, скажы, мяне за крыссе цягне
Вясной у поле, восенню да ёўні?
Не толькі брат, кішка, не толькі голад.
Ёсць нешта і такое, што не знаю…
Вось ты глядзеў, як тоненька і квола
Расток зямную тоўшчу працінае
І ўсё грабецца — да вясны, да неба?..
Дык знай тады: я — не сваяк гаротны,
Я з полем звязан не кавалкам хлеба —
Тут і жыццё, і смерць, і бессмяротнасць.
— Ну, а зямля, дзе б сеяў і араў ты?
— Зямля ўжо ёсць, дык што па свеце гойсаць…
— А хто ж усё абераажэ, каб заўтра
У парабках не быў ні твой, ні мой сын?
Ці, думаеш, і бітва адшугала
З тым, калі скінуў царскія пагоны?
— Я думаю: а як бы ўсё трывала,
Каб не мужык і каб не хлеб ягоны?
Вось наша праўда: жыта сей паболей,
Яно для ўлад — някепская затычка.
Махнуў рукою камандзір:
— Даволі!
Тут з Сёмкам у цябе, па-мойму, змычка.

Было — сплыло. Улеглася, асела.
Даўно ў Сібіры Сёмка парыць косці.
Было — сплыло… Ды новая прыспела
Мітрэнга на парог нязваным госцем.
Нібыта ўзняўся белы свет на ногі:
З пажыткам — бежанцы, ваенныя — з віною —
На ўсход, на ўсход — забіты ўсе дарогі,
Запоўнены пакутамі, вайною.
Свае даўно знядужаныя сілы
Камбат глухімі сцежкамі адводзіў:
«Пад самы корань каб не падкасіла,
А прыйдзе час — і скажам немцу: «Годзе!»

На ферме ўжо людзей стаяла купка,
Калі Васіль прывёў туды камбата.
Бычок-трацяк бакамі ўздрыгваў цупка
І пазіраў на свет, як вінаваты.
Адпасвіўся на поплаве, адзыкаў,
Адгульбаваў сваё мычун падласы
І паступіў да старшыны ў разлікі —
Вайсковыя папоўніць харчзапасы.
Бо як бы ні даводзілася крута,
Знаў старшына — карміцель усявышні:
Пры ўсім пры тым, што сказана статутам,
Абед байцу таксама не залішні…
І ўжо агонь пяратухаў памалу,
І ўжо з катла бычок укропам дыхаў,
І ўжо пяхота лыжкі рыхтавала, —
Узмылены, прыбег да фермы Трыхан.
— З бычкамі тут, гляджу, у вас геройства! —
Аж прасіпеў, як Васіля прыкмеціў. —
А ці не пахне гэта самавольствам —
Дабро чужое выкідаць на вецер?
— Дык ці чужое ж тут? Бычок арцельны.
І ўсё законна: грамадой рашалі.
— А ён чыёй каровай быў ацелен —
Бычок вось гэты — вы ў таго спыталі?
Не помніце? Дык я скажу: мой бацька
Яе ў калгас з двара свайго адправіў.
— Дык ты бычку, выходзіць, як бы дзядзька?
— Я гаспадар. І гаспадар па праве.
Яшчэ скажу да ведама праўлення:

Гатоў хоць зараз выявіць паштучна,
З адрыны нашай дзе ляжыць бярвенне,
Што я для фермы здаў уласнаручна.
— Ці ты кляймо паставіў тут якое? —
Аж плюнуў Ёха і расцёр падэшвай. —
Ну а бычок — махні бычку рукою:
Вантробы забірай хутчэй ды еш вунь.
— І забяру. Маё дабро, не ваша.
А старшына да Ёхі:
                    — Извините:
Мы вам расписку выдадим, папаша…
— Распіску… —
                зыркнуў Трыхан. — Вы скажыце!.. —
І злосцю, нібы клоп крывёй, напоўнен,
З кішок начынне вытрасаў густое. —
Я запішу! Я гэта вам папомню! —
Кіпеў зацята. — Гэта вам… не тое!..
— Эге, дык тут, выходзіць, не забыта,
Хто варанога здаў, а хто гнядую?..
Паслухаць вас — у кожнага нібыта
Па ўласніку за пазухай гняздуе.
Прыгрэліся і моманту чакаюць, —
Камбат дзядзькоў перапытаў вачыма. —
Сядзіць у душах моцна гэта заедзь:
Перакавалі, ды не ўсіх, магчыма…
А можа, перакоўку гналі ўспешкі:
Метал не разагрэлі, білі змаху…
Звярнуць лягчэй з наезджанае сцежкі,
Змяніць жа дух — не скінуць апранаху.
Дай толькі знаць, калі падваліць час той,
І шугане кулак-двайнік на волю,
Зноў пад сябе ўпражэцца ўсё грабастаць:
Зямлю, ваду і неба — як паболей…
Маўкліва пазіралі ўбок вяскоўцы:
«Бадай ты ад кішок ад гэтых спрахнуў!»
А Трыхан пёр карыта на вяроўцы,
І духам пралетарскім тут не пахла.

Вясёлыя салдацкія абеды!
Прывалу цень, сухі дымок і пара…
Нямала іх Васіль калісьці зведаў —
І ўзатаўку, і голых, без навару.

Але адзін у памяці і сёння
Праз тоўшчу год дыханнем волі свеціць.
…Былі пайкі раскладзены на ўслоне.
«Каму?» — байцы гукалі, нібы дзеці.
А ўгадчык, адвярнуўшыся, адказваў…
У гурце так дзяльба вядзецца часта.
Ды раптам… Не, Васіль яшчэ ні разу
Не чуў, каб гэтак з воінскім начальствам…
Як адгадаў баец той: «Камандзіру!» —
А порцыя — бадай што руля з косткай —
Аслупянеў Васіль: «Нагарадзілі…
Ну і разгон жа будзе, ну й пачостка!..»
А камандзір — камбат вось гэты самы —
Смяецца толькі, быццам так і трэба:
— Ды тут жа мяса — пахне кілаграмам!
Астатняе, браткі, надкіньце хлебам…
Акопны бог і зух казармаў царскіх,
Што ў сотню жыл падчас трымацца дуж быў, —
Васіль дзівіўся явай пралетарскай:
«Хоць служба службай, ды і дружба дружбай!
І корань тут зусім, брат, не ў вантробе…»
Пасля ж — даводзіў Ёху добрым ладам:
— Вось гэтак рэвалюцыя і робіць:
Па-роўнаму — і хлеб табе, і ўлада.

Вясёлыя салдацкія абеды!..
Ды сённяшні не весяліў нікога:
Глядзелі ў вочы з кожнай лыжкай беды,
Разгубленасць, няпэўнасць і трывога.
Глядзелі ў вочы мацяркі і дзеці,
Глядзелі вокны, птушкі, дрэвы, кветкі.
Пакутнай хваляй біўся ў скроні вецер
І ў сэрца — перасмяглыя палеткі.
І што байцу сказаць на ўсё на гэта?
Лягчэй маўчаць. Але куды схавацца
Ад тых вачэй, якімі ўслед паўсвету
Глядзіць і не асмеліцца спытацца.
Дакуль? Дакуль? Камбат не знаў таксама,
Дзе вораг перад сілай нашай стане.
А Васілю, каб вера не згасала,
Упэўнена сказаў на развітанне:
— Падавіцца фашыст на Беларусі,

Расію дратаваць яму не ўдасца.
Праз месяц-два, а чухаць зад прымусім
Мы гэтую карычневую трасцу.

## 12
## ПАХАВАННЕ

Капалі глыбока,
Капалі да рання.
Пры сонцы на локаць
Было пахаванне.

Пры сонцы на сажань
Вярталіся ў вёску.
Ніхто не заўважыў,
Не дасць пагалоску.

Дарога прамая —
Туманам, туманам…
Вачэй не ўзнімае
Васіль на Івана.

Натуры не слабкай —
Іван — ані слова,
Мазутную шапку
Камячыць нервова.

Тры дні і тры ночы
Сядзеў за штурвалам,
Не змогся, не збочыў —
Дагнала навала…

Па сэрцы
рыдлёўка,
Па думках
рыдлёўка
Скрыгоча жарсцвяна,
Нібыта па ранах…

Ляжыць сярод поля
Глухая магіла,

Не ўзвесніцца болей
Сталёвая сіла.

Конь верны стрыножан
Не лыкавым путам —
Пяском абняможан,
Бязмоўем закуты.

Бывай, дымнагрывы,
Жыўцом закапаны, —
Загонаў руплівых
Не весці Івану.

З табой зухавата
Не пыхкаць цыгаркай,
Калгасны араты
Чэлябінскай маркі.

Сяброўскай рукою —
Бо нельга іначай —
Твой дзень перакроен,
Твой лёс перайначан…

Па сэрцы
рыдлёўка,
Па думках
рыдлёўка
Скрыгоча жарсцвяна,
Нібыта па ранах…

Хай сніцца, мой косю,
Табе ў злым палоне,
Як спее калоссе
На сонечных гонях,

Як жыта рунее,
Як цепліцца глеба,
Як песнямі жнеі
Вітаюцца з хлебам…

Што ўсё гэтак выйшла,
Не мы вінаваты.
Не жораў калыша
Нябёсы над хатай.

Не сейбіта ў поле
Той вырай гукае:
Над плачам, над болем —
Драпежнікаў зграя.

Крыжуюць пагрозна
Блакітныя высі.
Кладзецца ў барозны
Свінцовы іх высеў.

І смерць узыходзіць,
І смерць каласіцца,
І п’е на выгодзе
З чырвонай крыніцы.

Рыдлёўка,
Рыдлёўка…
Чый лёс абарваны?..
Рыдлёўка,
Рыдлёўка…
Скрыгоча жарсцвяна.

## 13
## СУСТРЭЧА

У чэрвеньскім леце сузор’і
Патухлі — не іх віна.
Адно пад небам: Узбор’е,
А насупроць — вайна.
Дзве зоркі ў пустым сусвеце
З цямна да цямна:
Трывожна Узбор’е свеціць,
Злавесна — вайна.
Дзве сілы маўчаць да часу,
А думаюць аб сваім:
«А як жа з табой сам-насам?..»
«Нам нельга, нам цесна двоім».
«Кругом абкруціла, як вуж той,
Чакае: глынуць ці не…»
«Пабудзь у жывых пакуль што,
Бо гэтак патрэбна мне».

«Ад гарадоў далёка
І ад вялікіх дарог…
А можа, абыдзе бокам,
А можа, і крые Бог…»

Ды бацька, стары служывы,
Не надта верыў вайне:
«Яна з цябе выцягне жылы,
Пакруціць, зараза, памне.
Яна табе выесць пячонкі
За месяц за той ці за два», —
І горка смяяўся з жонкі,
З яе надзей на падвал:
«Вайна, брат, у дзюрку любую
Праціснецца носам-штыком:
Яна і прасёлкам шыбуе —
Не толькі адным бальшаком.
Давай, покуль ціха ад ліха,
На вокны крыжы — ды на ўсход…
Заплакала Васіліха:
«Ты бачыў, каб ехаў народ?
Каб нехта дзе кінуў гняздоўе?..
Калі не дараг свой кут —
Таўчыся па свеце, як доўбня,
А я застануся тут».
Васіль разумеў: па гарачцы
Куліна той спеў завяла, —
Каму ёсць ахвота бадзяцца
Без хаты сваёй і сяла,
Без печы, без лыжкі і міскі,
Без дбайных дзяружак сваіх…
І дзе ён, той свет няблізкі,
Што ўцешыць прытулкам іх?
Папраўдзе, Васіль і не ведаў,
Дарогай якой уцякаць,
Хоць віснуць над хатаю беды
І ён тут на сёння — ЦК.
Галоўны, адказнейшы самы
За гэты маленькі сусвет:
За нас за траіх, за маму, —
Цэнтральнейшы камітэт!
Ён тут… А далей? Абсягі

З Узбор'я зусім не відны:
Якія снуюцца працягі,
Якія канцы у вайны?
Ніхто не сказаў, не парадзіў.
Сам Плеўкін запрог каня,
Гукнуў Васілю: «Я на дзень
В район. А ты — за меня».
(Васіль ужо з год брыгадзірыў,
Быў правай рукой старшыні,
Бо той — не ўгнятаўся мундзірам:
Ва Ўзбор'і пускаў карані.
Віхурыўся чуб кучаравы,
І цямілі нават аслы,
Адкуль хлапчукоў чарнявых
Прыносілі ў вёску буслы.)
«А ты — за меня…» Усцешыў…
А хто за мяне? — скажы? —
Ля самых апошніх сцежак,
Ля самай апошняй мяжы?..
Даходзілі чуткі: актыву —
І як там, і што там, і дзе —
З раёна былі дырэктывы…
Ды Плеўкін — куды ж ён іх дзеў?..
Няма ні самога, ні вестак.
Панікла Узбор'е ў смузе.
І толькі навін пярэстых
Ланцуг языкаты паўзе…
І кожны — амаль што сведка:
Хто побачкі дзесьці стаяў,
Хто ўзбоч (але вельмі рэдка), —
І ў кожнага — дудка свая.
І кожны па-свойму іграе,
Па-свойму пляце і чаўпе, —
Як быццам аб'явы чытаюць
На нейкім сусветным слупе.
Загад, кажуць, быў, каб, уласна,
І хаты, і нівы спаліць.
Адно толькі быццам не ясна:
А чым жа людзей карміць?
Ці, можа, з пайком казённым
Прыбудуць немцы? Якраз!
У іх і дзярмо па зонах

Даводзяць — не так, як у нас.
Які-ніякі, а прыварак —
Для рэйха прыдатна ўсё:
І кучу ў цябе атавараць,
І косці, і валассё.
Другія плялі, што Гітлер
Таксама стаіць за калгас.
Ён толькі, вужака, хітры:
З зямлі хоча выжыць нас.
Таму і не ўступім. Скулле
Хай з макам той немец глыне.
Хай знае — хто і адкуль мы
І дзе нам быць на вайне.

Ці гэтак, ці так, але бацька
Рашыў адступаць. Хоць маршрут
Мякчэйшы выбраў — да дзядзькі
Ў лясны балоцісты кут.
Абы далей ад дарогі,
Ад гэтых прабойных крыжоў,
Дзе выйдзеш — і чорту на рогі,
Як сала на той ражон.
Павернуць цябе і падскварыць —
З якога боку ямчэй…
…Мы выйшлі. І крокі, і твары —
На ўсход. А ля самых плячэй
Як хтосьці рукамі грабецца,
За клункі трымае маўчком,
Вось-вось упадзе, здаецца,
Уздоўж дарогі нічком…
Аб нейкай пакутнай страце
Аж звон увушшу стаяў.
І першай крыкнула маці:
— А хатачка ж ты мая!
Тады і мы зразумелі,
Хто ўслед нам шаптаў здалёк,
З-пад аканіц пасівелых
Хто слёзы раняў на пясок.
Чые — шкляныя, буйныя —
Сцякаюць,
                    нібыта ў пажар.
І ногі чаму так ныюць,

І плечы гняце цяжар.
І зрэбная торбачка з соллю —
Такі мне даверany груз —
З тым цьмяным і мулкім болем
Чаму ўступае ў саюз.
З плячэй так і просіцца долу…
А тут напярэймы — лаза,
І рэчка, і луг наш вясёлы…
І я: «Не пайду», — сказаў.
Якраз у канцы агарода,
Дзе мятлік дзябёла дзічэў,
Цярпенне змаглося ў народа —
І рухнулі клункі з плячэй.
Вось тут, пэўна, бацька і здаўся.
Прысеў каля нашай гурмы:
— Ці толькі ж на нас бяда ўся?
Як людзі — так будзем і мы.
І думкі цяжкія пыталі:
«А Змітра ўцячэ ад бяды?
А Пётравы дзеці з Наталляй —
Без бацькі, сіроты — куды?
А Ўзбор’е з крыжамі на ўзлоб’і?
А цэлы, узяць, сельсавет?
А потым — раён ды вобласць, —
Куды ж яны пойдуць у свет?..»
І ўсё ж вяртацца дахаты
Бацька забараніў.
Павёў нас да Змітры, да брата,
На дзедаўскія карані…
Ці з раю зямнога, ці з пекла —
Прыкмечана ўсімі здавён,
Што цягне бяда чалавека
Туды, дзе радзіўся ён,
Дзе бабіла бабка калісьці,
Дзе пуп закапала яго…
Туды ён — да першых ісцін —
Плыве ад крутых берагоў.
Туды, дзе ў патрэсканай столі
Знаёмы кожны сучок,
Дзе хтосьці маўчком, без болю
Ўсе крыўды рассуне плячом.
Дзе першым вянцом
прадзед

Клаў памяць драўляную хат:
Нельга жывым здрадзіць,
Мёртвым — нельга стократ.
Няўмольна час пралятае,
Ды ў сны прыходзяць заўжды
Не новыя хаты, а тая,
Што знала цябе тады,
Калі ты ляжаў у калысцы
І слухаў матчын напеў,
Калі ты вучыў не па кніжцы
І радасць, і слёзы, і гнеў.
Не рвіцеся ж, мудрыя ніці,
І ў чорны, і ў светлы час!
Крылом сваім ахініце,
Прапрашчуры, грэшных нас.

Вось гэтак з сям'ёю на сховы
Ішоў да сялібы бацькоў
Наш бацька. А нам у галовах
Сядзела адно: «Дамоў…»
Навошта нам тыя канчане,
Дзе Змітра, наш дзядзька, жыў…
Народ мы, як ёсць, адчайны —
Нам дарагі нашы крыжы!
А бацька на суткі — не меней,
Здавалася мне, назусім —
Ад хаты нас вёў загуменнем,
Няўмольны — прасі не прасі…
Жыгучка-крапіва казыча,
Ігліцца дзядоўнік густы,
Бо мы — па законах тактычных —
Паўз рэчку ідзём, праз кусты.
Яшчэ паўдарогі асіліць
Не ўспелі, як раптам з лазы
Гукнуў нехта сіпла: «Василий!» —
І свіснуў наўзгон два разы.
Сустрэча! — ды так неўспадзеўкі:
У чорнай дрыгвянай бурдзе
Ад ног да макаўкі — Плеўкін
Над рэчкай панура сядзеў:
«А я вот сейчас оттуда, —
І з ботаў вада на пясок. —

В Лукомле уж немец, паскуда,
Считай, посадил в мешок.
И узел сегодня, пожалуй,
Завяжет. В Узнацке с утра
От танков земля дрожала», —
І выдых, як стогн, з нутра.
«Но мне туда все-таки нужно:
Ружьишко имеет тесть.
Так вот: я в Узнацк, на ужин,
А встретимся завтра. Здесь.
Меня ты пока что не видел, —
Махнуў Васілю рукой. —
Коль что — так не будь в обиде», —
І знік у кустах за ракой.

Цыганскага сонца акраец,
Цыганскага неба шматок,
Цыганскія зоры згараюць
Над заваддзю рыбных заток.
Туман асядае за грэбляй,
Над рэчкаю
                    ў дзесяць пален
Масток перасушвае рэбры,
Ля палі — шчупак, як бязмен.
Адважвае скупа хвіліну —
Апошнюю — карасю:
У імя
        айца і сына
Глынуў бы затоўку ўсю!
На хвалях пад ветрыкам чуйным
Усход пунцавее луской…
Адкуль ён, адкуль ён, адкуль ён —
Трывожны прыбег неспакой?
Ці Плеўкін няўзнак зварухнуўся,
Што пырхнуў спалохана дрозд?
Ці гэтак шчупак ірвануўся,
Што ўздрыгнуў на палях мост?
Ці штосьці дарога спрасонку
Цяжкое сваё загула?
Ці сонца чырвонаю слонкай
Ірвалася ў неба з сіла?
Прыслухаўся Плеўкін — і мігам

Усё зразумеў: яны.
На Ўзбор'е свінцоваю крыгай
Заходзіць крыло вайны.
Плыве з-пад Узнацка, з усходу,
Дзе ён Васіля чакаў.
Дыхнуў бензінным смуродам
Вусцішны павеў вецярка.
Бліжэе, бліжэе ляскат,
І вось — разрывае смугу:
Зялёныя матакаляскі,
Як труны на колах, бягуць.
І з кожнай тырчаць галовы,
Жывыя, шкада, усе…
Усе?! А яго — груганова —
Што над кулямётам вісеў?
Рагаты, шэры, зіркасты,
Абнюхваў ён прагна кусты.
На рулі запыленай раструб
Душыўся ад немаці.
«Что будет, то будет, — не знаю,
А ты уж мертвец у меня», —
І Плеўкін на мушку ўзнімае
Дзюбаты твар наслання.
Ці паспяшыла ў гарачцы,
Як порах, цыганская кроў?
Ці грэбля выбоістай скачкай
Хіснула каляску у роў?
Ці ўдарыў шротам птушыным,
А трэба было на ваўка?..
…Шалёныя чэргі прашылі
Зялёную шчэць лазняка…

Падскокваў, — відаць, начальнік:
— Бандыт?
Камісар?
Жыд?
І Плеўкін, і людзі — маўчалі.
Тады загадаў: бяжы!
Яны яшчэ добрыя сёння —
Гумор па нутры гадаўю.
«Няўдзячны!» — злуюцца і гоняць —
Вясёлую смерць даюць.

Пабегчы? На радасць катам?
Мішэнню?! Не кліч, прасцяг!
Занадта высокая плата
За дзве хвіліны жыцця.
Ён ганьбе не дасць узборцаў!
І крыкнуў крывёю рот
У смех азвярэлы забойцаў:
— Стреляйте! Пусть видит народ.

14
ЗАВЕЙНЫ ГОСЦЬ

Свет панурым дыханнем поўнячы,
Вецер пухкія хмары вазіў.
Снег валіў і валіў да поўначы,
Шчыраваў — як на дзесяць зім.
А пад раніцу грукнула ў шыбу
Цішыня незнаёмай рукой.
Бацька доўга збіраўся, нібы
Перад цяжкай дарогай якой.
Крокі два — ад ложка да клямкі…
«Ну й сяліба… Нікому, як нам…»
Свет чарнеў прахуканай плямкай
Праз імглістую шэрань акна.
Асцярожна адсунуў фіранку,
Пальцам «вочка» шырэй прагрэў:
Воз
      прыцёрся ля самага ганку,
Палазнёю — падвей курэў…
«Конь тутэйшы, ды быццам не з нашых:
Хвост падсечан, грыва ў падрэз…»
Хто ж ён там? Хрыпла бухаў кашаль,
А яздок — у «вочка» не ўлез.
Толькі стукаў. Цяпер ужо ў дзверы.
Неяк суха, — відаць, пугаўём.
Бацька ўсцягваў армяк, нібы мераў…
Час не той, каб ляцець салаўём.
Час не той, каб насустрач госцю —
Ці ты сват, ці начлежнік які —
Паспяшацца вароты распросціць,

Як вялося ў людзей праз вякі.
Час не той…
І клямка не тая,
І вушак — адступіў наўзбоч,
І парог — як гара крутая,
Быццам хтосьці падняў за ноч.
Сенцы холадам лёгка дыхнулі,
Аж мурашкі пайшлі ля плячэй.
— Хто там? — вусны гром скалыхнулі.
— Ды свае — адчыняй хутчэй…
Свой не свой — бургамістр з воласці,
Азалелы сядзеў за сталом.
І пяршак — не звыклы да кволасці —
Напралом дзяліўся цяплом.
Што ды як — не спяшаўся бацька,
Дый ахвоты, сказаць, не было,
Каб распытваць ці больш — назаляць каб.
Толькі ў думках былое плыло…
А былое было не за светам,
Не за векам былое было,
Як Захар, сакратар сельсавета,
Бургамістрам прыджгаў у сяло.
На кані старшынёўскім, што ў тэрмін
Не паспелі мабілізаваць,
На палях пагойсаў, на ферме
І пайшоў па дварах гізаваць.
Сход збіраў. Ля калгаснай канторы
Упікаў спахмурнелых жанчын
І на поле ківаў:
— Ці ж не сорам:
Асыпаецца жыта, лічы…
Быў адказ — маўчанне. Ні гуку.
Не ўзняла вачэй ні адна.
— То няўжо адвучыліся рукі
Серп трымаць? Ці не гнецца спіна?
Ці імпэт без мужчынскае ласкі
Гэтак хутка паспеў адсырэць?
— Ты нам тут языком не ляскай,
Гора бабскае не вярэдзь.
А з работай — дык трэба ж парадкам, —
І па ім — як нажом — правяла.
Бургамістр пазнаў: дэлегатка,

У селькоме не раз была.
— Вось цябе кіраваць і прызначым, —
Пэўна, клопат не так пагрызе.
— А чаму гэта? — крыкнула з плачам. —
Тут жа можна і ўсім — па чарзе.
Ці мужчына хай правіць каторы.
Вунь не зломак хаця б і Васіль.
— Гэ-э, а дзе ж яны, дзе?
Ля канторы
Тых мужчын і не бачна зусім, —
Толькі тут Захар схамянуўся:
Шапкі дзве ці тры налічыў…
Нават «Пан» за баб захінуўся…
А чаму? Ды хапае прычын…
Сто гадоў не здагадваўся Саўка,
Што палітыка — тонкая рэч:
Тут не выйдзе «гаў» — ды пад лаўку,
А як дзеду — то, значыць, на печ.
Тут і ён — чалавек бывалы —
Ды глядзі ты, маху як даў…
І прарвецца ж такая навала!..
Дзякуй, цэлая хоць барада…
А было яно ўсё праз гэта:
Ад эпохі Саўка адстаў
І таварышаў з сельсавета
Называў без усякіх падстаў,
Як тады, пры царах, — панамі,
Ну, і «з воласці» — дадаваў…
«Пан» ды «пан» — гэтак, бачыце самі,
І мянушку сабе зладзьбаваў.
«Пан» ды «пан». І раптам ушпарыў —
Быццам выскачыў даўні клін:
Пры людзях — «з сельсавета таварыш» —
Адваліў бургамістру чын.
Тут Захар і раз’ятрыўся воўкам:
«Табе што — не шкада барады?»
Як, чаго — дзед не ўцяміў толкам —
Сігануў за пляцень ад бяды…
Вось і маеш: наперад бы выйшаў,
Знаў бы гонар… Ды каб жа не «каб»…
Стой цяпер, апусціўшы клышы,
Ды хавайся, як нелюдзь, за баб.

«А чаго?.. З-за якое прычыны?..» —
Покуль Саўка развагі гартаў,
Васіля адшукалі жанчыны —
Як не свой прыйшоў да гурта.
— Сход для ўсіх аб'яўляўся, здаецца, —
З лёту гне бургамістр у рог.
«А куды ж яно гэта хінецца?..» —
Чуў Васіль, ды ўцяміць не мог.
Чуў нутром — зацяваецца нешта,
Бо адкуль гэты грозны зачын?
«Што схаваўся ад сходу? Дык, зрэшты,
Не прыбег жа ніхто з мужчын.
Іх то, праўда, і ў вёсцы не надта —
Той, хто спраўны, у войска пайшоў.
Ды не ўсе. А прыслалі ад хаты
Хто кабету, а хто — малышоў.
Дый мая вунь стаіць, разведка,
Хоць сказала б, што з'ехаў куды…»
— Што ж ты, гэта, з двара, як наседка,
Не вылазіш да грамады? —
Зноў Захар закідвае вуду
І смяецца. — Ката за хвост
Я цягнуць не люблю і не буду —
Так што пойдзем давай наўпрост.
Жыту вунь да сяўбы недалёка,
Пачакаеце — бульба згніе.
Значыць, трэба — ці скокам ці бокам —
А падумаць пра шлункі свае.
Упрагайся, Васіль, у мажы:
Тут і гонар табе, і давер.
Брыгадзірыў ты ладна, кажуць, —
Маеш старастам звацца цяпер.
— Не на тога, Захарка, натрапіў, —
Ком шалёны
                    Васіль не суняў, —
Мне вуздэчка твая не па храпе,
Пашукай другога каня. —
«Ах ты, чорт,
                    што ж я — проста як з моста…» —
Спахапіўся, падправіў лад:
— Адрабіў я сваё. І ўдосталь.
Век не той: як бач, шэсцьдзесят.

— Ты пасадай і ўладай не грэбуй, —
Разгараўся Захар спакваля… —
Тут, гляджу, агітацыя трэба, —
І ў кантору павёў Васіля…
Як было — не сказалі. А выйшлі —
Белы — бацька, чырвоны — Захар…
Што ж, закон — ён падобен дышлю:
Хто паверне, той, значыць, і цар.
Той і едзе, і правіць па-царску,
А ў гуморы — частуе як след:
Паднясе, нібы з мёдам чарку,
Для настрою, пад нос, пісталет.
І прышэпча — лагодна, як рану:
— Ты, Васіль, не пузырся дарма,
Будзеш старастам — позна ці рана.
Выйсці чыстым не ўдасца з дзярма.
Нам тут свой чалавек патрэбен.
Зразумеў?
                    — А чый гэта — свой?
Хопіць мне: паскублі за грэбень,
Пажыву нічыім — сам сабой.
— Дык не выйдзе! Панюхай вось гэта —
Тут не доўга стаць да сцяны, —
Зноў Захар пакруціў пісталетам, —
І ў расход — па законах вайны.
Гавару не дзеля пагрозы, —
Павярнуўся, нібыта адсек,
Прыхаваў у кішэню свой «козыр»… —
Я ж таксама, знай, чалавек. —
І на ганак з канторы выйшаў.
Больш прамовамі не назаляў.
— Значыць, гэтак, — сказаў, — і запішам:
Майце старастам Васіля.

Так было… І ў «свае», глядзіце,
Зацясаўся Захар насур'ёз.
Рукавом твар спацелы выцер:
— Ну, не страшны фрыцу мароз! —
Рагатнуў і пляснуў па пузу. —
Паработалі над сабой.
Толькі конік з гэтакім грузам,
Пэўна, хвост не ўзнясе трубой.

Начаваў бы, ды поцемкам трэба
Каб дадому прыспець хутчэй
Ды паспаць — галава, як цэбар:
Двое сутак не зводзіў вачэй…
А чаму ж не пытаеш, дзе быў я?
— Што цікавіцца — ясна і так:
У начальства дарогі любыя
Ў рай вядуць.
                    — А калі накасяк?
Ды на шыбельню раптам пацэліш?
«Як на злодзею — шапка гарыць, —
Думаў бацька. — Хоць спрытна ты мелеш —
Саладуху не ўдасца зварыць.
Бач ты, фрыца прыплёў з марозам,
Віжануў — і як быццам няўзнак:
Раптам што на язык нецвярозы
І ўляплю, — ды не выйдзе, аднак!..»
— Бачу, бачу, не верыш ні слову, —
Нахіліўся Захар над сталом, —
З праўдай так: адвей ад паловы,
Што язык мяце памялом.
А каб думкі ў цябе не лыселі
І ў здагадкі дарма каб не лез, —
Ехаў я, сказаць, на вяселле,
А гасцінцы — вазіў у лес.

## 15
## АБШЧЫНА

Я ішоў праз трыццаць год. Узбор’е
Жыта надвячоркам дажынала.
А мяне мільёнасэрцым болем
Памяць несмяротная жагнала.
Дух сяўбы займаўся, і ў разорах
Вечнасцю вякоў зямля чарнела.
Я ішоў праз трыццаць год — дакорам
Дзён, дасюль у сэрцы не згарэлых.
З-пад рукі крылом свяціла зерне,
Як вякоў нязведаных юнацтва:
Над раллёй, над цішынёй вячэрняй,

Над людскім нялёгкім нашым брацтвам.
На прадзім'і рунь зазелянее,
За сяўбой — жніво паверне кола.
Проста ўсё і ясна. Толькі мне як
Не зрабіцца ў яснасці той кволым,
Не скарыцца плыннасці спакойнай,
Не паддацца зману летуценняў:
Над зямлёю — войны, войны, войны,
І над векам — цені, цені, цені…

Я ішоў, а горкая палоска
Прарастала зноў праз гул камбайнаў,
І ўзыходзіў ветахам за вёскай
Серп над паднявольнымі гарбамі.
Гэта ўжо мы потым без агрэхаў
У тамы грунтоўныя запішам,
Як вайна прыходзіла пад стрэхі, —
Бачна ўсё са шматгадовых вышак.
Бачны карані і сэнс трагедый:
Хто змагаўся, хто чакаў, хто здрадзіў.
Я тады пра карані не ведаў,
Толькі знаў: хлеб у мяне — украдзен.
Я тады галодны быў штодзённа
І штоночна, кожную хвіліну,
Але бацька не ўгнявіў загона
І ў зямлю апошні пуд укінуў.
Бацька знаў мужыцкую заруку:
Жыта сей, хоць сядзе смерць на плечы.
Голаду кашчавую задуху
Толькі новым коласам адпрэчыш…

Хто па клунку, хто па два — не болей
Ухапілі збожжа ў тую восень.
Ды і немец «удзяліў», каб поле
На нішто ва Узбор'і не звялося.
Ён стаяў, як гаспадар, пры свірне
І насенне вызначаў падворна,
Хоць не верыў: «Пажаруць жа, свінні,
І зямлі ўсёй не ахопяць ворнай».
— Знайце: зерне кожнае на ўліку.
Хто паесць, — сказаў, як пуд адважыў, —
Той супроць Германіі вялікай
Ёсць бандыт і злосны сабатажнік. —

Ён не знаў, што ўсе былі бандыты
І што з фондаў гэтых вось — германскіх —
Па-зладзейску ўсе цягнулі жыта,
Лезлі ў сабатажнікі авансам.
Бо трывога ўсіх сабрала мігам:
«Едуць збожжа забіраць машыны.
Вось вам і «суполка»! — з’ешце фігу…
На развод мышам і то не кінуць».
Дзе, калі і хто — народ не ведаў —
Вестку нёс, — каму якая справа!
Насыпай хутчэй!.. А ля абеда
Падаспела з воласці аблава.
І Захар на жарабцу прытрухаў,
Мітусіўся і даводзіў немцу:
«Вымецем усё — да пацярухі!»
Той халодна пазіраў у шкельцы,
Як бы і не чуў яго старання,
Як бы адмахнуўся: «Трэба сеяць.
Трэба сеяць зноў, паны сяляне».
Тут Васіль і глянуў на Яўсея:
Што ты скажаш, брацe мой, на гэта? —
Гаспадарскі клопат немца точыць…
А Захар? Ну й гад жа несусветны…
«Пад мятлу!» — і не глядзіць у вочы.
А казаў жа, абяцаў: «Сажніце,
Дзецям хоць збярыце на акрасу.
Ды і самі зубы на паліцу,
Зімаваць не будзеце тым часам».
Разумелі ўсе: яно і трэба,
Але як тут жаць, з якою верай
Падступіцца сёлета да хлеба:
Чый ён будзе, да каго заверне?
Быццам і сцяною, ды няпэўнай
Хлеб стаіць. Каму ён скібу ўздыме?
Каб знаццё, што немцу, — лепей пеўня
Падпусціць — і хай ідзе ўсё дымам!..
А калі спячэш, а тут і нашы
Вернуцца — на каравай згарэлы…
Ды і ў сэрцы для такіх замашак
Штосьці да канца не адбалела.
Сейбіта рука — хіба магла ты
Красануць запалку з лёгкім спрытам?..

Сейбіта рука — не вінавата,
Што сцяною вымахала жыта…
Пра жывое думаюць жывыя —
І цішком Узбор'е выйшла ў поле.
Не стаўлялі тычкі межавыя,
Хоць падворна бралі жнеі долю.
І ўмалот па хатах разлічылі,
Але зерне ссыпалі агулам.
Клець адна, ды і ніхто ляйчынай
Не цягнуў да ўласніцкага шула.
Хай на паратунак непадобна,
А пажыць схітрылі так да часу:
Быццам і калгасам, ды асобна,
Быццам і асобна, ды калгасам…
Я «суполку» падтрымаў таксама:
Важкія снапы стаўляў у бабкі.
Серп гарбаціўся ў руках у мамы,
Ні на хвілю не даваў паслабкі.
Гнуў і гнуў жняю стальной прынукай,
Смехам гартаваным пасміхаўся:
«Не адзін жа я сагнуўся крукам —
Гнецца перад коласам зямля ўся».
І заходзіў з постаці на постаць,
Над іржэўем стомленыя плечы
На паўдыха дазваляў выпростваць,
Каб зірнуць, а ці далёка вечар…
Ды скруціць тугое перавясла,
Ды папіць знядужана вадзіцы…
Быў і я ў той час калгасна-ўласны,
Як здаецца, не апошняй спіцай,
Бо якраз круцілася ўсё кола
З-за мяне і да мяне падобных:
Тая луста, што прыносіў колас,
Дзецям нават вельмі даспадобы.
Без яе, бывала, ані кроку —
З малаком ці проста ўсухамятку —
Ухапіў, апростаў і галёкай!
Будзеш з ёй і радасны, і гладкі.

Але выйшла так, што ўся «суполка»,
Перамазгаваная Узбор'ем, —
Ні табе прыпёку, ні прымолку, —

Ляснула з усім жытцом адборным.
Пакаціла збожжа без аглядкі
Чорту ў зубы, а дакладней — немцу.
І ніхто яшчэ не меў здагадкі,
Што праз ноч агнём яно ўзаўецца.

Склад успыхнуў, дзе сабралі ў воласць
Ворагі пабор’е з гаспадарак.
«Хоць і ў нас прыпаску ні на волас,
Дый яны не нажыруюць карак», —
Так бадзёрыў бацька спахмурнелы,
Калі я з мярзлушак напрадвесні
Умінаў гацак акамянелы,
Што не лез у горла, хоць ты трэсні.
Той гацак не гоцаць, не да гульбаў
Падбіваў — ён быў пасланы полем
Падтрымаць жыццё. Прамёрзлай бульбе
Кланяюся й сёння даўнім болем.
Кланяюся шчаўю і мядункам
З лугавой чырвонай канюшыны,
Што былі вясновым паратункам —
Голад абхітралі і глушылі.
У палі, хмызы і сенажаці
Бегаў я, бо з доўгім днём быў згодзен:
Не ўгрызеш пустыя сцены ў хаце,
А на волі што-нішто ды знойдзеш.
Я на смак вясну сваю запомніў.
Нюх, і слых, і зрок — табе служылі,
Галадухі злой пустая поўня,
Што звінела глуха аб спажыве.
Прэсны водар даўкай зеляніны,
Слодыч і гаркота красавання, —
Утрыманец травяной краіны —
Перасмакаваў я ўсё дазвання…

Восень і вясна. А паміж імі
Старастоўства бацька мераў здрадай:
Хоць сілком, а ўжо і ты ў рэжыме
Нейкі вінт і ўжо круціся з гадам.
І цябе ўжо неўпрыкмет прышылі
Гузікам да фрыцавай шырынкі,
І жыві, як з каменем на шыі:
Адпявай штодня свае памінкі.

Стараста, і ўсё. Затворам шчоўкнуць,
Бухнуць стрэлам, як прагаласуюць.
А ўжо там даводзь, што не гаршчок ты,
Калі ў печ цябе на вілках сунуць.
Хто ні прэцца — свой альбо са свету —
Кожнага узборцы, як з палёгкай,
Шлюць да Васіля: лічы пры гэтым,
Ці людзям, ці нелюдзям ты лёкай.
Як тапелец — бо ўжо вірам збіла —
Мусіць за саломінку хапацца,
Так хацела перад чорнай сілай
Вёска ўся за Васіля схавацца.
А праўдзівей нават — захінуцца,
Як за вугал: каб адтуль угледзець,
Дзе лягчэй з бядою размінуцца
І калі там двор яна аб'едзе.
Ну а Васілю куды падацца,
Дзе шукаць дарог ад ліхалецця?
Крыл няма ад пекла адарвацца:
Сам не Бог і не анёлы дзеці.
І хоць нанач накарміць іх трэба,
Каб хоць там, у снах, не рэзаў голад.
Толькі чым?.. Ні скварчыны, ні хлеба.
Пакаці шаром — усюды гола.
І Васіль караў сябе няшчадна:
Гэта ж ён найбольш віноўны, можа,
Што з дзяльбою выйшла так няскладна,
Што не раздалі па хатах збожжа.
«Як жа, — меркаваў, — супроць калгаса?
Як паруйнаваць, што толькі ўзводзіў?» —
І з людзьмі прыкідваў, і сам-насам,
А выходзіць, не бярог, а шкодзіў.
Быў калгас для немца вунь як зручны!
Хапнулі жытцо, як з той засады…
А цяпер? Ізноўку хвост закручан:
Кажуць, новы мецішца парадак.
Так ляжаў Васіль пад гнётам думак
У бяссонні аж да трэціх пеўняў
І цягнуў праз ноч адзін ладунак
У душы — разгубленасць, няпэўнасць…

Раніцой, яшчэ ў смузе лагчыны
Да ракі глухі туман кацілі,
Выйшла ў поле на дзяльбу абшчына —
Так цяпер Узбор'е ахрысцілі.
Так цяпер завецца гаспадарка,
Што калгас учора скасавала,
Секанула сабатаж па карку
Кругавой парукай, як завалай.
Перакрыла смутныя хістанні:
Рэйх зямлю дае, а вы — арыце,
Сейце, жніце, вольныя сяляне, —
Для сябе, ды пры адным карыце:
Гамузам увесь прырост з нагулам
Здайце рэйху па жалезных нормах.
І пытайце ўсе з таго агулам,
Хто падатак не ўнясе падворны.
За яго ў адказе ўся абшчына…
— Сейце, жніце, вольныя сяляне!.. —
Выступаў з паставай павучынай
Немец на былым калгасным стане. —
Як гэта яно па-беларуску:
«Кожны панам у сваёй пасудзе», —
Толькі гультаям ніколі спуску
Ды і сабатажнікам не будзе!
І па-царску — велічна і лена,
Гледзячы на новую абшчыну,
Усміхаўся аграном ваенны.
Усміхаўся, і не без прычыны:
Толькі сам ён ведаў — Гольбах рыжы —
Сэнс і мэту ўсмешкі гэтай царскай:
«Гут!» — грызі нутро, уласнік хіжы,
«Гут!» — грабіся, раб, па-гаспадарску,
«Гут!» — каб глухлі ўроссып макам дробным,
А вяроўка ўсіх адна цягнула:
Быццам і асобна, ды агулам,
Быццам і агулам, ды асобна…

Дзе, з якіх канцоў пачаць нарэзы, —
Першым Лосік, а за ім мужчыны —
За рукой рука — у шапку лезуць,
Цёмную адгадчыцу абшчыны.
Мацаюць, гартаюць, як чытаюць…

Сілівей, здаецца, нават слухаў:
Што яна з той шапкі абяцае —
Нумаркоў-паперак пацяруха?
Лосік падганяў, бо ён пры ўладзе:
Старастам прызначан у абшчыне.
І здаецца, што зусім не вадзіць
Быць яму пры гэтым самым чыне:
— Што ты там, як жонку, выбіраеш,
Мацаеш з усіх бакоў ды круціш?
— Жонка — яна добра і старая,
Калі сам пры ёй яшчэ не труцень, —
Адмахнуўся Сілівей і ў шапку
Зазірнуў. — А вось зямлі папросім…
— Не перашкаджай! І на паслабку
Не разлічвай, — зазлаваўся Лосік.
Пацягнуў Якім, за ім — і Ёха
І Васіль да шапкі падаліся.
Васілю аж свята сёння троху:
Гнёт начальніцтва з душы зваліўся.
Прычапілі Лосіку — хай правіць:
Ён такі на ўладу цягавіты.
Ну а мы цішком пры гэтай справе
Нумарок бяром — і з немцам квіты.
Як гару звярнуў, калі не болей:
Без чыноў ды на сваім пяколку!
Толькі чорт іх знае з гэтым полем —
Ці не будзе, як тады з «суполкай».
Праўда, той хамут сабе ж і ўздзелі
Самі на сваю дурную шыю.
Ну а тут? Як увапруць надзелы,
Дык, лічы, да хамута прышыюць.
Так навекі з ім і пабратуеш,
Пазрастуцца і гужы і жылы.
І не ступіш кроку ўхаластую:
З ім табе ў аглоблі і ў магілу.
Чалавек-хамут… Ды ўжо такая
Доля мужыку наканавана:
Плугам у зямлі яе шукаеш,
У траве касой яе гукаеш,
А яна глыбока закапана,
А яна далёка захавана…

Трыхан доўга і панура шарыў,
Нібы ментуза паміж карэнняў,
А загроб падзолак прыімшарны
І скамячыў у дрыготкай жмені.
Зноў да шапкі тузануўся тупа:
— Што я вам — які апошні лапаць?!
Ды не скочыў Трыхан вышай пупа,
Не далі другі надзел зацапаць.
Вось тады і прыгразіў мужчынам,
З белага зрабіўшыся зялёным:
— Вы мне, у імя айца і сына,
Той зямлі адваліце з паклонам.
І пайшоў, пакляўшыся святымі
Ў тры паверхі. Як адрэзаў: «Годзе!..»

…Восень і вясна. А паміж імі
Рабства выпаўзала з-пад стагоддзяў.
І ўжо дзесьці на маё Узбор’е,
Што цягнула нумаркі надзелаў,
Нехта Гітлер, нехта Гес ці Борман,
Як на стойла рабскае, глядзелі.
І ўжо я ў прыгонныя прыпісан
Быў навечна ведамствамі ўсімі:
Без імя, без чалавечых рысаў —
Пры адной-адзінай рабскай сіле.

Талакой цягнула плуг радзіна —
На жардзіне — постаці крыжамі.
На крыжах аралі, скарадзілі,
На крыжах —
крыжамі — да ўраджаю.
Гэтак і задумана абшчына:
Выбіць думку аб ярме ганебным,
Каб усіх ураз адной ляйчынай
Павярнуць калі і як патрэбна.

У барознах коні не іржалі,
Не рыпелі хамуты гужамі.
На раллі — крыжамі ценяў чорных —
Век дваццаты, новы век пячорны.

16
ВАЕННЫ АГРАНОМ

Горкім горам дарога выбіта:
Цалiком, па сумётах, сляды.
І кусты над крывавымі глыбамі,
Як з біблейскіх песень сады.
Цішыня на галінках снежыцца:
Вецер сіверкі, пчол не садзьмі…
Астывае магіла свежая,
Цёпла дыхае яма грудзьмі.
Цветам макавым, ягадай майніка
Снег падталы з краёў асеў.
І марозная пара ўзнімаецца,
Душы ў неба жывыя нясе…
Як было тут — ніхто не ведае.
Толькі Трыхан хваліўся сп’яна:
— …А пасля — пад рамень паабедалі,
Ну і шнапсу было спаўна.
Далакопы не білі рыдлёўкамі
Зледзянелай зямлі аршын.
Вельмі мудра і вельмі лоўка
Камендант усё парашыў:
У гарэлле, дзе высмяглай восенню
Торф зацята, глыбінна курэў,
Да кар’ераў — раздзетыя, босыя —
Выйшлі на кулямётны сугрэў —
Местачкоўцы і ўсе, што рассеяны
Па вакольных вёсках былі, —
Тройчы клятае племя Майсеева —
Бляхары і шытва каралі…
Мацярок пасівелыя постаці —
Не адвесці малітвай бяду…
О, прарок, новай веры апосталы —
Аўтаматы — дзяцей вядуць.
Ці ты бачыш, як падаюць знічкамі
Вачанят і вачэй спарышы?
Ці ты ўпохапкі там падлічваеш,
Колькі хто і як саграшыў?..
Колькі хто для гояў-нячысцікаў
Сшапаваліў, палудзіў, пашыў,
Хто бязбожжам якім начынены,

Колькі пекла нясуць у душы?..
Чуеш — самі псалмы малітоўныя
Аб правінах спяваюць яны.
Дзеці плачам заходзяцца тоненькім
Ля тарфянай слёзнай сцяны.
Ты памог, каб яны паверылі:
«Шлях пасцеле нябесная цвердзь:
Да зямлі запаветнай вернемся
Праз агонь, праз пакуты і смерць».
Вось яна — грамада безбунтоўная —
Твой пасеў на вуснах нясе…
Кулямёт захліпаецца стогнамі…
Што ж маўчыш ты, прарок Майсей?!
Цішыня. Ні гуку, ні поруху.
Толькі вецер крывёй набрыняў,
Толькі пахне гарэлле порахам.
А за гэтым за ўсім — цішыня.

Цішыня… І хіба тут магло ўчыніць
Справу чорную чорнае зло?
Як нічога зусім ля Халопеніч
Не было і быць не магло.
Хмаркі ціха свяціліся просінню,
Цішыні кацілі клубок…
Толькі конік захроп і на просеку
Ірвануўся з дарогі ўбок.
На кусты натыкаўся, як сослепу,
Ашалела вушамі стрыг.
Ледзь стрымалі яго бацька з Лосікам,
Узмакрэлі, пакуль аціх.
— Кроў, як бачыш, пачуў, — і збянтэжана
Бацька мусіў каня зацугляць,
Скіраваў па дарозе няўезджанай, —
Чым туды, лепей, брат, пакругляць…
Хоць спазняцца, па Трыхану, нельга ім:
«У дванаццаць — яволь!» — загад.
Дзе тупчэй, дзе падвейка аблеглася,
Конік сам павярнуў наўздагад.
Цяжка выдыхнуў, нібы выкрыкнуў,
Да гарэлля вока скасіў…
Лосік буркнуў: «От жа нявыкрутка…»
Прамаўчаў панура Васіль.

Думаў: «Пэўна, самае страшнае
На зямлі нарадзіцца і жыць,
Калі столькі пакут назапашана
Чалавеку на два рубяжы:
Ад калыскі лёгкай і песеннай
Да цяжкой і цеснай труны —
Колькі будзе надзей закрэслена,
Колькі спушчана за паўцаны…
От жа нейкі Ніхто — ці як яго —
Знаць не знае пра здзекі, пра боль.
Ні вайны, ні смерці ніякае
І ні гэтых «дванаццаць — яволь!..».
І ні Трыхана з п’янай залеваю
У вачах:
                — Прыструнім народ!
Сабатажнікаў мы не пялегуем:
Ледзьве што — адразу ў расход.
Так і Гольбах сказаў: «Не міндальнічаць!
Мы загадваць прыйшлі — не прасіць».
— Дык цяпер жа я не ў начальніках.
Што ж мне ехаць? — упёрся Васіль.
— А паедзеш, сказана, з Лосікам:
Ён з абшчыны, а ты — ад сяла.
— Дык жа д’ябал адзін!.. Ды і досыць мне
Уласці той, каб ты спрахла была.
— Не ламай мне адміністрацыю.
Як сказаў я, то і закон.

От і выйшла паслабка, ды страчана.
От і едуць удвух у раён.

«І якога ж я чорта паскуджуся?
Ёсць абшчына, і стараста ёсць…
Што ж мне так — на раду прысуджана,
Каб цягалі, як псіную косць?
Быццам шпунт я ад бочкі кожнае,
Каб заткнуць любое дзярмо…
Хай Захар пажырае пожарам —
Хопіць! Сёння ж адбой дамо».

Трыхан ледзь не ад самае раніцы
Пазіраў мітуслівa паўз лог:
«Першы раз нарада збіраецца,

А яны — паўзуць, як без ног.
Ну і людзі!.. Ні службы, ні сораму, —
І пагляд свідраваў, нібы шчуп. —
Ад Узбор'я пабуду для кворуму,
А вярнуся — сем шкур спушчу».
Ды нарэшце, не пешкі, а ў розвальнях,
Толькі з іншага боку зусім,
Прыцягнуліся.
Трыхан пагрозліва
Глянуў:
— Дзе вас там чорт насіў?
— Ды не чорт, а конік звярэдзіўся,
Бач, на персях аж пеніцца соль.
— Ладна, мігам заходзьце ўсярэдзіну,
Бо, як лёду, — дванаццаць, — яволь!
І з кішэні фрэнча гадзіннікам
Бліснуў, шчоўкнуў — і быццам гром —
На далоні тоненька дзінькнула,
І Васіль прашаптаў: «Абром…»
Колькі раз пасля добрае выручкі,
Закрываючы гульбішча, ён
Бузацёру, што вочы вырачыў,
Нёс паслухаць вось гэты звон.
І гадзіннік сярэбраным пеўнікам
«Во саду ль, в огороде» вёў.
Больш гуляка бунтоўна не пеніўся
І лапцей языком не плёў,
Бо ў дванаццаць карчма замыкаецца
І Абром спачываць ідзе.
Голас тоненькі абрываецца:
«Во саду ль, в огороде де…
ви-
цы…» —
Яшчэ доўга ляціць з мяцеліцы
Голас цёплага мужыка…

«Во саду ль, в огороде девицы…»

Шчоўкнуў:
— Ладна валяць дурака!
Вы на месца, а я — да Гольбаха,
Далажыць, што гатова ўсё, —
Трыхан раптам асеў, прыгорбіўся,
Аж падвіскнуў, як парасё,

І пабег цераз плошчу подстрыкам —
Столькі радасці, спрыту нёс,
Быццам спераду — лычык востранькі
І свярдзёлачкам ззаду хвост.
«Толькі ж дужа нутро сабачае», —
Адвярнуўся Васіль, а з дзвярэй
Ужо Лосік гукаў абачліва:
— Не тапчыся, не псуй там рэй. —
І рукой паказаў, ды хуценька,
Нібы з кукішам, адхапіў
І ў будынак, трохі прахуканы,
З панадворка Лосік ступіў.
А за ім і Васіль — азірнуўшыся:
«Што ж там гэтак злякала яго?» —
Ды, цікаўнасцю хітра паднушканы,
Плюнуў: «Суньма далей ад багоў…»
Цераз плошчу марозна-пякельную
Сам ваенны ішоў аграном:
На вачах з ледзянымі шкельцамі,
З палкай гумавай, як са стырном.

Пустатою зала вялікая
Перастыла дыхнула ў твар:
Ці спяшалі не ўсе з пакліканых,
Ці не ў ходзе прадажны тавар?
Паўтыкаліся ў крэслы купкамі
Армякі, плашчы, кажухі, —
І не ўзнаеш адразу: хто куплены,
А каго прывялі грахі,
Хто прымусам, хто добраахвотнікам
Да Халопеніч вёрсты лічыў…

Між паплечнікаў-падлакотнікаў
Паказаўся галоўны чын —

Выйшаў спец гаспадаркі сельскае
На трыбуну ў былым РДК:
Крок сталёвы з лёгкай падсечкаю
І гумоўкай гуляе рука.
Пуза гладка раменіцца — з браўнінгам
Ці яшчэ з якой трасцай на ім.
Хоць і тоўсты, ды з выпраўкай браваю
Аграном — палёў херувім,

Апякун ураджаяў з пагонамі,
Хлебаробаў новы патрон, —
Узляцеў бы, святы, над загонамі,
Толькі крыльцаў не мае барон.
А таму дручком і размахвае:
— Мы парадак сюды нясём.
Рассыпаецца зернем макавым:
— Вам дае Германія ўсё.
Мы сабралі асоб давераных,
Каб сказаць, што работаць пара,
Каб яшчэ раз давесці да ведама
Волю нашага правадыра.
Больш не будзе над вамі начальнікаў:
Сам сабе — прафсаюз і актыў,
Хоць душа з абавязкам спрачаецца:
Размагніціў людзей калектыў.
Гонар кожнага — ў спрэчцы выстаяць.
Ды і грэх цягнуцца ў хвасце,
Бо зямля ў вас цяпер асабістая
І ўраджаі — колькі ўзрасце.
Безадказнасць забудзем калгасную,
На стыхійных руінах яе
Гаспадаркі ўзрасцім першакласныя,
Не забудзьце заўважыць — свае!
Хай паслужыць узорам для Остланда
Ў сэнсе новых парадкаў раён,
Скажам так: паказальна-доследны
І спакойны — як быў здавён.
Што такое германізацыя?
Гэта цвёрды парадак і лад,
Як у музыцы гарманізацыя —
Гарманічнага строю парад.
Вы мяне хоць крыху разумееце?
Я з народам люблю гаварыць.
Ёсць у вас тут, — зыркнулі шкельцы, —
Майстар смажыць, гросмайстар варыць.
Мы шануем такіх і рухаем —
І па службе, і так. Не ўтаю:
Я, напрыклад, вось гэтаму кухару
Іншы раз і руку падаю.
Што яшчэ ёсць германізацыя?
Вось другі вам канец вузла:

Гэта — поўная стэрылізацыя,
Ачышчэнне грамадства ад зла.
Дык давайце ж той вузел развязваць.
Хоць хваліцца як быццам не час,
Ды няхай сёння будзе сказана:
Тое-сёе зроблена ў нас.
Апрацована група ворагаў:
Сто яўрэяў, адзін цыган,
Ну і рэштка — душэўнахворыя, —
Як і быў даведзены план.
І яшчэ: сёння змова адкрыта
І ўдалося ліквідаваць
Злога ворага, што бандытам
Зброю тайна перадаваў.
Перавозіў патроны поначы
І хаваў пад карэннямі дрэў.
Пэўна, не без ягонае помачы
Хлеб таксама на складзе згарэў.
З ім пакончана, — і аграномам
Захарова названа імя.
Нібы ўдарыла ў цемя громам
Васілю — аж холад праняў…
— Быў жа ён не адзін падвознікам —
Кары строгай ніхто не міне!
І Васіль за немцавым позіркам
Цікаваў: «Можа, ён пра мяне?
Можа, лёс і мой, як на воласе?
Заязджаў жа Захар начаваць,
Прысылаў наказаць, што з воласці
Едуць збожжа ў сяло забіраць…»
Ну а Гольбах тым часам «давераных»
Алавяным паглядам абвёў:
«Дзікуны, забітыя, шэрыя…»
Напаткаў і твар Васілёў —
І падумаў: «Нічога арыйскага
Ні на пфеніг няма, ні на грош.
Даўганосы, смуглявы, з рысамі
Паўмангола, а то і горш…»
Скончыў Гольбах сухім папярэджаннем:
— Кожны вораг у нас на віду.
Зноў акінуў вачыма паседжанне
І дадаў, узвышаючы дух:

— Каб ніколі ваш край заарканены
Пры Саветах ад слёз не слеп —
Хлеб патрэбен вялікай Германіі,
У імя перамогі — хлеб!

Па-святочнаму быў настроены
Трыханок — загадаў пачакаць,
Пахваліўся:
                    — Трэба ж узброіцца:
Сёння будуць вінтоўку ўручаць.
— Дык мы што — пры табе за лёкаяў? —
Лосік твар галодны скрывіў.
А Васіль падумаў: «Нялёгкая ж
Носіць гада, — шукае крыві».
Не сцярпеў, запытаўся без промаху:
— Як жа ты — галаруч губіў?
Бач, з гадзіннікам ходзіш Абромавым —
Значыць, працаю зарабіў.
Жаўтазуба Трыхан асклабіўся:
— Не страляў, але не гуляў.
Я пры іх там служыў за рабіна,
Як сказаць, на той свет бласлаўляў.
Распранаў, разуваў і са шчэлепаў
Выдзіраць метал памагаў,
Каб у неба ўзнімацца лягчэй было,
Каб ляцелі хутчэй як мага.
Эх, жытуха мая ўскаласіла!
Я цяпер вам не драбяза.
Знайце гэта, бо «знание — сила»,
Як часопіс адзін казаў.
То чакайце! — І Трыхан па каменцы
Грукнуў ботам, як чорт капытом:
«Акрываўлены, а не спатыкаецца,
Круціць брава задзёртым хвастом.
Ды адплацяцца слёзы нявінныя…
Быць не можа!» — адкрэсліў Васіль.
— Там жратва ў іх з гарэлкай ды вінамі,
А ты кукіш свой укусі, —
Гэта Лосік думку галодную
Ўсё цягнуў, як за хвост ката.
— Дык бяжы ўслед за тым нягоднікам,
Пі ад пуза і еш — любата!..

— Не, пакуль пацярплю, — і да розвальняў
Збочыў — сена падкінуць каню.
А Васіль патупаў марозліва:
— Прабягу — цяпло даганю.
Ды й цікава было абачыцца:
Што і як тут?..
                              Угледзеў здалёк:
Каля школы — як будка сабачая,
Толькі вышай. І з ганкам брылёк.
Вартавы выглядае праз шыбіну, —
Значыць, нейкі ваенны аб'ект.
За аб'ектам — шыі дзвюх шыбеніц
І вяровак марозны крэкт.
А насупраць з лакейскай адрыжкаю
Нейкі хітры, пранырлівы клоп
Шыльду ўладзіў: «Галенне і стрыжка
Афіцэраў і знатных асоб».
З калаўрота са звонам і шоргатам
Бег у студню з вядром ланцуг.
Анямеў Васіль: «Ды няўжо гэта?!
Толькі твар… папаўнеў ці апух?..»
Так і ёсць:
                    — Рыва, ты?.. —
                                                  Страпянулася.
— Як са свету таго прыйшла…
Плачам здаўленым усміхнулася:
— Я ж там, дзядзечка, шчэ не была…
Прыгажуня Абромава, меншая,
У вачах — сто пакутных спякот,
Сто прадонных усходаў праменіцца,
Сто спакус вядзе карагод.
І трывога, і ўцеха матчына, —
Каб не толькі цвіла ды расла,
Ханка ўменне кухарыць па спадчыне
Рыве ўпрытачкі перадала.
Знала Ханка: «За мною — горліцай,
Беднай птушкаю — без мяне…
Да каго ж яна сэрцам прыгорнецца
І галоўку сваю прыхіне?..»
Знала Ханка: планіда горкая
З прыгажосцю такою жыць.

Прыглянулася Рыва Гольбаху:
— Будзеш мне гатаваць і служыць.
Са слязьмі Васілю расказвала:
— Пекла, дзядзечка, ў сто кругоў.
— Ён жа толькі хваліўся, зараза,
Што кухарыць мужчына ў яго…
Рыва слухала — як не слухала:
— Супакою ні ўдзень, ні ўноч
Ад яго няма… А пра кухара…
Гэта ён для адводу воч…

Жарэ пюрэ напоўніцу,
Пакуль, як пук, напоўніцца,
Разморана сапе.
Абкладзены падушкамі,
Дрымоту ўтомна гушкае
Пад патэфонны спеў.
Сваё нутро звярынае,
Сагрэтае пярынамі,
Дзе спаў Абром,
Галінкаю Майсеевай
Штоноч, штоноч
Абвейвае
Ваенны аграном.
Пажаднасцю ахоплены,
Высмоктвае па кроплі ён
І кроў, і боль.
Ах мама, мама бедная,
Няма пакут не зведаных, —
Вазьмі з сабой…

— Дык жа трэба ўцякаць… Ці што іншае…
— А куды ж мне? Дзе той парог?.. —
На сябе паглядзела сцішана:
Зверху ўніз, ад грудзей да ног.
І Васіль міжвольна вачыма
За яе паглядам правёў,
І прыпухласці страшнай прычына
Раптам выступіла да каранёў —
У нягнуткай, цеснай акругласці
Павузелага паліто,
У прыўзнятай — пад гузікі — пругкасці.
— Мне цяпер не паможа ніхто…

Як былі яшчэ нашы ў жывых усе,
Жах нямеў: «Дзеля іх пацярплю…»
А цяпер — лёс дарэшты выкляўся:
Мне ўжо, дзядзечка, толькі ў пятлю…

Тым жа следам дадому ехалі.
Пацясніўшы назад Васіля,
У галоўкі з прыдбанай бабэхалай
Трыхан сеў.
　　　　　　　— А чаму кругаля? —
Запытаўся.
　　　　　　— Ды конь баіцца там
Ля гарэлля.
　　　　　　— А як жа нам —
Камендацкай камандзе з паліцыяй
Вымятаць было гэты хлам?
Бруднавата. Хоць і не клопатна.
От жа племя, ядрона маць:
Аж да ямы вушамі хлопалі —
Ні адзін не пасмеў уцякаць.
Ну а там ужо — енкі з песнямі, —
Гэта моляцца ў іх, як пяюць.
Ды крычы, распінайся, хоць трэсні —
Тут праграму мы знаем сваю.
І ніхто не мяняўся дарогамі,
Не збягаў, як ваш конь-дзівак.
— Коні, бачыш, чацвераногія,
Ды з другой пароды, аднак, —
Больш Васіль ані слова.
　　　　　　　　　　　　А Трыхану
Ўсё карцела вінтоўка, і ён
То рамень мацаваў драцінкаю,
То затворам ганяў патрон.
На вінтоўку, на тую бабэхалу,
Як Васіль ахрысціў маўчком,
Пазіраў гаспадар з уцехаю,
А мужчыны — крадком ды бачком.
Але ўрэшце — язык з каростаю —
Лосік зноў падпёк інтарэс:
— Хоць кароткая, д’ябал, ды тоўстая,
Пэўна, смаліць, як той абрэз.
— Ух, аддача! Якому шыціку, —

Паліцай у раготцы шчырэў, —
У плячо садане — і з капыцікаў!
Трэба ногі стаўляць шырэй…
Не ўнімаўся і Лосік з гаворкаю:
— Глянуць — ворчык вісіць на гарбе.
І патроны — як ладныя морквіны…
Толькі ж мала іх нешта ў цябе.
— А вось тут — два падсумкі з абоймамі, —
Трыхан раптам аж зазлаваў. —
Хоць французскі трафей, моц забойная —
Вунь да той сасны — напавал.
Зноў аціхлі: заела Лосіка —
Ашчацініўся, нібы тхарок,
Бо якраз ён і быў недарослікам,
Пра якога казаў Трыханок.

## 17
## МІША

Зноўку чэрвень, пара красавання,
Буйства колераў, сонца і траў.
Зноўку чэрвень, пара крыжавання
Над Узбор’ем: чаканне і страх.
У трохкутніку трох гарнізонаў
Сорак хат — астравок на юры:
Стратэгічна-харчовая зона
Ў трохгаловага змея ўнутры.
То з раёна, то з воласці гэтай,
То яшчэ наляцяць і з той, —
І ніхто — ці зімою, ці летам —
Не вяртаўся з фурманкай пустой.
Дралі ўшчэнт, валаклі, вытрасалі,
А найбольш налягалі на «шпэк»:
Не зважалі — надворнік ці сальнік —
Кулю ў лоб — і з Узбор’я «авэк».
Парадзела свіное царства:
Ні смалення з дымком ля прысад,
Ні кубёлкаў, ні матак вушастых
З валтузнёй сысункоў-парасят.
У адстаўцы былы галоўны

Ходзіць войска свінога чын,
Ходзіць Міша амаль беспрацоўны
І амаль што галодны, лічы.
Цяжка мрояцца Мішу начамі
То бліны, то з косткаю суп, —
Хоць жыццё і раней з калачамі
Не было, ды не скардзіўся пуп.
Перасельцам — ад вёскі да вёскі, —
Дзе чужыя, а дзе радня:
За паслугу ці ласкаю боскай
Быў накормлены Міша штодня,
Там нарэжа дроў, там наколе,
Там бабульцы вады прынясе.
А ва Ўзбор'і — пагнаў у поле
І на год ля свіней асеў.
Хоць сумненні былі спачатку:
«Ну які з яго, людцы, пастух?..
Нанімай, а следам за статкам
Шлі падпаска, а то і двух…»
Ды адно грамаду суцяшала:
«Не кароў жа яму аддаём.
Хай таўчэцца сабе на галым,
Каб не грызціся з ваўкаўём,
А калі і падваліць шэры
Згаладалы які з кустоў,
Дык ля вёскі і дзеці звера
Не адпусцяць з цэлым хвастом».
Так за гэтым і парашылі.
А каб Мішаў узвысіць чын,
Самым шкодным праныірам на шыі
Пачапілі з палак бічы.
Не паджгаеш бягом з гэтай цацкай:
Чым хутчэй — па каленях ямчэй
Зацымбаліць. І ў шкоду знянацку
Тут ужо не прымервай вачэй.
Ходзіць Міша і пугай сырцовай
Настаўляе свіней на лад,
Квас пацягвае з флягі карцовай,
Заглядаецца на дзяўчат.
Тыя ў поле ідуць на працу
Ці вяртаюцца — кожны раз
Любяць з Мішам пазабаўляцца —

Кавалерам на ўвесь калгас.
То гуртом яго апануюць,
То адну пачынаюць штурхаць,
То пакоцяцца ўрассыпную,
Калі Міша памкнецца абняць.

— Ах, згубачка-загуба,
Прысуха-сухата,
Ах, Мішу дзеўкі любяць!..

А Міша рагатаў.

Закрываўся рукой сарамліва,
Потым волю пачуццям даваў
І на ўцеху дзяўчатам смяшлівым
Басанож «пад язык» танцаваў.
Прысядаў і ўзносіўся пругка —
Пыл з-пад чорных пятак шугаў.
Ну а дзе не хапала груку,
Там прыпеўкаю памагаў:

— Ці не спіш ты, Маруська,
Ці не дрэмлеш ты?
Ці не даць табе буську,
Каб прачнулася ты?

Гэтым часам і мы ад патравы
Забывалі варочаць гусей:
Па чарзе на ікластым Каравым
Хто вярхом, хто мяшком вісеў.
Кныр падкідваў рахмана азадак,
Валюхаўся і хібам трос.
Разумеў, што тут — непарадак,
Але ўсё-такі збольшага вёз.
Прытаміўшыся, скурай пацепваў,
Нібы мух, седакоў зганяў,
І агеньчык з вачэй падслеплых
Сведчыў: хопіць, абрыдла гульня.
Тут ужо — сцеражыся, бо раптам
Ірванецца — пачвара з пачвар —
І пакажа свіны свой характар
Так, што носам уздымеш папар.
Ды і Міша якраз ад скокаў
Павярнуўся да войска свайго:

Пугу ўмомант схапіў, загалёкаў,
Ездакі — хто куды ад яго!..

А наогул, мы з Мішам сябруем,
Міша ў крыўду не дасць малых.
І за кепікі не сярдуе,
Толькі дужа не любіць сквалыг.
Сам апошнім падзеліцца з торбы —
І яму гэтаксама аддзяч.
А саскнарыш — уедны, як чорт, быў:
Тут любога угоніць у плач.
Моўчкі «сідар» твой прыхавае,
Скажа: «Пэўна, сцягнуў Барбос…»
А назаўтра з кустоў гукае:
«Заяц хлеба з салам прынёс!»
І падзеліць усім па-брацку,
Усміхнецца гаспадару:
«Бачыш: звер, а не жадзен сабрацца
Пастушкоў падкарміць у пару», —
І падносіць віноўніку долю,
Нават большую дасць — як на трох.
І прызнацца ніхто ўжо ніколі,
Што той «сідар» ягоны, не мог.
Умінаў сваю лусту з прыцмокам,
Разам з хлопцамі зайца хваліў,
Што глядзеў з-за кустоў касавока
І кісліцай нутро цвяліў.

Добры, шэранькі, дробны, галодны,
Дзякуй, зайчык, лясун-калясун,
За навуку з акрайцам нязводным,
Што бацькі нам нясуць і нясуць.
Дзякуй, зайчык, за шчырую ласку,
Дзякуй мудрасці светлай тваёй —
Той, дарослай, што ведала казку,
Той, дзіцячай, што верыла ёй.

Мы спачатку знямела цішэлі,
Толькі ў глотцы свярбеў каўток,
Як выходзіў акраец з кішэні,
А пры ім яшчэ — сала шматок.
Потым шумна палонілі тату.
Ён прыгадваў свой дальні пастой

І паказваў, як заяц куртаты
Мне наказваў — расці — аж пад столь.
Маці брала армячную пару,
Каб абтрэсці і абсушыць,
І з маліннiку несла адвару:
«Адагрэй, Васілёк, на душы».
А ў яго — ад сустрэчы лета!
Цэлы месяц прабыў у цягле,
А вярнуўся дахаты, да дзетак —
Апынуўся, лічы, у цяпле.
— Не спяшайцеся —
кожнаму хопіць, —
Тата ўсмешку хаваў у вус. —
Зайчык наш не скнарысты хлопец, —
І акраец клаў на абрус.
Рэзаў тонка, на ўсіх пароўну,
Зверху сала вабіў скрылькі
І расказваў, як заяц галоўны
Памагаў цягаць круглякі.
На вусах пілавінне і шэрань, —
Так мне бачыўся грузчык касы:
Бервяно наабхват ашчаперыў —
І на воз — аж рыпелі вязы!

Хлеб асінай марознай палыніў,
Сала знічка — як зайцаў хвост…
Я кавалачак свой палавініў:
Каб і заўтра быў добры рост.
Бацька цёплай капустай вячэраў
І мяне частаваў заадно.
У камінку шугала карчэўе,
І было на паўсвету відно…
Дзякуй, зайчык, што ў снежную замець,
Як астудны наваліцца час,
Ты прыходзіш — і доля, і памяць —
Паглядзець на сябе праз нас.
Елі хлеб твой ратаі і цеслі,
Плытагоны і песняры, —
Хто падсмажаны, хто ацеслівы,
Хто з прытрускай сухой кары…
Елі хлеб твой шаўцы і міністры…
Паглядзі праз туман гадоў:

Хто ж і сёння душою чысты
І акрайцу паверыць гатоў?..

Дзякуй, зайчык… Вяртай успаміны
Зноў туды, дзе нічога не мог
Ты прыслаць нам: слязою палыннай
Спелі ростані ўзборскіх дарог.
Не знаходзіў акрайцаў і Міша,
Хоць штодня з намі ў полі блукаў, —
Сам без войска і ў нас не лішак;
Гусь ці пара — без гусака.
Ды няўперышаў-гусянятак
Валюхаста-жоўты пяток,
Ці найбольш у каго — з дзесятак…
Ды зацішны ля рэчкі куток, —
Каб далей ад нямецкага вока:
Калі што — зашывайся ў кусты, —
Прыхаваюць гусей асокі,
Пастушкоў ахінуць чараты.
А ўбярэцца навалач з вёскі —
Зноў на бераг пускаем гусей.
Самі ж ціснемся, дзе палоскі
Блізяць хлеб да нас пакрысе.
Вось ён выглянуў каласкамі,
Красаваннем набух, і пылок
Хутка ўзветрыцца паласканнем —
Нібы мора, як глянеш здалёк.
А з-пад красак завяжуць зярняткі
Самы першы вузельчык на хлеб,
І праклюнуцца, як птушаняткі,
І прыціўкнуць ад сонца ўзаслеп.
Потым вочкі здзіўлёна прабеляць
З-пад разважлівага брыва
І прашэпчуць: «Знямогся кубелец,
То рыхтуйце дзяжу да жніва.
Хлеб — не сала: за ногі не ўскінеш
На фурманку жывыя скрылі,
У рабунках звяліся свінні,
Хлеб — нязводны, бо ён ад зямлі».
Толькі голас той цешыў не надта.
Хоць мы зналі, што колас не жмот,
Ды злавалі: марудна зярняты

Налівае нам на пражмо.
А да хлеба — далёкія далі…

Міша колас у шапку лажыў —
Ён сваё, мы сваё загадалі, —
Варажы нам, вусач, варажы.
Мішу вызнай, ці любяць дзяўчаты,
Саграваўся і ў нас недарма:
Закрасуеш — прыджгаем дахаты,
А вайны і ў паміне няма.
Так лучыліся з думкай таемнай
Ў шапках жытнія каласы.
Прарастала сонца праменна
Праз віхрастыя валасы.
Паглядалі мы нецярпліва:
Ці праклюнуўся жоўты шнурок?
Адгалоскам нязбытнага дзіва
Асядаў на далонях пылок.
Падагрэтыя, прабягалі
Шлях тыднёвы навідавоч, —
Каласы, каласы красавалі,
А вайна завывала наўзбоч.
Як не ўгледзелі мы, як не ўчулі:
З дзвюх дарог, з двух бакоў да сяла
Ланцугамі — зграяй нямчурнай —
Безгалоса аблава паўзла.
А за ёю і грукат машынны
З-пад загрэбелля даляцеў.
Жыта ўроссып чэргі прашылі
З віскам жудасным на хвасце.
Каласы са сцяблін абляцелі,
Дзе нічком я ў разоры ляжаў.
Потым боты прашархацелі,
Потым грукат аціх на крыжах.
Я падняў галаву. На лузе
Нікагуткі. Адно ля ракі
Гусака майго немец валтузіў —
Я пазнаў — толькі ў нас быў такі:
Снегам белым займалася пер’е,
Голас меў, як луджоны рог.
Ні адзін у байцы сапернік
Устаяць перад ім не мог.

Ён і зараз не ўцёк ад статка —
Шыю дзідай — малых акрыліў.
А ўжо воддаль — шэрая матка
Знерухомела на зямлі.
Гусяняткі, бяскрылыя крошкі,
Не каршун над вамі вісеў —
Немец збоку зайшоў сцярожка,
Натапырыўся, цяжка прысеў—
І ўраскідку з мышастым фрэнчам
Наваліўся на гусака,
Потым грузна над ім укленчыў,
Заганяючы шыю ў рукаў.
Ап’янелы сваёй перамогай,
Сіпла, тоненька зарагатаў,
І на касцы бліскалі рогі
І падкоўкі на капытах.
Валюхаста ішоў да машыны,
А з-пад пахі гусак гукаў —
Выгінастая білася шыя,
Аж хадзіў хадуном рукаў.
А малыя зашыліся купкай
Каля берага ў асаку,
Прыхінуліся — дзюбачка ў дзюбку,
Як што шэпчуць — сябрук сябруку.
Гусяняткі мае, жаўтаняткі,
Я не выцерпеў, закрычаў.
І на выручку без аглядкі
Стрымгалоў да ракі паімчаў.
— Пан, аддай! — Я ўчапіўся адважна
За рукаў, дзе сядзеў мой гусак.
Немец выспятка моўчкі адважыў
І пагробся ў кабіну, як рак.
Я ў канаву зляцеў, нібы мячык, —
І дадому!.. Але не дабег,
Бо на вуліцы Мішу ўбачыў,
Што скакаў пад нямецкі смех.
У зубах у танцора — акурак:
Б’е падэшвы за дымны глыток.
Збоку бацька стаіць пахмура,
Лосік з Ёхам ды баб з пяток.
Я хацеў пра гусей, але тата
Адмахнуўся, Мішу спыніў:

— Паскакаў — і маршыр дахаты,
Хопіць тутака, брат, гульні.
І плячом яго адціскае,
Каб ад немцаў далей. Але тут
Нейкі — старшы, відаць, — ківае
І паказвае пальцам:
— Гут! —
Зноў выходзь, маўляў.
І заўзята
Немец просіць у ладкі біць.
Сам жа пстрыкае апаратам —
Будзе картачкі з Мішы рабіць.
Ну а той рассядаецца ў скоках
І са злосцю да Васіля
То спіною прытрэцца, то бокам,
То наўкруг абыдзе пасля.

Ах, згубачка-загуба,
Крывавая пята, —
Ах, немцы Мішу любяць…

А Міша рагатаў…

Васіля падпякаў адчайна,
Каб у скокі з указам не лез:
Тут ужо ніхто не начальнік —
Тут у Мішы свой інтарэс.

Мелі ўчора старшыню —
Парушалі цішыню,
Маем сёння старасту —
Не баімся арышту!

А Васіль аб адным зараз думаў:
Як бы Мішу адвадзіць убок,
Бо дабра з такога затлуму
Не было і не будзе, браток…
Знаць, не проста выйшлі аблавай, —
Бацьку Гольбахаў чуўся даклад,
Што за хворыя душы славай
Увянчаў душагубцаў-салдат.
Чуўся ў грукаце той машыны,
Дзе «мой» немец сядзеў за рулём:
Ён пад’ехаў — і ўсе заспяшылі

І закаркалі вараннём.
Пра бандытаў нейкіх пыталі:
Ці былі, ці бачыў народ?
Прафілактыкай называлі
Свой знячэўны ваяцкі паход.
Здагадаўся Васіль, што аблава
З гэтым словам мудроным якраз,
Пэўна, спрэгліся не для забавы:
Чуўся Гольбахаў тут абцас.
Чуўся грукат і пошчак жалезны,
Страх наводзіў і перапалох…
Праўда, немцы глыбока не лезлі:
Чыстку тую вялі ўсцяж дарог.

Чула ўсё Васілёва сэрца:
Немец «мой» вясёлым кіўком
Адчыніў у машыну дзверцы
І паказвае Мішу: «Ком!..»
Немец «мой» быў дужа харошы,
Падмаргнуў, што пракоціць за лес.
Ну а Мішу не трэба і ўпрошваць —
Сам хутчэй, без прынукі, палез.
Не ў кабіну, а ў дзверцы тыя,
Што ў закрыты кузаў вялі.
«Хто ахвочы яшчэ? — Мы застылі,
Хоць смяяўся і клікаў: — Пайшлі!»
Пакатацца б яно і не блага.
Толькі бацька кіўнуў на сяло
І ўхапіўся пагрозна за дзягу, —
Хлапчукоў як ветрам змяло.
Мы дамоў, а ён — да машыны,
Просіць немца:
— Навошта ж вы, пан?.
Ці ж замала яшчэ задушылі?..

Дзверцы ляпнулі, нібы капкан…

Ах, дым ударыў клубам, —
Задуха-духата.
Ах, немцы Мішу любяць…

А Міша рагатаў…

## 18
## ХЛЕБ

Пасад на паўкапы,
У два рады пасад,
І цокаюць цапы
То складна, то не ў лад.
А лад збіваю я —
Чацвёрты малацьбіт:
Яшчэ рука мая
Не дужая на спрыт.
Яшчэ не ўдосталь мой
Настоен мускул быў
Той сілаю крутой,
Што камень — на драбы!
Яшчэ цягнула ўслед
Мяне за цапаўём.
Яшчэ ад поту слеп,
Цвяліўся мазалём.
Яшчэ заносіў біч
Мяне ва ўсе бакі,
І пад цапы — наўстыч —
Я пляскаў не з рукі.
Як тое гусяня,
Што цягне травіну,
Маўчком хістаўся я
І знаў сваю віну.
Наводзіў бацька лад —
Да жарту не скупы:
— Ды ты паслухай, брат,
Што кажуць нам цапы:

Чорт у таку,
Чорт у таку, —
Змяні руку,
Змяні руку.

Стараўся я хвастаць
Усім чарцям назло:
Круціў ім так хваста,
Аж цапаўё гуло.

І тыя — хто куды! —
Зламыснікі мае…
Пасад у два рады,
І малацьба пяе:

Чорт за токам,
Чорт за токам —
З бітым бокам,
З бітым бокам.

Які там, праўда, ток —
Кавалачак двара:
Змялі наўзбоч пясок,
Ход унялі курам, —
Каб тут памаўзаваць
Не ўздумалі яны,
Каб сам памазгаваць
Быў певень не ляны,
Дзе падкарміць сваю
Ў галодным тым віры
Зрадзелую сям'ю —
Чубатак чацвярых.
«Як маеш галаву,
Далей двара зірні —
І пераб'еш траву
Зярняткам на жніўі…» —
Так павучаў Васіль
І цэпам браў размах,
Каб вязак паясы
Трашчалі на снапах.
І радасна было:
Хоць і скупы, а плён, —
Вось, толькі што, сяло
Ці ашчасліціць ён…
Папера — як загад —
Да Лосіка прыйшла:
Падатак — акурат
Усё зжарэ датла.
Да кроплі распісаў
Ваенны аграном,
За ўсіх падумаў сам,
Якім здаваць дабром.
Адмеран кругла год:

На жыта і авёс,
На яйкі, і на мёд,
І на сабачы хвост.
Як маеш брахуна —
Плаці, пакуль не здох:
Сабачая цана
На шалю перамог.
Ды ён не так сабе,
Не дурань наш Барбос:
Загаўкаў і пабег, —
Сабаку ўсё пад хвост!
Дазнайся, чый ён быў,
Разнюхай па слядах:
Збег — і падатак сплыў.
А з мёдам — тут бяда.
Ні вулляў, ні калод,
Ні пчол — а заплаці!..
Хоць па захлеўю мёд
Ім той збіраць ляці.
Аж плюнуў бацька ўбок,
А варта б — на агонь,
Што ўжо сушыў і пёк
Ягоную далонь.
Лічы, адзін за ўсіх
Ён цэпам біў і біў,
Бо мой зусім аціх
І Кацін лад згубіў.
Дый мама ў добры час
Адвыкла цэп трымаць.
А Зіны паміж нас
Як і зусім няма.
Няма — і трэба жыць,
Бо ёсць на свеце ты…
Штодня гудуць крыжы,
Паўзуць калон хвасты.
Ці горкі лёс дзяўчат,
Ці сам палын гарчэй:
Каб анікуды з хат,
Далей ад злых вачэй…

А бацька — цок ды цок:
Хай з навіны праснак

У печы смажыць бок,
Каб мы паелі ўсмак.
«Як будзем пры харчах —
Хвост загудзе трубой», —
І гэханнем з пляча
Стырнуе малацьбой.
Падцокваем і мы,
Хоць жываты звяло,
Бо хлеба ад зімы
У роце не было.

Сутонне халадком
Збівала стому з плеч.
Духмяным праснаком
Дыхнула ў душы печ.
Патэльня — на загнет,
А мы ўжо тут як тут.
І мама толькі ўслед
Выносіла прысуд.
Паспела насушыць,
Паспела намалоць,
Цяпер адно крычыць:
— Не пхніце жываглоць!.
Пячэ руку праснак,
Гарачы, скача ў рот!..
І соладка размяк,
Як ап’янеў, жывот,
І цягне ўжо на бок,
І вочы мружыць сон,
І вогненны чубок
Плыве, як парасон, —
Ад лямпы ўсё далей,
Шырэе і расце…
Як дожджык-вадалей,
Шуміць сянцом пасцель.
Я дыхаю травой,
Як самы траўны цар,
І цёпла, з галавой,
У сон даю нырца.
Нарозмашкі грабу,
А хтосьці ў глыбіні
То дзьме, як у трубу,

То камаром звініць.
То адступае шум,
То зноўку наплыве…
І я наверх спяшу,
І сон ляціць з павек.
І той жа ў лямпе кнот
Трапеча аганьком,
І той жа мудры кот
Пад лаваю клубком,
І той жа… той… не-не —
А чый жа гэта цень
Сагнуўся на сцяне
І хто там — на куце?..
Над скрыпкаю шчака,
Зажураны абрыс,
І са смычком рука
Ляціць то ўверх, то ўніз.
А ўпобачкі — хлапчук,
А ля сцяны — кіёк…
«Аніска», — я шапчу.
— Паслухай, Васілёк…

Дык вось хто з глыбіні
Цягнуў наверх мяне, —
То на басах бубніў,
То стоена звінеў.
Аніску я пазнаў;
«Паслухай…» — гэта ён
Да бацькі так сказаў
І ўзяў ціхутка тон.
І раптам: як узмах
Забытага крыла,
Як ноччу сонца гмах, —
І хата ажыла.
Яна ляцела ўслед
За песеннай струной,
І ўжо з надзеяй свет
Схіляўся нада мной.
І ўжо як для мяне
Лавіў Аніска лад,
І ў цемры палымнеў
Яго сляпы пагляд.

Яшчэ крануць струну
Смычок не паспяваў,
А голас — праз вайну,
Праз жах і смерць — спяваў.
І ў хаце паміж нас
Ён, як жывы, стаяў,
Бо ў сэрцах не пагас:
«Страна… Москва моя…»
І веяла цяплом
І радасцю вясны.

Далёка за сялом
Мае блукалі сны…

Суцішыла струну
Аніскава рука,
Спалохана зірнуў
Васіль на хлапчука,
Спазна перасцярог:
— Ды дзеці ж тут якраз,
Яшчэ, хай крые Бог…
— Ён хлопец свой у нас, —
Аніска твар узняў. —
Дый твой жаўрук не спіць,
Дыханне, бач, уняў, —
Знаць, і яму карціць…
І дзіўна мне адно
Было: адкуль, чаму
І ўсё яму відно,
І чутна ўсё яму?
Але маўчу, ляжу.
А бацька — шэп ды шэп, —
І нешта пра дзяжу,
І нешта ўсё пра хлеб.
«Куліна, ты ж кабет
Надзейных выбірай…» —
І зноў пайшоў сакрэт… —
«Вайна не каравай…»
А ўголас маме сам
Аніска гаварыў:
— Як ападзе раса,
На гэтым сухары
Хлеб замясі ў дзяжы,

А як спячэш, адзін
Свой бохан накажы
Размножыць на зачын.
На сем часцін пакрой —
Хай будзе сем па сем, —
Хай гэткаю ж парой
Замесяць хлеб усе.
Хай потым і яны
Зачын перададуць,
Хай па шляхах вайны
Твой бохан панясуць.
Астатнія ўсе шэсць
На сухары сушы,
Каб той, хто крошку з’есць,
Дужэў на тры душы.
А хто ён будзе — той —
Я не паспеў узнаць:
Калі, якой вярстой
Прыедзе іх узяць… —
І ўжо ад мамы ўбок,
Да бацькі, праз руку:
— Мужчынам дай намёк,
А бабы — хай пякуць…
І потым —
зноў услых:
— Бывай жа, пасланец,
Як дойдзеш да сваіх,
Дык і вайне канец… —
Паклаў на стол замес —
Кавалак сухара:
— Вяртайся, брат, у лес,
А мне, — сказаў, — пара.
— Куды ж такі паспех?
Ці гоніць хто праз ноч?
— Яно спачыць не грэх, —
Аніска ўстаў наўзбоч,
Намацаў свой кіёк
І гэтак жа бачком
Ступіў:
— Пайшлі, сынок,
Нам лепей цемнячком… —
Праз хату наўскасяк

Хіснуўся доўгі цень, —
Мне ж, браце мой, няўзнак,
Ці ноч у вас, ці дзень.
А вочы вось мае, —
Пагладзіў хлапчука, —
Мы ўсюды з ім свае:
Не ўпершыню блукаць… —
Пявунню і смычок
У торбу палажыў
І тату за плячо
Крануў:
            — Няхай ты жыў,
Во толькі што нацям
Прыйшло табе сказаць,
Хоць мог бы ты і сам
Вузельчык завязаць:
«Чаму ж гэта на смык
Жалейку ён змяняў?»
— Ды я ўжо так прывык,
Што ты на ўсім іграў.
— Іграў, ды не мяняў.
Жалейка ёсць, браток.
А скрыпка… Ты пазнаў?..
Пазнаў ты, чый смычок?
— Цяцерскага?
                        — Яго…
Пайшоў музыка наш
Да іншых берагоў, —
Бывай, зямны кірмаш…
Памёр ад бізуна:
Адзін галаварэз
Ці здуру, ці сп’яна
Ўсё з допытамі лез:
«Дзе скарбы пан хаваў?
Дзе быў ягоны спрат?..»
А ён, Цяцерскі, знаў…
Хоць і не вельмі шмат.
Адкрыўся тайны схоў
Музыку-лесніку:
На выспе, між імхоў,
Засечка на пяньку.
А ўзбоч — стары капец.

І, пэўна, незнарок
Круціўся там хлапец —
Тваёй сястры сынок, —
Аніска Васіля
Схіліцца папрасіў
І мовіў напасля:
— Ён быццам там касіў.
Але прыкінь, адкуль
Хлапец вязьмо гранат
Цягнуў — і памяркуй:
Ці знаў Цяцерскі шмат?..
Ды толькі мне шапнуў.
І скрыпку перадаў…
Так з тыдзень працягнуў —
«І ўсё, — сказаў, — гайда…»
Вось гэткі, браце, спрат…
Маўчаў Цяцерскі наш…
А хто рабіў той склад,
Слядоў, сказаць, нямаш…
«Захар!.. — ледзь-ледзь Васіль
Не ўсклікнуў, як праз сон… —
Відаць, і калясіў
У Падбярэззе ён…
Відаць…» Ды сцяўся ком
У горле: «Памаўчы…
Не ляпай языком
На вецер без прычын…»

Пайшоў Аніска ў свет,
Бяздомны цар дарог.
І хто яму наўслед,
Хто пазайздросціць мог?..
Ці квецень у гульбе,
Ці вецер у быллі:
Дарога — на гарбе,
У зрэбным хатулі.
Завейным цалікам,
Двухжыллем каляін,
Пякучым жарсцвяком —
І сэнс, як свет, адзін:
Ахвоч ці не ахвоч,
Залева ці сухмень —

Дарога — дзень і ноч,
Дарога — ноч і дзень…

Даўно і мой парог
Сцяжынку адарваў, —
Ніхто не асцярог,
Ніхто не затрымаў.
Сцяжынку, што вяла
Мяне ў няблізкі рай:
Ад горкіх дум сяла
Ў лясны птушыны край.
Ён быў за паўвярсты,
Дзе цераз рэчку мост, —
Драздовыя кусты,
Крыжанак шызы плёс,
Калыска салаўіх —
Зялёная лаза, —
Загадка дзён маіх,
Што век не развязаць:
Чаму, з якіх прычын,
Як толькі сум кране,
Парог, дарог зачын,
Усё вяртае мне:
Лазу, кусты і плёс —
Вяртае — задарма,
Ды ўслед смяецца лёс:
Сцяжынкі той — няма.
З блуканнямі сувой
Ён кінуў мне ўзамен,
Задзервяніў травой
Мой след на сем кален.
Праз сем людскіх вякоў —
Сівых стагоддзяў дым —
Вярнуся да высноў —
Прыгожы, малады.
І ў гэтым шчасце ёсць —
Знаць, што ў нашчадках ты
Паўторыш маладосць —
Абраннік хваль крутых.
А бераг мой, аднак,
Усё далей, далей.
І Млечны Шлях —
як знак:

Зямному паралель.
І наяву, і ў сне —
Парога пракляццё:
Дарога — праз мяне,
Дарога ўсё жыццё…

Пайшоў Аніска ў ноч,
І ўсё за ім пайшло:
Кіёк і торба ўзбоч,
Як зрэбнае крыло.
Пайшоў, як і хадзіў,
Да новых сёл і хат.
Пайшоў — заўжды адзін,
Усім — і сват і брат.
Ні клопату, ні бед
Няма і не было:
Пайшоў Аніска ў свет,
І ўсё за ім пайшло…
На цэлы свет, відаць,
Адзін Васіль вось так
Падумаў і шаптаць
Наўслед не стаў: «Бядак…»
Правёў цераз прагон
Гасцей да сасняку —
І пазайздросціў ён
Бяздомнаму кійку…

То шэпчуць жорны ўсмак,
То зойдуцца на хрып —
Не праваронь той знак,
Хутчэй зярнят падсып.
Падсып, галодных сноў
Хоць раз не спадмані —
І завуркочуць зноў
Спаважна камяні.
Як шэры птах,
                    вярхняк
Ляціць за кругам круг,
І мякка, наўскасяк,
З-пад крыл снягурыць пух.
З-пад шэрых — белы пух,
Як свята шэрых дзён…
Злучыў руку і рух

Да бляску гладкі млён.
Нібыта ў забыцці
Гайдаешся за ім.
Круці, круці, круці —
Усім жыццём сваім.
Цяжкія камяні,
А лёс цяжэй стократ.
Ды ў шэрай мітусні
Святлее далягляд.
Ляціць, як пух, мука,
Надзею зычыць мне,
І цягне млён рука:
Канец, канец вайне.

Той вечар быў не ў сон,
Той вечар быў шчадрэц,
Замес разводзіў ён:
Вайне, вайне канец.
З падбеленай шчакой —
Я ў смутку не марнеў —
Трымаў хатуль з мукой:
Канец, канец вайне.
Дзе ўдымлены ляжак
Астуду піў з сянец,
Шаптала мне дзяжа:
«Вайне, вайне канец».
На досвітку агонь
У печы палымнеў,
Я голас чуў яго:
«Канец, канец вайне».
З асенняга крыла
Кляновы ліст-ядрэц
Лапату высцілаў:
Вайне, вайне канец.
І каравай на под
Садзіўся ў той цане,
Што выплакаў народ:
Канец, канец вайне…

У зладнай грамадзе
Не для пустых патрэб —
На скон ліхой бядзе
Спякло Узбор'е хлеб.

На торбу сухароў
З чаканнем я глядзеў.
А ранкам — будзь здароў:
Прапала неўспадзеў.
Ні бойкі, ні ганца
З усходняй стараны…
Ні торбы, ні канца
Праклятае вайны…

## 19
## СВАТАННЕ

Астравы бязлесся — гарнізоны…
Вогненных лясоў мацерыкі…
Супесі, суглінкі ды падзолы —
Вёскі, вёскі — акіян людскі.
Акіян пакутнага бяссмерця…
З лубкі зерне цішыцца ў раллі,
А з нябеснай, непадступнай цвердзі
Бомбы прарастаюць да зямлі.
Недзе ў пушчы, там, за Падбярэззем —
Дваццаць вёрст на добрую нагу —
Самалёт з-пад чэрава, як з рэзгін,
Вытрасае той пякельны гул.
З ім Васіль спазнаўся назаўсёды:
Будзе сеяць ён ці скарадзіць —
Гул цяжкі з парахавым смуродам,
Неадступны, унутры сядзіць.
Спраўдзіла крылатае прадвесце
Даўні той, той д’ябальскі прылёт:
Лёс у зерня — нівай уваскрэсці,
А над ім — грымотны разварот.
На кругі свае заходзіць «рама» —
Не з вясёлкавым аконным шклом,
Не букварная, што «мыла мама», —
З азбукаю смерці пад крылом.
З паднябесся бог свінцовадайны
Раздае сваіх дароў запас,
Дзе б каго прывецiць, выглядае
І нарэшце заўважае нас —

Двух паганскіх, глініста-падзольных,
Хлебадайных двух палевікоў
З двухадзіным богам рук мазольных,
З верай у зямлю наўсцяж вякоў.
Тата сее, я — слядамі значу,
Дзе кладзецца зерне: я ляшу.
Лёгкую для «рамы» той удачу
Абяцаю за сваю душу.
І яна спакусы не стрывала:
Жытняму сяўку наперахоп
Глуха па раллі залапатала,
Быццам з неба сыпануўся боб.
Тут мая душа і спудлавала,
Ірванула да беразняку.
Нешта выла, нешта ўслед крычала,
Нешта тузанула за руку.
І над вухам:
— Стой, табе гавораць!
Ты бяжыш, а для яго — мішэнь.
…Толькі тут, кульнуўшыся ў разору,
Сам сябе нагнаў я — і ўстрашэў.
Толькі тут уцяміў, дзе і што я.
Неба ўзвыла, вухнула зямля.
А за грэх які? А ўсё за тое,
Што не ён адзін, што ёсць і я.
Бог свінцовы, а насупраць — жытні:
Палявік, сявец, каласавік.
Там — двухствольны, на зямлі — двухжыльны, —
Хто каго — па роўніцы разлік.
Неба і зямля. І паміж імі —
Распластаны коціцца хлапчук.
Неба і зямля. І межавымі —
Два слупы: два выбухі ўваччу…
Толькі тут усёй істотай зрэбнай —
Жаўранкам у збэрсаным быллі —
Я ўстрашэў: а як бы мне пад небам,
Як бы мне без гэтае зямлі?..
Як бы мне без гэтае канаўкі,
Што свінцовы суняла скразняк
І ў грудзях маіх студзіла даўкі,
Горача задыханы камяк?..
Толькі тут душу сваю нагнаў я, —

Трапяткая, білася ў раллі.
А над ёю знакам раўнапраўя
Дзве вантробы спарышом плылі.
Дзве паловы аднаго страшыдлы —
«Рама» на разведным віражы.
Цікавала, покуль не абрыдла:
«Жыта сее? Значыць, хоча жыць?!»
І засекла цэль, каб у рэестры
Слаўных і вялікіх перамог
Новы летапісец — анты-Нестар —
І маю душу занесці мог.
На сутонні, той гадзінай шарай,
Што сціскала дзень з усіх бакоў,
Хтосьці клямку ў сенцах доўга шарыў,
Потым тройчы бухнуў кулаком:
— Бач, навёў запоры ды завалы.
Штосьці тут не тое… Чуе нос:
Ці гарэлку п'юць, ці дзеляць сала…
Ці кудысьці чорт усіх панёс.
Зноў пачаў няцвёрда, незнаёма
Грэбацца нязвычнаю рукой…
І нарэшце:
— …бога маць, хто дома?!
Як пабіла трасцаю якой.
Тут ужо скаціўся я з пяколка…
Дзверы насцеж — і цераз парог
Трыханок глядзеў: пад носам «пчолка»,
Чуб набок залізана прылёг.
Акурат як у таго — з партрэта:
Касячком, да самага брыва.
Злосна пахіснуўся:
— Што ж ты гэта
Тут, як мыш, сядзеў, не адкрываў?
Ні старых, ні дзевак, — ці не рады
Госцю ў хаце? Што маўчыш, як цень? —
Сеў на лаву, грукнуўшы прыкладам,
Ушчаміў вінтоўку між калень. —
Дык няма нікога дома, кажаш?
Т-а-а-к, а дзе ж яны, калі спытаць?
— А яны — у полі, на Заўражжы, —
Трэба там палоску дасяваць.
— Э-э-э, глядзі, язык жа ёсць у роце,

А маўчыш. —
Здзіўлёна твар падняў:
— Сеюць, кажаш?..
Чорт жа падахвоціў
Сеяць ноччу, быццам мала дня…
Во яно, як вош свая ўкусіла:
Сутак мала. Дзень і ноч грабуць.
Вош свая на карку — злая сіла:
Не заснеш: сасе ва ўсю губу.
Не сцярпеў я, хоць не дужа ўцяміў:
— І не вош зусім, а самалёт.
Вуньдзека схавацца можна ў яме:
Бамбануў — палоска ўразварот.
— Го, дык ён і вас тут, кажаш, троху, —
Трыхан жарабцом зарагатаў. —
Гэта жартам, толькі падпалохаў.
Самае — яно было вунь там, —
І рукою паказаў на пушчу. —
Во дзе ўпляжыў, во дзе дыхту даў:
І касцей насек, і дроў натрушчыў,
Ад бандытаў зараз — ні сляда.
Нават і такіх не шкадавалі, —
Галавою на мяне кіўнуў. —
Ну а што там з імі тралі-валі —
Покуль нож усадзіць у спіну?..
Сёння ён на дзве наздры саплівец,
Заўтра — сігане да партызан.
Лепш адразу: чык — і ашчасльвіць
Нацыю. І па галовах план.

Я не сёння ўсё прыдумаў гэта.
Слова ў слова помню, як урок,
Што за Кацяй паўтараў бязмэтна:
«Юг» і «север», «запад» і «хвосток».
Сёння ўсё я толькі перамераў,
Пераважыў, што ў нябыт сплыло.
Сёння ўсё свядомасцю праверыў
І сцвярджаю: так усё было.
Сёння разумею: так нікому
Не пасмеў бы Трыхан гаварыць:
Толькі што сп’яна — і то малому —
Асмялеў душу сваю адкрыць…

— А мальцоў — за ногі ды аб сценку,
Быццам на Каляды парасят…
Ну не ўсіх, вядома, з гэткім енкам,
А на выбар — з партызанскіх хат.
Збольшага падчысцілі заразу…
Э-э, ды ты дрыжыш увесь, як ліст.
У штаны, глядзі, не дай там газу.
Ці і ты мо, гэта, камуніст? —
Смехам захрыпеў, на ўсе заставы
Рот адкрыўшы. — Ладна, не бяда.
Я во не спалохаўся. І права;
Сама меней, маю на медаль.
Ну а ён сюды якраз дарэчы, —
На грудзях пагладзіў фрэнч. — Ого!..
Знаць, тады б стары твой не пярэчыў,
Каб і Зіна за мяне, таго…
А яна?.. Ці змог бы ты разнюхаць,
З кім яна кахаецца? І мне
Падшапнуць…
                    А для падняцця духу
Во цукерка. Еш, яны ў цане.
Гэта як паёк такі на сёння —
Да гарэлкі, за работу нам.
Па руках? Сястру не праваронiш?
Калі што, дык во і стрэліць дам. —
І заціснуў мне сілком у жменю
Два — навелькі з гузік — сасунцы.
Стаўбунок з астаткам у кішэню
Палажыў…
                    — Во і яны — сяўцы…
Зарыпелі сенечныя дзверы,
Да акна схіліўся Трыханок.
Тут і ўладзіў я кружкі ў цабэрак,
Хоць пад языком гарчэў камок…
— Ну а мы сядзім во ды гамонім, —
Трыхан бацьку «здрастуй» працягнуў. —
Я, Васіль, сказаць, без цырымоній
Да цябе, як бачыш, завярнуў.
Проста так, па-свойску, па-суседску.
А ў цябе во прыпар пацямку…
Працаваць вучыся па-нямецку:
Ні хвіліны лішняй — па званку.

Во дзе ўсё адмерана дакладна:
Пальцам па-пустому не махнеш.
Нават у гарачцы ў той, блакаднай:
Як абед — спыняй стральбу і еш.
Кажуць, і цябе тут паганялі?
Ды і я во толькі што адтуль:
І наўздоўж, і па дыяганалі
Прапяклі, не шкадавалі куль.
Можа, спакайней цяпер во будзе.
Гэта ж трэба: сон ужо не ў сон.
Звечарэе, дык не ў ложак людзі, —
Плюнуў Трыханок, — а ў гарнізон.
— Ды яно як хто, — Васіль анучы
На пяколку цёплым рассцілаў.
— Ты не хтокай. Во, глядзі, прыжучаць —
Пабяжыш, аж затрашчыць кіла.
Гэта ў нас пакуль што ціха ліха,
Не дайшлі на ўзборскі астравок.
Ды і то — як ноч — сядзі, не дыхай,
Слухай кожны рып і кожны крок.
Во на сёння можна ўжо спакойна:
Цісканулі аж да Паліка, —
За фіранкай мэцнуў падаконнік —
І з бутэлькай выплыла рука. —
Я тут шнапсу прыхаваў ад хлопца,
Каб дзяліць не давялося з ім, —
Ласа падміргнуў. — Кульнём па стопцы!
Што ж мы насухую ўсё галдзім?
Дык сядай, Васіль. А ты, Куліна,
Прыцягні які там агурок.
Ну а дзеўкі што? Дзе ж тая Зіна?
Дасяваць пакінулі шнурок?
— Ды засела недзе на сяле вунь.
Згледзіш іх — тут ёсць, а тут няма…
Я-то знаў, што Зіна ў цёткі Евы,
Толькі на замку язык трымаў.
Там яна цяпер заўжды начуе —
Ад крыжоў далей, ад бальшака…
Але ўсё-ткі мама: — Дзе-йта чуні? —
Пагукала: — Памажы шукаць. —
Гэта для адводу. А шапнула:
«Ты ж маўчы, не дужа з ім, сынок…

Каб яму не агурок, а скула
Во такая на сабачы бок…»

— Мы з табой, Васіль, адной вяроўкай
Звязаны. Не разарве і чорт, —
Трыханок да бацькі будзьздароўкнуў. —
І ніхто не выкіне за борт.
Без такіх, як мы з табой, улада
Ні адна яшчэ не пражыла.
На гарбе вязём любы парадак, —
За шчакой у Трыхана жаўлак
З агурком хадзіў…
                                        — Але не густа
Возчыкаў такіх, як паглядзець…
— А чаму? — рот захліпнуўся хрустам. —
Бо ў запечку хочам прасядзець.
Вось і ты грабешся ў дэзерціры, —
Я прыкмеціў хітры твой шлагбаум:
Старшынёй служыў не для блізіру,
А парадак новы занядбаў.
Толькі адкруціцца ў нас не проста,
Станеш супраць — вывернем каўбы.
— Помніцца, сёй-той і старшынёўствам
Васілёвым недавольны быў.
— Ну-у, ты снег залеташні не згадвай.
Ды і хто цяпер рассудзіць нас?
Можа, ўсё рабілася для чаду,
Каб не так стараўся на калгас.
— Я стараўся для зямлі, для хлеба,
Для жыцця стараўся. А цяпер,
Пагляджу, дык і яны пад небам
Не заўжды шануюць мой намер.
Пошасці такой нагадавалі,
Што за цэлы век не разграбеш…
— Гэта ўсё тры грошы за міндалі.
Час цяпер такі, што рэж ды еш.
— Біць ды рэзаць — не мая навука.
— Што, …размаць, становішся на ўлік
У святыя? Выціраеш рукі?
— Не, у кроў макаць іх не прывык.
— Кроў не кроў, а грэбаваць уладай
Не рэкамендую. Кожны так

Затуліць у кут ахвоч азадак.
— Хопіць… Не для гандлю я пятак.
Здаў падатак, нават і сабачы,
І пясок на грэблю адцягаў,
На абшчыну Лосік вунь прызначан, —
Так што я вам болей не слуга.
— Го! Паслужыш — ды яшчэ з прысвістам:
Як мышэй, усіх пацягнем з нор.
Кажаш вунь — падаткі здаў начыста,
А ці чуў ты пра ваенны збор?
Не? Дык знай: не сёння — заўтра новы
Па абшчынах давядзём загад.
Не застанься ж дурнем безгаловым
І да ўлад не паварочвай зад.
Во і Зіну ўзяць: чаму ж у дзеўках
Ёй сядзець ды марнаваць узрост? —
Трыханок да справы неўспадзеўку —
Да галоўнай — павярнуў наўпрост. —
Ці няма дастойных кавалераў?
Думаю, што ёсць, — і Трыханок —
Збоку — сам сваю паставу змераў,
Даланёй прыгладзіўшы чубок. —
Дык чаму во нам не парадніцца?
Чым не зяць?
Але Васіль — на жарт:
— Ты мяне тут сватаеш як быццам? —
Саніхоў перакруціў азарт. —
Я ж не дзеўка. І твае ўгаворы
Для мяне — як аб сцяну гарох.
Я ў замужжы вунь ссівеў і спорна
Працу гэту ладзіў, бачыць Бог.
Так што выбачай…
— Не тую песню
Запяяў і закруціў хвастом
Не туды, —
са злосцю Трыхан трэснуў
Кулаком, аж пахіснуўся стол. —
Я канкрэтна.
— Можна і патрэтна,
Як ты кажаш… Зараз і патрэт
Намалюю: смерць вісіць над светам —
Не відаць, дзе той, дзе гэты свет.

Што патрэт — крывёю рукі пахнуць.
Тут не да вяселля…
Трыханок
Захлібнуўся нейкім п'яным жахам:
— Я памыў. І ем во агурок.
— Еш сабе, калі яшчэ ён лезе.
Закусіць жа трэба: гэткі баль!..
— І балюю. Мне за Падбярэззе,
Калі хочаш, выпадзе медаль, —
Зноў на весялейшы троп узбіўся
Трыханок і з твару памякчэў. —
Я б, глядзі во, з ёю і злюбіўся,
І па-людску зажылі б яшчэ…
Лялькаю была б. Павідла б ела,
Розную там панскую яду…
Мне зямлі цяпер хоць тры надзелы
Выбірай — любую аддадуць.
Ды і ты б, каб галавой кумекаў
І трымаўся за мяне ямчэй,
Стаў бы не апошнім чалавекам.
— Дзе ўжо мне… Не для маіх плячэй
Гэткія шнуры ды эпалеты…
— Дбай пра Зіну, покуль у цане.
Ці ў яе надзея на Саветы?
Думае, што вернуцца? О не!
Не дапусцім. А яна хай знае:
Ёсць яшчэ і гэткі варыянт:
З пункта А да пункта Б — прамая
Напрасткі дарога ў фатэрланд.
— Ну і што табе ў вясковай дзеўцы?
На тваім бы месцы я не браў
Са сваіх:
далі пасаду немцы,
То падкінуць нейкую і фраў.
А ў цябе вакансіі не будзе…
— Ты мялі паменей языком,
Дык паменей, можа, напаскудзіш
Сам сабе, бо Я цяпер закон.
Ён сядзеў — закон, — хоць і плюгавы,
Але страшнай сутнасці закон:
Забіваць, паліць, таптаць нагамі
Ўсё, што ў гэтым свеце ёсць не Ён.

Што смяяцца, думаць, плакаць можа,
Што па вольнай волі прарасло, —
Не ў ягонай мудрай агароджы
З частаколам кратаваных слоў.
З веку ў век —
высокі, непралазны —
Ён адною сілаю жыве,
Дзе на кожны слуп —
па сотні вязняў
І на кожны кол —
па галаве.

— Як скажу, па-мойму ўсё і будзе.
Наравістым падбяру гужы.
Форс няхай свой збольшага астудзіць,
Ну а ты ўжо ёй дапамажы.
Не цябе вучыць, як гэта робяць, —
Зад па лаўцы ссунуў з-за стала,
«Хайль» паміж зубоў мышына-дробных
Вылецеў у «пчолкі» з-пад крыла.
— Дык запомні… — і падаўся ў дзверы.
Праз акно ўжо бацька супыніў:
— Сваццю забяры сваю, халеру!
…каб ты з ёй павіс на рамяні…

## 20
## ЗБОР

Замірае кволым птушанём
Дух зярнят у восеньскім дыханні.
Дух зямлі агорне ўсё да рання,
І слядоў не знойдзеш днём з агнём.
Дух зярнят і дух зямлі — не ім
Сёння ў жнівень адлятаць з далоні:
Не ўзаўецца красавання дым,
І жаўрук вясёлы не зазвоніць.
Дух зярнят і дух зямлі праз ноч —
Не для новых парасткаў яднанне.
Крылы апускае цёмнай зданню
Цішыня абманная наўзбоч.

Выпаліла сэрца без агню,
Без марозу гэта невядомасць.
І ля цёплай хаты, як бяздомны,
Ён стаяў. Стаяў не ўпершыню.
Ды такім бяздомным, што за век,
За нялёгкі свой, не быў ніколі.
І не знаў: пакуты ўласнай воляй
Вымярае кожны чалавек…

Даланёю зачарпнуў зярнят,
Нахіліўся бацька, і панюхаў,
І на зуб узяў: «Здаецца, суха,
Не залезлі б толькі мышы ў спрат…
Во цяпер на свой ваенны збор
Фігі вытрасайце па кішэнях», —
І яшчэ схіліўся раз да жмені,
Нібы слухаў жальбу ці дакор.
І перапрашаў, і думаў ён:
«Дзе ж хоць кропля сэнсу ў гэтым пекле?..
Маўчыце, нібы язык адсеклі.
Ці і ваша праўда — толькі сон?..
Чуеце, зярняты, я да вас:
Пэўна ж, ёсць надзея, — адкажыце…»
Цішыня. Як голас, што не ў жыце
Вырастае праўда ў гэткі час.
Што не заарэш у баразну
Сэнс вайны вялікі і страшэнны.
Праўда зерня стала на калені,
І няма надзеі на вясну…

Знае толькі вечар, толькі я
Знаю, што збылося пад ігрушай,
Ды патайку маладзік парушыў,
З Васілём хвіліну пастаяў.
І схаваўся. Пэўна, зразумеў,
Што залішне цікаваць не трэба.

Дух зямлі зліваўся з духам неба.
Лістапад азябла бранзавеў.
Зерне бацька закапаў, а збор
Наваліўся з іншага кірунку —
Вытрасаць прыехалі не клункі:
Здаць кажух павінен кожны двор.

Возьме і валёнкі немчура —
Наўзамен, і цёплую вушанку, —
Пойдзе ўсё, абы павысіць шанцы
Ледзяшом не загрымець у рай.
Вунь стаіць такі адзін. Яшчэ
І зімы ўсяго — са снегу крупы,
А ў яго ўжо з дзвюх свісцёлак хлюпаць
Пачало, аж на губу цячэ.
Мы яшчэ гадаем: басанож
Цыгнуць ці шукаць які абутак,
А ў яго за пазухаю люты
Выганяе з цёплай хаты вош.
А калі завея загудзе
Ды мароз на сем кален ударыць?!

Цяжка, цяжка немцу гаспадарыць
У дзікунскай гэтай чарадзе.
Дзе сістэма? Дзе які рэжым?
Ні табе законаў, ні парадку…
Нос прыкрыеш — стукнуць па азадку, —
Стой над кулямётам і дрыжы:
Ці адтуль, куды нацэлен ён,
З тых кустоў, прасуне хтосьці рулю,
Ці з-за тыну ўсадзіць раптам кулю?..
Не жыццё, а д’ябальскі праклён.
Цыгарэтку немец суне ў рот,
Пальцы зябка гнуцца для паслугі,
Падае з пачырванелай глюгі
Кропля на застылы кулямёт.
Ды пагрэцца ёсць усё ж намер
У абодвух: немцу й кулямёту
Атрымаць спаўна сваё ахвота:
Ці кажух, ці спапялення звер.
Ён ужо абнюхвае страху,
І вуглы, і сцены крайняй хаты.
А за ёй — над кожнаю дзесятай
Вогненную вызначыў вяху.
Крайняй — значыць, нашай, як заўжды.
Потым перабраць было ўжо лёгка:
На другі дзесятак падаў Ёха,
Сілівей — на трэці… А тады…
Ды лічыць далей Васіль не змог:

Ля варот спынілася фурманка,
І, штурхнуўшы дзверы, проста з ганку
Трыханок гукнуў цераз парог:
— Што — чакаеш пеўня пад страху?!
Падпякуць!.. Як жабу на агнішчы.
Ці табе ладней на папялішчы
Будзе зімаваць у кажуху?
— Дзе кажух? Які цяпер кажух?
Быў, ды ў немца абмяняў на газу.
— Ты мне не адбрыквайся, зараза,
Лепш нясі, пакуль дабром кажу, —
І пабег. Як уцякаў з агню,
Як пачуў, што ўжо нясе гарэлым,
На каня галёкнуў азвярэла…

А Васіль пайшоў на паграбню.

Цеплынёй дыхнула жарало,
Як з накрыўкі пацягнуў кажару:
Будзь што будзе — мабыць, ад пажару
Неяк і ўратуецца сяло.
На дрывотню кінуў і дручком
Вытрасаў кастру і пыл з аўчыны,
Быццам шлункі выбіваў з нямчыны,
Што качаўся перад ім нічком.
То каротка ўрэжа па гарбе,
То ніжэй лапатак перацягне, —
Хто ён там: ці Кант які, ці Вагнер —
Кожнаму загрывак паскубе!
Водгулле за вёскаю плыло,
Бы дручком нямецкі дух адвейваў.
Хто ён там: ці з фугай, ці з ідэяй —
Іх для Васіля як не было.
Іх не знаў Васіль. Адно крыху
«Пакуміўся» з немцам у акопах.
Ды цяпер яшчэ во… —
                                        І з прыхлопам
Зноў дручок хадзіў па кажуху.
І душу адводзіў і руку —
Біў Васіль, як цешыўся: са смакам.
Прымаўляў:
                         — Так і стрыгуць сабаку:
За хваста — ды палкай па баку.

І пад пахай — на абшчынны воз,
Што стаяў ля Лосікавай хаты,
Нёс Васіль аўчынную адплату,
Водкуп нёс — ваенны той узнос.
Па дарозе Ёха супыніў,
Задзівіўся:
 — Дык і ты на пару
З Трыханком здаваць апратку шпарыш?
— Шпару, каб не скварыцца ў агні.
— Што ж, пагрэй дублёнкай немчуру,
І яны цябе, глядзіш, прыгрэюць.
А па мне — няхай там дзервянеюць:
З гэтакіх лягчэй здымаць кару.
— Ды заткнуць жа глотку гадаўю
Хоць ашмоццем трэба?.. Па сакрэту…
Плюнуў Ёха і расцёр:
 — А гэтак
З кажухом і душы прадаюць.
— Ды паслухай ты: во развяжу
Свой сакрэт — глядзі… Чырвоны грэбень
Каб не ўскінуў певень, я з прыгрэб'я
Накрыўку нясу, а не кажух, —
І Васіль той скрутак разгарнуў,
Збіты з дзюрак, дзюр і латак дробных. —
Ён ім адагрэе ўсім вантробы,
Ён паможа завяршыць вайну.
— А дарэмна з пограба валок…
— Ну а ты як? Падпякуць жа мігам.
Засмяяўся:
 — Падпякуць? А фігу!
Я лічыў: дзесяты Трыханок.
— То хіба ж сябе падпаліць ён?
Не, брат, песню ты пяеш не тую.
Ды і хто твой хорам уратуе
Ад пажару — дзе такі заслон?
— Во! І я кажу: адзін клубок, —
Ухапіўся за падказку Ёха. —
Тут ужо абодвух спляжыць чохам.
Хай пячэ!.. І свой падсмаліць бок.
Павярнуўся Ёха і на двор —
Як бы нават весела — пакрочыў,
Як сказаў: паддайся так аднойчы,

Пусцяць, нібы ліпку, на абдзёр.
Не сцярпеў, з-за веснічак дадаў:
— То нясі, калі нясеш, — ратуйся.
Толькі ўжо хоць гэтак не пластуйся:
Не галоўная яшчэ бяда…
Як для нас, яно, і тут вайна,
Ну а мой жа там, пад малацьбою…
Што ж ты хочаш, каб і я з табою
Супраць сына немца апранаў?
Трыханок таксама панясе:
Цэлы воз дабра прыгнаў з блакады.
Ды спажыць ці ўдасца?..
Як ад гада,
Людзі адварочваюцца ўсе.
Вунь да Мотры ўнаначкі палез,
Хустку прывалок на падарунак,
Дык турнула з хаты:
— Свой рабунак
Іншым пасулі на інтарэс!..
Нават Мотра!..
Наўздагон Васіль
Не сказаў нічога. Ды і Ёха
Клямкай бразнуў, як адсек упохап
Словы ўсе, апроч: «Нясі, нясі…»
І пайшоў Васіль суняць падпал,
Нёс кажух па вуліцы пустэльнай,
На падмерзлы дол, як на патэльню,
Дабяла нагрэтую, ступаў.

Даўнавата не хадзіў сялом —
Загароддзем больш ды загуменнем:
Восенню дажджыла, па калені
Лужы ўсцяж Узбор'я наліло.
Размясілі гразь, што не прайсці.
Ды цяпер марозам падцягнула,
І зямля напоўнілася гулам,
Лёд іскрыста лужы замасціў.
Коўзанка амаль з канца ў канец…
Ногі каля тыну ў Сілівея
Як падсекла, ды ўтрымаўся неяк,
Толькі прасла храснуў ля сянец.
— Ах жа, хрэн табе на каўбасу!

Наварочаў Сілівею шкоды…
Ну, а той — нібы чакаў нагоды:
— Зараз во — збіраюся, нясу, —
Дзверы адчыніў, пазнаў:
                                        — Васіль?
А я думаў, гэта ўжо страляюць… —
От жа, — цмокнуў, — на хамут быў лямец!..
Ды і сам сто год яшчэ б насіў… —
На валёнкі сумна паглядаў
І казаў, як быццам тыя чулі:
— Гэта ж вас яшчэ прыладзь у чуні,
Дык ні снег не страшны, ні вада.
Чуні ў Сілівея — проста шык:
Склееныя з камеры ваеннай,
Нават з дзвюх. Затое і ў паўцэнак
Абышліся: бульбы два кашы.
Чорны чунь — на левай шыкаваў,
А на правай — быў з чырвонай гумы.
Мог і памяняць, але, каб тлуму
Не займець, парадак не ламаў.
Як завёў — хай будзе. Балазе
Па-салдацку вызначыць не цяжка
Правую нагу
                    і без прамашкі
Адказаць, дзе левай быць назе…
— Дык і я з табою паскачу, —
Да грудзей хінуў свае валёнкі
І прыцмокваў Сілівей:
                                        — Галёнкі
Не нагрэе гэты чортаў чунь…
Скок ды скок па грудзе, па лядку —
То чырвоным каўзане, то чорным:
— Гэта ж я збіраўся іх учора
На валёнкі… А цяпер кукуй… —
Уздыхнуў:
                    — Цяпер во ледзяней
Ці на печ бяжы адтайваць пяты…
Хоць бы адкупіцца неяк з хатай,
Хоць бы тая печ была пры мне. —
І падсоўваў як мага шчырэй
На фурманку збіты свой абутак:
— Во, насіце…
                              Глянуў Лосік крута:

— Прэч адгэтуль, стары вычварэнь!
Ну а той з нагі садраў свой чунь:
— Сам во босы: костка азалела.
— Прэч, кажу, пакуль жывы ды цэлы.
— Айн мамент, таварышок, лячу!.. —
Мільгануў азяблаю нагой:
— Во цяпер і чунь якраз да пары:
І нагу нібыта хто апарыў —
Чырванее…
                    — Я сказаў: бягом!..

Рады Сілівей: валёнкі ўпёр
І цяпер не лічыцца дзесятым.
І Васіль адвёў агонь ад хаты,
Хоць не дужа — на суседні двор.
Праўда, зазлаваўся Трыханок,
Як прыбег да воза ды агледзеў:
— Хочаш адыграцца на суседзях?
Што ты мне рыззё тут прывалок?!
— Новага цяпер няма нідзе —
Выбачай, — Васіль адводзіў вочы.
— Ну а ты? — да Лосіка падскочыў
Трыханок. — А ты куды глядзеў?
— Пан жа немец, пэўна, не драмаў,
Правяраў таксама, — буркнуў Лосік. —
Ад агню — не проста ж так прыносяць…
Пойдзе ўсё, як лепшага няма.
— Пойдзе, пойдзе… Зачапі на сук —
Пудзіла адно з такой апраткі.
— Ты крычы, ды не ламі парадку:
Хай пакуль што іншыя нясуць.

І пайшла дзесятка па сяле
Пераскокваць вогненнаю метай,
І ніхто не быў ахвоч пры гэтым
Знацца з госцяй: адсылаў далей.
Сцягвала абшчынна шыі ўсе,
Як пятля, парука кругавая:
Адкупіўся сам — сусед згарае,
Калі збор у час не прынясе.
Ад сябе той кумар адпіхнуў,
Дык сусед лічыцца стаў дзесятым.
А пачаць агню з якое хаты —

Чорт адзін, бо не ўзвядзеш сцяну.
Так падворна шастала бяда,
Гнала здань пажару над абшчынай.
І калі ўжо ты ўсяму прычына —
З плеч здымі, апошняе аддай.
Неслі немудроны водкуп свой,
Толькі б хаты неяк ацалелі…
Трыханок аж прогся: «На калені
Ўсіх пастаўлю: час прыходзіць мой!..
Будзеце ля ног ніжэй травы —
Вось ля гэтых — высцілацца шоўкам…»
Перад немцам капытамі шчоўкнуў:
«Хай пабачыць, перхаль тылавы,
Што і мы тут не апошні хлам».
— Во кажух, а во яшчэ валёнкі!..
Сцепануўся немец, як спрасонку,
Ад знабы з агідай папалам…
— Гэта асабіста ад мяне —
У імя вялікай перамогі! —
І дадаў: — Аднак не шкодзіць рогі
Збіць тут аднаму — і як раней!
Каб на сабатаж не падаваў
Для абшчыны прыкладу дурнога.
— Сабатаж? — тут немец глянуў строга,
Хоць пры возе быццам і драмаў,
Хоць не ўсё і зразумеў.
                    — Я-я, —
Трыханок падтакнуў па-нямецку,
Спіс узяў, алоўкам нешта спэцкаў,
Перакрэсліў, быццам крыж стаўляў.
— Вось ён — гэты, — немцу паказаў
Прозвішча, памечанае ў спісе, —
Сабатажнік… —
                    Лёд падковай высек,
Патранташ тужэй падперазаў:
— То які загад аб’явіць пан?
Да сцяны? Ці проста ўзяць пад арышт?
І трушком паперадзе пашпарыў,
Хоць пакуль што і не ўцяміў план.
Бо якраз пагрэцца завярнуў
Да пляцёнай бутлі перакладчык

(Трыханок гасцінна ўсё прадбачыў.
Ды і сам не першую глынуў)…

Так да Ёхі той паборны воз
Падкаціў, спыніўся ля падворку,
І талмач прыбег, навёў гаворку —
Адагрэты, аж іскрыўся нос…
— То які загад?..
Які загад:
Змыўся Ёха, перакрэсліў планы.
Трыханок звярэў:
— Не выйдзе!.. Танна
У мяне не выкруціш свой зад.
Толькі дзе і як той зад шукаць:
Змыўся Ёха — і сляды прастылі…
А загад? Загад ранейшы ў сіле:
Збор не здаў — паліць, а не страляць.
Гэтак перакладчык і давёў
Непахіснасць немцаву і волю.
— Як паліць?! Ды то ж не ў голым полі:
З ім жа во і я ўпрытык здавён! —
Трыханок тлумачыў згарача
Немцу з яго пэўнасцю цвярозай.
А тады пусціў апошні козыр:
— Во кажух — з уласнага пляча!
Гэта за яго няхай ідзе.
А пасля — звядзём і тут рахункі.
…Загуменнем, цераз ноч, з-за пунькі
Выйшаў Ёха, як займаўся дзень…
Мякка і нячутна падаў снег
Светлаю і гулкаю абновай.
Прарыкала ў цішыні карова,
Адазваўся ёй сабачы брэх…
Белым-белы хорам
ад зямлі
Аж да неба разгарнуў прасторы.
І нідзе ні слёз няма, ні гора.
Ды і ці былі яны калі?..
Толькі гэты адзінокі рык —
Што ж ён паласнуў такой жальбою?
Што ж ён сэрца сціснуў гэткім болем,
Быццам аб ратунку ўмольны крык?

І прыспешыў Ёха нацянькі:
«Што ж гэта пяклуецца Падласка?
Ці сышоў мурог з мядовай краскай
І падкінуў нехта асакі?
Ці прашастаў воўк за хлеўчуком
І на ўзвейку дух драпежны стыне?
Ці заспала раптам гаспадыня,
Ля дзяцей прыткнуўшыся бачком?
А ці ўжо даіць няма каму
І ніхто не просіць сырадою?..»
Галасіў Падлашчын рык бядою,
І сабака тураваў яму.

Ёха ўзбег, задыханы, на двор
І асеў ля весніц на палена:
Пуста, глуха, снегу па калена —
Толькі след мышыны, як узор,
З-пад сянец, дзе на дзвярах замок
Прычапіўся…
                    Ёха ўстаў, паляскаў…
І адтуль — ад Трыханка — Падласка
Рыкнула…
                    «Дабраўся, крывасмок…
Але што ж я тут…
                    А дзе ж яны?
Дзе яны ўсе? — схамянуўся Ёха. —
Што ж я тут… — шапнуў ён перасохла. —
Во замок… А жонка дзе, сыны?..»
Вуліцаю бег — яшчэ здалёк
Васіля прыкмеціў каля студні, —
Неяк сам сабой пайшоў марудней,
Нават пацвярдзеў як быццам крок.
А Васіль рукою ўжо махаў:
— Ды ў мяне твае: баяцца дома…
І Падласка ў новыя харомы
Перайшла — заместа кажуха…
— Гэта ўжо я сам во толькі чуў,
Ды было, скажу, не да каровы…
Дзякуй, што ўсе жывы і здаровы, —
Аж святлей зрабілася ўваччу… —
Усміхнуўся Ёха. — Нават снег
Быццам во бялейшы стаў, як глянуць…

А прыбег — паверыш, ногі вянуць…
— І далёка ты куды забег?
— Ды было… З гарачкі ірвануў
Аж за дваццаць вёрст, калі не болей.
Нават не падумаеш ніколі:
Аж туды, у зону, збег…
— Ды ну?!
— Вось табе й «ды ну». А я за ноч
Злётаў аж туды за дапамогай.
Ды з начальства не сустрэў нікога —
Павадзілі дзесьці так, наўзбоч.
Пэўна, правяралі: што ды як…
Я кажу: «Ад Трыханка ратуйце…»,
А яны сваё: «Не агітуйце:
Рана ў тую пастку нам, зямляк.
Днём не скочыш у такі мяшок,
З гарнізонаў ды заслонаў сшыты…»
А адзін аж ускіпеў сярдзіта:
«Прыйдзе час! Сатром у парашок.
Толькі самі не сядзіце там:
Чуйцеся, як дома — не ў палоне».
Гэта нейкі быў, відаць, з галоўных
І яшчэ во пра цябе спытаў:
«Як ён там — на печы ўсё ляжыць? —
І ўсміхнуўся. — Немцы мігам згоняць.
Дужа хісткі, кажа, пуць ягоны:
Каб не здрадзіў, як захоча жыць…»
«Камісар?!» — здагадка неўспадзеў
Сцяла дух, бы вышыня крутая,
Ды звярнуў Васіль:
— А як спытаюць,
Дзе ты быў?
— А ў стозе прасядзеў…
Снег асенні — як трывожны сон:
Цёплым ветрам над зямлёй дыхнула —
І сплывае ўсё з вясновым гулам.
Цёплы вецер…
Што прарочыць ён?..

## 21
## СЦЯЖЫНКА

Мы ўсе адтуль, мы ўсе з вайны —
Яе рабы, яе сыны.
Яшчэ і сёння ў цішыню
Ідзём адтуль — з яе агню.

Пакуль не грымне новы бой,
Не ўдарыць новы боль, —
Бяссоннем памяці — яна
На ўсіх адна: вайна.

Яе крыла смяротны цень,
Што нада мной ляцеў,
Яшчэ і ўнук і праўнук мой
Адчуюць над сабой.

Як злы праклён праз пяць кален,
Праз небыццё, праз часу тлен, —
Гарыць на скронях сівізна
Ва ўсіх адна: вайна.

Мы ўсе адтуль — бацькі, сыны…

А ён — з магілы, як з вайны.

Зямлю капаў, раўняў брыжы:
Збіраўся доўга-доўга жыць.

Як хату ладзіў — на вякі,
Каб і прастор на ўсе бакі
І павярнуцца дзе было,
Як людзі прыйдуць «на сяло» —
Памужаваць, пагаманіць
І чаркай новы свет абмыць.

Але ці будзе там яна?..
Усё падчысціла вайна…
Во, браце мой, ажно туды
Забралася вяршыць суды.

А хто ёй права гэта даў —
Чапаць да страшнага суда,
Трывожыць векавечны сон?..

А можа, памыліўся ён?
А можа, там яе няма:
Заслон магіл вайну стрымаў?..

Напэўна, ўсё ж там цішыня…

Вось толькі як сюды радня
У госці прыйдзе да яго:
Дзе тыя могілкі — ого… —
Як свет не той усё адно, —

Зірнуў, а ўжо і не відно
Прыстанку вечнага бацькоў,
Дзядоў, суседзяў, землякоў…

І толькі з ямы ўгледзець мог
На стрэхах ззелянелы мох
Ды веццe голае прысад…

Капай глыбей, хавайся, брат…

Васіль трызненне адганяў,
Хоць добра ўжо і сам не знаў:
Ён зараз ТАМ ці ТУТ яшчэ?..

Цячэ пясок… Як час, цячэ…

З рыдлёўкі — дні, гады, вякі.
Вышэй, вышэй узмах рукі…
Зямны надзел — глыбей, глыбей.
А неба ўсё вузей, вузей…

Астылы дол. Апошні ліст —
Бярозы крык. Рыдлёўкі бліск.
Капай, задуху перасіль,
Капай жытло сабе, Васіль.

Упершыню ты хлеб чужы
Прыйшоў адведаць на крыжы.

Ва ўсіх работах быў, як Бог, —
Адну рабіць не мог:
Араў, касіў, лажыў стагі —
Не мог капаць магіл.

Капаў траншэі, рубяжы,
Зямлянкі — пагарэльцам жыць,
Калодзежы, ставы капаў
І грэблі насыпаў…

А вось прыйшлося на вяку
І тут прынадабіць руку.

Каня сталёвага — у дол
Загнаў…
                І жыта пяць пудоў
Прысыпаў на худы памол.
Цяпер і сам туды — у дол.

Капай глыбей адвечны спрат,
Шляхоў адтуль няма назад…

Адну сцяжынку выдаў Бог,
Але на ёй ты жыць не мог.

…Яны прыехалі ў абед:
Адрузлы немец-кураед,
Два паліцаі і вазак —
Не толькі з лейцамі, аднак.

За імі — наразмашку хлыст —
Скакаў вярхом прапагандыст, —
Так сам сябе іменаваў,
А як ён прапагандаваў,
Пра тое болей ведаў хлыст —
Галоўнейшы прапагандыст.

Васіль умомант зразумеў,
Што справу кепскую займеў…

Аж тарганулася рука
З хлыстом нервовым:
                                — Дзе дачка?

А дзе дачка — ідзі шукай…

— Яна ў гасцях, у сваяка.

— Ці не ў таго, што кліча ў лес? —
З каня рыўком дадолу злез,
Халяву паласнуў хлыстом.

Ты не круці мне тут хвастом. —
Я знаю гэтых сваякоў.

Ажыў і немец:
— Матка, ком, —
Паклікаў пальцам, — яйка, шпэк…

«Каб ты наеўся ўжо навек, —
Ды ўсё ж палезла мама ў срат. —
А можа, памякчэе, гад…»
У попеле ў старым гаршку
З дзесятак яек на палку
Ад ласых, збродлівых патраў
Бярогся для пільнейшых спраў.

Яны і выплылі на свет…

— А камсамольскі дзе білет
Дачка хавае? Чуеш, ты?
Ці лекаў даць ад нематы? —
І хлыст апёк шчаку агнём.

— Ну! Не прыкідвайся ягнём.
Да сценкі! — гаркнуў. — Што і як
Успомніш момантам!..
— Я, я, —
Затакаў немец, — партызан
Страляйт…
Хусцінку падвязаў
Пад бараду,
губу прыцёр
І яйка цокнуў аб затвор.

Шкарлупку ногцем калупнуў,
Для спробы каліва глынуў
І раптам зморшчыўся…
Размах —
І яйкам па бандыту:
— Бах!
Відаць, не свежае было…
Зайшоўся смехам.
— Ах, мурло! —
Напружыў бацька сілы ўсе —
Рывок — і на траву асеў.

Збіваць умеў прапагандыст…

Крыжы… Бяроза… Жоўты ліст…

— Вось тут капай.
Калі дачка
Не з’явіцца — дзядоў гукай.

Прасіла мама:
— Пан, бяры —
Во певень ёсць яшчэ ў двары…
Пытала мама:
— А за што ж?..

Смяяўся немец:
— Кур карош!..

Капай глыбей, хавайся, брат…

Глядзіць у яму аўтамат:
«Ці шмат яшчэ таго жыцця?»

А Васілю як і няўцям,
Каго пытаў, каму грязіў
Чужой сістэмы чорны зірк…

Карцела думка неўпапад:
«Якой жа маркі аўтамат,
Што рылам пнецца да плячэй?..»

Цячэ пясок… Як час, цячэ.

Адстаў, адстаў былы салдат, —
Нічога ўжо не знаеш, брат…

Чужы з чужымі на адзін,
І свой адвернецца, глядзі…

Не здрадзіў быццам, не забіў,
Ды волю вольную згубіў,
Скарыўся духам…
Чуе, гад,
Той невядомы аўтамат,
Пацвельвае: «Капай, капай,
А там — знаёміцца давай».

Нібыта ўжо так важна знаць,
Якой сістэме дзякуй слаць,
Што ўміг ад свету адсячэ…

Цячэ пясок… Як час, цячэ.
Цячэ з рыдлёўкі ў Васіля…

Сістэмы робяцца пасля.
А наперш быў шалёны крык
У Мюнхене пра Kampf і Krieg.
Над рыжым куфлем — белы чуб.
Над чорным Рурам — зеўрань труб.
Хмель узбіваў трыбун піўны.
Кіпела сталь: «Вайны, вайны!»
Чакала сталь такіх сістэм,
Каб сцвердзіць бюргерскі эдэм.

Яму і дзякуй. Гэты рай
Глядзіць у яму цераз край.

Цячэ пясок… Як час, цячэ.

На фронце — там яно лягчэй.
Там сіла страшная нясе:
Там не адзін ты — там усе
І ты з усімі: бі, страляй,
Ідзі ў атаку, адступай…
Ні жонкі там і ні дзяцей —
Там ясна ўсё. Там, брат, лацвей…
Там як часцінка ты ў віры:
Даюць каманду — хоць памры,
Хоць выжыві — свая бяда,
І страх — як з гусі той вада.

А тут — адзін, і сіла ўся
Ў табе адным, а вунь вісяць
На шыі хата і сям'я,
І сіла дзеліцца твая
На ўсіх — па кроплі акурат…

Капай глыбей, хавайся, брат…

Ва ўсім суцеха, што душа
Не збэшчана на барышах,

Што не прадажная яна —
Свая, апошняя, адна.

Цячэ пясок… Як час, цячэ.
Адна хвіліна ёсць яшчэ…

Капай глыбей, хавайся, брат…
Адна сцяжынка ёсць назад…

Яе ніхто не мог стрымаць,
Ніхто не мог ўратаваць,
Ніхто не мог адгаварыць —
Сама ляцела ў кіпцюры.
— А татка родны, любы мой,
Бяры й мяне!.. мяне з сабой…

Схапілі Зіну, павялі…

Вылазь, Васіль, жывы з зямлі —
На два гады яе пакут:
Вылазь чыніць над бацькам суд…

А ты, дачка, пазыч віны,
Пазыч у бацькі сівізны…

## 22
## ВЯСНА Ў СНЯГАХ

Ішоў вусаты чалавек, —
Мы зналі, хто так ходзіць:
Усцяж палёў, лясоў і рэк —
І ў сцюжу, і ў разводдзе,
І ў гуле жніўнае пары,
І майскім ранкам траўным,
І ўдзень, і ўноч, і на зары —
Паходкаю дзяржаўнай.
Ішоў вусаты чалавек —
Надзея ўсіх народаў:
На цэлы свет, на доўгі век, —
Нязменнейшы і родны.
І стогадовым, і малым —
Ён быў заўжды адзіны

Усім настаўнік, бацька ўсім —
Не быў нікому сынам.
Мы ведалі яго партрэт
У гэтакай паставе.
І ледзь не кінуліся ўслед:
— А раптам гэта Сталін?!
Ды каб з-за нас, з-за недарэк,
Не вызналася тайна:
Хто ён — вусаты чалавек, —
Стрывалі мы адчайна.
Тугой застылай з-пад павек
Глядзелі ўслед знямела…
Ішоў вусаты чалавек —
Да веек заінелы…

Пяршак-мароз быў у гульбе
Учэпісты і прыткі:
У горле дзёр і на гарбе
Тапырыўся пад світкай.
Ступаў мацком ад берагоў,
Лёд мацаваў на стрыжні,
А потым коўзацца бягом
Імчаўся з промнем рыжым.
Як бы адгульваўся траскун
Пасля адлігі млявай
І ў Начы выганяў з пяску
Пячкурыкаў-малявак.
Не грукатаў у сто грамоў,
Ваду не тоўк у ступе —
А ладзіў нам падлёдны лоў
І шчупакоў вышчупваў.

Яны хадзілі, як пад шклом,
У прозелені сіняй…
Вось тут злаўчыся — і калом
Лупі, што маеш сілы!
І скаланецца звонкі лёд,
І ў цішыні працятай
Хіснецца белізной жывот —
Надзей рыбацкіх свята.
Пакуль аглушаны шчупак
Не ладзіць з плаўнікамі,

Лёд прабівай — і проста так
Бяры за хвост рукамі.

Ён момант нейкі паляжыць,
Як выхапіш з палонкі,
Ды нібы ўспомніць: «Трэба жыць!»,
Пачне ірваць пастронкі.
Спружыніць, выгнецца дугой,
Джганецца на паўметра
Уверх маланкаю тугой,
Як дасць нырца ў паветра.
Ударыць моцным плаўніком,
Шукаючы апоры…
Яшчэ раз узляціць рыўком —
І аціхае ў зморы…

Хоць не сказаць, што шчупакі
Ішлі пад кол пудамі,
Ды мелі ўлоў такі-сякі
Мы з дзядзькавым Адамам.
Я выглядаў, а ён глушыў,
На спробу лёд падзыбваў:
Калі ўжо той на ўвесь аршын —
Якая, браце, рыба…
Тут гэтак толькі і лавіць:
Па першаку-марозу,
Калі пакрэктвае, звініць
І гнецца лёд з пагрозай.
А ўжо як дно праз дым відно —
Дарма калом не бухай:
Шчупак не чуе на адно,
Другое — глуха вуха.

Цяпер жа — самая пара
Была на гэты спосаб:
Лёд — пальцы ў два, а на вірах
Таней, ды моцы досыць.
Трымае, як нічком паўзеш:
Лёд з восені — хаўруснік,
Надзейны лёд. Ды абамрэш,
Калі пад локцем лусне.
І ў суцяшэнні сэнс малы —
Як пачынае вухкаць:

«Вясною тоўсты, ды гнілы,
А зараз крэкча пругка…»
Дыханне здрадлівай мяжы:
Ляжыш, а жылкай белай
Па лёдзе трэшчына бяжыць —
Як адразае бераг.
І не стрываеш: нібы рак,
Хутчэй назад пластуеш…

А што шчупак? А ён і так
Пакіне прорву тую.
Ён выйдзе жыраваць на плёс,
Як цень, з віроў цямнотных, —
Яно не лішняе ў мароз…
Дый пагуляць ахвота,
І пасваволіць, і пакпіць
На дне з карча старога,
І сонца трошачкі ўхапіць —
Няхай сабе й скупога.

Плыве — і я над ім паўзу.
Прыціх — і я спынюся.
Цікуе ўклейку-драбязу…
Не, передумаў, мусіць…
Ну што ж, яшчэ не ўгаладаў,
Чакае большы кавал…
А гэта што за барада?
Дзе і каго шукала?..
Шчупак узнаў. А я дык не.
Гляджу… А каб ты згінуў! —
Ды гэта ж корань-плывунец
Зашыўся так у ціну.
Сам травяны, але ж усмак
Жучкоў глынуць умее:
Лісткі нацэліў наўскасяк
Многаязыкім змеем.

Плыве далей шчупак на мель,
Здабычу выглядае,
Пажухлай раскі жаўтазель
Хвастом тугім гайдае.
І ўжо, здаецца, на мяне
Уставіў хіжа вока.

І ўжо Адам акамянеў
І кол занёс высока…
І тут — вусаты чалавек.
Ішоў сабе па грэблі,
А нас ад лову як адсек…
— Дамоў збірацца трэба… —
Няпэўна працягнуў Адам. —
Ці ўсю паловіш хіба?
І я — рашучасці паддаў:
— А чорт з ёй, з гэтай рыбай!..
Сабе во большую бяры, —
Я знаў, што дзядзька Змітра
Спытае: «Як там, у віры? —
Застаўся самы хітры?»
Дык хай не думае, што мы
Такія ўжо разявы:
Хоць шчупакі і не самы,
Ды ёсць во для заправы.

Прыспешваў, падганяў сакрэт:
Сігалі мы з Адамам —
І ўсё каб трапіць след у след
З Ягонымі слядамі.
За Ім — ляцелі стрымгалоў,
Як ветрам несла ногі.
Прыбеглі з тайнаю дамоў,
А там — ніхто нічога…
А там — усё, як і было,
І знаць не знаюць нашы,
Што Ён ішоў цераз сяло…

— Глядзі, як лупіць кашаль!..
Напоўзаўся да цемнаты,
Ссінеў, як пуп гусіны…
На печ залазь, бяры шманты, —
Загнала маці сілай.
— Накрыйся добра там, казак,
Грэй на чарэні пяты…

І што казаць?..
Я не сказаў —
Нікому. Нават тату.
Маўчком узгробся я на печ,

Адвару выпіў кубак…
Ну а сакрэт — такая рэч,
Што языкоў не любіць.
Маўчу… Няхай сабе, няхай
І не аб тым гаворка,
І памыліўся я няхай,
Ды крыўдна ўсё ж і горка…

Ішоў вусаты чалавек
І меў свае патрэбы.
Ішоў, як ходзяць з веку ў век
Пад гэтым вечным небам.
Як пасмяяўся: «Я не я,
Зусім не той, а гэты…
І хата з краю тут мая,
Што я вам не з партрэта».
Ішоў вусаты чалавек —
Ніхто і не прыкмеціў…
А нас пакінуў, як на здзек,
У гэтым страшным свеце…

Аднекуль вечарам кажух
З'явіўся.
Тата з краю
Прысеў, сказаў:
— Ягоны дух
Прастуду выганяе.
Ён з печчу, браце мой, радня
І самы першы лекар:
Прасмаліць косці — і да дня
Зноў станеш чалавекам… —
Накрыў мяне:
— Ну, грэйся, брат…
Я пяткі ўпёр у чэрань
І ўсім царам і кум і сват —
Забыўся на вячэру.

Я плыў, як рыба… Я ляцеў —
Бо хто ж плыве ў паветры…
Як ціхі спеў, як лёгкі цень,
Лунаў над светам светлым.
Мне сонца вогненны прамень
У крылы аддавала,

І праразаўся весні дзень,
Як сон у снезе талым.
Той сіні сон, што з-пад зямлі
Нясе вясны цяпельца
І ствол зімы трасе ў камлі,
Звініць вясёлым шкельцам.
І ўслед за кветкаю звінеў
Жаўрук у небе сінім,
І сонцакрылага мяне
Маўчком лугі прасілі:
«Ты ахіні і абагрэй
Чаканне траў застылых», —
І я ляцеў —
шырэй, шырэй
Узмах напятых крылаў.
І ахінаў, і саграваў
Вясновыя надзеі,
І абуджалася трава
І здзіўлена глядзела:
Паміж мяцеліц і снягоў
Лугі ўсе затапіла
Вясна! — ні меж, ні берагоў…

І дагараюць крылы…

І ападаю я ў траву,
Жыву яе дыханнем,
Яе вясновасцю жыву
І вольным калыханнем…
Схіліўся хтосьці нада мной…
Ды гэта ж Ён, — няйначай!..
Мне прахалоднаю рукой
Лоб астудзіў гарачы.
Не абмануў, не абмінуў,
Зайшоў і ў нашу хату —
Цераз бяду, цераз вайну…
Я прахапіўся…
— Тата?!.
— Цішэй, цішэй, — ляжы, сынок.
Накрыйся во дзяружкай —
Ачахні, дай мне кажушок,
Перавярні падушку:
Змакрэла ўся…
З-за каптура

Я выглянуў на хату:
На самым цэнтры акурат
Стаяў хлапец цыбаты
І з бацькам прымяраў кажух.
— Во, бачыш: як уліты,
Сядзіць — не трэба лепш, кажу:
Як на цябе пашыты.
А гэты фрыцаў макінтош,
Ці як там імянуеш,
Кідай на пудзіла.
                — Ну што ж —
Цяпер паразімуем! —
І рукавамі па баках
Хлапец, як певень крыллем,
Заўзята лопнуў:
                — Ну, суќа,
Дастанем і ў магіле!
«Суќа», — во гэтак і сказаў
І памянуў кагосьці.
Кажух рамнём падперазаў,
Аж храбуснулі косці.

## 23
## ВЯРТАННЕ СУХАРА

Калі за акном пачынае залець
Поўнач і тухне газніца,
Маўчком узыходзяць на нашым стале
Хлеб і з бярости сальніца.
Да раніцы звыклі чакаць яны:
Вачэй не звядуць ніколі —
Сонца і воблачка ў небе вайны —
Бохан і жменька солі.
Чакаюць сустрэчы яны з сухаром,
З тым, што па лесе блукае…
Стук асцярожны ў шыбу, як гром,
Ударыць і пагукае.
Толькі калі — не знае ніхто:
Ні гэтыя двое, ні трэці,
Што чуе бяссонна, як снежным хвастом

Па вокнах шэрхае вецер…
Слухае бацька якую ўжо ноч…
Бохан чакае маўкліва,
Лічыць драбочкі сальніца наўзбоч…

Пытлюе мяцеліца мліва.
У сотні шуфляў да дня награбе
Сумёты, роўныя з тынам…

Чаканне, як мех, нясеш на гарбе:
«Даўно б завітаць павінны…»
Жывеш двайнікам — ахвоч не ахвоч, —
Разрэзаны напалавіну:
Нямецкі дзень, партызанская ноч —
Свая, хоць на дзве хвіліны.
Трывожная, похапкам, ды свая,
Як постук у чуйную шыбу.
Не ўспееш агледзецца, што і як,
А свет пацяплее нібы.
І пэўна-ткі праўда вялікая ёсць
У тым сухары скамянелым,
Што ў хаце заўжды, як жаданы госць,
Прывеціцца сэрцам збалелым.
Прывеціцца боханам на стале,
Прывеціцца жменькаю солі.
Хоць чорным быць сухару, але
Не быць адзінокім ніколі.
Свінцовая сіла — нявольнік-дзень,
Ды моцы ноч набірае:
Ад немца хлеб у зямлю ідзе,
А тут — на стале чакае.

Стукнулі двойчы, ціхутка зусім —
Як вецер шыбу пакратаў
І прашаптаў з марозу: «Васіль!..»
Выйшаў… Вярнуўся ў хату…
Ніхто за ім не пратупаў услед,
Як быццам усё здалося.
— Што гэта ты ўсхапіўся чуць свет?
— Нічога. Правесці просяць.
Не запытала, куды і каго:
Бохан і соль забірае —

Ясна зрабілася без таго,
Якая патрэба гукае.

Даўно забытая між дарог —
Дарога прашчураў — Нача:
То хмызнякі, то куп'істы лог,
То ўзвалак з сіўцом лядачым…
Летнік у свет гайдаў на чаўне,
Зімнік выносіў на санках,
А сёння ўласныя ногі ў цане:
Дарога ішла партызанкай.
Вецер-падвей у трысці галасіў,
Тырчаў расцяроб карчамі.
Папераздзе сцежку значыў Васіль,
Задыхана хлопцы маўчалі.
Дваццаць адбухалі снежных вёрст,
І ад Узбор'я дваццаць
Яшчэ адмахаць — калі наўпрост,
Каб да чыгункі дабрацца.
Васіль у роспыты дужа не лез:
Гэта ж не ў хаце з Ёхам.
І толькі тады, як пачаўся лес,
Загаманілі патроху.

— Гэта мы, бацька, даваць канцэрт
Сабраліся пад завею…
— Загад не забыўся? То збаў на працэнт
Разгон языка.
                    — Разумею.
— Во гэта не лішняе будзе якраз.
Ідзеш не на паляванне, —
Крыху пацяплеў асіплы бас.
— Дык я ж у агульным плане.
Ударым у бубны, а ты ўяві,
Як скачуць фрыцавы косці,
Ці, скажам, рукі яму адарві,
Як будзеш цягнуць у госці…

Хоць меў не шыкоўны час для размоў,
Дарогу ж усё-ткі згладзіў…
— Ну, дзякуй, бацька… Табе дамоў,
А мы тут самі паглядзім.
Заднюем, прыкрыемся на перадых,

А ты там — нікому ні слова…
Ускінем чарцей да самых святых —
Ужо і малітва гатова.
На во, трымай: калі ірване
Вогненны слуп увысі,
Тады ва ўзборскай сваёй старане
Па гэтай кантычцы маліся, —
Паперку падаў Васілю і сухар. —
Назад не малая дарога,
Дык пасілкуйся, бяры, гаспадар,
Намеснік хлебнага бога.

Ішоў. І сухар за пазухай нёс,
Нібыта кавалачак сонца,
Нібыта знак, што скарыўся лёс
Яму — Васілю-узборцу,
Што ён кагосьці ў сабе перамог —
Хоць сёння, хоць на гадзіну.
І праўда зярнят уступіла парог
Той праўдзе, што ўзбоч хадзіла.
Той страшнай і горкай, што смерцю наскрозь,
Крывёй і слязьмі набрыняла…
…А некаму ж трэба зламаць гэту вось,
Што коціць вайны навалу.
Упасці пад кола, налегчы грудзьмі,
Каб вывернуць з каляіны,
Каб супраць нелюдзяў стацца людзьмі, —
Нехта ж гэта павінен…
…Сам па сабе хацеў бы ты
Пражыць без вайны і здрады.
Ды ў свеце пануе закон круты
І ёсць нейкі страшны парадак.
Жалезнай пятой падамне,
як траву,
І праўды тваёй не спытае…

…Дык чым жа я гэта, мой браце, жыву,
Калі, як былінку, гайдае…
Ад горасных дум схамянуўся Васіль,
Аб выварацць збіўшыся з кроку…
«Отче наш, иже еси…»
Глядзеў на сябе, як збоку.
Нібыта не сам блукаў па вузлах,

А нейкі двайнік з люстра,
Што першы раз не хаваўся ад зла,
А выйшаў яму насустрач.
Што слепам, няўцямна, але адчуў
Страшэнны сэнс і вялікі
Гэтай вайны:
жыць — не як захачу,
А гэтак, як ён паклікаў.
І той, хто народжаны сеяць і жаць
Ды плугам аблогу дзерці,
Крывавую ношу павінен узяць:
Забіваць у імя бяссмерця…
І зноў спатыкнуўся: «Павінен?.. Я?..
О свет азвярэлы, о людзі,
Навошта ж і неба і гэта зямля,
Як вечна такое будзе?..»

Ішоў цаліком, напрасткі, наўздагадзь —
Ля трэціх, бадай што, пеўняў.
Брусы і Мачыла, Запруддзе і Гаць —
Чуццём вызначаў няпэўным.
То Нача падкажа той шлях без слядоў,
То вецер — у вочы жарствою…

На згонах крынічных з падталым ільдом
Прыснежаны пасткі завоін.
Над берагам — з вецця зацішных лазін —
Звісаюць сумёты-застрэшкі, —
Хоць рыбу не раз тут у ямах бузіў,
Ды гэту не вызнаў сцежку.
З-пад ног абарвалася, шухнула ўніз —
Як быццам нічога пад небам
Не стала: нібыта ў пустэчы завіс,
Няўцямна рукамі загрэбаў.
Падскочыў, схапіўся за брыж ледзяны,
Ды хрэснула зноўку апора.
Хлебнага бога валок вадзяны
Ў глухія свае каморы.
З-пад ног каўзануўся заглеены жвір
Падсечкай крутой пад кручай.
Мёртва дыхнуў глыбінёю вір
І лёс, як вяроўку, закручваў.
Локці раскрылена на каўзаце

Шукалі нагам палёгку,
А лёд па-здрадніцку храбусцеў,
А лёд абрываўся крохка.
Пазногці крывава ўразаліся ў брыж,
Натужна ірваліся жылы —
На дно Васілёву душу, як барыш,
Цягнула свінцовая сіла.
Не крыкнеш: «Ратуйце!..» А крыкнеш — ніхто
Не ўчуе: адкуль жа тут людзі…
Яшчэ раз намогся — і цяжкім пластом
На край навaліліся грудзі.
Замёр на імгненне: туды ці сюды? —
За куст ухапіўся аберуч…

Грэбся з вады, грэбся з бяды,
Грэбся Васіль на бераг.
Грэбся хвіліну… Ці ўсё жыццё?..
Ці вечна?.. — За бацьку і дзеда,
За тых, што першы палілі касцёр,
За нас і што прыйдуць следам.
Грэбся Васіль сам ад сябе,
Ад лёсу свайго, як ад здрады…

Знясілена падаў у снежнай гульбе,
Зноў узнімаўся і падаў.
Схапіў па-сяброўску ў абдымкі мароз,
Заціснуў, як абцугамі.
Здавалася бацьку, што рос ён і рос
І доўгімі дыбаў нагамі.
Нібыта чужыя былі яны:
Перастаўляў, як хадулі.
Нібыта ў нягнуткі, у ледзяны
Абутак яго абулі.
За колькі хвілін — увесь злубянеў, —
Грабіся, Васіль, грабіся!..
Армяк ад ветру крыссём звінеў,
Аб ногі бляшана біўся.
Адно ратавала: хоць падаў, ды бег
І сам сабе цвёрда наказваў:
Спынішся толькі ці сядзеш на снег —
Закасцянееш адразу.
І ў голым полі — жывы? нежывы? —
Як слуп, застынеш пад небам:

Ані падпора, ні знак межавы,
А так — без усякай патрэбы…

Пераваліўся цераз парог,
Калі ўжо добра заднела.
Хату не ўз’енчыў перапалох:
Глянула і абамлела…
Колькі разоў — не згадаць, не злічыць
Дзверы яму адчыняла,
Грэла з марозу, у грубку карчы
Весела падкідала.
Колькі разоў ён вяртаўся з дарог,
З плячэй атрасаў завіруху —
Радасны, дужы… А тут — на парог
Ступіў — і падкошана рухнуў…

Першай да памяці мама прыйшла:
Ціха пазваў: «Кулінка…»
Выцягнуць, вызваліць сілу знайшла
З-пад ледзяной скарынкі…
Няўцямна шаптаў: «Адчапіся, Захар…
А што ж гэта будзе цяперака?..»
З-за пазухі выпаў чорны сухар,
А следам за ім — паперка.

Яе разгарнуў я тады ўжо, калі
Тату адцёрлі, сагрэлі,
Сям’ёю ўсёй паднялі, давялі,
Паклалі, накрылі ў пасцелі,
Я побач сядзеў — прынесці вады
Ці так што падаць папросіць —
І бэкаў размоклай паперы дым —
Літар чарнільную просінь.

Варажыны-варагі —
Дзве рукі і дзве нагі.
Варажылі ворагі
Нас узяць нядорага.
Налажылі цэны мы —
Здорава пацэлілі:
Варажыны-варагі —
Ні рукі і ні нагі,
Галава адна на трох,

Зад і спражка «З намі бог».
Ну й жывецца ворагу —
Люба-дарага!

К вечару толькі вочы адкрыў,
Пазнаў мяне, і паклікаў,
І зашаптаў, як быццам хітрыў:
«Гэта я ўсё для прыліку…
Я ж, брат, здаровы — не плач у кулак:
Проста прыкінуўся трохі,
Каб уваліцца ў хату няўзнак
І жартам вас падпалохаць…»

Доўга трымаўся гэты «спалох»,
За бацькам цягнуўся следам.
З той вопраткі ён выдзіраўся, як мог,
Вылузваўся аж да лета.
З-пад снегу вылазілі травы на свет,
І ён пакрысе адтайваў,
І весніўся ў сэрцы зімовы сакрэт:
«З вяртаннем, сухар, з вяртаннем!..»

## 24
## МЕЗЕНЫ ПАЛЕЦ
*Балада няспаленай вёскі*

Асядаў на зломе дня за вёскай
Жніўнем далягляд іржыста-колкі.
Вечар ахінаўся адгалоскам:
«Ты не ві гняздзечка, перапёлка…
Ты не ві гняздзечка ля дарогі…»
Не, той песні сёння над палямі
Не спяваў ніхто. Яна з былога
Прарастала спаленымі днямі.
Тры гады, як тры тысячагоддзі.
«Да вайны» — нібы да нашай эры —
Думаем, гаворым, спім і ходзім:
Дух і час — усё вайною мерым.
Тры гады — праз трыццаць — б’юць навылет,
Тры гады крыві, агню, адчаю.

Тры гады — пад сэрцам вы застылі
І праз трыццаць будзіце начамі.
Перад вамі, што ў нябеснай сіні
Сталі чарадою аблачынак,
Перад вамі, Лідзіцэ, Хатыні,
Што апалі жменькаю дажджынак,
Перад вамі, спаленыя людзі,
Перад вамі, спаленыя хаты,
Радасці і сонца мне не будзе,
Перад вамі — вечна вінаваты.
Спапялёных вёсак грозны кворум, —
Як глядзець у гэты вочы смела,
Што палаюць акіянам гора
Над маім Узбор'ем ацалелым?
Як жа мне хадзіць па тым бетоне,
Калі ён на попеле замешан,
Калі ён — прыслухайцеся — стогне,
Як і звон, што ў коміне падвешан?
Узляцець над горыччу і гневам?
Не. Кружыць не змог тут нават бусел.
Я таксама: над Хатынню неба
Радасці крылом разбіць баюся.
Адкажыце: гэта боль ці здрада,
Што агнём не ўзняўся люд узборскі,
Што не змог я расказаць баладу
Пра Узбор'е — спаленую вёску?..
Я магу, ды не такую трохі.
Я магу: і мы не пастаяльцы
На шляхах бязветраных эпохі.
Слухайце:

*Балада пальца*

Ён быў маленькі,
Вельмі маленькі,
Нават самы маленькі —
Мезены.
Ён з краёчку
Хінуўся да жменькі,
Як сірата на хрэсьбінах:
«Сарока-варона
Дзеткам кашу варыла,
На прыпечку студзіла,

Памялом мяшала,
Чапялой давала.
Гэтаму дала,
І гэтаму дала,
І гэтаму дала,
І гэтаму дала,
А гэтаму не дала:
— Ты, малы, круп не драў,
Вады не насіў,
Дзяжы не мясіў.
Ідзі, малы, па вадзіцу,
У сцюдзёную крыніцу…»
Дык вось гэта быў якраз ён,
Той самы
Прымоўнічак,
Ад якога смяшлівая мама
Чакала помачы.
Чакала,
               доўга чакала —
І дачакалася:
Дарога сына забрала —
Не запыталася.
Курсант праднавальнічнага
Саракавога…
«Ідзі, сынок, да крынічанькі…»
Маўчыць строга.
Маўчыць і вайна —
Пакуль што.
Прыцэл рэвальвера
Курсант —
                     сэрцабойным культам —
Для фота прымераў.
А побач, на тым жа здымку,
Сябры баявыя —
З надзеяй:
У далечы дымнай
Чыёсьці сэрца заные…
Паслалі
І, колькі чакаць іх,
Сваім наказалі абранніцам…
А сэрца заныла ў маці:
Прыбегла да нас раніцай.

За ёю — і дзядзька Змітра.
Спаткнуўся цень ля парога.
На жонку — не то што сярдзіта —
Зірнуў, як прасіў падмогі.
Даводзіў: «Ну й розум жаночы!
Ніяк не ўталкуеш:
Ды той жа патограф што хочаш
На здымку ўраз адштукуе.
Ды ён табе правую з левай
Руку пераставіць можа».
Не слухала цётка Ева,
Плакала: «Божачка-божа!..
А дзе ж твой, сыночак, палец?..
Мая ж ты крывіначка ранняя…
Стралялі тамака, стралялі
І, пэўна, знячэўку
Ранілі…»
Схіліліся — дзеці, мужчыны
І маладзіцы:
На здымку курсанцка-гарэзлівым
Пальцы лічылі —
Няма, як пабег па вадзіцу
Той самы, маленькі,
Мезены.
І кожны суцешыць ахвочы.
Адны разважалі: «Падкурчыў»,
Другія: «Ды дзе вашы вочы —
Ён проста фасоніў для дзевак…»
А цётка Ева
Пякучай
Слязою:
«Сыночак, сыночак,
А як жа табе балюча…»
Пакуль грамацеі ў школе —
Мяне пасадзіла на лаву,
Бо літары я адолеў,
На пісарства сцвердзіўшы права.
Сяджу за сталом і «друкую».
«А што ж там, Сямёнка, такое?» —
Дыктуе.
А хто супакоіць?..
Ніхто і ніколі…

Дваццаць гадоў чакала
Адказу.
Шчадрыла цыганкам сала —
Не скрыўдзілі ані разу:
«Жывы. А вось і дарога —
Заедзе,
Як вылучыцца нагода…»
Пазелянелай меддзю
Вынырнула з-пад нарога
У Падмаскоўі гільза
Сорак першага года.
Прозвішча лейтэнанта
І адрас дамашні, —
Усё, што паперка згарнула.
Прыпіска: «Нашли на пашне,
Где насмерть стояли наши…»
Усё, што вайна вярнула.
Плакала цётка Ева,
Вочы запалі.
Плакала цётка Ева,
Пакуль і яе пахавалі.
Плакала перад сконам,
На сынава фота глядзела.
«А дзе ж той пальчык ягоны…» —
Сэрца шчымела.

«А як жа табе балюча», —
Пошаптам гаварыла…

«Кашку варыла,
Дзетак карміла…»

З-пад Масквы, Варшавы і Берліна
Трыццаць год яны ішлі дадому
Па бестэрміновых каляінах
І па сцежках толькі ім вядомых.
Доўга так ішлі,
пакутна доўга, —
Ці ішлі — забыліся ўжо нават…
Зорны высеў ці пяску рудога
Выбухі над вечнаю заставай?..
А прыйшлі — ніхто і не прыкмеціў…
Ды спрадвеку чуйна спала маці:

«Веснічкі ўздыхнулі… Пэўна, вецер…» —
І агеньчык загарэўся ў хаце.
А за першым — і другі, і трэці,
І над вёскай — вогненнае мора:
Млечны Шлях узборскі у Сусвеце —
Мацярок нявысненае гора.
Аганькоў трывожных трапятанне,
Дзверы незашчэпленыя ў хатах, —
Гэта іх бясконцае вяртанне —
Тых, хто не вярнуўся ў сорак пятым…
Хто ідзе дарогай Перамогі
Трыццаць год да роднага Узбор'я,
Дзе даўно ўжо новыя парогі,
Новыя сцяжынкі да падвор'я…
Хто ідзе сюды зімой і летам
Праз дажджы, спякоту і завеі,
Праз віхуры атамнай планеты —
Каб прынесці нам адну надзею,
Што не стануць кантыненты цэллю
Той пякельнай, той вайны бяскроўнай,
Дзе гемаглабін згарае ў целе
І апошнім сонцам ззяе поўнач…
Вечнае вяртанне — як пракляцце,
Вечнае вяртанне — як бяссмерце, —
І Хатынь свая — у кожнай хаце,
І Хатынь свая — у кожным сэрцы…

## 25
## ЗАМЕСТ РАЗВІТАННЯ

Шум бярозы — бацькаў сон трывожны
На пагорку, дзе грудкі, грудкі,
Дзе травінкай узыходзяць кожнай,
Памяццю — дзяды і землякі.
Дзе замшэла крылы развінае —
Як абдымкі — крыж перада мной,
Нібы знак, што да зямнога раю
Ўсе ідуць дарогаю адной.
Вось яна — з нізіны, ад Узбор'я,
Жыта расхінае пад гару.

Не збяжыць ніхто з яе ў міжзор'е
І не абміне ў сваю пару.
Тут усе. Як і на вёсцы — побач,
І заўжды ў суседзяў на віду,
І заўжды гатовыя падсобіць
І з жывымі падзяліць бяду.
Я не раз, не два сюды прыходзіў
І вяртаўся ў думках зноў і зноў.
Па крупінцы сам сябе знаходзіў,
Бо няма высновы без асноў.
Вы прабачце, што парой трывожу
Вашы неразгаданыя сны:
Мы яшчэ без вас ніяк не можам,
Мы яшчэ на рубяжах вайны.
Абсалютных не было ніколі
І не будзе ў свеце перамог.
Перамогу ўмець пераадолець —
Самая цяжэйшая з дарог.
Гэта ўжо не мы, а пакаленні
Выклікаюць з будучыні нас,
Каб не абрываліся карэнні,
Каб агонь свяшчэнны не пагас.
Ты прабач мне за пытанні, тата:
Гэта ўсё працягваецца бой…
Ты перада мной не вінаваты,
Вінаваты я перад табой.
Не зманю: хацелася парою
Славаю хоць раз тваёй дыхнуць…
Ды не ўсе дарогаю адною
Подзвігі жыцця свайго нясуць.
Нёс і ты свой лёс — травы маўчанне,
Што да сонца праз мяцельны сум
З-пад снягоў ірвалася з адчаем,
Каб ізноў патрапіць пад касу.
І па даўняй той сялянскай мерцы —
Сноп жніва ды каліва сяўбы —
Паяднаць ты здолеў толькі смерцю
Праўду зерня з праўдай барацьбы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На крыжах гісторыі
                    адсутных

Не бывае.
                І блуканняў марных
Не бывае.
                Хто жыве пакутна,
Не бясхмарна,
Нам
      травы маўчанне адкрывае.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мы заўжды
                  на пачатку дарог,
Мы заўжды
                  на пачатку эпох.
Васіль, Сілівей, Ёха…
                                    Маўчанне травы…
                                    Эпоха.
Зноўку Трыхан? Трыхан жывы?..
                                    Пакуты травы…
Сын мяне абганяе патроху…
                                    Надзея травы…
                                    Эпоха.

*1974–1978*

# ЭЛЕГІІ

## ДЗЯЦЕЙ ШКАДА…

Трэці год узыходзіла тут сонца. У гэтым акне. І першага вестуна свайго — светлага зайчыка — пасылала на Мар'іну печ: «Ці жывы ты, Змітрок?.. А-а, хаваешся… Уставай, уставай, саколік, годзе песціцца…»

І не можа Змітрок запярэчыць яму — язык не паварочваецца. Не за бацькавай жа спіной жывеш… Яно і Мар'я слова кепскага не скажа, не папракне лішняй бульбінай. Але ж каб толькі яна…

Змітрок бокам высоўваецца з-пад дзяружкі, накідвае яе паверх кажушка, пад якім, салодка раскінуўшыся, спяць Вера з Юзікам. Збірае з ляжанкі палубянелыя анучы. Трэ, каб памякчэлі. Кіславаты пыл лезе ў нос, казыча.

— Апчхі!..

— Падхапіўся ўжо? — ні то дакорам, ні то жалем кранае за сэрца Мар'ін голас. — Спаў бы, пакуль бульба закіпіць. Ліха не схопіць тую сырадэлю…

А Змітрок моўчкі залазіць у гумавікі, велікаватыя, не па назе, перацягвае папружкай куфайку — таксама прасторную, з бацькавага пляча, — і бярэцца за клямку…

Дзеці спаць не даюць Змітру…

Пакуль збегаў на лужок, прывёў ды запрог Сіўчыка, Верасоўка, як бач, — з канца ў канец — пачынае ажываць. «Стой, стой, ваўкарэзіна!..»

Зазвінела, пакацілася вядро. Па рэбрах худобіны штосьці мякнула, — пэўна, папірашка. Вышэй дзябёлых слупкоў дыму ўзляцела над сялом пакручастая лаянка. Кульгавы Ваўчок доіць карову. Учора, ці не п'яны, паганяў жонку, а яна, як заўсёды, збегла да маці, на схованку… Вось і доіць сам. А карова не падпускае, як бы саромеецца… Ці смуроду бражнага не церпіць…

Тым часам сонца ўжо стала ўздоўж вуліцы. Ладна прыгрэла азызлыя за ноч, асабліва на золаку, сабачыя косці, і цяпер іх уладальнік, немалады, рыжаваты, выцягнуўшыся на прыпёку, разморана драмаў…

«Бач, змардаваўся, небарака, перабрахаўся за ноч…» — і Змітрок з усяе моцы тузануў ляйчыну. А Сіўчык — ці перастараўся, ці, можа, конскі гонар не даў яму права аб'язджаць нейкую звяглівую псіну — так заламаў аглоблі, што калёсы сцялежыліся і Змітрок з усім сваім рыштункам: вялізным бляшаным карытам, шуфлем ды віламі — выкаціўся з драбін…

Забразгацела, залязгала жалеззе. Загарлапаніў перапалоханы певень. Тукнуў на яго Змітрок, а сам падхапіў карыта і азіраецца на сабаку: «Патурбаваў, каб цябе не знаць…» А той толькі плюснуў вокам, нібыта сказаць хацеў: «Не ахвоч я ўставаць, а то задаў бы табе брэху…»

Не зразумеў сабака Змітрака… «Ну і хай сабе, — крутануў лейцамі Змітрок, азірнуўся яшчэ раз. — Спіць, здаецца…»

Колы мякка коцяцца, пакідаючы на адсырэлым за ноч пяску дзве светлыя стужкі…

На выгане Змітрок прыўзнімаецца з драбіны — так ямчэй, стоячы: не дрогка… Там, за ляском, над якім вісеў яшчэ танюткі змылачак ветаха, — Узбор'е…

І жыў у ім Змітрок. Праўда, толькі з татам. А маму знае адно па картачцы на цэментовым слупку над магілай… Усмешлівая такая — глядзела на Змітрака… І прыгожая… Кажуць, як і ўсе мамы… Ды пра ўсіх Змітрок і не думаў. Ён думаў пра сваю. І дужа злаваўся, калі дзеці пачыналі пацвельваць: «А хутка табе татка новую маці прывядзе… Ці самога звязе — вунь туды, у Верасоўку…»

Тады дзьмуўся Змітрок і на бацьку:

— Не хачу ў Верасоўку!..

— А што калі і не ў Верасоўку, а да нас… — бацька не дагаворваў, а пачынаў пераконваць — не так Змітрака, як, можа, сябе. — Яно б і пражылі неяк з табой, перабіліся… А дзяцей жа шкада — малыя… Ды ў цябе… ну, скажу, не маці, але дагледжаны будзеш, у крыўду не дасць…

Так, пакуль думалі, куды і каму да каго перабірацца, і другая бяда падаспела… Прыціснула Нупрэя, Змітраковага тату, калодаю на тартаку: дошкі пілавалі… Ды так прыціснула, што і да бальніцы не паспелі давезці…

І вырас на ўзборскіх могілках яшчэ адзін грудок. А Змітрака пачала ўгаворваць Мар'я:

— Пераходзь да мяне, сынок…

Змітрок упарціўся. Але не адставала і Мар'я:

— А як жа ж ты жыць сабраўся? І ў мяне ж во малыя, на руках на маіх… То памагаць будзеш… Збірайся…

І ўспомніў тады Змітрок татава: «Дзяцей жа шкада…» І во — зрабіўся верасоўцам…

Многа каранёў у дрэва: старых, выкручастых і танюткіх, кволых, як жылкі на руцэ, — многа… А вазьмі адсячы адзін, хаця б самы маленькі, танюсенькі, — і на яблыньцы, яшчэ не пазнаўшай радаснага цяжару пладоў, засохне і ападзе ў росную траву непрыкметны ліст, а на кары магутнага дуба між незлічоных трэшчын-маршчын прабяжыць яшчэ адна, тоненькая, як павуцінка…

І бярэцца садоўнік за рыдлёўку глыбокай восенню і напрадвесні, калі спяць у дрэве жыццёвыя сокі, калі не чуе яно, як ірвуцца нітачкі, што ядналі яго з роднай зямлёю…

Цяжка прыжыцца на новым месцы дрэву, яшчэ цяжэй чалавеку…

— Гэта табе, Змітрачка, пуп спакою не дае, — спачувала Мар'я. — Туды, дзе ён закапаны застаўся, да самае смерці чалавека цягне…

А Змітрок успамінаў хату, у якой на покуці стаяла татава дамавіна; успамінаў акно, што навісала над самаю вуліцаю, лужыну пад ім, у якой вечна пасля дажджу бузацёрылі мурзатыя бясштэннікі; успамінаў крапіву каля Гапульчынага плятня, што не раз прылягала ніжэй паясніцы, калі шугаў ён з сябрукамі з суседчыных агуркоў… — успамінаў — і плакаць хацелася…

Толькі гонар стрымліваў. Не сіроцкі — мужчынскі… Запрагаў ён каня, пакуль управіцца дома цётка Мар'я. А як прыйдзе яна на ферму, то Змітрок ужо і корму падвязе… А як жа!.. Памагаць трэба… Ды і дзяцей шкада…

***1957***

## ПАЎСТАНАК З ЛІТАРАЙ «Л»

Ім і назвы няма. Стаіць адзінокая — слупком — будка, ды ўздоўж палатна — выгрунтаваная ў тысячы ног паласа жаўтапёсу з гучнаю назвай — перон. Ні мітусні, ні чыгуначных цырымоній і рытуалаў. Ніхто не выбягае тут са сцяжкамі насустрач кур'ерскім і хуткім, не чутно развітальных свісткоў.

І можа, у адпомстку за такую непавагу дальнія сплочваюць адпаведнай пагардай: ні на кропельку не збаўляючы хады, імчаць тут, як у чыстым полі. Быццам і не заўважаюць ні будкі, ні тым больш панылай будыніны, што тоіцца па другі бок чыгункі, за шчыльным, як сцяна, пералескам. Бо і заўважаць яе не належыць — забаронена статутам. Так ужо хітра вырошчваюць і падстрыгаюць вайскоўцы ахоўную паласу — і высокія дрэвы, і дэкаратыўны хмызняк-падлесак: старонняе вока, асабліва з вагона, не прыкмеціць нават драбнюткай адзнакі вайсковай прысутнасці — ні казармы, ні пляца, ні людскога, як кажуць, кантынгенту. Затое — во што дзіўна!— з іх боку праглядаецца ўсё і, натуральна, наскрозь і заўсёды…

Ажывае паўстанак некалькі разоў на дзень.

Зраніцы гуртуюцца тут жанкі: з бідончыкамі, да краёў напоўненымі малаком — аж белыя струмочкі пераліваюцца; з галоўкамі сыру ў кужэльных вузельчыках; з лазовымі кошыкамі, у якіх белымі сотамі гняздуюцца яйкі… Зрэшты, малюнак мяняецца па сезоне: які тавар едзе ў горад, гэтакія і колеры, і пахі, і галасы таксама… З жыўнасцю і агароднінай, што бярэцца мяхамі, да жанок далучаюцца — цяглаваю сілай — мужчыны…

Вечарам — тыя ж бідончыкі: лёгка пазвоньваюць, калі не тырчыць з каторага падсмажаны нос батона; вязанкі сушак і абаранкаў; мужчыны з вясёлым агеньчыкам у вачах…

Паравоз папыхквае, цярпліва чакае, пакуль апошняя цётка выграбецца з клункамі на дол. Потым хрыплавата гукне і падаецца далей. Не паспее як след разагнацца — зноў прыпынак. Ды нічога не паробіш: такая ўжо служба ў прыгараднага — тармазі ля кожнага слупа…

Такі вось якраз гукнуў на развітанне і мне, і двум-тром дзесяткам мужчын ды кабет, што далучыліся да мяне — на хвілін колькі, каб разабраць ды ўладкаваць цераз плячо клункі і расцягнуцца шнуркамі па віхлястых палявых і прылесных сцежках — конны да свае хаты — з радасцю ды з няхітрым, але такім жаданым гасцінцам…

А я — чакаю паравоза сустрэчнага. Змяркаецца, і пасажыраў да горада — я ды кабета з малым, унучыкам, пэўна. Да яе загаманіла, прыпынілася на хвіліну «прыезджая»: пачаставала хлопчыка абаранкам. Той хрумстае, а я, добра-такі згаладнелы, пазіраю на яго, на месяц, што выплывае з-за лесу, як пшанічны блін, без скупу намазаны маслам. Такія мама пячэ ў нядзелю…

Сяджу на куродымнай, як заўжды пры чыгунцы, не мяккай, а шархоткай мураве — і ведаю: інтэрнат блінамі не сустрэне. Ды і

студэнцкая сталоўка з маннай кашай — па таннасці, тэфтэлямі і жыдзенькім чаем сёння мяне не дачакаецца: пазнавата…

Ну, і такое, на маю развагу, бяды!..

Сёння ў мяне — радасць. І не маленькая, калі разабрацца сур'ёзна. Я навучыў дзяцей — цэлы клас: трыццаць пяць па журнале — чытаць словы з літарай, падобнай на брамку з вясёлым хвосцікам на левым вушаку — унізе…

Але пакуль тыя «брамка» ды «хвосцік», я «цягнуў», «выдзяляў» гук: «л-л-лапа…», потым змякчаў: «л-л-лета…» І, нарэшце, калі ўвесь клас дружна ласкатаў разам са мною «л-л-л…», я паказваў «партрэт» гэтага самага «л» — «брамку» з «хвосцікам»…

А калі — на замацаванне вывучанага — я пачаў шукаць з дзецьмі адпаведныя словы, не прамінуў спытацца: «А як называецца ваш паўстанак?», спадзеючыся, што нехта прыгадае: у навакольных вёсках яго пайменавалі Лясным… Аднак гэтага я не пачуў. І толькі адна дзяўчынка асмелілася: «А яго ніяк не завуць: ён ніякі, ён — «літарны»…

— «Літарны»? — ухапіўся я, нібы тапелец за саломінку, — ну, то і добра: «л-л-літарны», — пачаў, як гумку, расцягваць гук… І каб падахвоціць дзяўчынку і аддзячыць пэўным чынам за філалагічную падказку, спытаўся: «А як жа цябе завуць?..» Спытаўся, бо ўсяго адзін-два разы прачытаўшы па журнале іх імёны і прозвішчы, я — практыкант з педвучылішча — не мог пры ўсім маім старанні запомніць кожнага. Хоць — па законах педагогікі! — павінен быў разумець: дзеці і дапусціць не маглі, што пасля такога — па спісе — знаёмства я раптам каго-небудзь ды не ведаю!..

Але… Але — дзяўчынка прамовіла, зноў жа, выратоўнае: «Лена»…

— Ну вось і выдатна: «Л-л-лена…», — мне — ну не Бог, а нейкі таемны Ушынскі — падсоўваў прыклады «для замацавання матэрыялу»…

І цяпер я сяджу на мураве «л-л-літарнага» паўстанка, засакрэчанага адсутнасцю назвы, чакаю свайго прыгараднага і зусім не здагадваюся…

Ды і адкуль ім быць, тым здагадкам?..

А «замацаваная» літара ўжо займела сваё, асабістае і таемнае, жыццё…

Пра гэта даведаўся я напрыканцы навучальнага года, калі атрымаў зусім нечаканае і зусім кароценькае пісьмо, — усяго адзін сказ, які самотна — ці не шаптаў: «Мы сумуем па вас…» І подпіс — «Лена»…

Літара «Л» хацела схавацца за выратоўнае «мы»… І не магла схавацца…

Колькі гадоў — не адзін дзесятак, — хоць і зрэдку, праязджаю я гэтай чыгункай. Як і тады, ля платформы не сцішаюць разгону дальнія. У горад і з горада, як і тады, едуць, спяшаюцца людзі, — толькі ўжо іх вязе прыткая электрычка. Усё, як і тады, не відно з дарогі «літарнай» будыніны, хоць і вайскоўцаў, здаецца, там даўно няма: часць расфарміравалі.

Раз’ехаліся афіцэры-бацькі. Паехала са сваім і Лена. Пэўна ж — паехала…

Бо пісьма адтуль больш не было…

Усё, як і тады…

Як і тады, радуюся я, што навучыў першакласнікаў — і Лену таксама — чытаць словы з літараю «л»…

Усё, як і тады…

Толькі ведаю — пісем адтуль мне ніхто не напіша… Не бывае пісем з юнацтва…

***1957–1999***

## КУДЫ ПАВЁЎ ЛАПАЦЬ

Ён вельмі просценькі, нават, калі сказаць шчыра, прымітыўна-нехлямяжы.

Звычайна беларускі лапаць дыхтоўны, падэшва ў дзве столкі ды яшчэ з адмысловым перакрыжным пляценнем, — будзеш зіму таптацца, а не зносіш. Нават у скокі пойдзеш, то прыстук будзе, — ну не такі, як ад бота, але ўсё ж — не глухое чмяканне, за якім чутна босая пятка.

Мой жа лапаць нейкі гаротніцкі: ніз — у адну рэдзь, ужо не кажучы аб тым, што не з мясістага ліпавага лыка ён, а з худой лазовай кары, — так і нага ў ім, пэўна, трывае: нібы зімою прамерзлая лазінка ў той шэрай і праціністай, як сённяшні нейлон, апратцы.

Кажу «пэўна», бо ніколі не зналася нага мая з тым лапцем. Ды і з’явіўся на свет ён не дзеля патрэбы абуцца, а як узорна-паказальны. Нават і быў ён не парны, а ўсяго адзін-адзінюткі.

І сплёў яго дзед Лявон проста ад няма чаго рабіць (так, прынамсі, мне тады здавалася, а сёння думаецца — з таемнай выхаваўча-навучальнай місіяй), — на выгане, дзе мы ляжалі з ім на траве-мураве ў чаканні, калі дагарыць апошняя кладка дроў у лазні і можна будзе зачыніць дзверы, каб даходзіў дух.

Дык вось дзед Лявон тады, угледзеўшы ў прылазніку, на цвіку, скрутак лазовай кары, і спытаўся: «Ну дык вучышся ўсё? А ты хоць лапці плесці ўмееш?» Нічога не заставалася мне, як шчыра прызнацца: «Ды пачынаў калісьці з татам, але ніводнага да канца так і не даплёў…»

«Ну то пабач…» — і пакуль дзед Лявон распарвае ў балейцы з кіпетнем лазовую кару, я тое-сёе паспяваю прыгадаць з «тэорыі» ды і з «практыкі» «лапцепляцення» і з вясёлым нецярпеннем пасміхаюся сам сабе: які ж «урок» тае «практыкі» выкладзе зараз мне дзед Лявон? Пасміхаюся, бо ведаю: гэтыя пасмешкі жывуць у нашай вёсачцы, бадай, з той пары, як пасяліліся тут і грунтоўна зажылі, побач з карэнным «мужыцкім» родам, стараверы, што беглі з-за маскоўскай мяжы, беглі ў глухія балоціста-лясныя куткі Літвы, каб схавацца самім і ўратаваць сваю «старую, ісцінную, веру» ад д’ябальскай напасці царкоўнай рэформы мітрапаліта Нікана. Беглі, пэўна ж, у тых лапцях, якія і зрабіліся потым зачэпкаю няхітрых, але ўстойлівых пацвельванняў з тае самае «практыкі лапцепляцення». Нават і ў гаворцы вясковай замацавалася, відаць жа, не адзначаная і па сёння пранікліўвымі філолагамі, як яны кажуць, «фразема»: «стараверскі лапаць».

Ну а паколькі, здагадваецеся, дзед Лявон быў якраз каранёў стараверскіх, то і «практыка» яго была адпаведная… Бярэ дзед лычка на аснову, закручвае адзін курак, другі…

Толькі, перапрашаю, чаму ж гэта я так: «бярэ… лычка»?.. От жа і не ўспомню і не прыдумаю ніяк, а ведаю пэўна: лыкам называлася ў нас адно кара ліпавая. І казалі з дакладным і ўстойлівым адрозненнем — з чым справу мае чалавек, — ці: «палез лыка драць…» — разумей: узбіўся недзе на лапушыстую ліпу, ці адназначна: «пайшоў лазу дзерці» — значыць, падаўся некуды ў надрэчча і будзе раздзіраць надвая вілкаватыя лазіны, здымаючы потым лёгка, без ножыка, распалавіненую кару…

Гэтак і лапці называліся. «Лыкавыя» — разумелі: «з ліпавай кары», і проста: «лазовыя». І лічыліся першыя гатунку вышэйшага, як, скажам, і ў стасунку да ботаў: хромавыя…

Зрэшты пра гэта ў нас тады з дзедам Лявонам ні слова, ні паўслова не гаварылася. Быў просты, звычайны ўрок: дзед вучыў мяне плесці лапаць. Такі і атрымаўся ён: не для абутку, а вучэбны. Ды яшчэ «стараверскі»… Можа, я і расказваў ужо калі-небудзь пра яго ці проста думаў сам сабе, бо столькі часу вандруе лапаць той са мною: з вёскі ў горад, з кватэры на кватэру, цяпер во і на «лысагорскім» агародзе, у так-сяк злепленай будыніне, абжыўся, вісіць сабе за дваццаць гадкоў на цвічку —

летам пры шумнай кампаніі, а зімой — сіратліва-адзінокі, якім і з’явіўся на свет…

Якім, зрэшты, пачуваўся і дзед Лявон, дажываючы ў маленькай хаціне і ў вялікай самоце апошнія дні свае. Ды і ці толькі апошнія…

Быў дзед Лявон як бы двойчы прышлы: і па агульнай стараверскай планідзе, і па ўласным, асабістым лёсе. Узяў яго, асірацелага, з далекаватае, калі мерацць пешкі, аднак ці не цэнтральнай у акрузе стараверскае вёскі, швагер Раманька, старавер з ладным кавалкам зямлі, ды і з не менш ладнай, па гурту едакоў, сям’ёй. І з’явіўся Лявон як сам стаіць: у адных нагавічках і кашулі ды з лапцікамі цераз плячо. Стаў перад ці не двума дзесяткамі пляменніцкіх вачэй. Толькі сястра па галоўцы пагладзіла ды слязу пусціла…

Тыдзень-другі падзічыўся Лявон, а потым быццам згубіўся ў гурбе пляменнікаў. Тыя падрасталі, жаніліся, дзяліліся, засвойвалі і трывалую «стараверскую» схільнасць прыбраць да рук усё, што не так і не там, як ім здавалася, ляжыць (у «мужыка» — не грэх)…

А Лявон ціхмана і пакорліва ішоў у прыпрэжку са шваграм: ці то ў баразну, ці ў пракос, ці зімою ў цягло — траляваць, выцягваць на рум звонкія ад марозу сасновыя круглякі — той славуты мачтавы лес з-пад Халопеніч…

Так бы, можа, і звекаваў бабылём, калі б не трапіў на вока аўдавелай, пры дзвюх дачушках, спрытнай, невялічкай, але завішнай і такой жа жыгучай, як пчолка, Гапульцы, Гапцы, калі «па-нашаму», «па-мужыцку», а калі «па-стараверску», то — «Агаф’і», а часам і — «Агафіі». Ды ўрачыстае гэта найменне не прыставала, не клеілася да Гапулькі, нават з вуснаў Лявона. Прырода і звычка бралі сваё: была Гапка з мужыкоў, працавітых, а таму і не бедных, і неўзабаве прыручаны Лявон не толькі «спрасціўся» да мужыцкага «Гапулька», але і сам пачаў патроху абмужычвацца. І нават звычайнае для «стараверскага» маўлення выбуховае — гарадское, казалі ў нас, — «г» (якое ў старажытных беларускіх актах, пра што я даведаўся ўжо студэнтам, перадавалася на пісьме дзвюма літарамі адразу — «гк»), неўпрыкмет расслаблялася, мякчэла ў Лявонавым горле да нутранога, з прыдыханнем «г-х» (той асаблівы гук, які так блытаў пасля расійскія газеты: пісаць прозвішча польскага лідэра «Герек» ці «Херек», бо не мелі яны такога значка «Н/һ», каб перадаць натуральнае гучанне)…

Словам, засведчыў яшчэ раз Лявон старую ісціну: з кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Асабліва ад гэткай уедлівай

маладзічкі, ды яшчэ на яе сялібе, ды ў яе хаце. Праўда, не такой спраўнай, як у бацькі ды ў братоў. Але, як выявілася, намнога абярэжнейшай. Бо завінуліся браты, трохжыльныя і ненасытныя ў працы, простай кулацкай дарогаю — абжываць Сібір. А Гапульку калектывізатары не чапілі: удава, ды і крайне бядняк, беззямельны Лявон да яе на гаспадарку прыйшоў…

Куды больш гаманы і вэрхалу было з іншага боку: Гапулька з Лявонам ці Лявон з Гапулькай — як хочаце лічыце — разарвалі (помнік ім трэба ставіць у нашай вёсцы!), здавалася, спрадвечны круг забароны брацца,ісці да шлюбу мужыку са стараверкай ці стараверу з мужычкай. Кажуць, галоўную, рэвалюцыйную, ролю ўзяла на сябе Гапулька, але ж і Лявон у кусты не збег… Недзе там, на сенакосных лугах падпільнавалі, уцікавалі і ўцікавілі адно аднаго. А з гэтага і само пайшло-паехала…

Пэўна ж: не так ужо і лёгка ды проста ўжываўся прымак-старавер у «мужыцкі» свет. Векавы побыт, а найперш парогі, узведзеныя царквою, ахоўваліся строга і непахісна. Ва ўсім. Нават піць, не тое што есці, з аднаго посуду забаранялася непахіснікамі старой веры. Калі выпадковы вандроўнік, ні аб чым не здагадваючыся, прасіў вады, то падавалі яе ў асобнай конаўцы ці шклянцы — «для нячыстых». Помню, тата расказваў, як памагаў ён па-суседску свайму равесніку-падлетку са стараверскай сям'і ўзараць палоску, то прынесла сябрукова (таксама Лявонам звалі) маці полудзень і ніяк не магла даўмецца: як жа ў адным гаршку «раздзяліць» страву, каб кожны еў паасобку. З кашай лёгка «ўправілася»: разгарнула на два бакі — і з богам… А булён? Лыжкі дзве — гаршчок адзін… І ўсё ж — дадумалася! Зламала на ўзмежку былінку, паклала ўзверх гаршка, як бы раздзяліла яго напал, і, пераксціўшы, скінула цяжар з душы: «Ты, Лявонька, еш з етага боку, а ты, Васілька, — з етага…»

Не скажу, якое каханне ў Гапулькі з Лявонам было, але дзяцей яны не нажылі. І толькі помню, як Лявон, гледзячы на мяне, тут вось, ля свайго плятня, засмучона казаў: «А такога сынка і я мог бы мець…» І неяк вінавата ўсміхаўся…

Дарэчы, згаданы пляцень той — пры выгане ды пры нашай хлапечай панадзе да чужых агародаў — быў несканчонай бядою і клопатам дзеда Лявона. Стаўся ён і маёю зачэпкай да «Сустрэчы з Райнісам», — ад плятня пачынаўся верш:

### Сустрэча з Райнісам

Шукальнікам і непакорным
Ткуць саван блакітныя кросны.

Дарога вялікая, мора…
І ля дарогі — сосны.
Зламаныя сосны. І мора
Салёна аплаквае крайніх.
І Райніс — не зломлены горам,
Прасмолены соснамі — Райніс.
Стаіць. Затаілі вочы
Пакутную задумёнасць…

…Я ўсё гэта бачыў аднойчы
У позірку дзеда Лявона.
Прыйшоў да свайго плятня ён —
Павалена, скручана прасла…
Паскардзіўся: «Баба вось лае,
А тут жа, як дзень гэты, ясна:
Дарога і ёсць дарога,
Ідзе хто ці едзе — зачэпіць».
І прашаптаў мне, як богу:
«От, баба… Не баба, а чэмер…»

А што мне да бабы, малому!
Мы добрыя з дзедам суседзі,
І зараз ён скажа, вядома:
«Паедзем — я веццяя нагледзеў».
Кабылку ў аглоблі зашчэміць,
Падсадзіць мяне на калёсы.
Няхай пашукае, чэмер!
А мы — у лазу, на плёсы.

Навалім драбіны хлуду,
Зялёнага, гнуткага вецця.
Я зверху, на возе, буду,
А там, як на небе, жывецца!

Трымайся, мой воз, не валіся,
Дзе рытвіна, дзе канаўка…
Запляціся, пляцень, запляціся,
Завівайся, шаўковая траўка…
Мы добрыя з дзедам суседзі,
Вянком заплятаем вецце.
І знаем, што нехта наедзе
Ці злосны наваліцца вецер.
Ваду папіваем — млосна!

Сасмяглае цела студзім.
І знаць не знаем пра сосны…
Усё гэта потым будзе.

Але — аб каханні. Як жа — ды і няўжо? — думалася мне, малому, — як мог Лявон кахаць, калі заўсёды, колькі яго помню, быў дзедам, з ладнаю, хоць і не вельмі густою барадой. А ці ж дзяды — думалася — кахаюцца?

Думалася, калі мужчыны, сабраўшыся ля кузні — а яна стаяла тут жа, на выгане, амаль побач з нашаю лазняй, — і наслухаўшыся бухання малатабойскай кувалды і пазвоньвання кавалёўскага малатка ці малаточка — гледзячы што, які выраб штукаваўся, пакручваючыся ў жалезных клешчах-абцугах, — гукалі ў чорную прорву кузні:

— Хопіць, Лёха, гару там глытаць, выходзь на волю — пакурым!..

І праз момант над выганам павісала мёртвая, амаль гнятлівая цішыня, і з дзвярэй, выціраючы рукі аб зашмальцаваны, з прапалінамі і падпалінамі хвартух, вывальваўся Лёха. Садзіўся на парог, выцягваў з кішэні капшук, газетку, складзеную роўненька — столка ў столачку — як адарваць на закрутку. І дружна цягнулася да той скураной табакеркі не меней дзесятка рук — дзеля гэтага ж і клікалі! А сам Лёха аж прыўставаў, каб запрасіць:

— На, Лявон, скруці і ты ды пасмакчы чортаву нагу!..

— Ну во, ну во… — толькі і меў што, як звычайна, сказаць Лявон ды яшчэ дадаваў, адмахваючыся ад смярдзючага капшука: — Ай, ідзі ты!.. — і адварочваўся, быццам падумаць, куды ж ісці Лёху. А той, ужо напузырыўшы поўныя грудзі дыму, усё цягнуў і цягнуў — здавалася, рот выварочваецца туды, да нутра, а потым, сцяўшы вусны, выдыхаў, аж шчокі надзімаліся мячыкам, і тады ўжо пыхкаў, быццам з кавальскага меха, разрываючы паветра клубам дыму… І як бы здалёку заходзіў-пытаўся:

— От, пэўна ж, Гапулька тытуню не прымае, што гэтак носам круціш… Ці гэта яна ад цябе духоў якіх панскіх запрашае, каб па барадзе цякло і ў носе казытала?.. Га-га-га!..

А Лявон і плюнуць не мог па-мужчынску, толькі быццам выбачаўся: «Ну во, ну во…»

— А мужчына — што мужчына без «дынаміту», — гэтак Лёха тытунь называе і ўжо хіліць гамонку не так да Лявона, як да ўсяе грамады: — Без дынаміту сэрца бабіна не ўзарвеш… — Лёха, хоць і выкінуў дзецям на забаўкі два царскія крыжы, пры-

несеныя з вайны, любіць усё гаварыць «па-ваеннаму». — Бабе трэба, каб і вус дымком баявым дыхаў, а не потнаю шчэццю…

Тут бы і я, калі б гаварылася тое годзікаў праз дзесяць, мог бы такія-сякія падказкі зрабіць. Можа, Лёха і прыкусіў бы трохі язык…

Але ж тады… Тады я толькі і чуў Гапульчына: «чорт рабы» ды «чорт рабы»… Ці аблаяць, ці пахваліць зрэдку пры жанчынах — адно было: «Мой жа вунь чорт рабы…»

І ўжо ходарам хадзіла вуліца ад гэтага «чорта рабога», калі вярталіся з пашы каровы з авечкамі. Каровы — яны паважна і паступова разыходзіліся па сваіх дварах, радасна парыкваючы ў прадчуванні цёплага пойла і аблягчэння ад цяжару набрынялага вымя. Ды і авечкі ў людзей спакойных спакойна кіраваліся ў свае вароты. А тут кожны раз усчыналася цэлая палешня. Выбягала Гапулька на сярэдзіну вуліцы, расстаўляла рукі, прысядала, быццам наважвалася ўзляцець, і ўразалася ў авечы статак, каб адлучыць сваіх:

— Ашкыра дамоў! Ашкыра дамоў!..

І досыць было якому-небудзь барану ці авечцы шуснуць у абход, як увесь гурт з тупатам, бляяннем кідаўся ўроссып, але заўсёды ў адзін бок — па вуліцы, далей ад Гапульчынага двара.

І тады ўжо сыпалася-верашчала:

— Забягай, забягай, чорт рабы!.. — і даходзіла да галашэння, нібы тыя авечкі беглі не на другі канец сяла, а куды-небудзь сама меней у Халопенічы, а то і ў Маскву — беззваротна…

А «чорт рабы» ніякавата захінаўся сваім: «Ну во, ну во…», шкрэбаў, заграбаючы пясок, гумавымі чунямі, быццам спецыяльна ўздзетымі — каб не пабегчы — і ўлагоджваў мяне:

— Скокні, Васілька, прывярні ярачак, ды па-добраму, паціхеньку, — нікуды ж не знясе іх нячыстая сіла… А я табе гняздзечка пакажу. Малінаўка ў плятні зрабіла. І птушаняты ўжо вырастаюць…

От жа якраз тады і было тое… Ці, можа, пабачылася?..

Як і прасіў Лявон, я паджгаў па вуліцы.

Страшнавата трохі аднаму: абавязкова ж пяройме хто-небудзь з «тых-канчаняў», каб звесці хоць які, але рахунак «таго канца» вёскі з «гэтым», нашым… Але ж і спакуса не малая: гняздзечка малінаўкі не кожнаму трапляецца…

Бягу сабе гэтак, азіраюся, а статак тым часам усё радзее і радзее. І хат за пяць да канца застаюцца амаль што адны Гапульчыны авечкі. Тупаюць рахмана, не кідаюцца, нават пры-

пыняюцца ля чужых варот, нібы развітваючыся з тымі, што зварочваюць да свайго двара. Ды і ўцякаць ужо няма куды, ды і я наперадзе вырастаю. Галоўны баран-завадатар, як бы чакаючы гэтага моманту, упіраецца пярэднімі нагамі ў пясок, а вачыма — у мяне, нахіляе галаву, нібы разважаючы: вяртацца назад ці яшчэ трохі павалтузіцца?.. Гуртуюцца ля яго і авечкі з ягнятамі. Яны б, магчыма, даўно і самі павярнулі дахаты, ды, відаць, авечая ўпартасць дурная не дазваляе… А тут во якраз і апраўданне знаходзіцца: не пускаюць далей. Пэўна, і да барана дайшло: трэба ж за розум брацца. І хоць розум ягоны ўвесь у рогі выйшаў, але тупае ён пагрозліва нагою раз, другі і раптам, крутануўшыся, сігае туды, адкуль толькі што ўцякаў на злом галавы. Бягуць за ім і авечкі.

А я, каб залішне не назаляць ім, спакваля трухаю надозір…

Вось і Гапульчын двор, і прычынены ўжо збольшага вароты, і цішыня ў хляве… Дзе ж той Лявон, і дзе тая малінаўка?..

Я прасоўваю галаву ў шчыліну між варотамі і шулам — і, знямелы, бачу…

Бачу, як нахіляецца да зашчапкі ў дзвярынцы, што прыкрывае авечы закутак, супакоеная Гапулька, як, нацягваючыся, узнімаецца на ёй спадніца, адкрываючы ўсё вышэй кругленькія, нібы тачоныя, ногі, і як раптам хапае яе ззаду ў абдоймы, шмыгнуўшы рукамі пад нахіленыя грудзі, Лявон. Гапулька парывіста і струнка выпростваецца. Галава яе рэзка паварочваецца тварам да Лявона. Але на вуснах — замест злоснай падцятасці — прарываецца ўсмешка. І толькі язык яшчэ цвярдзіць звыклае: «Чорт ра…» А Лявон і не апраўдваецца. Лявон таксама смяецца, дробненька і ўсё цішэй: «Ну во, ну во…»

І яны апускаюцца, быццам знясіленыя, у гурбу свежага сена, што толькі сёння прывезена з Лугоў і тут жа скінута ў застаронку, яшчэ не паднятае на палаці…

А Лявон мне ўсё ж паказаў малінаўку…

Ён, наогул, любіў чым-небудзь здзівіць ці пачаставаць мяне.

— Хадзем, — кажа, — Вася, чайку пап’ём…

Я і не думаю аднекваицца, бо ведаю, што чай — ледзь не штодзённае пітво ў стараверскім спажытку. У нас — то ўзвар, то настой, то сок які-небудзь. А ў іх — чай ды чай. Ну а да чаю, вядома ж, е драбочак цукру ці «падушачка» — цукерка з кіславата-салодкім мядком усярэдзіне. Таму і бягу без прынукі, бо ведаю: нешта перападзе…

Лявон выцягвае на загнет чыгунок з кіпетнем. Ад агню — ён яшчэ скача пухірамі і пырскамі. Ды не гэта мяне цікавіць і займае. У думках адно круціцца: што ж на «прыкуску»?..

А дзед Лявон налівае ў два кубкі вады, адразае дзве лусты хлеба і густа пасыпае іх з салонкі — няўжо там цукар-пясок? — паспяваю знайсці надзею. Але ж яна тут жа і лопаецца, як той пухір над кіпетнем, развейваецца, калі адкусваю кавалачак і чую ў роце гаркаваты смак солі… Няўжо так злосна пажартаваў дзед Лявон?

Дык жа — не: усміхаецца і пытае:

— Што, нясаладка? Затое ж смачна!.. Гэта з непрывычкі ты крывішся. А ў дзядоў маіх ды прадзедаў соль найпершым ласункам была. І чай з ёю пілі, — дзе ж таго цукру набрацца было…

Я яшчэ раз, каб не дужа пакрыўдзіць Лявона, нясмела прыкладваюся языком да лусты, але вадою запіваць не адважваюся…

І толькі Гапулька ратуе — нязлосна гэтак:

— От жа, чорт рабы, ды кінь ты здзекавацца з малога, — і працягвае мне драбочак — белага з шызаватым адлівам — цукру…

Вось і гадай: якое ж было каханне ў Гапулькі з Лявонам… «Чорт рабы» ды «чорт рабы»… Хоць ніхто і не бачыў таго рабаціння: Лявон, як і ўсе стараверы, ніколі не галіўся, — барада хавала ўсё. А хто яго помніць — юнаком, бязвусага ды безбародага? Колькі такіх засталося?..

І таму як бы ўсе і верылі Гапулі: ёй такі відней, — каму ж, калі не жонцы выгледзець тыя рабацінкі ў барадзе, што не раз і не два казытліва ахінала яе худзенькую шыю ды і ніжэй апускалася ў пошуку мляўкай асалоды…

Вось цяпер, праз немалыя леты і зімы, я зноў і зноў згадваю: што ж у гэтага «чорта рабога» было ад натуры д’ябла? І нічога не магу ўспомніць. Нават самай лёгкай і прыемнай спакусы ўнікнуў Лявон: ні разу да чаркі не прыкладваўся. На дух не пераносіў д’ябальскага зелля, як і таго тытуню. Строгіх нораваў былі людзі старой веры. І калі б пабачыў я дзеда Лявона нападпітку, то, відаць, здзівіўся б не меней, як напаткаўшы аднойчы — першы раз у жыцці — на трамвайным прыпынку п’янага яўрэя. І самае нечаканае і вясёлае было, што падсаджвалі яго ў дзверцы — таксама з чорцікамі ў вачах, але цвёрдыя на нозі, два браты-беларусы…

Глядзіць, бывала, Лявон, як п’юць іншыя, і пакутліва моршчыцца, быццам яму гарчэй за ўсіх. Бажыўся, што так і напіваецца

«ўпрыглядку», і галава назаўтра баліць. А таму і пазбягаў кампаній, дзе чаркаю пахне…

Глынуў — першы і апошні раз — як пахавалі Гапульку. Глынуў — думаў, што хоць трохі аглушыць неспадзеўную бяду…

Хадзіла, нават подбегам, радавалася Гапулька, завіхалася ля новай печы, хваліла цягу.

— І цяпло добра трымае: ноч капуста прастаяла, а быццам ад полымя…

Лявон таксама задаволены:

— Маленькая хатка, але хопіць на дваіх. Ды і дроў меней трэба. Хоць на старасці адагрэемся. А то ж паліш-паліш у той пуні, бывала, тры ахапкі дроў уходаеш, а толькі і карысці, што сцены гнілыя разапрэюць, трухлявай сырасцю насмуродзяць…

— А ты і цяпер во, чорт рабы, кажарыну з плячэй не скідаеш, — незалюбіць, пырсне Гапулька. — Хата яму кепская была — пуня, бачыце… Ды ты ж ні бярвенца ў ёй не паднавіў. Ды і гэтую во, каб не людзі, ці асмеліўся б агораць…

«Ну во, ну во…» — уцінаецца Лявон, разумеючы, што залішне крануў Гапульчын родавы гонар…

І раптам — няма Гапулькі. За адну ноч згарэла. Прачнулася, піць папрасіла. Пракаўтнула кропельку ды і кажа:

— Даруй мне за ўсё, Лявонка, — і слязінка па шчацэ пакацілася.

Як успомніць тую слязінку Лявон, сам заліваецца слязамі. Не відно іх, у бараду сцякаюць. Толькі словы даўкія ападаюць з вуснаў:

— Гэта ж бы толькі і пажыць засталося — у цяпле ды ў спакоі.

Як і помніць сябе, другі раз такія мо бесклапотныя і ціхія дні надарыліся яму ў жыцці. Цяпер во, у новай хатцы. Ды тады — у царскай турме…

Не раз і не два хваліўся мужчынам Лявон.

— Гэта ж трэба падумаць, — смяецца, — ні табе сахі, ні табе касы. Сядзіш дзень пры дні, а кормяць, як у мясаед ці на масленку. Во аджыўся, во адпанаваў…

— А завошта ж гэта цябе, анёла такога, ды ўпяклі ў каталажку? — здзіўляецца Лёха, хоць ведае даўно і добра, як ведае і ўся вёска.

— Ды за племяша, — тут Лявон трохі спатыкаецца: называць ці не таго баламута, але вырашае, як і заўжды — і ў першы і ў гэты раз, што абыдуцца і так, тлумачыць дастойна і з гонарам: — Тры месяцы гэтак пакачаўся па-панску, — за племяша,

можна сказаць, бо той пачысціў клець у карчмара, а след не замёў… А ў самога малое якраз. Жонка яшчэ з печы не злазіць. А вясна, а голад… Пагаманілі-параіліся: «Бяры, Лявонька, на сябе віну. Ты ж адзін: пайшоў — і ўсё з табою пайшло…» Ах і жызня была!.. — прыцмоквае Лявон. — У дзверы — грук-грук: «Завтрак!», грук-грук: «Обед!», грук-грук: «Ужин!»… Як Адам у райскім садзе… А потым моташна стала. Ні есці, ні піць не хочацца. А ўжо і сенакос падступае. І так у руках па касе аж сверб ходзіць. Заснеш — і кветкі, кветкі ўваччу, і травою падвялай дыхаеш… Стаў маліцца ды прасіцца ў суддзяў тых, клясціся, што больш ні каліва чужога не крану… Ці паверылі, ці пашкадавалі, ці стаццю мякчэйшую падабралі, — выпусцілі… Але ўсё ж, хоць тры месяцы, ды пажыў!..

Занудзіўся Лявон без Гапулькі, засумаваў у маленькай хаціне сваёй, як у той казённай камеры без палёў-сенажацяў…

Я не бачыў Лявонавай магілы. Яго завезлі туды, адкуль і прыйшоў. Да дзядоў-прадзедаў, на стараверскія клады. Тут ужо, са смерцю, уладу ўзялі «свае» — пляменніцкія дзеці ды ўнукі. Не было галоўнага каменданта — Гапулькі… Ехаў дзед праз вёску ціха, без жаночага плачу і ляманту. Конік памалу ступаў, быццам выбіраючы, каб не ўтаптаць у гразь рэдзенька пакіданыя перад нябожчыкам яловыя лапкі, свежыя густой зелянінай і трывожныя — як і сасновыя дошкі — духам…

Цягнуў конік, цягнуў — самахоць, без нокання, аж пакуль не параўняўся з прагонам. І тут прыпыніўся раптам. Тут заўсёды зварочваюць з вуліцы ў поле — на тую апошнюю дарогу, што выводзіць да вясковых могілак. Не разумеў конік, не здагадваўся: сюды ці не?.. І тады яму падказалі лейцамі, што трэба тупаць прама, далей ад той бярозавай грыўкі на пагорку, што павароткі не будзе… І дзед Лявон прамаўчаў, не сказаў нічога… Паехаў «да сваіх».

І адпялі яго «па-свойму», усім гуртам, і памянулі — «халабіны» справілі (чаму і адкуль — «халабіны»? — не ведаю: так усе называюць… Можа, здагадваюся, — «хавабіны»? — ад «хаваць», «пахаванне» — з папраўкай на «прававернае» рускае «л»?)…

Я не бачыў дзедавай магілы. Напэўна, і не ўбачу ніколі… А Гапульчына — вось яна. Я стаю ля параслага травою грудка. Чытаю на саматужна адлітым з цэменту слупку — выціснутыя ў праваслаўна-рускіх канонах — літары: «Агафья». І не магу ніяк уявіць: што ж там і як напісана над Лявонавай магілай? Ды і ці ёсць там наогул які-небудзь знак? Можа, крыжык драўляны даўно ўжо счарнеў і асунуўся і магіла зраўнялася з долам?..

Я не ведаю, якое было каханне ў Гапулькі з Лявонам. Я гляджу на грудок, што прымасціўся побач з яшчэ даўнейшай магілкаю — таго, першага…

Я не ведаю… Я толькі думаю: як далёка разводзіць людзей жыццё. Яшчэ далей, чым смерць…

*1994*

## СУПОНЯ

Не пайшло на руку з самага пачатку. То недабор, то перабор!.. І калі ўжо Дэбет паклаў у банк апошняга «зайца», таго, што ўчора зняў у Муні і паспеў ужо «змацаваць» сваім фірменным знакам-подпісам, якраз і сам Муня паказаўся з-за вугла крайняй, Васілёвай, хаты. Толькі павярнуў з вуліцы не сюды, направа, да «кумпаніі», а што ні ёсць узяў налева, у прагон, дарогаю цераз грэблю — і да…

Вось толькі гэтага «да» і не мог, апроч Муні, ведаць ніхто: што ў яго за дарога была — «сельсавецкая», «сельпоўская» ці да аўтобуса?.. А паколькі грамада складалася, як тое і павінна быць, з асобных, таму і пры сваёй асобнай галаве і сваім асобным разуменні, грамадзян, то і малюнкі з прычыны Муневага левага манеўру замітусіліся ў азначаных галовах самыя розныя…

Першым, без хістанняў, як на лічыльніках костачкай-круглячком, адзначыў (сам сабе, зразумела) Дэбет: «Пасунуўся ў брахалаўку — аванец выпрошваць… Гулёк, называецца: усё да пашматкаванага “зайца” спусціў…» — Ды тут жа, не без прыкрасці, спахапіўся, бо рубель той, ужо «прадэбетаваны» пад нумарам 97, у меру распрамлены, але не спарадкаваны яшчэ ў гурце з такімі ж «зайчыкамі» чорнаю гумкай-зацiскачкай з унучынага бігудзя, амаль што выскоквае з рук… А пайшла б карта парадкам, то плюс бы тры такія «зайцы» — і стосік, глядзіш, ператварыўся б у сотню…

А наабгон з таемнымі дэбетавымі падрахункамі бегла надзея збалелага галавою Корціка: «У сельпо, можа?.. А што — якраз і мог дзе-небудзь на “фугас” перахапіць… Свет не без добрых удоў. От бы, чорт, хоць паўшкляначкі — дзюрку ў галаве прасвідраваць…» Ды тут жа суха — толькі перагарэлым рэхам чухнуў — плюнуў, успомніўшы ўчарашнюю перагазоўку, калі Наста апошні «фугас» з-пад прылаўка выцягнула: «Во, для сябе трымала», — і бокам катанула да Корціка «паўтарачку» —

пузатую, тоўстага і чорнага шкла, бутэльку з такой жа цьмянай — сонца не прабівае — вадкасцю… Застаўся, кажа, толькі азербайджанскі — клапамор бабруйскага разліву… Але ж гэта — грошы!.. Пяць «фугасаў», лічы… Ды і дзе сёння гэтакі капітал, хоць сабе і Муня, на каньяк той знойдзе… А галава трашчыць-разрываецца, і язык, як драчка: у роце высмягла, плюнуць няма чым, — зноў цыркнуў праз зубы Корцік і расцёр гумавікам месца, куды павінны быў бы прызямліцца слінявы струмок…

Тым часам Муневы прыгорбленыя плечы ўжо хаваліся за плятнём у прагоне. І паколькі ніхто сам сабе адказаць на гэтую нечаканку нічога пэўнага не мог, то амаль усе разам і загукалі:

— Го-о, Ляксеевіч!..

Праўда, ці не першым усё ж ускочыў у Мунева вуха і затрапятаўся там, як просьба-сігнал аб паратунку — SOS — Корцікаў сіпачок. Мо таму, што быў танчэйшы ды і прытчэйшы па неадкладнай патрэбе. Ён жа, Корцік, як толькі Муня павярнуўся на галёканне, першы і з пытаннем управіўся:

— Ты куды гэта аглоблі завярнуў?..

— На аўтобус я, — адно толькі, калі падышоў, праз натугу выціснуў Муня. А больш як бы і не збіраўся гаварыць: куды, чаго, з якое прычыны?.. Хоць усе тут жа змікіцілі: паколькі — на аўтобус, то ўжо — не бліжэй раёна і не на гадзіну-другую… І ўсё ж, быццам апраўдваючыся і вінавацячыся, Муня дадаў, як удакладніў: — Вось еду — у райгазету клічуць. Можа, і сталае месца дадуць… Абяцаюць… — і Муня выняў з кішэні канверт, памахаў ім, а схаваць назад не паспеў. Канверт прытка, ледзь не імгненна выхапіў Корцік і не Муню, а яму, канверту гэтаму, роспачна пачаў выбадзяць-выгаворваць сваё, зранку неадкладнае і набалелае:

— Едзеш, едзеш?.. А дзе ж аглаблёвая твая?

— Ды я ж, як быццам, нікога і ў аглоблі не ўпрагаў, пешкі во сабраўся… — пачаў апраўдвацца Муня.

— А ты не спяшайся. Запрагу зараз. Вось толькі разбяромся з Дэбетам: хто выканаўцам будзе…

Муня ўсміхаецца, ніякавата разводзіць рукамі:

— Ды я ж учора цвёрда абвясціў: завязваю — з картаю і з чаркаю…

— Нічога-нічога, мы за цябе, мы за цябе — і ў ахвотку і на здаровейка… — І трохі ўжо ахалонаўшы: — Едзеш, знача?.. — Корцік зазірае ў Муневы прымроеныя вочы — ні то са шкадаваннем, ні то з зайздрасцю…

Хоць, прызнацца, было, пэўна, і тое, і другое… Вось ужо які год не мог Корцік ніяк змірыцца са сваёй адстаўной, можна сказаць, ганьбаю. Спісалі на бераг яго, спісалі з рэвалюцыйнай Балтыкі… Яго — звыштэрміновіка-добраахвотніка. Спісалі, беспадстаўна прычапіўшы вось гэтую самую «фугасную» слабасць. Не тое, што больш за іншых браў, але слабейшы ў нагах быў: паходку марскую псаваў…

І апынуўся Корцік зноў на родным парозе, ля маці-даяркі, дзе і — трошкі пафанабэрыўшыся напачатку: кадры ўсё ж такія пад нагамі не валяюцца! — узяўся за лейцы «фурмана-падвозчыка-кур'ера МТФ». Так пайменаваў сябе Корцік, як ён казаў, «па харчова-забеспячэнцкаму атэстату»… Але не без прыцэлу, вядома. Бо асабліва лагодзіла ягоны слых гэтае «Ф», ды і «М» было вунь як дарэчы: усё гучала і расшыфроўвалася як «флот» і «марскі» — вось толькі «Т» крыху вытыркалася, было не ў фарватэры: псавала малюнак… Ды, зрэшты, хай сабе і «транспартны», не «ваенны», — але ўсё ж за штурвалам!..

— Дык зноў у людзі, знача? — Корцік знаў, па якой струне ўдарыць, — і момант якраз што трэба: нагадаць Муню пра яго — хай сабе і даволі цьмяную, але ўсё ж творчую крэўнасць з пралетарскім геніем і летапісцам Аляксеем Максімавічам Горкім… Не можа быць асечкі: павінен клюнуць Муня, праглыне нажыўку… Хоць і праграму, зноў жа, нагадаць варта: паўтарэнне, як сцвярджаў яшчэ адзін мудры чалавек, маці вучэння:

— То на дарожку, на развітанне, га?..

— Дык і развіталіся ж, здаецца, учора — да апошняга патрона ці «фугаса», будзем лічыць… Не ведаю толькі: надоўга ці не — развітанне гэтае… — Муня прысаджваецца ля Корціка на краёк лавачкі, зазірае ў ягоную карту…

А думкі бягуць, бягуць, куляюцца… І ўсё ля пісьма круцяцца. А што ў ім? Такое-сякое абяцанне «на супрацоўніцтва» — няпэўнае, нібы карта ў гэтай вось калодзе, што зацята маўчыць у жвавенькіх, танклявых па-рахункаводску, Дэбетавых пальцах…

— Дак бярэш трэцюю, альбо?.. — Дэбет ускідвае на далоні калоду. Галасок у яго, не раўнуючы, як і пальцы, таксама тоненькі, пісклявы, зусім не па мажной грудзіне і шырокім роце, — быццам устаўлены быў у яго нейкі маленькі чалавечак ці механічны гаварун і падаваў знутры словы, не адпаведныя гэтай, здавалася, магутнай трубе, перакрытай ладнай яшчэ засланкаю жаўтлявых зубоў…

— Знача, трэцюю?.. — не то пытаецца, не то ўгаворвае сябе Корцік.

«Тры карты, тры карты…» — нечакана, найперш для самога сябе, заводзіць раптам Муня, уваходзячы ў карцёжны азарт. І разумее, што адрывае ад душы, топча і не можа затаптаць нейкую іскрынку, якая саґравала яго вось тут ці не пяць летаў і зім: летам ля гэтага століка, на веснагорскай траве-мураве, а зімой у апусцелай сестрыной, на аднаго яго, цяпер, пасля яе смерці, халасцяцкай і бабыльскай, хаце, — і тыя ж «тры карты, тры карты…» — песенька няхітрая і для ўсіх будзённа-апрыклая і толькі для яго таемная і шчымліва-балючая. Аж дагэтуль, праз столькі часу. Асабліва — як выклік на ўдачу: «Тройка, сямёрка, туз…» Адзін ён разумеў, ён бачыў: яе — тую тройку, даму — толькі не піковую і не старую пушкінскую графіню, а маладзенькую, чырвовую — густа фарбаваную, па тым часе моднаю, хной…

І яго апошняе: «Бывай… Назаўсёды…»

Ён, праўда, не сказаў тады гэтыя словы. Толькі падумаў…

Падумаў, што зябка ёй будзе. Як той сініцы…

Падумаў яшчэ, што і магілу выкапаць па нялюдскай стынечы, калі зямлю на паўметра, а то і болей закавала, ці ўправяцца за паўдня…

Зімы такой даўно не было. Мароз лютаваў па начах, не адпускаў і днём. Бедныя вераб'і скочваліся пад ногі, не маючы моцы нават прыўзняцца на сваіх танюсенькіх, да шклянога зледзянелых лапках, але маючы жывое спадзяванне раздабыць ля чалавека хоць крошку якую — хай не на сытасць, дык на сугрэў… Возьмеш такі камячок, адхукаеш у далонях, і толькі тады ён, апрытомнеўшы, пачынае спалохана ўсхопліваццa і вылузвацца з рук…

Потым мароз крыху адваліўся, памякчэў. Задзьмуў вецер, насунуліся хмары, паваліў снег. Колькі яго было, колькі насыпалася, у горадзе не дужа абмераеш: так-сяк выграбаюць, вывозяць…

Той раніцай у шыбіну балконных дзвярэй застукала сініца. Муня штурхануў фортку, што, аднак, ніколечкі не спалохала сініцу. Яна быццам толькі і чакала гэтага. Тут жа шмыгнула міма рукі, у вузенькую шчыліну, адкуль патыхала цяплом. Шпукнулася проста на стол, дзе яшчэ з учарашняга шарэлі драбінкамі хлебныя рэшткі.

— Во і госця, — чамусьці не здзівіўся Муня. — Чуеш, Клава, ці не прынесла навіну якую? — амаль абрадаваўся і паклікаў жонку. Тая толькі хмыкнула і крутанулася да люстэрка: не да навін — на работу спазняецца… Ды яшчэ па холадзе — б-р-р… — сцепанулася…

Але так яно і выйшла. Навіна не затрымалася…

Тэлеграма прыйшла тэрміновая і зусім нечаканая: памерла сястра, Лёкса. Александрына. Александрына Аляксееўна…

Муня, тады яшчэ Эмануіл, Эмануіл Аляксеевіч, паспеў толькі перадаць жонцы, з якой і пражылі ўсяго без года тыдзень, каб збіралася, купіла тое-сёе… Папраўдзе, можна было б ехаць і аднаму: ні «чырвовую даму» ягоную ніхто ў вёсцы не ведаў, ні яна і ў вочы той вёскі не бачыла…

Рэдактар, дзякуй яму, даў «Масквіча». Але ж — дарога… Муня знаў яе і ў дождж, і ў мяцеліцу… А сёлета… Крый, Божа, і ўратуй…

Спачатку, на галоўнай магістралі, было як бы і нічога сабе: каляіны бойкія, амаль чыстыя, наезджаныя, — транспарту шмат — і ў адзін бок, і ў другі. На абгонах глядзі толькі ды пільнуйся, каб не занесла і не выкінула на сустрэчную паласу…

А вось калі звярнулі на гравейку, тут ужо і Мікола, шафёр хоць і спрактыкаваны, бывалы і не раз перартузаны бездарожжам у рэдакцыйных камандзіроўках, затрывожыўся, але нічога не сказаў, толькі языком зацмокаў…

Ехалі, як па тунэлю — толькі зверху была прагаліна, ды знутры, з машыны, яна не прасвечвалася, а паабапал, па бартах, узвышаліся снежныя сцены: бульдозер разгарнуў завалы на адну каляіну. Размінуцца можна было толькі на перакатах, дзе снег зганяла ў поле. Там быццам трохі рабілася вальней на душы. Мікола з палёгкай уздыхаў, мелькам азіраўся на Муню. Той таксама адрываў напружаны позірк ад ветравога шкла, ніякавата, можа, і вінавата пачынаў усміхацца. Як усё адно казаў: «Выбачай, — тут, помніцца, яшчэ і не такое было: выбоіны — у калена. Засыпалі, падштукавалі збольшага. Яшчэ і асфальт класці пачалі… Грошай во толькі не хапіла, збяднелі гаспадаркі…» І тым момантам якраз гладкая стужачка, што выводзіла паваротам з аўтастрады, абарвалася, «Масквіч» чыркануў днішчам па глыжах, яшчэ з паўметра прасунуўся — хутчэй углыбкі, чымся наперад — і канчаткова сеў.

— Здаецца, прыехалі… — адкінуў дзверцы Мікола, высунуўся з галавою, пазіраючы на задняе кола, газануў раз-другі. Гума яшчэ так-сяк чаплялася за ўледзянелы грунт, але моцы пацягнуць машыну не было ніякай. Толькі струмок брудна-снежнага мліва вылятаў з-пад левага кола, правае ж наогул ужо завісла…

Тады зашавяліўся і Муня:

— Падштурхнуць, ці што?..

— Ды, бадай… — хоць і не надта разлічваў Мікола на дадатковую конскую сілу, але ўсё ж…

Варта было б і Клаве паварушыцца, але тая адно толькі зябка зашылася, як мышка, востранькім носікам у футравы каўнер ды калюча кідала вочкамі то на Муню, то на Міколу…

Ужо з Муневай падмогай гайдануўся «Масквіч», асеў і на правы бок, шкрабануў па зямлі другім колам. Здаецца, вось-вось усхопіцца на ўсе чатыры, цвёрда ўвапрэцца, паднатужыцца — і рване з гэтай дурной пасткі.

Тут ужо Мікола падахвоціў і Клаву:

— Ну, маладая, але прыгожая, «мо без вас было б лягчэй»? — ці як там у Кандрата з Крапівой?..

— Даўно вучылася — усё забылася, — і ніякай злосці: Клава адпасавала як жартоўную падачу. Нават з пэўным какецтвам, нібы прыцiснуўшы языком, каб пагнаць праз нос гэтае «даўно», адцяняючы сваю маладосць не толькі на Муневым фоне, але і перад сціплейшым на вязанку гадоў Міколам… — А ўсё ж «нукаць», не запрогшы, не раю… — зноў падкрэслена, як вузельчык завязала: «не запрогшы», — не адно толькі голасам, але і быстранькім, як джальца, позіркам. І таілася ў ім, падалося Міколу, не крыўда, нешта змоўніцкае, як адпушчэнне грахоў — наперад, авансам, ці як…

Ды і чаго крыўдаваць на Міколу: хлопец ён быў кампанейскі, любіў пажартаваць, і асабліва ўхапіць у рукі ланцужок гамонкі, калі ў машыне збіраліся людзі што называецца «з пяром», ды яшчэ «свежанькія», не абцяжараныя Міколавым рэпертуарам…

А Мікола, здавалася, ведаў усё і ўсіх — толькі тэму зачапі. Асабліва пісьменніцкую… Бо і сам ён крыху грашыў — і вершамі, і прозай. І грэх гэты любіў выносіць на публічны агляд, быццам кашулю рваў на грудзях: «У нас, у пісьменнікаў…» — і рукі ягоныя тым часам забываліся, што ім належыць трымацца за руль: яны ўзляталі, быццам крылы, даючы волю і прастор Міколавай фантазіі…

Гэта сёння ён прыціх: дарога не тая, ды і абставіны…

Маўчаў і Муня. Мікола падгазоўваў, а ён упіраўся абедзвюма рукамі ў хвост «Масквіча», часам і плячом паднавальваўся. Чаравікі на прамёрзлых скураных падэшвах коўзаліся, ногі, не маючы апоры, як адрываючыся, выскоквалі з-пад Муні, а сам штурхач тыцкаўся носам у багажнік…

Клава толькі скоса глянула на залепленага снежным месівам Муню, двума пальцамі, а можа нават і адным, абаперлася на

крыло «Масквіча». З-пад кола, калі яшчэ раз Мікола наддаў газу, пырснула брудна і шархотка. Усё: і халяўкі замшавых боцікаў — вышэй калена, і надзіманая — на пуху — блакітная куртка, і нават рыжая грыўка, што выглядвала з-пад норкавай «баяркі», — усё — і вокам не паспела Клава міргнуць — было праглянцавана чорнаю, як вакса, куламесай з-пад кола, што вісела-вісела і раптам, асеўшы, загрэбіста рванула па тарфяным подсціле ўзбочыны… Клава нейкі момант няўцямна стаяла, не апускаючы рук, быццам хтосьці трымаў іх на падвесках, як у лялечным тэатры. Потым грэбліва, маўляў ад брыдоты якой, пачала абтрасацца — не на ўсю руку, а кончыкамі пальцаў, амаль праз слёзы паўтараючы: «Казала ж не ехаць, казала ж…»

Выштурхнуў іх на асфальт сустрэчны грузавічок. Хлопец-шафёр нават паабяцаў: «Пачакайце, вяртацца буду — вазьму на трос…»

А наколькі тое «пачакайце» разлічана, колькі працягнецца?.. А душа Мунева разрываецца: «Не ведаюць жа, што еду, возьмуць і не дачакаюцца, пахаваюць…»

— І што ты, галасіць сабраўся?.. — Клава зябка перастукнула боцікамі, і тут, нібы штосьці прарэзалася ў яе з прытоенай падсвядомасці, нібы ўспомнілася даўно выпеставанае, але прыдушанае апрыклым гнётам: «А знаеш, калі б ты памёр, ну хоць сабе зараз, — я, напэўна б, і не заплакала… — як пажартавала ўсё адно. — Слёзы на холадзе стынуць…»

Тады і папрасіў Муня Міколу:

— Давай-тка на магістраль…

Міколу што — газануў, пасунуўся…

Клаве ж падумалася: во, ці не назад, дадому?..

А Муня, як толькі параўняліся з аўтапрыпынкам — ён быў тут жа, недалёка ад павароткі, — сказаў тармазнуць, палез у кішэню, выняў кашалёк, адлічыў тры рублі пяцьдзесят пяць капеек (хацелася чамусьці менавіта гэтак — капейка ў капейку) — і працягнуў Клаве:

— Вось: роўна да горада… Вылазь…

Нават сам не спадзяваўся, што так атрымаецца, — хутка і проста…

Як атрымалася і тады, калі сышліся яны — быццам Бог паслаў — у невялікім мястэчку, ці, можа, хутчэй, вёсцы на дзве вулачкі, куды прывяло Муню рэдакцыйнае пісьмо, а ў ім — скарга на дрэнную працу сельмага. Дакладней, не самога сельмага, а прадаўшчыцы ягонай: маўляў, грубіянка, нос верне ад пакупнікоў…

З пакупнікам, тым самым, што пісаў у рэдакцыю, Муня, зразумела, сустрэўся найперш. Хоць і прасіў не называць яго, але прозвішча даў дакладнае — ці не пра заробак усё ж карцела стрэмка…

Хлопец якраз заводзіў трактар: раз за разам шморгаў шнур «пускача». Той на два-тры абароты чмыхаў, нават трошкі і дыму даваў. Але тут жа штосьці глуха кляцала ў яго жалезным нутры — дызель маўчаў: да яго не даходзілі нервовыя, нямоглыя «пускачовыя» дрыжыкі. Як, па ўсім відаць, не даходзілі і самыя адборныя, ядроныя, не дзеля ўгавораў парамеленыя, словы трактарыста… Перамеленыя ды яшчэ і густа замешаныя — злосцю і крыўдай на Клаву… Тая, зноў жа, як і гэты «пускач»: толькі і знае чмыхаць. Адна розніца — заводзіцца з паўслова. Вось і ўчора: «Зноў набраўся? І чаго ты поўзаеш сюды? Сказала ж — раз і назаўсёды: не чапляйся!.. Не ў каня корм…» А якое там «набраўся»? Ну, глынуў для парадку, для храбрасці, нарэшце. Бо, дапраўды, на цвярозую галаву і баяўся ўжо да Клавы падыходзіць. А як пацягне добра — ногі самі вядуць і язык развязваецца… Бачыш ты, цаца гэтакая, — каралева прылаўка… Пачакай вось — шлеганууць у газеце ды патураць з крамы… — будзеш радая, што падбярэ хто-небудзь…

У момант гэтых сэрцаломных «заводзін» і дапяў да вушэй — як падалося па голасе — нейкі нетутэйшы «Добры дзень»… Таму і адказ наўстрэч нагадаў невыразнае, як індычынае, слоў не ўлавіць, булькатанне. Быццам не паверыў хлапец, што да яго звяртаюцца, — так, азваўся на ўсякі выпадак…

— Ды я, уласна, з рэдакцыі і шукаю, здаецца, вас — па пісьме па вашым…

— Тады я і ёсць ён самы — Шаравера… Вінцэнты — як у нас, па-вясковаму, Вінцук, — і працягнуў руку, махнуўшы ёю на два бакі, як лязом па бруску, па зашмальцаванай да бляску штаніне. Чысцейшай, пэўна ж, рука не зрабілася, ды, зрэшты, Вінцэнты гэтага і не дамагаўся: маўляў, трымай «петуха» — у мазуце і салярцы — і ведай наш пралетарскі поціск… Як правяраў усё адно… На ўсялякую неспадзяванку. Каб потым даць ацэнку і яму, правяральшчыку… А папраўдзе, дык, можа, і ад разгубленасці было ўсё. Ці нават нейкай боязі. Пісаў — не думаў, а зараз во: расказвай ды тлумач… А што расказваць, што тлумачыць?.. Хіба вывернеш душу, так вось разбярэш на шрубкі ды гайкі перад гэтым, лысаватым… Як назваць яго, Вінцэнты так і не прыдумаў, толькі буркнуў:

— Самі вунь і пабачыце… — і кіўнуў галавой у бок крамы…

А пабачыў Муня… Пабачыў, што адразу ж і незваротна павярнула на сто восемдзесят градусаў ягонае халасцяцкае жыццё…

Не сказаць, што Муня не заляцаўся да дзяўчат. Былі, падабаліся. Сэрца яго, мяккае і падатлівае, знаходзіла самыя, можа, дробязныя і нязначныя падставы для душэўных турбот і хваляванняў. Але, часцей, на гэтым і спатыкалася. Не мог Муня, як астатнія, хоць і не ўсе, відаць, хлопцы, лёгка падысці, загаманіць, усміхнуцца, прыхінуцца. Агеньчык так і згасаў недзе ў маўклівых глыбінях Муневай натуры. Адно мог ён патлумачыцца з таемнай абраннiцай завочна — у пісьмовай, так сказаць, выяве. Ды і то не заўсёды траплялі гэтыя «песні песняў» да адрасатак. А калі, можа, і траплялі, то ўзаемнага паслання Муня наўрад ці чакаў, — горкі вопыт падказваў: не так і не тое трэба… Не той арсенал… Ды на іншае рашучасці не ставала… Хлопцы-аднакурснікі пасміхаліся, называлі «завочнікам», дзяўчаты паступова, але няўхільна як бы некуды адплывалі, аддаляліся, прасцей — махалі рукою…

Кажуць жа: каханне сляпое… А можа, наадварот — яно адкрывае вочы?..

Гэта ўжо цяпер, седзячы ва Узбор’і, Муня не раз і не два, бяссоннымі начамі адзіноты, блукаў паміж гэтымі двума полюсамі. Намагаўся разважыць, хоць бы дзеля абманнага супакаення, выцягваў з памяці, як стрэмкі, самыя дробныя, здавалася, самыя нязначныя, выпадковыя, словы, рухі, жэсты, — а часцей яны самі выплывалі, як з небыцця: што гэта было?.. Выпадковае зацьменне? Ці падарунак лёсу? — кароценькі міг, каб чалавек пазнаў, што ёсць шчасце, што недарэмна ён з’явіўся на гэтым свеце… Каб пасля, магчыма, і на тым прыгадваць — хай сабе і шчымліва-балючае, але і самае светлае, што здарылася, знічкай прамільгнула аднойчы тут, на гэтай зямлі… Успыхнула зорка — і згарэла. Але святло ад яе — Муня амаль фізічна адчуваў — ідзе, турбуе, не дае забыцца… Можа, гэта ўжо зусім і не яна была, не Клава, а толькі яго спакутаваная мроя?.. Зрэшты, мог ён і тады ўсяго толькі ўхапіцца, як за пярынку з крыла жар-птушкі, за водбліск свайго таемнага ідэала, што ўспыхнуў перад ім з-за прылаўка таго злашчаснага сельмага…

«Як радысачка», — першае, што ўхапіла тады вока: ружовае з белым — на шчоках, — вось толькі-толькі з градкі, абмытая свежай, са студні, вадою, з гуллівымі пераскокамі сонечных зайчыкаў, з хвосцікам валасоў, заціснутых гумкаю на самай макаўцы… А калі падышоў бліжэй, гэты «мульцік» засвяціўся

раптам загадкавай недамоўленасцю і насцярожанасцю. І вынікалі яны — як ні дзіўна было — найперш не з вачэй, а з ямачак на тых самых радысчыных пульхненькіх шчочках…

А яшчэ дзіўней, чаго Муня адразу і не ўсвядоміў: куды зніклі, куды падзеліся ягоныя нерашучасць і прыкрая ў такіх выпадках нехлямяжасць?.. Гамонка вязалася сама сабою — нязмушана і лёгка, нават з блазенскай нахабнаватасцю.

— А я спецыяльна і ехаў да вас, і шукаў вас… — Муня ўжо, здавалася, і на ўвазе не меў тое пісьмо. Штосьці іншае хавалася за напалову жартоўнымі, але і зусім сур'ёзнымі словамі, падмацаванымі рашучым азарэннем: «Яна!.. — Муня адчуваў, як наплывае, сыходзіць на яго нешта невыказна трапяткое і жаданае, што ён доўга, гэтак доўга і марна шукаў і ніяк не мог знайсці… А яно — вось узяло і само як з неба звалілася… — Не-е, адгэтуль я адзін не паеду!..»

Муня і не заўважыў: ці гэта ён толькі падумаў ці сказаў. А можа, услых паўтарыў падуманае. Хутчэй што так. Бо чаму ж яшчэ вышэй узляцелі, тарганулiся вострымі кончыкамі яе бровы, што і без таго, як два чарнявыя струменьчыкі, успырсквалі ад нешырокага, але жорстка акрэсленага пераносся да скроняў і нібы цягнулі за сабою разрэз вачэй, звужаючы яго да няўлоўных рысаў чагосьці ўсходняга.

— Ды вы б хоць імя спыталі, — засмяялася, і засмяяліся ямачкі на шчоках, а вочы — вочы толькі надавалі ім мяккую, таемную падсветку. Так робяць спрактыкаваныя майстры-фатографы, падумалася тады Муню…

— А то — дзіва гэтакае! — сто гадоў ужо знаю і паўтараю: «Клава!..» — сваё імя ён дыпламатычна ўтаіў: дужа не хацелася абцяжарваць гуллівы тон гэтым «Эмануіл», — прыдумалі ж такое… Не бацькі, канешне, а поп, са старaверскай непахіснасцю: як выпала па святцах — так і запісалі…

І яшчэ паспеў заўважыць Муня: у ямачках тых, нават пры ўсмешлівых іскрынках вачэй, затойваліся халодныя, хоць таксама іскрыстыя, ільдзінкі ценю… Яны не расталі і пасля…

…Амаль з першых дзён замужжа Клава неўзлюбіла спаць разам — спачатку пад адной коўдрай, а потым і на адным ложку…

Прачнуўшыся тым разам, Муня спалохана ўгледзеў у перадранішнім прысветку скурчаны гарбылёк на дыване, пасярод пакоя.

— О Божа, ці не блага табе, Клава? Клаўка?! — адхінуў кажушок-накрыўку, аберуч крануўся галавы, пахітаў ціхенька, як мяч у далонях.

— Ды адчапіся ты, дай хоць тут паспаць…

— То і месца ж выбрала… — буркнуў Муня. — На ложку цесна, ці што?

— І цесна, і вузка… Штурхаешся, як бугай, ды яшчэ дыхаеш паравозам — ад гарачыні і поту звар’яцець можна, на сценку палезці…

— Ну дык… — Муня хацеў па-мужчынску абурыцца, можа, нават і словам цвёрдым урэзаць, а ўсяго толькі хапіла храбрасці на гэтае ні то выбачальнае, ні то ўпрошвальнае «ну дык». — Ну дык кладзіся ідзі, мне ўжо і ўставаць час — тое-сёе дакрэмзаць трэба…

— Адчапіся — я ж сказала… — І кінула — на даважку, як патлумачыла: — Там яшчэ да снядання пара дыміцца будзе…

Прыйшлося праглынуць і гэтую «жабу». Як і тую, ці не самую першую, — з імем:

— Якое ж яно ў цябе нейкае… халоднае, як жаба, — і расцягнула, быццам распластала на ўсе чатыры лапы тую самую жабу: «Э-ма-ну-іл…» І тут жа перахрысцілася: «Во: Муня!..» — і лягчэй і весялей…

— Дык сабачае ж, нейкім чынам…

— А нічога, нічога, — смехатліва засакатала, — куплю і павадок!.. — І тут жа абарвала, папярхнулася, быццам павадок той трэснуў. — Толькі ці трэба? І навошта? — прывязвацца ды прычэплівацца… — Пацямнелі ямачкі на шчоках, бровы тарганuліся ўніз, кіруючыся кончыкамі да ружовых дужак вушэй, у якіх гайдаліся — весела і бесклапотна — яшчэ дзве дужкі — залатыя маладзічкі на залатых ланцужках-павуцінках… І твар ад усяго гэтага ўвачавідкі пацямнеў — радысачка ператваралася ў спахмурнелы грэцкі арэх…

А неўзабаве з’явіўся ў пакоі трэці сем’янін — абрыдлы, прыкры для Муні і, пэўна, выратоўны для Клавы, — ложакраскладанец. Па вечарах ён разгортваўся, лязгаючы жалезным шкілетам, выцягваўся, прыўзнімаючы ўзгалоўе, тупа глядзеў на Муню нейкім дапатопным дыназаўрам-страшыдлам і, здаецца, пытаўся: «Ну што, — маеш? Зарабіў ордэр на начлег?.. Кладзіся, кладзіся — са мной не ўпацееш…»

«І даўся ж вам гэты пот!..» — агрызаўся Муня, гатовы падхапіць нахабную пачвару і шпурнуць з балкона — да чортавай матары… А каб супакоіцца крыху, цёр даланёю па цемені — ад ілба да макаўкі і адчуваў: сапраўды, між рэдкіх валасін прабіваліся-высядалі потныя расінкі, — ад хвалявання, няйначай…

Клава ж быццам гэтага толькі і чакала: тут жа заўважала Мунева нерваванне і няйнакш знарокам пачынала чапляцца: «Баліць? Дай палячу, — і пачынала вадзіць над галавою абедвюма рукамі, растапырыўшы пальцы… — Ну, лягчэй? — пыталася і раптам заходзілася ад смеху: — Во і аўра праступае — аж пот засвяціўся…»

Муня — а толькі што парываўся ўпасці галавою на гэтыя цупкія грудкі — выдыхае: «Ну дык…» і зацята адварочваецца… Д'ябал, а не жанчына: не разбярэш, калі шкадуе, калі жартуе, а калі проста блазнуе…

— Ды не дзьміся здуру… — але рукі яе холадна апускаюцца — сеанс закончаны… А шкада — Клава б і яшчэ пазабаўлялася трохі: нагледзеўшыся па тэлевізары экстрасэнса Кашпіроўскага, яна і ў сваіх руках нечакана адкрыла, як ёй падалося, энергетычнае выпраменьванне. І цяпер не ўпускала яна моманту, каб не прапанаваць сваю гаючую дапамогу, асабліва, калі заходзіла ў рэдакцыю, маладым — мужчынам ды хлопцам. Тыя жартаўліва пасміхаліся, але падносілі абцяжараныя ўчарашнім пераборам галовы. А Клава спачатку ўзнімала далоні, нібы зачэрпнуўшы ў іх штосьці, асцярожна несла перад сабою, няйначай жывую ваду, потым пераварочвала, як вылівала на схіленую галаву, пачынала абводзіць яе, не датыкаючыся, кругамі і намітусь — пальцы ўрастапыр, быццам выціскала з іх апошнія кроплі энергіі, і нязменна пыталася — раз-пораз: «Ну, лягчэй? Лягчэй?..»

Начамі, прачнуўшыся, як ад нечаканага штуршка, Муня ссоўваўся з раскладанца — асцярожна, каб не нарабіць лязгату, гэтак жа крадком падыходзіў да ложка, баючыся дыхнуць, не то што прылегчы побач, глядзеў на гэтыя рукі, узіраўся ў юныя, а як у сне, дык і амаль дзіцячыя яшчэ, абрысы твару, — і адчуваў: нешта пакрыўджанае, нешта страчанае, а можа, зусім і не знойдзенае, таілася ў іх; і шчокі, выдавала, з нервовай палёгкай прыспалі ў ямачках сваіх халодныя цені маленькіх зьяркоў…

«Не будзі, не будзі іх…» — як маліўся сам сабе Муня.

Абуджэнні гэтыя ён зведаў. І не раз…

У той апошні камандзіровачны вечар Муня выйшаў з гасцінічнага пакойчыка — пакурыць. Дыхнула мяккай, ледзь улоўнай цеплынёй ад раз'езджанага за дзень пяску: ападала раса. Як у лазні… — падумалася. — Толькі там на гарачыя камяні чухаюць з конаўкі, а тут на прагрэтыя сонцам пясчынкі асядае малюпасенькімі кропелькамі павільгатнелае вячэрняе паветра…

Па даўняй — яшчэ з начлежнага дзяцінства — звычцы Муня пакруціў туды-сюды галавою, адшукаў у зорным небе Вялікую Мядзведзіцу — Воз, а ўжо ад «задняга адвальчыка» нябеснай «брычкі», перакінуўшы тройчы яго памеры, ухапіўся, як за выратоўны агеньчык, за Палярную зорку. Ён любіў размаўляць з ёю, нават іншы раз і маліўся, — ну, не так, можа, і маліўся, як прасіў аб нечым вельмі і вельмі на той момант пільным і невырашальным… Ды тое ўжо было, калі падрос, калі ўз'юнеў, калі і клопаты закарцелі не дзіцячыя… І як не памаліцца, як не папрасіць: яна ж стаіць, зорка гэтая, лічы, ва ўзгалоўі Зямлі. І ці не па ёй выроўнівае сваю вось наша планета — ляціць і круціцца… А з ёю — усё жывое і мёртвае…

Паляцеў, закруціўся і Муня… «Іначай жа чаму б во гэтак: з думак не выходзіць, не адпускае, і на сэрцы — мілосць і не па гадах вясновая мройнасць… Быццам і раней, быццам і заўсёды, кахаў яе, ды толькі во не сустракаў да ўчарашняга…» — І ён ёй скажа — ішоў і пераконваў сябе… Вось толькі што скажа — чужы, незнаёмы і, бадай, зусім выпадковы… Не, не пойдзе ён, і нічога не скажа…

А ногі самі сабою вялі і вялі… — Пойдзе — і скажа! — такія словы скажа, якіх яшчэ ніколі і нікому не гаварыў… — І амаль шчасліва ўсміхнуўся: як здзіўлёна ўзляцяць крылцы броваў — аж да самых скроняў…

Прыпыніўся ён ля палісадніку. Не так прыпыніўся, як спатыкнуўся на голас, глухаваты, але выразны ў вячэрняй цішыні. Ён далятаў з адчыненага акна:

— От, бо, дзеўка, бяруць, то і не рыпайся: ідзі, бо. Ну, у гадах, ну, лысаваты, бо… Дык усё ж гэта, бо, як на лепшае: не пабяжыць, бо, не закарціць на іншых зыркаць, — жонкі, цябе ж, бо, гэта самае, пільнавацца будзе. А з лысіны тае не мёд, бо, піць — прыжывецца-звыкнецца, бо…

Ён адразу пазнаў — не пазнаць нельга было: «бо» — з першых слоў, як толькі пераступіў парог ейнай хаты, Муня спатыкнуўся на гэтае «бо»… Ці кабета «божкала» такім чынам, ці высноўвала свае прычыны і наступствы: «бо», — цяжка было здагадацца… «Бо…» — і разумей, як хочаш. Так і пра Клаву расказвала яна — стрыечная цётка, што сталася адзінаю трысцінкай, за якую трымалася ў сваім бязродным дзяцінстве дзяўчынка: маці памерла, а бацька, папартызаніўшы вайною ў навакольных лясах, з'ехаў — «да сваіх вярблюдоў, бо…» — усміхалася іншы раз цётка… З'ехаў, пакінуўшы ў спадчыну Клаве і «фас» і «профіль», а ў дадатак яшчэ — характар: «Я сказала…» — і

пры гэтым позірк быццам не даходзіў да Муні, а спыняўся недзе на паўдарозе: прамень холадна рассыпаўся, упёршыся ў незаўважную для старонняга вока сцяну… «Ды яна ж не бачыць мяне…» — жахаўся тады Муня і хуценька адводзіў пагляд…

Тым вечарам, аднак, ён нічога не хацеў заўважаць: ён, як зачараваны матылёк, ляцеў на агонь… Усё малявалася яму ў фарбах першага вясновага квітнення — даверлівага і наіўнага. Нават словам тым, цётчыным, ён не даў веры, адмахнуўшыся ад іх як ад уласнай, па недарэчнасці, прыдумкі: чуў ці не чуў?.. А калі і чуў — дык ці конт пра яго тое?..

Што ні кажы — сляпое каханне… Але якое б ні было яно: сляпое ці відушчае, мудрае ці безразважнае — усё адно гэта вялікае шчасце. Як Боскі дарунак у жыцці… Нешчаслівага кахання не бывае. Нават і такое, як у яго: аднабокае, бязвыйгрышнае — і ўсё ж, усё ж…

«Тры карты… Тры карты…» Муня глядзіць, як нервуецца Корцік: браць альбо не браць трэцюю? А гэта ўжо кепская прыкмета…

І Дэбет насядае ды яшчэ і гыркае:

— Ты на пяцярню не плюй: новую калоду ўмэнт замусоліш — не сам купляў, то й слюмакі не распускай…

Шкада Корціка: вельмі ж банк зняць хочацца — у «заканадаўцах» пашыкаваць…

Гэта ў іх карцёжнай кампаніі — яшчэ адна такая гульня, пабочная, як па канстытуцыі: улада заканадаўчая, выканаўчая і судовая. У заканадаўчай — той, хто выйграе і, натуральна, фінансуе замочку. Хто прайграў — улада выканаўчая: бяжыць у краму. Ну а судовая… Судовая заўжды заставалася за Мунем — ці ён у выйгрышы, ці прагуляўся. І роля, калі разабрацца, не так судовая, праваахоўная, як філасофская — з правам старэйшага і вучонага чалавека: разважыць, памеркаваць ды раскрыць вочы, асабліва даць каментар да штодзённай тэлевізарнай «лапшы» і «поліўкі»… Пра ўладу і царкву… Пра багацце, пра беднасць і каханне — як падваліны шчасця. Багацця няма, беднасць ёсць, а каханне — «Тры карты… Тры карты…» — горка ўсміхаўся Муня. Калі надаралася — выйграваў, — тут жа аддаваў «банк» «выканаўцу», каб не згубіць ні кропелькі шчасця беднасці… Пасля трэцяе калейкі, прыкусіўшы, чым было, з палёгкай уздыхаў: «Во і падзяліў сваё гаркоцце — як той горны пік Перамогі з душы зваліў…»

Шкада Корціка… А як супакоіць, як прытаймаваць яго хоць трошкі?.. Халодная развага — можа, найгалоўнейшая, незаменная карта… І ў «ачко», ды і наогул…

І каб вырваць Корціка з гэтай шалёнайласткі, збіць гэты безразважны тэмп, Муня, як спрактыкаваны трэнер, раптам уздыхае: «І ўсё ж пайду я, хлопцы…» — Як бы нейкім чынам спрабуе ўзяць «тайм-аўт», — для Корціка, зразумела, дзеля ўратавання ягонага… — Добра і з вамі, але і, пэўна, без вас будзе гэтак жа. Бо жыццё робіцца ўсё больш глухім і бессардэчным. Як тут, так і там, — і Муня паказвае кудысьці рукою нерашуча і няпэўна… Ці то ўгору, ці то ў бок могілак…

— Дык што ж ты, Ляксеевіч, без пахавання, знача, памінаць пачынаеш… — устрывожыўся Корцік, бо думкі — тут жа здагадаўся Муня — шуснулі ў іншы бок: «Адчаліць, знача, а без яго Дэбет, калі выйграе, возьме ды зажыліць замочку…»

— А дазвольце вам не дазволіць!.. — як бы адчуўшы нядобры паварот, незадаволена выбухнуў Дэбет. — Карту бярэш ці не?! А то ўсіх мерцвякоў пачняце тут перакопваць… Не да гульні гамонка гэтая…

Тут ужо Муня абнадзеіўся амаль: уз'юшыўся, затрымцеў валуністы Дэбет — глядзіш, і жарства пасыплецца… А гэта для Корціка — лепш, чым карта ў руку…

— Ды я што — я толькі так, да слова, — супакойвае Муня, хоць і ведае прымхлівую боязь карцёжнікаў: пры гульні пра нябожчыкаў — ні гуку, і пра смерць не згадваць… — А ты, пры ўсеагульнай працоўнай павіннасці, і працуй сабе на здароўе, банкуй…

— І счаўпець жа такое: «пры ўсевіноўнай павіннай працоўнасці»… — розуму дужа набраўся… Таму і выперлі адусюль як дзісяйдзента… Так і заімшэеш ды і загнешся, гэта, на высылцы…

— От жыў чалавек, і ніхто яго не баяўся… — Як і не чуе Муня Дэбета. — А памрэ, прыкладам, — адразу страх нейкі бярэ перад ім: а раптам ён… — І няйнакш палохаючы, пытаецца — быццам і ні ў кога, так сабе, наогул, але Дэбет разумее: у яго пытаецца, у каго ж яшчэ: — І адкуль ён, гэты неспакой — жывых перад мёртвымі?.. Па ўсім, калі разабрацца, дык якраз-такі жывых баяцца трэба найперш — нават мёртвым… А хочаш, я табе скажу, — тут ужо Мунеў позірк стараецца ўлавіць Дэбетавы свіныя вочкі, — усё, можа, таму гэтакім бокам варочаецца, што мёртваму адкрываюцца самыя цёмныя таямніцы — і пра нас, грэшных: хто чым жыве, хто чым дыхае, хто што кепскае меў, нават у намерах, супраць яго, камень які запазухай насіў… То як ужо я памру, хлопцы, нічога брыдкага не думайце і не бойцеся: не пакрыўджу нікога. Бо злосці не маю… Хацеў бы мець, ды

няма адкуль узяць — бедната такая, што і на злосць не хапае, ні каліўца…

— А чаго ж гэта табе так ужо і не хапае? — не адрываючыся ад калоды, косіцца Дэбет. — Хата ёсць, агарод маеш — усё на халяву прыхапіў…

Муня прыжмурваецца, як бы яшчэ прымерваючыся да сваёй мёртвай адпаведнасці, і з патайнай, нібы з труны, усмешкай згаджаецца:

— Ды ўсё ў мяне ёсць, і такое ды гэтулькі, што, сказаць, лепей бы яго і не было… Але нікому зла не ўчыню. А то яшчэ і дапамагу каму… Ну вось табе, скажам, — прыціскае ён да стала руку Корціка, — ты хочаш трэцюю карту згарача схапіць, каб да «ачка» ўлегцы даскочыць, а тут нехта штурхель пад локаць: не бяры, прыкладам, а то і ў перабор загрыміш. Дык гэта і знай: я сігнал даваць буду… Вось так, спыніся, паглядзі ў вочы, таксама ж прыкладам, гэтаму Дэбету: хай сабе і цягне…

Можа, і затрымаўся трошкі, не зусім па правілах, «тайм-аўт», але, здаецца, быў пакліканы па паратунак у самы час.

Корцік, яшчэ нейкі момант павагаўшыся, зазірнуўшы, для пэўнасці, на прыадкрытыя — толькі для сябе — краёчкі свайго набору, рашуча махае вольнай ад картаў рукою:

— Сабе!..

— Этак дык этак: рыхтуйся, кілька, да штрыпцізу!.. — з усё тым жа, неадчэпным, свербам да «вучоных», бо з тэлевізара, слоў, умазгаванне якіх як бы і не тычылася ягонай галавы, а таму і нявечыліся яны, часцей за ўсё, лёгка і складна, Дэбет хукнуў асцярожна, каб крый бог не заслюмачыць, на вялікі і ўказальны, танклява скоўзаныя на лічыльніках, пальцы і пацягнуў, як вышчыкнуў з калоды, карту. Амаль без перадыху, толькі кідае вокам — гэта ягоны шык, — пачынае намацваць другую: з дзвюх картаў, знае, перабору не будзе…

А потым задумваецца і ён: трэцяя, заўсёды амаль, убойная: ці супрацiўніка, ці самога банкаўшчыка — напавал…

Тут ужо Корцік пачынае падшчыпваць:

— Ну, грэбай, грэбай!..

— Спакойна: свая рука — бладыка… — амаль кожнае слова Дэбет падмацоўвае нервовым, не зусім кашлем, а ні то сухім перханнем, ні то шыпучым сыканнем, быццам гусак, што падавіўся асцюкаватым ячменным коласам… — Спакойненька — гэты транш у нас на кантролі…

— От жа нахапаўся, як сабака блох, — з таго тэлевізара… А каб жа табе ды яшчэ каляровы!.. — Корцік аж моршчыцца,

як чхнуць сабраўся: быццам у нос лезе і круціць там Дэбетава слоўная пацяруха… — Трэцяя карта па табе плача…

— А ты не гані: што я, дурань, — прагульваць? — Яно так: не любіць Дэбет прагульваць. Свайго не ўступіць. У Муні вунь дзягу скураную са штаноў выцягнуў, — фірма, з бляшкамі рознымі… «Собсцвеннаручна», — сказаў, каб той і ўпарціцца ды адтэрміноўкі выпрошваць не ўздумаў…

— Дурань не дурань, а ехаць трэба…

— Паўтараю: не паганяй!.. Сам жа во сядзеў, вушы развесіўшы, слухаў… А мне дзяцей карміць трэба…

Ну, ясна ж — без дзяцей Дэбет абысціся не можа. Хоць і дзеці тыя даўно ўжо сваіх дзяцей маюць, але такі ў яго козыр апошні — неабвержны і трывалы, — за дзяцей хапацца, як за саломінку. Як хапаўся ён і тады, калі з канторы выкарчоўвалі: ніяк не мог засвоіць новых лічыльных спосабаў, не прызнаваў, можна сказаць, іх — вышэй драўляных круглячкоў на лічыльніках тэхнікі не разумеў і разумець не хацеў… А тут дзяўчаты адукаваныя панаехалі — з дыпломамі ды кіпцікамі нафарбаванымі… Дзе ўжо тут начальства ўстаіць: не глядзець жа век на Дэбетаву «лічнасць». Адрэгулявалі на пенсійны рэжым, — а па жаданні на «розныя работы»: куды пашлюць, называецца, — калі ласка… Выратоўная «аргументацыя», як ён казаў, самая збалансаваная ў яго была, а не спрацавала, не выручыла… Бо ёлупні — яны і ў канторы ёлупні, не то што…

— Не то што ў «вертыкалі», — хітравата падхапіў тады Муня. — Там ужо хоць і ёлупень, дык што ні на ёсць — «вертыкальны»: далёка відаць…

— А ты мне «вертыкаль» не падстаўляй і не пасміхайся: можа, яна і прывядзе да ладу.

— Во-во, «вертыкаллю», як аглаблёю!.. — Муня знае: дужа спадзяецца Дэбет на галоўнага «вертыкальшчыка»: «Навядзе і ў нас парадак, дабярэцца — не будуць кадрамі папіхаць… Вось толькі каб знаццё яму пра нашы безабразія…» Нават падбіваў Муню: «Напішы-ка мне: у цябе гэта палучыцца далжно, — каб так, як у целявізары…»

— Не-е, як у целявізары, не магу, — адмахваецца Муня. — Маніць не ўмею…

— Так ужо і скажаш: «Маніць…» Не думай — гляджу і слухаю: праўду рэжа прэзідэнт. І за народ гарой, бо і сам з народа, з нашых людзей — з такіх во, як мы… з табой таксама…

— Але-але: не знаю, а што мяне тычыцца, то зманіць так, каб і самому паверыць, ні ў жысць не змагу…

— Брашы, брашы — гэта ты ў настаяшчы мамент за дзісяйдзента выдаешся, а ўсяго… ходзіць жа слушок, папёрлі, бо плугіятам зрабіўся, чужым плугам, памаш, араць пачаў…

— Ды не «плугіятам», як ты кажаш, а плагіятарам, калі ўжо на тое, — злодзеем такім, што чужую пісаніну за сваю выдае… А ўжо на самай справе, дык і зусім наадварот было: чужыя думкі ўспрацівіўся я выдаваць за свае. Якраз з-за гэтай самай «вертыкалі» рэдактар у нас новы аб’явіўся — з былых райкамаўцаў, зростак такі аглоблі з дугою. Ну і давай усіх «вывертыкальваць», — што ні напішаш, слова ў слова каб у «вертыкальны» тон было. А ў мяне — свая галава на плячах і свае рахубы… «Не-е, — кажу, — гэта не за райкамаўскім сталом вымовы шлёпаць…» А ён, брат, помніць усё: дзяжурыў я па нумары, а ў заметачцы замест «райкам партыі» ўзяло ды праскочыла «райкарм партыі»: «р» лішняе ўплішчылася ды такі сэнс засвяціла!.. Ну і ўскінуліся ж на мяне, не раўнуючы, як сабакі, — і асабліва гэты… З газеты ледзь не папёрлі, на валаску, бадай, утрымаўся. І то, пэўна, што ўлада партыйная тым часам ужо здорава пахіснулася… А во нагнаў жа мяне той самы ганчак райкамаўскі, зноў ухапіўся, ды ўжо не за лыткі, а з аглаблёю… Плюнуў я ды і ў фермеры, бач, прыбіўся — співацца з вамі…

— А ніхто ў горла сілком не лье! Фермер, называецца: крапіва на страсе парасла. Яўсцвенна: не на фермера цягнеш, а на «дзермакрата»…

— Ну, чым не «ўсенародны»! — рагоча Муня. — Хоць зараз стаўляй у прэзідэнты — і кіраваць будзеш: нічога не зменіцца. І народ павесяліш-парадуеш…

— Смяешся ўсё, выстаўляешся, як грывеннік супраць чырвонца…

— А я і зусім сур’ёзна: заменіш без урону. Эканамічна ты падкаваны: дзве адукацыі маеш: — пачатковую і няпоўна-сярэднюю, з палкавой школай у прыдачу… Так што і вярхоўным галоўкамам можаш: смірна! — і аць-два!.. Вось толькі з тэхнікай не надта ў ладах ты: усё ўзненавідзеў, апроч тэлевізара, праўда…

— І хай сабе!.. Гэта вы бельмы пазалiваеце — і гунд бай: седзіцё перад тым целявізарам ды акунёў вудзіце носам. А я, будзем лічыць, не дурны: я борствую, я ўсё дэбетую, усё ў гэтую скрыначку плюсую… — Дэбет, задаволены сам сабою, працягвае ўказальны палец, быццам пісталет наводзіць да скроні, і пастуквае, нават глухаватае бомканне знутры адгукаецца. — Там аб усім на свеце падсумаванне кладзецца. А ты: «прэзідэнт», «прэзідэнт»…

— Дык я ж з добрымі намерамі: дапамагаць трэба. Бо хто ж, калі не браты па класу?..

— А што — думаеш, лёгка яму аднаму? Акружылі такія во, не паказваючы пальцам, баламуты ды з тропу збіваюць, палкі ў колы тыцкаюць…

— Каб жа баламуты, а то і карупцыянеры…

— І яны!.. Кару здымаць майстры… Абкораць, як ліпку, ад каго капейкай запахне… Дак ён жа, памаш, супраць іх гераізм праяўляе!.. Масавы гераізм… Кожан дзень… Вумсцвенна…

— Грандыёзна!.. І ў корань… А галоўнае — ясцесцвенна, — Муня падхоплівае дэбетаву «трасянку» і весела, са смакам паўтарае: — Ясцесцвенна!..

— Не-е, кажу, дазвольце вам не дазволіць: што ёсць ясцяство, то і дурны чыгунок зварыць. А ты вазьмі ў разуменне дзяржаву… Тады і паскаль зубы, — не захочацца…

Было, было… Муня аж спалохана азірнуўся: гэтак далёка яго занесла, так загайдала міжвольнымі згадкамі, што момантам і на гульню забыўся… Ці то сонца прыпякло, размарыла? Ці ад'ездка вось гэтая расчуліла, — праўда ж, і як адарвацца ад усяго: ад бярозак, што сам, бадай, адзін, нанасіў з лесу ды наторкаў во тут, на Веснагорцы, а яны ўжо і «паркам» зрабіліся, такое, прынамсі, найменне зарабілі; ад гэтага выгану з першымі вясновымі краскамі; ад гэтай траўкі-мураўкі — хоць да шчакі прыкладвай, — у светлай зеляніне якой качаюцца сонечнымі зайчыкамі жоўценькія камячкі гусянят і кожны натужваецца, цягне за хвосцік сваю, самую смачную, травінку, — і калі тая раптам адрываецца — камячок перакульваецца лапкамі ўгору, але травінку не выпускае: здабыча ўсё ж; і нават ад гэтае сталюгі з лавачкамі наўкола, так-сяк зладжанай, зноў жа ягонымі рукамі, — не на траве ж, углуха, гуляць: ні картай пляснуць, ні дамінінай бухнуць…

І во — над пасівелымі, да шэрага, дошкамі гэтай самай сталюгі зацята схіліліся Дэбет з Корцікам. Так яны заўсёды: па-бычынаму — рогі ў рогі… Не столькі там ужо і выйгрышу таго, але ўступаць ніводзін не хацеў: спартыўная злосць не дазваляла — даўняя і ўзаемная…

Муню аж захацелася нават узяць аднаго і другога за карак — ды ўсміхнуўся тут жа: «Не развалачэш…»

Дэбет выцягваў шыю, лосны ад тлушчу твар звужаўся, збягаючыся да носа, і ўсё адно як пачырванелай дзюбай, сыкаў на Корціка. А той, у сваёй злінялай, мытай-перамытай, што і палоскі ледзь угадваліся, цяльняшцы, выдаваў на перапялёсага

шчупака, які ў падлёдную задуху сам сабой выкідваўся з палонкі і на ўсе пашчэнкі хапаў паветра, — здаецца, у Корціка і вушы, быццам жабры, падшавельваліся…

І ўжо нічога бычынага, апроч вясёлай, збоку гледзячы, паставы, не было ў гэтым супрацьстаянні, і ўжо абодвух шкада рабілася Муню…

У гэтым напружанні Дэбет нават і сам не заўважыў, як трэцяя карта слізганула з калоды і шлёпнулася ля тых, дзвюх першых. І толькі тады ўжо ён грэбнуў за краёчак, прыўзняў яе — і тут жа пранізліва ўзвіскнуў:

— Сцервы! Дак я што — дурны? Дурнейшы за некаторых тут, памаш?!. А мне, можа, трэба больш, чым трэба… Мне дзяцей карміць… А тут толькі і знай, памаш, — пад руку штурхаюць…

За гэты час Корцік тройчы паспеў ірвануць на грудзях цяльняшку і прагалёкаць:

— Палундра! Свістаць усіх наверх!..

— Усіх не напоіш — не свішчы… Сабе хапіла б дзвіжок заправіць… — Дэбет, наўздзіў, уключаў ціхамірныя абароты — яўна, што не хацеў па абавязку «выканаўцы» валачыся ў краму…

Балазе, задыханы, выскачыў з вуліцы Санька, унук меншы, загукаў падбягаючы:

— Дзед, а дзед, мамка кліча!

— А я хіба там качаргу знёс якую, ці што? — І ўжо да Корціка — выратоўнае: — Дак, памаш, не магу ў краму… — А ў самога злосць на нявестку накіпае: прыдумала ўжо нешта, не можа, каб чалавек спакойна пасядзеў, душу звадзіў на адпачынак…

— Дык не, не качаргу… — перамінаецца на пабітых цыпкамі нагах Санька. — Мамінай цёткі… зяцеў…

Дэбет нервова глядзіць у Санькаў рот: быццам чакае, што адтуль зараз нехта выскачыць…

— …браценнік… з Казубца… — нарэшце, шморгае носам Санька, даючы зразумець, што ён скончыў.

— Дак і што? І якога, д’ябла яму, памаш?..

— Нейкую баньку пытае — касіць пачаў, а ў яго лопнула…

— Цьфу! — плюецца Дэбет. — Каб табе ў штанах… каб лопнула!.. Папрывыкалі, памаш, на халяву…

— Мама кажа, — нахіліўшыся да вуха, шэпча Санька, — кажа, паўлітра прынёс…

— О-о-о! — Дэбет жвавенька засабіраў карты. — Не быў бы той чорт свой: паўлітра, памаш, прынёс! Трэба ісці…

— Ды і ў мяне дзесьці ў пячурцы валялася банька, — ірвануўся быў Корцік. Ды не пачуў ужо ягоную зачапку Дэбет. Ці наогул, і чуць не хацеў…

— То мы і самі з вусамі, — супакойвае сам сябе Корцік, пазіраючы, як хаваецца за вуглом медзведзяватая постаць Дэбета. — Запрагаем зараз — і сем футаў пад кілем!..

І ўжо момантам з капцёркі — а яна тут жа, бо і ферма побач, на самым узлобку Веснагоркі, — вылятаюць цераз парог дуга, сядзёлка, лейцы, потым, з нейкай замінкай, перавальваецца хамут, а следам за ім коціцца дзевяты вал:

— …а раскалі хрэнам палубу!.. Супоню выцягнулі!..

Бушуе Корцік і не бачыць, як пры гэтым ні то спалохана, ні то вінавата Муня шчыльней захінае криссе, у дзве рукі — ззаду і спераду — мітуслiва падшморгвае штаны…

Канешне, супоня ў вупражы штуковіна, здаецца, і не прыкметная, дробная, — а без яе не паедзеш: хамут не сашчэміш на конскай шыі… Муня як бы і спачувае, і памагчы завіхаецца — падшукаць што-небудзь наўзамен той супоні, — але неяк нясмела і, быццам, сарамліва…

Нарэшце, Корцік рашаецца: складанчыкам, а ён заўсёды ў яго на ланцужку, у кішэні, адкройвае ад церассядзельніка пасак — хопіць і на адно і на другое…

Выехалі — адразу ж з прагону — на грэблю. Корцік надта не гнаў, не муштраваў Буланага. А той аж здзіўлена касавурыўся то цераз правую, то цераз левую аглоблю, быццам пытаўся: а што ж гэта творыцца такое?.. Які там і за якой гарою воўк здох?.. Корцік жа — і на супоню забыўшыся — выплываў, як з павуціны, з мляўкай расслабленасці, што звычайна ахінае пасля нервовай напругі, і — што таіць — ужо лунаў у салодкім прадчуванні вясёлай кроплі… Бывае ж такое, што само чаканне п’яніць не горш за першую чарку… Вось-вось яна — быццам і разліваецца ўжо, цёплая ручаінка, па нутры, і ў галаву падступае…

Маўчаў і Муня. Толькі на твары нясмела блукала ўсмешка — амаль заўсёдная і пастаянная для яго: як наканаванне, як прысуджанасць не ўчыніць нікому і ніякага зла… З-за гэтае ўсмешкі, не сакрэт, сёй-той ва Узбор’і, а найперш, пэўна, Дэбет, лічылі ды і не ўпускалі моманту выдаць Муню за чалавека не зусім, па вясковых мерках, сур’ёзнага, дзівакаватага, без той долі сялянскай хітрасці, што надае ў жыцці вагу і грунтоўнасць…

Толькі сёння яна, усмешка тая, выглядала неяк па-нябожчыцку — нерухома і як бы выбачальна: вось з усім я пакончыў тут — і пайшоў, супакоіўся: даруйце, што клопату з гэтым адыходам нарабіў…

Аб чым думае Муня, куды ўзіраецца з-за гэтай усмешкі? Бадай, так пэўна і катэгарычна ён і сам бы не мог сказаць. Але ніхто не пытаецца — і натужліва збіраць свае думкі ў груваcткія вузлы і мудрагелістыя завітушкі няма патрэбы. І яно — добра…

Добра, што паціху ступае конь. Што паволі — з каляіны ў каляіну — перавальваецца, як на хвалях гайдаючыся, фурманка. Дый вада во боўтаецца: колькі ні асушаюць, колькі ні накрэмсалі «каналаў» і «стрэлак» — прабіваюцца жылкі, напаўняюць нізінныя лагавіны. Колы мякка ўразаюцца ў настоеныя на торфе раўчавіны, выціскаюць на берагі чорную каламуць, але тут жа яна зноў сцякае тлустымі пісягамі ў калейкі, прарэзаныя сотнямі, тысячамі колаў… Во тут во якраз, у самай упадзіне, можа, і па гэтых самых каляінах, помніцца, ехаў ён малы з бацькам сена забраць — у Сёмкаў кут… Турбаваўся бацька, што начны лівень прамачыў, прабіў да самага ніжняга пласта копы. То хоць разварушыць трэба, разгарнуць, каб сонейкам зноў схапіла… «А можа, і нічога? — пытаўся ў малога, а можа, у сябе і падшавельваў коніка бацька. — Можа, і адразу пачнём воз таптаць?.. Пластавалі ж, быццам, ніштo… як сабе…» — усміхаўся. А малому не да жартаў было: вада ўжо амаль да падпуззя каню падбіраецца, вось-вось і драбіны затопіць — колаў ужо не відно… Малы падбірае ногі, якімі толькі што боўтаў узбоч фурманкі, каб слізгануцца падэшвай па вадзе, — як ластаўка, бывае, грудкамі… А цяпер во яна сама падступае — усё вышэй і вышэй, не трэба і цягнуцца… Спачатку хаваюцца ўтулкі з восямі, пасля — падушкі: паперш ніжэйшая, пярэдняя, за ёю — задняя, потым пачынае то залівацца, то ўсплываць выгінастая, як рыбіна, трайня… Бацька, той ад самага дому сядзіць на дошцы, перакінутай з аднае драбіны на другую, — яму ніштo… А разам з вадою і страх падплывае: боўтнешся — дык і з макаўкаю будзе… І конь заўпарціўся, баязліва стрыжэ вушамі. Шлеганyў бацька пугаю, ірванулася фурманка, а вада, быццам на дзве палавіны раскроеная, разбягаецца з плёскатам, а потым — з гэткай жа напорыстай пругкасцю — пеніста абвальваецца за фурманкай, — і ні следу, толькі бурбалкі…

Не раз гэтую вусцішную язду згадваў Муня, калі чытаў у Бібліі, прывезенай калісьці, можа, і насуперак стараверскім канонам, Лёксе, аб зыходзе яўрэяў з егіпецкага палону: як ехалі яны па моры, нібы па суху, як расступалася перад імі — па Боскай волі — вада, а потым змыкалася, каб пахаваць пад сабою пагоню…

І як толькі гэтак, цяпер во, успомніў Муня Біблію, адразу ж мітуслiва ўзняў вочы на Корціка: «Прызнацца ці не?..» «Не

украдзі» — колькі разоў цвярдзіў ён па-біблейску, а Корцік толькі паблажліва пасміхаўся: «Паспрабуй — пражыві, знача, не ўкраўшы, дзе ўсё вакол калгаснае і ўсё вакол маё… Як быццам і не крадзеш, а сваё бярэш…» А што падвозчыку на ферме — ускінуў клунак які з камбікормам у воз, пад салому, прыціснуў задам дый кіруй дадому. Так і выкарміцца-выкачаецца свінчо-другое — і на прыварку, і пад чарку…

Не дужа абыходзіла гэтая «запаведзь» і Дэбета — яго больш займаў і выклікаў упартае здзіўленне і пярэчанне радаслоўны пачатак «Аўрам радзіў Ісаака… Ісаак радзіў Іакава… Іакаў радзіў Іуду…» — тут ужо ён, звычайна, не вытрымліваў, цягнуўся да кнігі, быццам не верачы Муню, перачытваў сам і абураўся: «Дак што ў іх там баб не было, каб раджаць, памаш?.. — і дробненька хіхікаў: — Мужыкі, называецца… Раджалі, памаш… Мана, опіум для народа…» А з тым «не украдзі» Дэбет, здаецца, амаль што паўтараў Корціка: «Браць можна, толькі баланс саблюдай… У меру, памаш, бяры…»

І во — точыць душу Муневу чарвяк… І не адчапіцца ад яго, не адкінуць, брыдоту…

Нарэшце не вытрымлівае Муня, абрывае Корцікаву ўдачлівую прыгаломшанасць:

— А хочаш, я табе скажу, — і замест таго, каб нешта сказаць, расшпільвае раптам пінжачок, свой, на тры гузікі ўзяты сёння з урачыстасці моманту… Праўда, Корцік паспявае заўважыць, што трохі яны markнакаліберныя, адзін ці не з паліто нават, але ж — усе: і прышытыя, і ў дзеянні. Ды не гэта ўражвае і амаль палохае Корціка, а Мунева падпяразка:

— Слухай, а яно ж… гэта самае … у цябе… як бы супоня?..

— Яна і ёсць… — Муня, нават з палёгкай, уздыхае.

— Тады як жа — «не украдзі»? — Корцік хітравата прыплюсквае левае вока, а правым абводзіць, як аўтагенам, па акружнасці ці не самае пякучае зараз месца, дзе вужакай абкруціў Муню той, сто разоў кляты, раменьчык… — Ого, і спражку нават надыбаў, — дзівіцца, як падхвальвае, Корцік…

— Сам жа ў курсе: дзяга мая перайшла Дэбету, а штаны павінны на нечым трымацца… А тут ехаць… Так што… — цяжка апраўдваецца Муня. — Такое жыццё: еду ва Узбор’е — у два рады гузікі, а з Узбор’я — хоць вяровачкай ці лычкам падпяразвайся…

— Каб жа аборкай, каб… а то ж вунь — сырамятнік які: спражку прыкляпаў — і джынсуй!..

Але асуджэння ці хаця б папроку ў Корцікавым голасе не чуваць. Нават нейкая вясёлая радасць прарываецца:

— І як гэта ты, Ляксеевіч, граху не пабаяўся? Не па Бібліі, не па веры выходзіць…

— А што вера? Вера была да нас і пасля нас будзе… Тут не апраўдвацца і не даказваць, а верыць трэба… — і Муня рашуча пачынае вышморгваць супоню. — На вось — забірай!..

— Ды я — не, я зусім не тое… — хапаецца Корцік за Муневы рукі. — Не думай — разумею: для святой жа справы… То і насі, знача, на здароўе… — і ўжо кідае лейцы і сам зацягвае раменьчык, падсоўвае пад вушкі, рагочучы: — А ты і ёсць, як той хамут, толькі засупоніць ды шыя каб трывалая… І пра грэх — гэта я нарокам… Які з цябе грэх!.. — здаецца, ажно шкадуе Корцік. — Хоць бы награшыў, дык чалавекам, знача, быў бы даўно…

— Што награшыць, то не ведаю, — згаджаецца і Муня, — а хібаў розных ды загагулін — даволі, нават больш чым даволі: на ўсе капыты бывала… — што тое «на ўсе капыты», ён не тлумачыць: хіба і так незразумела?.. — Ды ўзяць хоць сабе і з жаніханнем маім… Куды глядзеў, пра што думаў? Дзеўчанё, лічы, а я, крутадушнік, туды ж… уляпаўся… па самыя вушы…

— Хе-е-е, Ляксеевіч, хай дзякуй яшчэ скажа, што ў горадзе прычаліў… Мая вунь таксама, стаўрыда, і плаўнікі абтрэсла: «Каб я, знача, ды зноў да быдла з табою…» І дзе каханне тое? Няма яго, як і не было ў прыродзе. Імжа, міраж, «Лятучы галандзец»… Сам сабе выдумаеш — і пацяшаешся… а з пасудамыек жа выцягнуў — на палубу… «Не паеду, — цвярдзіць, — лепш пад вінт з галавою…»

— Ды я ніколі і не лічыў, што мне горай за ўсіх. Я заўсёды са смуткам думаю: а колькі ж на хісткай лесвіцы да шчасця, колькі іх — мільёны і мільёны, што грабуцца па ёй, тузаюцца ніжэй за мяне… От і яна, можа, там, Клаўка, сярод іх, і думае, што вызвалілася, суцяшаецца ружоваю надзеяй…

— А мне пляваць — з высокай палубы! Я чалавек марскі. Не дык і не: у пятлю не палезеш… Ды і трэба ты мне такая, як прабоіна ў борце… З такімі, сапраўды, толькі на дно… На марскі вузел бяры, Ляксеевіч, фартуну. Мора моцных прызнае. Хай зайздросцяць… Дэбеты розныя!..

— Нікому я не зайздросціў, не хачу, каб і мне зайздросцілі… Толькі радаваўся заўсёды, гледзячы на ўдачнікаў і шчасліўцаў…

— То і дарадаваўся: у разбітым карыце плывеш — не для шторму пасудзіна…

— Ой, гляджу, штосьці заштарміла цябе з радасці… Ды бяда, браце, што іншы раз не мора чалавека гайдае, а багна, дрыгва зыбучая… І не ўшаломкаеш, як засмокча… — з галавою саракаградуснай…

— Тпр-р-ру! — раптам тармазнуў на дзве ляйчыны Корцік. — Ты, гэта мне, Ляксеевіч, таго… І сам цяпер у мяне на заметцы… Так што… Злазь, кажу!..

І толькі цяпер спахапіўся Муня, што да крамы пад’ехалі. Адно ўразумець не мог: ці Корцік па гэтай прычыне высаджвае яго, ці гамонка не ўпадабалася — насупраць поўсці, пад задзёр, крануў…

— А як жа, а як жа — злезу, — прымірэнча засабіраўся Муня. — То ўпраўляйся тут, а я на пошту, пакуль тое, зазірну…

А пасля пошты Муня раптам перадумаў ехаць…

Тлумачыць не стаў. Але Корцік зразумеў па-свойму:

— Бо, можа, на дарогу няма? То ў мяне засталося каліва, — на во…

— Не-е, — Муня адхіліў Корцікаву руку з працягнутымі паперкамі…

Была і другая здагадка — калі ўжо вярталіся, выехалі на дарогу:

— Ці, мо, па кроплі, га? Пакуль той дом… І пернічак во — зашпакляваць збольшага…

З гэтым пайшло гладзей…

Недзе на паўдарозе Муню яўна пацягнула на «філасофію», як іменаваў ён, на «калёквіум» па закранутай раней тэме:

— От, ты кажаш: «хамут…», а хочаш — я табе скажу: хамут гэты — усё жыццё наша. І нехта, самы хітры і нахабны, зацягвае супоню… Гэткі выходзіць паварот: любі жыццё ці праклінай, а яно бярэ тваю шыю ў клешчы, аблягае загрывак і персі: цягні, выжыльвайся… Трасуцца сцёгны, іскры крывавыя ўваччу, — а ты цягні… цягні, аж пакуль з капытоў… Воля — яна толькі ў марах… А наяве, зазнач, і служба твая — хамут, і абдымкі з бутэлькай, і каханне, зрэшты, — усё ён самы, што ні на ёсць, Яго Вялікасць Хамут… Хамут… Хамут — і супоня… Непрыкметная такая, тонкая і гнуткая, змейка. Зацягнуць гэтую штучку — а здаецца, што так і трэба, і радуешся, шчаслівым сябе лічыш… А можа, гэтак яно і ёсць на самай справе? Без таго хамута мо і не чалавек ты, наогул… А так, фантом, выдумка Боская — ад суму, дзеля забавы… Сядзіць сабе Госпад Бог, пацяшаецца тварэннем рук сваіх, а д’ябал — тут як тут: і хамут

табе на шыю, і супоню шморг-шморг ды на вузялок, а лепей на пяцельку, з хвосцікам, каб адпусціць, адшморгнуць хуценька — у аварыйным парадку, — калі ўпадзеш у аглоблях і задыхацца пачнеш… Усё прадугледжана, усё запраграмавана… Вось цяпер ты ўжо і ёсць чалавек. Не боскі цацачны камп'ютэр-робат дзеля ўсявышняй забавы, не бясхітрасны, па-райску наіўны Адам — а самы Сапраўдны Чалавек, — пра такога і аповесці з раманамі пішуць…

Корцік узняў было пляшку, пакруціў нават, каб унутры бурунчык вінтом пайшоў, — працягнуў Муню. Але той адмахнуўся, як ад назолы…

— І ўсё — супроць чалавека, супроць прыроды і натуры ягонай… Каб у хамут, каб у клешчы заціснуць — гэтага самага — Сапраўднага… Такога, як ты, я… Мільёны нас, мільёны — і на кожным хамут. Свой, асобны, адмысловы — і на бедным гаротніку, і на самым, да прыкладу, багатым-разбагатым… І — пугаю, пугай — каму цераз хрыбет, каму па азадку, каму проста для пастраху: «Но-о-о!..»

Зачуўшы слова, што на конскую мову і перакладаць не трэба, Буланы трухае весялей — ды, яно, дадому заўсёды жвавасці ў пугі не трэба выпрошваць…

— І от куды ехаць ад любаты гэтае, — Муня нечакана мяняе пласцінку, шырокім жэстам абмахвае наваколле. — От конік бяжыць, а ты з фурманкі — ого! — на адзін бок зірнеш — жыта ў трубку ідзе, на другі — што там на другім?.. — бульба, здаецца, ці буракі — шнурочкам, а не праразаюцца… ох і ўродзяць, пэўна, па такім пазноцці… Ды не яны вінаватыя… А проста, воля — во!.. Тут і падумаць, і памаліцца Богу ёсць час, хапае… Вязі, конік, вязі…

— Не-е, не кажы, — пярэчыць Корцік. — Што той конь!.. А ты б на машыне, начальнікам, знача, во сюды: «Марсадэс-бэнц» — і ты!.. Магчыма, і я — на капітанскім мосціку — дзе-небудзь ля чорнай Афрыкі, — о-о-о!.. — сем футаў пад кілем!..

— «Бэнц», я табе скажу, у мяне ўжо ў наяўнасці, і неблагі «бэнц»… З «марсадэсам» тваім толькі нявыкрутка… А падумаўшы, то і радасці ад яго ні на панюх: імчышся, як чорт гоніць, — і нічога не бачыш, апроч вузкай, panылай паласы асфальту, што бяжыць і бяжыць у вочы, ды яшчэ стрэчнае мільгаценне такіх жа пачвараў…

— Затое — хуткасць!.. — не думае здавацца Корцік.

— Пра хуткасць я казаў: самалёт, прыкладам… Пераскочыш на тысячы кіламетраў — і нічога не зачэпіць ні душа, ні вока…

Так — з пустога ў парожняе… Ці на караблі тваім: вада і вада, аднае і ўцехі, як да берага прыб’ешся…

— Ты мне мора не чапай!.. Баліць мне мора, вось тут дзевятым валам бушуе, — Корцік прыкладвае да грудзей, як да раны, парожнюю амаль бутэльку, пачынае паганяць Буланага: трэба падшавельвацца — зялёную падкормку падвозіць час…

Прастуюць загуменнем: бліжэй і цішэй ад назолы ўсялякай…

Дапамагаючы Муню вываліцца з драбінаў, Корцік тупа, з настойлівасцю паўтарае:

— На гарызонт глядзі!.. На гарызонт, кажу…

Муня шчасліва разводзіць рот ва ўсмешцы і рукі для абдымкаў, намагаецца ўзняць вочы ў пошуку гарызонту.

— Дыўлюсь я на нэ-э-эба… А хочаш… хочаш — я цябе пацалую… — Яго заносіць, як хваляй падразае з ног…

— На гарызонт!.. — камандуе Корцік і па-марскому тлумачыць: — Толькі ён нерухомы… І таму — на гарызонт!.. Калі мора гайдаецца… калі штарміць… калі варочаюцца ў мазгах хвалі… — на гарызонт… — і стараецца паставіць Муню хоць у якую-кольвеч «вертыкаль»…

Ужо на ганку Муня ўсё ж дабіраецца з абдымкам да Корціка, суцяшае:

— Ды што супоня… Цьфу… Дай я цябе пацалую… Шкада мне і цябе, і сябе: лішнія мы з табою людзі… па сутнасці… Хоць і дастойныя, не сакрэт…

— А «не укради»? — задзірыста перабівае Корцік.

— А хочаш — я табе марскую дзягу… з якарам… — горача шэпча Муня. — А ты — «супоня»… Вось тры карты… тры… разумееш?.. Яна, я і смерць — паміж… Гэта не супоня табе…

— На гарызонт, кажу… На гарызонт… — наўслед, але ўжо як сам сабе, мармыча Корцік…

А неба глядзіць раўнадушна і спакойна. І гарызонт не хістаецца…

І што небу да дзвюх пылінак на зямлі?.. Сонца ўжо схіляецца за купку бяроз на пагорку: яно заўсёды там заходзіць — за могілкамі. Зімою трохі лявей, не дацягвае, а летам — перабіраецца на правы бок. І тады бярозы, прасвечаныя навылет, загараюцца як свечкі. Жоўтае зліваецца з зялёным — і полымя трапечацца сіняватае, — колеру неба і мора…

А назаўтра, добра такі падмяты, Корцік пераступае парог: праверыць Муню, — і праз момант спалохана капыціцца на ганак, азіраючыся: ці гоняцца за ім?.. Не-е — ціха, і ніхто не

гоніцца… Корцік, прыгнуўшыся, ледзь не рукамі падгрэбвае, бяжыць, аж пакуль не спыняецца каля Дэбета, і выдыхае:

— Засіліўся… Муня, знача, вісіць… На супоні…

Дэбет як быццам ведаў пра ўсё ці чакаў, — толькі здзівіўся:

— Дак, памаш, кароткая ж… супоня тая… А вот жа хапіла, каб…

Корцік змахваў з учарнелай, няголенай шчакі слязіну, стараўся разгадаць:

— І з чаго б гэта ён? Ціха, мірна ехалі… А як адчуваў быццам: усё гаварыў, гаварыў… — выгаварыцца хацеў напаследак…

Казаў яшчэ, што гэта пасля пошты, няйначай, закрутка з Мунем выйшла: не паехаў нікуды і, здаецца, пісьмо нейкае атрымаў… у кішэні, здаецца, было…

Можа, і было… Але не знайшлі яго…

Ды і хто, калі папраўдзе, шукаць будзе…

*1999*

## ЧАРАВІКІ ДЛЯ БАЎЭРА

— А ё-ё-ёшка фішар!.. — ні то лаяўся, ні то радаваўся Ёсіп. — Во цяперака!..

Не, хутчэй што — радаваўся. Бо інакш бы з-за чаго аж у расчыненае акно перагнуўся, ледзь не перавальваецца, і гукае, быццам там усё Узбор’е сабралася слухаць…

— Ё-ё-ёшка фішар! — і задаволена пацірае рукі. — Цяперака адзначым! Ёсць каму напісаць…

Гэта ўжо даўно збіраецца Ёсіп пісьмо адаслаць у Германію… Вось толькі не рашыўся дагэтуль — каму… Бацьку гэтак званаму? Толькі дзе яго знойдзеш…

— Адрас хоць які ці помніш? — не раз прыступаў да маці. — Куды пасылаць?

Тая толькі вінавата разводзіла рукамі:

— Дык на той жа ціліторыі і не немцы ўжо зусім. Вунь туды і Несцер казубецкі з’ехаў, як хата згарэла. — І ўжо амаль злосна дадавала: — То, можа, яму, гэта самае, і напішы — хай там разведае, распытае што…

— «Гэта самае…», «гэта самае…» — крыўляе Ёсіп… А напісаць край трэба. Дужа ж накіпела на душы ягонай — не дай Бог!..

І тут во — па тэлевізару: сам жа той самы Бог і паратунак, здаецца, пасылае: «Ё-ё-ёшка фішар!..»

Не здзівілася маці, што крычыць у акно Ёсіп амаль панямецку. Здзівілася толькі, чаму — нанач гледзячы — на рыбу кагосьці кліча… А можа, назаўтра змаўляюцца?.. Што на рыбу, то гэта ўжо яна пэўна ведала: яшчэ з тае, германскае, пары слова гэтае ў галаве сядзіць: «фішар», — дужа ж любіў рыбу гаспадар ейны, бавар. Усялякую — і смажаную, і адвараную, а па святах яшчэ і ў студні застылую, — заліўная завецца… І яе, Мархву, частаваць любіў. Нават прымушаў: «Есэн, Мархен, есэн! — як загадваў. — Арбайт — о-го-го!.. — і ласа прыплюшчыўшы бялесыя, як у той халоднай, заліўной, рыбіны, вочы, прыплясквае ніжэй паясніцы…

А Мархва ўжо і сама, без яго, накаштаваная была… Асабліва, як да пліты стала, калі старая фрау зусім злегла, занемагла…

А ён тады яшчэ ласкавейшы зрабіўся. Усё «есэн» ды «есэн»… — знаў, дзеля чаго падкармлівае, чорт кілаты… І працаваць — ад усходу да заходу, а потым яшчэ і… ад заходу, здаралася, да ўсходу… Спачатку боязна ды і брыдкавата Мархве было. А потым нішто, звыклася…

Толькі і адвяла душу, як Гансік на пабыўку прыехаў, з вайны. І хоць нямецкія фравы, кажуць, абавязак мелі абслужыць герояў на адпачынку, але дзе ж іх будзеш, калі па хуткай дапамозе, шукаць… Тут і Мархвен падвернецца, дык не абмінеш. Ды яшчэ б! — дзеўка ў самым саку і з аблічча спраўная, не раўня якой-небудзь сухапёрай фраве з гусінай дзюбай…

Тады і стары перад сынам адступіўся… Толькі маўчаў ды пыхаў, як чыгун трохвёдзерны…

Гэта быў як сон… Як насланнё нейкае навалілася. Не лёгкая самота агортвала, як бывае вясной — з сонечнымі праталінамі ў кволых пярынках першатраўя, з ружавата-малочнымі — у квецені — яблынямі…

Вясна, Мархвіна вясна, прайшла, як бы абмінула яе — і не азірнулася… Мархва толькі здагадвалася, што яна бывае. А якая? Пэўна ж, не са слязьмі, не з адзінотнай маўклівасцю, бо і словам не перамовішся, — не тое, што няма з кім, а слоў нямашака — адны нямецкія ды нямецкія…

А як выйшла, дык і словы тыя не спатрэбіліся…

Мархва спіною, усёй істотай адчувала, як пазірае на яе Гансік — прагна, пажадна. Хацелася нечакана азірнуцца, каб падлавіць той позірк неспадзеўкі, ды нешта ўтрымлівала — ні то сарамлівае, ні то завабна-жаночае.

«Хай паглядзіць, хай сабе… — з’едліва думала, — хай папяклуецца, паглытае слінькі…» А ў самой аж ападала нешта, аж нямела ўсярэдзіне, пад сэрцам…

Не было вясны, дык во — нахлынула спякотнае лета…

Упраўляліся на сенаванні ўтрох: сам гаспадар, Мархва ды Гансік. Ён, праўда, накульгваў яшчэ, але нічога — пласты хапаў спраўна…

Было ўтомнае лета — і тады здагадалася Мархва, што гэта такое. Здагадалася — і спалохалася. Не Гансіка, а самой сябе: «Што ж гэта я… што ж гэта робіцца са мною?..»

А як толькі гаспадар ад'ехаўся з фураю, бухматай і духмянай, тут жа і пачула яна гарачае дыханне ля самае патыліцы, за вухам… Не, спачатку не пачула, а ўбачыла… і не ўбачыла, а наадварот: лёгкая, не схопленая ў касу пасмачка валасоў выскачыла з-за вуха — ад таго дыхання — і прыкрыла вока.

Тады яна і павярнулася насустрач… І слоў не было ніякіх — толькі нешта няўцямна шапталася…

І хоць грэх, пэўна, было думаць такое — думала, як апраўдвалася, Мархва: можа, так вось і Дзева Марыя нарадзіла… «Толькі яна ў святасці, а я ў граху… Але шчасця, хоць жменька, павінна ж і мне дастацца…» Грэх пакрываўся нейкай нязнанай, неадольнай сілаю, нейкім голасам — як бы незямным. Ці ён ішоў аднекуль з неба, ад спякотнага, амаль удушнага сонца, ці ад подыху ветрыку, настоенага п'янкім, як дурман, пахам падвялай, у пракосах травы і мядовым соладам канюшыны…

Тады ж і панесла Мархва…

Ды, нарэшце, і прынесла — на руках, во сюды, ва Узбор'е… Прынесла з імем, якое настойліва прызначыў усё той жа гаспадар — Ёзеф, — у цёзкі сабе…

Апошнія дні даходжвала тады Мархва. Працаваць ужо не магла. Выбіралася толькі да адсырэла-вільготнага, як падталы снег, вясновага сонца, да голых яшчэ прысадаў, абвешаных чорным вэрхалам і гвалтам гракоў… Ды і адтуль — уцякай немаведама куды: «Гарлаюць… як бяду вяшчуюць…»

Дык жа і сапраўды бяда — ды яшчэ якая… Змрочны бавар ходзіць — нявыкрутка: жонку пахаваў, ад Ганса — ні вестачкі… А тут яшчэ — Мархен…

Калі б па-добраму, то Мархве радавацца б толькі: свае падступаюць, грымоты чутны… Дык жа… вось-вось і яно падступіць — ужо грукаецца ножкамі, тупаціць…

А тут яшчэ гракі гэтыя… чорныя…

А прыгледзелася — дык яны і кахаюцца гэтак. Грак да грачыхі — змрочна — але падступаецца, па галіне, як па лавачцы, падсоўваецца — бокам… Аж не верылася, што такі чорны ды кахаць можа… А ён крыламі пацепвае, пер'ем натапыраным ажно шархоча…

Чорнае каханне — а дзеці ўсё адно, пэўна ж, дарагія… і жаданыя…

Рассыпалася Мархва, можна сказаць, на самым краёчку… перад вызваленнем. Ёзеф яшчэ ўспеў адшукаць недзе дакторку ці так лекарку нейкую — пабабіць малога. А потым як павёз яе, то і сам не вярнуўся. Прачакала ці не суткі Мархва, ды няма куды дзявацца — пачала шавяліцца, уставаць патроху…

А як уварваліся салдаты ды агледзеліся, што са сваіх, парадзіха, значыць, то і рашылі: прыйдуць, каму трэба, разбяруцца. І на ўсякі выпадак падказалі дарогу, — да зборнага пункта, патлумачылі… Там і займеў Ёсіп імя па бацьку — запісалі Іванавічам…

Вёска — не было выключэннем і Узбор'е — на пасляваенным безмужыкоўі хутка прызвычайвалася да такіх вось навасельцаў. Прывыкла і да імені: Ёсіп дык Ёсіп, — а дасведчаныя зазначалі, што гэта тое ж самае, што і наш Восіп. Але пагадзіліся і на «Ёсіпа», а за вочы яшчэ, наслухаўшыся Мархвіных успамінаў, дадалі ў падмацунак: Баўэр…

Рос Баўэр сапраўды, не па вясковых харчах, тоўсценькі, рыжаваты і добра такі ленаваты… Хоць, хутчэй, гэта і не лянота была, а нейкая старэчая маруда… Ды і галава ўдалася, не як для дзіцяці: гарбузаватая, і выдавала, што аж не тоўпіцца яна ў скуры — тая аж, здаецца, рыпела, нацягваючыся, як хром у шаўца, калі правіць ён боты на капыл…

Пялегвала, песціла Ёсіпку Мархва. Сама, бывала, не даесць, а яму ўсё ў рот суне.

Ад грудзей і то шкадавала адсадзіць: ледзь не да трох гадоў смактаў. Сам ужо разумець пачаў, што няёмка гэтым займацца… Смяяліся жанкі: загаварыліся яны аднойчы ў Мархвы, а справа зімой была — на сон хіліць Ёсіпку. А ён хныкае, не кладзецца ды ўсё цягне Мархву ад староннiх вачэй:

— Ма-а-атка, хадзі за ступу… — тузае за прыпол.

— А што ж ты тамака, галубок мой, страціў?

— Цыцкі дай… — шэпча і цягне ў цёмны куток — за ступай схавацца…

«Смейцеся, смейцеся, вышчарайцеся, — змрочна — сама сабе — агрызалася Мархва і як запавет — з любасцю паўтарала: «Есэн, есэн… расці здаровенькі, будзь дужы, як ён быў…» — і ўспаміналу моцныя рукі і гэткія ж — ажно дых сцінала — абдымкі… Быццам і на Ёсіпку Мархва глядзела, а думала сабе, тайком думала: «Жывы ён ці забіты — даўно ўжо і костачкі спарахнелі, можа, але ўсё адно во як на яго гляджу, любуюся,

хоць ніколі-ніколеткі ягонага і слядочка пабачыць не давядзецца…»

Праз доўгія ночы адзіноты грэлася Мархва ля Ёсіпкі — як ля часцінкі свайго нявольнага кахання, таго варожага і святога грэху…

Старалася Мархва, не скупілася з прыкормам. Ды ўсё смачнейшае каб — смятанка, яечка, а то і лытачка курыная…

Ды і куплёнае, крамнае нярэдка перападала…

Тут ужо іншы раз Мархвіны старанні ішлі ў разрэз з Ёсіпавымі патрэбамі. Вядома, каб што-небудзь купіць, трэба нешта прадаць: нейкую капейчыну займець. Бо інакш дзе тое «купіла» ў вёсцы возьмеш…

Пачала гэтак Мархва патроху смятану ашчаджаць. Глядзеў-глядзеў на той смятанны гладышак Ёсіпка ды і пачаў яго ўважаць за галоўнага віноўніка перамен у кармёжцы. А за гэтым і вырак наспеў:

— Матка, — кажа, — чорт з ёю, з гэтай смятанай: збірай яе, як груган косці… Давай мы яе лепей з’ядзім!..

Так і да школы дарос Ёсіпка. Па-людску збірала яго Мархва, наказвала настаўніцу слухацца… З тыдзень пахадзіў Ёсіп з ахвоткаю — пакуль касцюмчык свежанькі быў, не запэцканы. А як пабоўтаўся недзе ў лужыне, то адразу і закінуў цішком сваю апратку за пяколак: не голаму ж, маўляў, у школу…

У дадатак яшчэ і заданні розныя дамашнія навалiліся: дыхнуць няма калі… Тады і датумкаўся да высновы Ёсіп: «І навошта было згаджацца на тую школу? Не пайшоў бы адразу — дык і цяпер бы сядзеў сабе дома, як пан…»

Крыўда вялікая выспявала ў Ёсіпа: гэта ж трэба — так абдурылі, падвялі, як вераб’я на мякіне…

Пераконвала маці і так і гэтак. «Я во цёмная сяджу ды ў гнаі корпаюся… Дык і ты, невучоны, хочаш век хвасты свінням закручваць?..»

Гэта, надзіва, адразу падзейнічала. Бо ўжо летам апошнім Ёсіп паспытаў працоўнае пайкі: як пайшла маці з касою, каб дзе па кустах кароўцы лішні клок травы адбіць, то і яму — граблі ў рукі… «Касу яшчэ маленькі, каб пацягнуць, а пасушыць ды падгрэбці паможаш…» Дужа тое сенаванне абрыдла Ёсіпу… Самае б што ля рэчкі пазабаўляцца, печкуроў ды апалонікаў паганяць, а тут… «Не-е, — казаў абурана маці, — вырасту, пайду ў ярмію, прыеду на танку — і ўсім стагі паварочаю!..»

«Во натура, — і дзівілася, і ажно захаплялася Мархва, — рыхтык ён: круты і ваяўнічы…»

А ўголас разважала:

— Вучыся, сынок, то і ў ахвіцэры, глядзі, выйдзеш… Будзеш, як… — ды тут жа асеклася, азірнулася, усё адно як берaглася: ці не чуе хто…

Не чуў таго ад маці пакуль што і Ёсіпка, хоць на вуліцы з дзецьмі не раз ужо ў чубы браўся з-за абразлівага «баўэра», — здагадваўся, што нешта тут не тое, не так сабе…

Адхадзіў яшчэ Ёсіп і «няпоўна-сярэднюю» — васьмігодку, — за чатыры кіламетры адпляскаў. А набраўшы вызначаны законам «цэнз», адрэзаў — раз і назаўсёды: «Мне ўжо вучыцца хва… Буду арміі чакаць…»

«Хваціць дык хваціць…» — Мархва ўжо і не пярэчыла.

Вось толькі арміі — ці той самай, па малалецтву: «ярміі» — Ёсіп і не дачакаўся. Вярнуўся ён з ваенкамацкай камісіі заплаканы і злосны: не прапусцілі дактары — ступня, сказалі, плоская. А для салдата гэта — крайняя загана…

Разуваўся Ёсіп, шпурляў адзін за адным пад лаву кірзачы, круціў босую нагу — і задам, і бокам, — аж выварочваў, выглядаў і з нізу — і не знаходзіў нічога ніякага: падэшва цвёрда і пругка, як пранік па бялізне, гоцала аб падлогу…

Дзівілася і Мархва: гэта ж такія ножкі былі, гэта ж так яна іх выпрамляла-выпроствала, пелянаючы, а разгарнуўшы з пялёнак, цалавала ў самыя пяткі — ружовенькія і чуйныя, як лычык парасяткі, казытала вуснамі і прыгаворвала: «Лапырлачкі мае, лапачкі…» Ёсіпка заходзіўся ад смеху, задзіраючы ўгору ножкі — аж да роту пальчыкамі, растапыранымі і дробненькімі, як зубкі часнаку… А цяпер во плача над гэтымі нагамі… І па кім яны такія?.. Стройныя ж, як тачоныя, у яго былі, — помніць Мархва…

— А яшчэ па бацьку як, пыталіся, — не сунімаўся Ёсіп.

— Дык жа — Іванавіч… Хіба не ведаеш?.. — неяк нясмела, амаль спалохана пачала, як апраўдваючыся, Мархва.

— «Іванавіч, Іванавіч…» А Бавар адкуль? — ужо не загаварыў, а закрычаў Ёсіп. — Ён адкуль узяўся?!.

Тады і мусіла Мархва прызнацца ва ўсім, расказаць, што да чаго, і якая ў той Нямеччыне з ёй бяда была, і якая радасць выйшла… А чаго больш — дык і сама да гэтага часу не разабралася. Паміраць трэба, а, гэта самае, грэх на душу яна ўзяла ці перад Богам ласку займела, што яго во, Ёсіпку, на свет утварыла?.. — так і не ўцяміла…

Тады і напіўся першы раз Ёсіпка — на развітанні з аднагодкамі-прызыўнікамі. Піў ад крыўды, піў ад беспрасветнасці, якая, зда-

валася, агарнула яго надзею вырвацца з вёскі, з-пад абрыдлага матчынага ўслугоўвання і апекі…

Хацелася Мархве, каб запаважаў Ёсіпка таго, невядомага яму, каго займеў за радзіцеля… А як атрымалася, дык усё, гэта самае, пайшло насупраць. Праз яго, Ёсіпа, кахала Мархва таго, далёкага, што схаваўся за туманам гадоў, але, насуперак усяму, вось ужо, калі ўзяць, жыццё з ім дажывае… І ці не таму воля Мархвіна безаглядна падпарадкоўвалася Ёсіпу: што ні скажа, чаго ні пажадае — тут жа завінаецца споўніць, быццам гэта ён, той, адтуль — голас уладны падаваў…

А Ёсіп — пагарджаў: праз яе, Мархву, тым, каго ён ніколі не бачыў і не ўбачыць, брыдзіўся і помсціў — за кпіны равеснікаў, за нязлосныя, але бессаромныя пад'ялдыкванні мужчын.

І чым больш разрасталася, як пухліна, Мархвіна любоў да Ёсіпкі, тым глыбейшым рабілася тупое супраціўленне, укарэньвалася ў сэрцы ягоная нянавісць да таго, з кім ніколі не бачыўся і каго хацела бачыць у ім, Ёсіпе, шкадобная ў сваёй любові маці. Ён толькі падсвядома адчуваў, што адкараскацца ад гэтага наканавання яму не выпадзе, не ўдасца: кроў таго, невядомага, штурхалася ў ягоных жылах… З часам ён як бы знелюбеў і сам сабе…

Адно супакойвала, што выскачыў крыху ў людзі, падалей ад бруднай работы: наняўся канавы на асушаным балоце даглядаць, — хлопцы-меліяратары, што кватаравалі ў Мархвы, садзеянне праявілі, падштурхнулі справу з уладкаваннем. «Будзеш цяпер аператарам меліярацыйнай сеткі тытулавацца…» — засмяяліся весела і пажадалі, пры спраўнай замочцы, самых розных удач і поспехаў…

А яны такі, сапраўды, тут жа і з'явіліся.

Служба, як выявіў Ёсіп, была амаль што вайсковая: ідзі сабе, як вартавы, уздоўж канавы. Ды яшчэ з выгадаю: ніякай табе муштры, ніякіх загадаў і камандаў. Сам сабе камандзір і начальнік: дзе хочаш, сядзь, а дзе захочацца — і прылегчы можаш, драмануць пры добрым і спрыяльным для падобнага дзеяння надвор'і. Глядзі адно — каб вада спраўна збягала, не затрымлівалася…

Так з канца ў канец — ад Узбор'я да Казубца — і пачаў шнураваць Ёсіп, з неабходнымі адхіленнямі ад магістралі — па драбнейшых канавах-стрэлках… Усяго і клопату: корч-памак які-небудзь выцягнуць, каб затору не ўтвараў, ды ўзбуялую траву з маладым лазняком касою аббіць па адхонах…

З таго травакосу неўзабаве і яшчэ адно адхіленне ад магістральнага маршруту Ёсіп займеў.

Ідзе гэта ён ужо ля самай апошняй стрэлкі — і бачыць: нехта з казубецкіх жанок — а можа, і дзяўчат? — траву сярпом рэжа — самую тую, што прыглядаў і ён, — сакаўную ды ежкую…

Падыходзіць, пытаецца…

— Ай, ды вось жа цялятка падкарміць хачу… — нават і не вінавацячыся, заўсміхалася маладзічка. Ды з такой прыязнасцю, ды і маладая яшчэ…

І Ёсіп, замест таго каб зазлавацца, буркнуў толькі: «Дак жа казённае ж…», ды тут жа яшчэ і падкасіў травы, і мех пукаты ўласнаручна напхаў-набіў — яна толькі трымала жэрал: каб шырэй, — і паднесці мех той напрасіўся…

З таго і павялося: на адным канцы канавы, ва Узбор'і, снедае, на другім, у Казубцы, — абедае… А да зімы дажыў, то ў Казубцы і вячэраць, і снедаць пачаў…

Ненамнога Маня старэйшая, але ранняя: аднаго прымака адпрэчыла, — гэта ўжо як маці пахавала. Удзвюх усё не маглі ніяк рады даць свайму, як смяялася Маня, «прымакайлу», што толькі і знаў морду ў шклянцы мачыць, а во адна — як мужчынскага нораву ў каго пазычыла: ураз тыя прымы абарвала…

Дзверы вечарам на зашчапку — і колькі не тыцкаўся па падваконню, вярнуўшыся з лініі, што цягнулі да свінакомплексу, колькі не даводзіў: «Маня, ды гэта ж я, тоісь…»

Назаўтра аж Тэкля, старая суседка, пашкадавала:

— Што ж гэта ты, Манечка, так чалавека даводзіш?.. Да ўсяго ж і на пастой бралі… — дзе ж начаваў, пад якім вуглом?..

— А пабег — знойдзе логава…

— Пабег, так і пабег, — згадзілася Тэкля. — Крокі ў яго шырокія: ад слупа да слупа… Не дагоніш…

— І даганяць не думаю… — А паціху разважала: «Толькі тае і карысці, што штаны носіць… Чым такі — дык лепш ніякага…» Але сэрца — не-не ды і заные, асабліва, як паглядзіць ды пабачыць чыю-небудзь жаночую радасць…

Пад такі настрой і патрапіў Ёсіп…

І Мархва ўсцешылася ды абнадзеілася: можа, у добрыя рукі трапіць, дык і чалавекам будзе…

А чалавек… што чалавеку: скончылася зіма, зашумела, пабегла вада — з канавы ў канаву, з канавы ў канаву… Вясной і лянівага цягне ў свет. А яшчэ калі і патрэба, хоць і нікчэмная, ёсць — дык дзе ўжо там уседзіш… Пацягнула і Ёсіпа. Дзень за днём, дзень за днём — то жаб, то жаваранкаў і кнігавак слухае, — служба такая: трэба сетку меліярацыйную ў спраўнасці трымаць…

А аднойчы пачуў — было тое пасля шалёнага ветру-буралому, — пачуў — і аж здзівіўся, амаль спалохана: па ўтравелай, там-сям прыхопленай хмызам паласе, дзе ўсяго толькі і тырчалі, растапырана і натужна, слупы электраліні, як з радзіва галёкала:

— Шыра-а-ка стрына мая рыд-ы-ыдная!.. — і нідзе нікога, ні душы…

А як падняў Ёсіп вочы — насуперак сваёй звычцы, прафесійнай найперш, глядзець понізу, уздоўж стрэлак, — то і пабачыў: тырчала на слупе і гайдалася штосьці. Быццам і вецер ужо даўно суняўся, а яно, тое пудзіла, нібы кіях на кукурузіне: то ўправа, то ўлева, то ўверх, то ўніз… Адно што слуп не хістаўся, стаяў цвёрда. Калі ж падышоў Ёсіп бліжэй, дык і яшчэ больш здзівіўся: сядзеў на слупе чалавек, ухапіўшыся за яго «лапамі-кошкамі», — гэта понізу, па нагах, а зверху ўсё ніяк не мог прышпіліцца страховачным рамянём, і таму толькі абдымаў рукамі слуп, віхляўся і гарлаў: «Шы-ра-а-акаа-а…»

«Во напрацаваўся, дурань, аж хістаецца…» — і ўсё ж не стрываў, гукнуў Ёсіп:

— Гэй, ты там, і поле таксама шырокае, але ўніз — не ўдаль паляціш, абвалішся зараз, як ігруша гнілая…

— А ты хто такі ёсць, каб мне ўказваць, тоісь? Знаеш, хто я?

— Ну? — Ёсіп таптаўся вакол слупа, задзёршы галаву, і думаў, што вось-вось грымнецца той верхалаз, і прыкідваў, як бы хоць чым падставіцца, мякчэйшым, каб рэбраў не паламаў… — Ты ўжо сунься ўніз, тут і пазнаёмімся…

— А-а, не знаеш…

— Не-а…

— І знаць не будзеш!..

— Бяда такая, скажу…

— А ты хоць знаеш, хто знае? — не сунімаўся той, зверху. — Дык засячы на рубільніку: знае той, хто знае…

Тут ужо Ёсіпа зачапіла за жывое — не п’янае плявузганне, шкрабанула іншае: нос у яго сапраўды такі быў ладнаваты, — дык і патлумачыць мусіў:

— Аднак, афіцыяльна, пакуль вісіш над маёй церыторыяй, язык не распускай. Бачыш: пры выкананні знаходжуся, — магу і шкодніцтва на асушальным аб’екце прысцябнуць…

— А-а-а, дык гэта ты і ёсць?! — і як малпа ў тэлевізары, слупалаз прытка, абхапіўшы аберуч і абенаж слуп, каўзануўся долу, — Ёсіп не паспеў і вокам міргнуць… — Ну, тады зда-

рова!.. Дык, значыць, супернічак, тоісь, дарогу мне да Мані перабег?..

Толькі цяпер змікіціў Ёсіп, хто перад ім шлёпнуўся са слупа, яшчэ і падумаць паспеў: «Зараз біць будзе…» — таму і адступіўся на пару крокаў…

Але, да здзіўлення Ёсіпа, зусім не з пагрозаю працягнулася рука:

— Алікам, тоісь на ўсякі выпадак, завуся… І аб'яўляю табе падзяку… Перад строем… — і кіўнуў галавою на ланцуг апорных слупоў. Ды і сам ён, як заўважыў Ёсіп, здаецца, больш апірыстым на зямлі стаў, цвярдзей пачуваўся: і хістанне быццам унялося, і гаворка без дурных заносаў, простая: — А Маня — што? Маня кабета нішто… Адно толькі з кароткім замыканнем: тоісь, іскрыць на кожным кантакце… Дык і дзякуй, можа, што пробкі вывернула, адключыла ад сеці… — і, перадыхнуўшы, як па сакрэту, хіхікнуў: — Можа, і яна, а можа, і сам збег — сабе ж на радасць і на палёгку. У дзезерцірах во цяпер — ад вёскі да вёскі, вярхом на слупах: дзе парвецца, дзе замкнецца, там і Алік… А табе сур'ёзна, тоісь, дзякуй: не будзе след шукаць… І адступнога з цябе… — што задарма, думаеш, такі кавалачак адвальваю?..

— А пры чым тут, калі афіцыяльна, ты? — паспрабаваў агрызнуцца Ёсіп.

— А ўсё пры тым… пры тым, што, бачу, салага яшчэ ў такіх праводках… А хочаш, — раптам ажывіўся, — хочаш, я табе і яшчэ — не Маню, дык Аню прынаджу, такую аб'яднаную таксама, тоісь, маю і тваю?.. Хочаш, такі кухлічак хархулёвы з двайной падключкай?..

Пасля гэтых шчырых і праніклівых слоў Ёсіп тут жа і здагадаўся, што мае справу з чалавекам дужа спрытнага розуму, калі не сказаць, галавы… І таму тупа маўчаў… Бо, сапраўды, да ўсёй глыбіні сваёй плоскай, як і белабілетныя падэшвы, натуры быў збянтэжаны няўтрымнай Алікавай балбатнёй. У такіх выпадках Ёсіпу нібы язык займала: ён губляўся, і словы некуды разбягаліся ад яго і не хацелі вяртацца, — заставалася Ёсіпу адно мычанне…

— Ды што ты ўтаропіўся, як слуп падгнілы?.. — Алік гаварыў — не зразумець: быццам і ўсур'ёз і неяк жартам. — Калі ўжо на тое, дык і з мяне можна пачаць… Тоісь… — Ён хістануўся, нагінаючыся, але даволі прытка аблапіў дзеля апоры адною рукою слуп, другою пацягнуў з-пад яго зашмальцаваны да бляску на рагах і запылены рукзак, прыўзняў за лямку і вытрас

тут жа пад ногі бутэльку, прыпалавіненую, праўда, і закаркаваную газетнай затычкай. За бутэлькаю вываліўся — у прасаленай і добра такі пашкуматанай газеціне — акраец хлеба з прыліплай да яго плітачкаю сала…

— Во: усё сваё нашу з сабою, тоісь — сухім пайком. А гэта — для прамочкі, — і Алік працягнуў Ёсіпу бутэльку, шпурнуўшы ўгору, ледзь не да «кухлікаў» на слупе, газетны корак, пры гэтым і рагатнуў наўздагонку: — Як з шампанскага шыбанула!..

Шмат вады — добрае возера ці, у нашым выпадку, балота — збегла з той пары за лета па стрэлках да магістральнай канавы, потым у Начу, а потым, пэўна, і ў Чорнае мора; можа, не раз і вярталася яна сюды хмарамі, ападала — чаканая ў сухмень і апрыклая да кляйнотаў у непагадзь…

Шмат і дроту разматаў — ад слупа да слупа, мацуючы праводку да «кухлікаў»-ізалятараў, Алік, — казаў, што па экватару, тоісь, калі выцягнуць у адну лінію, амаль што Зямлю абхапіў… Не ставала ўсяго сотні-другой кіламетраў… Але рэкорд абарваўся — разам з Алікам: са слупа, на самым фінішы, сустрэчу з якім чарговы раз не прамінуў замачыць вышыннік, не без чыннага садзеяння і ўдзелу спяца па «нізіннай» службе — Ёсіпа… Застаўся Алік са зламанай нагою, спісаны з «вышынных» работ і прыстроены электрыкам на свінакомплексе, што між Казубцом і Узбор’ем і куды цягнуў калісьці «лінію» няздзейснены рэкардыст…

Змушаны да «аседласці», пацягнуўся і Алік па старых «яўках».

І аднойчы, напрыканцы меліярацыйнага сезона, калі падумваў ужо Ёсіп пра завяршэнне вахты «Узбор’е–Казубец» — маршрутам «туды і абратна» — і перасмакоўваў хуткае ўсталяванне на зімоўку, — вочы ягоныя сапраўды «заіскрылі» на «пяцьсот вольт», як тут жа вызначыў Алік, — а гэта іменна яго пабачылі яны, «вальтанутыя» Ёсіпавы вочы, на Манінparam дварышчы…

І не проста пабачылі. Алік круціўся з сякераю вакол смольнага, разлапістага, як марское страшыдла-васьміног, пакручастага, а таму і не бойкага карча і тут жа наваліўся з папіканнямі на Ёсіпа:

— І куды ж гэта ты, пярун табе ў «пробкі», глядзіш: зіма, тоісь, на двары — і ні паленца дроў пад павеццю…

Ёсіп, яшчэ як бы нічога не ўцяміўшы, а так яно, хутчэй, і было, пачаў апраўдвацца:

— Ды чорт яе нагрэе які, гэтую гнілуху дзіравую, сцены ўжо, як рэшата: палі не палі — нічога не трымаецца… Дзе тут гэтых дроў набярэшся?

— Го, ты ж па іх кожан дзень ходзіш, тоісь, ногі на балоце ламаеш, за карчы чапляючыся… Людзі вунь стагі-«кастрышчы» панацягалі ды панаскладалі… А ў цябе… А ты… Не, ты ўжо не ладзься тут грэцца… Тоісь, грэцца буду я. Усёк? Я, бо дровы, карчы гэтыя, — мае… Зазірні, аднак, на хвілінку, вып’ем адступнога, — тоісь, зноў маім коштам…

Ёсіп задужа і не ўпарціўся, тым больш за чаркаю… А яшчэ — тым больш, што электрык меў ужо зусім не прымацкія разлікі: у новых доміках, што будаваліся ля комплексу, дэкларавалася і яму жыллё. Туды ён і перабраўся з Маняю. І зрабіўся Ёсіпу амаль суседам — цераз выган усяго… А для ўзборцаў — і старых, і малых — па сёння так і застаўся Алікам: характар меў такі, што з кожным ён, як і кожны з ім, чуліся за роўніцу…

Яму і гукаў зараз, як падумалася Мархве, перагнуўшыся цераз падаконнік, Ёсіп:

— Ё-ё-ёшка фішар!.. — падгаворваў «на рыбу»: пэўна, агледзеў недзе ў стрэлцы не паспеўшых збегчы з вадою, пасля нерасту, шчупакоў…

А калі і не агледзеў — і пра гэта таксама падумала Мархва, — напамін пра «фішар» не адно шчымлівыя згадкі падштурхнуў, але і абдаў, як халадзёнкай, прыкрасцю: калі змаўляюцца «на рыбу» — знай, што зноўку жлукціць ідуць. А гэтак адводзяць — як наседкі ад гнязда: «Можа, на рыбу сходзім?..» — сакрэтнічаюць ад сваіх, ды і каб «халяўшчыкі» не прысмакталіся. Цяпер жа бутэльку з кішэні пакажы, дык за табой, як на сабачым вяселлі, цугаваць будуць…

Корпаецца на двары Мархва: то нясушкам сыпане зерня, то гальнём чыркане смяціну якую, то прабяжыць да веснічак, выгляне, ці не гоняць кароў з пашы, — але далёка не адыходзіцца. Дужа ж карціць ёй хоць збольшага пачуць, аб чым змаўляюцца Ёсіп з Алікам, седзячы на лавачцы пад акном…

— А ты, ёшка фішар, так і напішы… — гэта сіпаваты, як па целявізару, голас Аліка… — ёшка фішар!.. — І чуваць, што дужа падабаюцца яму словы гэтыя, аж паўтарае, са смакам, у расцяжку…

А Мархве, хоць і дзіўна, што, здаецца, і не на рыбу яны зусім збіраюцца, але і ўсцешна: «Во, і культурна пагаварыць могуць, калі цвярозыя, калі вочы не залілі, — і ўжо вылаецца каторы, дык нібы пахваліць: “ёшка фішар”!..»

Але тут жа яшчэ больш здзіўляецца:

— Ды не «ёшка фішар», — пярэчыць Ёсіп, — а, — і тут ён асабліва націскае на «ё» і на «ф», — Ёшка Фішар, чалавек, — зразумеў?..

— От я і кажу… Я ж не на цябе, а на іх, тоісь, паганцаў, ёшка фішар!..

— Ёшка Фішар — чалавек такі, паўтараю, з імем такім і прозвішчам. Цёзкам, афіцыяльна, мне даводзіцца, толькі гэтак папросту, як бы па-сяброўску, дазваляе сябе называць, а ў цэлым, па целявізару надоечы аб’явілі, у замежных справах, германскіх, значыцца, за галоўнага будзе… — аж злуецца Ёсіп Алікаваму неразуменню. — От і пісьмо яму напісаць трэба — памагчы павінен: цёзка ўсё ж…

— Тады другое дзела!.. Так бы і сказаў адразу. А то «ёшка фішар», «ёшка фішар»… — Алік падцягваецца ў шыі, грудзі разгортвае, каб і выгляду не падаць, што прамашку зрабіў. — А я і тэлік яшчэ не зладзіўся паглядзець — тоісь, на дзяжурстве ўсё…

Алік хоць і прасцячком трымаецца, але ніколі не праміне самай дробязнай зачэпкі, каб выставіцца перад Ёсіпам: ведай, тоісь, што ён ужо даўно не той бадзяга «ад слупа да слупа». Нават у сельгастэхнікуме завочна пагабляваўся: саўгас накіраваў — ільготнікам. Праўда, не без абрываў ды замыканняў на лініі. Першай Маня «заіскрыла»:

— Зноў «вальготнікам» захацелася пабадзяцца? — заабуралася напачатку. — Дзеці во ў школу вырастаюць — і ты за партфель?..

— Нічога ты не разумееш… тоісь, у бягучым моманце ні храна не петраеш… — рашуча паўстаў Алік на абарону свайго права павысіць адукацыю: — у канстытуцыі запісана, ды і Ленін, хоць і не модны ён цяпер, але разумна наказваў «вучыцца, вучыцца і вучыцца…». Сама ж пасля дзякаваць будзеш, як пасаду людскую, тоісь, начальніцкую, займею: павідла кожан дзень будзеш апалонікам чэрпаць ды напоўніцу есці… — Тут ужо Алік выкінуў самы галоўны козыр: нераўнадушша Маніна да рознага там салодзенькага…

Пераканаў-такі…

Расказваў потым, што не адзін ён там гэтакі «вальготнік» быў. «Вальготна» вучыліся многія, асабліва старшыні калгасаў ды саўгасныя дырэктары. З’едуцца на месяц, кумпякоў вэнджаных ды «кустоўкі» хлебнай, на восемдзесят градусаў, навязуць — і здаюць сабе «акзаміны», іспыты праходзяць, дыпломы спецыялістаў з выкладчыкамі здабываюць… Алік, хоць і не дурань быў… тоісь, выпіць, але спаборнічаць каб у гэтай спецыялізацыі з сельскімі кіраўнікамі сярэдняга звяна не з тым кантактам аказаўся… Таму, прызнацца, Аліку і дыплом той у

рукі не даўся. Разважай як хочаш: ці слаба грыз навуку, ці не па зубах была?.. А можа, сала малавата вазіў?..

Ясна адно — на пяцьсот ват: штосьці спатыкнулася там… Сам Алік схільны тлумачыць усю гэтую няўвязку з іншага боку, тоісь, з афарбоўкай палітычнай, — не інакш як падкопамі ворагаў перабудовы сельскай вытворчасці. Так больш сур'ёзна гучыць… Ды і намерваўся ж, калі разабрацца, ён куды як сур'ёзна, тоісь, з улікам бягучага моманту: дыпламавацца на ўласным фермерстве. Зямлі ўзяў ладны клін. Няўдобіца, праўда, але на дыплом, думаў, выцягне. Маня і тут адгаворваць пачала, — вечны кансерватар — ды яшчэ з бабскім ухілам у лямант:

— Соткі во гэтыя, гаспадар культурны, дагледзеў бы, да ладу давёў… Ды і на комплексе работы хоць задушыся…

Не сказаць што прысядзібны той шнур быў у іх горшы, чым у людзей: і барозны роўныя, і тая ж самая, тоісь, як і ў суседзяў, бульба… Але ж баба ёсць баба: заўсёды знойдзе прычэпку… Ты ёй пра сур'ёзнае, пра навуку, тоісь, а яна — сваё:

— Так і глядзіш, каб у цянёк ці на рыбу з Ёсіпам, а ў мяне ж во тут кіпіць, а тут варыцца, і на градах лебяда з макрыцаю кулеш таўкуць…

— Дык я ж урэменна!.. Думаеш, мне зямля гэтая так ужо й трэба? — Алік пераконваць умее — ого! — нават руку да грудзей, да таго месца, дзе сэрца павінна быць, прыкладзе… — Я ж дзеля дыплома няшчаснага: каб іншым прыклад даць, а не то што самому пластацца… Праграма такая ў мяне…

Нават партыйнаму генсеку Гарбачову даў знаць — напісаў пра свой будучы вопыт. Думаў, у Крэмль паклічуць, распытаюць… Але нешта прамаўчалі. Канкурэнта, па ўсім, унюхалі… А можа, раённыя «кручкі» пісьмо перахапілі?.. Ого, яны не выпусцяць, каб нехта без іх ведама ды іх жа абскакаў… пазней даведаўся: апярэдзіў яго, выступіў перад Гарбачовым яшчэ адзін з Беларусі, дырэктар саўгасны… Выскачыў, значыцца… Так заўсёды з Алікам — толькі возьмешся за што, хочаш штурмануць наперад, глядзіш, а там ужо чарга перад табою, — тоісь, станавіся ў патыліцу, у хвост…

Бараніў-бараніў Алік дыплом, ды так і завязнуў з неабароненым праектам, займеў толькі даведку, што курс праслухаў, ці як там… чорт іх разбярэ…

Зарос фермерскі пляц конскім шчаўлюком ды хвашчом, хоць і Баўэра ў хаўруснікі згаварыў Алік. Не памог і той са сваім «баварскім», па спадчыне, прошлым, тоісь, гістарычным вопытам…

— Во, гэта другое дзела!.. — рашуча паўтарае Алік, абрадаваны Ёсіпавай навіной ці не больш за самога Ёсіпа. — Тоісь, каторы раз цвярджу табе, слупу бетоннаму: «Пісаць трэба!..» Тоісь, ён там паддае зараз, можа, шнапс які ці піва бáварскае цэдзіць (ён так і націскае на «ба», маючы на ўвазе менавіта «бавара», а не «Баварыю»), а тут ні белай «буслянкі» табе, ні нават, бывае, «вермутовіча» паганага не выпрасіш, бо каб «за так», няма яшчэ крамы такой… А ў яго маркі — няхай падзеліцца, падкіне сотню-другую: бацька ўсё ж… Не збяднее…

Ёсіп моршчыцца, як ад зубнога болю:

— Ды не пра яго я зусім!.. Я, каб мая воля, зараз бы развярнуўся на танку ды, афіцыяльна, прамой наводкай з гарматы!..

— Па ім, тоісь?! — Алік аж у захапленне прыходзіць.

А Мархва прыпыняецца з венікам-дзеркачом у руцэ і ні то просіць, ні то ўшчувае:

— Грэх такое, сынок, гаварыць… Усё ж, гэта самае…

— А ты, муттэр, не ўмешвайся. Калі пытаўся ў цябе адрас, тады і гаварыць трэба было…

І сапраўды: тады ўзгарэўся быў Ёсіп напісаць бацьку, па месцы жыхарства, разумеецца, аб усёй сваёй чорнай любові да гэтай асобы… А выявілася, дык ужо і месца жыхарства таго няма… Ці, можа, спалохалася маці, утаіла адрас? А ён ужо нават слоўнік нямецкі ў кнігарні купіў — дзве бутэлькі «чырвонага», па тых цэнах… Хацелася слоў паболей моцных адшукаць. Шкада: не адшукаў, — не было, падла, такіх, каб стасаваліся да Ёсіпавых…

— Тоісь, не прыдумала немчура? — ухваляючы Ёсіпаў намер, сумняваўся Алік: — Можа, не там шукаеш?.. — Спачуваў і паддаваў рашучасці: — Глядзі, глядзі, вычытвай такія, каб у тры паверхі… Што перад ім вылузвацца, як гарбузік на зубах… Нашкодзіў — хай кантрыбуцыю сплоціць. Аліменты цяпер позна патрабаваць, па ўзросце ўжо не паложана. Але ж за дзяцінства сіроцкае хай верне… нядоімку, тоісь… калі капыты яшчэ не адкінуў… А не — дык у суд! У іх тамака, на Захадзе, з гэтым строга. Па галоўцы не пагладзяць…

І Мархва напачатку, як толькі пра пісьмо пачула, хоць і не сказала, але тайком зарадавалася: «Хай сабе і напіша, а можа, адгукнецца, знойдзецца…» Яна і сама б, можа, напісала, ды дзе ёй з ейнымі трыма класамі з чацвёртым калідорам… Хай ужо Ёсіпка… А потым, як раскумекала, то і сапраўды напалохалася і па начах Бога прымольваць пачала, каб адвярнуў Ёсіпку ад злых думак пра бацьку крэўнага…

Але не — не пра гэта будзе зараз пісаць Ёсіп. І не яму:

— Супакойся, муттэр, — адмахваецца ён ці адсланяецца гэтым нямецкім ад маці, — не жабрак жа я, каб уродства напаказ выстаўляць, каб няўдалае з'яўленне сваё за гонар мецьь. Патрабаваць буду — як ахвяра вайны…

— Правільна! — Алік ужо не столькі Ёсіпу, колькі Мархве пачынае даводзіць. — Ён жа не толькі за сябе, але і за цябе думае. Гадавала ж адна — хай вернуць… Яны цяперака вінавацяцца перад пакрыўджанымі ў вайну, тоісь, віну сплачваюць… маральна, ну, і маркамі…

А як прыкінулі тут жа, нават без паперкі, перамножылі «на жыўца»: колькі гадоў ды колькі тых месяцаў да законнага паўналецця набегла, дык Ёсіп аж за галаву схапіўся аберуч, быццам абруч набіў, каб клёпкі не пасыпаліся: гэта ж процьма марак!.. Нават калі па дзесятцы на месяц…

Згарача Алік нават ушчуваць Ёсіпа ўзяўся, быццам вінаваціць:

— Што пісьмо — дзела прыватнае: ты ноту сачыні! Тут пытанне дзяржаўнае. Не ўніжацца, а патрабаваць — і гонару не цурацца… Так і напішы: «Жыўём — не паміраем…» — Алік, калі хвалюецца, пачынае гаварыць па-свойму, на лад свае, далёкай адгэтуль — кажа, палескай, што пабывала «пад Чарнобылем», вёскі. І выходзіць у яго «плыўём» замест «плывём», як і гэтае вось «жыўём — не паміраем»… Напішы: «Жыўём, як людзі, але і пастулацца, тоісь, сваім законным, не маем намеру…» — і тут жа рахуначак, — тоісь, аплаціць па ведамасці… Во прыклад, — Алік шырока раскрывае рот, дзе якраз насупраць правага вока, зверху, жоўта пабліскавае ўстаўны зуб, — што гэта такое? — пытаюся. А гэта — кантрыбуцыя. Быў выпадак: я яму ў падбародак галавою знізу цаляў, каб язык падсеч, каб не мянціўся залішне… Ды свой рот пры гэтым забыўся закрыць. Так і цяўкнулі мае сківіцы — і зуб вон. А віну на яго ўсчапілі — ён патасоўку заварыў і ён выбіў, тоісь, урон майму жавальнаму струманту прычыніў, — сведкі на тое меліся з майго боку. Ягоным коштам і ўштукавалі зуб. Не залаты, але блішчыць, халера. Тоісь, кантрыбуцыя… А так бы, каб не паварушыўся, дык дзе там — і не рыпайся: хадзі са сваёй шчылінай у роце…

Хто ён, фундатар Алікавага зуба, Ёсіп удакладняць не стаў, але яшчэ мацней сцвердзіўся: націскаць трэба па дзяржаўнай лініі. Нават па партыйнай. Бо той Ёшка Фішар — з «зялёных», якраз і яму, Ёсіпу, да хаўрусу. І рашуча ўслых падсумаваў:

— Свой чалавек усё ж, Ёшка Фішар — не адмовіць. Не павінен…

Тут ужо Алік не ад пахвальбы, як было, а зусім ад чагосьці іншага — ад здзіўлення ці ад захаплення — рот са сваёй «кантрыбуцыяй» разявіў і толькі пасля ці не хвіліннага, што рэдка здараецца з ім, маўчання змог звесці сківіцы, каб запусціць слоўны канвеер:

— Тоісь, знайшоўся?! Брат ён, выходзіць, табе, ці што?..

— Ды якога хрэна, брат!.. Не так бы і гаварыў я з ім…

— Сваяк жа, кажаш… — не сунімаўся Алік.

— Кажу «свой», але зразумей: партыя такая ў нас, ну, як у камуністаў была — адна на ўсіх, дык у нас з ім адна на двух. Сказалі ж па целявізару: ён з партыі «зялёных», за прыроду змагаецца. А я што — збоку прыпёку? Таксама змагаюся, меліярацыю ахоўваю, трымаю ў парадку. Вось і кумекай: афіцыяльна, з «зялёных» я ці не?..

— Чакай, чакай, не іскры, адключыся, — Алік, як чалавек палескі, не мог не ўхапіцца за Ёсіпаву меліярацыю, што не раз і было… — З тваімі канавамі яшчэ разабрацца трэба, тоісь, змагар ты за прыроду ці супраць яе капаеш… Асушылі Палессе такія вось, а зараз і тут, тоісь, за сотні кіламетраў, у надвор’і парадку няма: у маі снег, а ў лютым дождж…

Цягацца Ёсіпу з Алікавым «зігзагам» не выпадае, і ён цягне сваю «стрэлку», выводзіць да «магістралі»:

— «Зялёны» не «зялёны», а пісаць трэба — і конт!..

Толькі, само сабою, не бабскімі плёткамі дзяржаўную галаву тлуміць будзе Ёсіп. А напіша коратка — і рускім языком… Не сёння і не ўчора пісьмо тое мазгуе Ёсіп: якую ўжо ноч не спіць — ляжыць, а думкі ў галаве варочаюцца, варочаюцца, як бы ў пісьмо складваюцца… Ёсць Германія? Ёсць… Ёсць ахвяры ейныя? Ёсць таксама… Яшчэ не ўсе памерлі… То і дапамажыце… Цьфу ты, чорт! — не памерці дапамажыце, а выжыць… А то ўзялі сабе ў завядзёнку: самі раскашуюць, жаруць ад пуза ды півам запіваюць… А тут… Ёсіп, бывае, нават усхопліваецца, як бы хто блох жменю падпусціў у ложак…

Крыўда грызе Ёсіпа. А на каго — дык і разглуздаваць цяжка. На маці? Не-е, слова брыдкага не скажаш: век свой прапеклавалася — і ўсё для яго, усё для яго… Што на свет пусціла, а долі не дала? Дык ці ж яна вінаватая… Вось той бы… той бы папаўся пад руку… Але дзе яго ўхопіш? І хто ён, нарэшце? І з твару які? Будзеш ісці, размінешся — і знаць не ўзнаеш, што гэта ён самы і ёсць… Маці, па шчырасці, сказала аднойчы, што Ёсіпка і крошкі ягоныя падабраў. Але ж і ёй верыць — калі ж гэта яна бачыла… уга!.. — так, прытрызніла на старэчую галаву…

І ніколі не падумалася Ёсіпу: а што такое ён сам у гэтым свеце? Ні хату не збудаваў, ні дзіця не ўзгадаваў…

Ні разу і не спытаўся ў сябе: а можа, і праўду Алік талкуе: «Стаіш, як слуп з абарванымі правадамі…» — ні апора, ні падпора, і з месца скрануцца не можаш, — нават сам сабе не патрэбны…

Маці ўсё на таго ж Аліка паказвала: «Во, прыляпіўся да Мані, дык і дзеці, гэта самае, нейкія ўжо ёсць, і сам па канавах не валяецца. Нап'ецца не нап'ецца, а дому пільнуецца…»

Ёсіп слухаў і не слухаў матчыну курню… А па праўдзе, яму ленькі і слухаць было. Толькі адмахнуцца хацелася, як ад асенняй мухі, і то адно таму, што дужа назаляе…

Ды і што хваліць, выстаўляць таго ж Аліка. Ёсіп нутром чуў: аднаго яны поля ягадкі. Толькі язык Алікаў ямчэй падвешаны, гладка ходзіць, ды і сам пранырлівасць мае — свет абшвэндаўшы… Іншы раз і Ёсіпа ўпобачкі з сабою ставіў, як бы ўроўніцу: мы, казаў, з табою нізавая тэхнічная інтэлігенцыя на сяле… Толькі не гнілая, заўваж, бо не смокча нас хвароба, што грызь называецца, тоісь, чаму на свеце так, а не гэтак — для нас усё ясна, як вось гэтая кропля — лепш, канешне, як сорак градусаў, а не васемнаццаць… Але мы разумеем… Ёсць чым рот заткнуць — і не хаўкай, як некаторыя… Тоісь, мы касцяк і апора: без нас любая вертыкаль — у дугу…

— Афіцыяльна, мы электарат, — уварочвае і Ёсіп: разам з «Ёшкам» ён і гэта вывудзіў у «скрынцы».

— Э не, дружок, ты ў электрыкі не лезь, не прымазвайся, — па-свойму зразумеў Алік, — гэта я — іншае дзела, законна, тоісь… А ты… — Але тут жа прыкусвае язык: помніць, чыя бутэлька на стале. — Ты з іншай песні… Але таксама — апора, ну, як слуп у электралініі, з нашых, тоісь, ці, як ты кажаш, таксама лектарат…

Ёсіпу, што і ўтойваць, падабалася слухаць такое. Але, шкада, бывае гэта толькі пры чарцы, ды і то калі выпівалі на ягоныя грошы…

Калі ж плаціў Алік, то і трымаўся задзірыста. Не было б тае чаркі, плюнуў бы Ёсіп, не стаў бы слухаць, як чаўпе ён, асабліва калі і яшчэ хто-кольвеч тырчыць пры бутэльцы: «А ты, Ёсіп, як бы нейкім чынам і непатрэбны, тоісь, не аб чарцы гаворка — гэтага не шкада… Пры чарцы ясна: тут ты падключаны, а пры жыцці… Можаш сядзець вось так, як зараз, тоісь, ты як бы і ёсць, а можа і зусім не быць цябе — ніхто і не заўважыць… Не падключаны, з нулявым кантактам… Тоісь, халяўшчык

пажыццёва: паляніўся нават дзеўку сабе знайсці альбо хаця б вольную бабу раздабыць, — глядзіш, каб на гатовае, на ўзаранае поле… Ды, зрэшты, змайстрыў бы хоць каго, як некалі цябе змайстравалі…

Ёсіп толькі грэбаў пяцярнёю зліплую ад поту, рыжаватую, з саламяным свячэннем валасню, быццам хацеў выцягнуць з-пад напятай на чэрапе скуры балючыя, з неадчэпным ныццём, стрэмкі. А на большае — каб даць адлуп належны — і ахвоты не было. Ды гэтым разам і рашучасці: у бутэльцы яшчэ кропля боўталася…

Але што плявузгаць — не аб гэтым будзе пісаць Ёсіп…

Будзе пісаць — рускай моваю, але нямецкімі словамі…

Цяпер і слоўнік, здаецца, прыдаўся — як дзеля гэтага выпадку і складзены быў. Словы ўсе ў ім сур'ёзныя, дзяржаўныя, палітычныя: рыхтык у целявізары ці ў раённай «брахалаўцы», — толькі падстаўляй ды счэплівай. Праўда, з апошнім у Ёсіпа напачатку перакос выйшаў: слоў хапае, ды ўсе яны, як дурныя авечкі, таўкуцца, ніяк не прыладжваюцца ў штосьці складнае: то задам адно да аднаго, то бокам вернуцца, а не каб за рукі ўхапіцца і загаварыць уцямнае, што накіпела ў Ёсіпавай галаве…

А тут яшчэ куры раскудахталіся — якраз жа і несціся ім прыперла, іншага часу не знайшлі. І певень гарлае — усіх дванаццаць нясушак, здаецца, перакрычаць стараецца: маўляў, і ён тут не староннi, пры гэтай курынай рабоце… Ды яшчэ і курыца адна, як здурэла, — падпявае: выцягне гэтак шыю, быццам сакатаць збіраецца, а сама і закукарэкае пеўнем, толькі гугнява, коратка і з хрыплай картавасцю…

— Кыш, адроддзе чортава, — шпурляе гальнём Мархва. — Ёсіпка пісьмо думае, пісаць сеў… А ты, гэта самае, як па мазгах калатоўкай… — І яшчэ больш злякалася, бо пявуння была чорная: — Сама во, як галавешка, — няйначай, нядобрае штосьці вяшчуе…

Сказаць аб гэтым Ёсіпу пабаялася, але трывога ў сэрца запала…

А тым часам Ёсіп, здаецца, знаходзіў самыя прыдатныя словы, самыя важкія і галоўныя, — можна сказаць афіцыяльна, магістральны канал… А як і ўсякі магістральны канал — ён прыдатны для вусця, для заканчэння; выходзіць, пісаць пачынаў Ёсіп як бы з канца, з апошняга сказа. Ён і ў слупок усё накрэсліў: слова — па-звычайнаму, па-руску, як і абяцаў, а побач — па-нямецку. Іншае дык і паўтараць не варта было — і дурню зразумела… Аднак Ёсіп яшчэ і яшчэ раз перачытаў — як бы прымерваючыся і

прыкідваючы: «знамя», «марксизм», «ленинизм», «вперед», «победа», «коммунизм»… — і складна ж, падла, выходзіць — хоць у сцішок стаўляй!.. Ёсіп аж заспяваў на нейкі маршавы матыў: гучыць, як лозунг!.. Для заканчэння — што трэба! — такое каго хочаш пройме!..

Вось толькі на пачатак, каб разгарнуцца ў пісьме з галоўнаю задачай, на тыя самыя «стрэлкі» ніяк не мог узбіцца Ёсіп…

І можа, першы і апошні раз за жыццё ўзварухнулася ў Ёсіпавай галаве — не, не шкадаванне, што мала вучыўся, а хутчэй зайздрасць да тых, хто вучыўся шмат і шмат ведае. Асабліва хапіла гэтаму самаму Ёшку: от жа, разумнік, і прыроду абараняе і па-нямецку шпарыць… А тут — як той Алік кажа — толькі ўваччу іскрыць ды лямпачка ў носе хліпае ад гэтай слоўнай немчуры…

Пад момант гэтых пакутлівых перамоў з Ёшкам Фішарам закацілася на Мархвін двор яшчэ адно слова. Без сумневу, ці не самае выратоўнае ў падобнай нявыкрутцы. І таксама нямецкае. Мархве зноў яно — у які ўжо раз за апошнія дні — ажно здрыганулася ўсярэдзіне. Спачатку — «фішар», потым былі з Ёсіпавай кніжкі, а гэтае закацілася на лісапеце, разам з паштаркаю — тая пакінула Ёсіпу раённую газету, а Мархве — як са страшнага сну, — слова:

— Фургон з Германіі прыехаў… Помач прывезлі… — якую помач — Мархва не разабралася, толькі пачула, што і яна, тая назва, неяк гаўкала, падобна гэтай, даўно забытай…

Машына па найменню «фургон» везла іх тады, дзяўчат і маладых кабет, у каго дзяцей яшчэ не было, — сабраных, схопленых: то ў хаце, то пры якім-небудзь занятку на полі, то і ў няхітрай схованцы на гарышчы ці ў хлеўчуку… — везлі, як гучна аб'явіў з ганка «біржы працы» нейкі тоўсты, у блішчастых ботах і акулярах немец, дапамагчы Германіі здабываць перамогу. Дваццаць кіламетраў, да чыгуначнай станцыі, скакаў і калываўся па разбітай — яма на яміне — брукаванцы фургон і дваццаць кіламетраў разрываўся ад плачу і надломленага крыку… На самых глыбокіх выбоях, калі фургон, страсянуўшыся, на момант завісаў, гатовы, было падобна, рассыпацца на аскабалкі, галашэнне абрывалася, а як толькі колы пад грымотным кузавам гоцалі на зямлю, імгненнае і жудаснае зняменне зноў выбухала яшчэ мацнейшым галасам і лямантам…

Мархва стаяла ля закратаванага калючым дротам акенца і праз слёзы пабачыла, хоць было і цераз два полі ад дарогі, родныя могілкі: бярозы на пагорку, здавалася, глядзелі ўслед, а яна

зайздросціла тым, хто ляжаў пад імі. І калі фургон, тузануўшыся, вырваў з вачэй бярозавую купку, Мархва схапілася за шыю, упала на грудзі нават незнаёмай яшчэ суседкі і загаласіла:

— А дзе ж цяперака нашыя костачкі знойдуць прыстанак?!.

Пра «гуманітарны фургон» пачуў і Алік, бо неўзабаве ўжо штурмаваў Ёсіпа:

— Адключай пісаніну ды ў раён шуруй, тоісь, дзелам займацца трэба: прасачыць, каб матка не зацерлася ў спісках. Заўтра ж і я там буду — дапамагу, калі што якое…

Дапамагаць надта не прыйшлося. Мархва ў спісе значылася.

Сам Ёсіп не трапіў у памінальнік, але гэта яго не дужа і засмучала: ён сваё яшчэ возьме — не барахлом: спагоніць маркамі… А пакуль — можна і тут тое-сёе ўхапіць, на матчын рахунак…

Замінка цяпер толькі ў адным была: што выбраць?..

Нейкая крыклівая, відаць, што кіраўнічая, кабета пыталася прозвішча, другая — ператрасала груду шмацця, не пытаючыся, прапаноўвала:

— Вось гарсэцік… панталоны… новыя амаль…

Ёсіп моршчыўся, упарта, як бык ад аваднёў, трос галавою:

— Мне б мужчынскае што…

— Але ж вы, як па дакументах, — начальніца тыцкала доўгім, адрошчаным на двайную меру, фарбаваным пазногцем у спіс, — во — бачыце: кабета, а выходзіць мужчынскага полу…

— Дык я ж і кажу…

— Сын ён, сын, — падаспеў з тлумачэннем Алік, — тоісь, таксама ахвяра…

— Во, тады піжама ёсць, — падахвоцілася тая, прыстаўленая на раздачу, і патрэсла ледзь не перад Ёсіпавым носам паласатым калашыннем, а другой рукой працягнула штосьці накшталт пінжака, толькі голага, без падкладкі, і таксама паласатага…

Тут ужо Ёсіп ажно абурыўся:

— Ды я ж, афіцыяльна, не рыштант які…

Тым часам Алік выгледзеў і запаказваў:

— Вунь, вунь, чаравікі, здаецца, па ім, тоісь, мужчынскія.

Чаравікі прыглянуліся і Ёсіпу. І па назе прыйшліся. Праўда, лёгкія чамусьці былі. Ёсіп ступіў разы два і засумняваўся нават: як босы ўсё адно… Але ж блішчэлі, — Алік аж языком цмокнуў, — халера, як лакіроўкі… Ёсіп і здымаць іх не стаў. Свае ж, збітыя да шнуркоў, скараходы пакруціў спачатку ў руках, як прыцэньваючыся, і шпурнуў у груду смецця. Пярэчання і шка-

добы гэтае транжырства, здаецца, не выклікала ні ў кога. Нават райцэнтраўскі сабака па мянушцы Заўмаг падбег, панюхаў Ёсіпаў абутак — можа, для парадку: каб якую бомбу не падкінулі? — і пагардліва адвярнуўся. Пасля, аднак, прыкінуўшы нешта ў сваёй абароцістай, прымагазіннай, галаве, рашыў правесці тавар па ўсіх правілах, узяць на баланс, аформіць, значыцца, каб тут жа спісаць, як непатрэбшчыну, — і падняў заднюю лапу…

Ну, а паколькі ўсякая дастойная справа патрабуе і самага дастойнага завяршэння, то і тлумачыць асабліва не выпадае, чаму неўзабаве Ёсіп з Алікам, упёршыся локцямі ў прыслупаваны да падлогі столік-стаяк сельпоўскай забягалаўкі, мелі гамонку ўжо добра такі падагрэтую і віхлястую, калі бывае так: усе пра ўсё і кожны пра сваё. Хоць кожны подліў і «будзьздароўканне» вярталі на галоўную «магістраль»:

— От цяпер і ў сваты можна — самы раз! — схіліўшыся пад стол, да чаравікаў, зноў і зноў прыходзіў у захапленне Алік. — Заўтра ж і пойдзем, тоісь, можна і сёння, але крок сур'ёзны. Абмазгаваць трэба як след — хады і падыходы… Хоць сумнявацца не след: праверана — мін няма…

А паколькі гаварылася тое пасля чацвёртай, а то й пятай «здравіцы», то і Ёсіпа чорт за язык пацягнуў:

— Ты вось мне можаш і ў морду, афіцыяльна… але ў сваты — не-е-е… — і не паспеў з Алікавага спрытнага языка сарвацца контрудар — Ёсіп нахіліўся, нават даланёй ад староннніх вушэй заслон паставіў і прашаптаў: — Бо як жа з Маняй тады?..

— З якой Маняй? — Алік зноў зазірнуў пад стол, няйнакш хацеў пабачыць яе там, тую самую Маню, пра якую гаварыў Ёсіп.

— Ну ты ж сам казаў, што можна і адну… ну, афіцыяльна… каб на двух…

— Дык ты гэта, тоісь, пра Маню?! — аж падскочыў Алік, а разам з ім падскочыла на стале недапітая пляшка. Добра, што яшчэ і падхапіць паспеў і ўспомніць іхні з Ёсіпам жалезны закон: фундатар — асоба недатыкальная, тоісь, языком можна, а рукам волі не давай. Таму і не ўрэзаў тою бутэлькай па рыжаму кумпалу, а толькі нервова зарагатаў:

— Ды ты ж пры ёй быў як бы ўрэменна, тоісь, часова паверaны. А прэзідэнт — я, тоісь, не ты, блін, а я — Клінтан.

— Не Блін, а Біл, — паморшчыўся Ёсіп. І хоць Алік знаў, што ў замежных справах, асабліва цяпер, Ёсіпу ножку не стаўляй: сам жа і скапыцішся, — не сцярпеў, закіпяціўся:

— Сам знаю, тоісь, у курсе: Клін Блінтан…

— Блін… Клін… — ужо, як рэха, тоўк Ёсіп, пакуль не ўзбіўся на стрыжань: — Давай яшчэ па адной…

Булькат момантам прынёс супакаенне… І ўжо крактануўшы, Алік знайшоў неабходным патлумачыць:

— Яшчэ раз кажу: сам знаю — Біл Клінтан. А «блін» — гэта і ёсць «блін», — ну, спытайся ў майго Шуркі: першы дзень у садзік схадзіў, вярнуўся — так і шпарыць: што ні слова, то «блін» ды «блін»… Маня спачатку завінулася бліны пячы: во згаладаўся дзіцёнак… А ён: «Мама, блін, мне гэтая жрачка дзярэ…», тоісь, сыты па горла — і ўсё па рэжыму там ды па графіку… Тут толькі мы і ўрубіліся, што «блін» той ну як бы і зусім ніякі не «блін», а гэтакі спосаб, слова, тоісь, каб сказаць і «дзякуй», а іншым выпадкам і «кацiся ты да…» Тоісь, як і ў цябе з Маняй было… Было, ды сплыло, як вада па тваіх канавах, — «блін», адным словам… Жонку паленаваўся знайсці… А мне тут страданні свае выстаўляеш…

Алік сціснуў у жмені парожні стограмовік, шкло храбуснула, між пальцаў праступілі чырвоныя кроплі…

Ёсіпава верхняя губа пацягнулася да носа: быццам чхнуць збіраўся ці заплакаць. Памутнелымі вачыма ён спачатку ўставіўся на крывавыя Алікавы пальцы, потым баднуў галавою паветра і тупа замычэў… Але, відаць, ад нейкага свайго, цёмнага, болю…

Дамоў яны вярталіся паасобку.

Ёсіп папраставаў нацянькі — да «магістральнага канала», а там ён ужо, лічы, як у сябе на дварышчы. Там ужо і гэтага… разумніка… можна загрудкі патрэсці… Бач: «Ты ўсяго толькі і быў часова паверааны, а я — гэта ён, значыцца, — часам праверааны…» Пры Мані, значыцца… Яшчэ і цвяліцца: «Яна ж і маленькая, і чарнявенькая, і рухавая, як блошка, і куслівая… але ж свая…» Прысвоіў, у-у-у, — Ёсіп з узнятым кулаком павярнуўся, каб патрэсці ў той бок, дзе яшчэ, пэўна, заставаўся Алік, і ўбачыў, як следам за ім, ужо амаль на паўнеба, узнімалася, ірванымі клубамі напаўзала хмара. Клубы ўвачавідкі напучваліся, паўнелі, як бы хто іх напампоўваў, і злавесна чарнелі. І таму сама хмара развальвалася на два пласты: паперадзе сунулася сівая, з зеленаватымі пісягамі заслона, а за ёй акругла перакочваліся, гатовыя абрынуцца ўсім сваім знядужаным цяжарам на зямлю тыя пачварна надзьмутыя клубы… Час ад часу яны, нібы нутро іхняе было напоўнена каменнем, глуха вуркаталі, а паміж двума пластамі праскоквалі яшчэ не такія і страшныя пакуль што зіхатліва-вясёлыя паяскі маланак… Тады хмара ўздрыгвала, як

бы пацепвалася, нібы конь скураю, калі адольваюць яго на пашы ці ў баразне мухі, сляпні, пукатыя авадні ды іншая крыважэрная поскудзь — заедзь, адным словам…

Ёсіп прышпарыў хаду і ўсё з нейкай нікчэмнай надзеяй азіраў голае наваколле. І ці не ўпершыню падумаў нядобра пра сваю «карміцельку» — меліярацыю: «От жа, падла, падчысцілі — ні кусціка, ні дрэўца, каб захінуцца… Хоць, гэта самае (Ёсіп не прыкмеціў, як матчына прыслоўе ўвярнуў, — а яно заўсёды так: маці ды Бога, калі нявыкрутка якая, памінаюць…), у зямлю, у торф зарывайся, як той крот…

Спачатку Ёсіпа дагнаў вецер — густы, напорысты і халодны, — як з лядоўні, і дыхнуў у спіну. Ён такі, пэўна, і перамяшаў, ператрос у суцэльнае месіва хмарныя пласты: да Ёсіпа падступала грымотная сцяна. А ў перахопах ад грому да грому цішыня патанала ў аднастайным, але неадольным шуме, — быццам вецер, толькі ўзмоцнены да гулу… Ёсіп здагадаўся: гэта лілася з неба вада…

Зрэшты, тут ужо і не здагадкі былі: сцяна насунулася, навалілася на Ёсіпа і паглынула яго — быццам нырца даў… Але адчуў ён найперш удары па галаве — адзін, другі… Схапіўся рукою, як бывала ў маленстве, калі ішлі ў наступ вясковыя «канчане» на «канчаняў» і раптам шыбануты кімсьці камень трапляў у лоб ці ў макаўку…

Ёсіп абхапіў галаву аберуч — усё ж нейкая абарона, — і прысеў на кукішкі, зацiснуўшы твар між каленяў. Цяпер ужо град лупіў па прыгорбленай спіне, адскокваў, як ад рабрыстай шыферыны на прыстрэшку, — толькі без гучнага бумкання, а з глухім квэцаннем…

Калі зацяты «гарбабой» адхлынуў, як бы переваліўся цераз Ёсіпа, — гэта ён адчуў тым жа гарбом: яму раптам памякчэла, — сэнсу сядзець карчом ужо не было ніякага… Ёсіп выпрастаўся і пабачыў, што ён і сапраўды, нібы корч, тырчаў у чорным тарфяным месіве…

Выцягнуў адну нагу, другую — і ад неспадзеву зажмурыўся, потым расплюшчыў вочы: ці не сп’яна гэта вярзецца? І на адной назе, і на другой замест блішчастых чаравікаў вісела нейкае няпэўнае ашмоцце. Ступіў два-тры разы, то і шнуркі развязваць не прыйшлося: раскіслыя, цяпер ужо былыя, чаравікі самі зваліліся з ног, засмактаныя граззю…

Першым пабачыў босага Ёсіпа не хто іншы, а сам Алік: падкінуў яго на матацыкле знаёмы ляснік з Казубца і высадзіў ля павароткі на Узбор’е. Сюды ж праставаў ад канавы і Ёсіп.

Тут яны і апынуліся побач. Ёсіп напачатку намерваўся абмінуць Аліка моўчкі. Але тое не ўдалося, бо такога з Алікам наогул і быць не магло. Каб ён ды не загаварыў!.. А тут яшчэ такая неспадзеўка:

— Ого! — здзіўлена выгукнуў Алік. — Беражэш, гляджу, як дзеўка… лодачкі, тоісь, ад дажджу схаваў свае лакавыя…

— Якое схаваў!… — давялося злосна буркнуць Ёсіпу. — Разлезліся…

— Тоісь?

— Ну, гэта самае, ад дажджу, ад вады раскіслі…

Алік аж прысеў і паглядзеў на босыя, заляпаныя граззю Ёсіпавы пласкаступы, быццам усё яшчэ хацеў палюбавацца нядаўнім, такім файным абуткам…

— А можа, ты пасля мяне яшчэ дэнатурату якога хватануў? — па-блазенску запытаўся. — З такім справа небяспечная, тоісь, кропля якая на абутак трапіць, асабліва як пры ветры да ветру пойдзеш ці, крый Божа, у калашыну пусціш, — згарыць усё: і верх, і падэшвы…

— Павыскаляйся яшчэ… — ні то просячы спачування, ні то з пагрозаю мутна абзываецца Ёсіп.

І тады Алік зноў пачынае здзіўляцца:

— Кажаш, усё так і развалілася, тоісь, дарэшты?..

— Во, шнуркі адно і засталіся… — Ёсіп палез у кішэню, а ў Алікавай галаве як бы нешта раптам прарэзалася, і ён далонню пляснуў па ілбе:

— Гы-гы-гы! Дык ці не з камплекта і чаравікі твае?.. — і пачаў тлумачыць: — Тоісь, у дапамозе той быў касцюм для нябожчыка… ну, у магілу прыбарахліць чалавека… Дык хапіліся: касцюм ёсць, а чаравікі… чаравікі ўжо… тоісь, пайшлі па іншай ведамасці?..

Ёсіп няўцямна лыпаў вачыма і цяжка пазіраў то на Алікавы кірзачы, то на свае асірацелыя ногі. Дадаў Ёсіпу няпэўнасці, і без таго разладжанаму і разгубленаму канчатковым крахам надзеі займець грунт у гэтым жыццёвым багавінні, і нейкі туманны, што так непадобна да заўсёдных высноў Аліка, ягоны вырак:

— Ось так: грабешся, вылузваешся, дзярэшся на купіну, каб хоць трошкі сонца займець, — здаецца, ужо і праменьчык нейкі ўхапіў, а як разгледзішся, то гэта і не тое і не гэтае, а так нешта… тоісь… на той свет апратка…

Рэштку дарогі — нейкія паўвярсты — дружна, у два языкі, лаялі «гуманітарную дапамогу», праз два-тры словы памінаючы «ёшку», толькі ўжо ямчэй і прасцей, тоісь, па-нашаму…

*1999*

# ЭСЭ

## ДВА ТАМЫ З НАШЫХ УНІВЕРСІТЭТАЎ

Што памагло мне тады авалодаць ім — гэтым маленькім скарбам?.. Абставіны, па часе, забыліся…

Хутчэй за ўсё, быў я, як вадзілася, адным з «лордаў-зберагальнікаў» гэтых дзвюх кніжачак. І, мусіць жа, перабольшыў паўнамоцтвы, дадзеныя настаўніцай: «прыгрэў» іх на лета.

Можа, прыдбалася для наступнага класа што-небудзь іншае, а можа, прыйшоў урэшце (адзін на ўсю вёску!) сапраўдны падручнік?.. Абставіны забыліся…

А помніцца другое!

Нядаўна сустрэўся я са сваім суседам па парце, дакладней, па «козлах» (так ахрысцілі мы змайстраваныя наспех і не дужа адмысловым работнікам даўжэзныя сталы з ножкамі крыж-накрыж).

Сустрэўся з колішнім верхаводам, а зараз — чалавекам мужнай прафесіі. Самалёт яго ходзіць па нялёгкіх алтайскіх трасах. Ордэн Леніна красуецца на яго грудзях. Ён мой цёзка — і па імені, і па прозвішчу. Настаўнікам, помніцца, нічога не заставалася, як тытулаваць нас: Васіль І і Васіль ІІ, Васіль Чорны і Васіль Белы. Іншы раз велічалі Васільевічам і Пятровічам.

Мы сустрэліся, шмат чаго прыгадалі.

З патаемнага месца выняў я гэтыя дзве кніжачкі — два тамы нашай самай першай энцыклапедыі. Думаў загадаць яму загадку. Ажно не прыйшлося. Помніць!

Мы наперабой чыталі на памяць — і з першага тома, і з другога…

Том першы — «Полымя», № 1, 1946 год.

Вокладкі няма. Замест яе — самаробная покрыўка з трафейнага кардону. Лісты змацаваны медным дротам — пэўна,

з нейкай радыёшпулькі. Настаўніцкія паметкі: «ад» і «да» — «адгэтуль» і «дагэтуль». То — нашы ўрокі.

На першых старонках: Пімен Панчанка — «Маладосць у паходзе». У сэрцы і ў памяці гучыць:

Праклён табе, разбойніцкая бомба!
Ты свіснула на досвітку ружовым
Над нашым сном, над нашай мірнай хатай,
Іржаваю пілой праскрыгатала,
На два жыцці, на дзве балючых часткі
Распілавала нашу маладосць…

А яшчэ для завучвання на памяць хлапечая палавіна класа з ахвотай брала мясціну, дзе, паміж іншым, было:

«Глядзі, паўстанец, раз яшчэ убачу,
Як будзеш лезці ў сад Райка па дулі,
Здыму штаны і кіну у крапіву».

Усё так блізка і зразумела. Не раз і мы перажылі падобнае, хто маральна, а хто і фізічна: з вайны на ўсю вёску зберагліся дзве яблыні — у дзядзькі Якіма — дзічка, у Івана — антонаўка. Ды і радкі вельмі складна перарабляліся на мясцовы лад: варта толькі было замест «Райка» сказаць «Грыбка». Праўда, дапускалася пры гэтым маленькая «недакладнасць», у Івана Грыбка стаяла за хатай не дуля, а антонаўка. Ды што паробіш: дзякаваць богу, што хоць яна ацалела…

Кожны з нас помніў па-свойму той страшны дзень. Да мяне ён пастукаўся ў шыбу рукой сельсавецкага вартаўніка: «Вайна».

Я скрозь сум адступлення глядзеў на зару,
Што злівалася з заравам — горад палаў…
Ты ў пажарах была тады ўся, Беларусь,
І балела так сэрца ад жудасных спраў… —

расказваў нам Алесь Бачыла.

Гэта былі незвычайныя ўрокі — урокі паўтарэння.

На пачатку вайны ўзнялася ў неба — агнём і дымам — родная вёска. Над пажарышчам фашысцкія знішчальнікі — з нейкім жудасна-прарэзлівым звонам — узвінчваліся за нашымі бамбардзіроўшчыкамі.

Мы помнілі той дзень, кожны па-свойму.

Двойкі здараліся рэдка. Пяцёркі былі выпакутаваны чатырохгадовым чаканнем — праз жудасць і смерць — чаканнем светлай хвіліны, калі сам Фрыдрых II

Пазелянеў на п’едэстале,
А выгляд змучаны такі,
Нібы прысуд яму чыталі
Чырвонай Арміі палкі… —

як засведчыў паэт-франтавік Паўлюк Пранузa…

Том другі — «Беларусь», № 4, 1946 год.

Самая сапраўдная чытанка.

Здымкі, малюнкі-ілюстрацыі, нарысы, звесткі з гісторыі, геаграфіі, з жыцця прыроды роднага краю.

Са старонак паўставалі перад намі аблічча паэтаў і пісьменнікаў, чые творы мы ўжо ведалі або меліся неўзабаве прачытаць, — Пімена Панчанкі ў капітанскіх пагонах, Паўлюка Труса, Эдуарда Самуйлёнка, Рамана Сабаленкі, Рыгора Няхая…

Засмучала, што не ўбачылі партрэта на старонцы з вершамі, дзе стаяла незвычайнае і загадкавае для нас прозвішча — Танк. Уяўляўся хтосьці суровы, магутны.

Шэрым прыбоем руін біліся ў сэрца словы:

Прайшоў трамвай. Ён на прыпынку кожным
Спыняўся доўга, быццам інвалід,
Які ў разбітым горадзе не можа
Прыпомніць трасы…

Сніліся нам светлыя, сонечныя гарады. І праз год-другі многія апраналі спяцоўкі «фабзайцаў», ішлі будаваць, сеяць…

…Час — імклівая птушка. Напісаны паэтамі новыя творы, мабыць, лепшыя. Але самымі дарагімі для нас застануцца тыя — што завіталі ў маленькую пачатковую школу з грымотных дарог вайны, завіталі без хрэстаматыйнага глянцу, у сціплых, як выцвілыя гімнасцёркі, часопісных вокладках, завіталі назаўсёды паланіць душу.

*1968*

## БАЧУ З УСІХ СЦЯЖЫН…

Аднойчы падумалася:

Не, бессмяротнасці не трэба:
То — беззваротнасць.
Хай агнём,
Хай спапяліць —
зямля і неба, —
Згарым —
і зноўку ўсё пачнём!

А потым прыгледзеўся — колькі тут супярэчлівасцей…

Не трэба, не жадаю бессмяротнасці? Але чаму? Ды таму, што гэта — беззваротнасць! А значыць — хочацца да чагосьці запаветнага вярнуцца, хочацца ў нечым паўтарыцца. Што ж, такое магчыма. Матэрыяльнасць мая не знікне. Толькі ж ці аформіцца яна калі-небудзь у такую адзінку, якая магла б усвядоміць, успомніць, сцвердзіць: я ёсць паўтарэнне.

Няма такой упэўненасці. І злавіў я сябе на думцы, што радкі тыя — проста бравада. Як ні выкручвайся, а карціць чалавеку думка аб той вострай касе, што носіць на плячы адна злая бабуля.

Многія, многія ўзводзілі цэлыя філасофскія сістэмы, каб давесці (хаця б сабе): я — чалавек — бессмяротны.

Моцны духам, валадар дум Леў Талстой хацеў «абаперціся на веру… у невынішчальнасць сваёй душы», сцвярджаючы: «жыццё маё… праяўляецца ў безлічы форм».

Масты з мінулага — праз існасць — у будучае мроіліся Блоку ў яго паэтычных сімвалах.

Пушкін сказаў з класічнай яснасцю: «Нет, весь я не умру — душа в заветной лире мой прах переживет…»

Продкі мае — людзі простай сялянскай працы — не заглядвалі так далёка. Яны ўлагоджвалі зямлю-карміцельку, здабывалі хлеб свой. І калі ўзносілі малітву, дык не аб вечным жыцці, а найбольш аб ім — аб хлебе надзённым. Яны спрадвеку былі нашымі аднадумцамі: яны былі матэрыялістамі — няхай сабе стыхійна, неўсвядомлена, без кручкаватага шкалярскага мудраслоўя. Яны гаварылі: паміраць ладзься, а жыта сей. І ў гэтым быў залог бессмяротнасці…

…Я не ведаў яго. Нават ускосна, бо ніводнае галінкі з іх родавага дрэва не ацалела ў Мачулішчы.

Але суджана было чалавеку вялікае даўгалецце, пра якое ён і не думаў. Суджана, бо пакінуў ён для ўсіх Яўменава ляда. Уласна, цяпер ужо і ляда няма. Таго ляда, дзе расла ў калена трава, дзе яшчэ я хадзіў з касою. Цяпер там — абапал выструненай у нудную канаву (палепшана рэчышча! — так гэта «па-навуковаму» трактуецца) калісьці воднай і рыбнай Начы — чарнее ды тлее дзе-нідзе неабжытае тарфянішча.

Няма ляда, але жыве назва. Жыве Яўмен між людзей. Як жыве Сёмка, бо ёсць Сёмкаў расцяроб, як жыве Антончык, бо ёсць Антончыкаў гай.

Жыве чалавек. Не датуль, пакуль дыхае, а пакуль знаходзіцца для яго куточак у сэрцах і думках людзей.

Не так ужо мала пражыта, але да гэтага часу не даўмеўся я, ці знайшоў сапраўднае шчасце, не спадобіўшы свой лёс лёсу бацькоў…

А народжаны я быў араць, сеяць, малаціць. І было гэта ў 1935 годзе. Па запісу ў пашпарце — 3 чэрвеня. А сапраўды — 3 ліпеня.

Вайна знішчыла ўсе паперкі. І калі пасля заканчэння Узнацкай сямігодкі я мусіў выбірацца за абсягі родных ваколіц, прыйшлося абзаводзіцца новай дакументацыяй. Вось тут камісія пры Халопеніцкім бюро загс аднадушна вырашыла, што нарадзіўся я не ў другой палове года, а ў першай. Аўтарытэтнае рашэнне было замацавана запісам у пасведчанні аб нараджэнні. З гэтае ласкі прыйшлося пазней выдумаць для пашпарта дату, адпаведную першай палове года, і займець на ўсё жыццё два дні нараджэння.

Чытаць пачаў рана. Добра памятаю, як «друкаваў» (скорапіс яшчэ не спасцігнуў) ліст браценіку — на фінскую вайну.

Гэта было трывожнае прадвесце. А неўзабаве накацілася другая, у сотні разоў страшнейшая вайна, бо не дзесьці за лясамі ды гарамі была яна, а побач — з крывёю, слязьмі, голадам. Жудасці і нянавісці да яе столькі запала ў сэрца, што хапіла б на некалькі жыццяў.

У школу пайшоў пасля вызвалення — у 1944 годзе.

З першага класа перабраўся адразу ў трэці.

Недзе гэтым часам «здзівіў» свет першым «плёнам» творчасці.

А далей — болей. Чуткі пра маё пісанне нейкім чынам дапялі з Узнацкай сямігодкі, куды я хадзіў пасля Мачулінскай пачатковай школы, ажно да Халопеніч. І калі ў 1949 годзе, прымаючы мяне ў камсамол, сакратар райкама папрасіў паказаць, што я

пішу, — назаўтра аж два сшыткі ляглі на яго стол. Каб забраць іх назад, не здарылася нагоды. Так і згубіўся, думаю, бясследна, першы том збору твораў.

Быў і яшчэ з гэтымі вершамі «выхад у людзі»: паслаў некалькі з іх (мусіць жа, лепшыя выбіраў) не абы-куды, а адразу ў «ЛіМ».

Прыйшоў адтуль ліст. А ў ім, як звычайна, пісалася: «…відаць, вы (!) упершыню ўзяліся за пяро… Вам трэба яшчэ шмат вучыцца…» Вось гэта апошняя фраза і вырашыла ў многім мой лёс. Справа ў тым, што пісьмо трапіла на вочы бацьку, і, прачытаўшы мудрую параду, ён рашыў выправіць мяне пасля сямігодкі ў Барысаўскае педвучылішча. Я крыху паўпарціўся, бо меў намер ісці ў Халопенічы — у сярэднюю школу, каб потым падацца ў капітаны дальняга плавання (начытаўся!). Аднак усёй сям'ёй давялі мне, што і пасля педвучылішча можна стаць капітанам, і восенню 1950 года я ўжо крочыў з дашчаным чамаданчыкам па Студэнцкай вуліцы Барысава. Не адзін, праўда, — з бацькам. Развітваючыся, ён надзяліў мяне некалькімі чырвонцамі. Потым пастаяў маўклівы і, як бы нешта ўспомніўшы, выняў з кішэні яшчэ рубель, з тых, што адклаў на дарогу. Не ведаю цаны таму рублю: яна невымерная…

Шчаслівы, светлы час юнацтва!.. І плённы — вучобай у таленавітых настаўнікаў. Звычайна называюць выкладчыкаў любімых прадметаў. Зраблю і я гэта, прыгадаўшы добрым словам Міхаіла Станіслававіча Яўневіча, Ніну Сяргееўну Шалаеву, Яўгена Мацвеевіча Замерфельда. Няцяжка здагадацца: яны вялі ў нас родную мову і літаратуру. Але ж хіба забудуцца ўрокі матэматыкаў Сяргея Цімафеевіча Хацько, Яўгена Станіслававіча Бродскага, біёлага Якава Дзямідавіча Кушніра, вучоба педагагічнаму майстэрству ў выдатнага метадыста Марыі Георгіеўны Мазінг?..

Педвучылішча я скончыў у 1954 годзе, атрымаўшы дыплом выдатніка, а разам з ім — магчымасць паступіць без прыёмных экзаменаў у ВНУ.

Я выбраў аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.

Ехаў з рэкамендацыяй барысаўскай газеты, дзе друкаваўся, і з агульным сшыткам не менш агульных вершаў, — патрэбны былі для творчага субяседавання на прыёмнай камісіі.

Зрабіўшы сваю справу — вывеўшы мяне ў студэнты універсітэта — і гэты, другі этапны том назаўсёды знік, выкінуты, відаць, з-за далейшай непатрэбы, якімсьці мудрым зберагальнікам асабістых спраў.

Але хвост «метаду», з дапамогай якога быў скрэмзаны той сшытак, яшчэ доўга цягнуўся за мной. Нялёгка было пасля звыклага агульнапісу выбіцца на правільную сцяжынку — знайсці самога сябе.

Час, калі пачыналі мы ўсведамляць цягу да слова, не надта прыхільны быў да лірычнага самараскрыцця як асновы паэтычнага адлюстравання свету. Нават ужо будучы першакурснікамі універсітэта, сталі мы сведкамі праборкі, якую наладзіла куратарша нашай групы (хай ёй добра ікнецца — кандыдат філалагічных навук, выкладчыца рускай літаратуры) двум студэнтам: «ад няма чаго рабіць» тыя заняліся «штудзіраваннем» «ушчэрбных» Блока і Ясеніна. Што датычыць мяне, то на сходзе тым я быў чысты, як анёл, бо не чытаў амаль яшчэ ні таго, ні другога.

Але час мяняўся…

Лекцыі, спрэчкі на семінарах і ў інтэрнаце, канцэртныя залы, цярплівае карпенне ў чыталках — і адкрываліся скарбы мастацтва, і міжволі думалася пра сваю пісаніну: «Чым такая, хай лепш ніякай не будзе…»

Маўчанне было пакутлівае, але, здаецца, не бескарыснае.

Добрым часам ударыў вясновы гром. Пісалася лёгка і радасна. І пачуццё гэтае першым падзяліў тады са мною сябра мой Рыгор Барадулін.

Вершы тыя склалі кніжку для дзяцей «Вясёлы калаўрот» і зборнік лірыкі «Крэсіва».

Вось так і пішу…

Неаднойчы казалі мне: «Пэўна, у мясцінах тваіх лясы непраходныя, рэкі ды азёры бурлівыя…»

Мушу прызнацца: усё якраз наадварот. Былі лясы (дзяды ўспамінаюць: бярэзнікам едзеш — як у тумане) — засталіся падлескі, была, помніце, рэчка і рачулка пры ёй (самае крыўднае: не балоцістыя, сухадольныя), — з’явіліся голыя канавы…

Скуль жа ўсе тыя птушкі ды звяры ў вершах?

Што ж, відаць, паэзію не заўсёды можа атаясамляць з перанасычаным растворам. Сытасць — вораг мары. Думаеш пра тое, чаго не стае. Недасягальнае, далёка-прываблівае — у каханні, у спадзяваннях, наогул у жыцці — мроіцца ў залатым арэоле. За адзінокаю сасной-старадрэвінай бачыцца дрымучы бор, за апошнім цецеравіным вывадкам — тлумныя, юрлівыя такавішчы.

Вобразы прыроды хвалююць яшчэ і таму, што адчуваеш вялікую блізкасць і любасць да яе чалавека працы. Не толькі

ён — homo sapiens — уздзейнічае на акаляючую натуру, але не менш дзейсны і сустрэчны працэс. Прырода — мудры выхавацель. І агаляючы зямлю ад лясоў, без ніякай пільнай патрэбы ператвараючы рачулкі ў водазаліўныя канавы, ці не збядняем мы душы свае, ці не штурхаем іх да ніваліроўкі? І хто скажа, як адгукнецца ўсё гэта ў характарах, у светаўспрыманні нашчадкаў нашых?

Найпершае прызначэнне мастацтва — праз прызму мінулага і існага праектаваць будучае. Тварыць — значыць намячаць перспектыву, хаця б на адзін далягляд, на адзін гарызонт.

Паэзія гіне там, дзе ўсё загадзя прадвызначана, усё ўжо ясна і без паэта. Тады на дарозе яго стаіць не пакутлівы (і творча-радасны) роздум, не гарэнне, не пошук ісціны, а ўсяго толькі каментарый, які вымагае быць больш-менш аздобленым атрыбутамі вершаскладання. Тады і з'яўляюцца творы, дзе толькі і відно шчырае імкненне перадаць увесь набор інфармацыі пра той ці іншы факт альбо падзею. Усё тут рассыпаецца, бо не змацавана адзінствам лірычнага перажывання.

Добра сказаў паэт: «У кожнага ёсць свае Ушачы…» Для мяне гэта — роднае Мачулішча, дзе заземлены я сэрцам і думкамі. З усіх сцяжын бачу тую дарогу, якой трымаюцца вяскоўцы мае: сеяць, жаць, малаціць і — зноў сеяць.

Сэнс жыцця — у працы.

Веру ў працавіты народ свой.

*1970*

## ПЕСНЯ ЛЯСНАЯ НАД НАШАЙ КАЛЫСКАЙ

Ён узвысіўся над прыродай, скарыстаўшы і асэнсаваўшы самую першую, няхай сабе самую прымітыўную, прыладу працы. Як толькі ўзяў ён у лапу камень, лапа ператварылася ў руку, а сам ён наблізіўся да неба. Пазнаўшы агонь, чалавек ужо стаў Праметэем. З таго часу ўсё жыццё яго, увесь цярністы шлях цывілізацыі адзначаны імкненнем сцвердзіцца на вышэйшай прыступцы прыроднай іерархіі.

Імкненне заканамернае, неабходнае. Але ці не здаецца, што, здзяйсняючы яго, мы доўгі час глядзелі толькі ў адным кірунку, забываючыся азірнуцца: а што ж застаецца за намі, ззаду? Мы занадта аддзялілі сябе ад прыроды. Мы забываемся на крэўнасць, забываемся, хто наша маці, глядзім на яе звысоку. Разрыў гэты як

бы і юрыдычна замацаваны: ёсць такі ранг — пакаральнік прыроды… Міжволі напрошваецца пытанне: чаму — пакаральнік, а не сябра? Чаму павінны мы змагацца, а не сябраваць? Усе ж, здаецца, пагаджаюцца: мы, чалавецтва, толькі часцінка чагосьці вялікага, імя якому — Прырода. У ёй, па сутнасці, няма і не можа быць пакаральнікаў і пакораных: усе мы і ўсё мы — звёны аднаго ланцуга.

Чалавек неяк наўздзіў вузка прывык тлумачыць сабе паняцце «прырода»: маўляў, гэта толькі тое, што яго акаляе. А яна ж — не толькі тое, што наўкола нас, але ў гэткай жа ступені і тое, што ў нас. Прырода — гэта і мы з вамі, гэта сутнасць — не толькі фізічная, але і духоўная.

Уладзімір Фёдаравіч Адоеўскі так гаварыў: «Адна са стыхій той з'явы, якая называецца эстэтычнаю асалодай, — ёсць пачуццё *апраўдання чалавека і Прыроды*, што выяўляецца ў кожным эстэтычным тварэнні». Мы апраўдваемся разам. І як змагаемся мы, каб д'ябальскай сілай сённяшняй зброі не было вырвана з ланцуга прыроды чалавецтва, з такой жа адказнасцю мы павінны дбаць аб захаванні таго ці іншага віду фауны альбо флоры, рачулкі ці крыніцы, бо — хай сабе ў параўнанні з намі гэта зусім маленькае звяно — без яго ланцуг перастае быць ланцугом: дзесьці штосьці абрываецца, а як яно адгукнецца ў будучым, па сваёй недасведчанасці ці бесклапотнасці мы не задумваемся.

Чалавецтва проста абавязана карэнным чынам перагледзець свае ўзаемаадносіны з прыродай. Мы раскруцілі махавік тэхнічнага прагрэсу, надышоў час падбіць баланс, улічыць не толькі плюсы, але і самыя, здавалася б, нязначныя мінусы. Прырода настойліва нагадвае аб гэтым — і перасыханнем рачулак, і забруджанасцю атмасферы, і парушэннем натуральнай раўнавагі ў фауне і флоры.

Да пейзажных радкоў нашай лірыкі тэхнічны наступ на прыроду ўсё часцей і часцей робіць сумныя каментарыі. З сардэчнай цеплынёю ўславіў сваю рачулку Беседзь народны паэт Аркадзь Куляшоў. І ў яго паэме «Далёка да акіяна» нямала прачулых слоў сказана пра гэту светлую калыску юнацкіх летуценняў паэта. Але вось пра што з горыччу паведамляў адзін з чытачоў у газету «Літаратура і мастацтва». Сёння Беседзь настолькі збяднела і абмялела, што хутчэй навявае смутак і жаль.

Прычыны? Іх шмат. І ўсе яны звязаны ў адзін тугі вузел.

Кажуць, лес сякуць — трэскі ляцяць. Але ці толькі? Апошнімі хмурынкамі адлятаюць заадно і нашы рачулкі — карміцелькі

вялікіх рэк. Ці, скажам, меліярацыя. Справа, безумоўна, важная, але разам з тым і вельмі далікатная — у адносінах да прыроды. Відаць, кожны мог бы зараз налічыць дзесяткі малых рачулак,ператвораных у канавы без усялякай на тое патрэбы. Паглядзіш — вакол іх і асушаць няма чаго. Але меліяратарам, кажуць, даведзены план — палепшыць тую ці іншую колькасць гектараў, ды і заробак патрэбен. Вось і «паляпшаюць», выкрэсліваючы рачулку са спісу жывых, выпрамляючы яе ў мёртвую канаву. А рачулка ж недарэмна маляўнічыя завоі рабіла: гэта яна крыніцы сустракала ды збірала па дарозе. А зараз? Рэчышча выструнена, крыніцы глухнуць, згасаюць, а наўкол мізарнеюць на сухім пайку старадрэвіны — вартавыя лесу — з усімі наступнымі не толькі матэрыяльнымі, але і маральнымі вынікамі.

Усё гэта беларуская паэзія адчула, бадай, раней за ўсіх.

Большасць нашых паэтаў вырасла ў лясной калысцы. Нават у Максіма Багдановіча — нашага Максіма-кніжніка — у кожным радку б’ецца пульс Прыроды. Усведамляючы сябе як часцінку Космасу, ён геніяльна натхняецца катэгорыямі вельмі і вельмі знамянальнымі. Учытайцеся, — няўжо гэта сказана на пачатку стагоддзя:

Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы
У ціхую сінюю ноч
І сказаць:
«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
І нясецца за сонцам зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя, — папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?»

Хуткаплынна мяняецца час. І наўрад ці мог здагадвацца Паўлюк Трус, калі марыў: «Край палёў, о край, калі ж станеш краем фабрык дымных і машын?», што гадоў праз сорак другі паэт — Васіль Вітка — будзе трывожна папярэджваць: «Спяшайцеся ў поле, у луг, у лясы — запісваць птушыныя галасы»… Безумоўна, шчырым і праўдзівым быў Паўлюк Трус у

сваім парыванні: цёмная, лясная Беларусь прагнула ўдыхнуць дымку фабрычных камінoў, водару тэхнікі. Ды яшчэ і мы — дзеці саракавых гадоў — беглі па вёсцы ўслед за машынай, каб хапіць бензіннага душку: гэткім жа смачным здаваўся ён тады. А сёння — бяжым у лес, на возера, да ціхай рачулкі, бяжым нацешыцца свежым паветрам.

Яшчэ гадоў дваццаць пяць назад з першых палос беларускіх газет усміхаліся фотаздымкі знатных герояў-лесарубаў, а сёння ў нас ужо іншы клопат і новая любоў: не леспрамгасы, а лясніцтвы.

На шчасце, у беларускай паэзіі не паспеў выпрацавацца ўстойлівы імунітэт супраць таго болю, які зведала някрасаўская Саша тады, «как лес вырубали». Наша паэтычная муза адчула, што траціць са сваіх асноў нешта вельмі важнае, жыццёва неабходнае для яе. І яна матывы лірычнага замілавання і насалоды ўзмацніла матывамі барацьбы за прыроду, за чалавека. Набатам загучалі радкі Аркадзя Куляшова з верша «Сасна і бяроза»:

Над імі ракетны ўзрываецца гук
І гул бамбавоза…
А што, як зямлю нашу выпусцяць з рук
Сасна і бяроза?

Трывога за Зямлю, за чалавека, куляшоўскае «Цунамі» — гэта плынь, народжаная крыніцай Багдановіча, той — прарочай: «Я хацеў бы спаткацца…»

Можна было б скласці цэлую паэтычную анталогію пра нашы рэкі. І прасачылася б у ёй вялікая дарога — ад «Ой, рэчанька, рэчанька, чаму ж ты не поўная?..» (бо «Янка коніка паіў, Маня воду чэрпала») да «Раўняюць хлопцы рэчку…» Ніла Гілевіча, «Рэкі маёй зямлі» Рыгора Барадуліна, «Рэкі Беларусі» Генадзя Бураўкіна, дзе пейзаж узвышаецца да філасофскага асэнсавання ўзаемаадносін чалавека і прыроды, выходзіць на высвятленне глабальных пытанняў грамадства. Складаны, дыялектычны рух жыцця і рух лірычнага перажывання нясуць тут выразную, трывала засведчаную адзнаку часу.

Паэтычны пейзаж, застаючыся па-ранейшаму шматфарбным і маляўнічым, усё больш набывае рысы духоўнай абжытасці, засяроджанасці. Нацюрмортнасць, эцюднасць саступае месца паглыбленаму роздуму. Прырода ў творах пейзажнай лірыкі становіцца асобаю зацікаўленаю — справамі людскімі, рухамі грамадскай свядомасці. У Пімена Панчанкі, напры-

клад, лес робіцца своеасаблівай меркай, эталонам чалавечых каштоўнасцей, лакмусавай паперкай, на якой праяўляюцца духоўныя якасці («Паэма майго лесу»). У прынцыпах стаўлення да прыроды паэту бачацца карані адносін грамадскіх:

Не люблю я слова «пакарыцель»,
Не люблю я слова «уладар»,
Вось зямля зялёная — бярыце
Для жыцця, і працы, і для мар.

Хто ўладарыць, той і ўдарыць раптам —
Па надзеі, па душы жывой.
Пакарэнне пахне трохі рабствам,
Карай, і рабункам, і крывёй.

Вось такая яна, суровая проза жыцця. Любоў да прыроды ўсё часцей замяняецца шлюбам па разліку. Яна жыве для нас, пакуль мы можам ад яе нешта ўзяць. А там — хоць трава не расці. І таму сёння ўжо нельга абмежавацца натхнёнымі дыфірамбамі прыродзе. За яе трэба змагацца.

У прыроды многа вачэй, многа вушэй, многа сэрцаў. А розум — адзін. Выпадкова гэта ці не — яго носьбітамі, яго жрацамі-ахоўнікамі аказаліся мы, людзі. Памылілася прырода ці не, даверыўшы нам гэты неацэнны дар?

Мы павінны даказаць: не, не памылілася!

Няхай гучыць, ніколі не змаўкае лясная песня над калыскаю нашай паэзіі.

*1973*

## НЕБА ТВАІХ ВАЧЭЙ
*Маналог з Ушаччыны*

Я прывык пачынаць раніцу пад тэлефонны званок. Хрыплаваты, таропкі голас — ці то з дакорам, ці то з лёгкай насмешкай: «Што, яшчэ спіш?.. А мне не спіцца. Паслухай радкі…»

Сёння званка не было. Бо ты не ведаеш, дзе я, і не здагадваешся. Я наўмысна нічога табе не сказаў. Ах, як усхваляваўся б ты (хоць яно і не лішняе для нашага брата), як ірвануўся б па гэтай дарозе!.. А ў цябе ж пільная, неадкладная праца: выдавецтва падспешвае штодня. Дык і сядзі сабе над самнамбулічнымі рамансамі Лоркі, узнімай іх (як гэта ты ёмка ўмееш) на крылы

беларускага слова, — а я вось тут: дзе галёкала тваё басаногае пасляваеннае дзяцінства, дзе ў сонечных крапінках апалага лісця з восеньскай раўнавагай гайдаецца Вечалле, дзе шукаў ты першыя словы для першых песень, дзе блукае неба тваіх вачэй…

Дзень добры, Ушаччына!

Сёння ты зазірнула ў акно майго часовага жытла хітраватым вокам сініцы: «Што, яшчэ спіш?..» (Ну і Рыгор! Ну і Барадулін!.. Няўжо даведаўся і падаслаў насмешніцу?) Дык жа не, браце мой, спаць і сапраўды няма калі.

Я прыехаў сюды, каб спаткацца з табою.

Радзіма — паэт, паэт — Радзіма. Сёння і яна і ты перада мною. Як адно. Спрадвечнае, непадзельнае. Я не знаходжу яму імя, але трывала адчуваю: яно ёсць. У гэтай ранішняй смузе, у гэтым сінічым «цінь-цінь», у гэтай бярозе пад акном матчынай хаты і ў гэтай матчынай — апошняй — хаце пад чорным каменным крылом. Яно — у дарозе, што вядзе да партызанскіх бароў, да парослай хмызам і асакой лугавіны, дзе ў цяжкі час ірванулася сіла і мужнасць, каб адолець кальцо блакады, і дзе ўзвысіўся сёння велічны помнік «Прарыў». Яно — у лясных валатоўках, у ціхай плыні Ушачы, у сакавітым ірдзенні азіміны ды і яшчэ ці мала ў чым, што можа адкрыцца толькі табе, толькі твайму сыноўняму сэрцу, каб потым — праз цябе — прыйсці да нас: здзівіць, усцешыць, засмуціць, акрыліць, абнадзеіць.

Тут усё для цябе самае-самае, як для іншых недзе над Беседдзю, ці ў Глінішчах, ці пад соснамі Нарачы.

Відаць, гэтая любоў, гэтая выключнасць («Мая Радзіма — гэта там, дзе праплываюць самыя прыгожыя аблокі») і ёсць паэзія ці, прынамсі, нараджае паэзію.

«Хочаш добрую параду атрымаць? — пытаўся Сяргей Ясенін у пачынаючага літаратара Эрліха.— Шукай радзіму. Знойдзеш — пан! Не знойдзеш — усё сабаку пад хвост пойдзе! Няма паэта без радзімы!»

Ты шчасліва адчуў гэта на самым пачатку паэтычнай дарогі. Пакуль многія з равеснікаў прабіваліся да сябе праз нетры рыфмаванай агульшчыны (так сказаць, падавай маштабы і меркі сусветныя!), ты ціха сказаў: «Кожны мае свае Ушачы». Гэтак жа ціха, як пераступіў некалі рэдакцыйны парог універсітэцкай шматтыражкі. Нас, першакурснікаў, паклікаў тады яе рэдактар — студэнт-журналіст Юзік Хаўратовіч, паклікаў, каб пазнаёміцца, так сказаць, з новым творчым папаўненнем і сабраць літаратурную старонку. Аддзяленне журналістыкі, само сабою, было наперадзе. У нас ужо вызначыліся «віціі», дэкламавалі, размашыста жэстыкулюючы.

Ты зайшоў апошні, калі паэтычная асамблея была ў зеніце. Спыніўся ля дзвярэй. У просценькай, здаецца, дамашняга крою шчыгульнай куртачцы. Нерашуча перамінаўся з нагі на нагу, пазіраючы на рэспектабельнага — пры гальштуку — першакурсніка, загартаванага ў літаратурных баях аднае мінскай школы.

— Праходзьце смялей, — запрасіў рэдактар. — Давайце знаёміцца.

— Алесь Чабор.

За гэтым подпісам і з'явіліся ў шматтыражцы два вершы.

Чуйна спіць ваколле.
Поўнач
Зямлю абняла.
Месяц лье з даёнкі поўнай
Малако святла, —

уразіла і ўрэзалася ў памяць (пра Ясеніна я тады толькі чуў, а чытаць — баронь божа: такога «ўшчэрбнага»).

Больш з Алеся Чабора нічога не ведаю, бо ў хуткім часе ён загаварыў па-барадулінску:

Як захліпнуўся ад радасці жаўранак,
Славячы сонца вясновага дня,
Як па куп'і на балотных выжарынах
Мякка хрумсціць пад нагою сушняк;
Як па-над ярам пад ветравым подыхам
Вольха сухая рыпіць і рыпіць,
Як адвячоркам над соннымі водамі
Кнігаўка ўсё не дапросіцца піць, —
Тры гады я не чуў…

І ты вяртаешся і вяртаешся ў сваю, «пакуль што раённую» сталіцу — натхнёна, летуценна: пачуць, пабачыць, надыхацца водарам першацвету і чарназёму.

Паэт пачынаецца з Радзімы.

Хай сёння ў тваіх вершах суседнічаюць, спаборнічаюць пейзаж лясной стараны і панарама шумлівай гарадской вуліцы, трапяткая мелодыя народнай песні і сучасны матыў, — ад іх, ад гэтых полюсаў, ідуць мерыдыяны і — насуперак усім законам перасякаюцца на экватары, які можна іменаваць адным словам — Ушацкі, словам, што з геаграфічнай назвы пературылася для нас у сімвал паэтычны, стала вымяральнікам, эталонам

маральных, этычных, сацыяльна-гістарычных якасцей той ці іншай з’явы, падзеі, жыццёвага факта.

Трэба дома бываць часцей,
Трэба дома бываць не госцем,
Каб душою не ачарсцвець,
Каб не страціць святое штосьці.

Мы палюбілі тваю зямлю, бо глядзім на яе тваімі вачыма. І мы знаходзім у тваім слове водбліскі свайго, блізкага, роднага. Усеагульнага.

Помніш адну нашу гаворку, — я знячэўку запытаўся:

—Які ў цябе самы любімы верш пра Ушаччыну?

— Трэба падумаць.

— Любімых не выбіраюць. Іх любяць.

— Ушаччына заўсёды цудоўная — восеньская, вясновая, зімовая, летняя…

І толькі тут я спахапіўся, адчуўшы недарэчнасць свайго пытання: ды ў цябе ж усё пра яе. І ўсё ад яе. Яна паўстае ў розных выявах, на розных скрыжаваннях гісторыі і жыцця народнага, у розных фарбах і настроях.

«Заінелая Ушаччына»: дамінуе графічны штрых — чорны па беламу:

…Алешнік?
А можа, аленяў сумёты
Прыспалі?
З’інелыя рогі дрыжаць.
…На яблынях галкі
азябла датлелі.
У чорных праталках
бяроз аралля.

І ўсё гэта выводзіць нас — санным следам па зімовай ушацкай вуліцы — на шырокія дарогі Радзімы:

Пад полазам белым,
з’інелай падковай
Галінкай азяблаю
крохне —
хрусь,
Як яблык, крамянае
і хрупаткое

Слова марознае:
«Беларусь».

Панарама са зрокавага аспекту пераводзіцца ў гукавы, і на фоне заснежанай маўклівасці раптам абуджаецца арганны рэзананс, як пад скляпеннямі вечнай готыкі. Выдатны заключны акцэнт.

«Лісток ушацкай восені»: усмешлівы паварот, здавалася б, выпадковага настрою. З кім не здаралася такое: ідзеш лясною сцяжынкаю, беражэшся расы. І раптам — кранутае знячэўку дрэўца так абдасць халадзёнкай — бы з добрай конаўкі! — што міжволі прысядзеш і забубніш нешта бурклівае. Было і з табою: «Ляшчыннік… расой, раскідзісты, апырскаў — злую…»

…Ды тут, як сябруку,
Лісток
цялячай мокрай пыскай
З даверам торкнуўся ў руку, —

і як усё перавярнуў ён, гэты дотык! Якую хвалю пяшчоты ўзняў у сэрцы — і да гэтага ліста, свавольнага вестуна восені, і да раўчука, што ўжо не заспаны (як толькі што здавалася), а «звініць рачулкай», і, наогул, да ўсёй гэтай роднай, блізкай зямлі. Цэлая ланцуговая рэакцыя ў пачуццях! Што падумалася, што ўспомнілася табе? Ці не тая, пасляваенная радасць, калі ў сенцах затупала капытцамі Лысоня-цялушка, прыведзеная мамай аж з суседняй вобласці, тое нецярпенне, калі ты «ніяк не мог малака дачакацца»… А можа, прыгадалася вось гэта: «На лугу-мурагу на зялёненькім», дзе па росах дзяўчына «да вады ішла да крынічнае», ды «заблудзілася, запазнілася»?..

Маленькі лісток з цялячай мокрай пыскай — што нашаптаў ён табе? Не будзем гадаць. Нам хопіць жартаўліва-сур'ёзнага прызнання, каб усё зразумець:

Так па-цялячаму
расчулены,
Што замычу, здаецца,
сам…

Дарэчы, «Лісток ушацкай восені» ці не самае грунтоўнае апраўданне такой — далёка не другараднай у тваёй творчасці — формы, як паэтычная замалёўка. Прыгадаем: «Цалінная пша-

ніца», «Зазімак», «А ноччу май…», «Касцёр, што грэе азяблы вечар…», «Хаця ў азёр…»

Кажуць, маштабы звужаны, гарызонты не разгорнуты, матэрыял выяўлены эскізна. Ды і думка, як бы тут прамовіць, не канцэптуальна-праблематычная.

Што ж — пагадзіцца з гэтым? Значыць, адмовіць паэту ў праве на эцюд, — ёсць жа такая форма адлюстравання рэчаіснасці ў мастакоў-жывапісцаў — не падсобная, не падрыхтоўчая, а зусім самастойная, ёсць яна і ў кампазітараў, форма, якая не прэтэндуе на паліфанічнасць, а фіксуе нейкі адзін душэўны зрух, момант, штрых, настрой, жэст. Іх унутраная сутнасць (зразумела, калі яна ёсць, калі такі эцюд не пустая бразготка-забаўка) па сіле мастацкага ўздзеяння ні ў якім разе не саступае іншым формам выяўлення думкі і пачуцця.

Касцёр,
    што грэе азяблы вечар, —
Нібы касцёл
        сярэднявечча,
Які
  шпіляў чырвоныя языкі
Узносіць у вышыню.
Яліны
    хіляць галіны —
Моляцца богу агню.

Гэты кадр, выхаплены з вячэрняга змроку, падсвечваецца для нас не толькі полымем вогнішча, але і глыбіннай чалавечай напоўненасцю, прысутнасцю, як сказалі б раней, жывой душы: яна недзе тут — у гэтых ялінах, у іх язычніцкім пакланенні агню.

Паэтычная замалёўка з натуры — яна можа быць пейзажная, псіхалагічная, можа быць сінтэтычная:

Толькі што памытая падлога
Пачынае пахнуць борам густа.
Зноў, здаецца, слухаеш падоўгу,
Як звіняць галін сасновых гуслі.
Млосна ад малін у расцяробах.
Дзяцел грукне ў цішыні чмялінай.
Выцірайце ногі.
Асцярожна!
Вы ступаеце па вершалінах!..

Простая перадача натуры тут ужо ўскладняецца асацыятыўным пераходам у іншы сэнсавы рад.

Твор грунтуецца на маляванні бору. Мы як бы прысутнічаем пры гэтым працэсе, забываючыся, што ён — усяго толькі прыём, пакліканы ўяўленнем. Асацыятыўны мосцік «вымытая падлога — бор» вядзе яшчэ далей — да закліку-дэкларацыі, выяўленага, праўда, у іншасказальным плане: «Выцірайце ногі. Асцярожна! Вы ступаеце па вершалінах!..» Гэта ўжо сінтэз, хаця па выяўленчых сродках твор застаецца замалёўкай з натуры.

А твой «Матылёк», які выклікаў столькі спрэчных заўваг і крытычных рэмарак? Ён таксама здаецца мне творам гэтага ж плану.

Лілею
млявы
плёс
люляе,
З-пад злежаных
аблок
здалёк
Ляціць віхлясты і бялявы,
Пялёстак лёгкі —
матылёк.

Не стану падлічваць, колькі ў вершы гукаў «л» пастаўлена на службу алітэрацыі (кажуць, аж 58!). Не падумаў бы. Неяк не тое што не заўважаў — хутчэй за ўсё не зважаў, не ўзнікала патрэбы ў падобнай бухгалтэрыі. Бо ў вершы свяцілася іншае: «Ён кліча у блакіт лілею», кліча матылёк — з гэтага «бліскучага ад лускі», самлелага глеістага плёсу. Вось дзе «праразаецца» сэнс першага, пастаўленага лесвічкай — нават у графічным малюнку бачыцца набяганне хваль! — радка: «Лілею млявы плёс люляе», — колькі тут самаздаволенага спакою, інерцыі: прамаўляеш — і язык быццам завязваецца на вузел… А далей: «Ляціць віхлясты і бялявы, пялёстак лёгкі», — тыя ж… «вязкія» «л», а як лёгка яны ўзлятаюць! Ёсць розніца ў малюнках? Ёсць — ды яшчэ якая!

Малайцы ўсё ж гэтыя «л»! Прасочым, аднак, за развіццём верша. Не шукайма — не знойдзем тут аўтарскіх тлумачэнняў, нейкіх маральных шпаргалак, ёсць толькі працяг малюнка і яго завяршэнне:

Засумавалы,
белы,
белы,
Ляціць удалеч матылёк… —

і вось вам яшчэ раз расказана гэта старая-старая і вечна юная казка пра яго і яе, гэта шчымлівая, светла-сумная мара. Тая самая, што натхняла вялікага летуценніка Андэрсена, што нарадзіла ў бунтоўным, гнеўна-саркастычным сэрцы Гейнэ словы пяшчотныя, мяккія, задумліва-ціхія (пераклад Пляшчэева):

Речная лилея, головку
Поднявши, на небо глядит;
А месяц влюбленный лучами
Уныло ее серебрит…
И вот она снова поникла
Стыдливо к лазурным водам;
Но месяц — все бледный и томный,
Как призрак — сияет и там…

Паэтычны эцюд, замалёўка з натуры, дзе прарастае чалавечы лёс, — яны сугучныя па настрою сцяжынкам, што вядуць праз жыты, лугавіны, пералескі — самі па сабе, незалежна ад брукаваных гасцінцаў і бальшакоў.

Але паміж усім гэтым, не вельмі хацелася б, каб ты падумаў, што так бездакорна выглядае кожная твая мініяцюра-замалёўка. Трапляюцца між іх і такія, што не сцэментаваны адзінствам інтанацыі, каларыту, адзінствам погляду на факт, з'яву (аб шырокіх філасофскіх абагульненнях я не кажу, бо форма замалёўкі гэтага не вымагае):

Ляцеў вятрыска ўправа,
ды
Налева раптам збочыў, дрогнуў.
Наўсцяж павіслі правады
Тугой падвеснаю дарогай.

Дэталі стаяць наперакос, супярэчаць адна адной. Сапраўды, з якой гэта прычыны «ляцеў вятрыска ўправа, ды налева раптам збочыў»? А чаму ўсё не наадварот было? Матывіроўка павароту ўправа тым, што «наўсцяж павіслі правады», не сур'ёзная, бо аднолькава прыдатна для абедзвюх сітуацый. Першая, па ўсім бачна, перацягнула на свой бок спакуслівай рыфмай (управа,

ды — правады). Гэтым малюнкам падабенства праваду падвеснай дарозе і заканчваецца верш:

Ад ваганетачак-дажджын
Дарога звісне,
увагнецца.
Па сонцу зыркаму дрыжыць
У кожнай шустрай ваганетцы.

Гогаль гаварыў пра слова Пушкіна: у ім «бездна пространства». А тут — дзе прастора, дзе аснова — думка, пачуццё, эмоцыя, якая б арганізоўвала твор, была яго стрыжнем?..

Аднак мы далёка адхіліліся ўбок. Вернемся на Ушаччыну. Мы бачылі яе вясной («Як захліпнуўся ад радасці жаўранак…»), зімой («Заінелая Ушаччына»), восенню («Лісток ушацкай восені»), хто пажадае — можа завітаць летам: сцежак і дарог туды ў тваіх кніжках шмат.

Радзіма люляе ў векашумнай калысцы палёў і лясоў нашы думы і нашы мары.

Не хацелася б ператварацца ў самадзейна-саманадзейнага футуролага, ды ўсё ж на хвілінку прыйдзецца, каб (у соты, у тысячны раз) з надзеяй падумаць, што сонца паэзіі не згасне ніколі. На вяршынях тэхнічнай цывілізацыі чалавек будзе прагнуць яе, як ляснога водару, будзе імкнуцца да яе, як да птушынага голасу, будзе прыпадаць да яе, як да чыстай крыніцы. Гэтая цяга была спрадвечнай. Сёння — у першаснай сваёй, натуральнай іпастасі — яна ўжо ўсвядомлена, калі не ўсімі, дык большасцю. Чарга — за другой часткай гэтай роўнасці, за паэзіяй… Сёння. І тым больш — заўтра. Бо «зямля — калыска розуму, але нельга вечна жыць у калысцы» (К. Э. Цыялкоўскі).

І калі мы шляхамі арлінымі
Паляцім да планет насцярожаных, —
Ты, прапахлая кменам і глінаю,
Будзеш зоркаю наддарожнаю.

Ёсць у цябе творы, дзе адрас гэтай зямлі даецца дакладны: Ушаччына. Але і там, дзе назвы няма, мы пазнаём яе — блакітна-азёрную, партызанскую, шчырую ў працы і дасціпную ў слове:

Засвіргатаў перацёртаю воссю,
На ўзмежку ўстрывожыў дакучлівых вос.

Уехаў з налітага лета у восень
На поўным разгоне
таўстун-снапавоз.

Характэрна — і гэта вельмі важна, — што фарбы адвечнай прыгажосці краю ты знаходзіш не ў застылых, адстаялых пластах, а ў малюнку-дзеі, у малюнку-працэсе — гераічным, працоўным, бытавым.

Няма радзімы абстрактнай. Я пазнаю яе ў вобліку тваіх родных Ушач, што адным канцом вуліцы ўпіраюцца ў брукаваны райцэнтраўскі пляц, а другім — хаваюцца ў даспелым калыханні поля. Ад іх вее тым «салодкім дымам» бацькаўшчыны, які ўсе мы «на смак і на вобмацак» ведаем:

Калі разыходзяцца
лета з восенню палюбоўна,
А бульбянішча на зіму
яшчэ не пераворана,
Зграбаюць у кучы,
паляць бульбоўнік.
Іскры лятуць і блякнуць
патухлымі зорамі.

Сёння за ўшацкімі ваколіцамі я нечакана напаткаў тваіх Адама і Еву. Хаця чаму — тваіх? Відаць, ужо — і маіх.

Яны ішлі полем, спакойна, няспешкі, неўпрыкмет адарваўшыся ад гурту. Недзе за імі дагарала ў восеньскай смузе вогнішча. І неслі яны нешта сваё, адвечнае, незразумелае для старонняга вока. Гэта загадкавасць, гэта ціхая таямніца, мабыць, нараджае нязлосную выдумку ці паблажлівую ўсмешку. Я не адчуў такога. Я толькі добра падумаў ім услед. Аб чым? Цяжка сказаць адным словам. Пэўна, аб тым, аб чым думаў і ты, калі пісаў на Далёкім Усходзе «Адама і Еву», — аб Радзіме, аб неўміручым дрэве жыцця, аб Ушаччыне, дзе капаюць бульбу…

І ўсё было так:

Дым спачатку рвецца ўгару,
ды перадумвае неўзабаве, —
Мабыць, лагчынай
прайсці захацелася…
…Лятуць журавы над Ушачай
з курлыканнем сумным,

Ляціць наўздагон ім
                    ціхае:
                        «Пуцём-дарожкай!»

Абстрактныя велічыні вечнасці і дабра, радасці і трывогі паўстаюць у канкрэтных адчуваннях і фарбах. Няма схематычных шлагбаумаў — ёсць прастор, шырыня дыхання, перспектыва.

Я прыгадаў Адама і Еву — герояў твайго далёкаўсходняга верша — і тут жа падумаў: як усё кандэнсуецца, як скрыжоўваецца ў сэрцы паэта. Ушаччына — Далёкі Усход. Ушаччына — нагор'і Таджыкістана, Ушаччына — леснічоўка Вэлдзіс у Латвіі. Ушаччына — прыкаспійскае пагранічча…

Радзіма вядзе да людзей. Каб змог ты паглядзець на бацькоўскі край з новых вышынь і адлегласцей. Гэта праверка любові тваёй. Яна ведае — ты вернешся. Яна паглядзіць табе ў вочы і ціха спытае: «Ну, што?..» Ты раскажы ёй усё-ўсё.

Радзіма вядзе да людзей.

Першая твая далёкая вандроўка звязана з першым цалінным ураджаем. «Маладзік над стэпам» стаў шчаслівым маладзіком над пачаткам твайго паэтычнага шляху. Адразу — салідныя публікацыі ў «Полымі», слова падтрымкі і пахвалы Анатоля Вялюгіна, сярэбраны медаль VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў за нізку «На зямлі цаліннай».

Калі глядзець цяпер, здалёку, то так і карціць задаць пытанне: ці раскрыў ты цаліну — з усім яе наватарствам, смеласцю, з усімі яе складанасцямі і цяжкасцямі?

Я прыехаў туды пасля цябе — на наступны год. Міжволі шукаў сляды тваіх герояў — адчуць, праверыць, параўнаць, — а траплялася на вока і на душу, нібы знарок, не толькі вясёлая рамантыка. Часцей сустракаліся людзі нялёгкага лёсу, што прыехалі сюды не толькі пакарыць цаліну, але, хутчэй за ўсё, з тайнай надзеяй пакарыць, змагчы сваё мінулае. Я смутна адчуваў, якая гэта складаная штука — цаліна, але ні радка не напісаў: не было сілы, вопыту, а можа, і рашучасці «адолець», прабіцца праз тое цаліннае «надвор'е», што стварыў ты ў нашай маладой беларускай паэзіі. Той-сёй спрабаваў пісаць у тым жа ключы — атрымалася цьмянае паўтарэнне.

Ты адкрыў не столькі цаліну, колькі студэнтаў на цаліне, — не ў аўдыторыі, не ў чыталцы, а іменна тут — у гарачай працоўнай справе. Мы вярталіся да яе і раней — на канікулах. Але там

былі паасобку — кожны ў роднай вёсцы. Тут жа студэнцкая сям'я апынулася ўся разам, з усімі сваімі атрыбутамі і звычкамі, апынулася ў бяскрайніх прасторах стэпу, дзе ад селішча да селішча па дваццаць-трыццаць кіламетраў, дзе наўкола цябе толькі пшаніца і неба. Дух студэнцтва шчасліва супаў з духам цаліннага энтузіязму першых год. І ты гэта яскрава засведчыў сваёй паэтычнай нізкай.

Успомнім «Вечар над Таболам», «Насціну кухню», «Танцы ў стэпе», «Імяніны» — тут усё студэнцкае: характары, настроі, твары. Насця? Мы бачылі яе штовечар у таропкіх перабежках па доўгім інтэрнацкім калідоры — ад пакоя да кухні — з электраплiткай і каструлькай у руках: яна заўжды, амаль з нічога, магла адштукарыць страву, ад якой «ідуць упрысядкі насы!» Імяніны? Ах, і багаты ж быў на іх студэнцкі інтэрнат! І калі ты пісаў: «А сёння ў нас — на лад цалінны — адразу восем імянін», — як лёгка было зрабіць маленькую карэкціроўку — «на лад студэнцкі». І ўспаміны, і мроі былі чыста інтэрнацкія — пра дом, пра маці, пра добрых суседзяў…

І зноўку зерне з-пад лапаты
Уверх ляціць ва ўсе бакі
І падае. (А так шпакі
На луг садзяцца там, за хатай…)

Яны — тыя шпакі — шчымлівай памяццю Ушаччыны будуць кружыць над усімі тваімі дарогамі.

Шырыня і глыбіня пагляду на свет складаецца ў цябе пад знакам Радзімы. «Лінія перамены дат», лінія перамены адлегласцей адзначаны на тваёй паэтычнай карце адным, пэўным, азімутам:

Любоў да зямлі бацькоў
я расстаннем выверыў,
Яна ў грудзі планеты
стукае магмай з вякоў.

Сустрэчы, знаёмствы, расстанні даюць багаты эмацыянальны матэрыял, што кладзецца ў радкі тваёй песні дарог вольна, натуральна, шматфарбна. Аднак багацце жывапісу нічога агульнага не мае з выпадковым, штучным набяганнем дэталяў. За гэтымі экспрэсіўнымі, здавалася б, «раскідзістымі» штрыхамі стаіць думка строгая, дакладная:

А твая парадзела чупрына,
Бор беларускі зеленакрылы.
Хоць да тайгі цябе сватай
у прымы,
Каб лысіну трохі прыкрыла…

Малюнак тайгі вядзе наша ўяўленне не толькі ў прасторы, але і ў часе. Побач з кантактам «тайга — беларускі бор» «завязваецца» другая, гістарычная, распрацоўка. І зноў жа: успышка ў адну страфу выхоплівае з лёхаў часу, высвятляе цэлую эпоху:

Хоць у любым
з расійскіх паветаў
Дзічыны было да адвалу,
Ліцэнзіі на адстрэл паэтаў
Установа адна выдавала…

Далейшая хада гісторыі разгортваецца ў малюнак-метафару: «антрацыт бунтоўнага духу», — ён адкладваўся глыбокімі пластамі ў той «новы перыяд каменнавугольны», калі ў Сібіры «падалі людзі — дрэвы магутныя». Метафара, паступова ўзбуйняючыся і набліжаючыся па часе да нашых дзён, змыкае ў сваёй сферы і дарогі грамадства, і лёс лірычнага героя. Яна вызначае кампазіцыю. Мазаічнасць набывае адзінства, перспектыву. Малюнак ствараецца аб'ёмны, з глыбокім абагульненнем.

«Антрацыт бунтоўнага духу» — ёмкай, дакладнай формулай ты засведчыў тую сілу, што прыводзіла і прыводзіць у рух «лакаматывы гісторыі» — рэвалюцыі. І ты парыўна імкнешся, ты спяшаешся наведаць адну «далёкую шахту», дзе «быў здабыты першы пласт антрацыту глыбінны, што сёння круціць эпохі турбіны».

Імя гэтай шахты
Гайдаюць зялёныя шаты.
Яно
злілося ў адно
З шоргатам снежным,
шчымлівым сумам.
З таежным
шумам,
Як паветра марознае,
выдыхаю:
— Шушанскае!..

У гэтай многагалосай метафары шмат каналаў сувязі: з гісторыяй, з днём сённяшнім, з будучым. Карціна ствараецца аб’ёмная, з глыбокаю перспектывай. Як бы адкрываецца прастор шырокім, размашыстым — на ўвесь радок — словам: Шушанскае! Яно не выпадкова вырываецца з абдымкаў рыфмы. Яно адольвае сілы лакальнага прыцягнення, набывае сэнс усеагульны. Яно вырываецца з грудзей як выдых свабоды.

У такім вось асацыятыўным супастаўленні дэталяў, малюнкаў, з якога выкрасаецца, прарастае думка, ёсць, мабыць, перспектыва руху сучаснага паэтычнага мыслення.

Жыццядзейснасць яе ты засведчыў не раз.

Мне зноў і зноў прыгадваецца верш з Нафтабудаўскага цыкла — «Інтэгралы на цэгле» з яго арганічным сплавам канкрэтнага факта і паэтычнага ўзлёту, з яго мастацкай нязмушанасцю, рэальнай жыццёвасцю.

Лірыка-рэпартажныя цыклы з Полацкага нафтабуда, з Бярозаўскай ДРЭС вядуць нас да першых тваіх спроб стварэння партрэта сучасніка — не літаратурнага героя, а жывога, рэальнага чалавека. Тут сустракаемся мы з геадэзістам Міхасём Бацэкіным, багермайстрам Юрыем Савілавым, зваршчыкам Міколам Кугачом. У характары кожнага ты імкнешся адшукаць штосьці характэрнае, адметнае. Псіхалагічнай напоўненасцю, багаццем натуры вызначаецца, напрыклад, партрэт Міхася Бацэкіна. Ты змог адразу ў некалькіх ракурсах (працоўным, гумарыстычна-бытавым, грамадзянскім) высветліць гаму яго пачуццяў, а праз іх — шырокую панараму жыцця.

Аднак глыбокае пранікненне ў характар падчас падмяняецца ў цябе выцягваннем на свет штрыхоў выпадковых, далёка не вызначальных. Так, прараб вышыннікаў Уладзімір Нікішын толькі і знайшоўся ў адным з вершаў сказаць, што яны, будаўнікі, «павінны верх абмыць за дождж раней…» Нікольki не выратоўвае тут справу і перастраховачная «дазіроўка» — «канечне, па маленькай, па закону». Не ў «маленькай» сутнасць, а зусім у іншым. Гумарыстычная дэталь гэтая магла б, зразумела, несці пэўную мастацкую службу, але толькі грунтуючыся на больш важкіх асновах. Сама ж па сабе, у сваёй дробязнай адзіноце, яна не вартая пяра мастака.

Гэта было напачатку. І першыя ўдачы, і першыя недаробкі сталіся для цябе добраю школай авалодання сакрэтамі партрэтнага майстэрства.

Прыгадваючы адну палымянскую публікацыю («Яраслаў Васілевіч», «Андрэю Вазнясенскаму»), задумваюся: у каго ты

браў урокі? Ці не ў таго ж Яраслава Васілевіча — паэта Смелякова, што стварыў у апошнія гады свайго творчага жыцця цэлую галерэю літаратурных партрэтаў? Перачытваю. Ёсць падабенства задумы. А выкананне, прынцып партрэтнага жывапісу словам? У Смелякова фарбы кладуцца мякка, тут усё зроблена ў добрым класічным стылі — цені, адценні, святлацені… У цябе ж — пануе экспрэсія. На першы погляд, ты робіш быццам бы хаатычныя ўдары пэндзлем. Але недзе, у нейкім фокусе, гэтыя маляўнічыя штрыхі пачынаюць выяўляць абрыс, ствараючы партрэт. Тут ёсць нешта ад мазаічнай тэхнікі, а найбольш, відаць, ад жывапісу Урубеля (успомнім яго «Дэмана»: тыя ж шырокія раздзельныя мазкі, звонкае шматгалоссе фарбаў, яркая дэкаратыўнасць — і разам з тым глыбокі ўнутраны змест вобраза). Як для жывапісца важны не толькі (і не столькі) колер, але і яго «гучанне», каларыт, так для цябе важна слова не толькі ў намінатыўнай функцыі, але і ў яго семантычным значэнні. Каларыт слова, яго карнявы мікрасвет — гэта твой «жывапісны матэрыял». І ты па-майстэрску з ім упраўляешся. Калі некаторыя з ранейшых тваіх літаратурных пасланняў не выходзілі за рамкі звычайных сяброўскіх экспромтаў (зразумела, і яны не пазбаўлены права на жыццё), то ўжо тут мы маем справу з грунтоўным псіхалагізмам партрэта, хоць па-ранейшаму даносіцца ён не дэкларацыйна, а вось так:

Віцебскія
 йдуць насмеляка,
Вочы тояць
 смутак васільковы.
Цвіль і кволь
 баіцца смаляка —
Смеляковы ўсе
 ды Смаляковы!

Праз падземныя, каранёвыя плыні лексікі (насмеляка — васільковы — смаляка — Смеляковы) вымалёўваецца, выяўляецца — без назойлівых рэкамендацый і анкетных тырад — багацце натуры, круты і пяшчотны характар аднаго са слаўных «віцебскіх мальцаў». Сапраўды, ідзе глыбінная распрацоўка партрэта, а калі хочаце, дык і з належнай пашпартызацыяй: Яраслаў Васілевіч Смелякоў («насмеляка — васільковы», а далей будзе: «…Ярыла рэха з яру слаў, …рос патомны княжыч Яраслаў»). Вось прамовіў — і спалохаўся:

зноў анамалія, якая крытыкамі заўсёды ў штыкі бярэцца (Ярыла — яру — Яраслаў). Фармальнае штукарства, кажаце? А што, калі напластаванне гэтае ствараецца самою сітуацыяй, характарам — для самараскрыцця? Як узнік і вось гэты насычаны гукамі малюнак — перамаўленнямі слоў (Вечалле — вечнасцю — прывечанае), вясельнымі перазовамі (як дзве сям'і, што сталі блізкімі, пасваталіся) рыфмаў (Вечалле — прасвечвала):

Спадчыннае возера маё,
Вечнасцю прывечанае
Вечалле.
Праменем ляшчыны
Вудаўё
З бацькавай рукі
Цябе прасвечвала.

Радзіма, спрадвечная захавальніца агню, не дае патухнуць нашай памяці.

Мы помнім усё, што было з ёй, з яе народам, з намі.

Твае вершы вядуць да Полацкай Сафійкі і да «падстрэшша рук Скарынавых», адкуль крыляла наша слова, да тых ільноў, што бяліла Радзіма «на світку Каліноўскаму», і да пявучага купалаўскага дрэва…

І ёсць яшчэ адна вяха, да якой крывава і балюча прырасла твая памяць, — вайна і дзяцінства «палаты мінёраў».

Яна забрала ў цябе бацьку, яна прынесла цярплівае, пакутнае чаканне:

Хацелася пачуць: «Сынок…»
І крыкнуць радаснае: «Тата!»
Бацькоўскім быў мне кожны крок…
Усё ішлі, ішлі салдаты…
Каторы раз сыходзіў снег…
Дамоў вярнуліся суседзі.
Я кожнаму насустрач бег
І чуў кароткае: «Прыедзе…»

Табе не верылася ў самае страшнае, як не верылася і яшчэ аднаму чалавеку: «Тата, што на цябе загадвае маці, тая купалка яшчэ й цяпер па раніцах… расцвітае…»

Адно чаканне абарвалася, другое, дзіцячае, прарасло непазбежнасцю дарослай развагі: «Сон яго сосны вартуюць на партызанскай Ушаччыне…»

Ён не прыйдзе. А табе наканавана — ісці і ісці тымі сцежкамі, дзе «ўспаміны — неўзарваныя міны». Ісці праз «палату мінёраў», дзе доктар райбальніцы загойваў раны хлапчукам, тым, што мелі небяспечную цікаўнасць развінціць грымотныя «цацкі» вайны.

Ісці праз дзяцінства з «нямецкаю трафейнаю трубой», што пакінуў табе добры дзядзька-салдат са словамі: «Ты перамог — трымай, герой, трафеі, трубі гучней, а Гітлеру — труба».

Ісці праз блакаду. «Блакаду цярпення», «Блакаду маўчання», «Блакаду сэрца». Праз тры кругі народнага гераізму і народнай трагедыі, намаляваных табою ў паэме «Блакада». Ісці праз суровыя выпрабаванні мінулага, каб несці кліч да будучыні:

За матуль,
што жыццю
не рады,
За калек,
За ўдоў,
За сірот
Праклінаю цябе,
Блакада!

Гэта гучыць твой голас, голас пакалення — з нашых дзён. А запаў ён у сэрца тваё тады, калі сціскала партызанскую Ушаччыну кальцо фашысцкай блакады. Ты бачыў, як «плачуць па дзецях нямецкія кулямёты буйнакалібернымі слязамі», чуў, як шэпчуць вусны параненых: «Таварышы! Просім апошнюю кулю…»

Ты бачыў, ты чуў. Ты сведка гісторыі. І ты не можаш не расказаць пра ўсё — усім жывым. Каб не забываліся. Каб берaглі мір.

Калісьці, у адной з першых сваіх паэм, ты прыгадаў:

Мы з маці
усёй сям’ёй
Рэзалі дровы зімою.
Два крокі
я йшоў
за пілой,
Тры крокі —
назад
з пілою.

Маці… Найвялікшая пакутніца вайны. Маці… З імем гэтым — светлым і дарагім — лучыцца ў нашых сэрцах Радзіма.

…*Я* стаю над гэтым ціхім грудком пад звечарэлым калыханнем хвой. «Акуліна Андрэеўна Барадуліна…»

Кажуць, вялікі педагог Сухамлінскі перш за ўсё пытаўся ў вучняў-навічкоў пра дзень нараджэння маці.

Многія з нашага пакалення не ведаюць гэтага дня. Памяць непісьменных мацярок не захавала дат, час развеяў царкоўныя запісы пачатку стагоддзя. Мы вылічваем год нараджэння, ідучы ад ускосных дат: калі выходзіла замуж — у семнаццаць ці ў дваццаць (гэта помніцца ім), калі з'явіўся першынец (гэта засведчана нашымі пашпартамі).

Нам наканавана ведаць другі дзень. Здаецца, з усіх сяброўаднагодкаў ты першы спазнаў яго…

…Над Ушачамі ціха апускалася ноч. Я праходжу — і раз, і другі — па тваёй вуліцы. Я хачу ўбачыць, ці засвецяцца вокны матчынай хаты. Не засвяціліся…

Ля веснічак пахіліўся бацькаў вяз, той, што кранаў цябе «галінамі за плечы». Побач — бяроза…

«Бяроза з лістам гаварыла…»

Без спросу заходзіла
Восень у сені.
Я помню голас
Песні асенняй:
Бяроза з лістам
Усю восень гаварыла:
— А мой лісточак,
А мой зялёненькі,
Ты ж мяне пакідаеш…
— Нябось, бяроза,
Нябось, белая,
Я к табе вясной буду,
Я табою шумець буду…

Магілы — у зямлі, а не ў сэрцах.

У водсвету штодзённых дум і спадзяванняў з табою мама. Як і тады, у блакадным ліхалецці («…Нас многа малых згубілася. Кожны крычаў штосьці. Лес паўтараў, нібы дражнячы, кароткае слова: — Мама!.. Крычалі многа, ды толку мала. Тады я гукнуў: — Ку-лі-на! І маці мне адгукнулася…»).

Яна заўсёды прыходзіць, калі цяжка, — тваё сумленне і бясконцы напамінак: як трэба жыць.

…Недзе пасля поўначы над Ушачамі праяснілася. Высыпалі зоры. Я развітваўся з табою і думаў: як усё гэта трэба любіць і як гэта трэба — помніць: коўш Мядзведзіцы, што чэрпае ваду з Вечалля, жытнёвую рунь, што набіраецца сілы перад снежнай зімой, тугу журавоў, што сабраліся ў далёкі вырай, і восеньскае летуценне верасовых палян.

Помніць голас зямлі. Помніць, што і да нас былі многія і многае-многае сказалі. Помніць і спадзявацца.

*1974*

## ВЫ ШУМІЦЕ, БЯРОЗЫ…
*Песня, якая заўсёды з табой*

Радзіма, народ, час…

Трыадзінства гэтае стаіць ля калыскі паэта, як і наогул кожнага мастака, бласлаўляючы яго нараджэнне.

Трыадзінства гэтае вядзе яго пакутнымі сцежкамі творцы, не спрамляючы шляхоў, а падказваючы і вызначаючы іх.

Трыадзінства гэтае хросным знакам Тройцы аберагае ад нячыстых намераў, ад творча-згубных д’ябальскіх спакусаў.

Прамаўляючы гэтыя словы, думаю зараз пра Ніла Гілевіча — як асобу, як паэтычную з’яву наогул і як аўтара верша «Вы шуміце, бярозы…» у прыватнасці, верша, загадкавага сваёй простасцю і крылатай наканаванасцю…

Вы шуміце, шуміце
Нада мною, бярозы,
Калышыце, люляйце
Свой напеў векавы.
А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога
На духмяным пракосе
Недаспелай травы..

От жа, здаецца, звычайныя словы, без асаблівых «прызначаных» дзеля жанру ўпрыгожванняў. Але чаму ж такое неадольнае і разам з тым несуцішна-шчымлівае пачуццё стаіць на парозе тваёй душы, выпраменьваецца гэтымі вольнымі радкамі? Му-

зычная версія, прапанаваная кампазітарам Эдуардам Ханком і выканаўцам Анатолем Ярмоленкам? Несумненна, ёсць і яе доля — і не малая. Толькі не забывайма: і яна ж магла нарадзіцца не інакш як на паэтычнай аснове. Музыка ўгадала паэзію. Музы́ка сэрцам прачытаў паэта…

Дык у чым жа падманлівасць гэтай «прастаты»? Гэтаксама, як у Гётэ, згадваючы выдатны лермантаўскі пераклад, мовім па-беларуску:

Горныя вяршыні
Ў цемры спяць начной;
Поўняцца даліны
Свежаю імглой;
Не пыліць дарога,
Не дрыжаць лісты…
Што ж, чакаць не доўга, —
Адпачнеш і ты…

Зазначым, аднак, адразу, каб не ўзнікалі няпрошаныя «прымерванні»: гаворка ідзе не аб настраёвым ладзе верша, а аб спосабе паэтычнага выяўлення пачуцця. У Гётэ было сваё, філасофска-мінорнае, імгненне, засведчанае вершам, у Ніла Гілевіча (хай даруюць музыкі маё магчымае дылетанцтва) — мажор гучыць у мінорнай танальнасці…

А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога,
Галавой на пагорак,
На высокі курган.
А стамлёныя рукі
Вольна ўшыркі раскіну,
А нагамі ў даліну —
Хай накрые туман…

Радзіма… Кожны пагорак і кожная лагчына, кожны лісток і кожная пясчынка — ад нараджэння твайго праз усё жыццё — гэта і ёсць ты, калі дадзена табе быць яе сынам, тым больш — паэтам. Хто выбірае цябе? Ніхто не адкажа. Як не адкажаш і ты сам… Але — ёсць яно, трыадзінства…

Хто бываў на радзіме Ніла Гілевіча, на Лагойшчыне, той не можа не пагадзіцца: сапраўды — тут «беларуская Швейцарыя». Няхай не прагучыць гэта банальна з-за неаднаразовых паўтарэнняў. Яно сапраўды так: тут і горы — няхай сабе і не

па-альпійску выносістыя, а ўсяго толькі пясчана-жвірыстыя, прынесеныя і перамолатыя з гранітных скалаў скандынаўскімі ледавікамі; тут, натуральна, і даліны — з вірлівымі стужкамі крынічных рэчак, з блакітнымі азярынамі. І дарогі такія ж: то ўзносяцца да неба, то вяртаюцца на зямлю…

Хто калі-небудзь ехаў ці ішоў з Нілам Гілевічам па адной з іх, што вядзе з роднай ягонай Слабады да Лагойска (успомнім старажытнае — Лагожаск, у тон нашай ландшафтнай панараме), таму паэт абавязкова — з папярэдняй вясёлай інтрыгай — не мог не паказаць між бярозавых прысадаў прыдарожнае дрэва, дзе ён упершыню пабачыў свет, загукаў на ўвесь шырокі прастор гэтых пакатых узгор'яў і зялёных далін… Такая доля ў вясковай жанчыны: насіць пад сэрцам дзіця і да апошняга несці пільныя гаспадарчыя клопаты і ў хаце, і ля хаты, і ў полі… Не давезлі маці да лагойскіх акушэрак. І нарадзіўся Ніл Гілевіч зусім па-ясенінску: «Охнула кормилица, тут и породила… Родился я с песнями в травном одеяле…»

А во цяпер няцяжка ўжо і мець здагадку, адкуль гэтая крэўнасць бяроз…

Вы шуміце, шуміце
Нада мною, бярозы,
Асыпайце, мілуйце
Ціхай ласкай зямлю.
А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога:
Я здарожыўся трохі.
Я хвіліну пасплю…

Гэта і ёсць — Радзіма, зямля, дзе ты нарадзіўся. Зямля, што з матчыным бласлаўленнем сабрала цябе ў дарогу. Зямля, куды будзеш ты вяртацца і вяртацца, бо тут, кажучы словамі Сяргея Законнікава, жыве твая бяроза — душа і песня: тваёй Радзімы, твайго народа. Твая душа…

І дарога тая, твая дарога, — не толькі шлях у прасторы, гэта і шлях у часе. «Калышыце, люляйце свой напеў векавы…» А «напеў векавы» — гэта і «Ой, бярозы ды сосны, партызанскія сёстры…» (Адам Русак); і «А што як зямлю нашу выпусцяць з рук сасна і бяроза?..» (Аркадзь Куляшоў)… І выяўляецца, што калыханка гэтая — хутчэй не дзеля сну, а дзеля абуджэння. І не проста стаміўся чалавек, а здарожыўся, — значыць, быў

у нялёгкай дарозе («А хто там ідзе?..» — Янка Купала; «Вы за кім у пагоню спяшыце? Дзе шляхі вашы йдуць і куды?..» — Максім Багдановіч) і прыпаў да роднай зямлі, каб (успомнім Антэя!) набрацца моцы, абнавіць сілы. І таму гэты — як і ў эпасе Старажытнай Грэцыі, як і ў волатаўскіх славянскіх былінах, — неўтаймоўны размах: ад высокага кургана ва ўзгалоўі да шырокай даліны ў нагах… Угрунтаванасць паэтычнага малюнка карэніцца ў вобразах народных легенд і паданняў, у свеце якіх Ніл Гілевіч — чалавек свой і глыбока дасведчаны… (Зважаючы на гэта, не стаў бы дакучаць маім стыхійна-дзіцячым «маўленнем»: «Калыхайце, люляйце» замест «калышыце, люляйце…», але ж… так адольвае гэтае гайданне з «Й»… Можа, мне здаецца: яно прысутнічае ў песенным выкананні?.. А зрэшты, твор, што набліжаецца да фальклорнага альбо наогул мае тэндэнцыю калі-небудзь зрабіцца ім, надзелены і яшчэ адной адзнакай: непазбежнасцю ўздзеяння асяродку, у якім ён прыняты як свой…)

Бачым цяпер: стаўленне, а дакладней пачуццё да бяроз у паэта не адно толькі сімвалічнае, але і прасвечана, сагрэта адчуваннем сардэчнай сыноўняй далучанасці. Па духоўнасці сваёй — гэта зямное рэха нашай зорнай беларускай душы, нашай беларускай песні, адзін з узораў якой, прыгадаем для прыкладу, пададзены ў томе «Песні народных свят і абрадаў», укладзены і адрэдагаваны Нілам Гілевічам:

Бяроза з лістом, бяроза з лістом
Усю восень шумела:
«Лісточак жа мой, зялёненькі мой,
Ты ж мяне пакідаеш»…
— Нябось, бяроза, нябось, белая,
Я цябе не пакіну.
Увосень ападу, вясной нарасту
І з табою буду!..

Гэтак і песеннасць верша Ніла Гілевіча — у яго арганічнай народнасці, дзе слова і музыка існуюць у адзінстве сваім генетычна. Пераклічныя моманты тэзіса-крэда паэта прайсці «эстэтычную і этычную школу вуснапаэтычнай творчасці» яскрава гучаць і праяўляюцца ў вершы «Вы шуміце, бярозы…»

Дык пра што ж мне шэпчуць яны, бярозы Ніла Гілевіча, пра што кажуць у думную хвіліну?

А пра тое, што:

— без радзімы паэт — бяскрылы;
— без народа паэт — безгалосы;
— без часу паэт — пустацветны.

Ніл Гілевіч не абдзелены: ён мае радзіму, жыве са сваім народам — у часе, наканаваным гісторыяй.

Душа паэта ведае, да якіх крыніц прыпасці, каб прычасціцца, да якіх бяроз прыхінуцца і прыгарнуцца…

Мудра кажуць: каб пазнаць паэта, трэба пабываць на яго радзіме. Думка бясспрэчная, усёабдымная. І ці не з гэтай прычыны (а зусім не ад легкадумнага свавольства) карціць дапоўніць яе: заўсёды ж ёсць побач з бальшаком, з магістраллю маляўнічая сцяжынка, — мабыць, толькі мая, толькі для мяне…

Дык вось:

…пабываць на радзіме паэта — і пажыць з ім у адным інтэрнаце…

…пабываць на радзіме паэта — і разам з ім далёка ад яе…

…бываць на радзіме паэта — і перачытваць яго кнігі…

Што датычыць першай, галоўнай, умовы, то можна з пэўнасцю сказаць: радзіму Ніла Гілевіча, Лагойшчыну, ведаю някепска — і паездзіў, і пахадзіў пешкі.

Ды і хто не знае гэты дзіўны край — лясны, пагоркавы, прагорклы блакадным дымам, край мужных і працавітых людзей. Тут сонечнае дыханне надгайнаўскіх ніў і крамяны водар грыбных нерушаў…

Тут вытокі песні паэта. А прыйшла яна, пагрукалася ў сэрца вясковага хлапчука вельмі рана. У пятнаццаць год Ніл Гілевіч надрукаваў свой верш, а ў шаснаццаць стаў удзельнікам Першай рэспубліканскай нарады маладых пісьменнікаў. Імклівы дэбют: юнак — побач з нядаўнімі франтавікамі Іванам Шамякіным, Аляксеем Русецкім, Міколам Аўрамчыкам, Андрэем Макаёнкам… Выпадковасць? Ці нечаканы шанец? Не! Лёс. Лёс хлапчука, які ў дзесяць год становіцца дарослым. Лёс, выпакутаваны ў агні пажарышчаў, загартаваны на сцежках партызанскай Лагойшчыны…

Ты кажаш, я не ведаю вайны,
Што мне тады было гадоў замала.
Чаму ж яна мае забрала сны?
На ўсё жыццё наперад сны забрала?

Чаму ж амаль не кожнае начы
Я прачынаюся, скаваны жахам?

Хачу ад смерці лютай уцячы —
І стрымгалоў бягу аўсом няжатым,

Паўзу бульбянішчам па баразне.
Па хмызняку куляюся, па пожні,
Але ратунку мне няма і ў сне —
У вочы стрэл грыміць у міг апошні…

З першых творчых крокаў Радзіма, народ уваходзяць у паэзію Ніла Гілевіча як яго ўласны лёс. Будуць пошукі свайго шляху, будуць радасці і сумненні, але гэта застанецца назаўсёды — нязменным, вызначальным:

Я шчаслівы, што ўзяў для жыцця
Хоць па кроплі малой ад цябе —
Працавітасці шчырай тваёй,
І сардэчнай любві, і спагады,
А яшчэ ўзяў адвагу байца,
Каб не гнуцца ў агні-барацьбе…—

гучыць сыноўняе прызнанне народу. І яшчэ:

Жывеш і будзеш жыць ты, песня матчына,
Пакуль народа сэрца будзе біцца!
Мы сваю долю ў свеце перайначылі
Не для таго, каб на цябе забыцца!..

Да чыстых, незамутнёных крыніц народнай песні сэрцам прыпадае Ніл Гілевіч — і як паэт, і як даследчык-навуковец. Ён слухае яе лад, чуйна ловіць яе крылатае слова…

Прыгадваюцца інтэрнацкія вечары, калі Ніл Гілевіч — наш слынны студэнцкі паэт (толькі падумаць: трэцякурснік — член Саюза пісьменнікаў Беларусі) — запрашаў нас, першакурснікаў, пачынаючых вершатворцаў, да сябе ў пакой — і пасля творчых дэбатаў неяк сама сабой пачыналася песня. Ён задуменна расцягваў мяхі, перабіраў лады і густым барытонам вёў мелодыю. Мы, хто як мог, падцягвалі. І ўслухоўваліся ў песню. І глядзелі ёй у твар. І вучыліся ў яе. Гэта былі сапраўдныя паэтычныя семінары, дзе, як сказалі б цяпер крытыкі, цудоўна спалучаліся традыцыя (паэтычныя сакрэты народнай песні) і наватарства (наша юнае імкненне і ўпэўненасць, рашучасць адкрываць новыя паэтычныя кантыненты!).

На крылах гэтага захаплення вылятала ў свет і першая (як і ўсе астатнія) кніга Ніла Гілевіча «Песня ў дарогу»:

Калі не жадаеце знацца ў жыцці
З назойлівай скрухай-журбою, —
Куды б ні прыйшлося паехаць, пайсці, —
Песню бярыце з сабою!

Гэта быў і наш голас. Ды і амаль уся кніга была — як наша, студэнцкая: тут і вяселле ў інтэрнаце, і пасылка, што з'явілася вельмі дарэчы — якраз тады, калі «стыпендыя выйшла дарэшты, а новай яшчэ не чутно…». Мы ўсё гэта ведалі на памяць, чыталі і цытавалі.

Любоў да народнай песні вызначыла і кола навуковых інтарэсаў Ніла Гілевіча. Прафесар БДУ, аўтар шматлікіх грунтоўных даследаванняў, укладальнік і каментатар фальклорных зборнікаў — усё гэта ўзрасло на грунце той любові. Яна эстафетай ляціць ад сэрца да сэрца: «Спявайце, юныя паэты!» — заклікае Ніл Гілевіч, углядаючыся ў будучыню:

Спявайце, помнячы нязменна:
Пакуль паэты будуць пець —
Не быць Радзіме безыменнай,
Зямлі бацькоў — не анямець!

Можна без перабольшання сказаць: з песняю Ніла Гілевіча прыйшла да многіх з нас Балгарыя. Класічная і сучасная паэзія братняга народа, проза, кнігі для дзяцей, творчыя партрэты, эсэ — ды гэта, бадай, пад сілу толькі цэламу саюзу перакладчыкаў! Ніл Гілевіч пайшоў па цаліку, узяўшыся за гэту сапраўды падзвіжніцкую працу адзін. А сёння ў яго ўжо добры дзесятак паслядоўнікаў, паплечнікаў — і перш за ўсё дзякуючы яго намаганням, руплівасці і дапамозе. Затое якой узаемнай любоўю плацяць балгарскія сябры свайму паўнамоцнаму прадстаўніку ў Беларусі Нілу Гілевічу! Я пераканаўся ў гэтым падчас сумеснай паездкі па Балгарыі. Я ведаў аб заслугах Ніла Гілевіча перад балгарскай літаратурай (дарэчы, які перад многімі іншымі славянскімі літаратурамі), ведаў, што адзначаны яны ордэнам Кірылы і Мяфодзія I ступені, але ўсё адкрывалася, усё паўставала па-новаму, калі гучала ў гонар паэта песня ці ўтварала круг сяброўскае харо, калі чыталіся вершы, між іх — вось гэты:

Брат мой!
Кроў Леўскага ў жылах пульсуе тваіх.
Кроў Каліноўскага ў сэрцы стукоча маім.
Каты свабоды павесілі іх
абаіх.
Дзеці свабоды ім славу пяюць
абаім.

Перачытваць кнігі паэта… Не творы ў глянцавых тамах выбранага, а менавіта кнігі: вяртацца да тых сціплых выданняў, што прыйшлі да вас упершыню. Вось яны — знаёмыя абліччы: «Песня ў дарогу», «Неспакой», «Бальшак», а вось маладзейшыя ці нават зусім маладыя (ды заслужаныя, высока адзначаныя) — «Актавы», «А дзе ж тая крынічанька», «У добрай згодзе»… Адгорнеш вокладку — і дыхне радасцю першай сустрэчы. Але ці толькі? Прадубліраваць былое — ці не замала ды і ці трэба?.. Радасць павінна быць новай. І калі яна прыходзіць — значыць, паэзія сапраўдная. Як у радках задуменнай, элегічна-вечаровай актавы:

Як сумна-тужліва зязюля кукуе ў бары,
На познім змярканні, насупраць мядункавай ночы!
Адкуль гэта жальба — у розгар маёвай пары?
Адкуль гэты смутак — такі непрытворна сірочы?

Вячэрайце ў хаце, а я пастаю на двары.
Па мне не турбуйцеся — піце, гуляйце шчасліва.
Павінен жа нехта паслухаць, як сумна-тужліва
Зязюля кукуе на познім змярканні ў бары.

Дык вось, аказваецца, якім яшчэ можа быць паэт, якія гукі выспяваюць, якія струны гучаць у яго сэрцы. А мы ж неяк амаль звыкаемся: Ніл Гілевіч — тэмперамент адкрытага наступу, сатырычна-аперацыйнага ўмяшання ў рэчаіснасць… Яно ўсё так — ды не толькі. Жыццё шырэйшае і глыбейшае за схемы.

Ніл Гілевіч — талент шматгранны. Ды ў кожным разе ён — паэт змагарны. «Адкуль гэты смутак»? А ён ад жыцця. А ён… Ды што казаць, можа, ён і ад гэтага:

Вымiраюць плямёны:
Туземцы Сібіры, індзейцы,
Жыхары Акіяніі,
Абарыгены Аляскі…

«Проста — самі сабой,
Бо ад шлюбу не родзяцца дзеці», —
Не саромяцца баяць паны
«Навуковыя» казкі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Выміраюць плямёны —
Знікаюць навек, назаўсёды,
Вызваляючы свет
І ад мовы сваёй, і ад песні.
Выміраюць накшталт
Рыбаў, птушак, раслін, насякомых,
Што ў Чырвоную кнігу жыцця
У пару не занеслі…

Якія горкія асацыяцыі, якія паралелі напрошваюцца… Мова народа — лёс народа. У гістарычным разуменні гэтага — ці не галоўны жыццёвы і паэтычны клопат Ніла Гілевіча. Сёння і заўсёды.

*Сёння і заўсёды — гэта я сведчу зноў радкамі-прысвячэннем:*

## І сказана…

*Нілу Гілевічу — колькі развag над Бібліяй*

І сказана: «Было спачатку Слова».
Ды перайначыў д’ябал адмыслова —
Каб чалавек знямеў і каб аглух:
«Дай каўбасы, а потым будзе дух…»

Ды сказана: аблудны знойдзе глебу,
Калі душой узвысіцца да неба.
Народзе мой, няма тваёй віны,
Што ты сабе не ведаеш цаны,
Што ад сябе гатовы адрачыся, —
І ўжо вяшчуе смерць тваю нячысцік…

Ды сказана: стрывай перад навалай, —
Хоць званых многа, ды абраных мала.
Але яны — адданыя сыны —
Паўстануць супраць рабства і маны.

І, як паходню, велічнае Слова
Узнімуць, каб народ ажыў нанова.
І каб на рабства ён сваё забыўся,
І каб з крыніцы светлае напіўся, —
Нялёгкі шлях: па ім аж сорак год
Цераз пустыню вёў Майсей народ.

Занадта многа, скажаш? Ну і што! —
Як мала сорак — можа, хопіць сто?..

*1981–1991–2001*

## НА КРОНЕ ПЯШЧОТЫ І ГНЕВУ

Усё гэта было так даўно — і гэтак нядаўна. Скажам, як у казцы: трыццаць год, і паўгода, і яшчэ адзін дзень… Мы хадзілі тады, студэнты-бульбакопы, вуліцаю вёсачкі Сініло, кватаравалі ў бывалага дзеда Альшэўскага, слухалі яго — ледзь не мюнхаўзенаўскія — легендарныя ўспаміны (пад яго ж, «самагонны», кілішак), любілі пасядзець на скацістым узвалку, ля ўзножжа якога перамывала пясок яшчэ светлая і яшчэ рыбная Свіслач, і не здагадваліся ці не зважалі, што недзе зусім блізка, побач амаль, толькі вышэй па цячэнні, месціцца беларускі Парнас — Каралішчавічы — Дом творчасці пісьменнікаў. Не ведаў дзед Альшэўскі, што і мы тое-сёе папісваем, а то парасказаў бы, відаць, нямала і каралішчавіцкіх гісторый ды прыгод (а ў яго іх мерана-нямерана было — на любы «кручок») — пафантазіраваў бы «настаўлення маладзёнаў дзеля…».

А што да нас — то нам і сапраўды няблага тады было — нават лацвей! — і без Парнаса. Гэта сёння неяк павялося: «створыўшы» два-тры вершы, бегчы з працягнутаю рукой да жывога класіка — паздароўкацца ці папрасіць?.. — хаця б рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў…

Аднак забудземся на гэтыя «трыццаць год і паўгода», пакінем сабе адзін дзень, каб зрабіць тое, што робім цяпер не так ужо часта: сядзем зноў на тым крутым беражку і пагамонім, а то і памаўчым, прыслухаемся да асенняга вераснёвага надвячорка…

Мякка падае на дол у недалёкім садку, неяк аж сакавіта гупнуўшы, яблык, пэўна, антонаўка, і лёгка выпрамляецца прыгнутая толькі што фунтовым цяжарам галінка — чутно, як шар-

ханулася… Дзесьці на лужку, пазвоньваючы цуглямі, нязлосна (паверхі на паўтара) робіць вымовы гнядзьку дзед Альшэўскі. У расшпіленай, як заўсёды, на два гузікі зверху — каўбойцы, з поўным вядзерцам вады падымаецца ад рэчкі Сеня Блатун, сябра наш, аднакурснік, паэт-летуценнік. Ён ідзе, набліжаецца, вырастае, як з глыбіні, з-пад зямлі (мы яшчэ не ведаем нічога таго, што будзе, яно гэтак толькі здаецца) і нешта насвіствае. Загадкавае, як асенняе развітанне з нядоўгім вераснёвым днём, шчымлівае і зразумелае аднаму яму…

Паслухаем вечнасць…

А яна ў кожнага з нас, дваццацігадовых, а то і маладзейшых, была свая, з дакладным адрасам, канкрэтным абліччам. Кожны нёс яе ў сэрцы як часцінку роднага кутка, бацькоўскай хаты, як голас матчынай песні, як подых першых спатканняў… Вечнасць была рэальнасцю, якую асабіста ніхто не звязваў з часам: яна заставалася ўсяго толькі філасофскай катэгорыяй, якая патрабавала семінарскіх ды заліковых тлумачэнняў. А ў астатнім вечнасць была сама па сабе, а час — сам па сабе. Яны змыкаліся хіба толькі ў тым, што часу ў нас, як кажуць, была цэлая вечнасць (за выняткам сесій, калі яго, здаецца, заўсёды ў абрэз, катастрафічна мала, прынамсі не хапае аднаго дня). Мы плавалі ў вечнасці, як рыба ў вадзе. Мы мелі на гэта права, бо юнацтва — само вечнасць…

Генадзь Бураўкін (а ён якраз і ёсць адзін з дзейных удзельнікаў таго вераснёўскага юнакавання і роздумаў), сын старажытнай Полаччыны, з першых паэтычных крокаў адчуваў, дзе яно — вечнае:

Не шукайце красы за морамі,  
Узбярэжжаў з крыштальнымі зорамі, —  
Прыязджайце да нас на Полаччыну,  
Пахадзіце яе прасторамі.

Гэтае запрашэнне-заклік (праўда, чамусьці ўпарта — ці не з першага чытання? — сядзіць у памяці: «Не шукайце экзотык за морамі» — замест «красы»…) мае ўсе падставы, бо «тут пад кожным курганам і каменем — ці быліна, ці казка чароўная», а яшчэ «тут на кожнага закаханага салаўёў па чатыры тузіны»!.. Так яны сыходзяцца — вечнасць-гісторыя і вечнасць-юнацтва. І для Генадзя Бураўкіна гэта паэтычная еднасць дзвюх стыхій стане вызначальнай. Прыгадаем: Скарына, Каліноўскі, Купала,

Чэ Гевара, Гагарын, Хатынь, Асвея… — зоркі і вехі на шляхах гісторыі сталі зоркамі і вехамі натхнення паэта, як і лёс яго аднагодкаў, пакалення дзяцей вайны, сэрцам і вуснамі якога сказана тастаментнае — да роднай зямлі, да Беларусі: «Сто разоў кожным нервам сваім, кожнай жылкаю перажыў я твой мужны і велічны лёс…» І сонечна-юнае: «Сёння я незвычайна радасны, ну, не хлопец — усмешка адна: цеплынёю дваццаціградуснай абагрэла мяне вясна… Я іду — дваццацігадовы, і дзяўчаты глядзяць на мяне…»

Такі дыяпазон душэўнага настрою Генадзя Бураўкіна — ад верша-прысягі да верша-гарэзніка — хочацца асабліва падкрэсліць яшчэ і з прычыны звыклага ў крытыцы нашай «ярлыкавання»: як пайшла з чыейсьці «лёгкай» рукі гуляць па рэцэнзіях ды артыкулах атэстацыя, што ён паэт адкрытага грамадзянскага пафасу, трыбуннага напалу і гучання (што само па сабе і някепска, і небеспадстаўна), дык і па сёння трымае ў «крытычным цені», бадай, ці не палову зробленага ім у творчасці.

Я не знаю, удаўся ў каго я такі:
Цягне дзіўная сіла мяне да ракі.

Цэлы дзень у прадоннях крынічных віроў
Бачу гульні язёў, чуйны сон шчупакоў.

Я не знаю, удаўся ў каго я такі:
Цягнуць, нібы магнітам, мяне сасняки…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чую: гліцу і мох прабіваюць грыбы…
Каб не быў чалавекам, я б жаўранкам быў

І спяваў бы нястомней за ўсіх і званчэй,
Каб рабілася людзям ад песні лягчэй…

Радаслоўная? Ці творчае крэда? Відаць, і тое, і другое. А мы сабе прыкмецім яшчэ адну акалічнасць: адчуванне паэтавай сувязі і еднасці з жыццём не толькі ў сферы «надбудовачнай», але і «базіснай».

Асцерагаючыся зноў жа «аднабокасці» ці «аднавокасці», толькі з іншым, супрацьлеглым, знакам, схілім усё ж увагу да Генадзя Бураўкіна «нечаканага», не запраграмаванага крытычнымі стандартамі. І пабачым свет шырокі і шматфарбны, свет, які да-

дзены нам і які мы ствараем, свет, які паглынае нас і які творыць нас, свет — зямны і нябесны, свет — як быццё і вечнасць. Свет просты і складаны — як жытні колас:

Хто раней,
хто пазней,
Толькі ўсе
Зноў і зноў
Мы прыходзім
Да простых,
як хлеб і паветра,
Высноў:
Што жыццё чалавеку —
Любому —
Даецца адно,
І што,
як ні надточвай,
Кароткае вельмі яно,
І што праўда на свеце
Адна —
Без крупінкі маны,
І што шчасця на свеце
Няма
Без сваёй стараны…

І свет — як міг кахання:

Ты не ішла —
асыпаная зорамі,
Хмурынкай лёгкай да мяне плыла —
Уся з адчаю, чысціні і сораму,
З даверлівасці, страху і святла.

Цямнелі,
аддаляліся
і чэзнулі
Зямныя і нябесныя агні.
І я ступіў насустрач цёплай бездані
Здзіўлення,
шчасця,
тайны,
цішыні…

Такая яна — і немалаважная! — асаблівасць востра-публіцыстычнага Бураўкіна: піша ён на тэмы інтымныя ці не сама больш з усіх паэтаў-равеснікаў (якасць у нашай паэзіі ох якая дэфіцытная), і вершы пра каханне займаюць у кожным яго-ным зборніку (як бы паэтычны контртэзіс спрошчанаму тэзісу крытыкі) добрую трэць, а то і палову. І ці не з доляю палемічнага падтэксту выдаў ён нарэшце кнігу «Пяшчота» — з вызначэн-нем «Лірыка кахання». Нібы сказаў: паэт — гэта сэрца, насцеж адкрытае жыццю, гэта свет з усімі яго радасцямі і трагедыямі, з яго пяшчотаю і суровай барацьбой, гэта космас — і далёкіх зор, і вясновай травінкі, і слязы на шчацэ каханай…

Мы хочам зразумець галактык мову.
А хто мне скажа,
думае аб чым
Сцяжынка ў полі,
спелы бор сасновы,
Рачулка,
што прыцмоквае ўначы?..

І зноў — як гаварыў Маякоўскі — «про это»:

Яна ішла сцяжынкай вузкай
Да вечаровага сяла.
І ветразем над сіняй блузкай
Касынка белая плыла.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ах, незнаёмка, незнаёмка,
Неспадзяваная бяда!
І прыпыніць цябе няёмка,
І адпусціць цябе шкада…

Ці не першымі з чытачоў нашы кампазітары здагадаліся, што крытыка нешта не дагаворвае пра Генадзя Бураўкіна, заўважылі яго светлую — і з добрай усмешкай, і шчымлівую — лірыку, і ўзнялася яна на песенныя крылы, загучала і ў канцэртных залах, і на сябрынах, і проста так — напаўголаса, для сябе…

Патухаюць, цямнеюць высі,
Зоркі ўспыхваюць над сінявой.
Да пляча майго прыхініся
Залатою сваёй галавой.

Чуеш вецер і чуеш вечар?
Чуеш, ціха бярозы рыпяць?
На твае худзенькія плечы
Асыпае звон зарапад.

Гэта я з табой вечарую,
Туманамі цябе чарую.
Васількоў шапатліваю моваю
Зачароўваю, зачароўваю.
Роснай сцежкаю, рэчкай ціхаю
Закалыхваю, закалыхваю…

Імгненне непаўторнае і высока-нябеснае, імгненне вечнасці. І — музыка, музыка: у радку, у дыханні, у цішыні…

А вось цяпер, пасля зробленых вытлумачэнняў, катэгарычна пагодзімся і з тымі, хто сцвярджае: так, Генадзь Бураўкін — паэт, чуйна настроены на сучаснасць, паэт грамадзянскай наэлектрызаванасці, паэт-палеміст.

Добра помніцца, як усхвалявалі нас, і нязменна адчуваецца, як нясуць байцоўскую службу яго вершы «Адышлі ў нябыт панегірыкі», «Кампрамісы», «Не рабіце з людзей багоў…», «Уцякаюць хлопцы ў гарады», «Ад залысін да лысін…» Апошні з такой — па высокім рахунку — сённяшняй высновай: «Той сумленна рассудзіць, хто сабе не даруе…»

Ці заўважалі вы, што ўсё глыбей і глыбей карэніцца ў нашу размоўную практыку «сімбіёз»-неалагізм «жывое жыццё»? Першая рэакцыя была не вельмі прыхільная: таўталогія, стылёвая неахайнасць?.. Не кажам жа мы «мясное мяса» альбо «хлебны хлеб»… Аднак моўная рэальнасць — рэч упартая: нагадвае і нагадвае пра сябе «жывое жыццё»… Значыць ёсць яшчэ і другое жыццё — мёртвае? І міжволі задумваешся: а што ж яно тады такое?..

Грамадзянская пазіцыя Генадзя Бураўкіна ставіць звышзадачы: мала сказаць праўду (хоць і слова таксама справа), трэба і самому рабіць гэту праўду, змагацца за яе — кожнаму з нас і кожны дзень, кожным учынкам сваім… Паэзія, усё ж, не стырно, не руль, што адзіным паваротам можа рэзка мяняць кірунак чалавечай душы, наіўна чакаць ад паэтычнага слова імгненных вынікаў уздзеяння. Яна, паэзія, хутчэй — плуг, што рыхтуе глебу, на якой узрастаюць духоўныя, маральныя шуканні чалавека.

Генадзь Бураўкін — дапытлівы назіральнік, востра бачыць жыццё ў характэрных прыкметах. Пабачыў і паслухаў ён ігру

духавога аркестра ля ваенкамата, дзе маці праводзяць на службу ў армію сваіх сыноў, — і як шчымліва і трывожна падумалася паэту:

Духавыя аркестры,
Паходныя трубы
Папулярнымі робяцца
Перад вайной… —

гэтая трывога ападае на сэрца тым — хатынскім — снегам, што «ў памяці вечна стыне»…

Пра паэму «Хатынскі снег» цяжка гаварыць, цяжка яе пераказваць, як і наогул паэзію. Гэта незагойная рана, гэта боль людскі, які стаў болем асабістым:

…І бабы загаласілі:
— А дзеткі!
А вы ж не паспелі пажыць!

А вашы ж ногі не паспелі нахадзіцца.
А вашы ж рукі не паспелі напрацавацца.
А вашы ж вочы не паспелі наглядзецца.
А вы ж не паспелі ўнукамі парадаваць нас.
Крывіначкі нашы!
Сонейкі нашы!
Дзеці!
За што ж яны вас?!.

Словы такія — галашэнні — вартыя быць выбітымі на фасадах усіх ваенных міністэрстваў, — усіх, дзе яны ў свеце ёсць… Каб ведалі, каб не забываліся…

Праблемы лёсавызначальныя — небяспека знікнення, адыходу ў нябыт канкрэтнага народа — трывожна пранізваюць і сённяшнюю, мірную, атмасферу, адгукаюцца болем у сэрцы і думах паэта:

Словы жудасна паміраюць,
Патухаюць,
як светлякі.
Забываюць іх,
не паўтараюць
І газеты,
і языкі.

Толькі недзе
у далёкай вёсцы
З плёску рэк і шуму лясоў
Узляцяць,
як забытыя вёсны,
Салаўямі на сто галасоў…

…Ды цяжкім, раўнадушным нарогам
Іх завальвае час і быт.
І здаецца,
не словы —
народы
Адыходзяць моўчкі ў нябыт…

І вось чаму мы павінны, нарэшце, паглядзець праўдзе ў вочы, не рабіць, прынамсі, выгляду, што нічога не адбываецца. Калі ў нас ёсць намеры застацца народам, калі мы хочам ісці ў гісторыю беларусамі, Беларуссю, мы павінны з сапраўдным жыццёвым неспакоем думаць, клапаціцца пра лёс роднай мовы. Няма народа бязмоўнага. І з размываннем нацыянальнага ці не ідзе прасоўванне, усталяванне спажыўца манкуртнага чужамоўя, таго бязроддзя, якое насоўваецца пад маскай «інтэрнацыяналізму». Яго нам паслужліва, але настойліва прапануюць, падкідваюць, падшэптваюць… Сапраўдны ж інтэрнацыяналізм, калі мы ўжо хочам так яго называць, трымаецца на грунце нацыянальным.

Крэўнай, глыбіннай, асабістай прысутнасцю ў нашым бурлівым, неўтаймоўным свеце пазначана паэзія Генадзя Бураўкіна. Голас паэта, яго інтанацыя, тэмперамент, нават жэст прачытваюцца ў яго радках выразна, дакладна і непаўторна. І клопат яго — грамадзяніна і паэта — нязменны: несці святло праўды, змагацца за яго ў імя шчасця людзей. «Гняздо для птушкі радасці» назваў адну са сваіх кніг Генадзь Бураўкін. Гняздо для птушкі радасці — яно і ў сэрцы паэта, і на санцасяжнай, высокай кроне жыцця, кроне пяшчоты і гневу.

*1986*

## І ЖАЎРАНАК, І ЦЭЛЫ СВЕТ У СЭРЦЫ…
*Re-specto*

Я — не Час. Дакладней, не той Час, якім любяць (асабліва запісныя крытыкі) палохаць паэтаў. Маўляў, Час праверыць, Час усё і ўсіх расставіць па месцах…

Я толькі хачу азірнуцца, каб на сваё колішняе ўспрыманне глянуць праз сябе сённяшняга, маючы тут на ўвазе канкрэтнае: паэзію Пімена Панчанкі.

Сумненняў не выклікаюць і, здаецца, на «рэвізію» нікога не спакушаюць ні «Іранскі дзённік» са шчымлівай тугой па радзіме; ні душаабуджальны «Крык сойкі», дзе «ў сэрца бусел залятае з трывожных прыпяцкіх балот» (прадчуванне прарочае, бо прамоўлена было задоўга да Чарнобыля); ні па-язычніцку і па-сучаснаму мудрая «Паэма майго лесу»:

Усе мы дрэвы:
Хто клён, хто рабіна, хто дуб.
Цягнемся да сонца,
Шалясцім ліствою.
Грымне навальніца —
Сагнёмся ад дум,
А зрэжа маланка —
Заснём пад жарствою…

Але — гэта Панчанка-лірык.

А як жа публіцыст? Той, непрымірыма-гарачы, задзірысты? Як з тым гарэннем на агні злабадзённасці: сёння было — а заўтра?.. Ці вартая аўчынка вырабу?..

Успамінаецца, як на адной з літаратурных сустрэч кіраўнік, скажам так, раённага звяна, трасучы над галавой нумарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», пусціўся ў досведы: каго і што мае на ўвазе Пімен Панчанка ў новым вершы, і з ноткамі следчага голасу (дарэчы, зусім не ва ўнісон агульнаму настрою) асабліва націскаў на словы: «Па-кабінецiку, па-камітэцiку мы ўзвялі бюракратычную трубу…» І ў палемічным запале дапытваўся: «А дзе ж гэтая смеласць раней была?»

І давялося нагадаць не вершы, не радкі нават, а толькі некалькі адчаканеных формул, што сталі крылатымі, узляцеўшы ў свой час з-пад пяра Пімена Панчанкі: «верхалазы і верхагляды», «свінары і званары», пазначыўшы трапна і дакладна два падыходы да жыцця, два характары — таго, хто чэсна працуе,

і таго, хто побач, па-цецеручынаму самазабыўна, дзьме ў тую самую «бюракратычную трубу»…

Не, ён ніколі не скаланаў кулакамі паветра з трыбуны, ён узрушваў сэрцы людзей паэтычным словам, і не тады, калі наступае зорны час крыкуноў: гавары колькі ўлезе і крытыкуй-гарлапань на ўсе бакі — гэта не тоіць небяспекі, не паграseverity жае тваму сну, а, наадварот, навявае мляўкае перадсоннае пачуццё «выкананага абавязку». Яго гнеўны голас гучаў тады, калі на дарогах руху грамадскай думкі стаялі многія забаронныя і папераджальныя знакі, кшталту «абгон небяспечны» ці «падача сігналу забаронена»… Ды што казаць — нейкі заўсёды нязручны для прыўладнай гальштучнай зацягнутасці і зашпіленасці на ўсе чыноўныя гузікі быў Пімен Панчанка. Яшчэ ў даваенных паэтычных дэбютах аб’явіў ён «газават» (гэта таксама ягоны выраз — ужо з вершаў нядаўняга часу) усялякай абывацельскай пошасці, «племю хапуг», чый «душны свет… атлусцеў, да брывей запух», у каго «белізна вышываных сарочак прыкрывае стагодні бруд…» Гэтыя юнацкія радкі — першыя прыступкі да атакуючых вершаў, вострых грамадзянскіх разваг і высноў сталага Пімена Панчанкі.

Успамінаю ці перачытваю — і з радасцю сведчу (і сабе, і іншым): у галоўным, у сутнасным, нічога не змянілася. «З радасцю» — толькі ў сэнсе «адчування» мастацкага, а не «быційнага», бо сустрэча з многімі тыпамі, па якіх «прайшоўся» «ювеналавым бічом» Пімен Панчанка, нічога, апроч агіды, выклікаць не могуць.

Ідуць насустрач грашовай справе,
На пафас голы яны не клюнуць.
Маліцца будуць, калі ты ў славе,
Калі ты ў горы — з насмешкай плюнуць…

Нічога не скажу, толькі спытаюся: гэта напісана ў 1956 годзе ці ў нашым сёння, праз пяцьдзесят? Ці не «нашыя» гэта, як яны любяць сябе называць, «новыя», «дзелавыя» «прагматыкі»?.. Праўда застаецца праўдай, і горкая — горкай…

І паэзія застаецца паэзіяй, якіх бы сфер яна ні кранапася: ці самых высокіх, нябесных, ці самых нізкіх, нікчэмна-будзённых і нават агідна-брудных… Усё на гэтых вагах — мастацтва ці яго супрацьлегласць — вырашаюць талент і мера чалавечага і паэтычнага, душэўнага, прыняцця ці адмаўлення. Сапраўднага паэта не вымяраюць меркамі кан’юнктурна-палітычнымі. Ён

сапраўдны, калі з ім можна ісці на бой за Праўду. Калі ж нельга — засумнявайцеся: ці паэт гэта…

У сваёй грамадзянскасці Пімен Панчанка не быў кан'юнктурным. За свайго паэтычнага Бога ён найперш уважаў Ісціну («ісціны простыя, як хлеб, і праўдзівыя, як плач дзіцяці»). Што ён любіць — тое любіць, што ненавідзіць — тое ненавідзіць. А як жа інакш Паэту? Інакш — стылае, панылае вершапляценне… Зрэшты, паслухаем і самога Пімена Панчанку: «Я глыбока перакананы, што паэзія без страснасці, без грамадзянскага гучання — непаўнацэнная паэзія…»

Такая прырода таленту Пімена Панчанкі. І не след дыктаваць Паэту свае ўмовы.

Але ці толькі гэтым — выкрывальным — пафасам дарагі нам Пімен Панчанка, ці толькі за гэта любімы ён і ўсенародна вядомы?

Мы прызвычаеныя (і навучыліся!) усё і ўсіх рассоўваць і раскладваць па стандартных палічках: так ямчэй шукаць крытыку-ахоўніку «ад літаратуры», ахоўніку-ідэолагу «ад пэўнага “-ізму”» і проста ахоўніку: знаеш, дзе што ляжыць, дзе хто і за што сядзіць: тэма, ідэя, тэрмін…

Чытач гэтага не шукае. Чытач, грэшным жыццём сваім, адчувае ўсяго толькі душу.

Гэта ўжо аксіёма: паэзія — перш за ўсё — канкрэтнасць бачання, адчування і перажыванне, дзіцячае здзіўленне перад рэчамі і з'явамі. Без гэтага свет наўкола робіцца шэра-здакучлівым, посным і прэсным. Што ж тычыцца жартаўліва-іранічнай заўвагі Пімена Панчанкі: «Пішы праўдзівай прозаю пра юныя гады», то як была, так і застаецца яна ўсяго толькі паэтычным паклонам «прозе» як праўдзе жыцця. Паэзія высноўвае нябесныя, крылатыя законы. І сэрца, падуладнае ёй, не пагражае застацца адно толькі функцыянальнай, фізіялагічнай помпаю для перагону крыві, каб у лагодным спакоі працягнуць пачатую ўжо на гэтым, прыжыццёвым, беразе сваю вечнасць. Не пагражае, бо яно застаецца сэрцам паэта. Сэрцам, «дзе начуе жаўранак»…

Засведчыўшы аднойчы — з вышыні свайго натхнення — гэту надзвычайна ёмістую і дакладную характарыстыку паэтычнага стану, Пімен Панчанка зусім не меціў аформіць тым самым анкету і заяўку ў разрад мэтраў-тэарэтыкаў. Бо гэта была не кабінетная формула, а палявая, кажучы словамі геолагаўразведчыкаў. І хутчэй не формула, а знак сэрца. Ім, гэтым знакам, адкарбаваны, свецяцца радкі Пімена Панчанкі. Чытаеш і

бачыш — паэт з добрай хітрынкай у вачах, па-дзіцячы блакітна ўсміхаецца: птушка прылятае!..

Прабачце, аднак: «добрая», «блакітная» — гэта што датычыцца, найперш, паэтычнага стану і далёка не вычэрпвае, не вызначае паэтычных даляглядаў Пімена Панчанкі. Цэлы свет — не толькі з яго радасцямі і вясёлкамі ды ўсмешкамі, але і з болем, з трагедыямі і барацьбой — месціцца ў сэрцы паэта.

Высокая грамадзянскасць паэзіі Пімена Панчанкі грунтуецца на пранікнёным, можна сказаць, болевым лірычным перажыванні. Не староннім сузіральнікам, не каментатарам усведамляе ён сябе ў гэтым бурным, неспакойным свеце. Не суіснаванне з жыццём, а само жыццё: быць яго сутнасцю, яго стрыжнявым нервам — такое прадвызначэнне яго паэзіі. У самых глабальных і ў самых будзённых явах для Пімена Панчанкі няма нічога другараднага, пабочнага, старонняга, што як бы яго не тычыцца, паўз што можна прайсці не тое што раўнадушна, а спакойна, не зачапіўшыся, не спатыкнуўшыся сэрцам. Дар спачування — мудрэйшы дар паэзіі. І муза Пімена Панчанкі шчодра надзеленая ім. «Балявы парог паэтычнай натуры Пімена Панчанкі, — заўважыў Васіль Быкаў, — надзвычай нізкі, а ягоная здольнасць да суперажывання ўсяму сапраўды чалавечнаму зайздросна абвостраная нават як для паэта».

Не раз даводзілася бачыць, як раптам тушыліся болем блакітныя агеньчыкі панчанкаўскіх вачэй, як змрачнеў твар, як усхопліваўся, ускокваў ён — быццам у атаку, у схватку, на абарону. Гэта нязменна: ці даведаўся ён пра чужое гора, ці чуў фальш, заўважаў несумленнасць — у словах, намерах, учынках. Усё жыццё, любыя праявы яго, любы факт былі глыбока асабістым клопатам паэта. Ён спяшаўся насустрач усім бедам, усім болям, усім пакутам. Узяць на сябе хоць бы часцінку іх, адвесці ад свету, ад людзей — гэта не паэтычны ход, а чалавечая сутнасць Пімена Панчанкі, яго жыццёвае наканаванне як паэта: «Капайце ў сэрцы маім магілу». Зерне сустрэчнага болю прарастае ў ім, каб ахінуць, засланіць, аберагчы іншых: «Для крыўдаў усіх маё сэрца адкрыта, — зносьце хутчэй іх, людзі!»

І ў гэтай службе болю — на нязменнай варце памяць вайны. Гэтае вяртанне — самае горкае і самае трывожнае. «Попел чалавечы доўга стыне»… Ён грукае ў сэрца паэта памяццю жанчыны, што ў блакадным ліхалецці «на парозе чорнага вар'яцтва… была гатова задушыць» маленькага сына, каб не выдаў крыкам стоеных людзей, а зараз глядзіць — ужо на ягоных

дзяцей — «і кожны раз жахаецца кабета: «А што, калі б?» — і млее ад жуды…»

Гэта памяць — бестэрміновая — «сам ад сябе не ўцячэш» — яе кругі ўстаюць перад паэтам. Яны адтуль:

Ні славы, ні скарбаў я не хачу,
Мне б толькі прыйсці непрыкметна,
Зямлю сваю пад нагамі адчуць,
Надыхацца родным паветрам…

І:

Пяць франтоў мяне пылам гарачым абсыпалі,
За вайну перамерана тысячы вёрст.
З успамінамі крочыў пад ветрамі сіплымі
І з надзеяй на студзеньскім холадзе мёрз.

І заўсёды здалёк, праз прасторы вялікія
Усміхаліся мне і дамоў мяне клікалі
Сінія касачы…

І першае, і другое сказана ў цяпер ужо гістарычна далёкім, ваенным 1942 годзе. Ды што мне, чытачу, проста чалавеку, да маўклівай даты, пазначанай чатырма лічбавымі значкамі… Са мной — панчанкаўскія «Сінія касачы». Са мной гэтае парыванне, пакліканае тугой па радзіме, народжанае не абстрактным «розмыслам», а канкрэтным, жывым болем душы. Гэта на ўсе часы — і ўчора, і сёння, і заўтра: Радзіма, сыноўняя любоў да яе і адданасць. Незалежна ад абставін і рэжымаў яны былі, ёсць, будуць…

Канкрэтнасцю пачуццяў і думак хвалюе, знаходзіць сугучча ў нашых сэрцах — як на гэты раз, так і заўсёды — паэзія Пімена Панчанкі. Канкрэтнасцю светаразумення, светаўспрымання. Канкрэтнасцю народнага ладу. Канкрэтнасцю адчування канкрэтнага чалавека. Канкрэтнасцю тою, з якой бярэ ў руку ратай вясновую грудку зямлі ці ўзважвае на далоні жніўеньскую — з аднаго коласа — сямейку зярнят. Той канкрэтнасцю, з якой слухае каваль звон металу. Канкрэтнасцю, з якой хлапчук-свавольнік спрабуе на зуб марозную крохкасць сакавіцкага ледзяша… Бялінскі зазначаў: «Паэзія ёсць выяўленне жыцця, ці, лепш сказаць, само жыццё». А яно, жыццё, ва ўсёй сваёй паўнаце, велічы і прыгажосці і паўстае якраз — адчувальна, ярка, непасрэдна і непаўторна — у вобразах канкрэтных. Калі мы скажам:

«чалавек» — мы яшчэ нічога не скажам. Мы павінны ўбачыць, уявіць яго праз пэўны вобраз — жывым і канкрэтным. Будзе гэта герой ці здраднік — ён здольны выклікаць нашы эмоцыі захаплення ці агіды толькі ў канкрэтнай праяве сваіх учынкаў, думак і дзей. Каб рэчаіснасць стала катэгорыяй эстэтычнай, уключылася ў сферу мастацкую, «мы павінны ахопліваць яе ў цэласці і прытым прадметна» (Бялінскі).

Верш «Край паэтаў», бадай, самы характэрны, хрэстаматыйна панчанкаўскі арганічным спалучэннем, узаемавысвечваннем агульнага праз канкрэтнае і канкрэтнага праз агульнае: лёс чалавека — у лёсе народа, лёс народа — у лёсе кожнага чалавека. Вось яны — гэтыя паралелі:

Там чарнічныя ўсе ночы,
Сунічныя ранкі,
Там народ найболей любіць вершы Янкі.

Там дзяўчаты носяць белыя панчошкі,
Сто разоў цалуюць там і яшчэ трошкі.

Дзе ж той край залатакосы, край зялёны —
Рык ласіны,
Звон пчаліны,
Мора лёну?

Там, дзе Свіцязь, там, дзе Прыпяць і Ясельда,
Дзе танцуюць пад цымбалы на вяселлях;

Дзе жанчына, сінявокая і ласкавая,
Звонка чаравічкамі паляскавала.

Такое ў вершы спалучэнне, скрыжаванне агульна-панарамнага з канкрэтна-дакументальным то геаграфічным, то персаніфікаваным падмацаваннем, пацвярджэннем. Прыём быццам рэпарцёрскі. І, натуральна, смелы, нават рызыкоўны для ўжытку паэтычнага… Аднак жа — колькі б ні перачытваў — ёсць усхваляванасць, ёсць паэзія, яе дыханне. 1 ў гэтым сакрэт Пімена Панчанкі…

Як ёсць яна, паэзія праўды, соль праўды, і ў гэтых далёка не паэтычных па сутнасці сваёй фактах і з’явах:

Мы радасць і гора
З вялікіх карцоў запіваем.

Мы родную мову
Патроху ўжо ўсе забываем…

Нас век спажывецкі
Таксама крануў:
Мы упоравень з векам.
І рыбы ў нас мала у рэках,
Закусваем хекам…

Зноў жа не ўяўна-паэтычныя, з патугай на падтэкст цьмяныя рэмінісцэнцыі, а канкрэтныя называнні, тыя ж, панчанкаўскія, успышкі маланак: з’ява фіксуецца дакладна і недвухсэнсоўна.

Цяпер, цягам дзён і гадоў, даводзіць і тлумачыць публіцыстычныя і паэтычныя вартасці вершаў Пімена Панчанкі як бы і няма патрэбы. Яны проста ўвайшлі ў нашу свядомасць важкім гістарычна-мастацкім сведчаннем, дакументам эпохі, што прамаўляе голасам і сэрцам паэта. Сутнасць іх — супрацьстаянне ўсялякім замахам на асобу чалавека, усялякім спробам яго духоўнага абрабавання…

І ўсё ж, зноў ды зноў, адчуваю, як штурхаецца пад локаць сумненне скептыка: «Аднак: паэзія ці публіцыстыка „ў рыфму”?» — і замест адказу прапаную ланцужок пытанняў: «А што ёсць паэзія?» Ці хоць бы: які яе прадмет? Цудоўнае, узнёслае? Пачварнае, нізкае?.. І ўспомнім Ахматаву: «Когда бы вы знали, из какого сора растут стихи…» Успомнім і жартоўную рэпліку французскага кампазітара Жана Філіпа Рамо: «Дайце мне афіцыйны пратакол, і я зраблю з яго оперу…»

Што ёсць паэзія? — адвечнае пытанне без вычарпальнага адказу. Кожны шукае яго сам. А ці павінен знайсці і ці трэба знаходзіць — яшчэ адно, і не менш складанае, як маўчанне сфінкса, пытанне. «Ведаючы» загадзя, што ёсць паэзія — ці варта брацца за пяро? Ці варта — калі ўраўненне вырашана, адказ ясны, тайны няма? («Каб жа я знаў, што такое паэзія, гэтыя б вершы не напісаў», — іранічна сказаў аднойчы Пімен Панчанка.) Гэта што тычыцца самога творцы, паэта. А як — з чытачом? А тут сувязь не адносная, а наўпростая: не будзе таямніцы паэтычнай — не будзе і чытацкай, не будзе творчага суперажывання, узаемнага пошуку ісціны — будзе механічнае паўтарэнне слоў…

І тут, бадай, зноўку час звярнуцца да сілы «містычнай», але зусім рэальнай — душы паэта. Сіла захаплення ці сіла абурэння здатныяператварыць у паэзію любы матэрыял. Галоўны чыннік і крытэрый пэўнасці панчанкаўскай паэзіі — адкрытая

непадробнасць перажывання. Не знешняе вершааздабленне, не слоўнае канфеці, не параднае дэфіліраванне радкоў, а існасць пачуцця. І публіцыстычнасць — гэта асобы шлях да мастацкасці, спосаб стварэння паэтычнага вобраза. Сам паэт прызнаецца, што яго не спакушае сузіральная лірыка, якую іншы раз выдаюць за філасофскую. І тут жа нельга не заўважыць, што апорная дамінанта ў паэзіі Пімена Панчанкі — сэрца. Сэрца паэта. Дык вось: сапраўдная паэзія, напэўна, тым і адрозніваецца ад трафарэтнага «сачыніцельства», што яна нясе ісціну, засведчаную сэрцам паэта. І ці не таму яна не падуладная пераменам кан'юнктуры — яна абнаўляецца з абнаўленнем жыцця, як трава вясною: зноў і зноў зелянее, выходзіць з-пад снегу; рыфмаробныя практыкаванні «з выпадку» так і не могуць адарвацца ад гэтага выпадку, намёртва звязаныя з ім: народжаныя «па выпадку», яны так і застаюцца выпадковымі ў гэтым жыцці — не маюць і не могуць мець перспектывы ў часе…

Тэмперамент вершаў Пімена Панчанкі сапраўды байцоўскі, у іх той жа агонь паэтычнай аператыўнасці, загартаванай яшчэ там — у акопных буднях франтавога газетчыка. Пімен Панчанка ніколі не кідаўся сам і не вёў чытача ў атаку на рубяжы і траншэі, дзе ўжо няма праціўніка — той пакінуў іх учора ці сёння на світанні… Паэт ведае праціўніка ў твар. І праціўнік ведае яго — непрымірымага, непахіснага…

Злосна сказаў: «Уставай, пяхота!
Мы не на пляжы, а на вайне».
І лёг на змяіныя скруткі дроту.
І дзвесце салдацкіх запыленых ботаў
Прайшлі па яго спіне…

Гэта 1943 год. Верш Пімена Панчанкі «Герой». Ён па праву стаў у шэраг такіх анталагічных вершаў аб вайне, як «Я знаю, никакой моей вины…» Аляксандра Твардоўскага ці «Его зарыли в шар земной…» Сяргея Арлова.

А гэта — Пімен Панчанка нашых дзён:

Мала сказаць: ненавіджу,
Мала сказаць: прызнаю.
Біцца за праўду — і выжыць,
Быццам салдат у баю.

Дрэннаму — не пакарыцца,
Добрае — не празяваць.

З дробнай хлуснёй не мірыцца,
З буйнай хлуснёй ваяваць…

Уся сапраўдная літаратура ўзрастала на гуманістычных каранях, яе «нясучымі», яе грунтам было змаганне за чысціню чалавечай душы, за сапраўды чалавечае месца чалавека ў гэтым свеце, поўным сіл і памкненняў антычалавечых, антыгуманных. У самых цямнотах чалавечай свядомасці і падсвядомасці Дастаеўскі імкнуўся знайсці светлы праменьчык надзеі. Яго шукаў, праз боль свайго сэрца, і паэт Пімен Панчанка.

Панчанкаў радок заўсёды з чалавечым характарам, ён таксама — «з тых беларусаў». Ён зямны, непасрэдны, непадробны, нязмушана-натуральны сваёй настроенасцю на сuперажыванне, і ў гэтым яго паэтычная жыццядайнасць і жыццястойкасць.

І што вельмі важна — сказанае тычыцца не адно толькі рэалій прадметна-адчувальных, але і катэгорый духоўных, можна сказаць, абстрактных, прынамсі, далёкіх ад той канкрэтнасці, якую мы можам успрыняць непасрэдна, фізічна. Гэтыя дзве стыхіі ў паэзіі Пімена Панчанкі жывуць у неразрыўным адзінстве, яны — плоць і душа. Узвышэнне, далучэнне кожнага да вышыняў чалавечага духу — у гэтым сэнс і боскі знак сапраўднага мастацтва, сапраўднай паэзіі. Далучэнне гучыць у Пімена Панчанкі як ачышчэнне. Паэт бярэ на душу нялёгкую ношу віны, ён у адказе і за сябе, і за людзей.

Сплаў вечнасці і чалавечнасці (карыстаемся зноў жа радкамі Пімена Панчанкі, што зрабіліся ўжо крылатымі: «без чалавечнасці не будзе і вечнасці») вядзе нас праз тры часткі верша «Здзіўленне» па гэтым бясконцым (бо невычэрпным, як жыццё) коле пытанняў: прырода — чалавек — грамадства: «Старых загадак — міліёны, і свежастворaных — не менш»… І нікому іншаму — толькі самому чалавеку дадзена наканаванне шукаць адказы на іх. А паміж іншых перш-наперш на гэта: «Няўжо усё, што бралі кроўю, згарыць у атамным катле?..» І кола пытанняў — няхай самых адвечных, самых мудрых — разрываецца, каб ударыць крыкам у чалавечае сэрца: «Пакуль трывожна, ды не позна — ратуйце, людзі, неба, космас… Ратуйце, людзі, ўсё жывое, ратуйце ўласную душу…»

Так, жыццё не думае пра вечнасць, не заўважае і не зважае на яе. Заўсёды юнае, маладое, у руху, у хадзе і кіпенні — яно само вечнасць…

Так і сапраўдная паэзія — ва ўсіх яе праяўленнях. Узяць хоць бы рыфму — панчанкаўскую рыфму! — як яе зноў і зноў

не згадаць!.. Яна настолькі глыбінная сваёй арганічнасцю і жыццёвай (інакш не скажаш!) неабходнасцю, — як дыханне: яна не крычыць аб сабе, яе як бы і няма. Але яна ёсць! Вось, скажам, жывапіс сугуччаў аднае страфы: «Мележа — меліся, шалясцяць — у гасцях»… Сапраўды, нейкімі жывымі істотамі ўяўляюцца гэтыя рыфмы: яны перамаўляюцца між сабою, гавораць з табой — шчыра, даверліва. Як дзеці, што «на зямлі маёй смяюцца, не думаюць пра вечнасць і пра смерць…»

Рыфмы Пімена Панчанкі багатыя не толькі сугучнай непаўторнасцю, але і змястоўнай напоўненасцю: «Ці плачу я, ці пяю, ці размаўляю з матуляю — песню сваю, мову сваю я да грудзей прытульваю…» «Матуляю — прытульваю…» — ды гэта ж не рыфма, а паклон роднасці, крэўнай пяшчоце!.. Не, праўда ж, не пазайздросціш перакладчыкам паэзіі Пімена Панчанкі… Паўторым, услухаемся душою і сэрцам: матуляю (матерью) — прытульваю (прижимаю — што па сэнсавай і эмацыянальнай афарбоўцы вельмі прыблізна) — як «расстацца» з такой рыфмай?! І што ёй супрацьпаставіць, што даць наўзамен?..

Нямала спрэчак, шмат тэарэтычных думак і додумак «тусуецца» вакол паэтычнага перакладу. А пытанне застаецца пытаннем. Чаму, да прыкладу, паэзія Пімена Панчанкі нешта непазбежна страчвае, няўлоўнае, але важнае, нават пры самых добрасумленных і таленавітых спробах удыхнуць ёй жыццё ў свеце іншай мовы? Цяжка знайсці адназначны адказ. Ды ўсё ж… Як перадаць боль? Як растлумачыць яго? Як перакласці?.. Боль толькі баліць…

Камень спатыкнення для перакладчыка — паэтычная мова Пімена Панчанкі. Вобраз ствараецца ў яго па законе ўзаемадзеяння — сумоўнасці альбо супрацьстаўлення, — заключанага ў асновапосных, стрыжнявых словах, якія, часцей за ўсё, рыфмуюцца, і, як правіла, сярод іх «апынаюцца» самыя глыбінна-беларускія… У тым і задачка, што панчанкаўская рыфма — не проста сугучча, а сэнсавы вузел, па-майстэрску адштукаваны вугал вянца — «у замок». Паспрабуй выняць яго з будынка…

У манаграфіі Рыгора Бярозкіна «Пімен Панчанка» прачытаў: «…Спашлюся хоць бы на такія радкі, напісаныя ў 1942 годзе (і, дарэчы, бліскуча перакладзеныя на рускую мову М. Асеевым):

Будуць вечна сады расцвітаць,
Белагрудыя ластаўкі лётаць

І дзявочыя ногі таптаць
Залатую лотаць.

Нейкае гіпнатычнае абаянне ідзе ад гэтай страфы…»

Як не пагадзіцца з мудрым у паэтычнай крытыцы Рыгорам Саламонавічам! (І яшчэ раз у піку тым, хто не-не дый кіўне на публіцыстычную «закамплексаванасць» Пімена Панчанкі.)

Аднак жа… аднак жа пацягнула мяне зірнуць на гэтыя «бліскуча перакладзеныя»… І прачытаў я:

Будут вечно сады расцветать,
Воздух ласточки резать крылами.
Будут девичьи ноги ступать
Луговины коврами…

Усё, здаецца, «паўторана» (калі не лічыць гэтае нязграбнае, з інверсіяй улукаткі «луговины коврами»), але… Але знікла ўсяго толькі «дробязь»: «лётаць — лотаць» — і што здарылася?.. Ах, беларуская *лотаць*, што нарабіла ты, пайменаваўшыся па-руску — *калужница*…

Вось і ўся загадка, вось і сакрэт паэзіі, — і Пімена Панчанкі ў тым ліку…

А re-specto?.. «Re-specto»: «азірнуцца». Азірнуцца — і ўбачыць: паэзія Пімена Панчанкі не ў тылах, яна — у авангардзе.

*1996*

## КНІГА ЯК ХРАМ

Пры сяброўскіх сустрэчах-бяседах Янка Сіпакоў іншы раз не-не ды і прыгадае з пэўнай доляй шкадавання, як спазніўся ён з-за нейкага «бала» патрапіць на наш журналісцкі курс — і ўжо вучыўся годам пазней, чым Генадзь Бураўкін, Міхась Стральцоў, Юрась Свірка, Сымон Блатун, Мікола Гіль, Алесь Дзятлаў, Герман Кірылаў, Алесь Станюта (прыкметны быў набор!..)…

Але тут жа і суцяшэнне знаходзілася: у аднакурсніках Янкі Сіпакова былі Барыс Сачанка, Віктар Дашук — кампанія таксама пашанотная…

А зрэшты, усе мы тады — і курсам-другім старэй, і маладзей, і журналісты і «чыстыя» філолагі, скажам, Рыгор Барадулін ды на год «ранейшыя» Анатоль Клышка, Кастусь Цвірка — жылі

адною дружнаю інтэрнацкай сям'ёй, штодня сутыкаліся то ў лекцыйных аўдыторыях, то ў бібліятэчных «чыталках», то на тлумных рэдакцыйных парогах. Так-так, ужо з першых дзён першакурснага жыцця купкамі і ў адзіночку наляталі мы ў Дом друку з адвечнай рэпарцёрскай надзеяй: прабіцца хоць бы адзіным інфармацыйным радком на газетную паласу. Выкладчыкамі гэта віталася і заахвочвалася: а як жа! — прафесійная жылка!… Ну а тыя, хто яшчэ і «рыфмаваў», нясмела неслі да строгіх рэдактарскіх сталоў і свае паэтычныя надзеі…

Такіх была ці не большасць. І можа, думаецца сёння, з адлегласці дзесяцігоддзяў, практычная журналістыка нашая шмат страціла, не далічыўшыся ў сваіх шэрагах творцаў, што цалкам і незваротна змянялі рэпарцёрскія пёры на пісьменніцкія «вечныя» самапіскі. Янка Сіпакоў у гэтым сэнсе выявіў добрае і выйгрышнае выключэнне. Бо жывая газетна-журналісцкая справа сталася для яго не прафесійнай адзнакай у дыпломе, а неад'емнай, сутнаснай пазіцыяй творчасці.

І нават той, «прапушчаны», год, які закінуў выпускніка вясковай школы ў раённую газету, вунь як адгукнуўся сёння: каларытнымі, багатымі на жыццёвыя малюнкі і характары, са слязою і ўсмешкаю, эсэ, якія чыталі мы нядаўна ў «Полымі» (і пра сваё першае, і няўдалае, абітурыенцкае падарожжа ў Мінск на вагоне, зайцам, і пра далучэнне да жыцця-быцця газетчыка-раёншчыка)…

Журналісцкі дапытлівы характар, «учэпістасць» да дэталі, імкненне «дакапацца» да сутнасці факта, як пабачым, заўсёды скіроўвалі, выводзілі, можа, нават і «падштурхоўвалі» Янку Сіпакова да не сказаць што сенсацыйных, але не стандартных, не трафарэтна-прадвызначаных крокаў і ў паэзіі, і ў прозе.

Ды, хутчэй за ўсё, і да прозы павярнула паэтычную сцежку Янкі Сіпакова будзённае журналісцкае «паляванне» на факты, сюжэты, калізіі, характары. І тут яго чакала несумненная ўдача.

Хоць сустрэчы з ёю былі і ў паэзіі.

Быў «Сонечны дождж», быў «Лірычны вырай». І была, выяўлялася задума, прасочвалася, прарастала імкненне — ад «проста» зборніка да Кнігі: вершаў, паэзіі. Кнігі, кампазіцыйна выверанай, змацаванай адзінствам задумы і мастацкага вырашэння. І калі ў «Лірычным выраі» толькі нясмела вызначаецца «пастаноўка задачы»: запеў — «Пачатак палёту» (лірычны ж вырай!) і фінал — «Заканчэнне палёту», а перад усім — эпіграф з Максіма Багдановіча, своеасаблівы паэтычны анонс, а можа, і

творчае крэда, прамоўленае следам за класікам: «З нізкага берагу дно акіяна вачам недаступна, — глуха ўкрыла яго сіняя цемень вады. Але ўзбярыся ўгару на вяршыню ўзбярэжнай страмніны, — кожны каменьчык на дне, пэўна, пабачыш ты стуль», — так, усё, як з вышыні птушынага палёту, то ўжо далей Янка Сіпакоў вызначэнне дае катэгарычна і небеспадстаўна: Кніга. «У поўдзень, да вады», прыкладам, «Кніга вершаў», а «Усміхніся мне» — «Кніга трывогі» — твор цэласны, кампазіцыйна складаны, але распрацаваны па-мастакоўску дакладна і выразна.

Аднак, пэўна ж, самы адметны пасад займае тут «Веча славянскіх балад» — кніга, нібы храм, узведзены талентам дойліда. Архітэктоніка яе строгая, жанрава «замкнутая», завершаная, але адзінства не пагражае перайсці ў аднастайнасць дзякуючы багатай фактычнай напоўненасці, гістарычнай шматфарбнасці сюжэтаў, іх славянскай «шматмоўнасці», агучанай беларускім словам, — сапраўднае славянскае веча на скрыжаваннях стагоддзяў і лёсаў.

Толькі што ж мы ўсё аб форме, аб форме… Яно так — збудаванне цешыць вока. Аднак храм робіцца храмам, калі ён духоўна абжыты, напоўнены святлом не толькі знешняй, але і змястоўнай прыгажосці. Якія ж малітвы ўзносяцца тут, якія гучаць прароцтвы? Ці, прамаўляючы словамі Мікалая Забалоцкага, спытаемся: «…что есть красота… Сосуд она, в котором пустота, или огонь, мерцающий в сосуде?..»

А малітвы ў храме Янкі Сіпакова гучаць зямныя, напоўненыя адвечным людскім клопатам. Бо і сам ён — з гэтых малітваўпесень:

Я з песень родам,
З восені позняй,
Дзе вечары і ночы —
Даўгія-даўгія, як андаракі жанчын,
А песні — сумныя,
Як апошнія, памёрзлыя кветкі пад вокнамі…
Жанчыны крышылі капусту
І спявалі, шаткуючы.
З імі спявала і мая маці.
Я з песні радзіўся.
Крышачку паляжаў моўчкі, услухоўваючыся:
Песня была для мяне такою сваёю,
Такою знаёмаю —
Колькі ўжо вечароў да нараджэння

Чуў я яе!
І я заспяваў…
А жанчыны здзівіліся:
— Зірніце, плача.
Аж да цяпер не разбяруся:
Няўжо яны і напраўду не зразумелі,
Што я спяваю?

І, відаць, нездарма з'явілася тут імя і паэтычная формула Мікалая Забалоцкага. Прыгледзімся ды прыслухаемся хоць бы да «Веча славянскіх балад»:

…Аслы, паабчапляныя кашамі,
Б'юць з крэктам, нецярпліва капытамі
І пазяхаюць — рана іх збудзілі…
…Вы чулі, закракталі ўжо сталы —
На іх паўсклалі горы садавіны.
І весялеюць на вачах аслы —
Як павышэлі струджаныя спіны!
А на сталах — сінеюць кабачкі,
Грувасцяцца цяжкія баклажаны.
А гэта — брынза, гэта — сыр жаданы,
А кветак пахкі акіян які!
Зеле — капуста, побач — дыні, мак —
Да гібелі ўсялякіх тут прысмак!
  — Кісело млеко,
  Чэсен лук!
  Моля, другару, —
  Купляй, сябрук!

Гэта — «Базары. Балгарская балада. XX стагоддзе». І ці не згадваецца ў разгорнутым малюнку размах знакамітых «Столбцов» Мікалая Забалоцкага? Як, дарэчы, і другога паэтычнага куміра — Уолта Уітмена, кнігу якога «Лісце травы» Янка Сіпакоў пераклаў на беларускую мову. І яшчэ раз заўважым: Кнігу — так было ў Уітмена, так было ў Забалоцкага: «Столбцы» — Кніга!..

Гэткая ж зямная, па сутнасці, малітва і ў прозе Янкі Сіпакова. Як мастацкай, так і публіцыстычнай, хоць, помнім, «кітайскай сцяны» пісьменнік паміж імі не ўзводзіць. «Нарыс, на маю думку, — гэта своеасаблівая аповесць, споведзь з лірычным, настраёвым або проста дарожным сюжэтам, дзе галоўная дзеючая асоба — канкрэтнае «я» — мае магчымасць выказацца…» —

гэтае сведчанне аўтара сцверджана і яго творчай практыкай. Цяжка (ды і ці трэба?) вызначыць, што пераважвала ў «Крыле цішыні»: «прыцягненне» жывога, непасрэднага факта, уражання ці доля мастацкага дадумвання, «закруглення», «падгонкі»… Важна іншае: мы маем непаўторна-арыгінальную, таленавітую «Кнігу вёскі» (так: Кнігу), пад крылом якой утульна і мастацкай, і дакументальна-мастацкай, і проста дакументальнай стыхіі, дзейным асобам — і рэальным, і літаратурным.

Прыгадаем яшчэ «Пяць струн» — «Кнігу настрояў» (1. Лірычная струна. 2. Дарожная струна. 3. Апавядальная струна. 4. Літаратурная струна. 5. Іранічная струна) ды «Жанчыну сярод мужчын» — апавяданні, што ў сумоўі сваім сапернічаюць з жанрава «чыста»-раманам (і ні ў чым не саступаюць яму!) аб жаночай долі-нядолі…

А вось — калі ласка: жанр спецыфічна газетны — «Інтэрв’ю з міс Паloніяй» — разрывае свае рамкі, перарастае ў якасна новую існасць — паэму ў прозе:

«Ага, вось у каго я вазьму інтэрв’ю — у пані Ірэны, дырэктара гэтага магазіна.

— Пані Ірэна, што гэта такое — кветка?

— Гэта радасць.

— Таму вы займаецеся імі?

— Не! Я іх проста люблю. А я, заўважце, нічога не раблю ў жыцці, чаго не люблю.

— А за што вы любіце кветкі?

— За справядлівасць…»

Ах, ды што яшчэ можа нагаварыць пані Ірэна! Заслухаешся. І зачытаешся… О, гэтая пані Ірэна… О, Палонія…

Ад уласных лірычных мініяцюр — праз выдатна ўзноўленыя па-беларуску вершы ў прозе Івана Тургенева — да жанру, дзе сінтэзаваліся і паэзія, і проза, і журналістыка са знакам майстра: Янка Сіпакоў — прыйшла да нас кніга паэм у прозе «Ахвярны двор».

Літаратурны пошук у форме вартасна мацуецца тут дастойнай змястоўнасцю. Мастакоўскі позірк Янкі Сіпакова заўсёды высвечвае штосьці вельмі важнае для чалавечай душы. Гэта, скажам, і мудрасць стагоддзяў, застылая (але з жывым дыханнем! у каменнай легендзе армянскіх храмаў (паэма ў прозе «Ахвярны двор»):

> «Чалавек ідзе далёка, а яго душа ідзе яшчэ далей.
> Чалавек залежыць ад дарогі, а душа ні ад кога

і ні ад чога не залежыць. Яна вольная.
І на зямлі, і на небе вольная…»

Гэта і наш чарнобыльскі боль (паэма ў прозе «Одзіум», пранізаная і радыяцыяй, і промнем надзеі і ўратавання: радок за радком — праз увесь твор — малітваю «Ойча наш…»):

«Усё лета я хаваўся ад радыяцыі», — хваліцца хлопчык з той страшнай зоны, бо пакуль яшчэ не ведае, што схавацца ад радыяцыі нельга.

«Доктар сказаў, што ў мяне дужа многа радыяцыі», — сумуе дзяўчынка з той жа самай зоны, бо ўжо ведае: тое, што з ёй, з ёй назаўсёды — радыяцыя не прастуда, яна не выводзіцца.

«Бабулечка, родненькая мая, я так хачу да цябе ў вёску, але напішы мне, калі ж ты выганіш са свае хатачкі радыяцыю?!» — рыдае малое, бо здагадваецца: не бабулечка выганяе радыяцыю, а радыяцыя выганяе бабулечку з хаты…

Такі вось «рэпартаж з радыяцыяй у крыві»…

Пачалі мы ўспамінам. І закончым тым, чым канчаецца «Журба ў стылі рэтра» Янкі Сіпакова: пытаннем-сцвярджэннем. Пытаннем-журбой перад мінулым і сцвярджэннем-надзеяй перад будучыняй: «Што такое жыццё? Гэта адзінства, узаемаразуменне і садружнасць зямлі, вады, паветра і агню.

І яшчэ думкі. Але думка можа і не адбыцца, калі няма папярэдняга ўзаемаразумення.

А можа, наадварот, думка якраз і з'яўляецца насуперак такому адзінству і такой садружнасці?»

Вечны закон і сакрэт жыцця і мастацтва: у садружнасці і — насуперак…

*1997*

## ЗАРУКА ЖЫЦЦЁВАСЦІ

Не мы, беларусы, вінаватыя, што нам з такім спазненнем давялося вырашаць (дакладней, завяршаць) тое, чым іншыя еўрапейцы займаліся недзе паўтысячагоддзя таму: сцвярджэннем і замацаваннем нацыянальных моў, «узняццем» іх з «неўсвядомленых» народных «нізоў» на ўзровень вяршыняў мастацкай літаратуры. Мы ўступілі ў гэты працэс нароўні з усімі, аднак гістарычныя ўмовы (зважаючы, не ў апошнюю чаргу, на геапалітычнае становішча зямлі нашай: скрыжаван-

не «Захад–Усход» — «Поўнач–Поўдзень») склаліся так, што дзяржаўнасць беларусаў-ліцвінаў была спачатку «прысябечана» суседам заходнім, а праз два стагоддзі — яшчэ на такі ж адрэзак часу — суседам з усходу. Мова, на якой размаўляў (ды і дзяржаўна абслугоўваўся) просты люд, гвалтоўна заганялася ў рэзервацыю побытавага карыстання. Ва ўладныя сферы ёй доступу не было, — там афіцыйна ўсталёўвалася і панавала спачатку польская, а потым руская мова. На гэты, уладны, «паверх» меркантыльна «перабіраліся» і вышэйшыя пласты грамадства…

Карані раз’ядноўваліся з кронай (з «каронай», — што адно і тое ж, калі браць пад увагу прынцып «поўнагалоснага маўлення»)…

Рабіў сваю — па чарзе — то польскамоўную, то рускамоўную справу і канфесійны «душападзел»: літаральна праз сэрца народа прайшла каталіцка-праваслаўная мяжа. Духоўныя служкі цягнулі кожны ў свой бок — з адпаведнай моўнай «інтэрвенцыяй»…

Для параўнання прыгадаем зноў эпоху Адраджэння…

Дантэ піша трактат «Аб народным красамоўстве», дзе заклікае «дапамагчы мове простых людзей, не толькі чэрпаючы для такога аб’ёмнага сасуда ваду нашага розуму, але змешваючы лепшае з атрыманага ім ці запазычанага ў іншых, каб маглі мы адгэтуль наталіць сасмаглых найсаладзейшым мядзвяным пітвом…». Іншымі словамі, гаворка ідзе аб далучэнні мовы народнай да забеспячэння патрэбаў «высокіх стыляў», аб стварэнні мастацкай літаратуры (ды і іншай) на мове жывой, італьянскай.

Пазней, у гэтым жа рэчышчы, Д’ю Беле трактатам «Абарона і ўслаўленне французскай мовы» даводзіць, што французская мова мае ўсе якасці, неабходныя мове літаратурнай.

Партугальскі філосаф і гісторык Жуан дэ Баруш выступае з «Дыялогам у пахвалу нашай мове»…

У гэты ж прыкладна час і наш Скарына сцвярджае — і сваёй перакладчыцкай практыкай, і публіцыстычна — духоўныя вартасці, багацце і мастацкія магчымасці роднай мовы, панаватарску спалучае адметы і ўзоры высокага стылю з яркімі фарбамі мовы гутарковай, народнай.

Але вось тут якраз і падступаюць тыя моманты, калі трэба гаварыць: «На жаль…»

Тады, як той жа Дантэ тэарэтычныя высновы свае (выкладзеныя, дарэчы, на латыні) геніяльна замацоўвае, ствараючы на італьянскай — жывой, народнай — мове «Боскую каме-

дыю», — вось на той самы вялікі жаль, на асновах, на падмурку, закладзеным Скарынам, не быў узведзены хоць бы адзін велічны мастацкі гмах. Яго не далі ўзвесці… А што ён мог узвысіцца, сведчыць выдатная ва ўсіх адносінах «Песня пра зубра» земляка нашага Міколы Гусоўскага, пісаная, паводле тагачасных вучоных канонаў і элітарных устаноў, на латыні. Жывой мове нашага народа ў эпоху Адраджэння не суджана было стаць мовою прыгожага пісьменства.

Постаць беларускага Дантэ… Уяўляю на хвілінку, што гэта мог бы быць і такі волат, як Адам Міцкевіч з Наваградчыны. «Litvo! Ojczyzno moja!..» — ці не генная памяць аб глыбінях мастацкага духу спарадзіла гэты вокліч? Ці не смутак аб няздзейсненым нашаптаў паэту словы: «…на беларускай мове, якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай… гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана…» — словы, з якімі звяртаўся ён да французскіх студэнтаў, чытаючы ім лекцыю ў 1841 годзе. Мог (у тым часе, разумеецца) стаць і Фёдар Дастаеўскі паходжаннем з Дастоева пад Іванавам (вядомым не адно толькі тым, што краўцы выштукоўвалі такія файныя кажушкі). Горкім дакорам гучаць тастаментныя словы, сказаныя калісьці нашым славутым земляком: «Усякая здаровая і земская сіла верыць у сябе і ў сваю праўду, і гэта ёсць самая першая прыкмета здароўя народнага. Гэта народная вера ў сябе і ва ўласныя сілы — зусім не застой, а, наадварот, зарука жыццёвасці і энергіі жыцця і ні ў якім разе не выключае прагрэсу і вялікага поспеху. Без гэтай веры ў сябе не выстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не ўратаваў бы сябе ніколі…» Як шмат сказана Фёдарам Міхайлавічам Дастаеўскім!

Так, сапраўды, наканаваны нам быў гэтакі лёс — выжываць…

Абярэжніцамі, захавальніцамі душы народа, роднай мовы былі наша вёска, наша казачная і песенная зямля. Мова развінала свае крылы ў мастацкіх выявах вуснай народнай творчасці, каб захаваць карані, вытрываць усе выпрабаванні і забароны, каб дайсці да нашчадкаў, узвесніцца, расквітнець словам Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага…

А што ж нашчадкі?

Пахвальна кажуць пра беларускую талерантнасць. А ці не баечка гэта? — з тых, патаемна-вытанчаных спосабаў?.. Якасць, па-чалавечы станоўчая, перарастае ў адмоўную… Беларус, мовячы словамі Багушэвіча, «сам сябе баіцца»…

Баіцца (на шырокай публіцы) гаварыць па-беларуску, бо гэта як бы… «не па-людску»… Баіцца ў сваёй хаце сказаць, што ён тут не госць, а гаспадар… Сарамліва «захінае» ад людзей сваю беларускасць, — чым, па-добраму, ганарыцца трэба на свет цэлы… Калі ж, калі будзе адолены гэты комплекс «нацыянальнай непаўнавартаснасці»? Гавораць жа англічане па-англійску, французы — па-французску, рускія — па-руску, — і ні ў кога ж не выклікае гэта хоць бы кроплі здзіўлення якога ці недаўмення. Проста глебы для думкі такой няма, як кажуць, сітуацыйнай падставы. А загаворыць беларус па-беларуску — тут жа і спахопіцца: помніць, што ўчыніў штосьці публічна не зусім звычайнае, нязвыклае. Помніць тое, аб чым іншыя людзі і «помніць» не маюць «зачэпкі». Гавораць — і ўсё на гэтым…

Здаецца, працэсы, якія адбываюцца цяпер у асяродку адукаванай моладзі, вястуюць, што беларуская мова зробіцца высокай мовай эліты — над агульнапобытавай «трасянкай».

Стане той «латынню» — мовай сучаснага «сярэднявечча» — для паслуг вузкага кола людзей… Добра, калі не назаўсёды…

## ГУКАЮЧЫ СЛОВА…

### 1. Генетычная памяць вобраза

Пытанне наіўнае і цікаўнасць марная, калі не сказаць пустая: «Хто быў першым паэтам?» Для адных — «наіўнае», бо адказ спаконвечна вядомы і аксіёмны — доказаў не патрабуе. «Марная» — бо спрэчка іншых, «другіх», з гэтымі «аднымі» ніколі да перамогі не прыводзіла і не прывядзе…

«Адны» — гэта тыя, хто цвёрда верыць: усё стварыў Бог, ён Першатварэц. Ён сказаў тое запаветнае Слова, воляю якога з'явілася ўсё існае на Зямлі. Недарэмна ж засведчана: «І Слова было ад Бога, і Слова было Бог». А стварыўшы ўсё, Усявышні не мог не парадавацца: гэта было цудоўна! Вось вам творчасць і вынік — прыгажосць. Паэзія ў першародным вобліку.

І ўсё ж, пагадзіўшыся з гэтым, зойдзем са сваім «пытаннем» з боку «другіх»: няўжо Тварэц меў яшчэ і клопат усяму-ўсяменькаму — кожнай кузурцы, кожнай травінцы, — ну, словам, кожнаму-кожнаму яшчэ і імя даць? І гэтак жа «наіўна» адкажам: не, пэўна, гэты клопат ён «пераклаў» на вянец свайго тварэння, даручыў зрабіць гэта чалавеку. Не па-боску было б

пазбаўляць сваё любімае дзіця, кажучы па-сучаснаму, права творчага выбару…

Вось так, зрабіўшы прымірэнчы, сустрэчны крок ад «адных» да «другіх», ці, калі хочаце, ад «другіх» да «першых» (пакінуўшы ў спакоі высокія тэрміны — «ідэалісты» і «матэрыялісты»), будзем шукаць таго першапаэта між людзей…

Трэба думаць, ля калыскі кожнага слова стаяў вобраз — гукавы (слыхавы), зрокавы і інш. Назва прадмета, з'явы падказвалася, дыктавалася чалавеку першасным успрыманнем, фіксацыяй у пачуццях, а потым у свядомасці і памяці іх, гэтых прадметаў і з'яў, характэрных прыкмет, адзнак. У слове замацоўвалася іх сутнасць. У слове і цяпер таеміцца іх душа, пазначаная душой чалавека. І таму хвалёны паэтычны гукапіс, гэтак званая алітэрацыя, усяго толькі вяртанне слову яго карэнных, прыроджаных, але «забытых» вобразных якасцяў, якія і спарадзілі тое слова, далі імя з'яве, прадмету — паводле выкліканых імі пачуццяў, адчуванняў. Зразумела, шлях той першай «сустрэчы», першага рэагавання на кантакт да сённяшняга слова не просты, не аднalінейны, часта апасродкаваны. Ну вось, скажам, «жыта». Корань праступае, этымалогія прасочваецца ясна: «жыць». Гэта што тычыцца сэнсавага напаўнення (хоць не так ужо і проста сцвердзіць, якое з іх, гэтых слоў, было першасным). Але звернемся да напаўнення гукавога, дзеля гэтага «ланцужок» прадоўжым: «жыта, пшаніца, ячмень, авёс… — боб (!)» — ці не праўда: як на фоне гэтага «гукавога шэдэўра» (на пачатку звонкага, з падскокам, а ў канцы прыглушанага падзеннем: «боп») праступае, праяўляецца шапаткая «мова» жыта, пшаніцы, ячменю (з учэпістым, як вус ягоны, «ч»), аўса (з сонечнай спеласцю яго мяцёлак)…

Гэтак жа каларытна «размаўляе» агародніна: «бручка, морква, агурок» — чуеце, як яны храбусцяць, крамяна хрумстаюць, гэтыя словы? А вось яшчэ адна агародная «парачка»: ядраная «рэдзька» і куды «сціплейшая» норавам, з прымыканнем на вуснах — «п», бо саладзейшая: «рэпа»…

Зазірнём цяпер у «царства лясное»: «дуб, граб» — як удар сякеры, кароткі, з адскокам, — не па зубах ёй такая цвердзь… А тут ужо мякчэй і падатлівей: «клён, таполя»… «Бяроза, асіна…» — сумоўе лісця, а да таго ж — і каляровая падсветка: «бяроза» — белізна, «асіна» — падсіненая… Бывае адзін гук — а з якім характарам! «Сасна», «хвоя» — і «елка»: такое ж ужо яно «сукаватае», гэтае «к», — рыхтык пра яго, пра «задзірысты» нораў яловай драўніны кажуць цеслі і асабліва сталяры: «Усім сукам дараваў, а яловаму — павек не дарую…»

Варта толькі крануцца слыхам гукавога ладу слова — і ты апынешся ў свеце і Першамузыкі, і Першазместу. «Снег» і «пясок» — выключна «далёкія» сутнасці, але рызыкнём супаставіць іх — ну хаця б так: «снег» — лёгкія санкі, бег палазоў, са свістам: «с» — «г» (не «выбуховае», а наша, беларускае, з фрыкатыўным прыдыханнем); і «пясок» — здавалася б, тое ж самае «коўзкае», «слізгучае» «с», але побач з ім зусім іншыя «памочнікі-асістэнты»: «тармазное» «п» і зноў жа знаёмае наша, «задзірыстае», супраць руху, «к»… От і выязджай і праімчыся на санках па сыпучым пяску… (А ёсць яшчэ, побач з «пяском», куды мацнейшая на шорсткасць ці на жорсткасць, калі хочаце: «жарства»…)

Затое «дарога» — о, гэта ўжо іншая «музыка»: і грукат колаў па гулкім доле, і «падтакванне» капытоў… А ствараецца гукавы «малюнак» гэтымі «д», «р», «г» — з уздыхам-выдыхам: «а», «о», «а»… Для параўнання: «сцежка» — шапатлівая, вузкая істужка, у адзін след — як ступіць нагой…

Ну а як не згадаць яшчэ адну паралель — «хмара» і «воблака». Тут і пахмурна, і гром рыкае, а там вольны, лёгкі палёт, ды яшчэ і блакіт ёсць!..

Зусім зразумела, што ў самым першасным працэсе «пайменавання» выдзяляўся і замацоўваўся толькі элемент «адзначанасці», а не «паэтычнасці». Мэта была ўтылітарная, а не мастацкая. Пэўна, гэтак жа нараджаліся і словы-заклёны, словы-абярэгі, словы-заклікі. Аднак, адрываючыся ад канкрэтнай прадметнасці, набываючы тыповасць сімвалаў, яны тым самым набліжаліся да ўласна слоўнай творчасці і пераходзілі ў стан катэгорый вобразных. Шлях гэты — ад слова-першаназвы да слова як элемента ў сінкрэтычнай тканіне абрадава-рытуальнай, танцавальна-музычнай дзеі, а потым і мастацкага твора — няпросты і доўгі. Яшчэ больш складаны (і, вядома, у зусім іншых гістарычных стасунках) быў шлях словатворчасці ў сферы абстрактнай лексікі, навуковай тэрміналогіі. Тут ужо актыўна «працавала» не толькі асацыятыўнае, але і лагічнае мысленне…

У слове замацоўвалася духоўнае станаўленне народа. Носьбіт мовы — ахоўнік вялікага інтэлектуальнага і эмацыянальнага багацця, а транслятар яго — з пакалення ў пакаленне — слова. Мова — душа народа. Берагчы, узбагачаць мову — значыць, берагчы, узбагачаць душу народную. Мова народа — той неацэнны і непаўторны скарб, якім ён робіць неацэнны і непаўторны ўнёсак у скарбніцу сусветнай цывілізацыі…

Але нас цікавіць зараз адно: падкрэсліць генетычную аснову вобраза, закладзеную ў першаслове. Яна і сёння — праз эпохі і

тысячагоддзі — абуджаецца і дае мастаку спосаб стварыць яркія мастацкія малюнкі, накшталт: «У бубны дахаў вецер б'е...» (Максім Багдановіч) — з характарыстычнай дакладнасцю: гэта — алітэрацыя горада, гэта — часцінка гарадскога пейзажу. Бо дзе дах — там дом. Як дзе страха — там хата, і там ужо зусім іншы, вясковы, вецер, што «па стрэсе снегам шорхае...» (Якуб Колас).

Як Бог з Хаосу стварыў гармонію Сусвету, так кампазітар стыхійны космас гукаў скіроўвае ў рэчышча музыкі; гэтак і паэт у невычэрпным моўным акіяне чуе і «выводзіць у людзі» тыя, адзіныя, словы, раўназначныя, гарманічна адпаведныя яго пачуццю, яго душэўнаму настрою і інтэлектуальнаму запыту. Слова — перш-наперш гучыць, а потым ужо выяўляецца сэнсам. Гэты «гукавы штуршок» рэзануецца не толькі з фізіялагічным слыхам, але і, — пэўна, перш за ўсё, — з тымі вобразамі, што тояцца недзе ў глыбінях душы, чакаюць свайго паклікання... Нездарма ж Аляксандр Блок у хвіліну творчага крызісу з горыччу ўсклікнуў, што ён не чуе музыкі, маючы на ўвазе гармонію Сусвету і ўласнага духу. Яна гучыць — гэтая велічная сімфонія: яе трэба толькі пачуць. І яе чуе геній паэта, увасабляючы ў слове. Тое ж самае меў на ўвазе і Мікалай Васільевіч Гогаль, калі гаварыў пра «...гукі душы і сэрца, выяўленыя словамі...».

## 2. Рыфма, гучная сяброўка...

Адным з самых па-мастацку распрацаваных спараджэнняў гукапісу з'яўляецца рыфма — эўфанічна-кампазіцыйны элемент арганізацыі верша: сістэма паўтарэння сугучнасці ў яго радках асобных гукаў ці іх сукупнасцяў.

Вывучэнню, даследаванню рыфмы прысвечаны шматлікія працы выдатных тэарэтыкаў літаратуры. Тут ужо, здаецца, сказана і раскладзена па навуковых палічках усё — да самых драбніц.

Мэта гэтых радкоў — зусім сціплая: то ўсяго толькі пазначаныя цягам часу моманты судакранання з моваю верша, вешкі чытацкага здзіўлення, захаплення, а бывае, і засмучэння, на паэтычнай дарозе. Яна цудоўная — і кожны можа пабачыць на ёй і сказаць пра гэта штосьці сваё, як, між іншым, і па-свойму адказаць на пытанне, пастаўленае аднойчы выдатным рускім паэтам Мікалаем Асеевым: «Зачем и кому нужна поэзия?»

Дык вось: адкуль — і навошта — прыйшоў верш?

Генезіс яго, пэўна, як і ў мовы наогул, — ад першабытнага гуку, які сведчыў ці нейкую трывогу (перш за ўсё!), ці радасць, ці заклік…

І надалей: песня, заклінанне, галашэнне неслі ў сабе і гук (як праяву эмоцыі), і слова (як праяву канкрэтнага зместу, прычыну гэтай эмоцыі).

А потым — верш «адгалінаваўся» (ад песні, заклінання, галашэння): слова і музыка разышліся (але толькі ў гэтым, вершатворчым, наканаванні: каб даць волю ўласна паэзіі, паэтычнаму слову; у астатніх жа — спецыфічнага прызначэння — выпадках слова не было «адпушчана»).

Але, несумненна, верш не мог «начыста» вызваліцца ад законаў, па якіх ён жыў у тым, першародным, першасна-сінкрэтычным жанравым асяроддзі: з вершам — як мастацтвам слова — засталіся рытміка і сугуччы ў самых розных праявах, а найперш у той, што набыла потым класічнае развіццё і вядомая нам сёння пад іменем «рыфма».

Радаслоўная рыфмы багатая і старажытная — яна сягае аж у антычны свет.

Адзін з міфаў Старажытнай Грэцыі расказвае пра німфу па імені Эха — увасабленне рэха.

За тое, што Эха гамонкай сваёю адцягвала ўвагу раўнівай Геры, у той час як муж яе Зеўс забаўляўся з німфамі, разгневаная багіня пазбавіла німфу мовы, пасля чаго Эха магла толькі паўтараць канчаткі пачутых ёю слоў…

А вось якая пра гэта — у крыху іншай варыяцыі — паэтычная версія Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна:

## Рыфма

Эха, бяссонная німфа, блукала над плынню Пенэя.  
Феб пабачыў яе і жарсцю пякельнай успыхнуў.  
Німфа плод захаплення закаханага бога панесла  
І ў пакутах яна нарадзіла паміж гаманлівых наяд,  
А дачушку ад маці прымала сама Мнемазіна.  
Вырастала дзяўчынка-гарэзніца ў хоры багінь-аанід,  
Прыгажосцю — як Эха, — па маці; слухмяная музам;  
І на зямлі Рыфмай паэты назвалі яе.

Нагадаем: Феб — другое імя Апалона, бога — апекуна музаў; Мнемазіна — маці дзевяці музаў, народжаных ёю ад Зеўса;

наяды — німфы вод; ааніды — адно з найменняў музаў. Вось якое атачэнне ў Рыфмы, вось якая спадчыннасць — боская!..

І ўжо Рыфма — не так сабе, не проста сугучча, а — багіня. Ну не зусім, не з самых галоўных, але ўсё ж народжаная німфаю ад бога, а значыць, з боскімі пачаткамі… Калі ўслухацца, дык і гучыць ужо ад нараджэння «ў рыфму» (ды яшчэ якую, па-сучаснаму адштукаваную!): німфа — рыфма…

Цікава, што ўкраінская назва рыфмы — рыма. Гэта, бадай, з прычыны адсутнасці ва ўкраінскай гаворцы гука, пазначанага літарай «ф», як і ў нас, у беларусаў, ды і ў балгараў… Мы абыходзіліся з гэтым «ф» (ці, дакладней, без яго) з дапамогаю замены: «Фёдар — Хвёдар (Хведар)» альбо — на «балгарскі манер»: «Тодар»… Калі падпарадкавацца гэтаму правілу, то слова «рыфма» загучала б па-беларуску як «рытма», — і яшчэ адзін валадар вершаванай мовы «рытм» набыў бы сабе сяброўку — «рытму», накшталт: Ян і Яніна, Васіль і Васіліна. Што, дарэчы, было б вяртаннем да каранёў, да вытокаў, бо па-грэчаску і «рытм», і «рыфма» азначаліся адным словам, сэнс якога ў перакладзе «суразмернасць»…

Заўважым яшчэ, што і ўладарнасць рыфмы ў паэзіі сапраўды боская: нездарма ж слова гэтае, апроч функцыянальнага, канкрэтнага сэнсу (сугучча), заваявала і вызначальную пазіцыю, атаясамліваючыся непасрэдна з паэзіяй, як у Яўгенія Баратынскага, да прыкладу:

Было, падлетак, звонкім клікам
Я рэха па лясах будзіў,
І водгук-двойня ў нетрах дзікіх
Мяне трывожна весяліў.
Ды іншы час з душой гамоніць,
І рыфма юнака палоніць —
Лясному рэху наўзамен…
Гуллівасць вершаў залатая!..

Як і належыць ёй — па боскай іпастасі — рыфма не мае, і не можа мець, раз і назаўсёды вызначанай выявы, яна і шматаблічная, і шматгучная. Ёсць толькі пэўныя «рамачныя» контуры. Найбольш вядомыя, скажам так, зрокава-кампазіцыйныя характарыстыкі: па размяшчэнні ў страфе — рыфмы сумежная, перакрыжаваная, кальцавая, або апаясная; па месцы ў радках — рыфмы канцавая, пачатковая, унутраная; па становішчы гуказлучэнняў адносна націску — рыфмы муж-

чынская, жаночая, дактылічная, гіпердактылічная; нарэшце, па характары гукавой насычанасці — простая, састаўная, усечаная, распыленая, апорная, або карнявая, кансанансная, контурная, глыбокая… — можна і яшчэ працягваць: прастора на гэтай дзялянцы для пошукаў і варыяцый не рэгламентаваная. Бо, як слушна заўважыў наш вядомы тэарэтык літаратуры, ён жа і ўніклівы рыфмазнаўца, прафесар Вячаслаў Рагойша, «характар і якасць усіх элементаў формы, у тым ліку і рыфмы, залежаць ад канкрэтнага зместу паэтычнага выказвання».

Сапраўды так, ад зместу. І, дададзім, ад меры таленту: ёю вызначаецца мера — аптымальная і гарманічная! — узбагачэння мовы шляхам выкарыстання яе эўфанічных магчымасцяў.

Рыфма — не толькі гукавы, але і змястоўны «рухавік» паэтычнай думкі. Гэта своеасаблівы «сігнал», які падаецца словам, і па яго «выкліку» настройваюцца «сілавыя лініі», да якіх злятаюцца сугучныя і — самае важнае — сэнсава патрэбныя словы. Можна сказаць і так: рыфма — адмысловы ліхтарык, а калі хочаце, дык, па-сучаснаму, і лакатар, які «высвечвае», «вылоўлівае», «выводзіць» на сваю «хвалю» тыя, адзіныя, словы, якія, здаецца, пасылае неба… «…Рифм сигнальные звоночки…» — паэтычна акрэсліла гэты стан, гэты паэтычны крок да здзяйснення Ганна Ахматава.

Метафара — код, рыфма — ключ да яе…

Эха — рэха — рыфма… Столькі сказана пра цудоўныя праявы старажытнагрэчаскага міфа, аднак жа — у паэтычнай практыцы — рыфмаванне ўпершыню пачало сцвярджаць сябе ў Кітаі — недзе тысячы тры з паловай гадоў таму…

І сёння можна толькі ўявіць, калі ўлічваць іерагліфічнае пісьмо, дзе рыфма, не толькі як ёй і належыць, гучыць, але яшчэ і «глядзіцца», «бачыцца», рыфма графічная, з якімі цяжкасцямі сутыкаецца перакладчык такой паэзіі. Манарыфма (а менавіта яна ўласцівая класічнаму кітайскаму вершу) так і застаецца жыць толькі ў арыгінале…

Наогул пры перастварэнні паэзіі на іншую мову першымі «ахвярамі» гэтага «вершатрусу» аказваюцца гукавая інструментоўка і, вядома ж, рыфма.

І гэтага не ўнікнуць. Віды мастацтва, заснаваныя на непасрэдным выкарыстанні слова, — славеснасць, мастацкая літаратура — па сутнасці сваёй былі, ёсць і будуць самымі нацыянальнымі: яны — жывуць у мове, яны — паміраюць без мовы ці, прынамсі, назаўсёды застаюцца глуханямымі. Вось чаму і пераклады літаратурныя, асабліва паэтычныя, — гэта ўжо

зусім іншыя, адрозныя ад арыгінала, тварэнні. Жывыя, але — не тыя. Каб «атрымаць» пераклад, трэба спачатку «змярцвіць» арыгінал, «раскідаць» жывы арганізм, а потым ужо — у іншай мове — «сабраць», стварыць, спарадзіць штосьці новае. Вось ад таго, як перакладчык «сабраў» гэтае «новае», і залежыць яго мастацкая вартасць, яго, скажам, існасць, жыццё, урэшце, у новай мове: альбо гэта ўсяго толькі муляж ці пачварны мутант, альбо прыгожае тварэнне з жывою душой…

Усё гэта, паўторым, асабліва балюча адчувае на сабе паэзія і, натуральна, самі паэты. Пэўна ж «дапяклі» перакладчыкі Аляксандру Твардоўскаму, калі параўноўваў ён паэтычны арыгінал з лугам у разнатраўі і шматквецці, а пераклад — з гэтым жа самым, толькі скошаным і складзеным у стог сена… Максім Лужанін гаварыў: «Арыгінал — віно, а пераклад — вада…» То, можа (і сапраўды, часцяком яно так), п’ючы ваду, мы думаем, што гэта віно… У лепшым выпадку, зразумела, надараецца і віно, але ўжо іншай маркі… Наконт выдатных перакладаў (з Роберта Бёрнса), зробленых бліскучым майстрам Самуілам Маршаком, хадзіла эпіграма:

При всём при том, при всём при том,
При всём при том, при этом
Маршак остался Маршаком,
А Роберт Бёрнс поэтом…

Дык вось: пры гэтай «неперакладнасці» паэтычнага твора адным з самых непадступных яго элементаў з’яўляецца рыфма. Але — ствараючы, часцей непераадольнае, супраціўленне перакладчыку — рыфма якраз і застаецца самым верным вартавым глыбіннага паэтычнага характару, заснаванага на багацці і непаўторным каларыце мовы.

Рыфма — візітоўка і верша, і яго творца.

У паэтаў нават узаемаадносіны з рыфмай стасуюцца адпаведна характару: у Пушкіна — па-сяброўску нязмушана, лёгка, даверліва, з пэўным свецкім бляскам: «рыфма — гучная сяброўка…»; Максім Багдановіч дапытліва ўглядаецца ў эўфанічна-выяўленчыя магчымасці рыфмы, — вось як ён пісаў пра майстэрства Янкі Купалы: «…канцы строк аж звіняць, з’яўляюцца рыфмы і пасярэдзіне верша, нават словы да яго падбіраюцца зычныя, моцныя…» На ніве беларускай паэтыкі Багдановіч выступае першадаследчыкам, і зусім зразумелае яго імкненне абапірацца на тэарэтычны грунт, закладзены і назапашаны папярэднікамі ў іншых літаратурах. Напрыклад, Гюэ,

французскі філосаф і сацыёлаг, сцвярджаў, што назначэнне рыфмы — «падкрэсліваць форму метра, абводзячы цвёрдым контурам яго граніцы…». У Дзмітрыя Мяражкоўскага да рыфмы стаўленне экзальтаванае, можна сказаць, закаханасці:

Як пацалунак, як акорд музычны,
Так рыфма з рыфмай параю спакуснай
Зліваюцца ў суладдзі гарманічным
Памкненнем закаханых — вусны ў вусны…

У Маякоўскага рыфма — працаўніца, можа нават, падзёншчыца: калі яна «не здзіўляе, не спыняе вашай увагі», паэт тут жа яе адхіляе ад службы, — рыфма павінна працаваць, бо (параўнаем з Багдановічам!) «рыфма звязвае радкі», «рыфма вяртае вас да папярэдняга радка, прымушае ўспомніць яго, прымушае ўсе радкі, якія афармляюць адну думку, трымацца разам», «без рыфмы (разумеючы рыфму шырока) верш рассыпаецца…».

Вось тут, здаецца, самы раз прыгадаць даўнюю (а ў пэўным сэнсе і схаластычную) спрэчку прыхільнікаў строгай класічнай паэтыкі з апалагетамі белага верша і свабоднага — верлібра.

Недзе на пачатку XX стагоддзя С. Андраеўскі, расійскі юрыст, паэт і крытык, абвясціў сваім артыкулам «Вырождение рифмы», што будучыя катаклізмы ў грамадстве «ўзламаюць углыбіню прыгожы верш» і перад ім адкрыюцца небывалыя далягляды — шырокія і перспектыўныя… На «вызваленне» верша праз паўстагоддзя (у зусім слушных захадах усталяваць правы на раўнапраўнае жыццё верлібра) скіраваў сваю думку і наш беларускі літаратуразнаўца Алесь Яскевіч: «Іншы раз (усё ж асцерагаецца!.. — *В. З.*) рыфма і рытміка не даюць магчымасці ўжыць тое адзінае слова і паставіць на адзіна вызначанае яму месца, каб дасягалася гранічная сэнсавая дакладнасць. У класічных памерах часта атрымоўваецца, што рыфма «вядзе» думку паэта…»

Трэба разумець, што рыфма «вядзе», але не туды…

У такім разе паслухаем Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна:

…слоў бязладдзе
Ў дрымотнай музы гвалтам вырываю.
Да гука гук не йдзе… Правы губляю
Над рыфмай, над маёй прыслужніцай абранай:
Верш вяла цягнецца, халодны і туманны…

Гэта аб тым, калі і ў прыродзе, і ў грамадстве завейна і сцюжна, а значыць, і на душы пануе адпаведны настрой.

Нудотна і цяжка без вернай сяброўкі — рыфмы… Пушкін ведаў, пра што гаворыць. Для яго «рыфма была праверкаю правільнасці думак», — слушна заўважыў Юрый Тынянаў у рамане «Пушкін».

А таму — не будзем упадаць у экстаз, выгукваючы: хвала верлібру, хвала беламу вершу!.. Хай жывуць і яны здаровенькія. Але ці ёсць падставы з катэгарычнасцю вінаваціць рыфму ў пэўным паэтычным «прабуксоўванні»? Прычына — у іншым: сакрэты ўсе трымае ў сваёй «валодзе» «суб'ект», імя якому — талент.

І ці не здараецца такое, калі, назваўшыся верлібрам, верш паўстае перад чытачом бяздушным стварэннем, вершам нямым і глухім. Ці ў лепшым выпадку, вершам«белабілетнікам», не годным «да страявой»?..

Такое «вершаскладанне» пазбаўлена каранёвай сувязі з першаасновай — і не толькі ў эмацыянальна-гукавым, але і ў сэнсавым ладзе: адлегласць паміж энергетычнымі палямі слоў павялічваецца катастрафічна, сэнс не дагукваецца сэнсу, слова не пазнае слова. Паэтычны вобраз разбураецца. Пачынаецца празаічны — роўнаскіраваны, пастýпальны рух. А тут ужо іншыя законы, іншае мастацтва, хоць і на аснове таго ж матэрыялу — слова…

Права на эксперымент — адно з фундаментальных правоў у краіне Паэзіі. Але — сістэма (ці бессістэм'е) фармальных пошукаў не мае права закрэсліваць сістэму лагічных сувязяў, як апошнія не павінны браць верх над эмацыянальнай узнёсласцю, шырынёй і дакладнасцю…

Зробім невялікі прыпынак, каб пачытаць…

## Ноч

Ноч перайначвае рэчаіснасць: утойвае відавочнае і ўвідавочнівае патаемнае.

Учора — вечар, заўтра — раніца, сёння — дзень, і толькі ноч не мае свайго адпаведніка, які азначыў бы яе месца ў часе: яна — прысутнасць адсутнасці, нішто, ніякая, нічыя.

Ноч змыкае людзям вочы і адмыкае новыя — не бачныя для вачэй — далячыні.

Уначы, знітоўваючы зямлю і неба, палымнеюць знічы, коцяцца, знячэўку сарваўшыся з зорных галінаў, знічкі, а ў неабсяжных ночвах нябёсаў плавае месяц-човен.

Ноч як нябыт: хвіліна ў ёй не адрозніваецца ад вечнасці, пакута ад шчасця, пачатак ад завяршэння, набытак ад страты, і калі, скончыўшы свой чараўнічы сеанс, ноч растае, свет паўстае абноўленым, «нашчым», перапісаным начыста.

«Аб чым ён, гэты верш?» — «па-шкалярску» адразу ж я запытаўся сам у сябе… Калі ноч — небыццё, то як пачувацца, напрыклад, мне: я ж гэтым часам, бывае, і чытаю штосьці, і пішу… Ці ў небыцці знаходжуся?.. Пэўнага адказу я не прыдумаў. І тут жа высмеяў таго «самога сябе»: ды сапраўдную ж паэзію хіба можна проста вось так узяць ды пераказаць «сваімі словамі»?.. І ўсё ж «пераказваць» пачаў (было тое на старонках «ЛіМа» — ад 13.03.1992):

## Ноч,
## альбо Човен у ночвах

Ноч — перавернутыя ночвы дня, перакручаная нарубцы кашуля рэчаіснасці.

Учора — заўтра, вечар — раніца, дзень — сёння, і толькі ноч азначае нішто: яна — пустата ў адсутным посудзе, яна — нічыя, як мара пра ніякую жанчыну.

Ноч — начлег вачэй: яна начэплівае на зрэнкі замок і адчыняе заначку знячэўных далячыняў.

Уначы абнашчаныя знічы нахіляюць зорныя гарлачы, абліваючы зямлю нябеснаю ласкай, а ў неабсяжных ночвах нябёсаў плавае човен-месяц, і знічкі ляцяць пырскамі з вясла.

Ноч як набат: і хвіліна ў ёй — біла вечнасці, пакута — шчасце, пачатак — канец, набытак — страта, і калі гэты чароўны сон растае, значыць, сеанс ночы закончыўся і ў начышчаных, наваксаваных да сонечнага бляску ботах — з чорнага ў белае — выходзіць пісаць чыставік дня.

Ну вось — быццам і ўсё… І зноў запытаўся я: аб чым гэта?.. Аб тым жа самым… Чаму? Гэта падказала мне «ч». Чуеце — як па яго камандзе выстройваецца гукарад «з характарам» (толькі ў арыгінале — з усёй сур’ёзнасцю, а ў «перайманні» — з усмешкай): «ноЧ — перайнаЧвае — рэЧаіснасць — відавоЧнае — увідавоЧнівае — уЧора — веЧар — ноЧ — воЧы — не баЧныя — для ваЧэй — даляЧыні — унаЧы — знітоўваюЧы — зніЧы — зняЧэўку — зніЧкі — ноЧвах — Човен — ноЧ — веЧнасці — шЧасця — паЧатак — сконЧыўшы — ЧараўніЧы — ноЧ — нашЧым — наЧыста…» Настойлівае паўтарэнне. І хіба яно — выпадковае?! А гэтае «ноЧ», што сігнальна ўспыхвае

праз пэўныя прамежкі, каб не разбегліся?!. І яны трымаюцца — разам, гуртам. Можна нават з гэтых «прыЧэкнутых», калі ўдумацца, аўтаномны верш «выснаваць»…

Цяпер паслухаем, што сведчыць Алесь Разанаў: «…у вершаказах я вынайшаў нейкі свой спосаб рыфмоўкі, такую рыфму, якую я сам называю дамінантнай. Дамінантная рыфма — гэта тое імя, тая назва, якія маюць рэч, прадмет, з’ява. І ўвесь вершаказ падпарадкоўваецца, слухаецца гэтага ключавога слова… вершаказы… дазваляюць слову, каб яно расказала, з кім яно сябруе, як яно адчувае іншыя словы… пачынаюць адгукацца блізкія словы…» Алесь Разанаў — заканадаўца. І таленавіты! Сам вынайшаў — сам жа таленавіта і выкарыстоўвае сваё вынаходства. Горш, калі пачынаюць выяўляцца «механічныя» паслядоўнікі… Не дужа хітры занятак «штукаваць» «філасафізмы»… Стократ цяжэй сцвердзіцца праз свой шлях. «Рыфмаваны верлібр» — гэта яшчэ паўцаны. Было б што (ці каго) апранаць. Быў бы змест, а форма знойдзецца, народзіцца разам з ім… Народная мудрасць падказвае: «Па вопратцы сустракаюць, а…» Вось пра тое, што бывае за гэтым «а…», не варта забывацца…

Дарэчы, вершы такога кшталту, дзе «больш» ад «розуму», чым ад душы, — неяк самі напрошваюцца на «перайманне», на пародыю… А паспрабуйце спарадзіраваць «Я встретил вас, и всё былое…» ці «Мой родны кут, як ты мне мілы…» Сапраўднае, трапяткое пачуццё, эмоцыя — пародыі не паддаюцца, ёй яны не падлеглыя…

Зрэшты, як заўважыў Антон Паўлавіч Чэхаў вуснамі аднаго са сваіх герояў (Трэплева з «Чайкі»), «…справа не ў старых і не ў новых формах, а ў тым, што чалавек піша, не думаючы ні пра якія формы, піша таму, што гэта вольна льецца з яго душы…».

Можа, сказана і занадта катэгарычна, але, здаецца, найбліжэй да ісціны…

Бо інакш адкрыецца прамы шлях да электронна-машыннага вершаканструявання. Музыкі намастачыліся ўжо эксплуатаваць тэхніку — чарга за «прарабамі слова»… Рыфмаў — безліч (адных толькі слоўнікаў спецыяльных колькі!), закладвай у электронную памяць — і бывайце, вольныя паэты!.. Рыфмаванай прадукцыяй «заваліць» машына. І, пэўна, самы неаспрэчны поспех здабудзе яна, складаючы паліндромы, дзе тэксты чытаюцца аднолькава як спераду назад, так і ззаду наперад (трымайся, Віктар Жыбуль, беларускі паліндраміст!)…

Той жа самы «ўхіл», што і С. Андраеўскі, прадэманстраваў — ужо ў вершы — Павел Антакольскі («Четвертое измерение», 1964). «Самапачуванне» рыфмы, яе развіццё і рух паэт наўпрост звязвае з узрушэннямі ў грамадстве, у жыцці наогул. І робіць ён гэта арыгінальным чынам. Пакуль гаворка ў вершы ідзе пра час «да атамнай катастрофы», паэт карыстаецца рыфмай пераважна такога кшталту: «миг — самих, глине — богине, сначала — предназначала, доброты — кроты…» — сугучча глыбіннае, карнявое, з паўторам апорных і галосных, і зычных… Ды вось «несчастный человек включил рубильник» — і грымнуў атамны выбух. І як бы адбылося зрушэнне, змяшчэнне свету на іншую фазу, і рыфма ў Паўла Антакольскага пераходзіць на дысананс, кансананс і інш.: «переходила — предела, пар — пир, пульс — вальс, плащей — прощай…», і самая цікавая вось гэта «пара»: спачатку «лета — Джульетта», а потым «Джульетты — лютый»…

Знікла гармонія, музычныя галосныя ўступілі ў супярэчнасць самі з сабой, адшукаўшы сабе іншую, няхай і чужую, адпаведнасць, жорсткая «неадушаўлёнасць» зычных цягне ў хаос, каб стварыць новую паэтычна-гукавую рэальнасць…

Гучанне само па сабе ўражвае, аднак сцвярджэнне аб прычынах, аб непасрэдных яго вытоках гучыць не зусім доказна і пераканаўча. Вернемся ў час «даатамны», умоўна кажучы, «час Андраеўскага», пачытаем Аляксандра Блока, хаця б «Снежную маску», і пабачым, якая разнастайнасць рыфмаў:

Не видать ни мачт, ни паруса,
Что манил от снежных мест,
И на дальнем храме безрадостно
Догорел последннй крест…

Тут і асананс, і дысананс — побач, у добрым хаўрусе. І немагчыма яшчэ не заўважыць, што трэці радок у страфе «выбіваецца» з «гладкага» рытму — «уклiньваецца» лішні склад. Выпадкова? Бясспрэчна — не. Гэта прыкладна такі ж выпадак, што быў і з Сяргеем Ясеніным, калі «выпраўлялі» яго радок «Запрокинулась и отяжелела золотая моя голова», патрабуючы выкінуць злучнік «и», які «ўчыняе» збой рытму, падагнаць радок пад памер астатніх. Ясенін катэгарычна не пагаджаўся. І правільна рабіў: паэт адчуваў, што «лішні» склад зусім не лішні: якраз ён і нясе галоўную сэнсавую службу — падкрэслівае той цяжар, што зваліўся на галаву: «запрокинулась… и… отяжелела».

Блокаўскі ж радок, «выбіты» з роўнага рытму, як бы паглыбляе, «адсоўвае» перспектыву, павялічвае, працягвае далячынь…

Аднак сочым далей за рыфмай «Снежнай маскі»:

Мы летим в миллионы бездн…
Ты смотришь всё той же пленной душой
В купол всё тот же — звездный…

«Бездн — звездный…» — глыбінная рыфма: і па сэнсе, і па гучанні (слова «бездн» ураўнаважваецца ў паўнагучнасці са словам «звездный», кампенсуючы «адсутнасць» галоснага пасля «д» прыдыханнем, падобным на гук, што абазначаўся калісьці на пісьме знакам «ь» — рэдукаваным галосным… Наяўнасць гуку ў безгукавой прасторы — касмічнай, міжзорнай…).

Яшчэ адзін узор:

Тихо смотрит в меня
Темноокая.
И, колеблемый вьюгами Рока,
Я взвиваюсь, звеня… —

рыфма з пераносам часткі гучання ў наступны радок: «темноокая — Рока, я…» — ламаная рыфма…

Гэта Блок. А што ўжо казаць пра Валерыя Брусава — майстра рыфмы, шукальніка — і тэарэтыка, і практыка. Тут, бадай, лепш паслухаць аўтарытэтнага эксперта, таксама знакамітага майстра ў паэзіі, Інакенція Анненскага: «Але найбольш характэрная для паэта яго «Вулічная» са здзіўляючай зменай няпоўна-адгучных рыфмаў, якія быццам для таго і прызначаныя, каб жывое здавалася прывідам, выдумкай вулічных ліхтароў ці надыходзячым трызненнем…» Вось гэтыя рыфмы Брусава: «арии — тротуаре, локоном — к окнам, зеркало — померкло»…

Што ж, гэта паэты. Ім, як кажуць, і карты ў рукі — рыфма на кручок…

А вось які трапіўся паэтычны «ўлоў» патрыярху прозы Льву Мікалаевічу Талстому (па сведчанні мемуарыста В. Булгакава): «Я надоечы ехаў цераз мост і ўспомніў прымаўку: «Какой черт тебя нес на дырявый мост». «Нес» рифмуется с «мост»… — аж з нейкай дзіцячай радасцю паведаміў Леў Мікалаевіч. — «…вельмі ўдзячная рыфма: па сугуччы…» І заўважыў яго, сугучча тое, Леў Мікалаевіч без «прымусу», без «спецзададзенасці», лёгка і натуральна, можа, і не падазраючы, якая падтрымка ў

рыфмы «нес — мост» «тоіцца» дадаткова за папярэднімі двума «т» («черТ Тебя»): «…Т Т… неС — моСТ» («ттс — ст»)…

Асалоду ад жывога слова, захапленне яго паэтычнай насычанасцю засведчыў Талстой. І хоць вядома, што не «жаловал» Леў Мікалаевіч паэтаў (асабліва сучаснікаў), скептычна ставіўся да вершаванай мовы наогул, не след забывацца, з якім вялікім — да слёз — хваляваннем чытаў ён у сямейным коле пушкінскі «Успамін» («І, з прыкрасцю чытаючы свой лёс, / хвалююся і праклінаю, / і горка скарджуся ў палоне горкіх слёз, / ды слоў самотных не змываю…»); як захапляўся фетаўскім «Шепот, робкое дыханье…» Пушкіна ж асабліва вылучаў і падкрэсліваў: «Які малайчына Пушкін!.. Гэта адзіны паэт, у ім няма намаганняў і натугі ў рыфме і рытме…»

З-за гэтых «намаганняў» і «натугі» адносіны Льва Талстога да паэзіі былі неадназначныя і з цягам часу мяняліся, трэба сказаць, не ў лепшы бок. І ў канцы жыцця, праўда, не публічна, а ў асабістым пісьме (да Е. Озеравай), ён катэгарычна прызнаваўся: «…Я не люблю вершаў наогул…»

Падставы для гэтай «нелюбові» грунтаваліся як у момантах суб’ектыўна-асабістых (прыгадаем тут і адмоўнае ўспрыняцце творчасці Шэкспіра, Гётэ), так і ў аб’ектыўных: «Яшчэ Буало сказаў, каб думка не калечылася рыфмай. Калі можа паэт так сказаць вершамі, каб мы і не заўважылі, што гэта вершы, — добра, а без гэтага лепш гаварыць, як умееш…»

Фальшывая рыфма атаясамлівалася ў Талстога з фальшывым уяўленнем аб жыцці і з фальшывым яго выяўленнем… В. Булгакаў згадвае, як Леў Мікалаевіч абураўся, што ландыш называюць «серебристым» («нічога няма падобнага на серабро…»)… «Гэта сказана толькі дзеля рыфмы, дзеля рыфмы «душистый»… Гэта цалкам фальшывае ўяўленне. І так ва ўсіх паэтаў, і ў Пушкіна таксама…» (нават у Пушкіна!..).

Складанае, небясспрэчнае стаўленне Льва Талстога да паэзіі (ад захаплення да адмаўлення) дыктавалася яго эстэтычнымі прынцыпамі аб даступнасці мастацтва народу, простаму чалавеку. Ёю, «даступнасцю» гэтаю, ён і вымяраў, і вывяраў вартасці твора, патрабуючы, іншы раз, не ўзвышэння чытача да ўзроўню таго, што чытаецца, а, наадварот, «зніжэння» твора да ўзроўню чытача… — так атрымлівалася на справе…

«Я пераканаўся, што лірычны верш, як, напрыклад, «Я помню чудное мгновенье», творы музыкі, як апошняя сімфонія Бетховена, не так безумоўна і сусветна добрыя, як песня пра «Ваньку клюшника» і напеў «Вниз по матушке по Волге»… — канстатаваў Леў Мікалаевіч і тлумачыў: «Я гадамі марна біўся

над перадачаю вучням паэтычных прыгажосцяў Пушкіна… і нічога не мог дамагчыся…» А таму на пытанне: «Каму ў каго вучыцца пісаць?..» адказ быў адназначны: «Нам — у сялянскіх дзяцей»…

Зразумела, дзіцячая непасрэднасць, жывая адкрытасць навакольнаму свету, прадметнасць яго ўспрымання — якасці выключна важныя, асабліва ў паэзіі… Але што сказаў бы сёння Леў Мікалаевіч, пабачыўшы, як «зліваюцца» ў адзіным «парыве» папсовыя «зоркі» з натоўпам абяздушаных, абалваненых прыхільнікаў, дзе першыя «зніжаюцца» да патрэб другіх, а другія «ўзвышаюцца» да мізэрных мастацкіх магчымасцяў першых?..

Аднак ці не час схамянуцца: адхіліў нас Леў Мікалаевіч ад тэмы замоўленай: «Рыфма»… Зрэшты, не такі ўжо ён, пэўна, быў і праціўнік гэтай німфы, калі, зважаючы на яе адсутнасць, гаварыў: «Калі чалавеку няма ніякай справы да таго, пра што ён піша, ён піша белым вершам, і тады лжывасць не так груба прыкметная…»

Бо ведаў — і не мог не ведаць — Леў Талстой, што «рыфма», «складная» гаворка, была і заставалася ў цане ў вуснах простага народа…

Бывало, скажет в рифму дед,
Руками разведи:
— Как в двадцать лет
Силенки нет, —
Не будет и не жди… —

сказаць «у рыфму», на што зважае тут Аляксандр Твардоўскі, значыць, сказаць трапна, ёмка. Як у сук уляпіў, — гэта пра такіх народных красамоўцаў…

Рускі пісьменнік Аляксей Рэмізаў ужо канкрэтным іменем называе майстра звычайнай, здавалася б, аднак па-мастацку адметнай гаворкі — гэта маляр Мацвей, які «вельмі смешна расказваў з зашчапкай-рыфмай…».

Такіх дзядоў, цётак, бабуль і дзядзькоў можам і мы — кожны з нас і кожны па-свойму — успомніць. Васіль Вітка згадваў стрыечную сястру Маню: «Як скажа што, ды яшчэ прыкладзе ў рыфму, тут усе і палягаюць з рогату.

— Ой, Манечка, ты — сапраўдны Райкін!..

— Мела б яйкі, была б Райкін, — пачуўся адказ, і ўсе зарагаталі яшчэ весялей…»

Майстэрскую рыфму герояў лірычна-філалагічных нататак Фёдара Янкоўскага Васіль Вітка параўноўваў з пастарнакаўскай: «Быў бы пеўчым, ды хадзіць не ў чым», «Заяц, пабыўшы ў цёшчы, рад уцёкшы…»

Асаблівым поспехам і ўвагай карысталіся народныя «рыфмоўцы» на вяселлях ці іншых святочных бяседах…

Знаў такога дзеда і я. Што б ні гаварыў Мікалай Зюзюн, у яго заўсёды атрымлівалася «ў рыфму». Здаецца, ён і не вымагаўся гэта рабіць — само сабою «вязалася»… От на вяселлі сваты (а дзед быў у іх «камандзе») выцягваюць і нясуць да стала раздзьмутую — як футбольны мяч — «пасудзіну». Можа, многія з застольнікаў наогул упершыню бачаць яе — тую гумавую медыцынскую грэлку, а Мікалай тут жа і тлумачыць: «Гэта мехраздувала — у ім гарэлкі нямала!..» — як бы і хвалячыся, і супакойваючы: маўляў, піце на здароўе, — пяцідзесяціградуснай, з жытняга соладу, «весялухі» — удосталь…

Існуе даволі ўстойлівая думка, што рыфма ў творах вуснай народнай творчасці адсутнічае альбо амаль адсутнічае. Такія сцвярджэнні, з пэўнай доляй саступак, можна было б і дапусціць. Але сама фальклорная рэчаіснасць (асабліва наша, беларуская) ніяк не пагаджаецца з гэтакай катэгарычнасцю.

Сапраўды, назіранні сведчаць, што ў найбольш старажытных фальклорных жанрах «рыфма-тэхнічнае афармленне» як спосаб «вершаскладання» — з'ява, скажам так, не ярка праяўленая, а дакладней — «спецыяльна» не акцэнтаваная. Але тлумачэнне гэтаму, можа быць, зусім натуральнае: творы тыя (замовы, галашэнні, думы, баладныя аповеды і інш.) вершамі фактычна і не з'яўляліся. Напрошваецца дапушчэнне, што эўфанічнае штукарства наогул магло лічыцца кашчунным: ці не грэх, напрыклад, у галашэнні на жывое пачуццё «накідваць» штучнае «ўбранства»?..

А ты ж прачніся,
А ты жа агляніся,
Што на свеці вясёленька жыці.
Тута пташачкі пяюці,
Кукушачкі кукуюці…
…Чаго ж ты ручкі сашчапіла.
Чаго ж ты вочкі заціснула… —

сугуччы ў такіх выпадках напрошваюцца самі — простыя, сціплыя, шчымлівыя: «прачніся — агляніся, пяюці — кукуюці, ручкі — вочкі, сашчапіла — заціснула…» Усе гэтыя рысачкі

моўнага поліфанізму можна было б «падвесці» пад сённяшнія «тэхнічныя» меркі, але тое ім не патрэбна. Яны жывуць непрыкметна, самі па сабе — ім дастаткова гэтага… Яны льюцца, як плач…

Такою ж, толькі ўжо магічнай, насычанасцю напоўнены сугуччы ў словах замовы «ад русалкі»: «Вадзяніца, лесавіца, шальная дзявіца! Адвяжыся, адкаціся, у мой двор не кажыся… Ступай у раку глыбокую, на асіну высокую. Асіна, трасіся, вадзяніца, уйміся…» Не-не! — тут вычварнымі «акустычнымі» эфектамі (пакручастаю «рыфмай») можна і справу сапсаваць. Тут замаўляць трэба…

А во дзе ўжо і «паказацца» не грэх:

Лявоніха, душа ласкавая,
Чаравічкамі палясківала! —

і рыфма выступае ва ўсёй сваёй прыгажосці і аздабленні, як тая Лявоніха ў скоках!..

Усё ў свой час, і ўсё да ладу. Сапраўды, паўнагучная і разнастайная рыфма з’явілася тады, калі з’явілася ў ёй патрэба і мастацкая неабходнасць. А майстэрству народнаму ў гэтым сэнсе межаў няма — як няма межаў народнай моватворчасці.

Рыфма, сугучча ў жывой гаворцы, ды гэтак і ў песні, напачатку былі з’явай спарадычнай, не насілі сістэмнага характару. Яны ўзнікалі як элемент моўнай выразнасці ў пэўных канкрэтных абставінах, гучалі з вуснаў канкрэтнага чалавека — індывідуальна, каб потым замацавацца ва ўсеагульным карыстанні, ды і прайсці выверку, «шліфоўку» — у той жа песні, прымаўцы, загадцы, іншым маўленні…

А замацаваўшыся — вунь як расквітнелі!.. Цудоўныя вянкі з кветак-рыфмаў прадэманстраваў у сваёй кнізе «Паэтыка беларускай народнай лірыкі» наш знакаміты паэт і выдатны знаўца фальклору Ніл Гілевіч: «рэдзінька — сярэдзінка, авясец — прынясець, без кубла — не скубла, пляхота — ахвота, у асаку — пасяку, гаспадар — распрадаў, карытца — карыцца, ні пачом — таўкачом, каля сцен — пасцель, па ваду — павяду…» Яшчэ? Можна і яшчэ. І — яшчэ!.. — багацце невымернае!..

Але хочацца прапанаваць адзін вельмі сціплы ўзорчык з такой жа сціплай песенькі, як «лю-лі, лю-лі, лю-лі…», дзе коцік «адмарозіў лапкі, / палез на палаткі…» — пагрэцца… Услухаемся: «лапкі — палаткі», «лапкі — латкі» — якая адштукаваная рыфма! — называюць яе тэарэтыкі «карэннай», а яшчэ — «апорнай». І хіба ўсё? Дык жа не! Пачнём спачатку: «лап…—

пал…» — рэхам вяртаецца: быццам адбітак у люстэрку, — зноў рыфма! Толькі ўжо — будзем па-навуковаму іменаваць — паліндромная… Вось такі гукавы карунак!.. І ці здагадвалася маці, калі схілялася над калыскай, што гэта «паліндром» (крый божа ад такой назвы — яшчэ дзіця злякаеш!..), але ж як гэта спяваецца ў калыханцы: «лапкі — палаткі…»: мяккае, лёгкае ступанне ножкамі, цёплае, светлае, як сон…

Ужо ў саміх сугуччах, у рыфмах — столькі паэзіі!.. І не зусім хочацца пагаджацца з паэтам князем Вяземскім (о! — «князем — Вязем…» — чуеце?! — і тут яна…), што «рыфма ў адносінах да розуму з'яўляецца тым, чым з'яўляецца нуль у адносінах да іншых лічбаў: ён дадае ім значэнне, а сам па сабе значэння не мае…» Што да значэння, то, можа, і так: «на ўсю моц» рыфма «працуе» толькі ў кантэксце, але ж музыка, рэха, каларыт гучання — хіба гэта «нуль»?..

А цяпер — кароценькае — бліц-тэсціраванне. Рыфмы: «воблакам — добра так, аздоблена — у калдобінах; урон — урок, прагалы — паспрагалі; скіраваны — каравай, вочап — вочы; лякае — рукамі, поштай — апошняй; халуйства — луста, гандаль — прапаганда; кампрамісы — карміся, збойся — забойца; шалі — спакушае, апалошча — плошчы; хадзіла — кадзіла, яснай — ястраб…» Восем паэтаў, восем вершаў (спецыяльна не падбіраліся) — па дзве рыфмы з кожнага. Паэты: Пімен Панчанка, Анатоль Вялюгін, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Кляўко, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Яўгенія Янішчыц… А дзе чые рыфмы — да адказу дабрацца не так ужо і проста (вось тут, пэўна, і князя Вяземскага ўспомніш). Адно бясспрэчна: школа ва ўсіх дастойная — на ўзроўні найлепшых узораў майстэрства, у тым ліку і вуснай народнай творчасці. Што праўда, не «кожным гукам» — і гэта зусім натуральна — супадае ў творчасці паэтаў «філасофія» рыфмы: адны схільныя ставіцца да яе з азартам, як да казырнай карты, другія — без асаблівай заклапочанасці, але ва ўсіх бачна хватка адмысловая. Рыфма — як звон.

Адну такую я напаткаў зусім нядаўна — і зусім не ў вершы, а ў публіцыстычнай нататцы. Проста дзіву даешся: якое сугучча! На зайздрасць паэтам. А вобраз які нарадзіўся! — і дзякуючы рыфме: «Незалежнасць — вельмі строгае і важкае слова… і ў той жа час дзейнае, бо яно адмаўляе «лежня» — лодыра…» «Незалежнасць» — «лежня» — «рыфма акадэміка»! — так і назавём яе. Аўтар — геолаг, акадэмік Радзім Гарэцкі.

Ды і наогул загадкавая гэта паненка — рыфма. Бывае, прыходзіць, паўстае зусім як жывая, ва ўсёй паўнагучнай плоці.

А іншы раз — як дыханне з «паралельнай сферы», як свячэнне аўры: хто адчуе, пачуе, хто заўважыць, а хто і не… Мне здаецца, што яна ёсць — не магла не быць: «Сыс — Лес» — і таму навечна прапісалася на вокладцы кніжкі: «Анатоль Сыс — Пан Лес». Яна прагучала для паэта ў нейкім N-вымярэнні падсвядомасці, ды яшчэ і з акордным сугуччам на самым пачатку: «Ан… — Пан…» 1 зусім верагодна: не было б у запеўцы гэтага «ан» — «прысмеркла» б і наступнае… А то ж во як раскошна гучыць, паўторым: «Ан. Сыс — Пан Лес»…

Без аніякіх высноў з параўнання (і «пошукаў» аналогій): «Анатолий Ким. Отец — лес. Роман-притча» — і тое ж імя, і «лес», але ці чуем мы тое, што ў нашым (сысаўскім) выпадку?.. І нічога дзіўнага, бадай: жанры дыяметральна супрацьлеглыя…

А раман, між іншым, выдатны. Прачытаў яго я з такою страфой-зацемкай на развітанне:

Уважыць Бог пасля зямных згрызот:
Нябёсаў дасць бязмежную адсутнасць
І вечнасць — адзіноту з адзінот —
Пакутнейшую самую з пакутных…

Пэўна, такім жа летуценным подыхам была народжана калісьці і рыфма «вечар — вецер»… Сапраўднай «улюбёнкай» зрабілася яна ў Аляксандра Блока:

И в темный вечер, в долгий вечер
За окнами кружится ветер…

Аднак гэта не простае, не механічнае паўтарэнне слоў. У кожным канкрэтным выпадку сугучча напаўняецца новымі адценнямі — слыхавымі, зрокавымі, сэнсавымі…

О, в этот сияющий вечер…
…Я знаю, что холоден ветер… —

кантраст «ззянне вечара — холад ветру» — гэта ўжо і з’ява прыроды, і стан душы чалавека.

А вось тут «вечар» і «вецер» як бы мяняюцца ролямі:

Утихает светлый ветер,
Наступает серый вечер… —

святлынь ветру саступае месца шэрасці вечара… Нібы сам вечар падзьмуў гэтай шэрасцю… Да таго ж тут «пануе» пантарыфма — сугучнасць усіх слоў у радках…

У паэме «Дванаццаць» сугучча «вечер — ветер» стала і камертонам (першая страфа!), і адным з лейтматываў твора:

Черный вечер.
Белый снег.
Ветер, ветер!
На ногах не стоит человек.
Ветер, ветер —
На всем божьем свете!..

Жывым рухам настрою акрылена гэтая рыфма і ў Ганны Ахматавай:

И снова черный масляничный вечер,
Зловещий парк, неспешный бег коня,
И полный счастья и веселья ветер,
С небесных круч слетевший на меня…

І зноў жа — як і ў Блока — перамена роляў у дуэце «вецер — вечар»:

Хорони, хорони меня, ветер!
Родные мои не пришли,
Надо мною блуждающий вечер
И дыханье тихой земли…

Здавалася б, схаваць, «хоронить» можа «вечер», а «ветер» «блуждать». Аднак жа!.. Пэўна, гэты, «правільны», спосаб не дапамог, і ў роспачы давялося просьбу «пераадрасаваць», — такая «логіка» паэзіі…

«Вечар» і «вецер» — як фатальна цягнуцца, імкнуцца яны адзін да аднаго:

Вечер душен, ветер воет, —

нават на капілярным узроўні радка — крэўнаю повяззю, зліццём крыві, — унутранай рыфмай… Гэта ў Апалона Грыгор’ева. А вось у Ганны Ахматавай:

Вечер черен, ветер тих…

Праўда, радок паэтэса малюе «з натуры» і тонка, і дакладна, а вось у паэта можна было б і запытацца: няўжо вецер, які «воет», не развеяў духату вечара?..

У Міхаіла Кузміна «вечер» знайшоў сабе іншую пару, але як за ім з нейкай нечалавечай рэўнасцю сочыць «ветер»:

О, этот странный вечер!
Черный ветер речной
Сутулит попутные плечи
Упорной тугой волной…

«Ветер» быццам захінуўся за паваротам, але як ён выдаецца гэтым рэхам-паўторам «чер» у слове, за якое схаваўся (вечер — черный). Ды і не толькі! Нібы ў люстэрку, высвечваецца яшчэ адзін адбітак: «чер» — «реч» (вечер — речной)…

У другі раз Міхаіл Кузмін ад паралелі «выпрабаванай» адступіў:

Разбукетилось небо к вечеру,
Замерзло окно…
Не надо весеннего ветра,
Мне и так хорошо…

Словы «вечеру — ветра», апынуўшыся ва ўскосным склоне, як бы разыходзяцца, аддаляюцца ў гучанні. Выпадкова? Прыгледзімся да іншых рыфмаў. Яны ў гэтым вершы, хутчэй, не сугучча, а «ўспамін» аб ім: «разрушилось — слушай, замуравлена — ставни», не кажучы ўжо пра «окно — хорошо». У гэтым ключы і спатрэбіўся ўскосны склон: праскланяўшы «вечер» і «ветер», паэт прывёў іх у сугучную раўнавагу з гукавым ладам верша…

І ўсё ж… І ўсё ж — як бы ні мяняла голас рыфма «вецер — вечар», падобная «заангажаванасць» пагражала ёй небяспекай ператварыцца ў банальную. «Звычнасць» сугучча прыводзіла аж да такіх вось парадоксаў. Верш Ф. І. Цютчава «Я помню время золотое…» вытрымаў некалькі выданняў з памылковай падменай слова «ветер» на «вечер» (друкавалася: «И вечер тихий мимолетом / твоей одеждою играл…», а трэба: «И ветер…»).

Гэтага не магло не здарыцца. І яно здарылася: паміж двух «неразлучных» у рыфме слоў «уклінілася» трэцяе.

Разарваў «дваісты саюз» наш Максім Багдановіч…

Але, між тым, было і хрэстаматыйна-класічнае:

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

Было і «прытоенае» ў радку: *«Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог...»* І вось:

А к ночы свой чырвоны веер
У небе сонца разарве,
І разварушаны ім вецер
У даль памкне…

«Веер — вецер». Слова з той «салодкай парачкі» — «вецер» — перагукнулася з іншым — «веер», — і ў гэтым новым суседстве рыфма набыла новае «аблічча», засвяцілася новымі адценнямі…

Падобнае «абнаўленне» ў рыфмоўцы падшукаў рускі паэт Уладзімір Нарбут і другому слову, — праўда, не яму «асабіста», а яго «суродзічу» па корані — «вчера»:

И день грядет — и молний трепетных
Распластанные веера
На труп укажут за совдепами,
На околевшее Вчера…

А ў сваю чаргу і «веер» вырываецца з атачэння «вечар — вецер» — у блокаўскай рыфме «веер — север». І як лёгка перапырхнула гэтае «в» і птушачкай уселася паміж двума «е», і галасок «вікнуў»…

Дарэчы, у страфе Нарбута нельга абмінуць увагай і другую неардынарную рыфму: «трепетных» — са словам-наватворам «совдепами»…

Рыфмы такога кшталту называюцца экзатычнымі, і бываюць між іх часцей за ўсё наколькі нечаканыя, настолькі і каларытныя, яркія, акустычна багатыя і запамінальныя… Словы зусім не знаёмыя і такія далёкія-далёкія раптам збліжаюцца, як родныя. А чым уразяць яны адно аднаго — можна параўнаць:

Шаганэ ты моя, Шаганэ!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я готов рассказать тебе поле,
Про волнистую рожь при луне… —

гэтак у Сяргея Ясеніна.

А вось як у Пімена Панчанкі:

…гарачымі вачыма
З-пад чадры іранка шугане,
Мімаволі ты прашэпчаш імя,
Чутае калісьці: — Шаганэ…

«Шаганэ — при луне», «шугане — Шаганэ…» Ну як?!.

А Багдановічавы «веер — вецер» таемным адгалоскам трывожаць і сёння, як, напрыклад, у вершы Уладзіміра Някляева:

Веерам раскінецца лістота,
Змеценая ветрам да акна… —

толькі не дабег «вецер» ці, наадварот, збег на ўзровень унутранай рыфмы, не спаткаўшыся з «веерам» наўпрост. А можа, прасіўся — ды не пусцілі?.. Але пазыўныя — гучаць!..

Іосіфу Бродскаму ж нішто не замінала «ўспомніць» тое класічнае «вечер — ветер»:

Плывет в глазах холодный вечер,
Дрожат снежинки на вагоне,
Морозный ветер, бледный ветер,
Обтянет красные ладони…

Паўтарэнне? Ну і што?.. Было ж у Блока:

Вечность бросила в город
Оловянный закат.
Край небесный распорот,
Переулки гудят…

А ў Анненскага:

Вот сизый чехол и распорот —
Не все ж ему праздно висеть,
И с лязгом асфальтовый город
Хлестнула холодная сеть…

Наўрад ці было тут «выкарыстанне» блокаўскай рыфмы «город — распорот», затое ж малюнак дажджу які «залевісты» атрымаўся!.. (верш «Дождик»).

Як бачым, «паўтарэнне» рыфмы не абавязкова трэба залічваць у нейкі «крымінал».

Ды і наогул стаўленне да рыфмы, да яе фактуры не ёсць нешта назаўсёды зацвярдзелае, раз і назаўсёды канчаткова вызначанае. Тое, што Антон Паўлавіч Чэхаў вуснамі героя апавядання «О, женщины, женщины!..» высмейваў рэдактара газеты «Кукиш с маслом» Пачытаева: «А рифма! …Слово «лошадь» рифмует с «ношей»!» — тое праз нейкае стагоддзе зрабілася эталонам, элітнай нормай. Нават таннаю «модай»… Нездарма ж Яўген Еўтушэнка, сам аматар «закруціць галаву» рыфме, з'едліва назірае, як дзеці паэтаў, сваволячы, замінаюць тым і

…ревут, рифмовать не веля
«зрелость — смелость», «земля — Кремля»,
«трактор — трактом», и «площадь — полощет»…

У разрад банальных трапіла нашым часам і дзеяслоўная рыфма. А дарма… Прастата прастатой, а дзеянне дзеяннем. Хіба так сабе сказана: «Глаголом жги сердца!..»? «Глагол» у Пушкіна — не проста часціна мовы. Гэта Слова, Слова з вялікай літары. Невыпадкова і ў паэме «Домик в Коломне» ёсць такія, не сказаць праграмныя, але і не прахадныя рэмаркі: «Вы знаете, что рифмой наглагольной / гнушаемся мы. Почему, спрошу…» «Отныне в рифмы буду брать глаголы…» — так-так, тыя самыя словы, паводле Лермантава, «на *Ю*»:

Я без ума от тройственных созвучий
И влажных рифм — как, например, на Ю…

Геніяльна заўважана: толькі дзеяслоў можа даць тую мяккую, «влажную», рыфму… І Ганна Ахматава, па сведчанні А. Наймана, «калі прадыктавала» (з «Паэмы без героя»):

За тебя я заплатила
Чистоганом,
Ровно десять лет ходила
Под наганом,
Ни налево, ни направо
Не глядела,
А за мной худая слава
Шелестела, —

то заўважыла: «Я люблю так рыфмаваць, глухія са звонкімі: заплатила — ходила, глядела — шелестела…»

Сам Аляксандр Блок не цураўся дзеяслоўнай — нават таўталагічнай — рыфмы:

Хорошо в лугу широким кругом
В хороводе пламенном пройти,
Пить вино, смеяться с милым другом
И венки узорные плести,
Раздарить цветы чужим подругам,
Страстью, грустью, счастьем изойти,
А достойней за тяжелым плугом
В свежих росах поутру идти!

«Пройти — изойти — идти» — побач: «другом — подругам» — хай сабе і не літаральнае паўтарэнне слова: паўтараецца корань… — таўталогія? Але ж паэзія, верш — дай божа!..

Грэх дзеяслоўную рыфму залічваць у «банальныя»…

Біце ў сэрцы іх — біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Па радзімай старонцы баліць…

Сапраўды, што можа бальней біць па сэрцы, чым гэтыя — з Багдановічавай «Пагоні» — простыя і такія трагічныя словы: «быць — баліць»…

Банальнасць не ў прастаце, банальнасць — у нематываваным творчай неабходнасцю паўтарэнні адной і той жа, ці павярхоўнай, рыфмы. І «віноўнымі» могуць быць не толькі дзеясловы, але і назоўнікі, і прыметнікі, і прыслоўі і г. д.

Пэўна, што-колеч да «абароны» дзеяслоўнай рыфмы змогуць дадаць і вось гэтыя мае радкі:

## Дзеяслоў

Дзеяслоўная рыфма —
                              кепская рыфма.
І абознікі, і авангард
Зазубрылі:
                    па самых нізкіх тарыфах
Гэта рыфма ідзе —
                              як насмешка ці жарт…

«Сеў» і «з’еў»
                    альбо «выпіў» і «лыпаў»… —
Тут і ўсё. І славе каюк.

І ўжо крытык
амаль што пяском засыпаў…
Плача верш, як пабіты шчанюк…

Толькі што гэта? — гляньце! — рабы
Гнёту выпрасталі гарбы!

Нехта плача, нехта смяецца,
Нехта ў вечным каханні канае.

Нехта ў пошуках ісціны б’ецца,
Нехта ў полымі бітвы згарае… —

Гэта ён, гэта ён — дзеяслоў
Патрасае свет да асноў!

Спапяляе слова кляцьбы,
Прарастае слова сяўбы.

Дык хіба ж дзеяслоў вінаваты ў тандэце?!
Тут ні кроплі яго віны.
Рыфмаплётаў,
што словы кідаюць на вецер, —
Іх судзіце. Паглумцы — яны.

Майстар — слову дае аздобу
І каштоўнасць высокае пробы.
Помніць верш: Купалам і Пушкіным
На Парнас гэта рыфма дапушчана!

Дзеяслоў —
дзея слова:
падзея, надзея, —
І душа маладзее, і голас цвярдзее.
Гэта кліч,
што паходняй у цемрачы ўспыхнуў.
Дзеяслоўная рыфма —
выдатная рыфма!

Дык дзе ж тая мяжа, пераступіўшы якую, рыфма ператвараецца ў «банальную»? Хутчэй за ўсё, адказ сам напросіцца, як напаткаем мы яе, гэтую рыфму (ну, прыкладам, «смерці — крутаверці» — такую нярэдкую сёння), у славутага анархіста Махно, — «грашыў» Нестар Іванавіч рыфмаю, каб засведчыць

свой «рэвалюцыйны» імпэт, — банальнасць нараджалася банальнасцю:

> Я в бой бросался с головой,
> Пощады не прося у смерти,
> И не виновен, что живой
> Остался в этой круговерти…

«Смерти — круговерти» — вось тут ужо мы канчаткова ўпэўнімся, што рыфма сапраўды «ссівела» ад часу, а «бацьку Махно» без усялякіх «скідак» можна залічыць і ў ганаровыя «бацькі» «банальнай» рыфмы…

Так, «сцёртыя» рыфмы, рыфмы-«штампы» не выклікаюць пачуцця мастацкай асалоды, радаснай нечаканасці, а тым самым і эмацыянальнага ўзрушэння. Чытач, як бы абганяючы аўтара, загадзя ведае слова, што «павінна» з'явіцца ў канцы радка… Класічная насмешка з таго — у Пушкіна:

> И вот уже трещат морозы
> И серебрятся средь полей…
> (Читатель ждет уж рифмы розы;
> На вот, возьми ее скорей!)…

Такою ж рыфмаю «надзяліў» Пушкін і свайго героя Ленскага, паэта-рамантыка, які «пел… романтические розы… лились его живые слезы…» Пацвельванне Аляксандра Сяргеевіча зразумелае…

А між іншым, падобнае «чаканне» знаёмай рыфмы можа стацца і спосабам псіхалагічнай актывізацыі верша. Сіла інерцыі ў нейкі момант раптам абрываецца, і замест таго, што чакалася, з'явіцца штосьці зусім новае, прынамсі перапынак актывізуе ўздзеянне. Ды так яно атрымалася і ў толькі што цытаванай пушкінскай страфе: позірк спакойна сочыць за пейзажным малюнкам — і нечакана «спатыкаецца» на два жартаўлівыя радкі аб рыфме, а гэтай кароценькай паўзы даволі, каб зрок ярчэй успыхнуў, абвастрыўся, — што і трэба было…

Няспраўджанае «чаканне» рыфмы яшчэ больш узмацняецца адсутнасцю не толькі яе, гэтай рыфмы, але і наогул радка, дзе яна, паводле «чакання», павінна была б з'явіцца. З асаблівай выразнасцю гэта праяўляецца пры сумежнай рыфмоўцы, як вось у гэтай жніўнай песні; яна вартая таго, каб прывесці яе цалкам. Чаму? — зараз пабачым:

Сонейка каля елі,
Мы яшчэ нічога не елі.
Сонейка каля дубу,
Я палуднаваць буду.
Сонейка на заходзе,
Я ў двор на выходзе.
Сонейка за бярозку,
Я ў двор на дарожку.
Сонейка заходзіць,
Свой свайго знаходзіць,
А я свайго не знайду
Ні ў полі на сене,
Ні ў доме на пасцелі…

Поўны набор рыфмаў! Як на «выстаўцы»: «каля елі — не елі» — рыфма аманімічная; «дубу — буду» — поўны асананс разам з анаграмнай рыфмай; «заходзе — выходзе» — аднакарэнная; «бярозку — дарожку» — сінтэтычная: асананс з дысанансам; «заходзіць — знаходзіць» — дакладная, або поўная рыфма; і… «А я свайго не знайду…» — не «знаходзіць» гэты радок сваёй «пары», як не знаходзіць свайго жаданага і чаканага жанчына: і радок (без сумежнай рыфмы), і яна застаюцца ў адзіноце, — а як бы хораша было разам — ці «ў полі на сене», ці «ў доме на пасцелі»… І горкае шкадаванне гэтае так выразна пазначана глыбінным, апошнім у песні, сугуччам: «на сене — на пасцелі»…

«Чаканне» рыфмы «па сэнсу», па тым, што «падказваецца» тэкстам, сутыкнуўшыся з чымсьці зусім не чаканым, не «лагічным», дапамагае ў паэзіі выкрасаць выдатныя вобразы. Прыгадаем Мікалая Забалоцкага:

И мясо, властью топора,
Лежит, как красная дыра…

Чакаеш рыфму «гара» — так, натуральна, сэнс вымагае: гара нарубленага мяса… — і раптам: «дыра»! — і як на гэтым «падманутым» чаканні выбухае вобраз!..

Вось якія дзівосы вытварае рыфма!.. Але — нагадаем, самае галоўнае — працаваць (і гучаць!) яна павінна ў поўнай згодзе са зместам — канкрэтным і толькі гэтым, вызначаным задумай аўтара.

Перачытайце, калі ласка, «Новую зямлю» Якуба Коласа (я гэта рабіў не аднойчы) і паспрабуйце адшукаць хоць адну зробле-

ную «напаказ» рыфму, якая адбывае павіннасць, нібы топ-мадэль на подыуме. Мне такая не напаткалася. Амаль 300 вершаваных радкоў налічвае адзін з найвыдатнейшых раздзелаў гэтай паэмы «Дзядзька-кухар». Рыфмуюцца тут, у асноўным, сумежныя радкі — значыць, рыфмаў недзе каля 150. I з іх 60 — цалкам дзеяслоўныя, а ў 10 — дзеяслоў з'яўляецца састаўной часткай — лічы, палова ў раздзеле!.. 130 дзеясловаў — і ніводнага паўтору! I кожны не проста фіксуе, а рухае дзею. Бадай, нікому яшчэ ў беларускай паэзіі не ўдалося (і ці ўдасца?) наблізіцца да такога ўзору па лексічным багацці, па натуральнасці маўлення. Сапраўды народнае светасузіранне, жывы непасрэдны позірк на з'явы, як вечныя, так і звычайна-будзённыя, знаходзяць у «Новай зямлі» адэкватнае і па-народнаму трапнае выяўленне ў мове. Нічога штучнага, тандэтна сканструяванага — ні ў фразе, ні ў сінтаксічным ладзе… Усё ліецца — як вольная плынь Нёмана. I рыфмы — шчырыя старальніцы ў гэтай дружнай талацэ…

Дай, Божа, такую долю ўсім рыфмам, — і асабліва будучым!..

*3 красавіка 2007 г.*

# ЭЦЮДЫ

## НА ХВАЛЯХ ЛЯСНОЙ ДАРОГІ…

Бывае такое ў летнюю спёку. Асабліва жніўнай парой, калі перагрэтае поле, нібы нізіннае возера ў паводку, расплываецца па лагчынах — да балацявін і купчастых імшарын, дзе хоць ледзь-ледзь, але ўсё ж дыхае з-пад зямлі вільготная прахалода.

А дарога, што бяжыць між кустоў і пералескаў, тая зусім ператвараецца ў рэчку: ідзеш і чуеш, як бушуе-коціцца з поля да лесу жытнёвая плынь. Паток ахінае цябе цёплым духам і ўсё гусцее і гусцее, аж пакуль не ўліваецца ў тунель пад ляснымі шатамі.

Тады жытнёвы дух пакрысе астывае ў імхах ды лістоце, змешваецца з водарам пушчанскай кары ды баравой жывіцы.

Дарога забывае пра поле.

Дарога робіцца лясной.

Вось тут і пачынаецца новае рэчышча, што гайдае цябе — ад прагалінкі да прагалінкі — як на сонечных хвалях: з цяньку ды на ўгрэў, з угрэву ды ў цянёк…

Во так і плывеш, так і плывеш — гайдаешся: то патанаючы ў пяшчотную прахалоду, то выныраючы з глыбіні на сонейка…

## ЛЯЦЕЛА ЗЯРНЯТКА…

Дзень быў ціхі, бязветраны. Такія бываюць звычайна ў канцы жніўня, калі і ў людзей, і ў птушак, ды і наогул у прыродзе, наступае часовае адхланне ад прыпарнага клопату: у адных ад жніва, у другіх — ад завіханняў ля гнязда, каб накарміць ды паставіць на крыло ўежлівае патомства.

Ніхто не шастаў, не мітусіўся. І ў гэтай нерухомай цішыні раптам аб’явілася штосьці лятучае. Не сказаць, каб жывое,

але як жа яно тады — без ветру? — ляціць сабе і ляціць… Можа, павучок які? Бываюць такія асеннія падарожнікі. Але таго адзіная павуцінка нясе — і толькі… А гэты — бачна ўжо, бо добра наблізіўся — увесь у гэтакіх бліскучых павуцінках, але тырчаць яны быццам шорстка натапыраныя, вожычкам. І чорненькая крапінка амаль мікраскапічна высвечваецца ў самым цэнтры гэтага «вожычка»… Цяпер ужо ясна: зярнятка нейкае. Накшталт дзьмухаўцовага. Толькі ў таго «апярэнне» для палёту — парашуцікам, а тут — паўсцінкі пухірыкам, ва ўсе бакі…

Тым часам лятунчык, параўняўшыся са мною, ужо і аддаляцца пачаў. Ну што ж — хай ляціць, я чапаць яго не стаў, хоць, можа, і пустазелле якое нясе ў агарод. Але ж гэтак прыгожа ляціць… То і няхай сабе…

Толькі тое падумаў, а ён — тут як тут: вяртаецца. І зноў жа гэтак плаўна, роўненька — не думаючы ні зніжацца, ні ўзлятаць вышэй…

А то ўжо цікавей: з чаго б гэта ён? І што прымусіла яго вярнуцца? Якая вятрынка? Які скразнячок?.. Ні ў паміне ні таго, ні другога, а ён такія развароты робіць…

І ўсё ж… І ўсё ж, здаецца, адгадку падказалі кветкі. Пэўна, трымала яго ў стане той, ледзь не касмічнай, бязважкасці клумба асенніх астраў, гэтых зямных зорак восені (хто не ведае: «астра» — ад грэчаскай astron — «зорка»). Над ёю якраз (ды не над адною, а над цэлым сузор'ем!) і планіраваў лятунчык. З усіх бакоў была ўжо голая зямля, а тут — самая квецень.

Яе дыханнем і жыў ягоны палёт, трымалася вышыня. Бо, сапраўды: неяк адхіліўся ён крышачку ад клумбы і ціха пачаў асядаць… Тут я і падабраў яго. І ў карабочак асцярожненька паклаў (ці пасадзіў?)… Не таму што пустазелле, а каб спытацца ў дасведчаных людзей: чыё зярнятка такое разумнае?..

Выявілася: бадзякова… Што ж, бадзяк дык бадзяк. Не басяк… Той самы «татарнік», з жыццястойкасцю якога параўноўваў Леў Мікалаевіч Талстой у «Хаджы-Мураце» характар каўказскага горца, чачэнца: «Какая, однако, энергия и сила жизни… Как он усиленно защищал и дорого продал свою жизнь…»

# НА ЧОЎНЕ МЕСЯЦА…

Шмат песень, не меней ухвальных слоў праспявана і сказана сонцу. Яно — ясназорца, яно ўсё бачыць і ўсё бласлаўляе — усёдайнае: на квітненне і плён…

А люстэрка ягонае — месяц? Ахавальнік, абярэжнік — сакрэтны спадарожнік закаханых?.. Грахоўны сведка пачаткаў — у словах, у пацалунках, у смяротнай слодычы, імя якой — такое ж светлае — так і не прыдумалі людзі…

О, колькі разбілася нашых дум і парыванняў аб гэты начны бераг сонца…

Самыя патаемныя прызнанні былі не пры сонцы — пры месяцы. І самыя чароўныя закляцці былі пры ім. І праклёны — чорныя і пякельныя — бласлаўляліся светлай поўняю…

Не раз я лавіў сябе на падманлівым — і неадступным загадкавасцю сваёй — адчуванні: глядзіш на адлюстраванне месяца ў рачной плыні — і здаецца, што не вада рухаецца, бязмоўна ўсхліпваючы, сутыкнуўшыся з якім-небудзь прыбярэжным асаковым мыском ці падмытым коранем алешыны, а месяц плыве, пакалыхваючыся на лёгкім, без хваль, спружыністым люстэрку…

Так і на небе: хмаркі ляцяць, то засланяючы, то абмінаючы светлую, разгорнутую месячную поўню, а выдае, што гэта ён, месяц, так імкліва праносіцца ў міжзорных вышынях… І ты ўжо міжволі пачынаеш сачыць позіркам гэты лёт, нават галаву паварочваеш, падуладны гэтаму ўяўнаму руху, пакуль не спахопішся… Хоць, па сутнасці, так яно і ёсць: месяц імчыць — вечны спадарожнік зямлі — у касмічнай прасторы. А ты стаіш, нерухомы, зачараваны гэтым, відавочным, а не тым, сусветным, лётам, і здагадвацца не хочаш, што гэта час твой ляціць — такі імклівы, імгненны, прывідны на гэтай зямлі, пад гэтым месяцам, пад гэтым небам…

Хто там
На чоўне месяца
Мог плыць?.. —

пытаўся Максім Танк. Пэўна, згадваўся яму шаўчэнкаўскі Дняпро з месяцам, што «неначе човен в синім морі, то виринав, то потопав…» А недзе — у іншым вымярэнні — у д’ябальскім кручэнні завірухі: «невидимкою луна освещает снег летучий» — з пушкінскіх «Бесов»…

Кажуць, усе амерыканскія астранаўты, якія пабывалі на Месяцы, вярнуўшыся на Зямлю, былі адзначаныя неадэкватнымі паводзінамі: хто замкнуўся ў сабе, хто падаўся ў беспрасветную містыку, хто наогул псіхічна зламаўся да вар’яцтва…

І — да ведама, адносна біярытмікі, — адна з высноў астралогіі: асабліва моцна рытмы Месяца выяўляюцца ў жанчыны…

## ПАВУЧОК

Павучок быў маленькі, нават вельмі маленькі. Але апетыт меў павучыны і есці хацеў, як і ўсе павукі. Таму і сядзеў ад самага ранняга ранку, як толькі сонца збольшага збіла расу, у маркотным і самотным чаканні. Сядзеў на беразе свайго, па ягоных мерках, вялікага павуціннага возера, закінуўшы ў затоку сетку, зразумела, таксама павуцінную. А як жа інакш: сам ён павук, хай сабе і маленькі, і ўсё ў яго мусіла быць з павуціны. Нічога іншага ён не меў: ні вады, ні пяньковых нітак, ні капронавых, як цяпер павялося, каб сплесці сетку. Не кажучы ўжо пра які-небудзь перамёт з учэпістымі сталёвымі кіпцюрамі-хапунамі ці хаця б вуду з жылістай лёскай і джалістым кручком… Сядзеў, як сядзіць, бывае, малы хлапчук з самаробнаю вудачкай-свісцёлкай: вудзільна арэхавае, а то і лазовае — амаль што дубчык, лёска — з конскага хваста, паплавок — з гусінага пяра-пішчыка, — сядзіць у чаканні якога-небудзь печкурка ці верхаводкі-ўклейкі… І раптам ухопіцца за нажыўку што-небудзь вялізнае і здаравеннае…

Гэткая нечаканая ўдача надарылася і павучку. Затрымцела не толькі ягоная сетачка, але і ўся азярына ўскалыхнулася.

Павучок адразу аж спалохаўся, але беспамылкова вызначыў, адкуль накочваюцца гэтыя ўраганныя, як дзевяты вал, хваляванні. Падхапіўся ён, слізгануў па нітачцы павуцінкі да месца здарэння. Сам дробненькі, як чорная расінка, а перад ім — страшыдла разоў у пяць, а то і ў дзесяць большае за яго, ды і сківіцы — абцугі-кусачкі — не раўня павучковым: драціну сталёвую, здаецца, умэнт перашчыкнуць, а не тое што павуцінку. Ды і сам павучок такому на зуб не пападайся… Ён адразу ж і зразумеў гэта: пастаяў на бяспечнай адлегласці, прыкінуў, ацаніў свае баявыя магчымасці і ціхенька адкаціўся, слізгануў назад, на ранейшую пазіцыю.

Павучок ведае: цяпер яму спяшацца не варта, ды і сэнсу ніякага няма. Цяпер усё зробіць павуцінка. Танюсенькая яна, кволая: махне заграбастай лапкаю ці скіўіцай зачэпіць страшыдла — і як не было той павуцінкі… Так то яно так, але замест яе, парванай, ужо віснуць на той лапцы ці на скіўіцы дзве альбо тры новыя павуцінкі. І чым больш размахваецца, бушуе страшыдла, тым шчыльней заблытваецца ў павуцінні. Як бач: ужо і на дзве нагі спутаны, і на чатыры, і на ўсе шэсць… А там, глядзіш, і ўжо махаць няма чым… Толькі скіўіцы яшчэ то разыходзяцца, то сцінаюцца, аж рыпяць, здаецца…

Падбяжыць павучок, калі трапятанне сунімецца, паглядзіць: не, яшчэ ранавата набліжацца… Так і цікуе, так і цікуе раз за разам…

А страшыдла тым часам знямогла прыбілася ў куточак і варухнуцца не можа, адно толькі як ад сораму схавалася: з такімі скіўіцамі і так ганебна ў палон здавацца!.. Ды яшчэ каб у палон… Павучок жа быў галодны…

Калі б павучок пазнаёміўся са страшыдлам, то даведаўся б, што гэта не хто іншы, як скакун палявы… Яшчэ б і пасябравалі, можа…

Але павучку было не да знаёмстваў: павучок хацеў есці… У-у, натура павучыная — яна і ёсць павучыная…

## СЦЭНА ЛЯ ФАНТАНА

Не, гэта была не сустрэча, прызначаная напярэдадні па тэлефоне ці замоўленая пры ўчарашнім развітанні. Не прадбачылася тут ні вясёлага сяброўскага шчэбету, ні важнай дзелавой размовы, ні сур'ёзнай разборкі… Не нагадвала гэтая дзея і славутую «Сцэну ля фантана» з оперы Мусаргскага «Барыс Гадуноў», дзе Самазванец Ілжэдзмітрый клянецца ў каханні Марыі Мнішак…

І фантан гэты быў зусім не з такіх, што ўпрыгожваюць прыдворныя паркі царскіх палацаў ці гарадскія плошчы і скверы. Ды і ўзнікнуць яму тут ніяк не выпадала, калі паглядзець на справу сур'ёзна. Вада ўспырсквалася, узлятала ўгору зусім без належнай на тое патрэбы і ў зусім непрыдатным месцы. Можна сказаць, выглядала гэта пустым вадалействам і марнатраўствам, ды яшчэ пэўнай нязручнасцю для людзей, што праходзілі міма…

А было іх тут, тых людзей, не тое што многа, а вельмі многа. Бо дзеелася ўсё на чыгуначнай платформе. І фантаніравала

вада ды разлівалася лужаю вакол трубы, што чамусьці тырчала тут са сваім, як гэта часцей водзіцца ў такіх, прывакзальных, выпадках, сапсаваным ці наогул збітым і так-сяк прыкручаным драціною кранам…

Словам, кран быў. Але — па ўсім жа відаць — дзіравы і нікому не патрэбны. Нікому з людзей. Бо…

Вось гэтае «бо» якраз і ўгледзела ці пачула плюскатанне і шуснула да вады — спачатку ў выглядзе адной, а потым і другой — наўздагон — галкі…

Дзень быў спякотны, і галкам хацелася піць. То проста і плюхнуліся яны з прывакзальнай будыніны ў лужу. Раз-другі ўскінулі ўгору дзюбкі, перакочваючы ў перасмяглыя глоткі выратоўныя кроплі вільгаці. А потым і азірацца пачалі. Не таму, што спалохаліся. Прывакзальныя галкі звыклыя да натоўпу. Тым больш, што і натоўп сотнямі сваіх ног не надта набліжаўся да галак, стараючыся абмінуць лужу.

Азірацца ж галкі пачалі, зацікавіўшыся: адкуль гэта зверху падае вада. І тая, што была больш здагадлівая, тут жа ўспырхнула да крана, уселася побач з фантанчыкам і сунула ў ягоны струмень разяўленую дзюбку.

О, як было гэта заманліва і прыгожа: лавіць на вышыні мігатлівыя кроплі і ўзносіць раз-пораз — яшчэ вышэй за фантанчык — дзюбку. Быццам горн узнімала галка: вось-вось заіграе-затрубіць.

Але ўжо гэтага якраз і не магла сцярпець тая, што засталася ў лужы. Да таго ж пачувалася яна, пэўна, мацнейшаю і разумела, што сіла зараз мае перавагу над кемлівасцю. А таму і ўсхапілася яна з лужы і пайшла ў наступ на «разумніцу-фантаншчыцу».

Спіхнула-такі… І, усеўшыся на абрэзак трубы, тут жа паўтарыла ўсё, што рабіла адпрэчаная галка. А гонару ж колькі было, а пыхі!.. Рыхтык акторка на сцэне. Ды яшчэ, пазіраючы зверху, здзекліва чэкаць пачала. Быццам пыталася: «Ну, як там, у лужы?..»

А што ў лужы? — кемлівая на тое і ёсць кемлівая: раптам разгарнула крылы — і давай плёскацца, купацца, значыць. На тую, верхнюю, нават і вокам не вядзе.

«Ах, дык ты яшчэ і гэтак?!» — і паколькі нападаць з вышыні куды ямчэй, то і спікіравала зайздросніца ў лужу, і пачала чубіць купальшчыцу. Паляцелі — і пырскі, і пер’е…

І толькі задумлівы грак пазіраў з таполі на галчыную мітрэнгу і даўмецца не мог: дзеля чаго ўся гэтая валтузня?..

Ну, сапраўды: навошта бойка, навошта вайна?.. Каб вады больш ухапіць? Дык яе ў лужы — як у моры, калі па-галчынаму мерацьˆ… З-за гонару: вышэй сесці, вышэй дзюбу ўзнімаць з вільготнаю кропляй? Альбо вада там смачнейшая? Дык жа з аднае трубы… Ці ў імя прыгажосці, дзеля «эстэтыкі піцця»? То ўжо гэта — ні ў якую дзюбку, як кажуць, не лезе: прыгажосць — і вайна…

Мудры грак — ды паспрабуй разбярыся тут з гэтымі галкамі…

## МУРАШЫНЫ ШЛЯХ

Прайшоў бы і я міма гэтага мурашніка: ці мала іх — маленькіх, з купінку, і вялікіх, з добрую капу, а то і стажок, сена — мітуслівa і мякка пухірыцца ў лесе? Ля кожнага не будзеш спыняцца. І дзеля чаго? Бегаюць мурашкі, снуюць туды-сюды — ну і хай сабе. Клопат, значыць, нейкі маюць…

А да гэтага мурашніка я мусіў вярнуцца. Не адразу, а крокаў праз дваццаць, калі выразна, і неяк аж не верачы, пачаў заўважаць: праз мох, праз траву коціцца па зямлі мурашыны ручаёк. Адкуль? — здагадацца няцяжка. Ды і не пашкадаваў я тыя дваццаць крокаў, каб упэўніцца: зноў падышоў да мурашніка. Так і ёсць: з яго, як з пагорка, скочваюцца гэтыя чорна-рыжыя кропелькі, зліваюцца ў роўненькі жывы струмок, набіраючы разгон… А вось куды? — гэта ўжо загадка. Прынамсі для мяне. Самі мурашкі, пэўна ж, ведаюць. Інакш не спяшаліся б гэтак…

Пайшоў і я ў той бок. Заадно і крокі лічыць пачаў. Іду сабе, не спяшаюся. Бо мне што: ступлю раз — і адразу тысячу мурашак, не менш, абганяю. А яны ўсё бягуць, бягуць… Паступова я нават і сцежку, вытаптаную імі, быццам заўважаць пачаў. Пасля сам з сябе пасмяяўся: адкуль жа быць той сцежцы ад гэтакіх дробненькіх ножак?! Здалося, канешне ж, мне…

А сцежка ўсё адно мроіцца: дужа ж многа мурашак тупацела па гэтай лясной істужцы ў пядзю-паўтары шырынёю. Тупату я, зразумела, не чуў, бо не дадзена чалавечаму вуху пачуць гэтакае. Але ж самі яны, мурашкі, пэўна, чуюць? І столькі ног! І такі шлях!.. Я намераў ужо дзвесце пяцьдзесят крокаў. Маіх, чалавечых. А мурашыных?! Нават і злічыць не бяруся… А ім жа трэба дайсці… То схаваецца ручаёк у высокім версе, то, калі трапіцца на дарозе завал які з ламачча, дык пад яго, як у тунэль, уліваецца. А з другога боку выплеснецца — і ўсё бяжыць, бяжыць. І ўсё —

туды, туды… Туды? Не-не, пачакай, пачакай — толькі цяпер я прыгледзеўся як след: бягуць і адтуль, назад. Адно што вяртаюцца не так прытка, бо ўсе цягнуць паклажу нейкую. Іншы раз прыпыняецца такі «грузавічок», вусікі-антэны настаўляе і сустрэчнай мурашцы лёгкім дотыкам да ейных вусікаў штосьці скажа — сігнал падасць. І тады гэтая, што паражняком бегла, падхоплівае паклажу, разварочваецца і нясе ў бок мурашніка, а змораная — таксама мяняе курс і, уліўшыся ў агульны паток, ужо ўлегцы, кіруецца туды, адкуль толькі што бегла…

Тым часам неўпрыкмет разгарнулася перада мною маладая сасновая дзялянка з маткамі-старадрэвінамі. І тут заўважыў я, што мурашыная істужка як бы распыляцца пачала: разбягалася і ўвачавідкі радзела.

Ступіў я колькі крокаў у адзін бок, у другі — няма, знікла жывая «дарожка». Але затое позірк мой улавіў яшчэ нешта, больш нечаканае: на сасновай галінцы мурашак пяць ці шэсць «свежавалі» вялізнага, па мурашыных маштабах, зразумела, тоўстага, як абручыкамі перацягнутага, быццам падзеленага на кольцы, вусеня…

Вось гэтак я і дайшоў да разгадкі — праз дзвесце пяцьдзесят крокаў. Мурашкі вялі вайну з вусенем начніцы, соўкі, на гэты раз — хваёвай (наогул жа іх у Беларусі, совак гэтых, больш чым 330 відаў!..). Гэта матыль такі. Сам па сабе прыгожы і прывабны, харчуецца нектарам з кветак ды іншымі прысмакамі. А вось «дзеткі» ягоныя, вусені, барані бог, такія пражэрлівыя, столькі шкоды прыносяць і полю, і лесу… Бывае, як наплодзяцца — усю зеляніну з’ядаюць… Хоць і яны з выгляду не пачварныя: прыгажосцю сваёй многіх за пояс заткнуць, да таго ж і паяскоў тых не адзін, а з дзесятак, пэўна, у кожнага будзе. Бачылі ж, абручыкі якія ў вусеня. Гэта ўпоперак. А ўздоўж — залюбавацца: паверсе, па спінцы, палоска зялёная, ніжэй — белая стужка ідзе, потым зноў — зялёная, спадыспаду — жоўтая плямка, на падбой, а паміж двух гэтых колераў, каб не зліваліся, чорная рыска накрэслена — нітачкаю цягнецца… А дзеля чаго прыгажосць? Навошта расфарбоўка такая? А ўсё, каб непрыкметна схавацца на сасновай галінцы — усе колеры ёй у тон.

Ды ад мурашак не схаваешся! Не вокам яны бачаць, вусікамі-антэнамі: сігнал прымаюць ад сваіх разведчыкаў. І — у паход!..

І паўстае мурашыны заслон перад шкоднікам. Бягуць і бягуць мурашкі. Сюды і назад. Сюды і назад… Нясуць здабычу ў мурашнік.

Для лесу — санітарыя.

Для мяне — разгаданая загадка.

А для іх, для мурашак, — дарога жыцця.

Чуеце? — ножкамі, ножкамі — шамаціць Мурашыны шлях…

## АСІНА-ЧАРЦЁЖНІЦА

Асеннія грыбы ціхія.

Няма таго баравіковага шматлюднага на летнюю пару галёкання ды перагуквання, калі не толькі грыбу, але і самому грыбніку хоць з лесу ўцякай. Не-е, — якое ўжо там «ціхае паляванне»!.. Ды тут самая сапраўдная воўчая аблава: столькі загоншчыкаў-крыкуноў шыбуе па лесе. Адно толькі стужкі з чырвонымі сцяжкамі не хапае…

Грыбная цішыня наступае позняй восенню. І людзей меней — часцей трапляюцца грыбнікі-адзіночкі, самыя зацятыя і заядлыя з гэтага племені, — а калі і выпадаюць кампаніі, то ў два-тры кошыкі, не больш. Ды і перамаўляюцца грыбнікі цішэй: як бы да самотнай стоенасці і маўклівасці змушае сам асенні лес, — без птушынага вэрхалу, з ціхім, бязгучным лістападам.

Во — нават асіна-трапятуха і тая анямела. Глянеш на яе — то і не дзіва: рэдкія лісцінкі ўтрымаліся — чым ужо тут лапатаць…

Так думаў я, задраўшы галаву і шкадуючы асіну, што ўзвышалася над рэдкім лазняком. Шкадуючы за тое, што палысела яна, і наогул, за лёс ейны. Гэта ж трэба — столькі плётак наснавалі пра асіну… А ўсё за трапяткі неспакой, за гэтае вусцішнае шамаценне, якое незразумелай сілай трывожыць людзей і, на іх разуменне, вяшчуе штосьці нядобрае, як праклянцце. Ледзь не д’ябальскім дрэвам зрабіла асіну людская пагаласка. На ёй і грэшнікі вешаюцца, з яе і кол на магілу самаму лютаму ворагу…

Шкада мне асіну, — дрэва па сутнасці добрае і прыгожае. Ды і карыснае. Запалкі з яе, кажуць, самыя лепшыя, гаручыя, выходзяць. А яшчэ, сцвярджаюць знаўцы, асінавыя дровы — найлепшы спосаб супраць сажы: ямчэй за ўсякага камінара каміны ачышчаюць…

А што да прыгажосці, то тут асіна можа паспрачацца з любою лясной прыгажуняй ці прыгажуном. Асабліва восеньская. Лістота на ёй тады — празрыста-сонечная, амаль чыстага тону.

А выдае гэтак, пэўна, таму, што жоўкне асіна ў адначассе: дружна, не выбарачна, а цалкам — ліст у ліст. Не ў прыклад бярозе, жаўцізна на якой бярэцца пасмамі, і выглядае напачатку яна пляміста і ад гэтага неяк нават бруднавата: вехаць — пажоўклая, вехаць — зялёная… Дык вось — у справе каларыстыкі асіна і хаўрусуе, і сапернічае з самім клёнам: палюбуйцеся, як свеціцца ён, асабліва на фоне цёмнага ельніку…

Шкада мне асіну… І вось гэтую таксама: стаіць яна — маўкліва-прытоеная, стройная, хоць і адзінокая, і не было з кім змагацца ў гонкасці; кара чарнявая з сівізною — гэта на ствале, а галінкі — ружаватыя, іншыя нават з густой чырванню, — як на рэнтгене прасвечваюцца, бо ўжо амаль абязлісцелі. І во — ці не апошні — лісток: кружыцца, кружыцца і як бы нехаць набліжаецца да зямлі… Я праводжу яго вачыма — ніжэй, ніжэй…

І тут позірк мой страпянуўся, каб мячыкам падскочыць уверх да асінавай кроны і зноў скаціцца долу, канчаткова схамянуўшыся ад летуценнай ціхмянасці: позірк мой успыхнуў прытушаным было азартам грыбніка…

Цяжка сказаць, што мяне больш прывяло ў захапленне: асіна, якую я толькі што шкадаваў і апраўдваў перад чалавецтвам, ці круг, створаны вакол яе грыбным карагодам. Праўда, лінія, натуральна, была несуцэльная, а пункцірная ці, дакладней, «шапачная»: грыб ёсць грыб, а не стрыжань алоўка… Але ў захапленне прыводзіла геаметрычная дакладнасць і вывераннасць: нібы асіна правяла вакол сябе цыркулем, адзначаючы круг шызаватымі галоўкамі асенняй радоўкі. Іх налічыў я ажно сто дваццаць. А асіну назваў чарцёжніцай. І за чарцёж паставіў ёй пяцёрку. Ну, не зусім «круглую» — з маленькім мінусам: адзін грыб аказаўся чарвівым… Зрэшты, пасля дакараў сябе за той «мінус»: хіба ж асіна вінаватая, што аб'явіўся чарвяк і падштурхнуў пад руку?..

## ГРЫБНЫ РУЧАЁК

Грыбнік я, не хвалячыся, бывалы. Ведаю і звычкі грыбныя і норавы. Але помню і аб неспадзеўках, — нават калі з нашага чалавечага разумення, то і дурнаватых: трапляюцца грыбы там, дзе іх найменей чакаеш. І гэта, зноў жа па-чалавечы, самыя радасныя ўдачы. Бо, паўтараю: нечаканыя. І помніш аб іх доўга-

доўга. А каб не забываўся, грыбы і самі стараюцца: не-не дый нагадаюць аб сваіх дзівацтвах.

То раптам які-небудзь баравік на дарогу выскачыць ноччу ды так і застыне ў здзіўленні, прыхоплены сонейкам, не паспее схавацца, захінуцца купкай верасу ці зашыцца пад куст… То з-пад замшэлага каменя вывернецца з галавой, прыплюснутай да тулава… То ўсім сямействам расселіцца пад адзінокім дрэўцам наўзбоч узлесся: бяжыш сцяжынкай, стрыжэш вачыма ўздоўж сценкі з беразняку ці ельніку — і ўсё ў адзін бок, усё ў адзін бок глядзіш, — і не ты першы і не ты апошні… А не — каб у другі бок зірнуць, ад лесу, дзе якраз і стаіць гэта самотнае дрэўца. Я аднойчы зірнуў і пад бярозай, у траве, аж дваццаць баравікоў выпараў, — во: усяго толькі і ступіў два крокі ўбок. Але перад тым, што праўда, спачатку трэба было вокам кінуць у той, другі, бок, адвярнуць на момант галаву і ўвагу ад зададзенай «праграмы»…

І яшчэ ў такіх нечаканках адна — найгалоўнейшая грыбнікоўская ўмова: трэба быць першым.

Вось як і на гэты раз.

Я знаў, што тут месца гарэлае. Ды яно і відаць было: яшчэ тырчалі засохлымі галінкамі малыя дрэўцы. Таму і не прыглядаўся надта: якія ж тут грыбы, калі там-сям толькі пачынала брацца трава, ды і то не тая, зялёная і хрумсткая, а шорсткі, пучкамі, жарсцвяны сівец… Таму і абыходзіў я гарэлле, з горыччу не меншай прыгадваючы, як выраcталі тут дужыя, чарнявыя баравікі. Граніца, дзе спыніўся пажар, выгіналася дугою вакол узножжа ладнага пагорка: уверх агонь не пасунуўся, а хутчэй за ўсё яго тут спынілі, не пусцілі ўскінуцца з нізоўя на грэбень.

Тут, гэтым грэбнем я якраз і ішоў. Без усялякай надзеі. Нават спяшаўся: хутчэй бы адарвацца ад гэтага вусцішнага, здавалася яшчэ, месца.

А позірк, само сабой, кіраваўся зверху ўніз, — выходзіла, як бы скочваўся ён па кожнай прагалінцы, каб зноў ды зноў сутыкнуцца з гарэллем…

І самы б раз было спыніцца на пагорку і завыць па-воўчы ад гэтай неадчэпнасці ды хутчэй падацца на другі бок, за грэбень…

І завыў бы… І пабег бы, калі б не той латачок-спадзіна — ад вяршыні да падэшвы, — а на ёй: адзін, два, тры, чатыры, пяць… Я перастаў лічыць, бо далей пайшло адгалінаванне: ручаёк раздвоіўся. Ручаёк бег з гары. Ручаёк яшчэ і цяпер нібы спяшаўся туды, дзе шугала полымя. Наіўны ручаёк: нічога ён не

мог патушыць, бо і агню ўжо даўно не было, ды і сам ён, ручаёк, на радасць маю і здзіўленне, аказаўся што ні на ёсць грыбным: з пагорка шнурочкам, адзін за адным, праз метр-паўтара, збягалі ўніз баравічкі. І толькі ручаінка паводзіла сябе зусім не так, як водная: не шырэла, чым далей ад вытоку, а вузела…

Пазней, ужо дома, я здагадаўся, чаму так выдавала. Першыя грыбы, бліжэйшыя да мяне, верхавыя, былі буйнейшыя, бо і прарэзаліся першымі на сонейку. А ад іх ужо, па грыбніцы, цягнуўся ланцужок: што ніжэй, то маладзейшыя, і з капялюшыкамі, адпаведна, меншымі. Аж пакуль не зашыўся ў мох. Апошняя галоўка свяцілася ледзь прыкметнай чарнявою плямкай…

А колькі баравічкоў у тым ручайку было, не скажу: хай застанецца гэта маёй грыбнікоўскай таямніцай. Ато ж, самі ведаеце, грыбных мясцін не так і багата. А ў грыбнікоў — ой, нюх дык нюх!.. Прыйдзеш налета, а там ужо нехта пабываў раней за цябе…

# КАМЕНТАР

## ПАЭЗІЯ

### ВЕРШЫ

Вершы, датаваныя 1955–1993 гадамі, друкуюцца паводле выд.: Зуёнак, В. Гронка цішыні. Мінск, 1996. Т. 1.

Вершы, датаваныя 1993–2010 гадамі, друкуюцца паводле публікацый у часопісах «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», «Дзеяслоў», газеце «Літаратура і мастацтва» і паводле рукапісаў.

### ПАЭМА

*Маўчанне травы (с. 146)*

Упершыню — час. «Полымя», 1979, № 9–10; пад загалоўкам «Трава маўчыць».

Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Пяцірэчча. Мінск, 1998. Т. 2

## ПРОЗА

### ЭЛЕГІІ

*Дзяцей шкада (с. 325)*

Упершыню — час. «Полымя», 2000, № 1.

*Паўстанак з літарай «л» (с. 327)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 2 чэрвеня 2000 г.

*Куды павёў лапаць (с. 330)*

Упершыню — час. «Полымя», 1999, № 6.

*Супоня (с. 341)*

Упершыню — час. «Полымя», 1999, № 6.

*Чаравікі для баўэра (с. 368)*

Упершыню — час. «Полымя», 2000, № 1.

ЭСЭ

*Два тамы з нашых універсітэтаў (с. 393)*

Упершыню — зб. «Дзень паэзіі-1969».

Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Лінія высокага напружання. Мінск, 1983.

*Бачу з усіх сцяжын... (с. 396)*

Упершыню: зб. «Вытокі песні». Мінск, 1973.

Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Лінія высокага напружання.

*Песня лясная над нашай калыскай (с. 400)*

Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Лінія высокага напружання.

*Неба тваіх вачэй (с. 404)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1975, № 2.

Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Лінія высокага напружання.

*Вы шуміце, бярозы (с. 422)*

Эсэ склалі публікацыі «Песня, якая заўсёды з табой» (газ. «Вячэрні Мінск», 30 верасня 1981 г.) і «Вы шуміце, бярозы» (газ. «Літаратура і мастацтва», 28 верасня 2001 г.).

Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Паміж небам і зямлёй. Мінск, 2009.

*На кроне пяшчоты і гневу (с. 431)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1986, № 8.

Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Паміж небам і зямлёй.

*І жаўранак, і цэлы свет у сэрцы (с. 439)*

Эсэ створана на аснове публікацый «Крэўнасць небу і зямлі» (час. «Полымя», 1982, № 9), «І жаўранак, і цэлы свет у сэрцы» (газ. «Літаратура і мастацтва», 4 студзеня 1985 г.), «Мы из тех белорусов…» («Литературная газета», 5 жніўня 1987 г.), «Re-specto» (час. «Крыніца», 1997, № 2).

Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Паміж небам і зямлёй.

*Кніга як храм (с. 449)*

Упершыню — час. «Крыніца», 1997, № 5.

Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Паміж небам і зямлёй.

### *Зарука жыццёвасці (с. 454)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2007, № 5.
Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Паміж небам і зямлёй.

### *Гукаючы слова (с. 457)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2007, № 5.
Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Паміж небам і зямлёй.

## ЭЦЮДЫ

### *На хвалях лясной дарогі... (с. 487)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 11 жніўня 2000 г.
Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Паміж небам і зямлёй.

### *Ляцела зярнятка... (с. 487)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 15 лістапада 2002 г.
Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Паміж небам і зямлёй.

### *На чоўне месяца... (с. 489)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 11 жніўня 2000 г.
Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Паміж небам і зямлёй.

### *Павучок (с. 490)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 14 верасня 2001 г.
Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Паміж небам і зямлёй.

### *Сцэна ля фантана (с. 491)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 14 верасня 2001 г.
Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Паміж небам і зямлёй.

### *Мурашыны шлях (с. 493)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 14 верасня 2001 г.
Друкуецца паводле выд.: Зуёнак, В. Паміж небам і зямлёй.

### *Асіна-чарцёжніца (с. 495)*

Друкуецца паводле час. «Бярозка», 1999, № 9, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Грыбны ручаёк (с. 496)*

Друкуецца паводле час. «Бярозка», 1999, № 9, дзе апублікаваны ўпершыню.

# SUMMARY

Vasil Zuyonak was born at the village of Machulishcha, Khalopenichy region (nowadays Krupki region) in 1935. In 1954 he left Barysau pedagogical college and in 1959 graduated from Belarusian State university qualified as a journalist. Vasil Zuyonak worked in editorial board of newspapers, was the editor-in-chief of magazines «Biarozka» (Birch) and «Maladosts» (The Youth). From 1982 to 1989 he was the secretary and from 1990 to 1998 the chairman of the Union of Writers of Belarus. His poetical debut in press occurred in Barysau local newspaper in 1952.

Vasil Zuyonak is the author of numerous poetic books with core idea of relations between the person and a society, the person and nature in the context of the historical heritage and heroic and tragic moments of the nation's life. Vasil Zuyonak is a poet of a deep national originality and philosophical thinking.

The writer has been productively working in the genre of the poetic epos as well. A number of his literary works, such as funny and cheerful verses, riddles and fascinating trips into the world of the nature, are addressed to children.

There are as well poetical translations from other languages and the book of translations «Znichki siami niabios» (Asterisks of Seven Heavens). The poet's verses have been also translated into a number of languages. The writer defines his works in prose as elegies.

Vasil Zuyonak is the author of literary critiques on creative work of classic poets and contemporaries where he investigates problems and secrets of poetic skill.

Vasil Zuyonak, Cand.Phil.Sci., is the honorary member of the National Academy of Sciences of Belarus and the Winner of the Yanka Kupala State Prize of Belarus.

The present book of The Selected Works includes the best poet's verses, the poem «Mauchannie travy» (Silence of Grass), essays, elegies and sketches.

# ЗМЕСТ



## ПАЭЗІЯ

## ПРОЗА

**Элегіі**

**Эсэ**



**Эцюды**



Аўтар шчыра ўдзячны **Алесю Усеню**
за дапамогу ў выданні гэтай кнігі.

**Зуёнак, В.**

**З-91** Выбраныя творы / Васіль Зуёнак ; уклад., камент. аўтара ; прадм. Н. Заяц. — Мінск : Кнігазбор, 2010. — 512 с. : [8] с. іл. — («Беларускі кнігазбор» : Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-6976-05-9.

У кнігу ўвайшлі выбраныя вершы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы Васіля Зуёнка (н. 1935), паэма «Маўчанне травы» (адна з пяці паэм кнігі «Пяцірэчча»), а таксама празаічныя элегіі, эсэ, эцюды і літаратурна-крытычныя артыкулы.

Пяцьдзесят пяты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4 Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя I. Мастацкая літаратура

**Зуёнак Васіль Васільевіч**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Шуст*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 20.05.2010.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 26,88 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 25,22.
Наклад 1000 асобнікаў. Зак. .

Пры ўдзеле ТАА «Харвест». Ліцэнзія № 02330/0056935 ад 30.04.04.
Вул. Кульман, 1, корп. 3, пав. 4, п. 42, 220013, Мінск.
E-mail: harvest2004@mail.ru

ПУП «Кнігазбор». Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

ISBN 978-985-6976-05-9

9 789856 976059

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў РУП «Выдавецтва “Беларускі дом друку”».
Пр. Незалежнасці, 79, 220004, Мінск.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы

ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы

ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік

ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы

ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы

КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы

ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы

ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы

ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы

ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы

ЦЁТКА. Выбраныя творы

НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы

ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы

АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы

АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы

ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы

ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы

РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы

ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы

ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы

ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы

СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы

ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы

КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы

РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы

РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік

АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ. Выбраныя творы

*БЕЛАРУСКІЯ* АЛЕКСАНДРЫЯ, ТРОЯ, ТРЫШЧАН. Зборнік

НІЛ ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы

ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН. Выбраныя творы

МАКСІМ ГАРЭЦКІ. Выбраныя творы

РЫГОР КОБЕЦ. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ. Выбраныя творы

АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ. Выбраныя творы

КАЗІМІР СВАЯК. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць

МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае

ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы

ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы

ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае

ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае

ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе

АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае

ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае

АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае

АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы

ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***

МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбраныя творы